АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАУСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ВЯСЕЛЛЕ



# ПЕСНІ



У шасці кнігах

КНІГА 3

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1983

ББК 82.3 Бел.-6
В99



Складальнік Л. А. Малаш

Музычны дадатак З. Я. Мажэйка

Рэдактары тома:
| М. Я. Грынблат |, А. С. Фядосік

В99 **Вяселле.** Песні. У 6-ці кн. Кн. 3 / [Склад. Л. А. Малаш; Муз. дадат. З. Я. Мажэйка; Рэд. | М. Я. Грынблат |, А. С. Фядосік].— Мн.: Навука і тэхніка, 1983.— 768 с. Нот. іл.— (Беларус. нар. творчасць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

**У пер.: 3 р. 70 к.**

У трэцяй кнізе змешчаны беларускія вясельныя сірочыя і вянчальныя песні, а таксама песні, якія выконваюцца ў доме маладой перад прыездам маладога. Пераважная колькасць іх сабрана ў час фальклорных экспедыцый, узята з архіваў і розных крыніц XIX—XX стст.

Кніга разлічана на фалькларыстаў, этнографаў, мовазанаўцаў, а таксама выкладчыкаў, студэнтаў, журналістаў і ўсіх, хто цікавіцца народнай творчасцю.

В $\frac{4702120000—115}{М316—83}$ 130—83 ББК 82.3 Бел.-6

# СІРОЧЫЯ ПЕСНІ. ВЯНЧАННЕ. У ДОМЕ МАЛАДОЙ ПЕРАД АД'ЕЗДАМ МАЛАДОГА

Сірочыя песні займаюць значнае месца ў беларускай вясельнай паэзіі і складаюць адну з яе адметных рыс. Яны пераўзыходзяць адпаведныя песні іншых славянскіх і суседніх балтскіх народаў колькасцю сюжэтаў, варыянт-насцю, развітасцю тэкстаў і выконваюцца толькі ў час сірочага вяселля. А. Занкевіч, параўноўваючы беларускія вясельныя песні з рускімі, адзначаў, што «сірочыя песні ў Вялікарасіі не вызначаюцца той разнастайнасцю матываў, як у Беларусі. У велікарускіх песнях знаходзім толькі два галоўныя матывы: 1) нявеста просіць сваіх сябровак званіць у званы, разбудзіць яе бацькоў, 2) нявеста звяртаецца «да ветраў буйных» з просьбай, каб яны развеялі магілу яе бацькі і маці»[1]. Асабліва тыпалагічным падабенствам (тэматычна і тэксталагічна) вызначаюцца сірочыя песні ў суседніх з беларусамі (рускага, украінскага, польскага, літоўскага і латышскага) народаў у зонах іх пагранічнага стыку[2].

Багацце беларускіх сірочых вясельных песень тлумачыцца галоўным чынам развітасцю культу продкаў у беларусаў. Як адзначае Л. Нідэрле, «вера ў замагільнае існаванне продкаў і звязанае з гэтым іх ушанаванне (manismus)», якое ўзнікла ў славян яшчэ ў перыяд язычаства, «засведчана асабліва ў балтскіх славян багатай колькасцю старажытных крыніц»[3].

Вядомы польскі этнограф XIX ст. З. Глогер, які збіраў і даследаваў фальклор Беласточчыны, трапна падмеціў вернасць беларусаў запаветам продкаў, адзначыўшы некаторыя рысы беларускіх сірочых песень. «У іх чуем з труны голас маці, якая пытаецца, ці так пасаджана дачка, як трэба, ці добра навучана (вясельным звычаям). Такім чынам, чаму ж не павінны былі захавацца старажытныя звычаі, калі нават прах памёршых бацькоў напамінаў аб гэтым маладому пакаленню?»[4] У народзе захавалася вера ў тое, што занядбанне звычаяў, да выканання якіх заклікаюць у песнях продкі, пацягне за сабою няшчасце будучай сямейнай пары. Таму пазней, хоць

---

[1] Занкевич А. Белорусские свадебные обряды и песни сравнительно с великорусскими.— СПб, 1896, с. 91. Гл. таксама: Весільні пісні у двох книгах. Кн. 2.— Київ, 1982, с. 514—558; Колпакова Н. П. Лирика русской свадьбы.— Л., 1973, с. 278.

[2] Дризуле Р. Сходные образы и мотивы сиротских свадебных песен в латышском и литовском фольклорах.— Фольклор балтских народов. Рига, 1968.

[3] Нидерле Л. Славянские древности.— М., 1956, с. 271.

[4] Gloger Z. Obchody weselne przez Pruskiego.—Kraków, 1869, cz. 1, s. 8.

ужо і не разумелі сэнсу многіх абрадаў, аднак працягвалі іх захоўваць. І ў наш час, калі мы звяртаемся да старэйшых інфарматараў з просьбай растлумачыць значэнне якога-небудзь вясельнага рытуалу, часцей за ўсё яны тлумачэння даць не могуць, а адказваюць, што робяць так, як рабілі іх бацькі.

Вялікая ўвага да сіраты ў беларускім вяселлі звязана таксама з працяглым захаваннем рэшткаў радавога быту і наступнай — сямейна-абшчыннай арганізацыяй, якая «існавала ў Беларусі яшчэ ў другой палавіне XIX ст.»[5] Калектыў (род, сельская абшчына), членам якога з'яўлялася сірата, лічыў сваім абавязкам выканаць, наколькі гэта магчыма, функцыю бацькоў, каб забяспечыць маладым сямейны дабрабыт і працяг роду. Сіла бацькоўскага благаславення, іх прысутнасць на вяселлі лічылася неабходнай і наймацнейшай у забеспячэнні зямных даброт будучай сям'і. У народзе існавала вялікая вера ў прагматычную сілу слова і жэста, а таксама перакананне, што забяспечыць дабро ўступаючым у шлюб можа толькі той, хто гэтага вельмі жадае. Згодна з павер'ем, яно (дабро) дасягаецца тады, калі выкананы ўсе ўстаноўленыя звычаем абрады і песні. Калі ж традыцыя парушалася і маладыя ўступалі ў шлюб без адпаведных рытуалаў, асабліва бацькоўскага благаславення (пажадання дабра словам і жэстам), маладых чакала няшчасце. Таму на сірочым вяселлі, акрамя абавязковых рытуалаў і песень, у якіх дамінуе шырока прадстаўлены абрадавы элемент, выконваемы на звычайным вяселлі (з бацькамі), спяваюцца і спецыяльныя сірочыя песні. Іх функцыя — паказаць драматычнае становішча сіраты-нявесты і тым самым выклікаць у прысутных, а нават і памёршых жаль і спачуванне сірацe, а самім фактам вымаўлення абрадавага тэксту выклікаць з таго свету бацькоў, каб тыя разам з усімі паўплывалі на рэальнае здзяйсненне дабрабыту будучай сям'і. Бацькі-нябожчыкі, дзякуючы ўласцівасцям драматычнай формы вяселля і хору, могуць благаславіць маладых словам і выканаць адпаведныя пластычныя рухі, якія на самай справе робяць за іх іншыя ўдзельнікі вяселля.

Сірочыя песні ў беларускім вяселлі выконваліся звычайна ў час тых абрадаў, у якіх абавязкова павінны былі ўдзельнічаць бацькі. Сюды галоўным чынам адносяцца: запрашэнне роду і пачатак вяселля, пасад і благаславенне, адпраўленне жаніха да нявесты, ад'езд маладых да вянца, сустрэча іх пасля вянчання і ад'езд да маладога. Функцыю бацькоў у сіраты выконвалі «пасаджаныя бацькі», і ў першую чаргу хросныя бацькі або дзядзька, цётка, родны брат, замужняя сястра, бабуля. У некаторых мясцовасцях ад імя бацькоў выступаў музыка, які лічыўся знахаром (чараўніком), жабрак (жабрачка), які выпадкова прыходзіў сам на вяселле або яго сустракалі на скрыжаванні дарог, што адпавядала народнаму ўяўленню аб душах продкаў, якія лунаюць там у вобразе дзеда ці бабы.

Па зместу і кампазіцыйнай будове вясельныя сірочыя песні можна падзяліць на дзве асноўныя групы. Першая, самая вялікая, характарызуецца

[5] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусского свадебного обряда.— Мн., 1956, с. 154, 176.

пераважна развітым сюжэтам, дзе канкрэтны этап вясельнага абраду не праглядваецца, а ў некаторых песнях часам толькі называецца: «прыйдзі па-благаславіць», «прыйду да шлюбу выправіць», «ідзе маладая на пасад» і інш. Максімальнае скарачэнне часткі песні, звязанай з абрадам, спрыяла развіццю ў іх лірыка-эпічнай плыні. Яны ў асноўным характарызуюцца на-яўнасцю зачынаў, разгорнутай апавядальнай часткі і складаных дыялогаў, у якіх часта ўдзельнічае некалькі асоб. Прычым даволі часта назіраецца нечаканы пераход ад аўтарскага апавядання да дыялогаў або ад расказа адной асобы без усякага на гэта ўказання да апавядання ад імя другога персанажа. Вось чаму ў гэтых песнях нярэдка бывае цяжка зразумець, чые словы паглынаюцца ўступаючым у размову персанажам. Песні гэтай групы маюць складаную кампазіцыю, якая аб'ядноўвае асобныя завершаныя сю-жэтныя матывы, формулы заклінальнага і інш. характару, традыцыйныя агульныя месцы і ўстойлівыя слоўныя комплексы, уласцівыя сірочым пес-ням. Апошнія, нягледзячы на складанасць іх структуры, уражаюць сваёй натуральнасцю. цэласнасцю сюжэтаў, сувязь паміж кампанентамі якіх вы-значаецца строгай лагічнасцю. Для іх таксама характэрна багатая варыянт-насць матываў, што тым не менш не парушае ўстойлівасці іх тэмы. Да асаблівасцей гэтых песень адносяцца таксама ўласцівыя ім эпічныя разгор-нутыя малюнкі, казачныя і міфалагічныя матывы. Думкі і пачуцці маладой выказвае хор звычайна праз маналогі і дыялогі. Хор выступае не толькі ад імя прысутных, але і нябожчыкаў-бацькоў.

Другую групу складаюць песні ў асноўным імператыўнага характару. Яны невялікія памерам, у іх лепш, чым у папярэдніх, вырысоўваецца кан-крэтны этап вяселля. Хор, нібы дырыжор, звяртаецца да прысутных і па-мёршых бацькоў з рознымі просьбамі, напамінкамі пра існуючы этыкет, устаноўленыя звычаі вясельнага абраду. У гэтай групе сірочых песень асаб-ліва адчуваецца імкненне дакладна і найлепшым чынам выканаць увесь вя-сельны рытуал.

Асобна можна вылучыць колькасна невялікую групу сірочых галашэн-няў, распаўсюджаных на паўночным усходзе Беларусі. Яны не шматслоў-ныя і мала падобныя да рускіх галашэнняў. Дарэчы, некаторыя сірочыя песні сваім зместам, сістэмай мастацкіх сродкаў і мелодыяй нагадваюць га-лашэнні.

Вылучаныя групы былі пакладзены намі ў аснову класіфікацыі песень, змешчаных у томе. У адрозненне ад функцыянальна-тэматычнай класіфіка-цыі большасці вясельных песень сірочыя, у якіх, як адзначалася вышэй, пэўны абрад вяселля не праглядваецца, сістэматызаваны па тэматычных групах. У працэсе сістэматызацыі матэрыялу (асабліва першай групы) ча-ста ўзнікалі цяжкасці ў выяўленні тэмы песні або яе дамінуючай тэматыч-най лініі, паколькі большасць сірочых песень, як вядома, складаецца з пэў-ных сэнсавых блокаў і цэлых эпізодаў, якія вар'іруюцца ў самых розных камбінацыях і спалучэннях і з'яўляюцца нярэдка шматзначнымі па зместу.

Галоўным матывам, які праходзіць чырвонай ніткай праз увесь цыкл сірочых вясельных песень, з'яўляецца шуканне сіратою магілкі бацькоў і

запрашэнне іх на вяселле «раду радзіць», «прынесці долю», «прыйсці не так на вяселле, як на благаславенне».

У раздзеле «Пачатак вяселля. Зборная субота. Пасад», які змяшчае ў асноўным песні другой групы, экспазіцыя часта супадае з зачынамі несірочых вясельных песень гэтых жа этапаў вяселля і адрозніваецца ад апошніх толькі адным радком або словам «сірата». У экспазіцыі часам знаходзім і ўказанне на пэўны абрад.

Абрад пасада, у якім галоўную ролю выконваюць бацькі і які нават пры жыцці апошніх сярод іншых абрадаў беларускага вяселля вылучаецца глыбокім псіхалагізмам, у час сірочага вяселля яшчэ ў большай ступені характарызуецца непаўторнасцю эмацыянальнага стану і настрою не толькі маладой, але і ўсіх прысутных, яшчэ большым драматызмам. Маладая ў гэты час моцна пакутуе, галосіць да знямогі, «плача-рыдае», «лье сцежку слязамі», «белыя рукі ломіць, дробныя слёзы роніць», «слёзкамі зямлю ўсцілае», «лічыкам к зямлі прыпадае», б'ецца галавой аб зямлю:

Кінуся-падуся аб скам'ю,
Сваю галовачку разаб'ю,
Свае слёзачкі разалью,
Сваю радзімку разжалю.

Сірата ўмаляе не пачынаць вяселля, а дапамагчы ёй знайсці бацькоў пачакаць, пакуль яны прыйдуць яе благаславіць. Адлюстраваны ў песнях кантраст неабходнасці і адсутнасці (нязбытнае жаданне сіраты знайсці, дачакацца сваёй маці) яшчэ больш падкрэслівае трагізм яе становішча і выклікае спачуванне з боку прысутных. Адсутнасць бацькоў парушае традыцыю благаславення «пачаць звонкім скрыпачам іграць, дзевачкам пяяць», «вянок віць», «развесці вяселлейка» і інш. Хоць любая замена бацькоў не з'яўляецца раўназначнай, але без яе вяселле не можа пачацца. Сірата нізка кланяецца суседзям, блізкім, «цётачцы, як роднай матачцы», і просіць «братку быць татачкам, благаславіць, як роднае дзіцятка»:

Татка з мамкай умароныя,
Брацікі загняўлёныя.
Суседці благаслаўляюць —
Рутачка ў руках вянецъ.

У такіх песнях удала выкарыстоўваецца прыём ступеньчатага звужэння вобраза: бацькі, брат, суседзі. Тут увага засяроджваецца на кожным з гэтых вобразаў і спыняецца на сімвале — вянучай руце, які эмацыянальна ўзмацняе ўвесь малюнак, што лаканічна і глыбока раскрывае трагічную сцэну абраду благаславення. Трагізм становішча сіраты ў тым, што маці не можа прыйсці на вяселле, узлаваны брат не можа даць дабра, а суседзі, згодна з народнымі ўяўленнямі, як няродныя не могуць даць шчасця. Акрамя таго, «яны сваіх дзяцей маюць», «ім долю астаўляюць». Не могуць замяніць сіраце бацькоў у час вяселля нават «ні родны дзядзька, ні цётка», «ні суджоныя, ні хрышчоныя»:

Ёсць каму піць-гуляці,
А некаму долі даці.
. . . . . . . . . . . .

Ёсць каму на куце сесці,
А некаму парадачку весці.

Месца продкаў на куце, хоць і займуць «суджоныя ды хрышчоныя», але яны не здолеюць поўнасцю выканаць функцыі родных бацькоў. Таму маці замест сябе пасылае сваіх слуг — трох анёлаў, або продкаў, без благаславення якіх

Дзевачкі не запелі — аж у куце селі,
Музыкі не зайгралі — аж у куце сталі.

У шматлікіх песнях бацькі-нябожчыкі гавораць, што яны зараз прыйсці не могуць, але абавязкова з'явяцца «сонцам у ваконцы», «дождживам на двор» благаславіць сірату «сваёй ручкай», калі яна будзе на воз садзіцца; сустрэнуць яе на паўдарозе, як яна будзе ехаць да вянца:

А я цябе паўдарожачкі перайму
Да я цябе шчасцем-долечкай надару.
. . . . . . . . . . . . . . .

Або ў суботу позна, у нядзелю рана прыйду,
На покуце сяду, кубачак пастаўлю,
Я сваё дзіцятка да паблагаслаўлю.

У гэтых песнях скупымі штрыхамі падаюцца асобныя моманты абрадавага дзеяння і называюцца некаторыя аксесуары вясельнага рытуалу:

Як ты будзеш на пасадзе сядзець,
Тады я буду ў канцы стала стаяці.
Як ты будзеш да шлюбу ад'язджаці,
Тады я буду ў новым ганачку стаяці,
Тады я буду на парадачак глядзеці,
Ці абярэцца твой дзядзька за татку,
Ці перахрысціць дарожку да вянца.

Сірочыя песні, выконваемыя ў час пасада, вызначаюцца сваім імператыўным характарам і дынамічнасцю. Спяваючы іх, хор больш дакладна і старанна, чым у звычайных пасадных песнях, кіруе вясельным дзеяннем і актыўна выступае ад імя маладой з просьбай, каб шукалі, знайшлі і прывялі бацькоў («сталі, селі ў рад», бо яна «ідзе на пасад» і будзе «пазнаваць», «шукаць бацькоў»).

У параўнанні з іншымі сірочымі песнямі ў песнях разглядаемай групы апавядальны элемент пераважае над апісальным. У іх шмат зваротаў і дыялогаў, што садзейнічае большай дакладнасці ў выкананні абрадаў на дадзеным этапе вяселля і трымае ўсіх прысутных у напружанасці. Хор ад імя маладой звяртаецца да бацькоў са словамі: «Устань, родненька мамачка, досыць спаць. А ўжо пара дружыначку сабіраць вяселле пачынаць».

У зборную суботу, а ў некаторых мясцовасцях у нядзелю раніцай маладая са сваімі сяброўкамі ідзе на могілкі прасіць у бацькоў благаславення і запрашае іх на вяселле. Перад адпраўленнем дзяўчат хор дае параду, навучае як сябе паводзіць сіраце на могілках. Сюжэт гэтых песень разгортваецца ў канкрэтнай і выразнай форме і мае імператыўны характар. Значнае месца займае тут дыдактычны элемент, нормы паводзін маладой у час запрашэння гасцей на вяселле і пасля, жывучы ў новай сям'і. Бацькі-нябожчыкі даюць парады дачцэ, як трэба прасіць род, суседзей, каб яны замянілі ёй бацькоў, а таксама павучаюць сірату, каб яна была паслухмянай свайму будучаму мужу і яго сям'і:

А ты падзянькуй, маё дзіцятка, усёй сваёй радзімачцы,
Што прыехала, прыхінулася к беднай сіраціначчы.

Гэты тып песень раскрывае маральна-этычныя прынцыпы народа і яго погляды на сямейныя асновы.

На могілках часцей за ўсё сірата плакала прыгаворваючы, радзей галасіла прычытваючы. У некаторых месцах Беларусі дзяўчаты галасілі за маладую. Пасля вяртання з могілак хор пытаўся ў маладой, ці хадзіла яна на могілкі, ці ламала калінку, ці змятала магілку, ці прасіла ў сваіх бацькоў благаславення. Дзяўчаты адказвалі за маладую:

Я ўставала раненька,
Я хадзіла ў лужочак,
Я ламала калінку,
Я змятала магілку,
Я прасіла свайго татачку
К сабе на парадачку.

Большасць песень з адзначаным матывам пабудавана на аснове пералічэння асобных дзеянняў і прынцыпу пытальна-адказнай структуры, якія засяроджваюць увагу слухачоў на змрочных малюнках блукання сіраты па могілках. Сімвалічны вобраз каліны ў беларускіх вясельных песнях самы распаўсюджаны і шматзначны: ён абазначае дзяўчыну, маладую замужнюю жанчыну, каханне, цнатлівасць і інш. У сірочых жа песнях каліна сімвалізуе магілку бацькоў-нябожчыкаў:

Таткавай магілкі не найшлі,
А толькі найшлі калінку —
Знаць, таткаву магілку.

Сірата змятае, б'е па магілцы калінавай галінкай і будзіць маці. Каліна ў якасці семіятычнага знака смерці ў народзе адзначалася яшчэ І. Храпавіцкім, які памылкова сцвярджаў, што яна «ўжывалася, відаць, некалі нашым простым народам для вырабу труны» [6]. У сапраўднасці каліна сімва-

[6] Chr. Ign. Rzut oka na poezię ludu białoruskiego.— Rubon, t. V. Wilno, 1845, s. 59.

лізуе смерць таму, што на могілках саджалі кусты каліны для ўпрыгожвання, аб чым часта гаворыцца ў песнях:

Там стаяла каліна,
Пад калінай — магіла.

Есць цэлая група песень, у якіх у ролі продка выступае бог. Але гэты «бог» звычайна не надзелены ніякімі звышнатуральнымі боскімі якасцямі, а падаецца як просты селянін, якога сірата просіць не быць староннім назіральнікам, не стаяць у сенцах, за парогам або пад акном, а ўвайсці ў хату, «несці лапату і хлеба бухату», заняць месца продкаў «на куце і даць долю сірацe». На такі не боскі выгляд, паводзіны самога бога, адносіны да яго людзей звярнуў увагу А. Занкевіч, які адзначаў, што такога роду песні маюць язычніцкую афарбоўку. «Наўрад ці можна дапусціць, каб народ у такіх выразах звяртаўся да хрысціянскіх багоў» [7]. Ва ўсіх гэтых песнях іх стваральнік-народ пазбаўляе багоў усякага арэолу хрысціянскай святасці. Звычайнымі чалавечымі рысамі надзелена і «боская матка», якая як простая сялянка спяшаецца на вяселле па «швыдовай кладцы праз мора», каб «сесці там за сваццю» і замяніць сірацe маці, а таксама дае і «свечачак на застрыганне». Уяўленні, мова, паводзіны гэтых прадстаўнікоў нябесных сіл — бога, божай мацеры, анёлаў — чыста сялянскія. І нябёсы, месца знаходжання багоў, апісваюцца ў песнях без усялякіх фантастычных, звышнатуральных рэчаў. У адных песнях жыццё на небе нагадвае быт вялікай патрыярхальнай сялянскай сям'і на чале з дзедам «богам-продкам». Такое ўяўленне аб замагільным свеце было распаўсюджана сярод сялян: пасля смерці душы ідуць на неба да сваіх продкаў і жывуць, як на зямлі. У другіх песнях неба падаецца, як панскі маёнтак з такімі ж пабудовамі і парадкамі. Недзе тут на службе ў багоў знаходзяцца і бацькі маладой. Сірата шмат разоў ходзіць да бога, як да пана, доўга стаіць перад зачыненымі варотамі, чакае, калі ён прыйдзе, і настойліва просіць адпусціць яе маці на вяселле. На што бог адказвае:

Што ж гэта за свет настаў,
Каб я вашых мамусечак выпускаў?
Усе б ка мне сіротачкі хадзілі,
Яны б маю галовачку дурылі.

Некаторыя з сірочых песень адзначанай групы больш адчулі на сабе ўздзеянне хрысціянскіх догмаў; у іх бог выступае ў вобразе ўсемагутнага ўладара, якога ахоўваюць анёлы і які жыве за «царскімі (шклянымі, райскімі, мурвовымі, залатымі) дзвярамі».

У многіх песнях хрысціянскае светаўспрыманне перамяжоўваецца з язычніцкім. Так, у адной з іх апавядаецца аб тым, што маці сама замкнулася, у другой — «матка не мае волі ад бога пайсці на вяселле», бо слу-

---

[7] Занкевич А. Белорусские свадебные обряды и песни сравнительно с великорусскими, с. 108.

жыць і сядзіць «у пана бога пад трыма замкамі». І тут жа сірата звяртаецца не да бога, а да сіл прыроды:

Узнімiцеся, ветры да буры,
Разарвіце зялёны дзярночак,
Разадзьміце жоўты пясочак,
Разбіце нямыя дошкі
І пастаўце маю мамку на ножкі.

У песнях больш позняга часу маладая не сама звяртаецца да сіл прыроды, а просіць бога, каб той «даў дождж, вецер, сонца, буру» і г. д. Своеасаблівы матыў хрысціянска-язычніцкага дуалізму бачым і ў песнях, дзе маладая просіць сонца, вецер, дождж, мароз, гром вызваліць з-пад зямлі яе маці, якую «забралі анёлы» і трымаюць «пад трыма замкамі». У такіх песнях ні разу не ўжываюцца словы «смерць», «памерці» — яны замяняюцца эўфемізмамі, напрыклад: «накрыж ручкі злажыць», «вочкі закрыць», «богу служыць», «быць пад трыма замкамі», «пад старажамі», «далёка звязёна, глыбока спушчона», «заснуць вечным (глыбокім) сном», «зямля забрала» і інш.

У адных песнях апавядаецца аб тым, што маці знаходзіцца на небе пад уладай бога, а ў другіх — у сырой зямлі, на якую сірата наракае, што яна «ўзяла маманьку маладзенькую», «не дала падгадаваці, да добрых людзей дараўнаці». А часам дакарае сталяроў, бондараў, што яны збудавалі «мамцы вечны дом».

Значнае месца ў сірочых песнях займае народнае ўяўленне пра долю, якая атаясамліваецца з жыццём дзяўчыны, дзе на першым месцы стаяць «здароўейка» і «хлеб-соль», якія дэталёва канкрэтызуюцца ў долях: «грашовай», «збажовай», «скацінай», «дзяцінай» і інш:

Я грашовую купчаваць буду,
З збажовую спажываць буду,
Я скацінную паязджаць буду,
Я дзяцінную пасылаць буду.

Сустракаюцца песні, у якіх, па народнаму ўяўленню, долю даюць таксама сонца, зара, а некаторыя нябесныя свяцілы ўвайшлі ў склад міфалагічнага вобраза долі [8]. Ёсць цэлая група сірочых вясельных песень, у якіх маці-нябожчыца «ідзе з-пад зары (з-пад сонца, з сонцам, з усходу сонца)» і нясе благаславенне і долю сваёй дачцэ. Вялікая колькасць сірочых песень, звязаных з доляй, тлумачыцца тым, што сам акт вяселля з'яўляўся мяжой дзвюх «долей» — кароткім жыццём у бацькоў і ўсім астатнім у новай сям'і на чужбіне. Іменна ў час вяселля маладая зазнавала глыбокую трывогу, няўпэўненасць, страх перад невядомасцю, якія яшчэ больш узмацняліся разуменнем таго, што сірату чакае ў замужжы горшая доля, чым нявесту з бацькамі. З другога боку, не так лёгка сіраце жылося з мачыхай

[8] Потебня А. А. Объяснение малорусских и сродных народных песен.— РФВ. Варшава, 1883, с. 100.

(вотчымам), і таму яна хацела хутчэй выйсці замуж, спадзявалася на больш шчаслівы лёс са сваім суджаным. Усё гэта і выклікала глыбокія і супярэчлівыя пачуцці ў маладой, што і было адной з прычын з'яўлення такіх чуллівых, уражлівых, поўных жалю і смутку вясельных сірочых песень. Гэтыя песні вызначаюцца глыбокім трагізмам становішча галоўнага героя — нявесты-сіраты, што ўзмацняецца яшчэ пакутамі маці, якая не можа прыйсці і дапамагчы ў патрэбную хвіліну свайму дзіцяці.

З разгледжаных намі песень асабліва глыбокай эмацыянальнасцю і чуллівасцю прасякнуты песні, дзе апавядаецца пра маці, якая просіць бога пусціць яе на вяселле да сваёй дачкі «паглядзець, як яна пасаджона, прыбярона, надзялёна», ці так, як патрабуе гэтага вясельны абрад. Асаблівай паэтычнасцю вызначаюцца радкі, дзе маці прапануе спусціць яе «з неба мігліцаю, на зямлю расіцаю, на падвор'е хоць галубком, а ў ваконца ясным сонцам, з дробным дожджыкам пад ваконца, за расіцаю пад варотца, у полі мгліцаю, у траве расіцаю, з нябёс на падолле, ясным сонейкам да на застолле, цёмнай тучкай на небе, дробным дожджыкам да зямлі, па загорайку туманам, у вароцечка крыніцаю, на падвор'ейка расіцаю». Усё гэта ўспрымаецца намі зараз як штучны паэтычны прыём, хоць на самай справе народ, стваральнік гэтых радкоў, імкнуўся перадаць сваё сапраўднае светаразуменне. Апошняе, па азначэнню А. А. Патабні, звязана з міфалагічным мысленнем, якое «адзіна магчымае, неабходнае, разумнае; яно ўласціва не аднаму якому-небудзь часу, а людзям усіх часоў, якія стаяць на пэўнай ступені развіцця думкі» [9]. У сірочых песнях захавалася нямала падобных водгукаў старажытнага традыцыйнага народнага светаўспрымання.

Як відаць з песень, па ўяўленню простых людзей, душы нябожчыкаў прыходзяць на зямлю ў выглядзе нябесных свяціл, з'яў прыроды, птушак і інш. З'яўленне «душ продкаў» перадаецца ў песнях дынамічна, вобразна, нярэдка ў форме дыялогаў, што робіць малюнак выразным і яркім:

У нядзелю ранюсенька
Да ціхі вятрэц павявае,
Вароцечка калывае.

Або: «заскрыпелі вароцікі», «бразнулі (зазвінелі) зашчэпачкі (клямачкі)»:

Выйдзі паглядзі, Марыська,
Ці не матуля едзе?
Ці не долечку нясе?
Ці не каравайнічкі вядзе?

Тут вецер сімвалізуе душы продкаў. У іншых тэкстах яны выступаюць у выглядзе зорак, сонца:

Што гэта за зорачка
Ды па небе коціцца?
Ды Марусін татачка
Ды ў бога просіцца.

[9] Потебня А. А. Эстетика и поэтика.— М., 1976, с. 433.

Да засвяціла сонейка
Да ў кутняе аконейка.
Гэта ж сонейка свеціць —
Дзевачкі татачка глядзіць.

Часам продкі прылятаюць птушкамі («родны татка-саколік, салавейка»), хмаркамі, дажджом:

Выйдзі, Галечка, паглядзі,
Што ў тваім баку хмарачка,
У той хмарачцы матка твая.
Яна цябе дожджыкам абалье,
Шчасцем-доляю абашле.

Дождж, які апладняе зямлю і з'яўляецца прадвеснікам добрага ўраджаю, са старажытных часоў сімвалізаваў шчасце, дабрабыт, удачу ў любой адказнай справе. У песнях сустракаецца матыў як «збавіць» маці на зямлю «па шаўковым шнурочку, залатым (зялёным) пруточку, залатой плеці, па жалезным масточку, на дзіцячым вяночку» і інш. Такі ж матыў пераходу з неба на зямлю (па бабінцы, драбінах, шнурочку) шырока распаўсюджаны ў беларускіх казках.

У разглядаемых песнях тонкі лірызм спалучаецца з сапраўдным драматызмам. Вельмі выразна перадаецца душэўны надлом маці, якой не давялося трапіць на вяселле сваёй дачкі, яе шчырая ўдзячнасць людзям за тое, што паклапаціліся аб яе дзіцяці, але яна лічыць, што сама «пасадзіла б павышы і надзяліла б пашчыры», бо чужыя людзі «раду радзяць не хочучы, благаслаўляюць не судзячы». Хоць да сіраты і прыхінуцца чужыя людзі, але яны не могуць пажадаць (даць) ёй такога шчасця-долі, як бацькі, якія, падышоўшы да стала, могуць «шчасце-долю ўлажыць». Чужыя ж не падыдуць да стала маладой блізенька, не стануць у канцы яго, не нальюць кубка (чашы) мёду поўнага, што з'яўлялася адзнакай пажадання маладой шчасця, долі:

Хоць ёсць матушка, ды няродная,
Блізка да століку не падходзіць,
Вернага славечка не гаворыць.
Хоць падыдзець, ды не блізенька,
Хоць скажыць слованька, ды нявернае.
Поўныя кубкі не наліваець,
Хоць наліваець, ды няпоўныя.

Падарункі чужых таксама часцей за ўсё не раўнацэнныя бацькоўскім, бо апошнія дораць ад усёй душы. Наогул калі няма татулькі, то і забыла радзіна паднесці маладой падарунак. Да стала «хоць прыдзець — не прыдзець — усё чужына». Толькі ад бацькоў можна атрымаць так званы «важны падарак — хлеб-соль, залатое серабро і ўсё дабро». Большасць песень пра благаславенне і падарункі вызначаецца высокай мастацкасцю, драматызмам, глыбокім лірызмам, пяшчотнасцю, трывогай, грамадскай адказнасцю за лёс будучай сям'і:

Народны татка благаслаўляе
Не правай рукой,
Няшчырым сэрцам
Да шлюбу выпраўляе.

А мачыха:

Хоць назаве дзіцеткам,
Да не верненькім слоўцам,
Да нялюбенькім дзіцем.

Народнай маці «дзіця няміла і благаслаўненне няшчыра». Вобраз мачыхі, які ў сямейна-бытавых песнях малюецца шырока і самымі змрочнымі фарбамі ў выглядзе пачвары, вылюдка, у вясельных падаецца асобнымі штрыхамі, вельмі асцярожна, далікатна і звязаны толькі з асобнымі момантамі вясельнага абраду, што тлумачыцца народным этыкетам. Асноўны акцэнт у гэтых песнях робіцца на спачуванне сіраце, а не на падкрэсліванне адмоўных рыс мачыхі. Вобразу мачыхі супрацьпастаўляецца вобраз роднай маці, якая «за вароты б выйшла, дзіця ўстрэла, пад пашкі ўзяла і ў хатачку ўвяла, за стол пасадзіла б, віном угасціла». А мачыха:

Хоць яна выйдзе,
Да няміла гляне,
Да няміла гляне,
Да няшчыра прыме.

Часта вельмі скупа, адным штрыхом, які нясе вялікую семантычную нагрузку, характарызуецца мачыха; напрыклад, «не матушка кубел кладзе», і чытачу зразумела, што кубел будзе няпоўны. У другой песні маці параўноўваецца з традыцыйным любімым у народзе вобразам зязюлі, а «чужыя мамкі» вельмі трапна — з дробнымі пташкамі:

А ў яе на двару ні зязюлечкі,
А ў яе пры століку ні матулечкі,
А ў яе на двару дробныя пташачкі,
А ў яе пры столу чужыя мамкі.

Толькі ў адной песні знаходзім прамы выпад супраць мачыхі ў форме праклёну:

Бадай тая сірата
Да не радзілася,
Каб чужая матка
Над ёй глумілася.

Вылучаюцца песні з матывам праклёну сіратою зямлі (якая персаніфікуецца) за тое, што яна «з'ела (узяла, закрыла, забрала)» яе бацькоў, не дала ім узрасціць сваё дзіцятка, выдаць замуж. Таму вымушаны былі ўзгадаваць яе «добрыя людзі», а замуж аддалі «добрыя суседзі». Для гэтых песень характэрны псіхалагічны паралелізм і лірычны зачын, у якіх малюецца вобраз маладой, якая ідзе па застоллейку і кланяецца прысутным. Хада сіраты тут параўноўваецца з бясшумным паданнем ігліц з елкі, а сама яна,

пакрытая вэлюмам,— з цьмяным сонейкам, якое ідзе «па захмар'ейку, па затонейку». Не могуць развесяліць сірату нават музыкі, якіх яна просіць не іграць, бо яе «сэрданька на чацвёра рвецца, што не яе ойчанька каля яе ўецца». Маладая плача, так, што «галаском неба прабівае, слёзкамі зямельку палівае», якія «жоўты жвір прамываюць», «белы камень (зямлю) прабіваюць»:

Да ўпала на магілку,
Да прабіла далінку,
Да найшла сляза,
Зялёны мурог прабіваючы
І жоўты пясок прамываючы,
Ойца-матку пабуджаючы.

Апісанне гора сіраты ўзмацняецца тут прыёмам гіпербалізацыі, дзякуючы якому ствараецца ўражлівы вобраз пакут маладой. Плач сіраты параўноўваецца з куваннем зязюлі. Як «зязюля кукуе ў барочку, прыклаўшы галоўку к лісточку», так маладая плача, «прыклаўшы галоўку к зямліцы (скам'іцы)». Вобраз зязюлі сведчыць аб старажытным паходжанні песні. Самі ж канцоўкі некаторых з гэтых песень пра зязюлю штучна прымацаваны да асноўных тэкстаў і, відаць, былі складзены пазней, бо ў іх прымешваецца хрысціянскае ўяўленне аб смерці і інш. Каб больш падкрэсліць драматызм сірочага вяселля, у радзе песень яно супрацьпастаўляецца вяселлю з бацькамі: «Каб у мяне, маладой, мамка была, былі б столікі засланыя, госцікі ўсе сабраныя, чарачкі наліваныя, не столькі півушка панаварана, не столькі пірагоў панапечана, не столькі госцейкаў паназвана». З бацькамі «разумней бы дзеўкі не было, болей бы розуму прыбыло». Без бацькоў цяжка даводзілася сіраце ў жыцці, бо трэба было людзям дагаджаць, каб яны да яе прыхінуліся ў патрэбную часіну:

Аддаюць цябе суседкі
За твае ціхія паходы,
За твае нізкія паклоны,
Што ты ціхенька хадзіла
Да нізенька галовачку насіла.

Народны этыкет патрабаваў ад сіраты асаблівай сціпласці, стрыманасці, большай павагі да сваякоў і суседзей, асабліва ў час вяселля. У песнях падкрэсліваецца, што маладая без бацькоў на вяселлі «ніжэй пасаджана» і «апранута па-сірочаму», «адзета ў белае». Так, у адной з песень сірата пытаецца ў бацькі:

Да ў ва што мне прыбрацися:
Ці ў сукенкі, ў вайдамашкі,
Ці ў кажушкі да ў сярмяжкі?

Бацька адказвае:

Марыська, маё дзіцятка,
Сярмяжкі сівенькі, кажушкі бяленькі,
То сіраце ўбранне.

Сірочае вяселле праходзіла менш пышна, шумна, ярка, чым вяселле з бацькамі. Вылучаецца значная група песень, у якіх пералічаюцца прыкметы сірочага вяселля і гаворыцца: «знаць (відаць) па вяселлю, што сірочае». Большасць песень такога роду нават пачынаецца гэтымі словамі:

Знатка, знатка па вяселлейку,
Што сіроцкая свадзьба.

Зачыны некаторых песень такога тыпу маюць пытальныя формы. Напрыклад: «Па чым пазнаць сіроцкае вяселле?», «А хто ў лесе, хто ў цёмным гукае?» Часам песні пачынаюцца з псіхалагічнага паралелізму: «Знаці руту па насеннейку, знаці, знаці дзевачку па вяселлейку»; «Ой, знаці, знаці ў лесе каліну: расце нізенька, цвіце бяленька, ягада чырвона. Ой, знаці, знаці маладу Марыську, што яна сіротка»; «Знаці, знаці па вінаградзе, што салодкі ягадкі», «знаці па вяселлейку, што сіроцкае вяселле»; «Знаці сакала (салаўя, зязюлю) па лятаннеўку, што ён (яна) нізка лятае, знаці дзевачку па вяселлейку, што не бацька спраўляе». Гэта робіцца дзеля таго, каб адразу засяродзіць увагу слухача на адсутнасці бацькоў у маладой, выклікаць у прысутных мінорны настрой.

У песнях з разглядаемым матывам рэалістычна, сцісла і трапна апісваецца адсутнасць парадку ў гаспадарцы сірочага двара: «і хата багата», але «няма парадачку без роднага татачкі», «сталы засланы, госці сабраны, а парадку няма», «цесная хата, вузкі вароты», «хата багата, расход вялікі— парадачку нет». На такім вяселлі, хоць «і дзядзькі і цёткі ёсць», але «няма радзіны і палавіны» і «цымбалы (скрыпкі, бубны) нязвонкі, і дудкі нягудкі», «піва не п'яна, мёд несалодак, гарэлка нягорка і бяседа невясёла». І ўсё гэта таму, што «некаму стаці на канец стала, парадачку даці».

У зачынах гэтай групы песень сірата, маці і бацька надзяляюцца раслiннымі і жывёльнымі сімваламі. Сірата выступае ў вобразе руты, каліны, саду-вінаграду, чорнай парэчкі без ягадкі, без цвету, рэчышча ракі без берагоў (г. зн. без бацькоў), зязюлі, качкі. Бацькі параўноўваюцца з кветкамі, ягадамі, крыніцай, якія сімвалізуюць багацце, дабрабыт, жаніх — з сокалам, салаўём. Часта зязюлю пасылаюць на той свет па бацькоў, а сокала або салаўя па радзінку. Гэтыя песні вызначаюцца высокай паэтычнасцю вобразаў, развітасцю іх зместу і складанасцю формы.

Кампазіцыя некаторых песень з матывам пасылання птушак па бацькоў будуецца па прынцыпу вылучэння адзінкавага з роду некалькіх асоб, жывёлін, з'яў, дзеянняў, рэчаў. Найбольш пашыраны ў іх прыём вылучэння галоўнага персанажа, яго стану і дзеяння і супрацьпастаўленне астатнім. Так, у песні пытаюцца, каго пасланць на той свет па бацьку. «Старога пасланць — няскора ён дойдзіць», «малога пасланць — няскора разбудзіць», «малады — не пойдзіць». Таму пасылаюць салаўя (сокала, зязюлю), бо «ён нізка лятаіць, да вямлі прыпадаіць, галосна кукуіць — баценьку (матаньку) разбудзіць». Часам у некаторых песнях за бацькам адпраўляюць маладога, вецер, каня і інш. Даволі часта песні будуюцца па прынцыпу

двухчленнага псіхалагічнага паралелізму, дзе заўсёды назіраецца такая паслядоўнасць: спачатку падаецца прыродная сімвалічная карціна, а затым ідзе карціна-вобраз з чалавечага жыцця. Часам гэтыя карціны вызначаюцца дакладнай адпаведнасцю ўсіх кампанентаў у абедзвюх паралельных частках, але часцей больш развіта другая частка, дадатковыя радкі якой нярэдка нясуць значную сэнсавую і эмацыянальную нагрузку.

Песні, пабудаваныя ў плане псіхалагічнага паралелізму, садзейнічалі ўтварэнню цэлага рада сімвалаў[10], якія паходзяць у асноўным са свету прыроды, найбольш рухомага і найбольш прыстасаванага для выражэння ўнутраных перажыванняў чалавека. Сімвалы, звязаныя з панянцем гора (каліна, смародзіна, рака, даліна), адзіноцтва (зязюля), шырока выкарыстоўваюцца ў вясельных сірочых песнях. Узнікненне сімволікі, як вядома, звязана са старажытнымі ўяўленнямі народа. Самым распаўсюджаным сімвалам у сірочых песнях з'яўляецца вобраз зязюлі, якая параўноўваецца з няшчаснай, галосячай сіратою. Паходжанне гэтага сімвала звязана не толькі з жалобным куваннем зязюлі, але і з падобным да сіраты жыццём, бо яе выхоўваюць чужыя птушкі ў сваіх гнёздах. Маладая параўноўваецца таксама з белай бярозай, зялёнай ялушачкай, зялёнай (чырвонай) яварыначкай, садовай яблынькай, у якіх няма «вярхушачкі наймілейшай, самай найпатрэбнейшай». У другой частцы песні сімвал раскрываецца: «Усе госці сабраліся — аднаго госця няма, самага найпатрэбнейшага, татачка наймілейшага». Такім чынам, верхавіна дрэва сімвалізуе бацькоў. Вясельнікі параўноўваюцца з зорачкамі, а бацька — з ясным месяцам, маці — з вячэрняй зоркай. Такога рода сімволіка асабліва развіта ў групе песень «Маладая ідзе на могілкі, шукае і кліча бацькоў на вяселле», якія вызначаюцца распетасцю, працяглымі дыялогамі, вобразнымі малюнкамі. У іх апісваецца, як маладая ідзе па цёмным бары, пытаецца ў людзей, ці не бачылі маці, спускаецца з горкі ў далінку, знаходзіць магілку, прыпадае да яе тварам (або кланяецца) і горача просіць маці прыйсці хоць «на часок, на вечарынку», «на 'дну ночку», «ці не будзе лепшай доля-шчасце» яе.

Глыбокім драматызмам прасякнуты сцэны размовы сіраты з бацькамі на могілках. Маці адказвае дачцэ, што яна не можа прыйсці, бо замкнёна «пад трыма замкамі», «пад зялёным дзярночкам, жоўтым пясочкам, грабовымі дошкамі, якія сціснулі ножкі», і інш. У некаторых песнях гэтай групы маці з горкай іроніяй гаворыць дачцэ:

Не кланяйся, дзіцятка маё, ты і мне,
Пакланіся, дзіцятка маё, усім людзям,
І тым людзям, што сені-хатачку зрабілі
Без дзвярэй, без акенечка, без сонца.
Не прамоўлю, дзіцятка маё, ні слоўца.

---

[10] Веселовский А. Н. Психологический параллелизм и его формы в отражении поэтического стиля.— У кн.: Веселовский А. Н. Историческая поэтика. Л., 1940, с. 177.

Далей у вобразнай форме апісваецца цяжар, які давіць на труну, а труна — на маці. Рэалістычнымі фарбамі малюецца зрокавы вобраз маці-нябожчыцы, якая, «склаўшы рукі», ляжыць у труне, а таксама элементы пахавання. Прычым мастацкі эфект у вялікай колькасці песень дасягаецца трохразовым паўтарэннем метафарычных словазлучэнняў тыпу «тры замкі», «тры садочкі» і г. д. Тут своеасаблівы і шырока распаўсюджаны ў вясельных сірочых песнях прыём пералічэння перашкод з указаннем іх функцый. Напрыклад:

Сырая зямля на сэрца ўзлягла — не магу ўздыхнуць.
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не магу праглянуць.
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не магу павярнуцца.
Зялезны цвечкі скавалі плечкі — не магу пакрануцца.
Траўкай-мураўкай зараслі дзверцы — не магу адчыніці.

Значна менш песень прысвечана жаніху-сіраце. Яны прадстаўлены толькі двума матывамі: 1) некаму сабраць маладога ў дарогу; 2) конь дапаможа разбудзіць бацькоў. Сам малады параўноўваецца з дубочкам, ясным месяцам, сокалам. Вобраз і ўнутраны стан маладога перадаецца праз яго размову з канём, верным сябрам і памочнікам, які пакутуе разам са сваім гаспадаром, «што не татачка жэніць», «а што некаму вароцікаў расчыніць», «а што некаму ў дарожку благаславіць», «вараных коней пасядлаці, сваццябаяры пазбіраці». Малады просіць каня не «кроіць капыцечкам зямлю» і не павялічваць яго гора, бо яму без бацькоў і так моташна:

Коню мой, коню,
Не брой пада мною,
Капыцечкам зямлі не крой.
Кроіцца на маім сэрданьку,
Што я без роду, без племені,
Без роднага война́нька.

Жаніх сам «вазок строіць» і скардзіцца на бацьку, што ён «не напаіў варанога каня ўчора, не паклаў мурагу сена ў павозку, не выправіў у дарожку». Калі ў песнях нявесце-сіраце хор, кіруючы вясельным дзеяннем, прапануе ёй, едучы да вянца, зайсці да маці на могілкі і самой абабіць «ранню расіцу», патаптаць «траўку-мураўку», раскідаць жоўты пясочак» і дастаць «грабовы дошкі», каб пакланіцца «татку ў ножкі», то маладому заўсёды ў гэтым дапамагае конь:

Заедзь, Іванка, на магілачку,
Прывяжы коніка к белай бярозе:
Конічак капытком камяшок спіхнець,
Конічак хвасточкам пясочак змяцець.

Сімвалічныя зачыны гэтых песень будуюцца па прынцыпу паралелізму, дзякуючы якому ствараецца пэўны настрой і робіцца празрысты намёк на змест самой песні:

Хадзіла варона каля возера
Крычачы,
Хадзіў Грышачка каля коніка
Плачучы.

Або:

Сівая зязюля вылятае,
А сужанька на коніку выязджае.

Ужываемыя ў гэтых зачынах сімвалы ствараюць жалобны тон, які перадае тугу і пакуты маладога сіраты. Наогул зачыны сірочых песень нясуць вялікі трагічны «зарад» гора героя і з'яўляюцца своеасаблівай прыкметай песень сіраты. У якасці сімвала гора тут выступае вобраз «кракуючай вароны». Моцнае ўздзеянне на слухача аказвае гэты вобраз, які сімвалізуе смерць, такі ж сэнс мае і вобраз сівой зязюлі.

Вобразнасць сірочых песень ствараецца пры дапамозе розных прыёмаў традыцыйнай народнай паэтыкі. У мастацкую тканіну тэксту песень арганічна ўплятаюцца словы, якія маюць эмацыянальна-экспрэсіўную нагрузку: эпітэты, метафары, параўнанні, гіпербалы. Іх асноўная роля — падкрэсліць асаблівы жаль, пяшчотнасць і сум нявесты. Шматлікія звароты, пытанні і адказы, дыялогі і маналогі акцэнтуюць усхваляваны, напружаны характар сірочых песень. Выразнай рытмічнасці структуры верша садзейнічаюць шматлікія паўзы, якія таксама засяроджваюць увагу слухача на асноўных момантах разгортваемага дзеяння. Малюнкі апісання трагізму сіраты ўзмацняюцца яе тужлівым плачам, ствараючым мінорны настрой, які праходзіць праз усё сірочае вяселле.

Беларускія сірочыя песні ўваходзяць сваімі каранямі ў сівую старажытнасць, адлюстроўваюць быт, гісторыка-прававыя і міфалагічныя ўяўленні, якія ляглі ў аснову маральна-этычнага кодэкса сямейных адносін, нацыянальных рыс беларускага селяніна. У сірочых песнях выяўляецца глыбокая душэўнасць і шчырасць знешне замкнутага, маўклівага, сціплага беларуса, яго чуласць, спагадлівасць людскому гору і пакутам, адносіны і павага да продкаў, родзічаў, бацькоў. «І справа, вядома ж, не толькі ў тым, што нявесту-сірацiну звычайна чакала ў замужжы горшая доля, чым нявесту пры бацьку і маці. Справа яшчэ і ў глыбока чалавечым пачуцці шкадавання, і ў моцнай духоўнай сувязі з бацькамі, у натуральным перакананні, што іншыя адносіны да бацькоў — амаральныя і таму ганебныя» [11].

Вясельныя песні, звязаныя з вянчаннем (адпраўленне да вянца, па дарозе ў царкву і вяртанне), узніклі ў больш позні час на аснове дахрысціян-

---

[11] Лірыка беларускага вяселля. Укладанне і рэдакцыя Н. С. Гілевіча.— Мн., 1979, с. 10.

скага традыцыйнага вяселля з яго рытуаламі і паэзіяй. Яны не вызначаюцца арыгінальнасцю зместу і формы. Аб тым, што традыцыйны шлюбны абрад і яго паэзія напоўніліся элементамі хрысціянскага вянчання, красамоўна сведчаць песні, выконваемыя па дарозе ў царкву і назад, паколькі яны створаны на аснове песень, якія спяваюцца па дарозе да маладой і маладога, а таксама ў час звычаёвага шлюбу. Гэта тлумачыцца тым, што хрысціянства прыйшло на беларускія землі, калі традыцыйнае вяселле з яго абрадамі і песнямі ўжо склалася. Таму форма царкоўнага вянчання ўваходзіла ў народны быт вельмі марудна, хоць царква пачала бязлітасную барацьбу за яго ўвядзенне пасля прыняцця хрысціянства. І калі ў больш позні час у традыцыйнае беларускае вяселле было ўведзена царкоўнае вянчанне, яно не здолела зменшыць значэння звычаёвага абраду шлюбу. Абрад царкоўнага вянчання адбываўся асобна і незалежна ад народнай вясельнай абраднасці. Звычаёвае шлюбнае права захоўвалася на Беларусі аж да XX ст., і народны вясельны абрад з'яўляўся няпісаным юрыдычным законам для ўсіх членаў рода [12].

Традыцыйны шлюб (вяселле) на большай частцы Беларусі выконваўся нярэдка праз тыдзень, а то і пазней пасля царкоўнага вянчання. Як адзначаў М. М. Нікольскі, «такія ўзаемаадносіны паміж царкоўным вянчаннем і традыцыйным «вяселлем» з'яўляліся надзвычай характэрнай, спецыфічнай рысай беларускай вясельнай абраднасці. Тут перад намі выступае яшчэ адно сведчанне надзвычайнай сілы і стойкасці беларускага звычаёвага народнага права» [13]. У выпадку смерці жонкі або мужа ў царкве дазвалялася вянчацца некалькі разоў, у той час як па народных звычаях вясельным абрадам можна было асвяціць шлюб толькі адзін раз. Калі выходзіла замуж удава або жаніўся ўдавец, то яны не мелі права выконваць усіх абрадаў вяселля. І калі хто-небудзь з маладых паміраў пасля царкоўнага вянчання да вяселля, яго хавалі як нежанатага. Таму апісанне царкоўнага вянчання ў вясельных песнях займае нязначнае месца.

У цырымонію царкоўнага вянчання прыўносяцца элементы грамадзянскага шлюбу з яго прыкметамі, павер'ямі, забабонамі і г. д., што яскрава перадаецца ў песнях. Гэта рабілася царквою наўмысна, каб наблізіць цырымонію хрысціянскага вянчання да традыцыйнага (народнага) шлюбу. Так, у царкву прывозілі хлеб, воўну, царкоўны каберац, на якім стаялі маладыя, засцілалі кавалкам палатна, або ручніком, пад яго клалі грошы ў знак багацця і пояс, «які павінен быць вытканы самой нявестай і служыць сімвалам сувязі паміж ёю і яе будучым мужам» [14]. І калі поп апошні раз вёў маладых вакол аналоя, то маладая старалася нагой пацягнуць за сабой руч-

---

[12] Луначарский А. В. История западно-европейской литературы, ч. 1, М., 1924, с. 40.
[13] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности, с. 39—40.
[14] Виленский вестник, 1888, № 120, с. 22.

нік, на якім яны стаялі, каб хутчэй яе падружкі выходзілі замуж. Вялікая ўвага надавалася і свечкам, якія трымалі маладыя ў час вянчання, бо лічылася, што характар полымя свечкі прадказваў будучае маладых. Так, чыя свечка гарыць ярчэй, таго і жыццё будзе святлейшым; чыя свечка згарыць хутчэй, той і хутчэй памрэ і г. д. Гэтай прыкмеце адводзілася значнае месца ў песнях. Калі маладая прыязджала пасля вянчання дадому, то ў першую чаргу маці ў яе пыталася, «ці ярка гарэлі свечкі» і г. д. Але прагнікальны народны розум часам трапна тлумачыў характар гарэння свечкі рэальнай жыццёвай сітуацыяй: маладому ў сваёй хаце безумоўна будзе лепшае жыццё, чым маладой у чужой сям'і:

— А чыя свяча ярчэй гарэла?
— А хлопчыкава ярка гарэла,
Што ў сваго татачкі.
А дзевачкіна да [redacted] патухала,
Слёзкамі аблівала.

Працяглае панаванне царквы адыграла пэўную ролю ў фарміраванні светапогляду народа, што знайшло адлюстраванне і ў вясельных песнях. Так, у песнях пра вянчанне спяваецца, што маладыя былі ў царкве,

Дзе бог суды судзіць,
Прачыстая матулька перасуджвае,
Сын божы вянец дзержыць,
Святая Сулука сулучаіць.

Тут галоўную ролю ва ўмацаванні шлюбнага саюза адыгрывае язычніцкае бажаство Сулука, а хрысціянскім багам адводзіцца другарадная роля — яны толькі прыслужваюць пры вянчанні. У іншых песнях гаворыцца, што «а не поп то нас вянчаіць — добрая гадзіна (лёс) злучае» і г. д. Большае значэнне надаецца «Сулуцы», «гадзіне», «судзьбе», чым хрысціянскаму таінству. У больш познім варыянце пад уплывам хрысцінскай рэлігіі адбываецца замена язычніцкага бажаства Сулукі хрысціянскім святым Антоніем:

Ці поп, ці не поп вянчаець —
Святы Антоні злучаіць.

Есць нямала песень, у якіх змешваюцца хрысціянскія і язычніцкія погляды. Так, у варыянтах адной песні маладая просіць благаславення «ў святой нядзелькі і сырой зямелькі», а таксама «ў святой прачыстай», «ойца-бога».

Пасля вянчання маладыя вяртаюцца з царквы на адным возе і разам з суправаджаючай іх дружынай заязджаюць па дарозе на абед у карчму. Потым жаніх адвозіць нявесту дахаты або адразу з карчмы яны едуць кожны к сабе дадому. Па дарозе ў царкву выконваюцца розныя ахоўныя рытуальныя дзеянні і адпаведныя ім песні, а на адваротным шляху спяваюц-

ца пераважна песні бытавога, лірычнага і жартоўнага характару: аб радасці маладога, што шлюб «азяў», аб прыродзе, якая падзяляе з ім гэту радасць, аб маладой, якую «звянчалі сілаю» (у мінулым дзяўчат выдавалі без іх асабістай згоды, тут улічваўся толькі эканамічны фактар). У гэты час спявалася шмат песень гумарыстычнага зместу, у якіх высмейвалася прагнасць папоў да грошай, іх дурасць. У многіх песнях змяшчаюцца з'едлівыя жарты, кпіны над папамі, у якіх выражаюцца адносіны простага народа да служыцеляў культу:

Далі пяску жменю,
Ён узяў у кішэню,
Думаў, што чырвонцы,
Панёс сваёй жонцы.

А калі з яго мала,
Каб яго разарвала.

Песні гэтыя сведчаць аб антырэлігійнасці беларускага селяніна, для якога «царкоўнае вянчанне з самага пачатку яго ўвядзення і да пачатку XX ст. разглядалася як чыста фармальная, вымушаная і ствараючая лішнія выдаткі цырымонія» [15].

Заязджаючы на панадворак, удзельнікі вясельнага поезда песняй просяць маці выйсці «са свячамі і сустрэць дзіця звянчана», бо дзіця ў такім стане, што

Слоўца не прамовіць,
Слёзкі да набягаюць,
Слоўца не згадаюць.
. . . . . . . . . . . .

Адно яно да прамовіла:
— Падай, падай, маці, піці,
Бо не магу слова прагаварыці.

Адчуванне хуткага расставання з бацькоўскім домам і хваляванне перад уступленнем у новую сям'ю змянілі выгляд маладой настолькі, што маці ледзь яе пазнала. Толькі пазнала «па распушчаных па плячах косках»:

Па белу лічыку — слёзка,
А ў руках — шырынка.
Яна тонка, бяленька,
Ад слёзак макрэнька.

Песні, што выконваліся ў час сустрэчы маладых пасля вянчання, вызначаюцца вобразнасцю, эмацыянальнасцю і лірызмам. Маладыя сходзяць з воза, на парове іх сустракаюць маці з бацькам. Маці трымае ў руках века ад дзяжы, пакрытае абрусам, на якім ляжыць бохан хлеба і мёд у чарачцы.

---

[15] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности, с. 39.

У бацькі на талерцы — бутэлька гарэлкі і дзве чаркі. Маладыя схіляюць галовы, на якія маці кладзе века і благаслаўляе: «Божа, гадзі і жыта радзі, пару дзетак благаславі на быт добры і на век доўгі, каб не былі пыхаты, ды былі багаты, каб шанавалі войца і маткі і свянцонай хаткі, і бога на небе, і людзей на зямлі». Маці бярэ з чарачкі мёд і мажа маладым губы. Гарэлку, якую налівае ім бацька ў чаркі, яны двойчы выліваюць за плячо і толькі за трэцім разам крышку адпіваюць. Пад песню яны заходзяць у хату:

Прыбірай, матка, месца,
Дзе тваім дзеткам сесці:
Першаму ды раджонаму,
А другому ды суджонаму,
Раджонаму на покуці,
А суджонаму ля раджонага.

Усіх саджаюць за стол, а маладых — на покуць. Пачынаецца бяседа. Пасля кароткага сумеснага застолля жаніх з дружынай едзе дадому, каб сабраць свой род і разам з ім вярнуцца па маладую. Нявеста пасылае праз маладога падарункі яго бацькам. Элементы абраду, якімі пацвярджаецца шлюб, знаходзім і ў песнях, дзе апавядаецца пра выменяны пярсцёнак, або вянок, які малады зняў з маладой і павёз сваёй маці на «паказ» («значок»):

— Вот табе, мамачка, значочак,
Мае дзевачкі персцянёчак.

У супрацьлегласць песням, якія выконваюцца да вянчання і ў якіх малады ў асноўным выступае ў якасці «чужаніцы», «разарыцеля», «разбойніка» і інш., у разглядаемых песнях пачуцці да яго з боку нявесты вызначаюцца глыбокай душэўнасцю, пяшчотнасцю, прыхільнасцю. Усё гэта выражаецца адпаведнай сімволікай, а таксама просьбамі маладой да жаніха, каб ён не пакідаў яе, як мага хутчэй прыязджаў за ёю, памяншальна-ласкальнымі зваротамі да яго: «жанішок», «Васілька», «саколік», «селязенька», «бобрык», «галуб-галубачка», «беленькі лябёдзька», «сівы-белы да галубаньку», «касаценькі селязенька» і інш. І калі да вянчання жаніх мог пакінуць нявесту, адмовіцца ад яе, то пасля вянца маладому дарогі назад няма:

Табе дарога перакапана,
Шчукай-рыбай пералажана,
Быстрай рэчкай апушчана.

Песні, змешчаныя ў раздзеле «Вяртанне маладога дадому», вызначаюцца багатай сімволікай. Так, маладая, «ступаючы ў яго слядок», праводзіць спадарожніка свайго будучага жыцця «за гору», «да лесу», «да бору» і інш., што азначае мяжу, якую ёй давядзецца перайсці ў бліжэйшы час:

Правяду я его да лесу,
А сама вярнуся да часу.

У гэтых песнях пададзены таксама сімвалы-назвы нявесты і іншых удзельнікаў вяселля. Маладая выступае ў вобразах «зязюлькі», «шэрай вуціцы», «галубкі», «лябёдзькі», баяры — у вобразах «шызых галубоў», «сакалоў» і інш. Сімвалічнае значэнне набываюць і прадметы быту. Так, ключы ў маладой сімвалізуюць яе як будучую гаспадыню. У адных песнях пасля вянчання жаніх бачыць сваю нявесту ўжо з ключамі, а ў другіх ён аб гэтым гаворыць сваёй маці:

— От табе, матанька, падаркі
Ад мае дзевачкі-каханкі.
От табе, матанька, ручнічкі
Ад мае дзевачкі-ключнічкі.

Дакладна апісваюцца ў песнях і дэталі рытуалаў, нават вiдаць іх лакальныя асаблівасці. Так, у адных песнях адзначаецца, што малады пасля вянчання едзе да маладой, а ў другіх — адразу дадому, у адных у якасці сімвала вянчання сын вязе сваёй маці вянок, у другіх — пярсцёнак або іншыя падарункі («ручнічкі», «сувалкі» і інш.). У большасці песень апавядаецца аб тым, што малады са сваім родам пасля вянчання прыязджае па маладую назаўтра («у панядзелак», «у нядзелю»), «вечарам», а ў некаторых — «раніцой», «па поўдні» або ўвечары ў той жа дзень і інш.

Большасць разгледжаных вышэй песень характарызуецца кампазіцыйным паралелізмам, дзе першая частка — малюнак прыроды — амаль цалкам адбіваецца ў другой — чалавечым жыцці. Агульная мадэль псіхалагічнай паралелі заключаецца ў супастаўленні двух матываў, дзе «адзін прадказвае другі, яны высвятляюць адзін аднаго, прычым перавага на баку таго, які напоўнены чалавечым зместам»[16]. Пры дапамозе сімвалічных сітуацый і вобразаў-сімвалаў у песнях выразна перадаецца лірычны настрой маладых.

У гэтых песнях вылучаюцца песні-дыялогі, у якіх першая частка пачынаецца зваротам пераважна да птушак, а другая — да чалавека. Такі кампазіцыйны прыём з'яўляецца сродкам яскравай паэтызацыі песень, яе эмацыянальнай усхваляванасці, дапамагае глыбей перадаць пачуцці пяшчотнасці і ўзаемнай сімпатыі маладых. У вясельнай паэзіі даволі шырока выкарыстоўваюцца сімвалічныя вобразы птушак, з якімі звязана народнае ўяўленне аб іх вернасці парнаму вобразу жыцця і здольнасці хутка перадольваць адлегласці. Песні гэтыя выконваліся або ў час ад'езду маладога пасля вянчання ад нявесты дадому, або ў доме жаніха, калі ён збіраўся разам са сваёй дружынай ехаць па маладую. Адначасова ў доме маладой збіраўся яе род і рыхтаваўся да сустрэчы дружыны маладога. Нявесту з сяброўкамі саджалі за стол, і яны спявалі лірыка-драматычныя песні, у якіх пераважаюць глыбока эмацыянальныя элементы з адценнем інтымнасці, поўныя душэўных успамінаў, перажыванняў. Для многіх з песень пра чаканне маладога, як і для песень папярэдняй групы, характэрны псіхала-

[16] Веселовский А. Н. Историческая поэтика, с. 144.

гічны паралелізм. У іх з непасрэднай шчырасцю маладая расказвае аб сваіх дзявочых перажываннях, хваляваннях, непакоі аб сваім будучым лёсе. Нярэдка песні набываюць драматычнае гучанне, звязанае з няпэўнасцю будучага жыцця ў новай сям'і. Вобраз маладой параўноўваецца з нябеснымі свяцiламі, з'явамі прыроды, жывёльным светам:

Ды не знаць месяца ды за звяздамі,
Толькі знаць месяц па заранач цы.
Ды не знаць Ганначкі за дзевачкамі,
Толькі знаць Ганначку па галовачцы.

На аснове трапна падабраных вобразаў у радзе песень ствараюцца вельмі чуллівыя, трапныя малюнкі пяшчотнай і слабай «вутачкі» з «вуцянятамі» на рацэ і козачкі з казлянятамі на сенажаці, якім пагражаюць драпежнікі — варона і воўк. Вялікае хваляванне гэтых безабаронных істот перад немінучай пагрозай і іх імкненне выратавацца адпавядае трывожнаму стану маладой, якая таксама кідаецца ў пошуках паратунку ад маладога. Усведамленне ахвярамі трагізму свайго безвыходнага становішча яшчэ больш узмацняе эмацыянальнасць іх душэўнага стану:

Хадзіла каза па сенажаці,
Шукала месца, дзе паляжаці.
— Да лягла б я на вербалозе,
Да баюся сівага воўка:
Учора прыбягаў, дзетачкі пабраў,
Сягоння прыбяжыць, самую забярэ.
Хадзіла дзеванька па новых сенях.
. . . . . . . . . . .
— Да баюся ж я маладога хлопца:
Учора прыязджаў, падарачкі забраў,
Сёння прыбяжыць, самую забярэ.

Маляўніча апісваюцца падружкі нявесты, якія параўноўваюцца з «птушачкамі», «апеначкамі-гаварушачкамі», «чарэшанькамі», «веточкамі», «галлейкамі» і г. д.:

Ой, што за вішанька між чарэшнямі сядзіць?
. . . . . . . . . . . . . . .
Ой, што за Галечка між дзевачак сядзіць?

Згодна са звычаем, маладой забаранялася пакідаць застолле да прыезду маладога. У песнях, звязаных з гэтым абрадам, асобнымі штрыхамі вельмі трапна перадаюцца дэталі быту, сямейна-бытавых адносін, на фоне якіх глыбей разгортваецца ўнутраная драма гераіні. У адных песнях маладая просіць, каб яе адпусцілі з застолля, бо яна не парабіла яшчэ ўсёй работы («шырок дварок не мецен», «усходанькі не мыты»), у другіх — «па дворыку пахадзіць — бацькаў двор пакрасіць», «паслухаць, дзе музыкі ігра-

юць», «паглядзець, дзе дзевачкі гуляюць». На гэта падружкі з іроніяй адказваюць, што была ў яе «субота, дзень вольны», калі яна магла ўсё гэта зрабіць, а зараз позна, бо яна ўжо «на адыходзе», і як будзе з'язджаць з бацькоўскага двара:

Ой, вымецеш шырок дварок касою,
Ой, вымыеш усходанькі слязою.

Нявеста параўноўваецца з бярозкай, якая сімвалізуе яе маладосць, чысціню і прыгажосць. Буйная зеляніна бярозкі адлюстроўвае і ўскосна падкрэслівае здароўе маладой, яе росквіт, жыццяздольнасць, а разам з тым і працавітасць.

Цэлая група песень гэтага раздзела прысвечана ўласна чаканню маладой прыезду маладога. Яна хвалюецца, «што яго доўга нет». Можа, што здарылася з ім («ці яго мяцеліца замяла», «ці яго пагодушка заўняла», «ці яго вараны коні прысталі, ці яго кучарыкі заспалі», «ці яго худа славушка заўняла, ці ў высок церам павяла», «ці малады сваты заспалі», «ці вараных коней памарыў, ці сваю мамку ўкваліў»), а можа, чым яна яму не дагадзіла, хоць з свайго боку ўсё для яго зрабіла як трэба («звіла яму вяночак, як кветку, дала яму хустачку-сурвэтку, ручнічок»). Таму яна хоча пісаць пісьмо, пасланць паслоў, а то і сама гатова пайсці па яго. У песнях пра чаканне маладою свайго жаніха даюцца глыбока рэалістычныя і маляўнічыя бытавыя сцэны, у якіх апісваюцца гаспадарчыя здольнасці нявесты, прадметы хатняга ўжытку, ежа, якую яна падрыхтавала. Чакаючы маладога, нявеста просіць дзяўчат, маці выйсці на дарогу, прыкласці вуха да сырой зямлі, паслухаць:

Ці стогнець дарога шырокая,
Ці шуміць дуброва зялёная,
Ці звіняць падковы стальныя,
Ці едуць баяры купавыя,
Ці вязуць князя маладога.

У гэты момант маладая адчувае радасць і трывогу, надзею і няпэўнасць. Гэтыя супярэчлівыя пачуцці нявесты знайшлі адлюстраванне ў песнях, дзе яна то просіць дзяўчат «схаваць» яе, «не аддаваць з застолля» «разлучніку» («разлей-слёзы», «раскуй-слёзы»), то сумуе без яго і не можа дачакацца. Такая раздвоенасць пачуццяў (нежаданне ісці ў чужую сям'ю і разуменне непазбежнасці замужжа) даводзіць маладую да адчаю:

Скарэй бы я прыбралася,
Скарэй бы я за стол села,
Скарэй бы я заплакала.

Вясельныя песні вельмі глыбока раскрываюць унутраны стан гераіні і паказваюць, «як сур'ёзна, з якой адказнасцю звязвае яна сваё жыццё з жыццём другога чалавека» [17].

[17] Гілевіч Н. С. Беларуская вясельная лірыка.— Лірыка беларускага вяселля, с. 10.

Складанасць і супярэчлівасць пачуццяў нявесты ўплывае на структуру песень гэтага раздзела. Часам песня, пачатая маладой, працягваецца быццам іншай асобай, якая глядзіць на маладую збоку. Адзін і той жа тэкст можа мець розныя зрухі ў часе: гаворачы аб сучасным, гераіня лёгка пераходзіць да будучага і наадварот.

Вялікі раздзел гэтага тома складаюць песні пра маладую, якая просіць не аддаваць яе замуж. Нявеста імкнецца пераканаць бацькоў (падае ім у ногі, горача просіць іх, рыдае і г. д.), каб яны пакінулі яе дома на годдругі, каб яна падрасла, навучылася «дзелячка», не аддавалі яе за нялюбага (удаўца, п'яніцу, старога), «можа знойдзецца іншы», лепшы, малады і г. д. У гэтых песнях побач з перажываннямі гераіні, якія складаюць асноўны змест песень, паказваюцца жыццёвыя факты, якія выклікаюць гэтыя перажыванні. Усё гэта накладвае своеасаблівы адбітак на песенную кампазіцыю, якая мае форму дыялогу пераважна дачкі з маці з невялікай дынамічнай экспазіцыяй у пачатку песні. Дыялагічная форма песні ўзмацняе яе драматызм, больш выразна перадае думкі і пачуцці маладой. Што датычыць своеасаблівага ўступу апавядальнага характару, то яго прызначэнне ў тым, каб надаць пачуццям і думкам, якія выражаюцца ў дыялогах, больш канкрэтны характар, звязаць іх з пэўнай жыццёвай сітуацыяй, зрабіць іх паэтычнае вырашэнне больш матываваным і абумоўленым.

У дадзеным томе змешчана 1600 песень, большасць якіх нідзе не друкаваліся і захоўваюцца ў рукапісах у розных архівах або апублікаваны ў старых і рэдкіх перыядычных выданнях. Уключаны таксама песні, узятыя з розных крыніц XIX—XX стст. У аснову класіфікацыі матэрыялу пакладзены функцыянальна-тэматычны прынцып. Сірочыя ж песні размешчаны па прадметна-тэматычнаму прынцыпу. Блізкія варыянты песень падаюцца ў каментарыях. Тэксты песень падаюцца ў адпаведнасці з сучаснымі нормамі правапісу з захаваннем лексічных, марфалагічных і сінтаксічных асаблівасцей.

*Л. А. МАЛАШ*

# ПАЧАТАК ВЯСЕЛЛЯ. ЗБОРНАЯ СУБОТА. ПАСАД

— Сёння ў нас да суботанька,
Прыбірайся, да сіротанька,
Каб твой стол быў засланы,
Каб твой род быў сабраны.
— Ёсць у мяне родная сястрыца —
Няхай яна стол засцеле,
Няхай яна род сабярэ,
Кубачкі паналівае,
На столік пастаўляе.

Сягоння ў нас нядзелечка, святы дзень,*
Ходзіць Танечка, гасцей збіраець цэлы дзень.
Прыйшла ж яна ў хатачку ціхенька,
Сталі ў яе дзеўкі пытацца скоранька:
— Ці ёсць у цябе, Танечка, тата і маці,
Ці будзець каму тваё вяселлейка спраўляці?
— Мае дзевачкі, мая радзінка знішчона,
Мой татачка зарыты сырой зямлёю,
Няхай спраўляець мама вяселле з сястрою.

Сенечкі мае немяцёныя,
Падружкі мае зазваныя,
Да нечаставаныя.
— Устань, мая мамачка,
Пачастуй падружачак.

Маладая дзевачка,
Ты ў бога сіротачка,
Ты татачкі не маеш,
Сама дружынку збіраеш,

* Кожны радок паўтараецца.

Па застоллейку саджаеш.
— Сядзь, мая дружыначка,
Сядзь, мая невыборна,
Сядзь, мая неапорна.

Чыя ж гэта мамка
Па вулачцы ходзіць?
Па вулачцы ходзіць,
Суседачак просіць:
— Суседачкі вы мае,
Хадзіце ж вы ка мне,
К дзіцяці на вяселле.
К дзіцяці на вяселле,
Дзіцяці паглядзеці,
Як яно прыбярона.
— Прыбярона, як лябёдка.
— Дзе ж яно пасаджона?
— Сядзіць, як сіротка.

Чорная ягада смародзіна,
Вечная Галечка сіроціна,
Чорная ягада цвету нету,
Маладой Галечкі таткі нету.
А чыя ж бы то мамачка па вуліцы ходзіць?
Па вуліцы ходзіць, мужчыначак просіць:
— А мужчынкі мае, збірайцеся ка мне,
Не так ка мне, як к майму дзіцяці,
Як к майму дзіцяці, к вянцу выпраўляці.
Станьце вы, мужчынкі, усе ў рад,
Пойдзець Галечка татку іскаць.
А увесь радочак перайшла,
Роднага татку не найшла.
— Галоўка мая ў вяночку,
Няма майго татачкі ў радочку.
Галоўка мая ўся ў цвеце,
Няма майго татачкі ў свеце.

Сягоннейка суборная суботка,
Сабраліся ўсе дзевачкі ў вяселле.
Толькі нету маладой Ганначкі ў пасадзе.

Уся ейна буйна галоўка ў квеце,
Няма яе роднай мамкі на свеце.
Ідзець яна, галоўкай хіляе,
Сваей роднай матулькі шукае.
— Скажыце мне, суседачкі, не лгучы,
Ці не відзелі маей матулькі ідучы?
— Ды мы сеялі жоўту пшонку на глінцы,
Ды відзелі тваю матульку ў магілцы.
— Устань, мая матулька, не ляжы,
Хоць адну ночку дачушцы паслужы.
— З богам, дзіцятка, з богам, любая:
Жоўты пясочак запыліў вочкі — не ўзгляну,
Сыра зямелька залягла на грудзі — не ўздыхну,
Дубовы дошкі сціснулі ножкі — не крану.

Сабраліся ўсе дзевачкі,
Толькі нет млодай Ганэчкі.
А яна ідзець пытаючы:
— Ці не відзелі майго татку ходзячы?
— Мы не відзелі твайго татку ходзячы,
Толькі відзелі твайго татку лежачы,
На грудзі рукі зложачы.
— Ай, устань, устань, мой родны татка, не ляжы,
Хоць на гэты вечарок да мяне прыйдзі.
— Рад быў бы я ўстаць, на цябе, дзіцятка, паглядзець:
Дубовыя дошкі збілі мне ножкі — не магу ўстаць,
Сасновыя цвічкі збілі мне плечкі — не магу я павярнуць,
Жоўценькі пясочак узлёг мне на грудзі — не магу я ўздыхнуць,
Траўкай-мураўкай зараслі мае дзверы — не магу іх адчыніць.

Дзявічы вечар, суботка настала,
Млода дзевачка сваёй мачачкі шукала.
Шукала яна чатыры ночкі, пяты дзень,
Не нашла яна сваёй матулькі анідзе.
Да магілкі чорную сцежку ўбіла,
Яна ж сваю родную мамку будзіла:
— Устань, устань, мая мамачка, не ляжы,
Хоць ты мне гэту ночку памажы.
— Ой, не ўстану, маё дзіцятка, не ўстану:
Сасновыя дошкі сціснулі ножкі — не ўстаці.

Зялёны дзірванок залажыў грудцы — не здыхнуць,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не ўзгляджу.
Ідзі, йдзі, маё дзіцятка, дахаткі,
А павадзі з родным таткам парадкі.

Суботачка нядзелечцы гадзіла, *
Сіротачка па вуліцы хадзіла,
Хадзіла яна чатыры ночанькі, пяты дзень,
Не найшла яна роднае мамкі анідзе.
Пайшла яна ў зялёненькі гаёчак,
Найшла мамку ў жоўценькім пясочку.
— Устань, устань, родная мамка, не ляжы,
Да хоць жа ты мне гэтую ночку памажы.
— Да не ўстану, маё дзіцятка, не ўстану:
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну,
Зялён дзірван залажыў грудцы — не дыхну,
Сасновыя дошкі сціснулі ножкі — не пайду.
— Узнімецеся, буйныя ветры, на полі,
Разганіце жоўты пясочак паволі,
Раздзярыце зялёны дзірван на долі,
Да й разбіце сасновы дошкі на крошкі,
Да й пастаўце маю мамку на ножкі.

Суботачка нядзелечцы гадзіла, *
Млода Анечка па магільнічку хадзіла,
Чаравічкамі жоўты пясочак страчыла,
Яна свайго роднага татку будзіла:
— А ўстань, устань, а мой татулька, не ляжы,
А хоць жа мне адзін вечарочак паслужы.
— А не ўстану, маё дзіцятка, не ўстану:
Сырая зямля грудцы залягла — не дыхну,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну,
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — не крану.
А папрасіла млода Анечка брацітку маладога:
— А падзі, а мой брацітка, на таткаву магілачку,
Жоўты пясочак, а мой брацітка, ручкамі раскапай,
Сырую зямлю, а мой брацітка, ножкамі раскідай,
Грабовыя дошкі, а мой брацітка, на шчэпачкі разламай.

* Кожны радок паўтараецца.

Да зборная суботачка настала, *
Млода Галенка ўсех дзевачак сабрала,
А сабраўшы, ў радочак садзіла.
— Садзіцеся, мае сястрыцы, ўсе ў рад,
А я, маладзенька, пайду, пахаджу ў зелен сад.
А я, маладзенька, ўвесь садочак абышла,
Нідзе, нідзе роднай маткі не знайшла.
Ножанькамі траўку-мураўку ўбіла,
Слёзанькамі дробну сцежку змачыла.
— Наймі салавеечку, дробную пташку,
Яна злятаець, матульку разбудзіць.
— Устань, устань, мая матулька, не ляжы,
Хоць адзін мне вечарочак паслужы.

Сягоннейка суборная суботка, *
Сабраліся ўсе госцікі ў вяселле.
Сталы засланы, госці сазваны, парадачку нет.
— Ты ж, Ніначка, ты ж, малада,
Пашлі салавеечку па свайго татку роднага.
— Ты, салавейка, скорая пташка, ты злятаеш,
Пращчабятаеш, роднага татку прабудзіш.
— Стань-устань ты, мой родненькі, не ляжы,
Ды хоць гэты вечарочак паслужы.
— Рад бы быў бы я, маё дзіцятка, ўстаці:
І сырая зямля на грудцы ўзлягла — не ўздыхну,
І дубовы цвічкі сціснулі плечкі — не крану,
І цісовы дошкі сціснулі ножкі — не ўстану,
І жоўты пясочак засыпаў вочкі — не ўзгляну.
— Ды ўстаньце ж, буйныя ветры, на полі,
Ды разнясіце жоўтыя пяскі па полі,
Ды раскрышыце цісовыя дошкі на крошкі,
Ды падніміце роднага татку на ножкі.

З суботачкі на нядзелечку, у васкрасенне,
Занімалась усё сіроцкае вяселле.
Сіротачка па магілачцы хадзіла,

* Кожны радок паўтараецца.

Сіротачка буйнага ветру прасіла:
— Павей, павей, буйны ветрычак, з даліны,
Парассыпай жоўтыя пяскі з магілы,
Да пакалі цісовыя дошкі на крошкі,
Пастанаві маю мамачку на ножкі.
Няхай яна хоць гадзіначку пастаіць,
Няхай яна шчасце і долю блаславіць.
— Не ўстану, дзіцятка, не ўстану:
Скавалі мае ножкі цісовыя дошкі — не крану,
Сырая зямля на грудзі пластом лягла — не дыхну.

Дзявіч вечар, зборная суботка настала,
Млода Янечка гэтую ночку не спала,
Да магільнічку сцежкі-дарожкі таптала,
Яна сваю родну матулю будзіла:
— Ўстань, устань, родна мамачка, не ляжы,
Хаця ж гэты адзін дзянёчак памажы.
— Мая дачушка, мая родна, не ўстану:
Збудавалі сталярочкі новы дом,
Не вырубалі ніводнага аконца,
Не засвеціць ні ясны месяц, ні слонца,
Не прагаворыць твая матуля ні слоўца.
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не ўзгляну,
Траўкай-мураўкай зараслі грудзі — не ўздыхну.
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не ўстану.
— Ўзыдзіце, вялікі ветры, на двары,
Пакрухачыце сасновы дошкі на крошкі,
Тады ўстане мая матуля на ножкі.

Дзявіч вечар, суботачка настала,
Млода Альжбетка сваей матулі шукала.
Ой, шукала чатыры ночкі, пяты дзень,
Да не знайшла сваей мамкі нідзе.
Яна ж у нас смутнёсенька хадзіла,
На магілцы чорную сцежку таптала.
— Ўстань, устань, мая матка, не ляжы,
Хоць гэту адну ночаньку памажы.
— Ой, не ўстану, маё дзіцятка, не ўстану:
Збудавалі мне сталяры хатачку
Без дзвярэй, без аконцаў, без вуглоў.

Не ўправілі мне ў вяршочку аконца,
Каб не свяціў ні месяц, ні сонца.
І не прамоўлю да цябе, маё дзіцятка, ні слоўца.

Суботачка нядзелечцы гадзіла, *
Млода Марылька па магілачцы хадзіла,
Яна сваю родную мамку будзіла:
— Устань, устань, мая мамачка, не ляжы,
Хаця ж ты мне адну ночку паслужы.
— Ой, не ўстану, маё дзіцятка, ніколі:
Збудавалі цёмную хатку ў няволі,
Не пусцілі ані дзверцаў, ні аконца —
Не засвеціць ясны месяц, ані сонца.
— Ўзнімецеся, буйныя ветры, з-пад зары,
Разнясіце жоўтыя пяскі на мары,
Разламіце сасновы дошкі на крошкі
І пастаўце маю мамачку на ножкі.

Суботачка нядзельку дачакала,
Малада Марыська свайго татачку шукала,
Ў магільнічак чорную сцежку ўбіла,
Яна свайго роднага татачку будзіла:
— Устань, устань, родны татулька, не ляжы,
Хоць гэтую ночку мне памажы.
— Ой, не магу, маё дзіцятка, не магу:
Збудавалі мне сталяры святліцу,
Не высеклі ні дзвярэй, ні ваконца,
Каб я не бачыў праменьца сонца,
Каб не відзеў свайго дзіцяці вяселля.

Сёння суботачка, васкрасенне,
Начынаецца ўсё сірочае вяселле.
Пайшла Манечка на магілачку па татку.
— Хадзі, хадзі, мой татачка, са мной,
Ці не будзе мне парадачку за табой.
— Ідзі, дзіця, ідзі, роднае, дадому,

* Кожны радок паўтараецца.

Ёсць у цябе родная мамачка ў доме.
Яна ж табе ўвесь парадачак павядзе,
Яна ж цябе шчасцем-доляю абашле.

У нас сягоння нядзелечка, васкрасенне,
Начынаецца сіроцкае вяселле.
Маладая Танечка па магільнічку хадзіла,
А яна жа сваю мамачку прасіла:
— Прыступ, прыступ ка мне, мамачка, блізенька,
А пакланюся табе ў ножанькі нізенька.
— А не магу, дачушка мая, не магу:
Збудавалі мне суседзі новы дом
А без дзвярэй, без ваконца, без сонца,
А не прамоўлю табе, дачушка, ні слоўца.
А папрасі буйных ветраў з даліны,
А каб здулі жоўтыя пяскі з магілы,
А каб пабілі грабовыя дошкі на крошкі,
А няхай мяне паставяць, дачушка, на ножкі.

Сягоння ў нас васкрэсны дзень, нядзеля,
Начынаецца сіроцкае вяселле.
Сіротка па магілачцы хадзіла,
Яна сваю родную мамачку будзіла:
— Ўстань, устань, мая мамачка, не ляжы,
Ідзі дадомачку парадачак навядзі.
Няма каму па хатачцы пахадзіць,
Няма каму парадачкі навадзіць.
— Не магу, маё дзіцятка, не магу:
Жоўты пясочак палёг у насочак — не дыхну,
Цісовыя дошкі сціснулі ножкі — не крану.
Ідзі, мая дачушка, ідзі сабірайся,
А ў нядзельку мяне рана дажыдайся.
Я на двор узыду з ясным сонейкам,
А ў хату ўвайду з дробным дожджыкам.
Ты, мая дачушка, здагадаешся,
Дробных слёзачак нараняешся,
Белай хустачкай навыціраешся.

Сёння ў нас мілы дзянёк, нядзелька,
Начынаецца сіроцкае вяселле.
Сіротачка па магілках хадзіла,

Сваю мамачку на вяселлейка прасіла:
— Ўстань, родненька мамачка, досыць спаць,
А ўжо пара дружыначку сабіраць.
— Ой, не ўстану, маё дзіцятка, не ўстану,
Бо я сваёй правай ручкай не крану.
Жоўты пясочак засыпаў насочак — не дыхну,
Сырая зямля к грудцам лягла — не ўстану,
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — не пайду.
— Уздыміцеся, буйны ветры, з даліны,
Разнясіце жоўты пяскі з магілы,
Паламіце грабовы дошкі на крошкі,
Устань, мая мамачка, на ножкі.

Сягонняваскрэсны дзень, нядзеля,
Пачынаецца сіроцкае вяселле.
Сіротка па магілцы хадзіла,
Яна сваю родну мамку будзіла:
— Ўстань, устань, мая мамачка, да мяне,
Няма ў мяне парадку без цябе.
Няма каму ў канцы стала пастаяці,
Няма каму мілых госцікаў прыняці.
— Ой, падыміцеся, буйныя ветры, з даліны,
Падыміце маю мамачку з магілы.
Ой, разбярыце грабовыя дошкі на крошкі,
Падыміце маю мамачку на ножкі.

У нядзелю раненька
Начынаецца ўсё сірочае вяселле.
— Прашу, прашу, мая мамачка,
На вяселле хоць трошкі.
— Гуляй, гуляй, маё дзіцятка, весяліся;
Ужо ж мае вочкі заплюсканы,
Ужо ж мае ручкі накрыж складзены,
Ужо ж мае ножкі шоўкам звязаны.
— Падунь, падунь, буйны ветрычак, з даліны,
Вой, выдуй жа жоўтыя пяскі з магілы,
Ой, пакрой жа сасновы дошкі на крошкі,
Ой, пастаў жа маю мамачку на ножкі,
Няхай прыйдзе на вяселлейка хоць на трошкі.

А ў нас сёння дзень нядзелечка, скрасенне,
А ў нас сёння сіроцкае вяселле.
Сіротачка на магілачку хадзіла,
Яна сваю мамку на вяселлейка прасіла:
— Прыйдзі, прыйдзі, мая мамачка, хоць на адзін вечарочак.
— Ідзі, дачушка ты родная, мяне не дажджэшся,
Сырая зямля дзверы запляла, ваконцы зацямніла.
Сіротачка ў бога буйных вятроў прасіла:
— Узнімецеся, буйныя ветры, без дажджу,
Разадзьміце жоўценькі пясок з магілы,
Паламайце грабовыя дошкі на крошкі,
Пастаўце маю мамачку на ножкі.

Сягоння ў нас васкрэсны дзень, нядзеля,
Зачынаецца сіроцкае вяселле.
Сіротачка да па хаце ходзіць,
Да па хаце ходзіць, белы ручкі ломіць:
— І ой, суседачкі, мае родныя матачкі, памагайце мне,
Бо ў мяне няма роднай маткі,
Бо ў мяне няма маёй роднае да маткі.
Вы ж тут глядзіце ды вядзіце мае парадкі.
Сягоння ў нас васкрэсны дзень, нядзеля,
Дый зачынаецца сіроцкае вяселле.

А ў нас сёння васкрасенне,
Ўсё сіроцкае вяселле.
А наша Раечка хараша,
Па магілах ходзя, галося,
А ў бога ветрыкаў просіць:
— Павейце, ветры, з даліны,
Развейце пяскі з магілы.
Разбіце дошкі на крошкі,
Пастаўце татачку на ножкі.
— Хадзі, татачка, дадому,
А няма парадку нікому.
А ні тым госцейкам прыезджым,
А ні тым суседзям прыходжым,
А ні мне, маладзе-сіраце.
— А дзіцятка маё, Раечка,

Ужо й мне на ножках не стаяць
І табе парадак не даваць.
Ёсць у цябе мамачка у доме,
Хай дае парадачку за мяне
І тым госцейкам прыезджым,
І тым суседзям прыходжым,
І табе, маладзе-сіраце.

У нас сягоння дзень нядзелечка, васкрасенне, *
Пачынаецца сіроцкае вяселле.
Ходзіць сіротка па магільнічку, галосіць:
— Павейце, буйны вятры, з даліны,
Садзьміце жоўтыя пяскі з магілы,
Паламайце грабовыя дошкі на крошкі,
Пастаўце маю мамачку на ножкі.
Ай, падулі ціхія вятры з даліны,
Не сагналі жоўтыя пяскі з магілы,
Не зламалі грабовыя дошкі на крошкі,
Не паставілі маю мамачку на ножкі.

Сягоння святы дзянёк, нядзеля, *
Начынаецца сіроцкае вяселле.
Сіротка па магілачках хадзіла,
Яна сваю мамку ў вяселле прасіла:
— Устань, устань, мая мамачка, не ляжы,
Хоць ты майго вяселля паглядзі.
— Не ўстанець мамка, не ўстанець:
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не кранець,
Дубовыя гвоздзі збілі галоўку — не ўздымець,
Сырая зямля на грудкі ўзлягла — не ўздыхнець,
Зялёны дзярночак зачыніў дзверцы — не адчыніць.
— Узніміцеся, ветры буйныя, па полі,
Раздзярыце гэты зялёны дзярночак,
Развейце жоўты пясочак,
Паламайце дубовы гвоздзі,
Пакрышыце сасновы дошкі на крошкі,
Падніміце мамку на ножкі.

* Кожны радок паўтараецца.

Зборная суботка настала,
Тарэса дзевачак сабрала.
Набраўшы дзевачак поўны двор:
— Дзевачкі, сястрыцы, ўсе за стол!
Дзевачкі, сястрычкі вы мае,
Звіце вы вяночак для мяне.
— Пастаньце, дзевачкі, да ў рад,
Тут пойдзе Тарэса на пасад,
Дробныя слёзанькі ліючы,
У бога долечкі просячы.
Усе тры радочкі перайшла,
Роднага татулі не знайшла.
— Родненькі татуля, дзе пайшоў,
На маё вяселле не прыйшоў?

Маня дзевачак зазвала,
Па застоллейку саджала.
— Сядзьце, дзевачкі, ўсе ў рад,
Пойдзець Манечка бацькі шукаць.
Ўвесь радочак абышла,
Свайго татачкі не знайшла.
— Галоўка мая бедная,
Няма татачкі роднага.
Галоўка мая ў вянку,
Няма татачкі ў радку.
Галоўка мая ў цвеце,
Няма татачкі на свеце.

Начынаем вянок віці,
Хто будзе благаславіці?
Татка з мамкаю ўмароныя,
Брацíткі загняўлёныя.
Суседцы благаслаўляюць,
Рутачка ў ручках вянець.

Зборная суботка настала,
Маруська дружынку збірала.
Млода Маруська дружынку збірала
І ў тры радочкі стаўляла.

— Пастаньце, дзевачкі, ўсе ў рад,
Тут пойдзе Маруська на пасад,
Нізенька галоўку хілячы,
Дробныя слёзкі льючы.
Ўсе тры радочкі перайшла,
Роднай матулі не знайшла.
— Кінуся-рынуся аб зямлю,
Нямыя дошкі разаб'ю,
Родную матулю падыму.

Зборная гадзінка настала,
Млода Манечка дружынку сабрала,
Сабраўшы дружынку, садзіла.
— Пасядзьце, сваточкі, ўсе ў рад,
Тут пойдзе Манечка на пасад,
Нізка галоўку хілячы,
Дробныя слёзкі льючы,
Белыя ручкі ломячы.
То ж яе няшчасце, нядоля,
Нет яе бацюхны ў доме,
Нет каму парады парадзіць,
Нет каму да шлюбу выправіць.

Зборная суботка настала,
Млода Франечка дзевак сабрала.
Сабраўшы, у радок саджала.
— Сядзьце, дзевачкі, ўсе ў рад,
А я, маладзенька, — міжы вас.
Скланю я галоўку ніжэй вас,
Вылью слязінку жалчэй вас.
Ўся мая галоўка убрана,
Нет маёй мамачкі — схавана.
Ўся мая галоўка у квеце,
Нет маей мамачкі на свеце.

Суборная суботачка настала, *
Наша Лідачка ўсю радзіначку сабрала.
І цётачкі і дзядзечкі прыбылі,

* Кожны радок паўтараецца.

На роднага на татачку забылі.
Усю радзіначку наша Лідачка перайшла,
Нідзе ж яна свайго татачкі не найшла.
Каго спаткаець да назад пайдзець, пытаець:
— Ці не відзелі, дзе мой татулька начуець,
Ці ён майго вяселлейка не чуець?

А суботачка нядзелечцы гадзіла, *
Сабралася нашай Ніначкі радзіна.
А наша Ніначка кругом століка пайшла,
Нідзе яна татку і мамкай не найшла.
А куды пайсці, а дзе найсці радзінку?
Пахадзіла па хатачцы па сваёй
І толькі найшла няродную радзінку.

Суботка з нядзелечкай — гадзіна,
Сабралася ўся Марыльчына дружына,
І цётачкі і дзядзечкі прыбылі.
— Чаму ж майго роднага татку не вялі?
І цёткі і дзядзькі гуляюць,
Ляжыць жа мой родны татка, не дбаець.

Сягоння дзевяць вечароў настаець,
У пана бога скрасенне,
Так зачынаецца вяселле.
Пара звонкім скрыпачкам іграць,
Пара і дзевачкам пяяць.
Знаць па суседзі, знаць па бяседзе,
Што справажана вяселле.
Сталы засланы, госці сабраны,
А парадачку нет.
Пашлі хоць салавейку па роднага татку,
Прыйсці парадачак завясці.
Салавей шчабечыць, усю праўду гаворыць,
Што сырая зямля на грудзі ўзлягла,
А дубовыя гваздкі ножкі забілі, не магу падысці.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Уздыміцеся, буйныя ветры, па чыстаму полю,
Да разнясіце жоўты пясочак і раскатайце зямельку,
І пастаўце татку і мамку на ножкі.

А ў нас сягоння ад госпада бога скрасенне, *
Пачынаецца ў Віцечкі вяселле.
А саляцела два анелі з неба,
А селі-палі ў Віцечкі на куце,
А пасадзілі млоду Анечку ля сябе.
— Багаславіся, млода Анечка, із намі,
Із намі, анелямі двумямі.
А як яе родная мамка радзіла,
А спарадзіўшы, ў тонкі пялёнкі спавіла,
А спавіўшы, кумам на ручкі падала.
— Судзі, божа, майго дзіцяці да храста,
А ад храста дай, божа, долю да вянца.

У гародзе на пераходзе
Рассцілаецца зелле,**
У Манечкі маладзенькай
Начынаецца вяселле.
Двор вузюсенькі, збор малюсенькі,
Бо не ўся радзінанька.
Пашлю салаўя на Украінаньку
Па сваю радзінаньку,
А зазульку да й па маценьку,
Да й па маценьку.
Салавей лятаў, радзіну сыскаў —
Радзіна прыбывае.
Ляціць зазулька — не далятае,
Маценька адказ дае:
— Весялісь, доньку, із госпадам богам,
І з блізкімі суседзямі.
Цісовы дошкі сціснулі ножкі —
Не магу я ўстаці,
Сырая зямля навалілася,
Вочанькі закрыла.

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожны другі радок паўтараецца.

Рассцілаецца-развіваецца ў гародзе зеллечка,
Пачынаецца-начынаецца ў Ганначкі вяселлечка.
Двор вузюсенькі, стол нізюсенькі, радзіма невяліка.
— Пашлю сокала на Украіначку па сваю радзіманьку,
А зязюленьку, галосну птушку, па сваю матуленьку.
Сокалы лятуць, лісточкі нясуць — радзіманька прыбудзе.
Зязюленька ляціць, ліста не нясе — матуленькі не будзе.
— Ці ты, зязюленька, ці ты, рабая, не ўмела пабуджаць?
— А я будзіла, а я прасіла — не хоча ўставаць.

Стаіць яблынька нецярэблена,
Некаму церабіць.
Ляжаць яблычкі раскаціўшыся,
Некаму сабіраць.
Сядзіць Пятрулелька непрыбярона,
Некаму прыбіраць:
Мамкі не мае, сама не знае,
Радзіна далёка.
— А паслала б я шэру зязюлю
На той свет па мамачку.
Зязюля ляціць, пералятае —
Мамачка й адказвае.
А паслала б я салавеечку
Па сваю радзіначку.
Салавей ляціць, не далятае —
Радзіна прыбывае.
Радзіна прыбывае
І песні спявае.

Стаіць яблынька нецярэбленая,
Некаму церабіці.
Пад ёй яблачкі раскаціліся,
Некаму пазбіраці.
Сядзіць дзевачка, як сіротачка,
Некаму прыбіраць:
У яе ні таткі, ні маткі,
А ні роднай сястрыцы,
Некаму прыбіраці.
— Прыхініцеся, прыгарніцеся,
Блізкія суседзі.
Прыбярыце, прыхініце
Дзевачку сіротачку.

У нядзелю да ранюсенька
Ўсе кругом да сталы стаяць.
Да за тым сталом Марыська прыбіраецца,
Войчанька да пытаецца:
— Войчанька, мой родненькі,
Да ў ва што мне прыбірацціся:
Ці ў сукенкі, ў вайдамашкі,
Ці ў кажушкі да ў сярмяжкі?
— Марыська, маё дзіцятка,
Сярмяжкі сівенькі, кажушкі бяленькі,
То сірочае убранне.

Збірайцеся, збірайцеся, мае дзядзечкі-цётачкі, да мяне
І прывязіце злоты грабеньчык для мяне,
І ўчашыце маю бедную галовачку,
І запляціце маю русую касіцу.
А каб і мая русая голаў лялела,
Каб па мне родная мамка не млела.
Ўся мая руса галоўка ў цвеце,
Нет майго роднага таткі на свеце.

Узыдзі, ўзыдзі,
А ўзыдзі, ўзыдзі, зорачка вячэрняя,
А прыйдзі, прыйдзі,
А прыйдзі, прыйдзі, сіротка бедная.
Зорачка ўзышла,
Зорачка ўзышла, ўвесь свет асвяціла,
Сіротка прыйшла,
Сіротка прыйшла, ўсю радню аслязіла,
Бяседу разжаліла.

Вой, на балоце чарацінка,
Да заплакала ж сірацінка,
Да па магіле ўсё й ходзячы,
Да й сваёй мамкі ўсёй просячы:
— Ўстань, устань, мая мамка,
Да й зачашы мяне гладка,
Да й зачашы мяне гладка,

Да й памый жа мяне бела,
Да й памый жа мяне бела,
Да каб была я ўсім міла:
Да і старому ж, шчэ й малому,
Да й харошаму ж маладому.

Ой, лятала зазулечка чэраз круту гору,
Не выжала пшанічанькі, выжала палову. *
Ой, нашто ж мне та палова, як зярна нямае,
Ой, нашто ж мне жыць на свеце, як маці нямае.
У ўсіх дзяўчат мацеры е, а я бацька маю,
Сем раз воду прынасіла з ціхага Дунаю.
Сем раз воду прынасіла, восьмы раз налілася,
Каб я мела родну маму, я б й не журылася.
Ой, пайду я й на магіліцы мацеры шукаці.
— Ўстань, прыйдзі, родна маці, косу расчасаці,
Бо я буду ў нядзеленьку на шлюбе стаяці.
— Ідзі, доньку, дадоманьку, сядзеш вячэраці,
То я прыйду на вячэры косу расчасаці.
Прыйшла доня дадоманьку, села вячэраці,
Ждала, ждала роднай мамы да й стала плакаці.
— Ой, крапіце дарожаньку, штобы не пылілась,
Разважайце сіротаньку, штобы не журылась.
Ой, крапілі дарожаньку, да яна пыліцца,
Разважалі сіротаньку, да яна журыцца.

— Недзе ў цябе, Настулька,
Роднай матачкі нету.
Зачым у тваім пасаданьку
Да нету параданьку?
— Роднай матулькі не маю,
Сама малада не знаю,
Затым у маім пасаданьку
Нету ды параданьку.
— Прасі, Настулька, цётачкі,
Як родненькай матачкі,
Няхай тваййму пасаданьку
Учыніць параданьку.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Адчыніцеся, варата,
Да ідзе на пасад сірата.
Да яе галованька ў вяночку,
Няма ў ёй матухны ў радочку.
Уся яе галованька ў квеце,
Няма ў ёй матухны на свеце.
— Плыві, плыві, шчука-рыба, па вадзе,
Прыбудзь, прыбудзь, мая мамка, на вяселле ка мне.
Прыбудзь, прыбудзь, мая мамка, на вяселле ка мне,
Падай жа мне парадачку, беднай сіраце.
Падай жа мне парадачку, беднай сіраце.
— Ой, налягла сыра зямля на грудзі мне.
Ой, налягла сыра зямля на грудзі мне,
Счапіліся кары вочы навекі мае.

Пастаньце, суседзі, ўсе ў рад,
Тут пойдзе Зіначка на пасад,
Галовачку клонячы,
У бога долі просячы.
Ці вы яе на пасад вядзіце,
Ці вы яе татулькі пажджыце.
Уся яе галоўка ў вяночку,
Нет яе татулькі ў дамочку.
Усе яе грудцы ў квеце,
Нет яе татулькі на свеце.

— Ой, суседачкі-прыяцелькі, ўстаньце ў рад,
Будзем весці да сіротаньку й на пасад.
Альбо вы ёй дарожаньку ўступіце,
Альбо вы ёй родную матку найдзіце.
— А мы ж ёй да дарожаньку ўступімо,
А мы ёй жа роднай маткі не найдземо.

— Пастаньце, баяры, ўсе ў рад,
Будзе йсці дзевачка на пасад,
Нізенька галоўку несучы,
Родную мамачку ішчучы.
— Уся мая галоўка ў вяночку,

Нет мае мамачкі ў шарочку.
Ўся мая галоўка ў квеце,
Нет мае мамачкі на свеце.
Дзевачкі, мае сястрыцы,
Вы мяне з пасаду звядзіце,
А не — мне мамачку ўкажыце.
— Мы ж цябе з пасаду не звядзём,
Мы ж табе мамачкі не ўкажам.

— Станавіцеся, шляхта-баяр'е, ўсе ў рад,
Будуць весці сіротку на пасад.
Альбо ж вы яе на пасаданьку звядзеце,
Альбо ёй родненьку мацеру знайдзеце.
— А мы яе на пасаданьку звядзем,
А мы ёй родненьку маменьку не знайдзем.
Да пайшла наша маладая ў каморанньку гукаючы,
Сваю родну маманьку шукаючы.
Да сказала яна: — Ой, ку-ку, ой, ку-ку,
Да падай мне, мая маманька, руку.
— Да я рада была б дзве падаць —
Сырая дошка і жоўценькі пясочак: не магу руку ўзняць.

— Устаньце, баяр'е, ўсенька ў рад,
Будзе ісці сірота на пасад.
Будзе слаць сцежаньку слязамі,
Будзе шукаць войчанька між намі.
Ўсенькую баяр'ю перайшла,
Да нідзе войчанька не знайшла.
— Альбо мяне на пасадзе садзіце,
Альбо мне войчанька знайдзіце.
— Мы цябе на пасадзе пасадзім,
Мы табе войчанька не знайдзем.

— Станавіцеся, шляхта й баяр'е, ў рад,
Бо будзем весці сіротаньку на пасад.
Альбо ёй з дарожанькі ўступіце,
Альбо бацьку й матаньку купіце.
— А мы ёй з дарожанькі не ўступім,

Бацьку й матулю не купім.
Ой, сіротанька ўкленчыла на пасадзе, як злота,
Устала з пасаду, як роза:
— Хто мне дапаможа, мой божа?

— Станавіцеся, шляхта-баяр'е, ў адзін рад,
Да будзе ісці сіротанька на пасад,
Да будзе шукаць роднай маткі міжы вас.

— Альбо ж мяне з пасаданьку звядзеце,
Альбо ж мне родну матаньку знайдзеце.

— Пайдзі, дзеванька, да па новых сенях пахадзі,
На белай ложы свае маткі паглядзі.

— Дзіўныя людзі, да ні раз, ні два я перайшла,
А роднай маткі на белай ложы не знайшла.

Пастаньце, баяры, ўсенькі ў рад
Пярэйдзе дзевачка яшчэ раз.
Тры разы баяры перайшла.
Роднага войчанькі не знайшла.
Тры разы баяры перабрала,
Роднага войчанькі не пазнала.

Станавіся, радзінка, уся ў рад,
Ой, рана-раненька уся ў рад. *
Будзе йсці сіротка на пасад.
Усю сваю радзінку абышла,
Роднае мамунькі не найшла.
Уся яе галоўка ў прыстоі,
Нет яе мамулькі ў прыстоллі.
Уся яе галоўка ў шаўку,
Нет яе мамулькі ў шарку.
Уся яе галоўка ў квеце,
Нет яе мамулькі на свеце.

* Рэфрэн «Ой, рана-раненька» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

4*

Станьце, ўсе баяркі, ў рад,
Ідзець наша Цыцылка на пасад,
Белыя ручкі ломячы,
Дробныя слёзкі ронячы,
Роднае мамухны ішчучы.
Ўсіх яна жоначак перайшла,
Нідзе яна роднае мамухны не найшла.
Ўся яе галоўка ў вянку,
Нет яе мамухны ў дамку.
Ўся яе галоўка ў квеце,
Нет яе роднае мамкі на свеце.

— Станьце, бабачкі, а ўсе ў рад, *
Пойдзець Ганначка матку йскаць.
А ўвесь радочак абышла,
Роднай мамачкі не знайшла.
— А галоўка мая ў вяночку,
Нет маёй маманькі ў радочку.
А галоўка мая ў цвеце,
Нет маёй маманькі на свеце.
Дзе ж мая маманька начуець,
Што маёй бяды не чуець?
Начуець маманька ў гаёчку,
Ай, у новенькім дамочку.

— Паўстаньце, баяры, ўсе ў рад,
Садзяць маладую на пасад,
Нізенька галоўку клонячы,
Міжы баяр пана ойца ішчучы.
— Я ўсе баяры перайшла,
Свайго пана ойца не знайшла.
Кінуся-падуся аб скам'ю,
Сваю галаваньку разаб'ю,
Свае слёзачкі разальлю,
Сваю радзінку разжалю.
Бедная мая галоўка ў вяночку,
Нет майго пана ойца ў радочку.
Бедная мая галоўка ў цвеце,
Нет майго пана ойца на свеце.

* Кожны радок паўтараецца.

— Ці ў цябе, Галечка, мамачкі няма,
Што на тваім вяселлі парадачку няма?
Станавіся, дружыначка, ў рад,
Ідзе наша Галечка на пасад.
— Сцяліце сталы, я ўжо іду,
Благаславіце, я сяду.
— Расступіся, чужына,
Станавіся ў рад, радзіна.
Станавіся, радзіначка, у рад,
Ідзе наша Галечка на пасад.
Усю радзіначку мінае,
Свае мамачкі шукае.
Усю радзіначку абышла,
Свае мамачкі не найшла.
— Галоўка мая ў вяночку,
Няма ж мае мамачкі ў радочку.
Галоўка мая ўбрана,
Ужо ж мая мамачка схавана.
Галоўка мая ў квецці,
Няма ж мае мамачкі на свеце.

— Стань-пастань, бяседачка, ўся ў рад,
Пойдзе сіротачка на пасад.
Сюды-туды галовачку пахіляе,
Сваю родную матульку шукае.
Уся яе буйная галоўка ў цвеце,
А матулькі нет на свеце.
Шукай не шукай, нет матулькі на свеце.
І вельмі яна далёка, у зямлі глыбока,
Трыма замкамі замкнёна:
Першы замочак — траўка зялёна.
Другі замочак — жоўты пясочак.
Трэці замочак — дубовы дошкі.
— Ўзнімiцеся, буйны ветры, на двары,
Разнясіце жоўты пясочак па полі,
А дошкі дубовы разбіце на крошкі,
Ўзніміце маю матульку на ножкі.

Да пастань, пастань, бяседачка, ўся ў рад,
Там пойдзець млода Ганначка на пасад.
Яна йдзець, галованькай кланяецца,
Яна сваей роднай мамкі шукаець.

Шукай не шукай, млода Ганначка, не знойдзеш:
Збудавалі ей хатачку сталяры,
Не прабілі ні аконца, ні дзверцы,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі ей,
Божа мой. *
Траўкай-мураўкай зараслі дзверы,
Сасновы цвічкі збілі ей плечкі,
Дубовы дошкі сціснулі ножкі.

Пасела радзіма ўсенька ў рад,
Да пайшла дзевачка маткі шукаць.
Абышла радзіму, суседзі:
— Няма мае мамачкі на свеце.
Да ўжо мая матка за трыма замкамі,
За трыма замкамі да за жалезнымі:
Адзін замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
А трэці замочак — дубова дошчачка.
Прашу, матка, да на свае вяселле
Да на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладзенька,
Я к табе прыйду ў суботу рана,
У суботу рана, а ў нядзелю зарамі
Да з дробнымі слязамі.

— Ой, садзіся, радзінанька, ўся ў шар,
Ой, будзе ісці млода дзеванька на пасад.
Ой, яна будзе нізкія ўклоны даваці,
Ой, яна будзе свае маманькі шукаці.
Ой, абышла ўсю радзінаньку, абышла,
Нідзе, нідзе свае маманькі не найшла.
Ой, абышла чыстае поле, даліну,
Ано найшла свае маманькі магілу.
— На магіле стаіць ржаны каласок,
Ох, гэта будзе маёй маманькі галасок.
Ой, хадзі, хадзі, мая маманька, да мяне,
Лучшая будзе мне параданька із цябе.

* Рэфрэн «Божа мой» паўтараецца пасля кожнага наступнага радка.

— Ой, не пайду, маё дзіцятка, не пайду,
Ой, зрубілі да сталяры свяцёлку,
Не пакінулі ні акенечка, ні дзверца,
Ой, не прамоўлю, маё дзіцятка, ні слоўца.

— Ой, сядзем, радзінанька, ўся ў рад,
Ой, йдзе наша дзевачка на пасад.
Ой, няшчасна дзяўчыначка, што ў вяночку,
Няма яе мамачкі ў радочку.
Ой, няшчасна дзяўчыначка, што ў квеце,
Няма яе мамачкі на свеце.
Есць каму піці-есці,
Да некаму парадачкі весці.
— Пашлю сокала, пашлю яснага
На той свет па мамачку.
Саколік ляціць, не далятае, мамачка прамаўляе:
—Ой, рада ўстаці к свайму дзіцяці
Да й параданьку даці,
А калі ж я ў бога пад трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — цісовы дошкі.
Цісовы дошкі сціснулі ножкі —
Нельга мне праступіць,
Залатыя замкі замкнулі мае губкі —
Нельга мне гаварыць.

— Пастаньце, баяры, ўсе ў рад,
Будзе існі дзевачка на пасад.
Уся яе галоўка ў квеце,
Няма яе таткі на свеце.
Уся яе галоўка ў вяночку,
Няма яе таткі ў радочку.
— Ды каго ж пасланы, ды каго ж пасланы
Па майго татачку?
Салавейку пасланы, салавейку пасланы
Ды па майго татачку.
Салавейка пяе, салавейка пяе,
А мой татка не ўстае.
А каго ж пасланы, а каго ж пасланы
Па майго татачку?

Зязюлю пасланць, зязюлю пасланць
Па майго татачку.
Зязюля кукуе, зязюля кукуе,
А мой татка не чуе.

— Зайграйце, музыкі, жалосна,
Пастаньце, баяр'я, раскошна.

Пастаньце ж, баяр'я, вы ўсе ў рад,
Будзе ісці Ганначка на пасад.

Коскамі плечы ўсцілае,
Слёзкамі дарожку ўлівае.

Белыя ручкі ламае,
Роднага татачку пытае:

— Бедная галоўка, што ж будзе,
Што майго татачкі не будзе.

То ж маё няшчасце гаворыць —
Не выйдзе татачка з каморы.

Не стане, родненькі, ў раду,
Каму ж я да ножак прыпаду?

Выйдзі ты, брацейка, з каморы,
Стань жа ты, родненькі, у раду,

Я табе да ножак прыпаду,
Роднага татачку ўспамяну.

— Зайграйце, музыкі, ў ганку,
Станавіся радзімачка ў парадку,
Будзе ісці дзевачка із свячамі,
Праліваці сцежачку слязамі.
— Усю ж я радзімачку абышла,
Роднае мамачкі не знайшла.
Бедная мая галовачка ў вяночку,
Няма маей мамачкі ў радочку.
Бедная мая галовачка ў квеце,
Няма маей мамачкі на свеце.

Зайграйце, музыкі, жалосне,
Пастаньце, баяры, раскошне.
Пастаньце, баяры, да ўсе ў рад,
Будзе ісці млода Аўдоцька на пасад,
Нізенька галоўку кланяючы,
Дробныя слёзкі раняючы.
Ўся яе галоўка ў квеце,
Няма яе бацюхны на свеце.
Ўся яе галоўка ў вяночку,
Няма яе бацюхны ў дамочку.
Як бела лялея глыбока,
Так яе бацюхна далёка.

Ой, ігралі музыкі, ігралі,
На новым ганку стаялі.
— Перастаньце, музыкі, ў скрыпкі йграць,
Тут пойдзе Адэлька мамкі шукаць.
Ўсю яна бяседку перайшла,
Родненькай мамкі не знайшла.

Ой, зайгралі музыкі, зайгралі
Ды на новым ганачку пасталі.
— Станавіся, радзімачка, ў рад,
Ды будзе ісці Манечка на пасад,
Ды нізенька галоўку кланіцьме,
Ды роднае мамкі прасіцьме.
— Ды ўсю радзімачку перайшла,
Ды роднае мамкі не знайшла.
Бедна мая галовачка ў вяночку —
Няма мае мамачкі ў радочку.
Бедна мая галоўка ў іне —
Няма мае мамачкі ў радзіне,
Бедна мая галоўка ў квеце —
Няма мае мамачкі на свеце.

— Садзіся, радзінка, окала стала,
Будзе ісці молада дзеванька на пасад.
Будзе нізкія ўклоны даваці,
Сваю мамку ўспамінаці.

Усю радзіну абышла, абышла,
Сваю мамку не найшла, не найшла.
Найшла мамачкіну магілу,
Прыпала белым лічанькам да яе:
— Прамоў, прамоў, маманька, слова мне.
— Не прамоўлю, дзіця, слова табе,
Насыпалі пясочкам вочы мне.

Ступіла Валечка на парог, *
Махнула платочкам напярод.
— Станавіся, радзіна, ўся ў рад,
Будзе ісці Валечка на пасад,
Нізенька галоўку скланяці,
Роднае мамачкі шукаці.
— Усю сваю радзіну перайшла,
Роднае мамачкі не знайшла.
Уся мая галоўка ў вяночку,
Няма мае мамачкі ў радочку.
Уся мая галоўка ў квеце,
Нет маёй мамачкі на свеце.
Скіну я з галоўкі белы цвет,
Ці не прыйдзе мамачка на гэты свет.

Ступіла дзевачка на парог,
Махнула хустаю напярод.
— Пастаньце, баяры, ўсе ў рад,
Будзе ісці дзевачка на пасад,
Нізенька галоўку несучы,
Коскаю хатачку метучы,
Слёзкамі лічанька мыючы,
Галаском татачку будзячы.

Ступіла Олечка на нары,
Махнула платочак на народ.
— Расступіцеся, чужына,
Сабярыцеся, радзіна,
Пойдзець Олечка мамку йскаць.

* Кожны радок паўтараецца.

— Кругом століка абышла,
Родну мамку не найшла.
Ўся мая галоўка ў цвеце,
Нет маёй мамкі на свеце.
Ўся мая галоўка ў вяночку,
Нет маёй мамкі ў радочку.

Лятуць, лятуць шэрыя гусі цераз сад,
Вядуць, вядуць маладзеньку на пасад.
Яна свайго пасадзіку не знаець,
Яна сваёй роднай мамачкі пытаець.
Каго ўвідзіць, каго спаткаець: — Добры дзень!
Ці не відзелі маю мамачку хоць бы дзе?

Ой, е свечачка-недагарачка,
Няма што запаліці,
Няма матанькі, няма роднай,
Няма каму пасадзіці.
Ой, е свечачка-недагарачка,
Е што запаліці,
Ой, е мацёнка, хоць нядродная,
Е каму пасадзіці.

Ой, наша дзевачка на пасадзе села.
— Гдзе ж ты, дзевачка, сваю матку дзела?
— Замкнёна, дзевачкі, на тры замочкі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
А трэці замочак — цісовая трунка.
Схадзецеся, дожджы, размачыце дзярно,
Схадзецеся, ветры, развейце пяскі,
Схадзецеся, буры, разбейце трунку.

Садзілася Хадосечка на пасад,
Пад акенечкам ды янгелы стаяць,
Дый адпісываюць Хадосечку ад таткі,

Дый прыпісываюць к маладому Івану.
Ой, сам госпад бог дочачку дае,
Ды лучшы божае, ды неўлуж атцова.

Ступала дзевачка на парог,
Махала платочкам напярод.
— Ай, расступіся, ўвесь народ:
Пайду я ў зелен сад
Вінныя яблычкі шчыпаць,
Роднага татачку шукаць.
Увесь садочак перайшла
І роднага татачкі не найшла.
А села ж дзевачка на пасад,
Стала слёзачкі разліваць:
— А ўжо мая галоўка ў вянку,
Нет майго татулькі ў дамку,
А ўжо ж мая галоўка ў цвеце,
Няма майго татачкі на свеце.

За сяньмі, сяньмі зялёны сад,
Вядуць Манечку на пасад,
Белыя ручачкі ломячы,
Сваю мамульку просячы:
— Запалі, мамачка, свечачку,
Пойдзем ў зялёны сад свецячы.
Увесь зялён сад абышлі —
Таткавай магілкі не найшлі,
А толькі найшлі калінку —
Знаць, таткаву магілку.

Ляцела зязюля цераз сад, *
Час табе, Ніначка, на пасад.
Ай, нізенька галоўку клонячы,
Роднага брацітка просячы:
— Пойдзем, брацітка, ў вінны сад,
Вінны яблычкі шчыпаці,
Роднага татульку іскаці.

* Кожны радок паўтараецца.

А я весь садочак абышла,
Роднага татачку не знайшла.
Ды найшла тое месцечка,
Дзе стаяла крэслечка.

— Садзіце сіротку на пасад,
Яе ойца-матанькі не жджыце.
Уся яе галоўка ў квеце,
Няма яе ойца-матулькі на свеце.
Сіротка брацiткаў прасіла:
— Схадзіце, брацiткі, ў садочак,
Майго ойца-матанькі пайшчыце.
У садочак схадзілі,
Ойца-матулькі не знайшлі.
Толькі пазналі тое месцечка,
Дзе стаяла залатое крэслечка.
Там ойцец-матулька сядзелі,
На мяне, сіротку, глядзелі.
Ад бога долі прасілі:
— Дай жа, божа, долю сіроце.

Лятуць, лятуць два галубы з бору ў сад, *
Вядуць, вядуць млоду Зосечку на пасад.
— Чаму вы яе, маладзенькую, ведзіцё?
Чаму ж вы яе роднага таткі не жджыцё?
Уся ж яе галовачка ў вяночку,
Няма яе роднага таткі ў радочку.
Уся ж яе галовачка ў цвеце,
Няма ж яе роднага таткі на свеце.

Ў квеце галоўка, ў квеце,
Няма яе ойчанькі на свеце.
Няма каму радачкі дарадзіць,
Няма каму на пасад пасадзіць.
А пасадзіць на пасад дзядзечка,
А дарадзіць радачку брацейка.

* Кожны радок паўтараецца.

Ляцелі гусачкі цераз сад,
Гікнулі-гукнулі на ўвесь сад:
— Хадзі, дзевачка, на пасад,
Нізенька галоўку несучы,
Слёзкамі лічанька мыючы.
— Пастаньце, баяр'е, ўсе ў рад,
Будзе ісці дзевачка на пасад.
Усе яна баяр'е перайшла,
Нідзе роднай мамкі не найшла.
— Уся мая галоўка ў кведе,
Няма маей мамкі ў свеце.
Уся мая галоўка ў вяночку,
Няма маей мамкі ў радочку.

Да ляцелі гусачкі цераз сад,
Да клікнулі дзевачку на пасад.
— Што ж то вам, гусачкі, да таго,
Ёсць у мяне сястрыца для таго.
— Да ты на сястрыцу не глядзі
І сама ў камору ідзі.
— Стань, мая радзімка, ўся ў рад,
Будзе ісці дзевачка на пасад.
Усю сваю радзімку перайшла,
Роднае матачкі не найшла,
Усю сваю радзімку перайшла,
Роднага бацюшка не найшла,
— Да карыся, дзевачка, карыся,
Старому, малому кланяйся,
Коскамі зямлю падмяці,
Слёзкамі лічанька абаллі.

Ляцела зязюля цераз сад.
Ой, рана, рана. *
Убіралася дзеванька на пасад,
— Станьце, госцейкі, у радок,
Прышпіліце Ганульцы вянок.
Вось ейная галоўка ў вяночку,
Нет ейнай маманькі ў радочку.
Вось ейная галоўка ў кведе,
Нет ейнай маманькі на свеце.

* Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца пасля кожнага радка.

Паляцелі гусачкі да дубу.
— Да пара ж табе, Марыська, да шлюбу.
— Да што ж вам, гусачкі, да таго,
Да ёсць у мяне ойчанька для таго.
Да ён мяне ўбраці ўбярэць,
Да ён мяне да шлюбу выправіць.
— Да пастаньце, баяр'е, ўсе ў рад,
Да будзе ісці Марыська на пасад,
Галоўку хіляючы, сваёй мамкі шукаючы.
Да ўсе ж яна баяр'е перайшла,
Да яна сваёй мамкі не найшла.
— Да бедна ж мая галоўка ў вяночку,
Няма маёй мамкі ў радочку.
Бедна мая галоўка ў квеце,
Няма маёй мамачкі на свеце.

Села, села млода Манечка на пасад,
Ды пасела яе радзінка ўся ў рад.
— А ты павядзі, Манечка, вочкі па хаце,
Няма твайго роднага таткі ў радзе.
Было табе, млода Манечка, рана ўстаць,
Было табе роднаму татку наказаць.
Хоць бы не прыйшоў твой татачка да канца,
Хоць бы выправіў сіротачку да вянца.

Як пайшоў вінаград па загор'ейку, *
Белую расіцу абіваючы,
Дробны ягадкі раняючы.
Як пайшла Паўлінка па застоллейку,
Белыя ручачкі ламаючы,
Дробны слёзачкі раняючы,
Свайго татульку шукаючы:
— Як жа мне татульку спазнаці,
Як жа мне татульку называці?

Як цяжка калясу па расе каціцца, *
Так цяжка сіраце на дзяжу садзіцца.
Не родная мамулька на дзяжу садзіць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— І мамулька родная, прыязджай ка мне.
— Дачушка любая, адтуль не едуць.
Папрасі, дачушка, родну цётачку,
Хай будзець у цябе яна за мамачку.

Пайшоў вінаград у зялёны сад,
Жалосна іграючы.
Пайшоў Іванька каля сталоў,
Галоўку скланяючы,
Вочкі ўгару,
Слёзкі на зямлю,
Татку ўспамінаючы:
— Ой, татачка мой,
Ой, родненькі мой,
Паглядзі хоць дзянёчак.
— Дзіцятка маё, роднае маё,
Не падыму галоўкі,
Грабавы дошкі сціснулі ножкі,
Не разніму я ручак.

Сыпала ігліца ды па затыннейку,
Пайшла дзявіца ды па застоллейку,
Ды к сырой зямліцы прыпадаючы,
Ды сырую зямліцу выклінаючы:
— Ой, зямля-матухна ды сырэнькая,
З'ела маю матушку маладзенькую,
Ды не дала мяне ўзгадаваці,
Ды не даждала замуж аддаці.
Ўзгадавалі мяне добрыя людзі,
А замуж аддалі добрыя суседзі.

Пайшло сонейка ды па затоннейку,
Да пайшоў Іванка ды па застоллейку,
Сырую зямліцу праступаючы:
— Зямліца мая да сырусенькая,
Ўзяла майго бацюхну ды маладзюсенькага,
Ды не дала мяне падгадаваці,
Падгадаваці, мне долечку даці.
Прашу цябе, бацюхна, на сваё вяселле,

На сваё вяселле ды на сірочае.
— Я к твайму вяселлю яшчэ прыспею,
Я к твайму вяселлю ў нядзелю рана,
Я к твайму вяселлю з яснымі свячамі,
З яснымі свячамі, з дробнымі слязамі.

Пайшло сонейка па захмар'ейку.
Пайшло сонейка па захмар'ейку,
Маладая дзевачка па застоллейку,
На сырую зямлю наступаючы,
Сырую зямліцу праклінаючы:
— Зямліца ж ты мая, ты сырэсенькая,
Узяла ж ты маю мамачку маладзенькую,
Да не дала ж ты мяне дагадаваці,
Дагадаваці да замуж аддаці.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, роднае,
Бо я ўжо ў бога пад трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны грудочак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — цісовы дамочак.
Зялёны грудочак да не адвернецца,
Жоўты пясочак да не адсыплецца,
Цісовы дамочак да не адкрыецца.
Нельга ўстаці к свайму дзіцяці,
Ўстаці і пораданьку даці.

Пайшло інейка да па затыннейку,
Зямлю-зямліцу пакрываючы,
Высокае тыннейка даставаючы.
Пайшла Манечка да па застоллейку,
Зямлю-зямліцу праступаючы,
Роднага войчанька спамінаючы:
— Зямля-зямліца, да ты сырэнькая,
Ўзяла майго войчанька маладзенькага
Да не дала мяне падгадаваці,
З добрымі людзьмі да параўнаваці.

На вуліцы дождждык ідзець, хмарыцца,
Пайшоў Ігнасёк да суседачкі кланяцца:
— Суседачка, будзь за родную матульку,
Пазыч жа мне на гэты дзянёк кашульку.

Затрубілі трубачы
Да па загор'ейку ідучы,
Заплакала ж Волечка
Да па застоллейку ідучы.
Ці жыў яе бацюхна?
— Ціха, не плач, маё дзіцятка.
— Калі табе жаль мяне,
То не ехаць было ў торг *
Да не купляць віна-мёду,
Не частаваць было зяця,
Да й чужога дзіцяця.
Бо чужое дзіцятка
Вумнае, і разумнае,
І белае, і румянае,
Харашэнька ўбранае.

— Каму ты ся, малада Марысеньку, кланяеш,
Калі ты мацёнькі не маеш?
— Маю ж я роданьку нямала,
Буду ся кланяці жэб за матаньку мне стала.
— Не стане табе, Марысеньку, не стане,
Ужо да цябе мацёнька не ўстане.
— Рада бы я ўстаці і парадак даці:
Сырая зямля дзверы залягла —
На ножкі не ўстану, на вочкі не гляну.
— Устань, мацёньку, з суду,
Выразі сваё дзіцятка да шлюбу.
Устань, мацёньку, з гробу,
Выразі сваё дзіцятка ў дарогу.
— Рада бы я устаці і парадак даці:
Сырая зямля дзверы залягла —
На ножкі не ўстану, на вочкі не гляну.

Ступіла Сонечка на парог, **
Махнула хусткаю напярод.
— Расхініцеся, ўвесь народ,
Стань, мая радзінка, напярод.

---

* Кожны наступны радок, акрамя апошняга, паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

Буду я радзіне кланяцца,
Роднае мамунькі цяміцца.
Я ўсю радзіну перайшла,
Роднае мамунькі не знайшла.
Толькі я знайшла месцечка,
Дзе яе залатое крэслечка.
Дзе мая маманька сядзела,
На мяне, сіротку, глядзела.
Галоўка мая ў квеце,
Няма мае маманькі на свеце.
Галоўка мая ў вяночку,
Няма мае маманькі ў радочку.

— Кланяйся, Кацярынка, кланяйся,
Старога і малога не мінай.
Слёзкамі зямліцу аблівай,
Роднага ойчанька пазнавай.
— Станавіся, баяр'е, ўсе радом,
Чы не будзе ойчанька пад перадом.
Колькі я сцежачак перайшла,
Роднага ойчанка не знайшла.
Колькі баяр'я перабрала,
Роднага ойчанька не пазнала.

— Пастаньце, баяры, ў вяночку,
Ці няма бацюхны ў радочку.
Ўсе баяры перайшла,
Роднага бацюхны не найшла!
— Карыся, Агапка, карыся
Да нізенька братанькам кланіся,
Косачкай ад слёзак утрыся.

Скрыпнулі вароты на дварэ, *
Бразнулі талеркі на стале,
Топнула Тамарачка на парог:
— Расступіся, ўвесь народ!

---

* Кожны радок паўтараецца.

Расступіся, ўвесь народ,
Буду сваёй матухне кланяцца.
Мая галоўка ў квеце,
А нет майго татухны на свеце.
Мая галоўка ў вяночку,
А мой татухна ў грабочку.

Абыдзі, сірацінка, каля святліцы,
Прыпадзі, маладзенька, к сырой зямліцы,
Спамяні, маладзенька, сваю родну матку,
Што цяжка насіла, да цяжэй радзіла,
А ў нядзелю рана не благаславіла.
Да чужая маці не вялела сіроце да доленькі даці.
Ах, божа, божа, твая моц святая,
Што гэтай сіроце да за долю даці,
Ці гэту сіроту да сябе ўзяці?

Да маладая дзевачка
Скора села за столікам,
Ці ўздыхнула цяжанька,
Ці заплакала сільненька,
Што ў цябе матачкі нету,
Што ў цябе роднай нету.
Да некаму рады даці,
Да некаму дзіцем назваці.
Да чужая, да чужаніца
Яна табе рады жадае,
Да яна цябе дзіцем назаве.
Хоць назаве дзіціткам,
Да не верненькім славечкам,
Да не любенькім дзіцем.

А дзевачка маладая,
Рана ж ты да за стол села,
Рана ж ты да за стол села
Ды цяжанька ўздыхнула,
Ды мамачку ўспамянула,
Што ў цябе мамачкі няма,

Што ў цябе родненькай няма.
Ёсць каму да піць і есці,
Няма каму да ладу весці.
Ёсць каму весяліціся,
Няма каму зажурыціся.

Маладая дзевачка
Села ў мамкі за сталом,
Ці ўспамянула роднага татачку,
Што ў цябе татачкі роднага нету?
Што твайго татачкі нідзе не відаці,
На дварэ пахаджаючы,
Свой род сабіраючы?
Ёсць каму піці ды есці,
Ды некаму ладу весці.
Ёсць каму весяліціся,
Некаму журыціся.

— Ужо ж ты, дзеванька, за сталом села,
Гдзе ж ты роднага бацьку падзела?
— Не пытайце, сястрыцы, роднага бацюшку,
Ужо ж мой бацюшка за трыма замкамі,
За трыма замкамі да за замчыстымі:
Да адзін замочак — зялёны дзярночак,
А другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — кляновая дошчачка.
Зялёны дзярночак, да пералажыся,
Жоўты пясочак, да ты адсыпіся,
Кляновая дошчачка, да ты адчыніся,
Родны бацюшка, да ты акажыся.
Прашу цябе, бацюшка, прашу цябе, родны,
Да на сваё вяселле, да на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладое,
Я к табе прыйду ў суботу увечар,
У суботу вечар, у нядзелю рана,
У суботу вечар з яснымі свячамі,
У нядзелю рана з дробнымі слязамі.
У суботу вечар да вяночак саўю,
У нядзелю рана да шлюбу выпраўлю.

Маладзенька Марыля села сабе на пасадзе.
— Ці ўскрамянула сэрданька, ці ўспамянула матулю?
— Рада была б успомніць, не магу прамовіць.
Мая матуля далёка за трыма замкамі:
За першым замочкам — зялёным дзярночкам,
За другім замочкам — жоўтым пясочкам,
За трэцім замочкам — сасновым дамочкам.
— Здыйміцеся, ветры-буры, раздзярыце зялён дзёран,
Развейце жоўты пясок, разбіце сасновы дамок.
Прывядзіце мне матулю, няхай мне раду радзі,
Няхай мяне да шлюбу выправадзі.
Бо чужыя матулі раду радзяць, не радзячы,
Благаслаўляць не хочучы.

— Маладзенькая дзевачка,
Села ты за столікам,
Ці ўздыхнула цяжанька,
Ці заплакала крэпенька?
Ці спамянула сваю мамачку,
Ці спамянула сваю родную?
— Дзевачкі, мае сястрыцы,
Дзе стану, дык спамяну,
Дзе стану — заплачу,
Роднай мамкі не ўбачу.

Манечка да за стол зайшла.
— Ці ўспамянула татачку?
— Да дзевачкі мае, сястрычкі,
Я ж яшчэ да за стол не йшла,
Мне татачка на вум ўзышоў.
Як і засну, дык і забудуся,
Прачнуся ды паплачуся.
Прачнуся ды паплачуся,
Што з таткаю не бачуся.
— Эй, ды цёмныя ды лясочкі,
Ой, ды жоўтыя ды пясочкі,
Разбіце сасновыя дошкі,
Да выпусціце майго татачку.
Да выпусціце майго татачку
Ды ка мне на парадачку.

Есць каму да піці-есці,
Ды некаму да ладу весці.
Есць каму весяліціся,
Ды некаму зажурыціся.

Зялёная рутачка, жоўты цвет,
Чаго майго мілага доўга нет?
Напісала б пісьмо — не ўмею,
Паслала б пасла — не смею,
Сама б пайшла — баюся,
Вяліка дарога — утамлюся.
А на той дарозе старажы,
Яны мяне, маладую, сцераглі.
А па русай касе яны спазналі,
Што мая косачка трэплена,
А галоўка венчана.
А галоўка мая ў вяночку,
Няма майго татачкі ў радочку.

— Расступіцеся, жоначкі, *
Паглядзець сіротачкі,
Як яна прыбярона,
Як яна пасаджона.
— Прыбярона па-сіроцкаму,
Сядзіць яна, як ягадачка,
Плачыць яна, як сіротачка.

А ў нас сягоння ноў-навіна,
Зімой каліна расцвіла,
Вясной каліна паблёкла.
Слязамі аблілась,
Яна свайго бацьку завець.
Выхадзя сястрыцы яе пыталі:
— Ты не плач, Ганначка, ў новай хаце,
Выйдзі, Ганначка, на ганачкі,
Пакліч, Ганначка, родна татуньку,
Стаіць бацька за варотам.

* Кожны радок паўтараецца.

З далёкае дарогі
Памарозілі ногі.
— Ох, пусці ж, сваццяя, ў хату
Хаця ручкі пагрэці.
Хаця ручкі пагрэці,
Маладое да паглядзеці.
А як жа яно да нараджона,
На пасадзе да пасаджона.
— Нараджона, як лябёдка,
Пасаджона, як сіротка.
Нараджона, як дзіцятка,
А пасаджона, як панянятка.

Сядзь, падумай, Іванька,
Ці ўся твая радзіначка?
Вялікі двор, а не ўвесь субор,
А не ўвесь субор, а не ўся твая радзіначка.
Цётачкі ёсць і дзядзечкі ёсць,
Роднае мамкі няма,
Некаму благаславіці.
Склані галоўку, прасі татульку
На сваё благаслаўленне.

Знаць салавейка па палёціках,
Што нізенька лятае.
Знаць, Ніначка — сіротанька:
Няродны татка благаслаўляе
Не правай рукою,
Не шчырым сэрцам
Да шлюбу выпраўляе.

Да як стала ясна зорачка ўсходзіць,
Стала Ганна з родным татачкам гаварыць:
— Скажы, татачка, што за часок настаець,
Ці не з зямелькі родная мамачка ўстаець?
Выйду, выйду на вулачку пераймаць,
Нідзе, нідзе роднай мамкі не відаць.
Ды як стала белыя ручкі ламіць,

Стала суседцаў благаслаўляці прасіць:
— Далейшыя-бліжэйшыя суседцы мае,
Благаславіце сіротачку вы мяне.

Я ступіла, люданькі, ў даліну,
Пабачыла маманьчыну магілу.
— Устань, устань, маманька, із гробу,
Благаславі дочаньку да шлюбу.
Ох, не ўстала маманька, нельзя ёй:
Насыпалі сырое зямелькі на грудзі ёй,
Да зрабілі сталярыкі такі дом,
Да не пусцілі акенечка на двор,
Да не зрабілі сталярыкі дзверца,
Не прамовіла маманька ні слоўца.

Закацілася яснае сонца ў аблочку,
Ужо села сіротачка ў радочку,

Апусцілася яснае сонца коскамі,
Аблілася сіротачка слёзкамі,

За столікам, за новенькім седзючы,
Не на родных татак і мамак гледзючы.

— А брацятка, а родненькі, будзь татка,
Багаславі мяне, як роднае дзіцятка.

Сыдзі, сыдзі, зорачка, з неба,
Прыйдзі, прыйдзі, матачка, мне трэба,
Сядзь на парозе, пасядзі,
Сірочага вяселля паглядзі.
Наш род прыбраны, да вас прыстаны,
Мы вашага мёду піці не будзем,
Мы вашага роду зневажаць не будзем.

Што ж там у новай каморы стучала? *
Там Танечка белыя хусты качала,

* Кожны радок паўтараецца.

Яна к сабе сваю мамачку валала:
— Прыйдзі, прыйдзі, мая мамачка, з паўночы,
Ці не застанеш хоць на каберцы стоячы,
Ці не ўвідзіш белыя ручкі ломлячы,
Ці не ўвідзіш дробныя слёзкі раняючы.

Ўстань-пастань, бяседачка, ўся ўраз, *
Да тут пойдзіць млода Ніначка на пасад.
Ды будзіць яе галовачка ў цвеце,
Ды нету ж яе роднай мамкі на свеце.
Ты пастань, пастань, ўся бяседа, ў радочку,
Да будзіць жа яе галоўка ў вяночку.
Села млода Ніначка на пасад раненька
Да папрасіла сваю мамульку на ўспамажэнне раненька.
— Няхай табе, маё дзіцятка, сам госпадзь ўспаможыць,
Перад табою долю і шчасце паложыць.

Сірота дзевачка, сірота,
І села за столік, як злота.
Зложыла ручанькі: — Мой божа,
Хто мяне, сіроту, спаможа?
Спаможа сіроту бог з неба,
А што ж сіроце патрэба?
Патрэба сіроце матулі,
Патрэба сіроце роднае.

Сіротка Тодар, сіротка,
Сядзіць на возе, як рожа.
Ўздыхнуў цяжанька: — Мой божа,
Хто мне, сіротцы, паможа?
Ні ў мяне кубачка воднага,
Ні ў мяне татачкі роднага.
Няма кубачка, чым напіць,
Няма ў мяне татачкі блаславіць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Зборная нядзелька, зборная,
Сірата дружачак збірае.

Сірата дружачак збірае
Ды каля століка саджае.

Ой, выйшла да воза, як ружа,
Ўздыхнула цяжанька: — Мой божа!

Ўздыхнула цяжанька: — Мой божа!
Хто ж мяне, сірату, ўспаможа?

Сама яна села вышэй усіх,
Схіліла галоўку ніжэй усіх:

— Нет у мяне матулі роднае,
Нет у мяне парады жаднае!

Да сірота дзевачка, сірота,
Выйшла да воза, як роза,
Ўздыхнула цяжанька: — Мой божа,
Хто ж мяне, сірацінку, ўспаможа?
Аказаўся міленькі на лугу:
— Я цябе, сірацінку, ўспамагу.
Да сірота дзевачка, сірота,
Села сабе за стол, як злота.
Яна мамачкі не знае,
Як боб слёзкі раняе.

Выйшла Ганначка-сірота,
Села за столікам, як злота.
Мовіла да бога: — Мой божа,
Хто мяне, младую, спаможа?
Адазваўся брацейка ў каморы:
— Не бядуй, сястрыца, не бядуй.
Я цябе на пасад завяду,
Я цябе да шлюбу завязу.
Пад тую горачку крутую,
Да ў тую цэркаўку святую.

Звінела камора, звінела,
Дзе малада дзевачка сядзела.
Выйшла на падвор'е да воза,
Ўздыхнула цяжанька:— Мой божа!
Хто ж маю косачку распляце?
Хто мяне да шлюбу давядзе?
Аказаўся братка з каморы:
— Я ў цябе, сястрыца, брат родны,
Я тваю косачку распляту,
Я цябе да шлюбу давяду.

Сірота Зіначка, сірота,
Да села за столік, як злота.
Да выйшла да воза, як роза,
Глянула на бога: — Ах, божа,
Хто мяне, маладу, спаможа?
Хто маю косачку расчэша,
Хто мяне да шлюбу завязе?
Аказаўся браток: — Не бядуй,
Я тваю косачку расчашу,
Я тваю долечку ўспамагу.

Сірота дзевачка, сірота,
Сядзела за сталом, як злота,
Выйшла да воза, як роза,
Ўздыхнула цяжанька: — Мой божа,
І хто мяне, сіроту, ўспаможа?
Памажы, братачка, памажы,
Варанога каня запражы
Да мяне да шлюбу завязі.
Калі я, братачка, нялюба,
Дык вязі мяне да шлюба.
Дарабіла дзела да канца,
Завязі, братачка, да вянца.

Сірата дзевачка, сірата, *
Сядзіць за сталом, як золата,
Выйшла да воза, як роза,

* Кожны радок паўтараецца.

Цяжка ўздыхнула: — Мой божа,
Хто мяне, маладу, спаможа?
Спамажы, братачка, спамажы,
Белага далара палажы.
— Гэтыя грошы — не грошы,
Ліш бы быў хлопчык харошы.
Няхай табе божа ўспаможа
Да на гэтай доўгай дарозе,
Да й на тым новенькім парозе.

Сірота дзевачка, сірота,
Сядзіць за сталом, як злота.
Выйшла да воза, як роза,
Ціханька ўздыхнула:— Мой божа,
Хто мяне, сіроту, спаможа?
Спамажы, мамачка, спамажы,
Злотым даляром падары.
— Не буду, дзіцятка, дарыці,
Дам табе кароўку даіці,
Чужую сямейку карміці.

Да сірота Верачка, сірота,
Да сядзіць за сталом, як злота.
Да цяжэнька ўздыхае: — Мой божа,
Да хто ж мяне, сіроту, ўспаможа?
Ўспамажы, мамачка, ўспамажы,
Да на гэтым першым парозе.
Да на гэтым першым парозе,
Да на гэтай шчаслівай дарозе.
— Няхай цябе, дзіцятка, бог спаможа,
Да на гэтым першым парозе,
Да на гэтай шчаслівай дарозе.

Кукавала зязюлька на плоце,
Заплакала Волечка ў злоце:
— Хто ж са мной да шлюбу паездзе,
Хто ж майго вяночка падзяржыць,
Той жа майго вянчання паглядзіць.

Братка мой маленькі — не ўмее,
Сястра мая з жаласці не смее.
Ой, абазвалася братавая:
— Не журыся, Волечка, маладая,
Я з табой да шлюбу паеду,
Да я ж твайго вяночка падзяржу,
А я ж твайго вянчання пагляджу.

Ой, сірота Шурачка, сірота,
Стаяла ля воза, як роза,*
Ўздыхнула цяжанька: — Мой божа,
Да некаму за мною праехаць,
Да некаму коніка падагнаць,
Да некаму вяночка падзяржаць.
Абазваўся сярэдні брат:
— Я за табою праеду,
Твайго коніка падганю,
Твайго вяночка падзяржу.

Як пасеяла руту-мяту над вадою,
Ды зарасла мая рута-мята лебядою.
— А хто тую руту-мяту споле,
А хто бедну сірацінку ік сабе прыгорне?
Абазваўся стары старычышча з барадою:
— А я тую руту-мяту іспалю.
А я тую бедну сірацінку ік сабе прыгарну.

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

# СІРАТА ІДЗЕ НА НЕБА ПРАСІЦЬ У БАЦЬКОЎ БЛАГАСЛАВЕННЯ І ЗАПРАШАЕ ІХ НА ВЯСЕЛЛЕ

— Маладая Верачка,
Прасі сваю мамачку,
Каб пачала вяселлейка,
Боскае благаславеннейка.
— Не стой, божа, на дварэ,
Ідзі, божа, ў хату,
Стань, божа, на куце,
Дай долечку сіраце.
Сірата долі не мае,
Галаском неба прабівае,
Слёзкамі зямельку палівае.
— Зямля ж мая сырая,
За што ж мяне пакарала,
Ўзяла татачку маладога,
Пакінула мяне сіратою?
Сірата долі не мае.
Галаском неба прабівае.
Слёзкамі зямельку палівае.

Не стой, божа, пад вакном, пад вакном,
Ды йдзі, божа, ў хатку, ў хатку,
Ды й стань, божа, на куце, на куце,
Ды й дай долю сіраце, сіраце.
А ў сіроткі мамкі нет, мамкі нет,
Ды яе некаму багаславіць, багаславіць,
На пасад пасадзіць, на пасад пасадзіць,
Да шлюбу выправіць.

Ты не стой, божанька, за дзвярамі,*
А хадзі, божанька, к сіраце ў хату.
Некаму сірату блаславіці,

* Кожны радок паўтараецца.

Ой, добрай доленькай надзяліці.
Бласлаўляюць сірату добрыя людзі,
Надзеліць доленькай яе божанька.

Не стой, божа, ў сянёх,
Хадзі, божа, ў хату.
Сядзь-ка, божа, на куту,
Баславі-ка сірату.
Баславі, божа, доленькай,
Шчасцем і добрым здароўем.

Сядзеў Сашачка за сталом,*
Стаяў божухна пад вакном.
— Не стой, божухна, пад вакном,
Хадзі, божухна, ў хату.
Ай, сядзь, божухна, на куце,
Ай, дай долечку сірацe.
— А я ў хатачку не пайду,
Сірацe долечку перашлю,
Ай, на беленькай паперцы,
На сярэбранай талерцы.

Сястра сястры вянкі ўе
Ды беленькімі ручкамі,
Ды пярсцёнкамі з вочкамі,
Ды святою нядзелькаю,
Ды святою гадзінкаю.
— Ды не стой, божа, пад вакном,
Да ўвайдзі, божа, ў хату,
Ды стань, божа, на куце,
Ды дай долю сірацe.
— Даю, божа, я і людзі,
Хай добра сірацe будзе.

Не стой, божа, пад вакном,
Хадзі, божа, ў хату,
Нясі, божа, хлеб і лапату.

* Кожны радок паўтараецца.

І прыйдзі, божа, паглядзі,
Як сірата пасаджоная,
І чым сірата надзялёная.

— Не стой, божа, пад вакном,
Хадзі, божа, ў хату,
Нясі хлеба бухату.
А сядзь, божа, на куце,
А дай долю сірацe.
— А я ў хату не пайду,
Я й пад вакном пастаю,
На сіроцкую долю пагляджу,
Як жа яна прыбярона,
Чым жа яна надзялёна.

Як зашумелі два дубочкі зялёны,
Як заспявалі два папочкі духоўны,
Як зазвінелі два званочкі царкоўны,
Як заспявалі тры анелі су неба,
Як сталі святыя анелі пад вакном.
— Не стой, божа, пад вакном,
А вайдзі, божа, ў хатку,
Паглядзі, божа, парадку.
Сіротка таткі не маець,
Ад бога долі жадаець.
— А я ў хатку не пайду,
Я у сенях пастаю,
З-за парога пагляджу,
Сіротачку доляй надзялю.

Сірата сядзіць за сталом,*
Госпад бог стаіць пад вакном.
— А не стой, госпад бог, пад вакном,
А хадзі, госпад бог, у хату.
— А я ў хату не пайду,
Я цераз парог пагляджу,
Я гэту сірату забачу
І долю-шчасце назначу.

* Кожны радок паўтараецца.

А даўшы сіраце ўсю долю.
Забудзецца сірата на бога,
А даўшы сіраце палавіну,
Забудзецца сірата на радзіну.

— Не стой, госпадзі, пад акном,
Не махай, госпадзі, рукавом,
Да йдзі, госпадзі, й у хату,
Да дай парадак сіраце.
— А е ў цябе да, дзевачка, родны дзядзька,
Няхай дае парадачак так, как бацька.
А е ў цябе да, дзевачка, родна цётка,
Няхай дае парадачак так, как матка.

Божа на дварэ, божа на дварэ, анёлачкі ў хаце.*
— Божухна-бацюхна, сірата плачыць.
— Што ж яна, анелі, ў бога просіць?
— Божухна-бацюхна, долю просіць.
— Што ж, дацi сіраце ўсю долечку,
Забудзець сірата на радзіначку.
Ой, дадзім сіраце палавіначку,
Ўздумаець сірата на радзіначку.

А што гэта стучыць-гручыць?
Сам бог з неба спускаецца,
У сіраты пытаецца:
— Якую табе долечку даць:
Ці грашовую, ці збажовую,
Ці скацінную, ці дзяцінную?
Сірата знала богу адказаць:
— Дай, божа, долю мне ўсякую:
І грашовую, і збажовую,
І скацінную, і дзяцінную.
Я грашовую купчаваць буду,
Я збажовую спажываць буду,
Я скацінную паязджаць буду,
Я дзяцінную пасылаць буду.

* Кожны радок паўтараецца.

Выйдзіце, паслухайце, божа, божа,*
Што на небе за дзвон дзвоніць, божа, божа.
Па небе сам бог ходзіць, божа, божа,
З анёламі гаворыць, божа, божа.
Што сіраце за долю даць, божа, божа.
Бог кажыць: — Траякую, божа, божа.
Анеле: — Ніякую, божа, божа.
Бог кажыць: — Мядавую, божа, божа.
Анеле: — Слязавую, божа, божа.

— Ты не стой, божухна, за дзвярамі,
А пайдзі, божухна, к сіраце ў хату.
Там сірата Марыся дужа плачыць,
У бога сваю долю просіць:
— Дай мне, божанька, тры долі:
Адну долю — здароўейка,
Другую долю — хлеба-солі,
Трэцюю долю — маладога Йвана.

Госпадзь бог, госпадзь бог па небе ходзіць.*
А за ім ангелкі ключы носяць.
— Паслухай, божанька, правым вухам,
Як твая сіротка слёзна плачыць,
А ў цябе, божынька, долю просіць.
Першая доленька — здароўейка,
Другая доленька — падружжайка,
Трэцяя доленька — замужжайка.

У нядзелю раненька
Плакала сіротанька,
Па вуліцы ходзячы,
У бога долі просячы.
Зачуў сам бог з нябес сходзячы,
На аблокі ступаючы,
Анёлікаў пытаючы:
— Анёлікі, служкі мае,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Што на зямлі за галасы,
Падыходзяць пад небясы?
— Гэта плача сіротанька,
Па вуліцы ходзячы,
У бога долі просячы.
Бог дае долю хлебавую,
А сын божы — грашавую,
А анёлікі — ўсялякую.

Чы не жаль табе, божа,
Што сіротанька плача,
Да стала прыпадае,
Што мацэнкі не мае:
Чужая чужаніца
За мацэнку садзіцца.

— Чуй, божа, чуй,
Што сіротанька й плача,
У пана бога долі прося.
— Плач, Зіначка, плач,
Матачка не прыйдзе,
Цябе не ўніме.
Матачка замкнёна на тры замочкі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўценькі пясочак,
Трэці замочак — грабовыя дошкі.
— [Грабовыя дошкі] сціснулі ножкі —
Не магу я ўстаці.
Жоўты пясочак засыпаў вочкі —
Не магу праснуці.
Сырая зямля дзверы залягла,
Аконца зачыніла.
— Плач, мама, плач.

— Чуй, божа, чуй, сіротка плача.
Сіротка плача, у бога долі просіць.
Пайшоў салавейка па родную матку.
Салавей лятаў, жалка шчабятаў,

Жалка щчабятаў, а маткі не выклікнуў.
— Не магу я ўстаці к свайму дзіцяці.
К свайму дзіцяці на парадуньцы стаці:
Сырая зямля дзверы залягла,
Зялёны дзярночак залажыў грудцы —
Не магу пакрануцца.
Залаты пясочак засыпаў вочкі —
Не магу праглянуцца.
Нямыя дошкі сціснулі ножкі —
Не магу ўстаці.
Не магу ўстаці к свайму дзіцяці.
— Сваймціся, буйныя ветры,
Да разарвіце зялён дзярночак,
Разнясіце жоўты пясочак,
Да падыміце маю матулю,
Да пастаўце на белых ножках.

Да ішоў бог дарогаю,
Да сустрэўся з сіротаю:
— Сірацінка бедненькая,
Да чаму ты не прыбраная,
Галоўка не ўчасаная?
— Божа ты мой, да мілюсенькі,
Калі ў мяне маткі няма:
Некаму да прыбіраці,
Галоўку да ўчасаці,
У сукеначку ўбіраці.

З-пад сырога дуба
Да па новай гораньці
Там Мар'юшка ходзіць,
З богам гаворыць:
— Ай, божа, мой божа,
Хто ся са мною
У дружках паедзіць?
Божа гаворыць:
— Я за табою
У дружках паеду.
З-пад сырога дуба
Да па новай гораньці
Там Мар'юшка ходзіць,

З прачыстаю маці гаворыць:
— Прачыстая маць,
Хто ся са мною
Ў свахах паедзіць?
Прачыстая маць гаворыць:
— Я за табою
Ў свахах паеду.

Чэраз мора да ляжала кладка,
Тудою шла да божая матка.
— Ой, чую-чую пахучае зелле,
Ой, знаю-знаю сіроты вяселле.
Пашлю ангялоў да на пагулянне,
Дам і свечачак на застрыганне,
А сама сяду ў сіроты на параду.

Ой, гніся, гніся, швыдовая кладка,
Тудою йшла да божая матка.
Ой, стала яна да й пачываці,
Сталі яе да янголы пытаці:
— Да куды йдзеш, да божая маці?
— Іду я на вяселле:
Ой, чуці-зачуваці на свеце зелле,
Сіроты вяселле.
Сама ў сіроты на покуце,
А янголы пашлю на спамаганне.

Ідзі, дзіця, дарогаю з яснаю зарою,
А я за табою з трыма ангеламі.
Ды на рэчцы, рэчцы гібкая кладка,
Ды тудою ішла божая матка.
Як учула яна пахучае зелле,
Ды ў гэтую нядзельку сірочае вяселле.
Ды на тым зеллейку ды мурашачкі ўюцца,
Ды на сірочым вяселлі слёзкі ліюцца.

Сам бог каравай месіць,
А прачыстая свеціць,
А анёлы ваду носяць,

А Мікола бога просіць:
— Да сядзь, божа, на куце,
Да дай долю сіраце.

За лесам, лесам сонейка сыходзіць,
Ой, рана, рана сонейка сыходзіць.*
Сонейка сходзіць, Мар'яна выходзіць,
Мар'яна выходзіць, у бога долі просіць:
— Божа ж мой, божа, прыйдзі на васэлю.
— Я сам не буду, анёлаў прышлю.
Анёлы ж мае цябе надзеляць,
А я сам буду ў панядзелак рана.
У панядзелак рана цябе багаслаўляці,
Цябе багаслаўляці, долі-шчасця даваці.
З богам, дзіцятка, з богам, роднае.

Нету, нету нашай Дунаські ў доме,
Пайшла яна да госпада бога на раду.
Стаіць гадзіну, стаіць другую за дзвярмі,
Як бог у парог — Дунаська да ног:
— Божа, божа, прыйдзі да мяне на вяселле.
— Ідзі, ідзі, малада Дунаська, дадому,
А я заўтра ранюсенька прыйду,
А я сяду старшым сватам на куце,
Анёлы мае за брацікаў для цябе,
А я буду шчасцем-доляй надзяляць,
Анёлы будуць да касцёла адпраўляць.

Пайшла малада к госпаду богу на раду.
Стаіць гадзінку, стаіць другую за дзвярмі.
Адчыняюцца цяжанька дзверцы па зямлі.
— Чаго ж, дзіцятка, чаго, дарагая, тут стаіш?
— Ай, божа, божа, прыйшла на вяселле я прасіць.
— Буду, дзіцятка, буду, дарагая, я ў цябе.
Я сам сяду старшым сватам на куце,
Анялы мае баярамі ў цябе.
Анялы будуць злотам-срэбрам дараваць,
А я ж буду доляй-шчасцем надзяляць.

---

* Рэфрэн «Ой рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага наступнага радка.

Да за гарою, за камяною
Таццянка з богам гукала:
— Ой, божа, божа, прашу на вяселле.
І сам прыйдзі, анёлаў прышлі.
— І сам я буду, анёлаў прышлю.
У суботу позна анёлаў прышлю,
У нядзелю рана і сам прыйду.
Сам сяду на куце, анёлы势 стануць пры мне.
І я сам буду благаслаўляць, долю даваць,
Анёлы будуць косу трапаць.

Рана, рана соўнышка іграла,
Ай, раньшы таго я ўстаў.
Рана ўставаў, каня сядлаў.
Каня сядлаў, сільна плакаў.
Не так сільна плакаў,
Сільней бога прасіў:
— Ах, божа, божа, прашу на вяселле,
На вяселле, на благаславенне.
— Я сам не пайду, анёла пашлю.

Нету, нету Агаткі дома,
Пайшла да пана бога.
Стаіць гадзіну, стаіць другую,
Пакуль адчынілі марвовыя дзверы.
Там угледзіць сваю мамачку.
Як жа абачыць, сільна заплачыць:
— Божа, божа, прашу на вяселле.
Чы сам прыйдзі, чы мамку пусці.
— І сам не прыйду, і мамкі не пушчу,
Да шчасце і долю перашлю.

Ой, нету, нету Марыські дома.
Ой, нету, нету Марыські дома,
Пайшла Марыська да пана бога,
Стаіць гадзіну, стаіць другую,
Пакуль адчыняць анелі дзверы,
Пакуль пазнаець татку ў радзе.

А як пазнала, на ножкі пала,
Слёзкамі ножкі ўсе пааблівала.
— Ой, татка, татка, прашу ў вяселле,
Прашу ў вяселле, на благаславенне.
— Дзіцятка маё, не маю волі,
Не маю волі ад пана бога.
— Ой, божа, божа, прашу ў вяселле,
Прашу ў вяселле, на благаславенне.
— Я й сам не пайду й таткі не пушчу,
У нядзельку рана трое анёлаў вышлю.
У хатку не пайду, пад аконцам стану,
Пад аконцам стану, на сіротку гляну.

У суботачку на нядзелечку
Пачынаецца сіроцкае вяселлечка.
Маладая дзевачка бога прасіла:
— Божа-дабрадзею, прашу на вяселле.
А ці сам прыйдзі, ці мамку пусці.
— Мая сіротка, што б я за бог быў,
Каб тваю мамку на вяселле пусціў?
Тады б да мяне ўсе сіротачкі хадзілі,
Яны ж бы маю галовачку дурылі.

Адбітая дарожачка да неба,
Там хадзіла сіротачка да бога.
А як падышла пад залатыя дзверачкі,
А як падышла пад сцяклёна ваконца,
Увідзела сваю мамачку, як сонца.
— Ой, божа мой, мілюсенькі, адапрыся,
Пусці маю мамачку на часок.
— Што ж гэта за свет настаў,
Как я вашых мамусечак выпускаў?
Усе б ка мне сіротачкі хадзілі,
Яны б маю галовачку дурылі.

А на небе дарожанька пабіта,*
А па той дарожцы сіротачка хадзіла,
А яна ў бога сваю мамульку прасіла:

* Кожны радок паўтараецца.

— Адпусці, божа, маю мумальку на адну ноч.
— А каб жа я татак-мамак выпускаў,
А ка мне ж ба ўсе сіротачкі хадзілі,
А яны ж ба залаты алтары пабілі.
Няхай цябе чужыя мамкі аддаюць,
Няхай табе больша жалі задаюць.

Вытаптана дарожачка да неба,
Той дарожачкай ўсё сірацінaчкі хадзілі,
Яны ў бога татак-мамак прасілі.
Туды йшла маладзенька Сонечка,
Прыйшла яна пад царскія варотцы.
— А божухна-збавіцель, адапрыся,
Пакажы майго татульку, пакажы.
— А каб я табе твайго татульку паказаў,
Тады ж бы ка мне ўсе сіротачкі хадзілі,
Яны ж бы мне шкляныя дзверы пабілі.

Убітая дарожачка да неба,
Туды ходзяць ўсе сіротачкі да бога.
За ўсіх сірот малада Анечка наўпярод.
Падышла яна пад шкляное ваконца,
Увідзела господа бога, як сонца.
— А господзь бог, збавіцель наш, ізбаў нас,
Адпусці майго татулечку хоць на час.
— Ай, Анечка, сіротачка, атыдзі,
А што б гэта за свет настаў, каб пускаў?
Тады ж бы ка мне ўсе сіротачкі хадзілі,
Яны ж бы ў мяне моцны вароты зламілі,
Яны ж бы мне царскія дзверы пабілі,
Яны ж бы ў мяне татак-мамак прасілі.

Пайшла Маланька за вароцечкі ціхенька,*
Пакланілася самому богу нізенька.
— А божа мой, будзь добранькім для нас,
Пусці маю родную мамку на адзін час.
— А што ж бы я, сіротанька, за бог быў,

* Кожны радок паўтараецца.

Каб я тваю родную мамку адпусціў?
Тады б да мяне ўсе сіротачкі хадзілі,
Яны ж тады б сваіх мамачак прасілі.

А да бога чорная дарожачка ўбіта,
Куды хадзіла малада Манечка да бога.
А сем часоў пад дзверцамі стаяла,
А восьмы час госпада бога пытала:
— А божухна, адапрыся,
А выпусці маю мамульку на зямлю.
— А Манечка, дзіцятка, не пушчу.
Тады ж ба ка мне ўсе сіротачкі хадзілі,
Яны ж ба ў мяне татак-мамак прасілі,
Яны ж ба мне шкляныя дзверы паламілі.

— Дзевачка да сіроцейка,
Выйдзі ты за вароцейка,
Да прыляж ты к сырой зямлі,
Да заплач ты сільнесенька,
Каб было да чутнюсенька,
Каб саслаў бог табе матачку,
Табе матачку на парадачку,
Да дзіцяці на вяселле паглядзеці:
Ці хораша прынараджана,
На пасадзе ці пасаджана.
— Прынарадзілі, як лябёдку,
Пасадзілі, як сіротку.

Ой, ты дзевачка, ой, сіротачка,
Выйдзі ты за варотачкі
Ды заплач сільнюсенька,
Каб было чутнюсенька,
Каб пачуў сам бог
Ды прыслаў тваю мамачку
К табе на парадачку.
Есць каму піць і есці,
Няма каму да ладу весці.
Есць каму весяліцца,
Няма каму журыцца.

Куды гэта дарожанька да неба? *
Там хадзіла сіротачка — ёй трэба.
Яна падышла пад залатое ваконца,
Яна ўвідзела свайго татачку, як сонца.
— Ўстань, устань, мой татачка, не ляжы,
Хоць жа ты мне ў вяселлейка паслужы.
— Ой, не ўстану, маё дзіцятка, не магу:
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — не ўстану,
Жоўты пясочак залёг у насочак — не дыхну.

Ой, нету, нету жоўтага цвету,
Ой, рана, рана жоўтага цвету. **
Ой, нету, нету Тарэскі ў доме.
Прыйшла Тарэска да пана бога,
Да пана бога аж да самога.
Стаіць гадзінку, стаіць другую,
Пакуль адчыняць райскія дзверы,
Пакуль запаляць ясныя свечкі,
Пакуль пакажуць яе матулю.
Мамачку ўзнаўшы, у ножкі ўпала.
— Прашу, мамачка, на вяселле,
На вяселлечка, на парадачку.
— Не магу ўстаці парады даці,
Парады даці свайму дзіцяці.

Ох, няма, няма Ганначкі дома,
Пайшла Ганначка да госпада бога
Свае мамачкі на вяселлейка звaць.
— Хадзем, мамачка, на вяселле ка мне
Ды дай парадак беднай сіраце.
— Не магу ўстаці к свайму дзіцяці парадачак даці,
Бо я ж у бога за трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — цісовенька труна,
Цісовенька труна на грудзь налягла.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага наступнага радка.

Няма дзевачкі ні тут, ні дома.
Пайшла дзевачка да госпада бога
Маткі шукаці, на вяселлейка зваці.
— Ох, устань, мая маманька, не ляжы,
Ох, хоць адну ночаньку мне памажы.
— Весяліся, дзіцятка, з госпадам богам і з сваім родам.
Рада б я ўстаці к свайму дзіцяці парадак даці:
Сыра зямля дзверы залягла, акенечка засланіла.

Ой, у нядзелю раненька
Ясна слоненька ўсходзіць.
На ўсход яснага слонейка
Малады суджонка выходзіць.
Ой, там жа ён у пана бога
Велькай ласкі просіць,
Каб пусціў бацька благаславіць.
Ацец адпавядае:
— Рад бы я ўстаці,
Да не магу ручак зняці.
Яснае слоненька прысвеціць,
Бог з высокага неба прыступіцца,
Добрыя людкі прыхіляцца.

Ой, пара, пара каравай мясіці,
Пайшла Марылька мамы прасіці.
Адчыніліся райскія дзверы,
Ўбачыла Марылька маміны ножкі,
Аблілі Марыльку дробныя слёзкі:
— Ўстань, матулька, прашу на вяселле,
Сабе на вяселле, татку на параду.
— Не ўстану, Марылька, не ўстану, дзіцятка,
Бо мае ручкі накрыж злажоны,
Бо мая галоўка навек сціснёна,
Бо мае ножкі сціснулі дошкі,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі.

Ой, пара, пара каравай мясіці.*
— Ідзі, Надзечка, суседзяў прасіці.
Ой, нету, нету Надзечкі дома,

* Кожны радок паўтараецца.

Пайшла Надзечка да пана бога,
Да пана бога, да духа святога.
— Адчыніце, анелі, райскія дзверы,
Прашу цябе, мама, на маё вяселле,
На маё вяселле, на сіроцкае,
Не так на вяселле, як на параду.
— Няхай табе, дзіцятка, суседзі парадзяць:
Не магу я ўстаці, ручак падняці.
Замкнёны вочкі ў тры замочкі,
Прыложаны ручкі да шчырага сэрца,
Сасновыя дошкі сціснулі ножкі.
— Ой, дай жа, божа, ветры да буры,
Ветры да буры, сільненькі дожджык,
Сільненькі дожджык, гарачае сонца.
Размый, дожджык, зялёны дзярночак,
Развей жа, ветрык, жоўты пясочак,
Гарачае сонца, рассушы дошкі,
Каб я ўвідзела маміны ножкі.

Да няма дзевачкі да ні туты, ні ў дома,
Пайшла ж дзевачка да госпада бога.
Пайшла дзевачка да да госпада бога,
Да да госпада бога, да да прачыстае,
Да да прачыстае, да к маманькі свае.
— Радзімая маманька, прыйдзі ж на вяселле.
— Весялісь, дзіцятка, весялісь здарова.
Ужо ж маё цела бела за трыма замкамі:
Ой, адзін замочак — то новы дамочак,
Другі ж замочак — жоўты ж пясочак,
Трэці ж замочак — зялёна мураўка.

Ой, нету, нету дзевачкі дома:
Пайшла дзевачка да пана бога.
Стаіць гадзіну, стаіць другую,
Покуль адчыняць царскія дзверы,
Покуль упусцяць дзевачку к матцы.
— Прашу, мамачка, к сабе на вяселле.
— Гуляй, дзіцятка, гуляй, весяліся.
Ужо ж мае рукі накрыж складзёны,
Ужо ж мае ножкі за трыма замкамі:

Первы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — грабовыя дошкі,
Грабовыя дошкі сціснулі ножкі.

Пайшла дзевачка пад райскія дзверы.
— Адчыніцеся, райскія дзверы.
Яна ўвідзела сваей мамачкі ножкі:
— А мамачка мая родная,
Прыйдзі да мяне на вяселле, на парадак.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, нябога,
Я не маю волі ад пана бога:
Мае ручкі накрыж злажоны,
Мае ножкі шоўкам звязоны,
Я не магу ўстаці, ручак падняці.
Мае ножкі пад трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
А другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — сасновы дошкі.
— Дай жа, божа, дождЖык — размые дзярночак,
Дай, божа, ветрык — раздзьме пясочак,
Дай, божа, сонца — рассохнуцца дошкі,
Тады адамкнуцца мае мамкі ножкі.

Ой, няма, няма Марысі дома,
Пайшла Марыся да пана бога
Прасіці баценька на вяселлечка.
— Прашу цябе, татку, на вяселлечка.
— Весяліся, доньку, са ўсімі святымі,
Са ўсімі святымі, з людзьмі добрымі.
Ой, ужо ж бо я за трыма замкамі:
Первы замочак — з дошчак дамочак,
Другі замочак — рыжэц-пясочак,
Трэці замочак — трава-мурава.

Ох, няма, няма Анечкі дома,
Дзесь яна пайшла да госпада бога
Мамку на вяселле зваці.

— Да хадзі, мамачка, на вяселле ка мне,
Да й дай парадак беднай сіраце.
— Не магу я ўстаці, не магу я ўстаці,
Не магу я ручак падняці.
Да карыся, донечка, чужой чужыне,
Няхай дае парадак беднай сіраце,
Бо я ў бога пад трыма замкамі.
— Да й расхадзіцеся, буйныя ветры,
Да й ўзрывайце жоўтыя пяскі,
Да й разбівайце цісову труну,
Да й выпускайце мамачку маю.
Да няхай прыйдзе на вяселле ка мне,
Да й дасць парадак беднай сіраце.

Няма ж Мар'янкі ўдому,
Пайшла Мар'янка да пана бога.
Стаіць гадзінку,
Стаіць другую,
Пакуль адчыняць райскія дзверы,
Пакуль выпусцяць яе мамуню
Ей на вяселле,
А й на благаславенства.
Яе мамуля вельмі далёка,
У зямлі глыбока,
За трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны мурочак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
[Трэці замочак] — нямыя дошкі.
— Уздымíцесь, ветры і буры,
Разарвіце зялёны мурочак,
Разадзьміце жоўты пясочак,
Разбіце нямыя дошкі,
Выпусціце яе мамуню
Ей на вяселле,
Ей на благаславенства.

Нет Марыські, нет удома.
Пайшла Марыська да да пана бога.
Стаіць гадзіну, стаіць другую,
Пакуль адчыняць райскія дзверы,

Пакуль выпусцяць яе матаньку.
— Прашу цябе, матухна, прашу на вяселле
Да на сірочае, да на дзявочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся з богам,
Весяліся з богам да і з добрымі людзьмі.
З добрымі людзьмі і суседамі,
З маладымі да і дзевачкамі.

Ой, нету, нету на каліне цвету,
Ой, нету, нету да Галечкі тут.
Паехала Галечка да госпада бога,
Да госпада бога па сваю матачку.
— Да хадзем, мамачка, хадзем на вяселле,
Хадзем на вяселле, хадзем на сірочае.
— Не пайду, Галечка, не пайду з табою,
Весяліся, дзіцятка, да сама сабою.
І да йшла Галечка гарою,
Да вяла дзевачкі з сабою.

Ой, няма, няма нашай Валі ўдома,*
Пайшла Валюня да пана бога
Прасіці мацёнкі на вяселлечка:
— Мацёнка родна, прашу на вяселле.
— Дзіцятка маё, весяліся сама,
Да цябе не пайду, бо ўжо я не зайду.
Ўжо ж мае вочы пад трыма замкамі:
Першы замочак — саснова трунка,
Другі замочак — рыжы пясочак,
Трэці замочак — трава-мурава.
Трава-мурава аж вылягае —
Наша Валюня з жалю памірае.

Ой, нету, нету Настулькі ўдому,
А пайшла Настулька да пана бога.
А стаіць гадзіну, а стаіць другую,
Да пакуль адчыняць цяжкія дзверы,
А пакуль Настульку пусцяць к матцы.

* Кожны радок паўтараецца.

— Прашу цябе, матулька, к сабе на вяселле,
К сабе на параду.
Ой, маё вяселле, а людское ігрышча,
Да маё півішча, людское квасішча.
— Весяліся, Настулька, весяліся, дзіцятка,
Да не маю волі ад пана бога.
Да, мая дачушка, за трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
А трэці замочак — цясовыя дошчачкі.

Ой, нету, нету да Манечкі дома,
Пайшла маладая да пана бога,
Да стаіць гадзіну, да стаіць другую,
Пакуль адчыняць царскія дзверы
Да пакуль не выйдзе войчанька родны.
— Прашу цябе, войчанька, прашу цябе, родны,
На маё вяселле, на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладое,
Я не маю волі ад пана бога.
Да калі ўпрашуся, хмаркаю спушчуся,
Дробным дождзычкам да па задвор'ейку,
Ясным соўнейкам ў ваконечка гляну,
Шчасцем-доляю благаслаўляю.

Ой, нету, нету на каліне цвету,
Ой, нету, нету ды дзевачкі дома,
А пайшла дзевачка і к госпаду богу,
І к госпаду богу па сваю мамачку.
— Ой, прашу я, мамачка, на сваё вяселле.
— Весяліся, маё дзіцятка, весяліся, маладое.
Я к табе прыеду у суботу позна,
У суботу позна, у нядзелю рана,
На покуце сяду, кубачак пастаўлю,
Я сваё дзіцятка ды пабагаслаўлю.

Ой, нету, нету сіроткі ўдоме,
Пайшла сіротка да пана бога.
Стаіць гадзінку, стаіць другую,

Пакуль адчыняць царскія дзверы,
Пакуль спазнала родную матку.
А як спазнала, на ножкі пала:
— Родная мамка, прашу ў вяселле,
Прашу ў вяселле на багаслаўленне.
— Дзіцятка ж мае, не мая ж воля,
Не мая ж воля — самога бога...
На пасад садзіць анёлаў прышлю,
А заўтра рана сама прыйду.

Ой, няма, няма Матронкі дома.
Пайшла Матронка да пана бога.
Стаіць гадзіну, стаіць другую,
Пакуль адчыняць царскія дзверы,
Покі выпусцяць маценьку яе.
— Хадзі, маценька, на маё вяселле,
Хадзі, родная, на сіроціна.
— Весяліся, дзіця, весяліся, родна,
Сама не пайду, янголі пашлю,
Пашлю янголі на пагулянне,
Сваяму дзіцяці на красаванне,
А блізкім суседзям на дзіваванне.

Нету, нету маладой Ганначкі ўдоме.
Пайшла яна да пана бога па татку.
Стаіць гадзінку, стаіць другую,
Пакуль адчыняць боскія дзверы анёлы,
Пакуль выпусцяць татульку на волю.
— Ці стой-не стой, младая Ганначка, пры дзвярох,
Да твой татулька ў тры замо́чкі замкнёны:
Першы замочак — траўка-мураўка парасла,
Другі замочак — жоўты пясочак пасыпан,
Трэці замочак — дубовы дошкі сціснёны.
— Ды я ж тую траўку-мураўку пакашу,
Ды я ж тыя жоўтыя пяскі разнясу,
Ды я ж тыя дубовыя дошкі пашчаплю,
Ды я ж сваяго роднага татульку разбуджу.

— Не сядзі, Верачка, не сядзі,
Да пайдзі свайго войчанькі на вяселлейка папрасі.
— Я стаяла гадзіну, ■ стаяла другую,
Пакуль адчынілі райскія дзверы,
Пакуль увідзела баценьку свайго.
— Прашу, войчанька, на сваё вяселле,
На вяселле на сірочае.
— Весяліся, донька, з людзьмі і з богам,
Я не маю волі ад пана бога.
Я пад старажамі і пад трыма замкамі:
Першы замочак — да вечны дамочак,
А другі замочак — да зялёна мураўка,
А трэці замочак — да жоўты пясочак.

Няма маладога ўвесь вечар удома,
Пайшоў жа ён да пана бога
Свайго баценька на вяселле зваці.
Спрасіла прачыстая маці:— Куды йдзеш?
— Свайго баценька на вяселле зваці.
— Твой баценька ў божаму дамочку, у жоўтаму пясочку.
— Прашу, баценьку, прашу, родны, на сваё вяселле.
— Весяліся, дзіце, весяліся, родны,
Не маю волі ад пана бога,
Не маю ключоў ад прачыстае:
Ўжо ж мае ручкі накрыж злажоны,
Ўжо ж мае ножкі звяжоны,
Ўжо ж мае уста запячатаны.

Да няма дзеванькі ні тут, ні дома,
Пайшла дзеванька да пана бога
Сваю матку на вяселле зваці:
— Хадзі ж, маценька, ка мне на вяселле
Да на спамаганне.
— Няхай табе, дзіцятка, госпад спаможа
Да добрыя людзі,
А я не маю волі ад пана бога
І ад прачыстай.

Ужо мая душачка замкнёна замкамі:
Адзін замочак — жоўты пясочак,
А другі замочак — новы дамочак,
Трэці замочак — зялёны хвайночак.

Пайшла Ганначка да госпада бога,
Да свайго таткі роднага.
— Хадзем, хадзем, татка, ка мне.
— Весяліся, маё дзіцятка, на здароўе,
Бо я ў бога пад трыма замкамі:
Да першы замочак — жоўты пясочак,
А другі замочак — сасновая дошка,
А трэці замочак — шаўковы шнурочак.
Ды не магу я ўстаці к свайму дзіцяці,
Свайму дзіцяці парадак даці.
Карыся, дзіця, чужой чужыне,
Хай навядзе парадак беднай сіраціне.

Да няма ж дзевачкі ані тут, ні дома,
Пайшла дзевачка да госпада бога,
На сырую зямельку наступаючы,
Да сырую зямельку праклінаючы.
— Ты ж мая зямелька, ды сырэсенькая,
А ўзяла маю маманьку маладзенькую.
А пайшла дзевачка да на магілачку
Свае матку іскаці, на вяселле зваці.
— Хадзі, хадзі, маманька, да на маё вяселле,
Да на маё вяселле да на сірочае,
Да на маё вяселле да на дзявочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, роднае,
Бо я тута, дзіця маё, пад трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны мурочак,
А другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — вечны дамочак.
— Зялёная муравушка, да адгарніся,
Жоўты пясочак, да адсыпніся,
Да вечны дамочак, да адамкніся,
Ты ж, мая мамачка, да й падніміся.

Ды дзевачкін татачка
На ўсход сонейка ляжыць,
Накрыж ручачкі дзяржыць,
З месяцам размаўляе:
— Вой, месяцу, месяцу,
Месяцу-збавіцелю,
Пусці мяне на вяселле.
Пусці з неба мігліцаю,
На зямлю расіцаю,
На падвор'е хоць галубком,
А ў ваконца ясным сонцам —
Паглядзеці дзіцяці,
Як яно прыбярона,
Дзе яно пасаджона.
— Прыбярона ў белае,
Пасаджона, як беднае.
Прыбярона, як лябёдка,
Сядзіць, плача, як сіротка.

А Валеччын татачка
На ўсход сонейка ляжыць,
Накрыж ручачкі дзяржыць.
Ён у бога просіцца
Да ў духа святога:
— Пусці, божа, з неба дамоў,
З неба дамоў з дробным дождыкам.
З дробным дождыкам пад аконца,
З расіцай пад варотца
Паглядзеці дзіцяці,
У што яна прыбрана,
Ці высока пасаджана.
— Прыбрана ў белае,
Плача яно, як беднае,
Прыбрана, як лябёдка,
Плача яно, што сіротка.

Што дзень перад богам
Ганначчына матачка.
Яна ў бога просіцца:
— Божа, божа,

Пусці мяне з неба далоў
Дробным дажджом,
У полі мыгліцаю,
У траве расіцаю
Паглядзеці дзіцяці,
Ці харашо прыбрана,
Ці высока пасаджана.
— Прыбрана, як панёта,
Пасаджана, як сірота,
Проціў кутняга ваконца,
Проціў яснага сонца.

Матронкіна маці
На сход сонейка ляжыць,
Накрыж ручанькі дзяржыць,
Госпада бога просіць:
— Пусці мяне, божа,
Із неба — імгліцаю,
А па траве — расіцаю,
А ў сяло — дробным дожджам,
А ў ваконца — ясным сонцам
Паглядзеці дзіцятка,
Чы хораша нараджона,
Чы на пасаг пасаджона.
— Нараджона, як лябёдка,
Пасаджона, як сіротка.

Ды чыя ж то пані матачка
Су-пад неба ды пазірае?
Яна бога сухваляе:
— Пусці мяне ды, божа, з неба,
Із неба да мігліцаю,
А на землю ды расіцаю,
А ў ваконца ясным сонцам,
Як дзіця ды нараджона,
Сядзіць яно асірачона.
— Нараджона лебядзінкаю,
Пасаджона сірацінкаю.
Нараджона ды лябёдкаю,
Пасаджона ды сіроткаю.
— Дзякуй вам ды, суседачкі,

Што маё дзіця ды гадавалі,
Да шлюбу ды выпраўлялі.

Марылін ойчанька даўно богу служыць,
На залатым крэсле сядзіць,
Накрыж ручкі дзяржыць,
Пану богу кланяецца
Ды ў бога ўпрашаецца:
— Ды спусці мяне, божа,
Да зямлі імгліцаю,
Да зямлі імгліцаю,
На падвор'е расіцаю,
На шырокае дробным дажджом,
А ў хату ясным сонейкам
Паглядзець свайго дзіцяці:
Ці харашо яно ўбранае,
Ці ў радочку пасаджонае,
А ці добра навучонае.
— Толькі тым не хараша,
Што радзяць суседзейкі,
Багаславяць прыяцелькі.
Раду радзяць не хочучы,
Багаславяць не судзячы,
Раду радзіць не ойчанька,
Багаславіць не матанька.

Ой, на небе ясна слонца ядрано.
— Чаму, Антоська, твайго войчанькі не відно?
— Дзевачкі, мае сястрыцы,
Ці вы дасюль не ведалі,
Што мой войчанька богу служыць
І накрыж ручанькі дзержыць?
Пад крыжам да крыжуецца,
І пана бога просіць:
— Да спусці мяне, пане божа,
Хоць імглою да зямлі,
Паглядзець свайго дзіцяці,
Ці харашо да нараджона,
На пасадзе да пасаджона.
— Дзякуй вам да, суседачкі,
Што харашо да нарадзілі,
Да на пасадзе пасадзілі.

Да чыя гэта матка
Да перад госпадам стаіць,
Накрыж ручанькі дзяржыць,
Госпада бога харашо просіць?
— Да спусці мяне, божа,
Да з нябёс на падолле,
Ясным соненькам да на застолле
Паглядзеці сваго дзіцяці,
Ці харашо да нараджона,
Ці на пасадзе да пасаджона?
— Да чужая матка да яго радзіла,
На пасадзе да садзіла.
Нараджона да ў жалобаньцы,
Пасаджона да у слёзаньцы.

Аленчына матачка даўно богу служа.
Прасілася ў бога:
— Божа мой, збавіцелю,
Пусці мяне з неба.
Цёмнай тучкай па небе,
Дробным дажджом да зямлі,
Па загор'ейку туманам,
У вароцечка крыніцаю,
На падвор'ейка расіцаю,
У аконца ясным сонцам
Паглядзеці дзіцяці,
Ці харашо прыбярона,
Ці высока пасаджона.
— Прыбярона, як панётка,
Пасаджона, як сіротка,
Проціў кутняга ваконца,
Проціў яснага сонца.

Ой, што ж гэта ў небе,
Ў небе загрымела?
Надзеччына маці
З госпадам гаварыла:
— Ой, божа мой, божа,
Ой, пускай мяне з неба.
З неба — імгліцаю,

На зямлю — расіцаю,
На двор — дробным дожджыкам,
У хату — мілым госцейкам
Адведаці дзіцяці,
Ці яна благаславёна.
— У галованьцы кветка,
А яно ж, як сіротка.

Дзеваччына мамка
Ды перад богам стаіць,
Накрыж ручкі дзяржыць,
Ды просіцца ў бога
Ды з неба ды на зямлю.
Ды з неба туманачкамі,
Ды па двару расіцаю,
У ваконца ясным слонцам
Паглядзеці дзіцяці,
Чым яно прыбярона,
Як яно параджона.
— Прыбярона, як бель бела,
Параджона, як бедная,
Параджона, як лябёдачка,
Пасаджона, як сіротачка.

Ой, ды Васілісіна маці
Перад богам наўкрыж стаіць
Ды госпада бога просіць:
— Ой, божа мой, божа,
Пусці мяне з неба на зямлю.
— Як жа ты будзеш ляцеці?
— Ды па шоўкаваму шнурочку,
Па залатой плеці
Ды свайго дзіцяці паглядзеці,
Ці хараша ды нараджана,
На пасадзе ці пасаджана?
— Нараджана, як лялётачка,
Пасаджана, як сіротачка.
Ёсць каму піці і есці,
Ды некаму парадачку весці.

— Ой, божа ж мой, мой бацюшка,
Спусці мяне сёння з неба,
Бо там мяне сёння трэба
Свайго дзіцяці паглядзеці,
Ці хораша нараджана,
Ці на пасадзе пасаджана?
— Нарадзілі суседачкі,
Пасадзілі прыяцёлачкі.
Нарадзілі, як княгінечку,
Пасадзілі, як сірацінaчку.
— Ды дзякуй вам, суседачкі,
Што хораша нарадзілі.
Ды дзякуй вам, прыяцёлачкі,
Што на пасадзе пасадзілі.

У нядзелечку рана
А дзеваччына мамулька
Перад богам стаіць,
Накрыж ручачкі дзяржыць,
А ў бога просіцца:
— Пусці мяне, божа,
А з неба на землю
Дзіцяці паглядзеці,
Ці хораша прыбярона,
Ці ў рад пасаджона.
— Прыбярона, як панётка,
Пасаджона, як сіротка.
— Спасіба добрым людзям,
Што хораша ўвабралі
І ў рад пасадзілі.
Убралі, як панётку,
Пасадзілі, як сіротку.

Ай, Валечкін татанька,
Ён даўно ў бога служыць. 2
Ён і ў духа святога,
Ён прасіўся ў бога,
Ён і ў духа святога:
— Ай, пусці мяне, божа,
А і з неба на землю

Па шаўковым шнурочку,
Па залатым пруточку
Паглядзеці сваю чада,
А ці хараша яно ўбярона
Да ці на куце пасаджона.
— Убярона, як лябёдка,
Пасаджона, як сіротка,
На сіроцкім месцечцы,
Пад сіроцкім вакошкам.

З суботкі на нядзельку,
Што на небе звінела,
Што на небе стучэла?
Да сіроткі матулька
Просіцца ў пана бога:
— Божухна-збавіцелю,
Пусці мяне з неба далоў
Па едвабным шнурочку,
Па зялёным пруточку
Палядзеці дзіцяці,
Як яна прыбярона,
Як яна пасаджона.
— Прыбярона панятачкай,
Пасаджона сіротачкай,
Сядзіць яна смутнюсенька,
Плачыць яна сільнюсенька,
Хустачка бялюсенька,
Ад слёзак макрусенька.

— Да ці чула, Машанька,
Што па небе стучала?
— Гэта мой татулька па небе стучаў,
Ён богу дакучаў:
— Божухна-збавіцелю,
Збаў мяне з неба на зямлю
Па шаўковым шнурочку,
На жалезны масточак.
Хоць я ў хату не пайду,
Пад ваконцам пастаю,
На дачушку пагляджу,

Як яе пасадзілі,
Як яе благаславілі.
— Пасадзілі, як дзетачку,
Благаславілі ж, як сіротачку.

А сіроцкія слёзы *
З гары ў дол каціліся,
А Тарэсы мамачка
У божанькі прасілася:
— Да спусці мяне, божа,
На ядвабным шнурочку.
На ядвабным шнурочку,
На дзіцячым вяночку.
Я ў хату не пайду,
На парозе пастаю.
На парозе пастаю,
На дзіцятка пагляджу,
А як яно прыбрана,
А дзе яно пасаджана.
— Ай, сукенка бялюсенька,
А сярдэнька чарнушанька.
Яна ручанькі ламае,
Што матулькі не мае.

Адна матулька не спала,
Пану богу дакучала:
— Ой, божа-збавіцелю,
Пусці мяне дамоў
Па шаўковаму шнурочку,
Па жалезнаму масточку.
Я ў хатку не пайду,
На дачушку пагляджу.
Усе дзевачкі вясёлыя,
Усе дзевачкі харошыя.
На адну маю дзіцятачку
Чорная смага пала.
Цяжкае ўздыханейка,
Слёзнае ўмыванейка.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Што на небе стучала,*
На зямлі загручала?
Там Анеччына мамка.
Яна бога прасіла:
— Божа мой, збавіцелю,
Пусці мяне на землю.
Хоць я ў хатку не пайду,
Пад аконцам пастаю.
Пад аконцам пастаю,
На дзіцятку пагляджу,
Як яна прыбярона,
Як яна пасаджона,
Як яна абслаўлёна.
— Прыбярона, як панятка,
Пасаджона, як лябёдка,
Абслаўлёна, як сіротка.

У нядзельку рана ў небе стучэла,
У нядзельку рана ў небе davaгручэла.
Янінчына мамка ў небе стучэла,
Па небе кацілася і ў бога прасілася:
— Пусці мяне, божа, на вяселле.
Я і ў хатку не пайду,
Толькі праз аконца пагляджу,
Як мая сіротка ўбіраецца
І слёзкамі абліваецца.
— Уборы багацкія, а слёзкі сіроцкія,
Убраўшыся па-багацку, а сеўшы па-сіроцку.

А што там за зорыца
Ды па небе коціцца, рана-рана?
А чый жа там татачка
На весялле ў бога просіцца, рана-рана?
— Пусці мяне, божанька,
На вяселле на сірочае, рана-рана.
Я у хатку не пайду,
Пад аконцам пастаю, рана-рана.
Пад аконцам пастаю,
На дзіцятка пагляджу, рана-рана,

* Кожны радок паўтараецца.

Як маё дзіцятка плачыць,
Белыя ручкі ломіць, рана-рана.
Белыя ручкі ломіць,
У бога долі просіць, рана-рана.

Ясная заранычка 2
Па небу кацілася,
Танькіна мамка 2
Ў бога прасілася:
— Пусці ж, божа, з неба, 2
А цяпер жа мне трэба 3
Дзіцяці паглядзеці, 3
Дзе ж яно пасаджона, 3
Як яно прыбярона.
— А прыбярона, як паненка, 2
Пасаджона, як сіротка. 2

Што гэта за зорачка
Ды па небе коціцца, божа мой.*
Ды Марусін татачка
Ды у бога просіцца:
— Адпусці, божа, з неба
К дзіцяці у вяселле.
Хоць я ў хатку не пайду,
Пад ваконцам пастаю.
Пад ваконцам пастаю,
На сіротку пагляджу,
Прыборы шляхоцкія,
Слёзачкі сіроцкія.
Прыбрана, як панётка,
Благаслаўлёна, як сіротка.

А Анечкі папка ды прасіўся ў бога,
Ды прасіўся ў бога.

Ды прасіўся ў бога, ды ў духа святога,
Ды ў духа святога.

* Рэфрэн «Божа мой» паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

— А пусці, пусці, божа, за дзвярам пастаяці,
За дзвярам пастаяці.

За дзвярам пастаяці, на дзіцяцю паглядзеці,
На дзіцяцю паглядзеці.

Ці харашо прыбярона, ці высока пасаджона,
Ці высока пасаджона.

— Прыбярона, як панятка, пасаджона, як сіротка,
Пасаджона, як сіротка.

Да й чыя то матуля
Пад новым крыжам ляжыць?
Марылі матуля
Пад новым крыжам ляжыць
Да накрыж рукі дзяржыць,
Пана бога просіць:
— Божухна-бацюхна,
Пусці мяне на вяселлейка,
На адну вечарыначку,
Хоць на адну гадзіначку
Паглядзеці дзіцяці,
Ці харашо прыбрана,
Раданька ці дана.

— Выйдзі, дзеванька, з хаты,
Ці не ідзе твая маці,
Ці не нясе кветак на вянок.
— Дзіўныя вы жа людзі,
Мэй матанькі не будзе:
На захад сонца ляжыць,
Да бога ручкі дзяржыць.
— Ой, божа мой едыны,
Пусці мяне дадому
Забачыці дзяціткі,
Ці яно харашо ўбярона,
На пасадзе пасаджона.
— Убрана, як лябёдка,
На пасадзе, як сіротка.

Дзеваньчын пан ойцец перад госпадам стаіць,
Госпада бога просіць:
— Госпадзі, мой збавіцелю,
Спусці ты мяне з неба,
Як цяпер мне трэба
Паглядзеці дзіцяці,
Ці хораша ўбрана,
На пасадзе ці пасаджана,
Галоўка ці зачасана.
Хвала табе, божа,
Што сірочае дзіця
Па-сірочу яно ўбрана,
На пасадзе пасаджана,
Галоўка зачасана.

А двор вялікі, збор маленькі,
Не ўся радзінанька.
Пашлю сакала на Украінаньку
Па сваю радзінаньку,
А салавейку вышэй неба,
Бо мне мамка трэба.
Салавейка не далятае,
А мамка прамаўляе:
— Ой, пусці, божа, з неба да долу,
А з долу дадому
Ды пабачыць свайго дзіцяці,
Ды парадак даці.
Як яна нараджона,
Ды ці хораша пасаджона.
— Нараджона, як лялётка,
Пасаджона, як сіротка.

— Што ў сенях галубок гудзе,
А ў святліцу галасок вядзе?
— То не голуб гудзе,
То мой татухна родненькі
Сільна бога прося:
— Знімі мяне з неба на землю,
Пагляджу на свайго дзіцяці,
Ці харашо яна ўраджана,

Ці высока пасаджана.
— Ураджана, як панянятка,
Пасаджана, як сіраціна,
Павезена, як чараціна.

І хто па небе ходзіць 2
І з богам гаворыць?
— Божа ж, ты, божа, 2
Пусці мяне з неба.
З неба на зямлю, 2
Дзіцяці на вяселле.
Дзіцяці паглядзеці, 2
Дзе яна пасаджона.
Дзе яна пасаджона,
Як яна прыбярона.
— Прыбярона па-дзявоцку, 2
Пасаджона па-сіроцку.
Сядзіць, як ягодка, 2
Плачыць, як сіротка.

Маладая Мар'янка
Рана села на пасадзе.
Хто дзісь цябе парадзі?
Мамуня богу служыць,
На злотым крэсле сядзіць,
З панам богам гаворыць,
Пана бога просіцца:
— Божухна-бацюхна,
Пусці мяне з неба
Паглядзеці дзіцяці,
Чы хараша прыбрана,
Чы на пасадзе пасаджана.
Мая дзецяцечка
Прыбрана, як паняцечка,
Пасаджана, як сіроцечка.

Ой, на дварэ два калодзезі і вядро,
Чаму твайго, Сонечка, папачкі не відно?
А ў лесе-лесе паціхонечку гукае,
Сонечка свайго папачку шукае.

Хоць ты шукай, не шукай — не найдзеш.
Твой папачка перад богам стаіць,
Госпада бога просіць:
— Пусціце мяне з неба дадому,
А мне цяпер трэба дзіцяці паглядзець,
Ці хараша прыбрана,
Ці на куце пасаджана.
— Прыбрана, як панянятка,
Пасаджана, як сірацінка.

Марыніна матушка,
Марыніна родная
Да па том свету ходзіць,
Госпада бога просіць:
— Спусці мяне, божа,
Із неба на зямлю,
На сіроцкую свадзьбу.
Хуч бы я пасматрэла,
Как сіроты плачуць,
У бога долі просюць.

Ну чыя ж там мамухна пад крыжом палажона,
Тром замочкам замкнёна?
Кацiна мамухна пад крыжом палажона,
Тром замочкам замкнёна:
Першы замочак — зялёненькі гаёчак,
А другі замочак — жоўты пясочак,
А трэці жа замочак — грабавая дасочка.
Ну чыя ж там мамухна пад крыжом палажона,
З госпадам богам размаўляла?
— Мой боżанька-збавіцелька,
Спусці з неба на зямлю
Сваю дзіцятку паглядзець,
Ці на куце пасаджона,
Ці па-сіроцкаму прыбрана.
Адазваліся анёлы,
Што мы ўчора там былі,
Тваю дзіцятку відзелі:
Па-сіроцкаму прыбрана,
На куце пасаджона
І доляй-шчасцем надзялёна.

Палагейкіна мамухна
Прасілася ў бога,
У духа святога:
— А спусці мяне, божухна,
Па залатым пруточку,
Па шоўкавым шнурочку
З неба на зямлю
Паглядзеці дзіцяці,
Ці хараша яна прыбрана,
Ці на куце яна пасаджана.
Гдзе ўзяліся тры янгелькі:
— Не пушчай яе, божухна,
З неба на землю
Па шоўкавым шнурочку,
Па залатым пруточку.
Мы ўчора там былі,
Пад ваконачкам стаялі
І ў ваконка глядзелі:
Яна ўбярэна, как паненка,
На куце пасаджэна,
Як сіротка благаславена.

А Сахвейкін та татка,
Ён прасіўся ў бога
Да й ў духа святога:
— Адпусці мяне, божа,
Да й з неба на землю,
Па жалезнаму пруточку,
Па шаўковаму платочку.
Яму божынька гаворыць:
— Я й ўчора там быў,
На вакошачку сядзеў
І ў вакошачка глядзеў:
Прыбярона Сахвейка, як панятка,
Пасаджона, як дзіцятка,
Баслаўлёна, як сіротка.

Ой, божа ж мой, божа,*
Адпусці мяне з неба.

* Кожны няцотны радок паўтараецца.

З неба, з неба ды на зямельку
Дзіцяці паглядзеці,
Ці харашо прыбярона,
На пасадзе пасаджона.
Месік кажа: — Я ўчора
У кутняе вакно свяціў.
Прыбярона, як панётка,
Пасаджона, як сіротка.
У руках шырыначка
І таненька, бяленька.
Таненька, бяленька
І ад слёзак макрэнька.

Настульчына маці
Да перад богам стаіць,
Да ў бога просіцца:
— Пусці ж мяне, божа,
Да з неба да да землі
Дзіцяці паглядзеці,
Чы хараша прыбярона,
На пасад чы пасаджона.
Абазваўся месячык:
— Да на зямлі быў,
Тваё дзіця відзеў.
Прыбярона, як лябёдачка,
Пасаджона, як сіротачка.
Пасаджона пад кутнім аконцам,
Пад ясненькім сонцам.

За лесам, лесам соўнейка ўсходзіць,*
Галечкі татка па небе ходзіць.
Па небе ходзіць, з богам гаворыць:
— А, пане божа, пусці на землю.
Пусці на землю к дачцэ ў вяселле.
Хачу паглядзець свайго дзіцяці,
Як прыбярона, благаславёна.
— Я сам не пайду, цябе не пушчу,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Я сашлю з неба ды трох анёлаў
Да твайго дзіцяці на благаславенства.
А прыбярона, як панятачка,
Благаславёна, як дзіцятачка.

І зусюль рэкі цякуць,
І зусюль выцякаюць,
І зусюль госці едуць,
І зусюль з'язджаюць.
Аднае рэчкі няма —
Ад быстрага Дунаю.
Аднаго госця няма —
Самага найлепшага,
Дзеўчыны баценька.
А дзеўчын баценька
На ўсход сонечка ляжыць.
На ўсход сонечка ляжыць,
Наўскрозь ручанькі дзяржыць.
Наўскрозь ручанькі дзяржыць.
Госпада бога просіць:
— Ой, пусці мяне, божа,
І з неба на падвор,
Там маяго дзіцяці
Вяселлечка вітаці.
Я дахаты не пайду —
Пад акенцам пастаю,
На сваё дзіця падзіўлюсь,
Чы харошанька прыбраная,
Чы так, як людзі, пасаджоная.
— Прыбрана, як лябёдка,
А пасаджона, як сіротка.

Ой, зусюль рэкі цякуць,
Ой, зусюль сцякаюцца.
Ой, зусюль роды едуць,
Ой зусюль з'язджаюцца.
Толькі аднаго роду нету —
Марысінага войчанька.
Ой, сашлі яго, божа,
З дождыкам на зямлю.

З дожджыкам на зямлю,
З ясным сонейкам у святліцу.
Хай ён забачыць сваё дзіцятка,
Чы хараша ўбрана,
Чы высока памашчона,
Ці вялікі пасаг даны.

Скрыпнулі вароцечкі,
Бразнула зашчэпачка.
— Выйдзі, Манечка, з хаты,
Чы не йдзе твая маці?
— Мая мацёнка родна
На заход сонца ляжыць.
На заход сонца ляжыць,
Накрыж ручкі дзяржыць,
Госпада бога просіць:
— Ой, мой божа, ядыны,
Пусці мяне дадому
Пабачыці дзяціну,
Чы харошанька ўбрана,
Чы добра пара дана.
— Убрана так, як кветка,
А плача, як сіротка.

А скрыпяць вароцікі,
А скрыпяць цісовыя.
— Паглядзі, мая Кацечка,
Ці не йдзе твой татачка?
— Дзевачкі, мае сястрыцы,
А няпраўда ваша:
Тры нядзелечкі званілі,
Майго татачкі не ўзбудзілі.
А падам галасочак
Цераз цёмны лясочак
Ды ў жоўты пясочак.
Зямелька, здрыганіся,
Татачка, абзавіся.
Зямелька не здрыганецца,
Татачка не абзавецца.

Стукнулі вароцейкі, бразнулі зашчэпачкі.
— Азірніся, дзеванька, ці не матухна ідзе,
Ці не каравайначкі вядзе?
— Ой, дзіўныя вы людзі.
Да тры дні ў званы білі,
Мае маткі не збудзілі.
Мая матка за трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — цісовы дамочак.
Зялёны дзярночак дажджы палівалі,
А жоўты пясочак грабары капалі,
Цісовы дамочак слесары будавалі.

Вароцечкі заскрыпелі,
Да зашчапкі зазвінелі.
— Да дагадайся, дзетунька,
Ці не войчанька то ідзе,
Ці не суседачкі вядзе?
— Дзявочкі, мае сястрыцы,
Ці вы самі не знаеце,
Што ў мяне пытаеце:
Мой войчанька богу служыць,
Накрыж ручкі дзяржыць,
Проці кутняга аконца,
Проці яснага сонца.

У нядзелю ранюсенька
Да ціхі вятрэц павявае,
Вароцечка калывае.
— Выйдзі, паглядзі, Марыська,
Ці ні матуля едзе?
— Дзевачкі мае, сястроначкі,
Ці вы дасюль не ведалі,
Што матулька богу служыць
Да накрыж ручанькі дзержыць?

У нядзельку раненька
Варацейкі заскрыпелі,
Клямачкі зазвінелі.

— Да аглянься, дзевачка,
Ці не татачка ідзе,
Ці не долечку нясе.
— Дзевачкі, мае сястрыцы,
Праз тры дні званы білі,
Татачкі не ўзбудзілі.

У нядзелю раненька
Скрыпнулі вароцейка.
Дзеванька ў аконейка:
Ці не мамачка едзе,
Ці не мамачка едзе,
Ці не долечку вязе?
Дый не мамачка едзе,
Дый не долечку вязе.
Суседзі збіраюцца,
Прыяцелі з'язджаюцца.
Суседзі найбліжшыя,
Прыяцелі наймільшыя.

Маладая Манечка,
Да ідзі на магілачку, 2
Скалыхні калінaчку, 2
Здрыгані магілачку,
Пабудзі сваю мамачку
Сабе на нарадачку.
У суботу вечарам
Скрыпнулі вароцейка. 2
Манечка ў акенца, 2
Сястрыца ў другое:
Ці не мамачка ідзе,
Ці не долечку нясе?
Сядзь, сам, гасподзь, на куце,
Дары долю сіраце.

Маладая Матронка,
Выйдзі на гулачку
І прыпадзі к дарожаньцы.

Ці стучыць дарожанька,
Ці скрыпяць вароцечкі,
Ці брашчаць зашчэпачкі,
Ці не йдзе твая маценка,
Ці не нясе параданькі?
— Дзівіцеся, людзі,
Майго бацька суседзі,
Мы тры дні ў звоны білі,
І маценкі не збудзілі,
І парады не прыждалі.

Ціха ветрычак вее,
Вароцечкі калыхае.
— Выйдзі паглядзі, млада Крысуня,
Ці не татачка едзе,
Ці не родненькі едзе?
— А няхай ён едзе,
Да мяне не заедзе.
Не маю стала, ні століка
Татачкі пасадзіці,
Роднага пасадзіці.
Не маю віна, а ні мёду
Татачкі ўгасціці,
Роднага ўгасціці.

З суботы на нядзелю
Дзевачка ўсю ночку не спала:
Хатачкі прамятала,
Ганачкі памывала,
З зарамі размаўляла:
— Зорачкі мае ясныя,
Свяціце дарожкі,
Будзе мая матка йсці
Мяне благаславіці.

— Брацейка, мой родненькі,
Да выйдзі на вулечку,
Да зірні пад зорачку,

Катора зара грае,
А катора патухае?
— Ранняя зара грае,
А вячэрняя патухае.
— Там мая матка пахаджае,
Яна ў бога спрашаецца,
На веселле спяшаецца.
— Матачка, мая родна,
Калі за лясамі,
То сячы рубамі,
А калі за гарамі,
Буду капачэ наймаці,
Буду горы капаці,
Сваю матку на вяселле зваці.
Есць у мяне маткаў многа,
А роднае ніводнае,
Да вядуць мне параданьку
Да не шчыру праўданьку.
Яны сваё дзіця маюць,
Да ўсю праўду астаўляюць.
Яны сваё дзіця маюць,
Да ўсю маю долю астаўляюць.

— Ці ўставала, Томачка, раненька,*
Ці хадзіла й у лужок часценька,
Ці глядзела пад зару часценька?
Адкуль ясна зорачка ўзыдзець,
Адтуль твая мамачка прыйдзець.
— Да ўзышла зорачка звысоку,
Да няма маей мамачкі здалёку.
Ці да яе мой пасыл не дайшоў,
Ці да яе сівы конь не дабег.
Пайшла б я сама малада — баюся,
Да на сваё вяселлейка спазнюся.

Ой, не сядзі, млода сіротачка, не сядзі,
А выйдзі ж ты на вулачку, паглядзі,
А ці не йдзець родны татулька з-пад зары.
А выламі ў ручачку бярозку

* Кожны радок паўтараецца.

Ды размяці роднаму татку дарожку.
Няхай жа ён у хатачку ўвойдзіць,
Няхай жа ён на лавачцы пасядзіць,
Няхай жа ён на сіротачку паглядзіць.

Анначка-сіротанька, *
Пасунься па лавухне,
Трошачку-нямножачку.
Пазаві ў вакошачка
Ў госці салавейку,
Свайго роднага татку.

Малады наш Міценька, *
Пасунься на лавачцы
А сядзь бліжэй к акенцу,
Адчыні акошачка,
Ўпусці роднага татку.
Родны татка-саколік
Каля століка ходзіць,
Ён парадак паводзіць.

А ў нядзельку раненька
Засвяціла сонейка
Да ў кутне акеначка.
А гэта не сонейка,
А родная мамачка.
Яна ўглядаецца,
Ці хораша дзіця ўбрана,
Ці ў раду пасаджона.
І хораша дзіця ўбрана,
І ў раду пасаджона.
Убрана, як паненка,
Пасаджона, як сіротка.
Убрана, як розы цвет,
Пасаджона, як маткі нет.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Да засвяціла сонца
Ў кутняе аконца,
Марыльцы па галоўцы.
То не сонейка ззяе —
Татка выглядае
Із нябеснага раю
На дачушку сваю:
Ці прыгожанька ўбрана,
Ці на кут пасаджана?
Яна ўбрана, як панётка,
Пасаджана, як сіротка.

Да засвяціла сонейка
Да ў кутняе аконейка.
Гэта не сонейка свеціць,
Дзевачкі татка глядзіць,
Ці харашо дзіця ўбралі,
Ці высока пасадзілі.
Дзякуй богу добрым людзям,
Прыбралі, як лябёдку,
І пасадзілі, як сіротку.

З рэчкі ў рэчку вална б'ецы, *
Са ўсходу сонца хмарка йдзецы.
— Да не пужайся, Анечка,
Гэта не цёмная хмарачка,
Ды твая родная мамачка.
Не будзецы громам грымеці,
Ды будзецы на цябе глядзеці.
Не будзецы дажджом мачыці,
Ды будзецы доляй дарыці.

— Сядзі, Ірачка, не сядзі, *
Выйдзі на вулку, паглядзі —
Падымаецца хмарачка.
— А не хмарачка — татачка.
— Не дождычкам цябе аблієцы,
Долечкаю-шчасцем абашлецы.

* Кожны радок паўтараецца.

Ды з-пад камор'я вада б'е,
З-пад цёмнага лесу тучка йдзе.
— Ды ці баішся, Насценька,
Гэтай тучкі цямненькай?
— Чаго ж я маю баяцца:
Ў гэтай тучцы мой татачка,
Ён не будзе мяне дажджом мачыці,
А будзе шчаслівай доляй дарыці.

З бору цёмная туча ідзець,
Маладая дзеванька пшонку жнець.
— Ці не баішся ты, дзеванька,
Гэтыя цёмныя тучанькі?
— Ды чаго ж я маю баяцца:
У гэтай тучаньцы ўвесь мой род,
Родная матанька напярод,
Не вадою мяне абальець,
Доляй-шчасцем абашлець,
Не вадою мяне абмочыць,
Доляй-шчасцем абносіць.

З бору, бору ідзе хмарачка цёмная.
— Да маладзенькая дзевачка,
Чаму не баішся гэтай хмарачкі цёмнай,
Гэтага ветрыка буйнога,
Гэтага дожджыку драбнога?
— Да паненачкі, мае сястрыцы,
Як жа мне да баяціся
Гэтае хмарачкі цёмнае,
Гэтага ветрыку буйнога,
Гэтага дожджыку драбнога?
Да ў той хмарачцы татка мой,
Да ў той цёмненькай родненькі,
Да ён мяне дожджыкам абалье,
Шчасцем-доляй абашле.

## САБРАЛІСЯ ЎСЕ, АКРАМЯ БАЦЬКОЎ

— Белая бярозачка, божа, божа,*
Ці ўсе ў цябе ветачкі?
— Ўсе ў мяне ветачкі,
Аднэй ветачкі няма,
Самай найпатрэбнейшай,
Самай найпатрэбнейшай —
Вярхушачкі найміленйшай.
— Маладая Манечка,
Ці ўсе ў цябе госцейкі?
— Ўсе ў мяне госцейкі,
Аднаго госця няма,
Самага глаўнейшага,
Самага глаўнейшага —
Татачкі мілейшага.

— Сосенка зялёная, чы ўсё веццe ёсць?
— Ўсё веццe, ўсё веццe, толькі вярхушкі нет.
Ёсць каму ля сосенкі пастаяць,
Да некаму пашумець.
— Надзютка маладая, чы ўся радзінка?
— Ўся радня, ўся радня, роднай мамкі нет.
Ёсць каму нізенька пакланіцца,
Не ў кага шчыранька благаславіцца.

— Уж ты, елачка-сасеначка, 2
А ці ўсё тваё веццiка,
А ці ўсё твае зялёнае?
— А і ўсё маё веццiка,
А і ўсё маё зялёнае,
Адной нет вярхушачкі. 2
Хоць і ёсць, да ўсохлая. 2
— Уж ты, Манечка маладая, 2

* Рэфрэн «Божа» паўтараецца пасля кожнага радка.

Агляніся туды-сюды.
Ну, ці ўся твая радзіна,
Ну, ці ўся твая радзімая?
— Ну і ўся мая радзіна,
Ну і ўся мая радзімая,
Аднаей нет маей матушкі,
Аднаей нет маей родненькай.
Хоць і ёсць, да няродная, 2
Скажаць словечка нявернае. 2

— Ох ты, ель зялёная,
Ох ты, ель кудравая,
Да чы ўсё тваё суччайка,
Да чы ўсё зялёнае?
— Да ўсё маё суччайка,
Да ўсё зялёнае,
Толькі нет макушачкі,
Самай верхняй вярхушачкі.
— Маладая Васілінка,
Да чы ўсе твае госці?
Да чы ўсе твае госцікі,
Да чы ўсе пасабраныя?
— Да ўсе паназваныя,
Толькі нет маей мамухны,
Толькі нет маей роднай.

— Елачка, ты сасонка,
Ахінісь і туды, і сюды,
На ўсе чатыры стораны,
Ці ўсё пры табе
Сучча-веццiца?
— Ай, усё пры мне
Сучча-веццiца,
Толькі нету макушачкі,
Залатой вярхушачкі.
— Мар'ечка маладая,
Паглядзі на ўсе стораны,
Ці ўся пры табе
Твая радзіна?

— Ай, уся пры мне
Мая радзіна,
Толькі нету пры мне
Майго бацюшкі.

—Ах, ты ель мая, ялушачка,
Залатая твая макушачка,
Пашатнісь-ка ты сюды-туды,
Ты сюды-туды, ва ўсе стораны,
Ці ўсе пры табе твае суччыкі?
— Ты ж маладзенькая да й Тонечка,
Агляніся-ка ж туды-сюды,
Ты туды-сюды, ва ўсе стораны,
А ці ўсе пры табе твае госцікі,
А ці ўсе пры табе твае мілыя?
— А ўсе ж мае госцікі,
А нетуці госця мілага,
Госця мілага, маткі родненькай,
Маткі родненькай да й бацюшкі.

Ах, ель мая, ялушачка,
Ці ўсё сучча кругом цябе?
—Ўсё сучча кругом мяне,
Толькі нет аднэй макушачкі.
— А дзеванька Мар'ечка,
Не сядзі па лавушкам,
Прайдзі-ка ты па хатушкі,
Паглядзі-ка ты па старонушкам,
Ці ўся радня сабралася?
— Ўся радня сабраўшыся,
Толькі нет роднага татанькі.
— Зачым жа ён забавіўся,
Ці за худой за пагодушкай,
Ці за бальшой за работушкай,
Ці ты яму ні ўкланілася?

— Ель мая, ель зеляненькая,
Ці ўсё пры табе тваё веццейка?
— Ўсё пры мне, ўсё пры мне маё веццейка,

9. Зак. 555

Толькі нету, толькі нету вярхушачкі,
Самыя вышшыя макавушачкі.
— Ці ўся пры табе, сужанька, твая радня?
— Ўся пры мне мая радзіна,
Толькі нету мае матулькі:
Завязёна мая матулька за тры вярсты,
Замкнёна мая матулька на тры замкі.
— Як будзеш, сужанька, к вянцу ехаць,
Ўзыдзі, сужанька, на магілачку,
Ай, разбі боцікам траўку-мураўку,
Ай, размый слёзкамі жоўты пясочак,
Падымі ручкамі грабавыя дошкі,
Пакланіся матульцы нізка ў ножкі.

— Зялёная сасонка, ці ўсё веццe? *
— Ўсё ж маё веццe вакруг мяне,
Аднае нет, аднае нет вярхушачкі:
Сарвалі, зламілі буйныя ветры.
— Маладая Раечка, ці ўся радзіна?
— Ўся ж мая радзіна вакруг мяне,
Аднае нет, аднае нет роднае мамачкі —
Схавалась, замкнулась на чатыры замочкі:
Ай, первы замочак — церамочак,
Ай, другі замочак — траўка-мураўка,
Ай, трэці замочак — жоўты пясочак.
— Узыдзі, узыдзі, Раечка, на магілку,
Абарві, абарві ручкамі траўку-мураўку,
Ай, размый слёзкамі жоўты пясочак,
Ай, гукні мамачку на парадачку.
— Рада б я ўстаці к свайму дзіцяці,—
Сціснулі ножкі грабовыя дошкі,
Замкнулі ручкі чатыры замочкі,
Рада б я ўстаці, парадачак даці.

— Ёлка, ты ёлушка,
Зеляная сасонушка,
Ці ўсё тваё веццiца,
Земляное карэніца?

---

* Кожны радок, акрамя трэцяга і восьмага, паўтараецца.

— Ай, ўсё мае веццiца,
Земляное карэнiца,
Толькi нету макушачкi:
Макушачку бура зламiла,
Вярхушачку ветрыкi збiлi.
— Ой, ты, красна Мар'ечка,
Цi ўвесь твой род-племя?
— Ай, увесь род-племя,
Толькi нет маей матушкi:
Матушку маю да багi ўзялi,
Багi ўзялi з бажаняткамi.
Напусцi, бог, да цёмну тучу,
Выпусцi камяну стралу,
Ты разбей грабаву даску,
Ты выпусцi маю матушку,
Маю матушку,
Маю матушку
На маю горку свадзебку,
Свайго дзiця паглядзецi,
Цi хораша снаражона,
Цi ў рад пасаджона.

— Уж ты, ель, ты, ялушачка,
Ты, ёлка, ты, ялушачка,
Скалыхнiсь ты туды й сюды,
Цi ўсё пры табе тваё веццiтка?
— Усё пры мне маё веццiтка,
Толькi нет пры мне макушачкi,
Самай вярхушачкi:
Макушку буйны ветры знялi.
— Яхiм маладзенькi, сiрата,
Агляніцесь вы туды i сюды,
Цi ўся пры табе твая радзiна?
— Ўся пры мне мая радзiна,
Толькi нет у мяне бацюшкi:
Майго бацюшку багi ўзялi.
— Падымiцесь, буйны ветры,
Вы раздуйце жоўтыя пяскi,
Вы ўскрыйце грабавую даску,
Разбудзiце майго бацюшку.
Пушчай пасмотрыць на маю свадзебку,
Цi харашо я суражона,

Ці на месце пасаджона.
Суражона, как лябёдушка,
Пасаджона, как сіротушка.

— Пахінісь, елінка, туды-сюды,
Паглядзі, елінка, кругом сябе,
Ці ўсё тваё веццейка каля цябе?
— Ўсё ж маё веццейка каля мяне,
Толькі нет, толькі нет макушачкі.
— Паглядзі, Танечка, кругом сябе,
Ці ўся твая радзінка каля цябе?
— Ўся ж мая радзінка каля мяне,
Толькі нет, толькі нет роднага таткі.
Замкнуўся татачка ў тры замочкі:
А першы замочак — траўка-мураўка,
А другі замочак — жоўты пясочак,
А трэці замочак — грабавая дошка.
Выйдзіце, выйдзіце, коні вараныя,
Сарвіце, сарвіце траўку-мураўку.
Прайдзіце, прайдзіце, дробныя дажджы,
Размыйце, размыйце жоўты пясочак,
А ўдарце, ўдарце, люты марозы,
Разбіце, разбіце грабаву дошку,
Ўзніміце, ўзніміце роднага татку.
Я ж свайму татухну пакланюся
Нізенька ў ножачкі, багаслаўлюся.

— Абгляніся, княгіня, навакол сябе,
Ці ўсё пры табе тваё лісцейка?
— Ўсё пры мне, навакол мяне,
Толькі нет, толькі нет макушачкі:
Зламілі макушачку сільныя ветры,
Занеслі макушачку ў быструю рэчачку.
— Абгляніся, Ганначка, навакол сябе,
Ці ўся пры табе твая радзіна?
— Ўсе пры мне, навакол мяне,
Толькі нет роднай матушкі.
Замкнулася мая матушка ў тры замочкі:
Першы замочак — траўка-мураўка,
Другі замочак — жоўты пясочак,

Трэці замочак — грабавая дошка.
На той траванцы ўсё росанька,
А ў нашай Ганначкі ўсё слёзанькі.
— Зляціце, зляціце, верабееньκі,
Вы склюйце траўку-мураўку,
Узыміцесь, сільныя ветры,
Раздуйце жоўты пясочак,
Ударце, люты марозы,
Разбіце грабаву дошку,
Узыміце родну матушку.
Я ў сваей матушкі бласлаўлюся,
Нізенька ў ножкі пакланюся.

У гародзе на пагодзе раненька *
Стаяў садочак зеляненькі.
Стаяўшы, стаяўшы ўскалыхнуўся,
Ўскалыхнуўся, аглянуўся:
— Ці ўсё маё вецце пры мне,
І сухое і зялёнае?
Ды ўсё ж маё вецце пры мне,
І сухое і зялёнае.
Няма толькі аднэй веткі,
Аднэй веткі-вінаградкі.
Села Ядзечка на пасадзе,
Сеўшы, сеўшы уздыхнула:
— Ці ўся мая радня пры мне,
І старыя і малыя?
Ды ўся ж мая радня пры мне,
І старыя і малыя.
Няма толькі маей мамкі,
Маей мамкі для парадку.

— Пераляці, салавейка, па садочку,
Пераглядзі, салавейка, па дзераўцах,
Ці ўсе твае дзераўцы ў садочку ёсць?
— Усе ж мае дзераўцы ў садочку ёсць,
Толькі нет аднаго бож'я дзераўца.
— А перайдзі, дзяўчына, па хатачцы,
Пераглядзі, дзяўчына, па радзінцы,

* Слова «раненька» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

Ці ўся твая радзінка ў бяседзе ёсць?
— Уся мая радзінка ў бяседзе ёсць,
Толькі нет роднага татулечкі.
Божа ж мой, хто па мне пабядуіць?
Родненькі татулечка не пачуіць.

— Сядзь-пасядзі, салавей, раздумайся,
Ці ўсе ў тваім садочку ёсць дзераўцы?
— Ўсе ў маім садочку ёсць дзераўцы,
Толькі нет аднаго божага дзераўца.
— Сядзь-пасядзі, Ганначка, раздумайся,
Ці ўся твая радзіма сабралася?
—Ўся мая радзіма сабралася,
Толькі нет роднае мамулечкі.
— Пашлі, Ганначка, салавеечку па сваю мамулечку.
Салавеечка, пташка дробная, ён скора злятаець,
Скора злятаець, к зямлі прыляжыць, матулечку ўзбудзіць.
— Ўстань, мамулька, к свайму дзіцяці парадачак даць.
— А я не ўстану к свайму дзіцяці парадачак даць:
Грабовыя доскі сціснулі ножкі — не магу пакрануць,
Жоўты пясочак залёг у насочак — не магу прадыхнуць,
Траўка-мураўка зарасла вочы — не магу прагляную.

— Сядзь жа, сядзь, салавейка, абмысліся,
Ці ўсе ў тваім садочку красачкі ёсць?
— Ўсе ў маім садочку красачкі ёсць,
Толькі нет аднаго божа дзераўца.
— Сядзь жа, сядзь, Гапулька, абмысліся:
Ці ўся ў тваёй бяседзе сямейка ёсць?
— Ўся ў маёй бяседзе сямейка ёсць,
Толькі нет, толькі нет маёй матухны.
Некаму ж, некаму на пасад садзіць,
Некаму ж, некаму багаславіць.
— Пасадзіць на пасад цябе татухна,
Багаславіць, багаславіць сам гаспо дзь бог.

— Агляніся, наша Стэпачка, ля сябе,
Ці ўся твая радзіначка ля цябе?
— Ўся мая радзіначка ля мяне,

Толькі няма роднай мамкі ў мяне.
— Было ж табе гэту ночку не спаці,
Нада ж было да мамкі пісьмо пісаці,
Нада ж было на магілачку сходзіці,
Нада ж было родную мамку будзіці.
— Устань, устань, родная мамка, не ляжы,
Прыйдзі, прыйдзі, хоць адну ночку памажы.
— Ідзі, ідзі, маё дзіцятка, дахаткі,
Няхай наводзяць другія парадкі.

— Агляніся, наша Янечка, ля сябе,
Каго ж няма раднейшага у цябе?
— Ой, нету, нету жоўтага цвету ў букеце,
Ой, нету, нету роднай матулькі на свеце.
Ой, нету, нету жоўтага цвету ў садзе,
Ой, нету, нету роднай матулькі ў радзе.
Ой, пашлю ж я рабу зязюльку па мамку,
Няхай яна скора ляціць, кукуець,
Можа ж мая родная мамка пачуець.
Прыляцела раба зязюлька і села:
— Просіць цябе родна дачушка ў вяселле.
— Ой, не магу, маё дзіцятка, не магу:
Зялён дзірванок залажыў грудцы — не дыхну,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну,
Дубовы дошкі сціснулі ножкі — не крану.
— Да парвіце дубовы дошкі на крошкі.
Да пастаўце родну матульку на ножкі.

— Устань, устань, Ніначка, не сядзі,
А па сваёй бяседзе пахадзі,
І на сваю бяседу паглядзі,
Ці ўся твая дружына сабрана,
Ці ўся твая радня сазвана?
— Я й чую, я й чую, я й знаю:
Уся ж мая дружына сабрана,
Уся ж мая радня сазвана,
Толькі нет маёй роднай матулькі.
Я ўсю сваю бяседу перайшла,
І нідзе сваёй матулькі не знайшла.
Мая галоўка ў квеце,

Нет маёй матулькі на свеце.
Мая ўся галоўка ў вяночку,
Нет маёй матулькі ў радочку.
Мая матулька трыма замкамі замкнёна:
Адзін замочак — жоўты пясочак,
Ай, божа ж мой.
Другі замочак — сыра зямліца,
Ай, божа ж мой.
Трэці замочак — дубовы дошкі,
Ай, божа ж мой.

— Пахадзі, Ганулька, па новых сянёх,
Паглядзі, Ганулька, па радзіны,
Ці ўся твая радзінка сабралася?
— Уся ж мая радзінка сабралася,
Толькі нет таткі з мамкай,
Схавалісь, родныя, за тры замочкі:
Першы жа замочак — траўка-мураўка,
Другі жа замочак — жоўты пясочак,
Трэці жа замочак — грабавая дошка.
— Узніміцесь, узніміцесь, буйныя ветры,
Развейце, развейце траўку-мураўку.
Секаніце, секаніце, дробны дожджы,
Размыйце, размыйце жоўты пяскі.
Ударце, ударце, люты марозы,
Разламайце, разламайце грабаву дошку.
Узніміце, узніміце татку з мамкай,
Павядзіце, павядзіце ў горанку,
Пасадзіце, пасадзіце ў першым раду,
Ў першым раду, дый напераду.

Чаго, Ксенечка маладзенькая,
У пір пагляда[еш]?

Каго, Ксенечка маладзенькая,
У піру пазнава[еш]?

Нет радзіначкі палавіначкі,
Нет роднай мамулеч[кі].

Пашлём чырачку на Украiначку
Па яе радзiнач[ку],

А зязюлечку на магiлачку
Па родну мамулеч[ку].

Чырачка ляцiць, не далятаець,
Радзiначка прыбыва[ець].

Зязюлька ляцiць, звонка кукуець,
Мамулька не чу[ець].

— Сырая зямля грудкi залягла,
Не магу я дыхну[цi].

Грабовыя дошкi сцiснулi ножкi,
Не магу я ступi[цi].

Жоўты пясочак засыпаў вочкi,
Не магу я гляну[цi].

Ходзiць-паходзiць месяц па небе, *
Лiчыць-палiчыць зоры на небе.
Усе зорачкi, вячэрняй — нету.
Ходзiць-паходзiць Валечка па хаце,
Лiчыць-палiчыць ўсю сваю радзiнку.
Уся радзiначка, мамачкi — нету.
Мая мамачка далёка звязёна,
Далёка звязёна, глыбока спушчона.
Глыбока спушчона, пад трыма замкамi замкнёна:
Першы замочак — дзярны-дзярночак,
Другi замочак — жоўценькi пясочак,
Трэцi замочак — сасновыя дошкi.
Дзярны-дзярночак прыцiснуў ручкi,
Жоўты пясочак засыпаў вочкi,
Сасновыя дошкi сцiснулi ножкi.
— Iдзi, iдзi, дождж ык, размый дзярночак,
Размый дзярночак, адпусцi ручкi,
Павей ветрычак, развей пясочак.
Развей пясочак, адпусцi вочкi.
Свяцi, свяцi, сонца, рассушы дошкi,
Рассушы дошкi, адпусцi ножкi.

* Кожны радок паўтараецца.

Ходзе-паходзе месяц па небе,
Ліча-паліча зоркі на небе.
Усе зорачкі — вячэрняй нету,
Ой, нету, нету, не будзе да свету.
Ходзе-паходзе дзевачка па сенях,
Ліча-паліча радзімку сваю.
Уся радзімка — мамачкі нету,
Ой, нету, нету і яе прывету.
Пайшла дзевачка мамку прасіць:
— Прашу цябе, мамка, к сабе на вяселле.
Прыйдзі ка мне, мамка, у нядзельку рана.
У нядзельку рана на выпраўлянне,
Прынясі свечачку на застрыганне.

— Баравая кукушачка, *
Ці ўсе лясы аблятала,
Ці ўсіх птушачак пазазвала?
— Я ўсе лясы аблятала,
Я ўсіх птушачак пазазвала,
Аднаго шэрага салавейкі не найшла.
— Маладая Танечка,
Ці ўсе сталы пазаслала,
Ці ўсю радню пазазвала?
— Я ўсе й сталы пазаслала,
Я ўсю й радню пазазвала,
Аднаго свайго таткі не найшла.
— А ўзніміцеся, шуйныя-буйныя вятрочкі,
Разадзьміце жоўты пясочак да гроба,
Разламайце сасновыя дошкі на крошкі,
Падыміце майго татаньку на ножанькі.

Чаго сядзіш, што думаеш, Танечка?
Да ўсе ж твае ўжо столікі засланы,
Не ўсе твае да госцікі сабраны —
Твайго татачкі родненькага да тут нет.
Запражы коніка, што бяжыць,
Прывязі татачку, што ляжыць.
Няхай жа ён па хатачцы паходзіць,

* Кожны радок паўтараецца.

Няхай ў цябе парадачак наводзіць,
Твая мамка старэнька не можыць.
Да ты ж позна за столічак садзішся,
Ты ж, маладая, да шлюбу спазнішся.

— Брахнейка мой родненькі,
Выйдзі на ганачак, паглядзі на неба,
Ці ўсе зорачкі паўзыходзілі,
Ці ўсе госцікі папрыходзілі?
— Найяснейшая зорачка не ўзышла,
Наша мамачка найраднейшая не прыйшла.
— Брахнейка мой родненькі,
Ідзі ў стаенку, паглядзі.
Ці ўсе конікі пасядланыя,
Ці ўсе госцікі пазбіраныя?
— Найваранейшы конік не сядланы,
Найдаражэйшыя госцікі не сабраны.
— Брахнейка мой родненькі,
Ідзі ў лясок, ссячы бярозку,
Ссячы бярозку, размяці дарожку —
Наша мамачка будзе ісці,
Падарак нясці.

— Ой, не сядзі, Ганначка, не сядзі,
Пахадзі па двару, паглядзі,
Ці ўсе твае конікі сагнаны,
Ці ўсе твае госцікі сабраны?
— Не ўсе мае конікі сагнаны,
Не ўсе мае госцікі сабраны.
Няма тут коніка сівога,
Няма тут татачкі раднога.
Пісала б яму пісьмо — не ўмею,
Выправіла б старога — не смею,
Выправіла б маладога — зблудзіць,
А ўсё майго татачкі не будзіць.

Да ўжо ж бо той вечарок,
Што збіраецца ўвесь радок,
Ано няма аднаго — маго бацюхна роднага,

Няма мяне каму за галоўку ўзяці,
Родным дзіцяткам назваці.
— Пажджы ты, дзіцятка, панядзелка,
То будзе табе каму за галоўку ўзяці,
Родным дзіцяткам назваці.

Усе пташачкі пазляталіся,
Нет шэрай зязюлечкі.
Усе госцяткі паз'язджаліся,
Нет роднай мамулечкі.
— Пашлі, Марыська, па мамулечку,
Хоць шэрую зязюлечку.
— Ляці, зязюлечка, ляці, шэрая,
Па маю мамулечку.
Зязюлька ляціць аж неба звініць,
А мамулечка не чуець.
Прыляці к ляску, прыпадзі к пяску:
— Уставай, мамулечка.
— Рада б я ўстаці к свайму дзіцяці
Ды парадачак даці:
Грабовыя дошкі сціснулі ножкі —
Не прасапнуся.
Жоўты пясочак залёг насочак —
Не падапнуся.
Сырая зямля грудцы залягла —
Не падымуся.

Што ж ты, Танечка, за думачку думаеш, *
Ці ты, Танечка, вяселлейка чакаеш?
Да ты ж папрасі свайго брацітку роднага,
Няхай возьмець сівога каня да із стайні
Да пусціць яго дарогаю вішчачы,
Да няхай ляціць твайго татачку ішчачы.
Да плыў конік тры дні, тры ночы па моры:
Не жджы, Танечка, свайго татачку ніколі.

— Не сядзі, Ніначка, не сядзі,*
Адчыні ваконца, паглядзі,

* Кожны радок паўтараецца.

Ці ўсе звёздачкі ўзышлі,
Ці ўсе госцікі к нам прыйшлі.
Ніначка ў ваконца глядзела:
— А ўсе звёздачкі ўзышлі,
Адзін ясны месяц не ўзышоў.
А ўсе госцікі к нам прыйшлі,
Адзін родны татка не прыйшоў.
А ён у зялёным барочку,
А ён у жоўтым пясочку.

— Не сядзі, дзевачка, не сядзі,
Выйдзі на падворачак пахадзі,
На ясну зорачку паглядзі,
Ці ўзышла зорачка звысоку,
Ці прыйшоў татачка здалёку?
— Не ўзышла зорачка звысоку,
Не прыйшоў татачка здалёку.
Выйду на магільнічак пахаджу,
Рукой каліначку заламлю,
Татку на вяселле папрашу.
Як пачуў татачка праз пясок:
— Сціхні, дзіцятка, на часок.
Як будзеш з двара з'язджаці,
Я буду ў варотах стаяці,
Каня за повад дзяржаці,
Ручкай дарожку жагнаці.

Усе зорачкі паўсходзілі,
Усе суседцы папрыходзілі.
Не ўзышоў месяц штонайяснейшы,
Не прыйшоў татулечка мой найраднейшы.
— Татулечка мой, я ночку не спала,
Татулечка мой, лісточкі пісала,
Татулечка мой, табе іх слала.
Татулечка мой, чаму не прыйшоў?
Татулечка мой, ці лісток не дайшоў?
Татулечка мой, ці адрасок не сышоў?
Татулечка мой, ці дарожка доўга?
Татулечка мой, ці дарожка каменіста?
Татулечка мой, ці дарожка гарыста?

Татулечка мой, калі дарожка доўга,
Я конікаў падашлю і сама падбягу.
Татулечка мой, калі дарожка гарыста,
Дык я тыя горы раскапаю.
Татулечка мой, калі ж яна камяніста,
Дык я тыя камні раскачаю.

У нядзельку ранелька рассвітаецца,
Міколка на татку абіжаецца:
— Татулька родненькі, чаго доўга нет?
А ці ночка цёмная, ці дарожка доўгая?
Ці дарожка доўгая, ці камяніста?
Ці камяніста, ці рэчка быстра?
Калі ночка цёмна, свечы запалю,
Калі дарожка доўга, я ўкарачу,
Я табе, татулька, коні падганю.
Калі камяніста, каменні ўбяру,
Калі рэчка быстра, масток палажу.
Я цябе, татулька, на вяселле прашу,
Маё вяселле ў гэта скрысенне.

— Ты дубрава, ты зялёная, *
Чаго ў цябе дуб'я многа?
Чаго ў цябе дуб'я многа,
Зялёнага ды ніводнага?
— Ах, адзін быў зялёны
І тэй бура паламіла.
І тэй бура паламіла,
І соўніка пасушыла.
— Ты, Мар'ечка, ты маладая,
Чаго ў цябе матак многа?
Чаго ў цябе матак многа,
А роднае ды ніводнае?
— А адна была родненькая,
І тая ўжо богу служыць.
Прасілася у бога
Паглядзець сваё дзіцяці:
Ці хораша прыбярона,
Ці на куце пасаджона?

* Кожны няцотны радок паўтараецца.

Прыбярона, як панятачка,
Пасаджона, як дзіцятачка.
Пасаджона, як дзіцятачка,
Плачыць яна, як сіротачка.

I

— Зялёная дубровачка,
Чаго ў цябе дуб'я многа?
— Што многа-замнога?
Зялёнага нігоднага.
Ёсць каму пастаяці,
Няма каму пашумеці,
Няма каму пашумеці,
Па дуброве пазвінеці.
— Маладая Ганначка,
Чаму ў цябе бацькоў многа?
— Што многа-замнога?
А роднага нігоднага.
Ёсць каму есці-піці,
Няма каму багаславіці,
Няма каму багаславіці,
Да шлюбу правадзіці.

II

Зялёная да дубровачка,
Зачым у цябе дуб'я многа?
Многа.
Зачым у цябе дуб'я многа,
Зялёнага да нігоднага?
Да нігоднага.
Зялёнага да нігоднага
Парастачку ані з годнага.
Ані з годнага.
Парастачку ані з годнага.
Ёсць каму пашумеціся,
А некаму зелянеціся.
Маладзенькі Іванка,
Зачым у цябе бацькоў многа?
Многа.
Зачым у цябе бацькоў многа,
Роднага да нігоднага?
Да нігоднага.
Роднага да нігоднага,

Парадачку да ні з годнага.
Да ні з годнага.
Парадачку да ні з годнага.
Ёсць каму піці-есці,
А некаму парадачку весці.
Ёсць каму весяліціся,
А некаму пажурыцісь.

Зялёная дубровухна,
Ды што ў цябе дуб'я мала,
Зялёнага ніводнага?
Ды некаму пашумець,
Дубровухну звесяліць.
Ды Ганначка-сіротанька,
Ды што ў цябе мамак многа,
А родненькай ніводнай,
І к сталу не прыходзяць?
Калі і прыносяць багаслаўленне,
Дык не ад шчырага серадзення:
Як дзіцятка няміла,
І багаслаўляюць няшчыра.

— Зялёная дубрpark,
Чаму ў цябе явараў многа,
Зялёнага да нігоднага,
Лісточка ні з годнага?
— Маладая дзевачка,
Чаму і ў цябе бацькоў многа,
Роднага да нігоднага,
Парадачкі ні з годнага?
Ёсць каму да піці-есці,
Да некаму да ладу весці.
Ёсць каму весяліціся,
Некаму пажурыціся.
— Дзевачкі мае сястрыцы,
Мой бацька пад трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — цісовая дошчачка.
— Зялёны дзярнок, адкідайся,
Жоўты пясок, адсыпайся,
Цісовая дошчачка, адчыняйся.

— Зялёна дуброванька,
Што ў цябе пянькоў многа?
— Што па іх, што іх многа?
Пасынка ніводнага.
— Маладая Волечка,
Што ў цябе бацькоў многа?
— Што па іх, што іх многа?
Парады ні з воднага:
Некаму парадзіці,
На пасад пасадзіці,
Да шлюбу правадзіці.

Чырвоная варыначка,
Каля цябе вароў многа,
Блізкага да ніводнага,
Табе ценю ні з годнага.
Маладая Манечка,
Кала цябе бацькоў многа,
Роднага да ніводнага,
Параданькі ні з годнага.
Ёсць каму піць да гуляці,
Няма каму парады даці.
Ёсць каму піць да есці,
Няма каму за стол сесці.

Ты, каліна чырвона,
Што на табе галля многа?
Зялёнага нігоднага,
Зацішша ніякага?
Ты, малада дзеванька,
Што ў цябе бацькоў многа,
Роднага нігоднага,
Прыхілля ніякага?

Яблыня-яблыніца,
Яблыня галяністая.
Яблыня галяністая,
Вяршына пазлацістая,

Як на табе яблык многа,
Віднога ды нігоднага.
Віднога ды нігоднага,
Саладосці ні з годнага.
Маладая Манечка,
Як у цябе бацькоў многа, —
Суджоныя да хрышчоныя,
Роднага ды нігоднага.
Роднага ды нігоднага,
Параданькі ні з годнага.
Ёсць каму ды піці-есці,
А некаму ды раду весці.
Ёсць каму ды напіціся,
Ды некаму пажурыціся.

Садавая яблынька,
Што ў цябе цвятоў многа?
Што ў цябе цвятоў многа,
Яблычка ніводнага?
Маладая Людачка,
Што ў цябе татак многа?
Што ў цябе татак многа,
Роднага ніводнага?
Да столу не падходзіць,
Благаславення не падносіць.

Да белая бярозачка,
Як у цябе пянькоў поўна,
Зялёнага ніводнага,
Зялёнага ніводнага,
Парастачка ніводнага.
Маладая Манечка,
Як у цябе мацярэй поўна,
Роднай ніводнай.
Ёсць каму піці-есці,
А некаму парадачку весці.
Ёсць каму ўпапіціся,
Да некаму пажурыціся.
Ёсць каму да пагуляці,
Да некаму парадачку даці.

У садзе галля шмат, шмат,
Зялёнага ды ніводнага.
У нашага маладога бацькоў многа,
Роднага ды ніводнага.
Ёсць каму піць, гуляць,
Ды няма каму ды парадзіць.
Ёсць каму ды весяліцца,
Ды няма каму пажурыцца.
Зажурыцца чужы ойчынка,
Ды нявернenькім слоўцам,
Ды няшчыранькім сэрцам.

## ВІДАЦЬ ПА ВЯСЕЛЛЮ, ШТО СІРОЧАЕ

Відаць па вяселлю,
Што сіроцкая свадзьба.
А відаць па Анечцы,
Што ў яе мамкі няма.
Каго нам наняці
За мамкай пасладі?
Наймем мы старога —
Старэнькі не дойдзець,
Наймем маладога —
Малады не пойдзець,
Наймем мы салавейку —
Нізка пралятаець.
Нізка пралятаець,
Да зямлі прыпадаець,
Маманьку гукаець.
— А паглядзі, маманька,
На сіроцкую свадзьбу:
Ці так саўраджана,
Ці так пасаджана?
— А так саўраджана,
А так пасаджана.

Цымбалы нягулкі
І скрыпка нязвонка.
І скрыпка нязвонка
Без роднага таткі.
Каго ж нам наняці,
Каго ж нам пасладі
За родненькім таткам?
Старога наняці, старога пасладі —
Няскора ён дайдзець.
Малога наняці, малога пасладі —
Няскора разбудзіць.
Салаўя наняці, салаўя пасладі
За родненькім таткам.

Салавей лятаець, галоўку прыкланяець,
Татку разбуджаець:
— А ўстань жа, татка,
Ай, ўстань жа, родны,
Надзялі дачушку.
Надзялі дачушку,
Добрым шчасцем, доляй,
Адпраў ў чужы людцы.
— Пускай надзяляюць,
Пускай адпраўляюць
Бліжнія суседзі і добрыя людзі.

Невясёлы дзень 2
Без яснага сонца, 2
Невясёлы пір 2
Без роднага папкі. 2
Каго ж мы наймём,
Каго ж мы пашлём
За родным за папкай. 2
Малога наняць,
Малога паслаць—
Няскора ён дойдзець. 2
Старога наняць,
Старога паслаць —
Не смее сказаць. 2
Давай мы наймём,
Давай мы пашлём
Сізога салавейку. 2
Салавей лятаець,
К зямлі прыпадаець,
Папку разбуджае: 2
— А ўстань, папанька,
А ўстань, родненькі,
Дзіця надзяляй. 2
— Грабовы дошкі
Сціснулі мне ножкі —
Не магу я ўстаць. 2
Жоўтыя пясочкі
Засыпалі вочкі —
Не магу праглянуць. 2
Пускай надзяляюць
Блізкія суседзі.

Відна па прыметам, *
Што ў Кацюшы папкі нету.
Каго нам наняці
За папкай злятаці?
Наймём салавейку
Ляцець у зямельку.
Салавей ляціць,
Ветру падымаіць,
Зямельку капаіць,
Папку разбуджаіць:
— Устань, устань, папка,
Дочку надзяляць,
Устань, устань, родны,
Доч благаславіць.
— Я б і рад устаці,
Галаву не ўзняці:
Крышкаю накрыта
І гвоздзікам забіта.
— Падайдзі, кросны ацец,
Надзялі дзецю,
Падайдзі, мілы,
Благаславі дачку.

Узнаць па бяседзе *
Сіроцкую свадзьбу.
Узнаць па прадмету,
Што ў Надзі папкі нету.
Каго нам наняці
За папкай пасланці?
Старога наняці —
Няскора даждаці.
Малога наняці —
Не зможыць пазваці.
Наймём салавейку,
Пашлём у зямельку.
Салавейка лятаіць,
К зямлі прыпадаіць,
Папку разбуджаіць.
— Устань, устань, папка,
Надзялі сваю дзіцяцю,
— Я бы рад устаці,

* Кожны радок паўтараецца.

Рук, ног не падняці.
Засыпаны глазкі
Жаўценькім пясочкам,
Грабовым дашчкам.

Каго ў нас нету ў гэтай бяседзе? *
Ай, нету ў нас, нету Таіскінага й таткі.
Без роднага таткі і пір невясёлы,
І скрыпкі нягулкі, цымбалы нязвонкі.
— Каго мне наняці, каго мне паслаці
За родненькім таткам?
Старога паслаці — старэнькі не дайдзіць,
Малога паслаці — малы не разбудзіць.
Малы не разбудзіць і ўсё не раскажыць.
— Дзіцятка, Таіска, схадзі-ка ў садочак,
Схадзі-ка ў садочак, наймі салавейку.
Салавей злятаець, к зямлі прыпадаець.
К зямлі прыпадаець, татку пабужаець:
— Устань, родны татка, дзіця надзяляці.
— Я ж ба рад ба ўстаці — галоўкі не ўзняці.
Збіты мае косткі грабавой дасочкай,
Звязана ж галоўка белым палаценцам,
Засыпаны глазкі жоўценькім пясочкам,
Пускай надзяляюць дый добрыя людзі,
Пускай бласлаўляюць бліжнія суседзі.

Няўжо бог не бача,
Як сіротачка плача?
Як плача дый прычытвае,
Што нязродны бацька аддае,
Няродная маці выраджае,
Не ўвесь род збірае.
Есць каму піці і гуляці,
А некаму вернага славечка сказаці.
Няма мае роднае сястрыцы,
Няма мае парадніцы,
Не з кім мне парадзіцца.

* Кожны радок паўтараецца.

Чуй, божа, чуй,
Што сіротанька плача
Ці па бацьку, ці па матцы,
Ці па сваей горкай долі?
Чуй, божа, чуй.
Плач, малада, плач,
Плач, не ўнімайся,
На татачку не спадзявайся.
Плач, малада, плач.
Плач, малада, плач,
Што не татачка выдае,
Невялікі пасаг дае.
Плач, малада, плач.
Плач, малада, плач,
Што ёсць каму піці-есці,
Да нет каму парадачку весці.
Плач, малада, плач.

Свяціў месяц усю ноч да свету,
Да не мог заранiцы да перасвяціці,
Дробных зорачак да пералічыці.
Да гралі музыкі ўсю ноч да свету,
Да не маглі дзеванькі развесяліці.
— Як мне, маладзенькай, быці весяленькай,
Што мой бацюшка па двару не ходзіць,
Па двару не ходзіць, у бога долі не просіць.
Да шлюбу еду, да не выпраўляе,
Са шлюбу еду, да не сустрачае,
Да мяне, маладой, да не прывітае.

Да свеціць месячык, свеціць пад паўноч,
Не мусіць да зараніцы ды перасвяціці,
Дробных гвяздак ды пералічыці.
Гралі музычкі ўсю ноч, пад паўноч,
Не мусілі Казілька да развесяліці.
— Да музычанькі вы мае, не грайце вы мне,
Бо маё сэрданька на чэцвера рвецца,
Што не мой ойчанька каля мяне ўецца.
Да некаму мне раданькі парадзіць
І на пасадзе пасадзіць.

Да скацілася сляза
Да ў малойчыка з ліца,
Да ўпала на магілку,
Да прабіла далінку.
Да пашла сляза,
Зялёны мурог прабіваючы
І жоўты пясок прамываючы,
Ойца-матку пабуджаючы:
— Устань, ойцец, раду радзіць,
Да вяселля спаранджаць,
Да шлюбу выпраўляць.

Ды чыя гэта слёзачка
Край мора да кацілася,
Жоўты жвір прамываючы,
Белы крамянец прабіваючы,
Свайго бацюшка да шукаючы?
То ж маладой дзевачкі гэтая слёзанька
Край мора да кацілася,
Жоўты жвір прамываючы,
Белы крамянец прабіваючы,
Роднага бацюшка да шукаючы.

А чыя ж гэта слёзачка
Па стале пакацілася
Да на зямліцу ўпала,
Зямліцу да прабівала,
Роднае мамкі шукала?
Маладое Манечкі слёзачка
Па стале пакацілася
Да на зямліцу ўпала,
Зямліцу да прабівала,
Роднае мамкі шукала.
— Устань, родная мамка,
Прыйдзі ка мне на маё вяселле,
На маё вяселле да на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, роднае:
Жоўты пясочак мяне заціскае,
Зямная дошка мяне не пускае.

Марысіна слёзачка ды па стале kaцілася,
Ды на землю зваліласн,
Зямліцу прабівала,
Матачку выклікала:
— Прашу цябе, матачка, на вяселлейка,
На вяселлейка ды на сірочае,
Сірочае ды дзявочае.
Ёсць каму піці да гуляці,
Некаму ды рады даці.
Ёсць каму ды весяліціся,
Ды некаму ды зажурыціся.
Зажурыцца ды матачка,
Ды не з верным слоўцам,
Ды не з шчырым сэрцам.

Стаіць яблынька пасярод саду.
З яе аблычкі раскаціліся,
Некаму падабраці.
Стаіць сірата пасярод двара.
Яе вочкі заплаканы,
А некаму ўнімаці:
Ні таткі з раю, ні мамкі з краю,
Ні радзіны з Украіны.
Пашлю салаўя на Ўкраіначку
Па сваю радзіначку.
Шчэ салавейка не далятае,
Ужо мамачка прамаўляе:
— Чаго, салавей, чаго, маленькі,
Так рана прылятаеш?
— Прыслала мяне дзіцятка твае
На вяселлейка зваці.
— Яно прыслала, а я адсылаю:
Не магу я ўстаці,
Не магу я ўстаці к свайму дзіцяці,
Падарачак даці:
Сыра зямля на грудзь налягла,
Пясок насыпаўся.

Зацвіцеў мачок сіротаньцы,
Нет каму сашчыпнуці.
Сядзіць Марылька да і за столікам,

Нет каму разжаліці.
Пашлём зязюлю, пашлём рабую
Да й у бор па татулю,
Да й у бор па роднага,
А салавеечку на Ўкраіначку
Да й па ўсю дружыначку,
Да й па ўсю бяседу.
Зязюля ляціць, громка кукуе,
Татуля не пачуе, родны не чуе.
— Нямыя дошкі сціснулі ножкі — не ўстану,
Жоўты пясок засыпаў вочкі — не гляну.
Гуляй, гуляй, родны сыночак, без мяне,
Няхай табе бог шчасце-долю дае.

Чаму ты, Марцэлька, не плачаш?
Чы ты таго не знаеш,
Што тваё вяселле сягоння?
Радзімачкі многа маеш,
А татулькі роднага не маеш.
Есці-піці ёсць каму,
А парадачкі парадзіці няма каму.
Каго ж тут ababраці
На той свет па татульку пасланi?
Зязюлечку, шэрую птушачку,
Па радзімачку пасланi,
А салавеюшку, шчабятлівую птушачку,
Па татушку пасланi.
Зязюлька ляціць — радзімачка едзе,
Хвала табе, божа.
Салавеюшка ляціць — татулькі няма,
Ах, мой моцны божа.

Плача дзевачка-сіраціначка, *
Што не ўся радзіначка.
А двор вялікі, збор невялікі,
Роднае мамкі няма.
Пашлю салавейку на Ўкраіначку
Па сваю радзіначку.
Салавейка ляціць, не далятае,

* Кожны радок паўтараецца.

Мамачка адказуе:
— Рада б я ўстаці к свайму дзіцяці
І парадачак даці:
Сасновы дошкі сціснулі ножкі —
Ножачак не падняці,
Белы камянёк у галовачкі —
Галоўкі не падняць.

— А не вейце, буйныя ветры, з даліны,
А павейце, буйныя ветры, з узгор'я.
Ды падыміце майго татку з дамоўкі.
Ды няхай ён хоць часіначку пастаіць,
Ды няхай ён мяне, сіротку, паглядзіць.
Выйшла сіротка за вароцечкі плачучы:
— Ты мяне, мамка, далёка замуж аддаеш,
Якая мая будзе долечка — не знаеш.
Можа, я буду, сіротачка, гараваць,
Будзе мяне радзінка абмінаць.

Ярая рутанька, жоўты цвет.
— Гдзесь у цябе, Галенка, бацькі нет.
— Быў у мяне баценька ізмалу,
Налынулі анголы з раю
І ўзялі баценьку з сабою.
Мяне пакінулі сіратою,
Ой, маю матаньку ўдавою.

Да плакала дзевачка ў святліцы,
Прылажыўшы галоўку к зямліцы:
— Бедна ж мая галоўка ў квеце,
Няма ж мае матачкі на свеце.
Бедна ж мая галоўка ў вяночку,
Няма ж мае матачкі ў радочку.
Прыслаў бог анёлы із неба,
Ўзялі маю матачку як трэба.
Да прыслаў анёлы з свяцою,
Ўзялі маю матачку з сабою.

Кукавала зязюля ў барочку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку,
А ў яе пташкі пытаюць:
— Чаго ж ты, зязюля, так кукуеш?
— А як жа ж мне, пташачкі, не кукаваць?
Было ў мяне гняздзечка звітое,
Было ў мяне яечка знясёна,
Адкуль узяўся сізы арол,
Ножкамі гняздзечка раскапаў,
Дзюбачкай яечка раздзяўбаў.
Плакала Верачка ў святліцы,
Прылажыўшы галоўку к бажніцы,
А ў яе дзевачкі пытаюць:
— Чаго ж ты, Верачка, так плачаш?
— Як жа мне, дзевачкі, не плакаць?
Была ў мяне матухна, а цяпер нет.
Прыляцелі ангелы ад бога,
Узялі ў мяне матухну з сабою,
Пакінулі моладу сірату.

Кукавала зязюля ў садочку, *
Прыклаўшы галоўку к лісточку.
А ў яе пташачкі пыталі:
— А чаго ж ты кукуеш, зязюля,
Ці ў цябе, зязюля, дзетак нет?
— Былі ў мяне дзетачкі — цяпер нет,
Прыляцелі арлоўя з-за мор'я,
Узялі маіх дзетачак з сабою,
Кінулі мяне сіратою.
Плакала Надзенька ў святліцы,
Прыклаўшы галоўку к бажніцы,
А ў яе дзевачкі пыталі:
— А чаго ж ты плачаш, Надзенька,
Ці ў цябе, Надзенька, мамкі нет?
— Была ў мяне маманька — цяпер нет.
Прыляцелі ангелкі ад бога,
Узялі маю маманьку з сабою,
Кінулі мяне адною,
А ўсё горкаю сіратою.

* Кожны радок паўтараецца.

Упала зязюля на новыя вароты,
Заплакала млода дзяўчына за столікам.
Знаць зязюлю па каванейку,
Што ў яе дзяток няма,
Знаць дзяўчыну, знаць па вяселлейку яе,
Што ў яе бацькоў няма.

Чаго сядзіш, што думаеш, Зузанка,
Чаго сядзіш, чаму не плачаш, малада?
Ужо ж твая галованька ў квеце,
А няма ж тваей роднай мамкі на свеце.

— Не плач, Ніначка, не плач, малада,
Ужо твае сваты едуць.
— Няхай не едуць, не ўязджаюць
На маё падвор'ейка,
Няхай пастаяць, няхай паглядзяць
На маё бяздоллейка.
Каго мне пазнаць, каго мне паслаць
На Украіну па радзіну?
Зязюльку пазнаць, зязюльку паслаць
На Украіну па радзіну,
Салавеечку-дробну пташачку
Па роднага татачку.
Зязюлька ляціць — госцікі едуць,
Да хвала табе, божа.
Салавейка пяець — татачка не ўстаець,
Ах, мой татулечка родны.

Невясёлы дзень, невясёлы дзень
Без краснага сон[ца]. *

Невясёлы пір, невясёлы пір
Без родненькай мам[кі].

Некага наняць, некага паслаць
За родненькай мам[кай].

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

А я і найму, а я і пашлю
Шэрую зязю[лю].

Шэра зязюля, шэра зязюля
Ціханька куку[іць].

Ціханька кукуіць, ціханька кукуіць,
Мая мамка не ўчу[іць].

А я і найму, а я і найму
Дробнага салавей[ку].

Дробны салавейка, дробны салавейка,
Ён жаласна свіш[чыць].

Ён жаласна свішчыць, ён жаласна свішчыць,
Маю мамку ён сыйш[чыць].

— Ці ў цябе, рэчачка, берагоў няма, *
Што твая вадзіца разліваецца,
Што твая рыбанька разбіваецца?
— Каб у мяне, ў рэчачкі, беражкі былі,
Мая б вадзіца не разлівалася,
Мая б рыбачка не разбівалася.
— Ці ў цябе, Анечка, мамкі нетуці,
Што твае столікі не засланыя,
Што твае госцікі не сабраныя?
— Каб у мяне, маладой, мамка была,
Былі б мае столікі ўсе засланыя,
Былі б мае госцікі ўсе сабраныя.

Каб у лугу, каб у лугу,
Ды крынічанька была б у лугу,
Была б у лугу, } 2
Ды вадзічанька была б у лугу. } 2
Каб у цябе, каб у цябе
Ды, Марылечка, родны татачка —
Былі б госцікі ды зазваныя,
Былі б у цябе, былі б у цябе
Ды і чарачкі наліваныя.

* Кожны радок паўтараецца.

Быстрынькая рэчка без берагоў.
Каб гэтай рэчачцы беражкі,
Быстрэй бы рэчкі не было.
Разумная Жэнечка без таткі.
Каб гэтай Жэнечцы ды татулька,
Разумней бы дзеўкі не было,
Болей бы розуму прыбыло.

У быстрай рэчаньцы берагоў нету.
Каб у яе круты беражкі,
Не так бы вадзіца разлівалася,
Не так бы рыбанька разбягалася.
У нашай Палагейкі таткі нету.
Каб у яе родны татулька,
Не так бы сэрцайка завіхалася,
Не так бы слёзачкі разліваліся.

Калі б былі Дзвіны-ракі круты берагі,
Не так бы Дзвіна-рака разлівалася,
Па крутым беражкам расплывалася.
Калі б быў у Ганулі родны татунька,
Не так бы Гануля слёзна плакала,
Не так бы свадзьба яе сураджана была,
Не столькі гарэлкі панабрана было,
Не столькі півушка панаварана,
Не столькі пірагоў панапечана,
Не столькі госцейкаў паназвана.

— Рэчанька быстрая, што ціха стаіш?
— Як жа мне, рэчаньцы, ціхай не стаяць?
Нет у мяне, нет у мяне крутых беражкоў,
Негдзе мне, негдзе мне, рэчаньцы, разліціся.
— Малада Тацянка, што смутна сядзіш?
— Як жа мне, маладзе, смутнай не быць?
Нет у мяне, нет у мяне роднага татанькі,
Некаму мяне, некаму мяне паблагаславіці.
Лепей было мне, маладзе, не кахаціся,
Чым цяпер, чым цяпер з таткам расставаціся.
Лепей было мне, маладзе, не радзіціся,
Чым цяпер, чым цяпер з таткам разлучыціся.

А ты ж мая чорная смародзінка,
Ты ж мая горкая сірацінка.
На чорнай смародзіне ягад нет,
А ў нашай Манечкі маткі нет.
Хоць ёсць матушка, ды няродная.
Блізенька да століку не падходзіць,
Вернага славечка не гаворыць.
Хоць падыдзець, ды не блізенька,
Хоць скажыць слованька, ды не вернае.
Поўныя кубачкі не наліваець,
Хоць наліваець, ды не поўныя.

Чорная ягадка смародзінка, чорная,
А ў чорнай ягады цвету нету, а ў чорнай.
Хоць і ёсць цвяточак, ды не красненькі, хоць і ёсць.
А горкая сірата Галінушка, горкая,
А ў горкай сіраты мамкі нету, а ў горкай.
Хоць і ёсць мамухна, ды не родная, хоць і ёсць.
Не прыйдзець к століку блізёшанька, не прыйдзець,
Не скажыць славечка вярнёшанька, не скажыць.
Хоць прыйдзець к століку, ды не блізенька, хоць прыйдзець,
Хоць скажыць славечка, ды не верненька, хоць скажыць.

Чорная смарода к зямлі гнецца, *
Маладая Людачка слязьмі льецца.
У чорнай смароды цвету нету,
У маладой Людачкі папкі нету.
Чорную смароду ўзніміце,
Маладую Людачку ўніміце.
Чорная смарода не ўзнімаецца,
Маладая Людачка не ўнімаецца.

А плач, плач, Манютка, не ўнімайся, *
Як быстра рэчанька, разлівайся.
А ў быстрай рэчаньцы беражочкаў нет,
А ў нашай Манечкі роднай мамкі нет.
А хоць ёсць маць, ды няродная,

* Кожны радок паўтараецца.

Не прыйдзець к століку блізёханька,
Не склоніць галоўку нізёханька,
Не скажыць славечка вярнёханька.
А хоць ёсць маць, ды няродная,
Хоць прыйдзець к століку, ды не блізёханька,
Хоць склоніць галоўку, ды не нізёханька,
Хоць скажыць славечка, ды не вернае.

Да сіротка наша Галечка, *
Да няма ў яе мамачкі.
А каб у яе мамка была,
Да не так бы яна плакала,
Гарачыя слёзачкі раніла,
Белае лічанька сцірала.
— Галоўка мая ў вяночку,
Няма мае мамачкі ў радочку,
Галоўка мая ў цвеце,
Няма мае мамачкі на свеце.

— Сядзь сабе, дзевачка, ды пасядзі,
Адкрый акенца ды паглядзі,
Чаму тваё надвор'е хмурнае,
Чаму тваё застолле смутнае.
— Хмурнае маё надвор'е, бо дождж ідзе,
Смутнае маё застолле, — мамкі не мае.

— Сені мае, сені новыя,
Да зачым вы невясёлыя?
— Як жа нам вясёлым быць,
Сіротка замуж ідзець:
Не бацюшка аддаець,
Не матушка кубел кладзець.
Аддаець чужая чужына,
Не свая радзіна.

* Кожны радок паўтараецца.

Ай, кукуець зязюлечка ў садзе,
Наша Ніначка дужа ў вялікай дасадзе,
Што не ўся яе радзіначка ў хаце.
Настала ей дужа томная гадзіна,
Як нету татулькі, дык забылася й радзіна.
— Я сама знаю, у гэтай бяседзе абідна,
І нігдзе ж майго татулечкі не відна.

— Як табе, дзевачка, не цяжка,
Што не бацькі цябе аддаюць?
Аддаюць цябе суседзі
За тваe ціхія паходы,
За тваe нізкія паклоны,
Што ты ціхенька хадзіла
Да нізенька галовачку кланіла.
— Бедная мая галовачка ў вяночку,
Няма маіх бацькоў у радочку.

Відзім цябе, Ніначка, па вяселлейку, *
Што цябе няродна мамка аддаець,
Што й ніхто к століку не падходзіць,
Ні хлеба, ні солі не падносіць,
Вернага словечка не гаворыць.
Хоць прыйдзець, не прыйдзець — усё чужынка,
Хоць скажыць словечка — ўсё нявернае.

— Для чаго ў цябе, Іванка,
Так радзінанькі нямнога,
Што некаму стаці ў канец стола,
Папрасіці госпада бога,
Штоб жа, табе добрая доля
— Ой, е ў мяне радзіна,
Мой родны бацюхна.
Ён стане ў канец стола,
Папросіць госпада бога,
Штоб жа мне добрая доля.

---

* Кожны радок паўтараецца.

А знаць салаўя па лятаннечку,
Што нізенька лятае,
А знаць Светачку па вяселлейку,
Што не мамка спраўляе.
Татка далёка, ў зямлі глыбока,
На благаславенне не прыйдзе,
Мамка далёка, ў зямлі глыбока,
На падаркі не прыйдзе.

Ой, цяжка знаці,
Што чужая маці.
Чаму ж яна не выйдзе
Да дзяцей прымаці?
Хоць яна выйдзе,
Да няміла гляне,
Да няшчыра прыме.
Бадай тая сірата
Да не радзілася,
Каб чужая, каб матка
Над ей не глумілася.

Ой, знаці, знаці,
Што нядродна маці —
Доўга не выходзіць
Ды дзяцей прымаці.
Ці яна не ўмее,
Ці яна не смее,
Ці не хоча глядзеці,
Што чужыя дзеці?

Ай, знаці, знаці па вяселлейку,
Што нядродная маці.
Каб родная маці,— за вароты б выйшла,
За вароты б выйшла, дзіця ўстрэла.
Пад пашкі ўзяла і ў хатачку ўвяла,
За стол пасадзіла б, віном угасціла.

Садовая яблынька, што ў цябе кветак многа,
А яблычка ніводнага?
Далоўкі не валяцца, па зямлі не кацяцца.

Ганначка, што ў цябе радні многа, роднага — аніводнага.
Да століка не падходзяць, падарачкі не падносяць.
Браціткі-падкоснічкі, нясіце чырвончыкі,
Сястрыцы-баярачкі, нясіце рукавічкі.
І дзе ж тая радня падзявалася?
Па цёмных кутох пахавалася.
Піць-есць ёсць каму, а даравадь — некаму.

Знаці, дзеванька, што сіратою,
Знаці, молада, што сіратою.
Няма баценькі да перапою,
Няма роднага да перапою.
Некаму й даравані, *
Шчасця і долі прахаці.
Не дорадь далярамі,
Ды дорадь шылягамі.

Чорная ягада смародзінка,
У чорнай ягады цвету нету.
Вечная Галечка сіротка,
У нашай Галечкі таткі нету.
Блізенька к століку не прыходзіць,
Вешнага падарка не прыносіць.
Вешныя падаркі — хлеба-солі,
Залатое серабро і ўсё дабро.

— Ай, сядзь, сядзь, Зіначка, раздумайся, **
Ці ўся твая радзіна сабралася?
— Ой, нет маёй роднай мамачкі.
Казалі, ў Дунаі вады многа,
Як сталі выпіваць — нет нічога.
Дзе ж тая вадзіца падзявалася?
Па канаўкам, па ручайкам паразлівалася.
Казалі, ў Зіначкі радні многа,
Як сталі надзяляць — нет нікога.

---

* Кожны наступны радок паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

А дзе ж тая радзіна падзявалася?
Па цёмным куточкам пахавалася.
Цётачкі, дзядзечкі, сабірайцеся,
Будзем жа Зіначку надзяляці.

— Няшчасце тваё, нядоля твая, Танечка, *
Не йдзець цябе родны татачка дарыці,
Не хоча табе шчасця-долі ўлажыці.
— А хоць хочыць, хоць не хочыць — не ўложыць,
Хіба бога высокага папросіць.

Няшчасце тваё, нядоля твая, Колечка,
Што не прыйшоў твой татачка дарыць,
Не хоча табе шчасце-долечку лажыць.
А напішы звонкае пісьмо да яго,
Папрасі шэру зязюлю, хай нясе,
Хай яна ў роўным полі кукуе,
Можа, татачка, можа, родненькі пачуе.

Нядоля твая, няшчасце тваё, Ядзечка,
Не йдзець цябе твая мамачка дарыці,
Не хочыць табе шчасця-долі ўлажыці.
Яна ляжыць у сырой зямлі, у жоўтым пяску глыбока,
Яна ж твайго вяселлейка не чуіць,
Яна ж тваіх дробных слёзачак не ўшчуніць.

Да ў нас сягоння да боскае ўскрасенне, *
Начынаецца сіротчына вяселле.
Яна просіць родну матульку на ўспамажэнне:
— Матулька родна, спаможы мяне, маладу.
— Няхай цябе сам гаспод бог спаможыць,
Перад табою долю-шчасце паложыць.

Дарыце сіротаньку,
Бо паедзе ў дарожаньку,
Дарыце вы яе,
Бо няма бацькі ў яе.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Знатка, знатка па вяселлейку,
Што сіроцкая свадзьба,
Сталы засланы, госці сазваны,
Парадачку нету.
І скрыпкі не звонкі, і дудкі не гулкі,
І бяседа невясёла.
Наша Анечка маладзенькая
Сіроткай пасаджона.
Анечка сядзіць, сільненька плачыць,
Сваю мамку просіць:
— Мамулька мая, зязюлька мая,
Надзялі мяне шчырусенька.
— Дачушка мая, зязюлька мая.
Я і так надзяляю,
Я і так благаслаўляю,
Я надзяляю і благаслаўляю,
А аб долі не ўгадаю.

Па чом знаці сіроцкае вяселле? *
Па том знаці, што дзевачкі не пяюць,
Па том знаці, што і скрыпачкі не йграюць,
Па том знаці, што няма каму баславіць.

Па чым пазнаць сіроцкае вяселле?
Ні скрыпачкі, ні дудачкі не йграюць,
Ні дзевачкі, ні жоначкі не пяюць,
Млода Галенка вясёласці не маіць,
Яна сваёй роднай мамкі шукаіць.

Пазнаць садзе па даглядзе,
Што некаму даглядаці:
Па ім яблычкі раскаціўшыся —
Некаму пазбіраці.
Пазнаці Анечку па вяселлейку,
Што без роднага таткі:
Піва не п'яна, мёд не салодак,
Вяселле невясёлае.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Па чым пазнаць сіроцкае вяселле?
А скрыпачкі і дудачкі граюць,
Сіротачка вясёласці не маець.
Сіротачка на магільнічках хадзіла,
Цераз магілку чорную сцежку біла,
Яна сваю родную мамку будзіла:
— Устань, ўстань, мая мамачка, не ляжы
І хаця ж бы мне гэту ночачку памажы.
— А йдзі сабе, маё дзіцятка, дахаткі,
Навадзі там парадкі без маткі.
Не ўстану, маё дзіцятка, не магу,
Збудавалі цёмную хатку, не выйду,
Не прасеклі на вярхочку аконца,
Не засвеціць ясен месячык, ні сонца.

Но па чым пазнаці —
Па вяселлейку
Сіроцкую свадзьбу.
Дудкі нягудкі,
Скрыпкі нязвонкі,
Вяселля невясёла.
Некага паслаць,
Некага наняць
На тэй свет
Па матку.
Мы наймём,
Мы пашлём
Шэрую зязюлю
На тэй свет
Па матку.
Шэрая зязюля
Не далятаіць,
А матушка пра то знаіць.
— Рада б я ўстаці
К сваяму дзіцяці
Парадачку даці:
Грабавыя дошкі
Сціснулі ножкі —
Не магу я ўстаці,
Белыя рукі
У хрэст злажоны,

К сэрцу прылажоны,
Ясныя глазкі
Засыпалі пяскі.

Можна пазнаці *
Па вяселлейку,
Што нерадная маці.
Піва не п'яна,
Мёд несалодкі
І гарэлка нягорка.
Гарэлка нягорка,
Скрыпка нязвонка,
Вяселле невясяло.
Каго мы наймём,
Каго мы пашлём
Да за радною матушкай?
Пашлём, не пашлём
Салавеюшку
Да за радною матушкай.
Салавей малы —
Не далётуець,
Матушка сама знаець.
— Гуляй, дзіцятка,
Гуляй, роднае,
Вяселлейка без мяне.
Рада бы я ўстаці
К свайму дзіцяці
Да парадачку даці:
Грабавыя дошкі
Сціснулі ножкі —
Не магу працягнуці.
Маць сыра зямля
К грудзям прылягла —
Не магу прадыхнуці.
Жоўтыя пяскі
Сыплюцца ў глазкі —
Не магу праглянуці.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Знаці Марысю, знаці маладзеньку,
Што не баценька аддае:
Яе стол нізенькі,
І чаша мёду не паўненька,
І радзіна не ўсенька.

А знаць салаўя па палёту,
Што нізка лятаець,
А дзевачку па вяселлейку,
Што мамка спраўляець.
Стаяць столікі незасціланы,
Есць мамка засцілаць.
Стаяць кубкі неналітыя,
Няма таткі наліваць.

Ляцііць, ляцііць да й белая лябёдка,*
Да й знаць па ўсім, што Надзечка сіротка.
Некаму ў яе кала століка пахадзіць,
Некаму ў яе парадачкі павадзіць.
— Есць у мяне большы брацітка за мяне.
Ён жа ж у мяне кала століка паходзіць,
Ён жа ж у мяне парадачкі паводзіць.

А знаць па піру, відаць па піру
Сіроцкае вяселле.**
І двор не мяцён, і пір невясёл,
Сіроцкае вяселле.
Сталы засланы, госці склікаиы,
Парадачку нет.
Каму загадаць, каго ж пасласць
Па родную мамку?
— А ты, Ганначка, а ты, дзеванька,
Ты пашлі саколіка.
Ён высока лятае, да зямлі прыпадае,
Маманьку прабуджае.
— Устань, маманька, устань, родная,

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожны цотны радок паўтараецца

Благаславі дачушку сваю.
— Ой, рада бы ўстаці, сваму дзіцяці
Параданьку даці:
Сырая зямля на грудзі залягла —
Не магу прадыхнуць.
Жоўтыя пясочкі засыпалі вочкі —
Не магу прагляпуць.
Жалезны цвечкі сціснулі плечкі —
Не магу пакрануць.
Дубовыя дошкі сціснулі ножкі —
Не магу ўстаць.
Не магу ўстаць к свайму дзіцяці,
Благаславенства даці.

Знаць па ўсім Раечку, што сіротачка,*
А ў яе на дварэ ні зязюлечкі,
А ў яе пры стале ні мамулечкі.
А ў яе на дварэ дробныя пташкі,
А ў яе пры стале чужыя мамкі.

Ой, па чым пазнаць, што Ніначка сіроцейка?
Яе двор вялікі.
Яе двор вялікі, збор невялікі,
Да не ўся яе радзіма.
Ой, каго паслаць, ой, каго паслаць
У краіну па радзіну?
Ой, каго паслаць, ой, каго паслаць
На той свет па война́ньку?
Зязюлю паслаць, зязюлю паслаць
У краіну па радзіну.
Салавейчыка-шчабятушчыка
На той свет па войчаньку.
Зязюля ляціць — радзіма едзе,
Хвала табе, божа.
Салавей ляціць — ойчулька няма,
Ох, мой моцны божа.
— Ах ты, салавей, ах ты, шчабятун,
Да не ўмеў шчабятаць,

* Кожны радок паўтараецца.

Майго войчаньку, майго роднага
Да мяне выклікаць.
— Да я й шчабятаў, да я й выклікаў,
Да ніяк не выклікаў:
Сырая зямля дзверы залягла,
Акеначкі зачыніла,
Твайго войчуньку, твайго роднага
Да цябе не пусціла.

Ой, знаці, знаці па вяселлейку,
Што дзевачка сіротачка.
Новыя сені, не ўсе паселі,
Няма яе радзіначкі.
Новая хата не ўся ў парадку,
Няма яе мамачкі.
Пашлі, дзевачка, шэрую зязюльку
Па родную мамачку,
А салавейку на Украіначку
Па сваю радзімачку.
Салавей ідзе — радзінку вядзе,
Вот хвала табе, божа.
Зязюлька ляціць — мамачкі няма,
Вот, мой моцненькі божа.

Знаці Манечку па паходаньку,
Што яна сіротанька.
Па паходаньку, і па роданьку,
І па яе лічань[ку].

Дварок навянёк, гасцей паўнянёк,
Матанькі ніводнае.
Пашлю сокала з яснага неба,
Ўжо мне матанька трэб[а].

Пашлю сокала з яснага неба,
Ўжо мне матанька трэба,
А зазуленьку на Украінаньку
Па сваю радзінань[ку].

Яшчэ саколік не далятае,
Радзіна прыбывае.
Зазуля ляціць, громка кукуе,
А матанька не чу[е].

Знаці маладзенька,
Знаці маладзенька,
Ой, што ты сіротанька.
Шырокі двор,
А малы збор,
Тут твайго роду мала.
Пашлі салаўя на Украіначьку
Па сваю радзіманьку,
Па роднага баценька.
Салавей злятаў,
Радзіму сыскаў —
Роднага бацька няма:
Сырая зямля
Ручкі прыняла,
Акенца засланіла,
Да сваго дзіцяця
Да й да роднага
На вяселле не пусціла.

Ах, знаць, знаць па вяселлейку,
Што не бацюшка аддаець.
Двор вялікі, а збор невялікі,
Нет у мяне радзінушкі.
Ой, сашлю-пашлю шэру зязюльку
Па радзінушку.
Зязюлька ляціць — радзіна едзець.
Ах, паслала б я саловеньку,
Да саловушка адказываець.
Ах, паслала б я зязюльку
Па свайго татульку,
Да за родненькім бацькам.
Шэрая зязюлька не прылятаець,
А татулька адмаўляець:
— Рад бы я ўстаці к свайму дзіцяці
І парадушку даці:

Грабавыя дошкі сціснулі ножкі —
Да не магу я ўстаці.
Сырая зямля дзверцы залягла
І акошачка засланіла,
Майго бацюшку на вяселлейка не пусціла.

Ой, знаці, знаці па вяселлейку,
Што дзеванька сіротанька.
Хоць двор вялікі,
Збор невялікі,
Не ўся яе радзімачка.
Некага наняць,
Некага пасдаць
На той свет да па матачку.
Ой, да найму ж я,
Ой, да пашлю ж я
Да сівую зязюлечку.
Сіва зязюля не далятае,
Мая матка усё знае.
— Устань, міла маці,
К свайму дзіцяці
Крыжычак свой даці.
— Не магу я ўстаці
К свайму дзіцяці
Ні парадачку даці.
Няхай жа радзяць
Добрыя людзі
І на пасадзе садзяць.
Сырая зямля
Дзверы залягла,
Акошачкі засланіла,
К свайму дзіцяці
На вяселлейка не пусціла.

Ой, па чом пазнаць красну дзевачку,
Што яна сірацінаʔ
Двор невялік і збор невялік,
Не ўся яе радзіна.
Няма радзіны і палавіны,
Няма роднага таткі.

Ой, пашлю, пашлю салавейку
На той свет па татачку,
А зязюлечку на Ўкраіначку
Па яго радзіначку.
Салавей ляціць, не далятае,
Родненькі ўсё ведае:
— Рад бы я ўстаці к свайму дзіцяці
Ды парадачак даці:
Грабовы дошкі сціснулі ножкі —
Не магу шавяльнуці.
Сыра маць-зямля дзверы залягла,
Акошкі засыпала.
Ні салаўя з гаю, ні таткі з раю,
Ні радзіны з Украіны.

І не йдзець, не йдзець цябе мамачка дарыці,
Не хоча табе шчасця-долі ўлажыці.
І па чым пазнаці па вяселлейку,
Што не мамка спраўляе?
Госці сабраны, сталы засланы, а парадку нет.
— А пашлі, пашлі, Зіначка, зязюлечку
Па сваю матулечку.
І зязюлечка ледзь далятае,
А мамка ўжо прамаўляе:
— Ай, не шлі, не шлі зязюлечку
Па сваю матулечку,
Бо я не прыбуду:
Жоўты пясочак залажыў насочак —
Не магу ўстаць,
Залаты замочак мне закрыў раточак —
Не магу адгукнуцца,
Шэра камення па баках ляжыць —
Не магу крануціся.

Ай, знаць па Юзенькі вяселлю,
Што не мамка аддаець.
Хоць вялікі двор,
Да не ўвесь збор
І не ўся яе радзіначка.
Нігдзе не чуваць,

Нігдзе не відаць
Да яе матулечкі.
— Пашлі, Юзэпка, хоць салавейка
Да па родную мамульку.
Ой, салавейка скорая пташка,
Ён скора лятаець,
Скора лятаець,
К зямлі прылягаець,
Матульку пабуджаець.
— Да ўстань, матулька,
Да ўстань, родненька,
Да к свайму дзетухну,
Да часок параданькі дай.
Хоць ты пасядзі,
Хоць ты паглядзі,
Дзіцятка благаславі.
— Рада б я ўстаці
К свайму дзіцяці
Да й раду даці:
Цісовыя дошкі сціснулі ножкі —
Нельзя мне павярнуцца,
Жоўты пясочак залёг насочак —
Нельзя мне прадыхнуці,
Сырая зямелька дзверы залягла
І аконца засланіла.
Да ты парадзь,
Да ты паглядзь,
Сам божухна.
Да ты падары,
Да й благаславі
Маё дзетухна.
А я ў няволі,
Не маю волі
Яе благаславіці.

Вот знаць, Манечка, знаць, маладзенька,
Па твайму вяселлейку.*
І цётушкі ёсць, і дзядзюшкі ёсць,
Роднага таткі няма.
— Пашлі, Манечка, хоць салавейку
Па роднага татульку.

* Кожны цотны радок паўтараецца.

А салавей дробная пташка,
Ранняя шчабятушка,
Нізка лятаець, жалка спяваець,
Татульку пабуджаець:
—Ўстань, татулька, ўстань, родненькі,
Хоць да свайго дзіцяці.
— Не магу ўстаці да свайго дзіцяці,
Не магу рады даці:
Сырая зямля, зялён дзераночак —
Не магу ручак узняці.

Ой, значна, значна па вяселлейку,
Што сіроцкае вяселле.
Хата багата, расход вялікі,
Да параданьку нету.
Хоць вялікі двор, не ўвесь прыбор,
Калі матухны нету.
— Да ты, Таццянка, ты маладзенька,
Наймі салавейку, скорую пташку,
Злятаць па мамухну.
Салавей лятаіць, к зямлі прыпадаіць,
Мамухну пабуджаіць:
— Ўстань, мамухна, ўстань, родная,
Свайму дзіцяці благаслаўленька даці:
— Чорная смага на губах пала —
Не магу прагукаці,
Жоўтыя пясочкі засыпалі вочкі —
Не магу прагляпуці,
Сырая зямля на сэрца лягла —
Не магу прадыхнуці,
Дубовыя дошкі сціснулі ножкі —
Не магу пахадзіці,
Дубовыя цвечкі сціснулі плечкі —
Не магу ўстаці.
З богам, Таццянка, з богам, дзіцятка,
Бог цябе благаславіць.
Бог табе ў саду, бог на параду,
Прачыстая матка.
Бог цябе благаславіць, добрыя людзі,
Блізкія суседзі.

12. Зак. 555

А знаць Зiначку па вяселлейку
Не татка аддаець,*
Сталы засланы, госцi сабраны,
А парадачку нету.
— Пашлi, Зiначка, салавеечку,
Па роднага татулечку.
Салавеечка, шэрая пташка,
Ён скора лятаець.
Скора лятаець, к зямлi прылягаець,
Татульку прабуджаець:
— Ўстань, татулька ўстань, родненькi,
Дзiцяцю даць парадак.
— Рад быў бы ўстацi к свайму дзiцяцi,
Парадачак дацi:
Грабовыя дошкi сцiснулi ножкi —
I нiяк жа мне ўстаць.
Жалезны цвiчкi сцiснулi плечкi —
Нiяк жа павярнуцiсь.
Жоўты пясочак залёг у насочак —
Нiяк жа мне прадахнуць.
Траўка-мураўка зарасла ў вочкi —
Нiяк жа мне ўзглянуць.

А знацi, знацi па гэтай хаце —
Сiроцкая бяседа.*
Хата багата, расход вялiкi,
Парадачку нету.
Нету парадку, нету парадку,
Без роднага таткi.
— Ганулька малада, наймi салаўя,
Пашлi па роднага татку.
Салавей лятаець, у зямлю ўпадаець,
Матку пабуджаець:
— Ўстань, татухна, ўстань, родненькi,
Блаславi сiрацiнку.
— Ах, мая дзетка, мая родная,
Не магу ўстацi:
Дубовы дошкi сцiснулi ножкi —
Не магу ўстацi.
Зялезны цвечкi сцiснулi плечкi —
Не магу пакрануцi.

* Кожныя два радкi паўтараюцца.

Ялынец коліць, галоўку клоніць —
Не магу павярнуці.
Жоўты пясочак засыпаў вочкі —
Не магу праглянуці.

Ой, знаці, знаці, што Мар'юхна сірота:
Цесная хатка, вузкі варота.
Пашлю сокала на Украіну,
Нех на вяселле збярэ радзіну.
Пашлю да неба сіву зазульку
Зваці на вяселле сваю матульку.
— Ой, прыйдзі, прыйдзі, міла матулька.
— Не магу ўстаці, сіва зазулька.
Не магу ўстаці, парадак даці,
Парадак даці свайму дзіцяці.

Знаці, знаці па вяселлейку,
Што Любачка сіротка.
Вялікая хата, не ўся парада —
Нет роднага татачкі.
Вялікая вулка не замецена —
Нет родненькай сястрыцы.
Вялікія сені ўсе паселі —
Ёсць родненькі брацітка.
Пашлём зязюлю, пашлём рабую
Да раю па татачку.
Салавей ляціць, зязюля ляціць,
Салавей прыпявае:
— Табе, Любачка маладзенькая,
Тата долі не дае.

Да двор вялікі, збор невялікі.
Ой, знаці, знаці сіраціначку,
Што не ўся радзіначка.
Ой, каго слаці-паслаці
На той свет па матачку,
На Украіну па радзіну?
Салавеечку-недалётачку
На той свет па матачку,

12*

А зязюлечку-шчабятулечку
На Украіну па радзіну.
Яшчэ зязюля не кукавала,
Радзіна прыязджае,
А салавейка прылятае,
А матачкі не бывае.

Шырокі двор, маленькі збор,
Да не ўся радзіна.
Да няма радзінкі, ні палавінкі,
Ні роднае ж мамкі.
— Да пасылай, дзевачка ж, да сакаліначку
Па сваю радзіначку.
Ой, яшчэ саколю найяснейшую
Па мамку раднейшую.
Яшчэ ж саколе не далятае,
Мамачка і адвяшчае:
— Рада б я ўстаці, свайму дзіцяці
Парадачку даці:
Сырая зямля дзверы залягла,
Вакенцы засыпала,
А дубовы дошкі сціснулі ножкі —
Не магу павярнуць,
Залатыя ключы замкнулі рэчы —
Не магу прамовіць.

Двор мой вялікі, двор мой шырокі,
Ды вяселле невясёла.*
Ай нету роду дый палавіны:
Татухны з Украіны.
Некага наняць, некага паслаць
На той свет па татухну.
Як сашлём-пашлём салавеечку
Ды на той свет па татухну.
Салавей ляціць, не далятаець,
А татачка ўсё гэта знаець:
— Рад бы я ўстаці к свайму дзіцяці
Ды парадачак даці:
Дубовыя дошкі сціснулі ножкі —

* Кожныя два радкі паўтараюцца.

Не магу я павярнуцца.
Сырая зямля дзверы залягла,
Ваконцы засланіла.
Жоўтыя пясочкі засыпалі вочкі —
Няможна праглянуць.

Ой, і збор, і збор на шырокі двор,
Да не ўся радзінушка.
Ой, нету роду і радзінушкі,
Нету радзімага бацюшкі.
Пашлю салавейку
Ва сыру зямельку
Па радзімага бацюшку.
Салавей ляціць, не далятаець,
Бацюшка пра ўсё знаець.
— Ой, рад бы я ўстаць,
Маё дзіцятка,
На тваю парадушку,
Да маць-сыра зямля
Дзверы заняла,
Вакошкі затварыла,
Грабава дошка
На грудзь налягла —
Нельзя мне прадыхаць,
А зялёны мурог
Сквозь глазы прарос —
Нельзя мне праглянуць,
А белая эльма на губы пала —
Нельзя слова молвіць.

Збор невялікі, не ўся мая радзіна,
Няма радзіны ні палавіны.
Ні палавіны, ні роднага татачкі.
Пашлю салавейку на Украіначку.
На Украіначку, на сваю радзіначку,
А зязюлечку к вышнему небу.
А зязюлечку к вышнему небу,
Бо мне татачка трэба.
Яшчэ салавейка не далятае —
Радзіна прыязджае.

А зязюленька не далятае,
Татачка прамаўляе:
— Карысь, донечка, карысь, дзіцятка,
Усё чужой ты чужыне,
Няхай памогуць даць парадачак
Бедненькай сіраціне.

А новенькі двор, новенькі субор,
Не ўся яе радзінка ёсь.
І цётачкі ёсь і дзядзечкі ёсь,
Нет яе мамулечкі.
— А пашлі, пашлі, наша Ганначка,
Хоць шэру зязюлечку
Па сваю мамулечку.
Шэра зязюлька жалка кукуець,
Мамулька не чуець.
А пашлі, пашлі, наша Ганначка, салавеечку.
Салавеечка жаласна пяець,
А мамулечка не ўстаець.

Новенькі двор, вялік сабор,
Ды не ўся радзіначка.
Татачка ёсць, мамачка ёсць,
Роднага брата нет.
— Ды шлі, Ванечка, салавеечку
Па свайго братнеечку,
А зязюлечку на Украіначку
Па сваю радзіначку.
Зязюлька ляціць — радзінка едзіць,
Хвала табе будзіць.
Салавейкі нет і братнейкі нет,
Ужо ж яму позна будзіць.

Ой, вялікі збор, ой, вялікі,
Да й не ўся радзіначка.
Пашлю сокала на Украіначку
Па сваю радзіначку.
Сокал ляціць, не далятае,

Мамачка прамаўляе:
—Чаго лятаеш, мне дакучаеш,
Сізанькі сакалок.
— Ой, я б не лятаў,
Я б не дакучаў,
Дык мяне пасылаюць.
Паслала мяне дзіцятка твае.
Просяць мамачку, просяць родную
К сабе на вяселлейка.

Дварок новенькі, гасцей поўненькі,
А маёй матуленькі нідзе не відаць.
Пашлю я сакала з высокага неба,
Што мне ўжо баценька трэба,
А зязюлю на Украіну па сваю радзіму.
— Прыляці да ляску і закукуй на пяску,
А я, маладая, ўслед за табою
Прыйду да ляску, прыпаду да пяску.
А я прыпадала, а я і плакала,
А свае матуленькі ў вочы не бачыла.

Ой, і збор і збор, да не повен двор,
Да не ўся радзіна. У-у!
Да няма радзіны ні палавіны,
Ні роднага бацькі. У-у!
Да пашлю сакала па сваго ж атца,
На той свет па бацю[шку]. У-у!
А зязюлечку на Ўкраіначку
Па сваю радзіна[чку]. У-у!
А саколенка не далятае,
Бацька прамаўляе. У-у!
— Да не ляці, сакол, не ляці, сізы,
Не тамі свае крыл[ле]. У-у!
Да рад бы я ўстаці, сваймy дзіцяці
Да парадачак даць. У-у!
Дак дубовы дошкі сціснулі ножкі —
Ні сцежкі, ні дарожкі. У-у!
Да жоўценькі пясок сыплецца ў раток —
Словечка не прамоў[лю]. У-у!

Хоць вялікі двор, да малы прыбор,
Парадачку нет.*
Госці сабрала, сталы заслала,
Парадачку нет.
— Ўстань, мамачка, ўстань, родная,
Завядзі парадачак.
— Не магу я ўстаць, не магу я ўстаць,
Парадачку даць.
Рада бы ўстаці, свайму дзіцяці
Парадачак даці:
Жалезны цвічочкі мне збілі плечыкі —
Не магу павярнуцца.
Дубовыя дошкі сціснулі ножкі —
Не магу ўстаць.
Жоўты пясочак засланіў вочкі —
Не магу прыглянуці.
Травой-муравой зараслі дзверкі —
Не магу адчыніці.

Хата багата, расход вялікі,
Парадухны нет.*
Каго нам наняць, каго нам паслаць
За родным таткай?
Салаўя наняць, пташачку паслаць
За родным таткай.
Пташка маленька, голас тоненькі,
Не ўчуець татка.
— Чую, дзіцятка, чую, роднае,
Не магу ўстаці:
Грабовы дошкі сціснулі ножкі —
Не магу ступаць.
Жалезны цвічкі сціснулі плечкі —
Не магу звярнуць.
Сырая зямля на грудзі пала —
Не магу дыхнуць.
Чорная смала на губы пала —
Не магу гукаць.
Жоўтыя пяскі засыпалі глазкі —
Не магу глянуць.
З богам, дзіцятка, з богам, роднае,

* Кожныя два радкі паўтараюцца.

З найсвентшай мамкай.
Да бог на раду, бог на параду,
Найсвентша мамка.

Сталы засланы, госці сазваны, парадачку нет.
Пайду к мамке, пайду к радной.
— Устань, мамка, устань, родная,
Ты прыйдзі, сіроцкага парадку паглядзі.
— Не магу ўстаці, мая дачушка:
Жоўтым пясочкам засыпалі вочкі — не прагляну,
Дубовыя дошкі сціснулі ножкі — не ўстану.
Мая дачушка, мая родная, не прыйду,
Твайго сіроцкага, твайго парадачку не пагляджу,
Толькі сваёю рукою благаслаўлю.

Сталы засланы, госці сазваны, парадачку нет.*
— А ты, салавейка, скорая пташка, скора лятаеш,
Скора лятаеш, к зямлі прылягаеш, пясочак раскапаеш.
— Устань, татулька, устань, родненькі, парадачак дай.
— Рад бы я ўстаці, міла дзіцяці, не магу ўстаці:
Чорная смага на губкі пала — не магу прагукаць.
Сырая зямелька на грудцы пала — не магу прадыхнуць,
Жоўты пясочак засыпалі вочкі — не магу прагляцуць,
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — не магу ўстаць.

А каго ў нас нету ў гэтай бяседзе?
Нету ў нас роднай мамкі.
Каго ж нам наняці, за мамкай паслаці?
Есь у садочку, ёсь у зялёным дробны салавейка,
Ён рана уставаець, па мамку злятаець,
Зямельку ўскапаець, мамку разбуджаець:
— Ўстань, устань, мамка, ўстань, устань, родна,
Просіць твае дзіця твайго благаславення.
— Пушчай благаслаўляюць, пушчай надзяляюць
Добрыя людзі і бліжнія суседзі.
Я б і рада ўстаці — галоўкі не ўзняці:
Сціснуты косткі ў дубовыя дошкі,
Звязаны ручкі пярловым платочкам,
Засыпаны глазкі жоўтым пясочкам.

* Кожны радок паўтараецца.

Наша Манечка сіраціначка, а няма ў яе мамачкі,
А няма ў яе мамачкі, а няма ў яе роднае.
Ой, каго пашлём, каго пашлём на той свет па мамачку,
На той свет па родную?
Ой, пашлём, пашлём салавейку на той свет па мамачку,
На той свет па родную.
Салавейка ляціць, не далятае, мамачка адказвае,
Родная адказвае:
— Рада б я ўстаць к свайму дзіцятку, хоць парадачак даці,
Хоць парадачак даці:
Грабовыя дошкі сціснулі ножкі — не магу ўстаці,
Не магу ўстаці.
Сырая зямля на грудзі лягла — не магу шавяльнуцца,
Не магу шавяльнуцца.
Жоўтыя пяскі засыпалі вочкі — не магу праглянуць,
Не магу праглянуць.

Хата багата, сталы засланы, парадачку нет.
Нету, нету ружоваrа цвету ў садочку,
Нету, нету маей матулькі ў радочку.
Найму пташачку-салавейку маленьку,
Яна высока лятае, матульку ўзбуджае:
— Устань, устань мая мамка, не ляжы,
Хоць мне адну ночку паслужы.
— Рада ўстаці, мая дзіцяці, не магу:
Зялезны цвічкі сціснулі плечкі — не ўстану,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну.
— Ды ўзніміцесь, буйныя ветры, на полі,
Ды паламайце цісовы дошкі на крошкі,
Падніміце маю матулю на ножкі.

Знаці, знаці руту па насеннейку,
Знаці, знаці дзевачку па вяселлейку,
Што яе войца нет, што яе роднага нет.
Маладая дзевачка па садочку ходзіць,
Па садочку ходзіць, салавейка просіць:
— Вылець, вылець, салавейка, з зялёнага гаю,
Да паляці, сівенькі, да божага раю,
Накажы майму войчаньку, хай да мяне прыбудзе,
Мне, маладой, не так жаль будзе.

Знаці рутаньку па насеннечку,
Што яна зеляненька.
Знаці дзеваньку па вяселлечку,
Што яна сіраценька.
Двор жа шырокі, з'езд невялікі,
Відно, мамачкі нету.
Новыя сені, ды не ўсе паселі —
Не мамачка саджала.
— Пашлі, Анечка, па радзімачку
Птушку-салавейку.
Пашлі, Анечка, па родну мамку,
Рабую зязюльку.
Салавей ляціць, лісточкі нясе —
Радзімачка прыбудзе,
Зязюлька ляціць, ліста не нясе —
Матулькі не будзе.
— Ці ты, зязюлька, ці ты, рабая,
Не ўмела пабуджаці?
— Я шчабятала, да зямлі прыпадала —
Твая мамачка не ўстала:
Сырая зямля дзверы залягла,
Аконцы зачыніла,
К табе, дзеванька маладзенькая,
Мамачкі не пусціла.

Ой, знаць рутаньку па насеннечку,
Што яна зеляненька,
Ой, знаць дзевачку па вяселлейку,
Што яна сірацінка.
Двор нешырокі, з'езд невялікі,
Некаму заязджаці.
Піва не п'яна, віно не шумна,
Некаму частаваці.
Ой, трэба стаці ды падумаці,
Каго па ойца слаці.
Пашлю сокала да яснага неба,
Бо мне ойчанька трэба,
А зазуленьку на Украінаньку
Па сваю радзіманьку.
— Ой ты, зязюлька, летняя пташка,
Ты палець па ойчанька.
Залецъ к ляску, ды прыпадзь к пяску,

Ды закуй галосненька.
Яшчэ дзевачка паўдарожанькі,
А зазулька назад ляціць.
— Не плач, дзевачка маладзенькая,
Я ойчанька не збудзіла:
Сырая зямля дзверы залягла,
Аконца засланіла.
Жоўтыя пяскі на грудзі заляглі —
Не даюць ўставаць.

Знаці рутаньку па насеннечку,
Што яна зеляненька,
Знаці Гандзечку па вяселлечку,
Што яна сірацінечка.
Двор вузюсенькі, збор малюсенькі,
Да й не ўся радзінанька.
Пашлю пташачку да й на Украінаньку
Па сваю радзінаньку,
Сіву зазуленьку, найсівейшу,
Па сваю маманьку наймілейшу.
Пташачка ляціць, вяселлечка спявае —
Радзінанька прыбывае.
Зазуленька ляціць, жаласна куе:
— Маманькі, Гандзечка, тваей не мае.

Ой, знаці, знаці ў лесе каліну:
Расце нізенька, цвіце бяленька,
Ягада чырвона.
Ой, знаці, знаці младу Марыську,
Што яна сіротанька.
Падвор вузенькі, збор малюсенькі,
Матулі не відаці.
— Сходзі, Марыська, да новай каморы,
Збудзі матулю каравай рашчыняці.
— Ўчора хадзіла, то не разбудзіла
Каравай рашчыняці.
Заўтра пайду, то не разбуджу
Да шлюбу выпраўляці.

А як спазнаці калінку ў садзе?
Ой, рана, рана, калінку ў садзе.*
Сядзіць нізенька, цвіцець зеляненька.
Цвіцець зеляненька, зрэець красненька.
Як пазнаці Ніначку ў радзе?
Сядзіць смутненька, плачыць сільненька.
Плачыць-паплачыць, на бяседу глядзя.
— Глядзі, не глядзі, таткі не ўвідзіш.
А твой татулька удалі далёка.
Удалі далёка, у зямлі глыбока.
У зямлі глыбока, пад тром замочкам:
Адзін замочак — жоўты пясочак,
Другі замочак — грабавыя дошкі,
Трэці замочак — траўка-мураўка.

Па чым пазнаць калінку ў лузе?
Калінка ў лузе беленька цвіцець, чырвона зрэець.
Па чом пазнаць Мар'ютку ў радзе?
Сядзіць смутненька, плача сільненька.
Яе матулькі ў бяседзе нет,
Яе матулька дальнім-далёка, ў зямлі глыбока.
— Пашлі, Мар'ютка, хоць салавейку па сваю мамку.
Салавейка скорая пташка, скора злятае,
Жалка спявае, мамку пабуджае:
— Устань, мамухна, к свайму дзіцяці благаславенне даць.

Знаці, знаці
Па вінаградзе,
Што салодкі ягодкі.
Знаці па вяселлейку,
Што сіроцкае вяселле.
Хата багата,
Расход вялікі,
Да парадачку нету.
Хоць вялікі двор,
Да не ўвесь прыбор,
Калі мамухны нету.
Ты, Якубка маладзенькі,

* Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Наймі салавейку.
Салавейка, пташка маленька,
Ён скора лятаець,
Ён скора лятаець,
К зямлі прылягаець,
Мамульку пабуджаець:
— Устань, мамухна,
Устань, родная,
К сваяму дзіцятку,
К сваей дзіцяці
Благаславеннейка даці.
— Рада б я ўстаці
К сваей дзіцяці
Благаславеннейка даці:
Яловыя дошкі
Сціснулі ножкі —
Не магу пастаяці,
Зялезныя цвічкі
Сціснулі плечкі —
Не магу павярнуцца,
Сырая зямля
На грудзі ўзлягла —
Не магу прадыхнуці,
Чорная смала
На губах пала —
Не магу прагукаці,
Жоўтым пясочкам
Засыпалі вочкі —
Не магу ўзглянуць.
З богам, Якубка,
З богам, дзіцятка,
Са ўсімі святымі.

Спазнаць садзіку па прысадзіку —
Няма яму даглядзіку.
Стаіць яблыня нахіліўшыся,
Некаму падпіраці.
Спазнаць Тэклечку па вяселлейку,
Што няродная маці.
І двор вялікі, субор невялікі,
Не ўся яе радзінухна.
Пашлю салаўя на Украіну,

Па сваю радзіну.
Шэру зязюлю і ў зялёны гай
Па сваю матачку.
Салавей лятае-пералятае —
Радзіна прыбываець.
Ні зязюлькі з гаю, ні мамкі з раю,
Некаму парадку даці.
— Я рада ўстаці к свайму дзіцяці
Ды парадак даці:
Грабовыя дошкі сціснулі ножкі,
Сырая зямля дзверы залягла
І ваконцы засыпала — нельга прагляную.

А знаць садзіку-вінаградзіку,
Нет яму даглядзіку.*
Стаяць яблыні распусціўшыся —
Некаму даглядаці.
Ляжаць яблычкі раскаціўшыся —
Некаму сабіраці.
А знаць Верачку па вяселлейку,
Што няродная маці:
Стаяць столікі ўсе цісовыя —
Некаму засцілаці.
Сядзяць госцікі пазазваныя —
Некаму частаваці.
Хоць бы выпілі, ці не выпілі —
Некаму наліваці.

Эй, ты, саданька-вінаграданька,
Нет табе даглядання.
Твае веццейкі расхіліліся —
Нет каму падбіраці.
Твае яблычкі раскаціліся —
Нет каму паднімаці.
А знаць Воленьку па вяселлейку —
Бедная сіротачка.
Ходзіць родзінка па панадворыйку —
Некаму пазбіраці.
Стаяць столікі цісовыя —
Нет каму засцілаці.

* Кожныя два радкі паўтараюцца.

Знаць Гэленку па вяселлейку,
Што не татка спраўляў.
Хоць вялік прыбор, ды не ўвесь сабор,
Ды радзінка не ўся.
Ёсць і цётачкі, ёсць і дзядзечкі,
А татулькі няма.
Стаяць чарачкі неналітыя —
Некаму наліваць.
Сядзяць госцікі ненапітыя —
Некаму прыглашаць.

Знаці сакала, знаці сівага
Па яго да лятаннейку.
Кryллі апусціў, пер'ечка надуў —
Высока не падлятае.
Знаці дзевачку па вяселлейку,
Што ў бога сірацінка:
Двор жа вялікі, збор невялікі —
Без роднае мамкі.
— Пашлю я пасла — сівага сакала
Па родную мамку,
А зязюлечку на Украіначку
Па сваю радзімачку.
Зязюлька ляціць — радзіма едзе,
Да хвала табе, божа!
Саколік ляціць — мамачкі нету,
Ох, мой моцны божа!
Ох, ты зязюлька, борздая пташка,
Паляці па мамачку.
Прыляці к ляску, прыпадзі к пяску,
Закукуй жаласненька,
А я ў нядзельку услед за табой —
З ціхімі паходамі,
З нізкімі паклонамі.
Яшчэ дзевачка за сталом сядзіць —
Зязюлька назад ляціць.
— Ох ты, дзевачка маладзенькая,
Хоць ідзі, хоць вярніся:
Сырая зямля дзверы залягла,
Акеначка зачыніла —
Твае мамачкі, твае роднае,
На вяселлейка не пусціла.

Знацi сакала па лятаннейку,
Што ён нізка лятае.
Знацi дзевачку па вяселлейку,
Што не бацька спраўляе.
Двор нешырокі, збор невялікі —
Радзімы ні палавіны.
— Ой, сашлю-пашлю сівога сакала
На той свет да па бацюшку,
Сівага каня на Украіначку
Да па сваю радзімачку.
Сівы конь бяжыць, не дабягае,
Салавей не далятае,
Мой бацюшка не прамаўляе,
Салавей ляціць, сівы конь бяжыць,
А радзімы ні палавіны.

Знацi сакала па лятаннейку,
Што ён нізка лятае.
Знацi Манечку па паходаньцы,
Што татачка не мае.
Зборня вяліка, зборня вяліка,
Не ўся ж яе радзіна.
— Пашлю ж сакала на Украіначку
Па сваю радзіначку,
Сіву зязюльку павышай неба,
Цяпер жа мне татка трэба.
Устань, татачку, устань, родненькі,
Да дай жа ж мне рады.
— Рад бы я ўстаці да парадачак даці
Сваяму дзіцяці:
Сырая зямля дзверы залягла,
Акенца засланіла.
Нельга ж мне ўстаці, да й парадачак даці
Сваяму дзіцяці.

А знаць сокала па лятаннейку,
Што нізенька лятае.
А знаць Ганнульку па вяселлейку,
Што не татка спраўляе.

13. Зак. 555

Спраўляе братка, спраўляе родны,
Ды не так, як татачка.
Двор вялікі, збор невялікі,
Не ўся радзіначка.
Пашлем салаўя на Украіначку
Па яе радзіначку.
Салавей ляціць, не далятае,
Радзіна прыязджае.
Пашлем зязюльку, пашлем шэрую
На той свет па татульку.
Зязюля ляціць, пералятае,
Татулька адказвае:
— Хоць шлі, хоць не шлі, маё дзіцятка,
Я к табе не прыбуду:
Сырая зямля к грудцам прылягла —
Нельга мне павярнуцца.
Жоўты пясочак залёг у насочак —
Нельга мне прадыхнуці.
Грабовыя дошкі сціснулі ножкі —
Нельга мне ўстаці.
Нельга мне ўстаці і свайму дзіцяці
Парадак яму даці.

Знаць салавейку па палёцейку,
Што нізенька лятаець.*
Знаць млода Васілька па вяселлейку,
Што не татка спраўляець.
Хоць вялікі двор, да не ўвесь сабор —
Не ўся радзінка.
Вялікі сені, не ўсе паселі —
Не татачка саджаець.
— Пашлі, Васілёк, хоць салавейку,
Да па сваю радзінку.
Салавейка ляціць — радзінка едзець,
Васільку жаль будзець.
Пашлі Васілёк шэру зязюльку
Па роднага татульку.
Зязюлька ляціць, татулькі няма,
Ах, божа ж мой, божа.

* Кожны цотны радок паўтараецца.

Ой, знаць салавейку па палёцейку,
Што нізка лятаець.*
Ой, знаць Рэнечку па вяселлейку,
Што не татка спраўляець.
— Выпраў, Рэнечка, выпраў, дзіцятка,
Салавейку шчабятлівага па сваю радзіначку.
Ляціць салавейка, аж неба звініць —
Радзіначка едзець.
Выпраў, Рэнечка, выпраў, дзіцятка,
Хоць шэру зязюлю па татачку.
Ляціць зязюля, крэпка кукуець,
Родны татка не чуець.
— А ты, зязюля, а ты, шэрая,
Не ўмела кукаваць,
А ты, Рэнечка, маладзенькая,
Не ўмела выпраўляць.
— Выправіла б я, млода, Яначку —
Ён жа праўды не скажыць.

Да й знаці зязюлю,
Да й знаці сівенькую,
Да што нізенька лятае.
Да й знаць Зіначку па вяселлейку,
Што не свой бацька аддае.
Сабор вялікі, субор невялікі —
Не ўся яе радзіначка.
Я й пашлю, пашлю сакаліначку
Па сваю радзіначку.
Сакаліначка ляціць, а далятае,
Радзінка прыбывае.
Я й пашлю, пашлю сівога сакола
На той свет па татачку.
Саколінка ляціць, не далятае,
Татачка адказ дае:
— Не ляці, саколік, не ляці, сівенькі,
Не тамі свайго крылля.
Рад бы я ўстаці к сваўму дзіцяці,
Парадачак яму даці:
Цісовыя дошкі сціснулі ножкі —
Нельга мне пакрануці.

* Кожныя два радкі паўтараюцца.

Зялёныя дзярны прыклалі грудзі —
Нельга мне прадыхнуці.
Жоўтыя пяскі засыпалі вочкі —
Нельга мне правірнуць.
Залатыя замке замкнулі зяўпе —
Нельга мне абазваццa.

А знатка, знатка па зязюлечцы,
Па яе кукуванню,
Борам ляцела, крыллем застрала,
Знаць, яна галодная.
А знатка, знатка па бяседачцы,
Вяселле сіроцкае.
Сталы засланы, госці зазваны,
Нет яе мамулечкі.
— Пашлі, Надзечка, хоць зязюлечку
Па сваю мамулечку.
Салавеечку на Украіначку
Па сваю радзіначку.
Салавей ляціць, не далятаець —
Радзіна прыбываець,
Шэра зязюля громка кукуець —
Мамулька не чуець.

Знаці зязюльку па лятаннейку,
Што нізенька лятае.
Знаці дзеваньку па вяселлейку,
Што ў бога сіротанька.
Да двор вялікі, збор невялікі —
Без роднага бацюшкі.
— Ой, пашлю, пашлю ціхага салаўя
Да на той свет да па бацюшка,
А зязюленьку на Украінаньку
Па сваю ўсю радзінаньку.
Ціхі салавейка да не далятае,
А мой бацюшка ўсё ведае.
Сырая зямля дзверы залягла,
Аконейка засланіла,
Майго бацюшку, майго роднага
На вяселле да не пусціла.

Няма салавейка, да няма ціхага,
Няма роднага бацюшкі,
Няма зязюлькі з Украінанькі,
Няма маей усей радзінанькі.

Відна зязюлька па лятайненьку,
Што нізенька лятае,
Нізка лятае, часта сядае,
Бо не свой садок ма[е].
Бо не свой садок мае...
Відна Галюхна па аддавайненьку,
Што не бацюхна адда[е].
Што не бацюхна аддае...
Што род вялікі, а збор маленькі,
Не ўся яе радзінаньк[а].
Пашлю сокала павыша неба,
Цяпер мне бацька трэба,
А зязюленьку на Ўкраінаньку
Па сваю радзінань[ку].
Па сваю радзінаньку...
Ой, 'шчэ саколік не далятае,
Баценька прамаўля[е].
Баценька прамаўляе...
— Сырая зямля на грудзі лягла,
Не магу я дыхнуці.
Не магу я дыхнуці...
Чорна кітайка вочы закрыла,
Не магу прагляну ц[і].

Знаці зязюленьку па лятаннейку,
Што нізенька лятае.
Знаці і дзяціначчы, што вяселлейка
Не бацька спраўляе.
Ой, ёсць каму піці-есці,
Ды няма каму да ладу давесці.
— Ой, пашлю, пашлю сіву зязюльку
Ды па роднага татку.
Маладзенькая з двара з'язджае,
Зязюлька назад ляціць:
— Прыкаваны ножкі да сасновай дошкі —

Не ўстане.
Звязаны ручкі на грудзі ляжаць —
Не разгорне,
К табе на вяселлейка не прыедзе.

Ды некаму піці-есці,
Ды некаму парадачку навесці,
Ды некаму весяліціся,
Ды некаму пажурыціся.
— Пасылай, Ганначка, ясна сокала
На той свет па татачку,
А зязюльку на краіначку
Па сваю радзіначку.
Яшчэ сакалю не далятае,
Татачка адказвае:
— Рад бы я ўстаці [illegible] свайму дзіцяці
Увесь парадачак даці:
Сырая зямля дзверы залягла,
Акенца засланіла.
Цісовыя дошкі сціснулі ножкі —
Нельга мне павярнуцца.
Жоўценькі пясок засыпаў вочкі —
Нельга мне прагдядзецца.
— Ой, буду ж, буду я бога прасіці:
Ой, дай жа, божа, буйнага ветру.
Ой, раздуй, божа, жоўценькі пясок,
Ой, пусці, божа, майго татку ка мне,
Няхай дае парадачак беднай сіраце.
Ой, буду ж, буду ды я бога прасіці:
Ой, дай жа, божа, яснага сонца,
Раскалі, божа, цісову дошку,
Ой, пусці, божа, майго татку ка мне,
Няхай дае парадак беднай сіраце.
— Ой, карыся, маё дзіця,
Людзям да й не мне — чужой чужыне.
Людзям ды й не мне — чужой чужыне,
Няхай даюць парадачак беднай сіраце.

Маё вяселле,
У мяне многа дружыны.
Ёсць што піці-есці,

Ды няма каму парадачку весці.
Ды пайду я к магілцы,
Ды пабуджу сваю мамачку:
— Ой, дай жа, божа, буйныя ветры,
Буйныя ветры, дробныя дожджыкі,
Дробныя дожджыкі, яснае сонейка,
Каб гэты дзярночак ды паразмываўся,
Жоўты пясочак ды парассыпаўся,
Сасновую дошчачку я сама пакалю,
Я сваю мамачку на вяселле прашу.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладое,
Ужо ж мяне тутачка вечны сон ізмарыў
Дый навек галоўку палажыў.

Знаць па вутаньцы,
Знаць па шэранькай,
Што яна падстрэлена.
Як полем ляціць,
Як полем ляціць,
Так яна нізюсенька,
У кусточку сядзіць,
У кусточку сядзіць,
Так яна ціхусенька.
Знаць па дзеваньцы,
Знаць па душаньцы,
Што яна сіроцінька.
Па хаце ходзіць,
Так яна ціхусенька,
За сталом сядзіць,
Так яна смутнюсенька.

## МАЛАДУЮ ПРОСЯЦЬ ПРЫВЕСЦІ БАЦЬКОЎ

Да на небе ясна сонейка ўзышло,
Узышло.
— Чаму, Валечка, твайго татачкі не відно,
Не відно?
Чаму не выходзіць із высокага церама,
Церама?
Чаму не выносіць зялёнага віна з каморы,
З каморы?
Чаму не частує каравайніц даволі,
Даволі?

На дварэ зорачак вядрано.
— Чаму твайго татка, Манька, не відно?
Да пайдзі, Манька, па падворайку пахадзі,
Да свайго татка на параду папрасі.
— Ой, я хадзіла, тры разы хадзіла.
Хадзіла Манька, тры разы хадзіла,
Свайго татка на параду не ўпрасіла.
— Радзься, дзіцятка, з добрымі людкамі,
Радзься, дзіцятка, з добрымі суседкамі.

На дварэ новы калодзец і вядро.
— Ой, чом тваго баценька не відно?
Ой, перайдзі хату, сені перайдзі,
Сваго баценька ў новай каморы паглядзі.
— Ой, перайшла хату, сені перайшла,
Ў новай каморы сваго баценька не найшла.
Ой, ступіла з гораньki ў даліну
І трапіла на баценька магілу.
— Устань, ўстань, мой баценьку, хуценька,
Пагаворым з табою, сардэнька.
— Ой, не магу, маё дзіцятка, не магу:
Збудавалі мне хаценьку без дзверы,
Ой, без дзверы, без жаднага акенца,
Не прамоўлю, маё дзіцятка, ні слоўца.

Да ў гародзе новы калодзеж і вядро.
— Чаму, Валечка, твае матулі не відно?
Пайдзі, Валечка, па новых сенях пахадзі,
На белай ложы сваёй матулі пагляддзі.
— Вой, не раз, не два новыя сені перайшла,
На белай ложы сваёй матулі не найшла.
На белай ложы сваёй матулі не найшла
Да заплакала горка-жаласна, да й пайшла.
Во схадзіла я новыя сені слядамі,
Во спалівала ядвабну хустку слязамі.
Во спалівала ядвабну хустку слязамі,
Не пабудзіла свае матулі славамі.
— Вой, акажыся, мая матуля, да мяне,
Да парадзь, парадзь хаця раданьку ля мяне.
— Не акажуся, маё дзіцятка, да цябе,
Да жыві сабе з добрымі людзьмі без мяне.
Да збудавалі да мне хатачку сталяры,
Да не пусцілі ні акошачка, ні дзвярэй,
Не магу ўстаці, аказаціся да цябе.

Сышло сонца ў ясна аконца — ўжо й відно.
— Чаму, Гэлечка, твайго ойчанькі не відно?
Пайдзі, Гэлечка, па новых сенях пахадзі,
На белым ложы свайго ойчаньку пабудзі.
— Ой, не раз, не два новыя сені перайшла,
Ой, нідзе, нідзе свайго ойчанькі не знайшла.
Ой, схадзіла новыя сені слядкамі,
Ой, зліла, зліла белу пасцель слязкамі.
Пайшла Гэлечка з горкі на горку ў даліначку,
Знайшла Гэлечка свайго ойча магілачку:
— Устань, ойчанько, ўстань, родны, не ляжы,
Прыйдзі ж ты мне параданьку памажы.
— Рад бы я, дачушка, ўстаць, параданьку даць,
Ды прыбіты ножкі да сасновай дошкі — не ўстану,
Засыпаны вочкі жоўтым пясочкам — не ўзгляну.

На дварэ дробен дожджык, халадно.
— Ой, чаму ж, дзевачка, твае мамачкі не відно?
— Мая мамачка спіць на белай ложы даўно.
— Перайдзі, дзевачка, сені, камору перайдзі,
Сваю мамачку на белай ложы пабудзі.

Перайшла дзевачка, сені, камору перайшла,
Ой, нідзе, нідзе свае мамачкі не найшла.
Не найшла яна свае мамачкі ў радочку,
А найшла сваю мамачку ў жоўтым пясочку.
— Устань, мамачка, устань, родная, годзе спаць,
Ды пара ж, пара мне параданьку даваць.
— Ой, не магу, маё дзіцятка, не магу:
Ды збудавалі мне тры слёсары труну,
Ды не высеклі ні дзверачак, ні акна,
Хай жа дае параданьку ўся радня.

Ой, на небе сонейка ядрано.
— Чаму ж, Колька, тваей маткі не відно?
— Ой, хоць відно, хоць не відно, я не дбаю,
Я сваю мамку па галасочку пазнаю.
Ой, пайду ж я па суседачках пахаджу,
Свае мамачкі пагляджу.
Ўсе ж я суседачкі абышоў,
Роднае мамкі не найшоў.

Ой, на небе ясных зорачак ядрано.
— Чаму, Манечка, твае мамкі не відно?
Мамачак многа, а роднай ніводнай,
Пparticularly Параданькі ды ні з воднай.
Як заехала яснае сонца за хмару,
Так прысыпалі родную мамку зямлёю.
Выйдзе, выйдзе яснае сонца з-пад хмары,
Ды не ўстане родная мамка з-пад зямлі.
— Ой, прыйдзі, прыйдзі, мая мамачка, да мяне,
Ой, парадзь, парадзь гэту раданьку, што ў мяне,
Ой, прыйдзі, прыйдзі, мая мамачка, блізенька,
Пакланюся тваім ножанькам нізенька.

Закацілася яснае слонца вядрано.
— Чаму ж у цябе, млода Маруська,
Твае маці не відно?
— Закацілася яснае сонца хмараю,
Засыпалі маю родну матулю зямлёю.

Сірата Маруся, сірота,
Сядзіць за сталом, як злота.
Аказаўся бог з неба:
— Чаго гэтай сіроце патрэба?

А хто ў садочку па халадочку гукае?
Малада дачушка сваёй матачкі шукае.
З кім спаткаецца, прывітаецца: — Добры дзень!
Ці не відзелі маёй мамачкі ў гэты дзень?
— Выйдзі, дзевачка, сені, камору перайдзі,
На белым ложы сваёй мамачкі паглядзі.
— Я не раз, не два сені, камору перайшла,
На белым ложы сваёй мамачкі не знайшла.
А наехала поўна падвор'е сталяроў,
Збудавалі маёй мамачцы вечны дом.
Збудавалі цёмную цямніцу
Да й ўставілі ў сырэнькую зямліцу.
І не высеклі ні дзвярэй, ні аконца —
А не засвеце ні ясен месяц, ні сонца.
А не рассвеце дарожачкі — сюды прыйсці,
Свайму дзіцяці парадачку навясці.

— Ды не сядзі, дзевачка, не сядзі,
Ды новыя сенечкі перайдзі.
— Ды новыя сенечкі перайшла.
Ізроду мамачкі не найшла.
Бедна мая галоўка ў квеце,
Няма мае мамкі на свеце.
Бедна мая галоўка ў вяночку,
Няма мае мамкі ў радочку.

Маладая дзевачка,
Пайдзі ж ты ў гай зялёны.
Пайдзі ж ты ў гай зялёны,
Папрасі сваю мамачку.
Папрасі сваю мамачку
Да сабе на парадачку.
Есць каму піць і есці,

Да некаму да ладу весці.
Ёсць каму весяліцца,
Да некаму пажурыцца.
Ёсць каму піць-гуляць,
Да некаму рады даць.

— Ўстань, Марыська, не сядзі,
Пайдзі па новых сенях пахадзі,
Сваго войчанька на белым ложаньку паглядзі.
— Дзевачкі мае, сястрыцы,
Ні раз, ні два перайшла,
Сваго войчанька на белым ложаньку не знайшла.
А ў каморы бела ложа бяленька,
Там заснуў мой войчанька цішэнька.
— Збудавалі святлічаньку сталярэ,
Ды не пусцілі ні акенка, ні дзвярэй,
Прыбілі ножкі да сасновай дошкі,
Залажылі ручкі на сэрданьку — не зніму,
Спячатавалі вочкі да суседанькі — не гляну.

— Годзе, малада, сядзеці,
Ідзі баценька прасіці.
— Учора хадзіла,
То не збудзіла,
Не прыйшоў наражаці.
І цяпер хаджу,
Такі не збуджу,
Не прыйдзе выпраўляці.

— Як ты, Верачка, сваё вяселле адбудзеш,
Чаму ты сваю мамачку не будзіш?
— Мае дзевачкі, мае сястрыцы, будзіла,
Сёння раненька на магілачку хадзіла.
Пастаяла пад зялёнай сасною
І будзіла сваю мамачку слязою:
— Ўстань, устань, мая мамачка, не ляжы,
Хоць жа ты мне гэту гадзінку дапамажы.

— Мая дачушка, мая мілая, не ўстану:
Грабовыя дошкі сціснулі ножкі — не крану,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну,
Сырая зямелька к сэрцу прылегла — не дыхну.
— Узніміцеся, ціхія ветры, паволі,
Ой, разадзьміце жоўты пясочак па полі,
Грабовы дошкі паламіце на крошкі,
Падыміце маю мамачку на ножкі.

— Як ты, Томачка, гэты вечарок прабудзеш,
Чаму ж ты сваю родную мамку не будзіш?
— А што ж я буду, мая радзінка, рабіці,
Я ж хадзіла на магільнічак будзіці.
Я пастаяла пад зялёнаю сасною,
А я будзіла сваю мамачку слязою.
Я ж пастаяла, я пагукала — не чуець,
Знаць, дужа па мне мая мамачка бядуець.

— Чаму, дзевачка, сваю мамачку на вяселлейка не звала,
А ці ты гэта, маладзюсенька, не знала?
— Радзінка мая, я ўжо хадзіла, прасіла.
Я пастаяла пад зеляною сасною,
Дык не гаворыць мая мамачка са мною.
Не сказала мне ні аднаго слоўца, маладзе,
Нада мне гуляць вяселлейка, сіраце.

І ды не сядзі, наша Ніначка, не сядзі,*
Да па цёмненькіх куточках пахадзі,
Ды ці не ўвідзіш там сваю мамку седзючы,
Ды ты ж яе ў вяселлейка папрасі.
Яна ж цябе, маленькую, радзіла,
Сорак свячэй святлюсенькіх спаліла.
Яна ж над табой ўсе ночкі не спала,
А ты ж яе ў вяселлейка не звала.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Выйдзі, Манечка, па падворачку пахадзі,
Сваю мамачку на вяселлечка папрасі.
— Ой, ужо ж бо я не разок, не два хадзіла,
Нідзе, нідзе сваей мацюнкі не найшла.
Найшла ж бо я ў цёмнаму лесе клетачку,
А ў той клетачцы мая мацюнка спіць-паспіць.
— Прашу, мацюнка, на вяселлечка да мяне.
Няма, мацюнка, у нас ладу без цябе.
Чужы мацюнкі мне ладу не даюць,
Анно яны мне большага жалю задаюць.

— Трэба табе, млода Ніначка, недаспаць,
Трэба табе сваю мамку разыскаць.
Шукала яна чатыры ночкі і пяты дзень
І не знайшла сваей мамкі анідзе.
Толькі знайшла чорную сцежку ў ляску,
А там — сваю мамку ў пяску.
Стала яна сваю мамку прасіці:
— Ўстань, ўстань, мая мамка, не ляжы,
Хоць ты мне гэту ночку памажы.
— Ой, не ўстану, маё дзіцятка, не ўстану:
Дубовы дошкі сцiснулі — ножкамі не крану,
Зялёны дзярночак зацiснуў — грудцамі не дыхну,
Жоўты пясочак засыпаў — вочкамі не гляну.
Ідзі, ідзі, маё дзіцятка, дахаткі,
Няхай наводзяць чужыя людцы парадкі.

— Што ты, Насценька, гэту нядзельку рабіла,
Чаму не ўсю сваю радню запрасіла?
— Ой, прасіла, ні аб кім не забыла,
Ды роднага татку зямелька закрыла.
— Ўстаньце, буры-ветры, па полю,
Разнясіце жоўтыя пяскі па долу,
Раскрышыце цісовы дошкі на крошкі,
Узніміце майго татку на ножкі.
Няхай жа ён парадачак навядзе,
Няхай жа ён усю радзіну збярэ
Ды на покуце дарагім госцем пасядзіць,
На сваю сіротку паглядзіць.

— Пахадзі, Анечка, па радзіманьцы,*
Пашукай свайго татачку.
— Не найшла татульку ў радочку,
Замкнуўся татулька ў тры замочкі:
Ай, первы замочак — траўка-мураўка,
А другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — белы грабок.
— Узыдзіце, узыдзіце, вараныя коні,
З'ешце, сарвіце траўку-мураўку,
Дуйце, дуйце, сільныя ветры,
Раздуйце-раздуйце жоўты пясочак,
А ўдарце, ударце, люты маразы,
Разбійце, разбійце грабовыя дошкі,
Зляціце, зляціце з неба, ангелкі,
Узніміце, узніміце майго татаньку,
Пастаўце татаньку ў первым раду,
Пакланюся татаньку ў ножкі:
— Вот табе, татунька, нізкі паклон
Ад мяне, нявесты маладое.

— Маладая Аленачка,
Не стой у запечку,
А выйдзі на вулачку,
Ды злами каліначку,
І ўдар магілачку,
Пабудзі свайго татачку.
— Ды ўстань, мой татачка,
Ды на адну мінутачку,
На адну мінутачку,
Пастаў мне дзежачку,
Перахрысці мне сцежачку,
І я пайду.

— Маладая Марыська,
Не сядзі на пасадзе,
А выйдзі на вулачку,
Выламі каліначку,
Да стукні ў магілачку,
Пабудзі свайго татулечку,

* Кожны радок паўтараецца.

Папрасі на вяселлейка.
— Татулька мой родненькі,
Прыйдзі мне радачку парадзіць
І мяне на пасад пасадзіць.
— Марыська, маё дзіцятка,
Няхай табе людзі радзяць
І цябе на пасад садзяць.

— Маладая дзевачка,
Ці ўставала ты раненька,
Ці хадзіла ў лужочак,
Ці ламала калінку,
Ці змятала магілку,
Ці прасіла свайго татачку
К сабе на парадачку?
— Дзевачкі, мае сястрычкі,
Я ўставала раненька,
Я хадзіла ў лужочак,
Я ламала калінку,
Я змятала магілку,
Я прасіла свайго татачку
К сабе на парадачку:
— Устань, устань, татачка, не ляжы,
Хоць адно ранічка паслужы.
— Не ўстану, маё дзіцятка, не магу:
Дубовы дошкі сціснулі ножкі,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі.
Не магу ўстаці, слоўца сказаці,
Слоўца сказаці свайму дзіцяці,
Ой, божа мой.

Косцечка сваю свадзьбу гуляе,
А яго татка ляжыць у пясочку — не знае.
— Ідзі, Косцечка, шэру зязюлю папрасі,
Ды няхай жа яна ляціць на магілачку, кукуе,
Тады ж, можа, твой татачка пачуе.
Няхай жа ён табе пісьмяцо напіша,
Няхай прынясе ды на ручнічку стоячы,
Дробны слёзы ронячы.

Маладая Ніначка вяселле гуляе,
А яе мамачка нічога не знае.
— А напішы звонкае пісьмо да яе,
А папрасі шэрую зязюлю, хай нясе.
Няхай яна ў родным полі кукуе,
Можа, мамачка ў сырой зямельцы пачуе.

Ды хто ж гэта ў цёмным лесе гукаець,
Ды хто ж гэта ў цёмным лесе гукаець?
Гэта Верачка ў цёмным лесе гукаець,
Яна свайго роднага таткі шукаець.
Усе горы-даліначкі перайшла,
Нідзе свайго роднага таткі не найшла.
Ці пішы лісточкі, ці шлі паслочкі па яго,
Ці пішы лісточкі, ці шлі паслочкі па яго.
Няхай жа ён хоць салавейкам прыляціць,
Няхай майго вяселлейка палядзіць.

Напішу я сіні папер, пушчу па вадзе.
— Плыві, плыві, сіні папер, ціха па вадзе,
Прыбудзь, прыбудзь, мая мамка, цяпер і ка мне,
Дай жа мне парадачак, беднай сіраце.
— Ой, карыся, дзіця маё, чужой чужыне,
Хай дае парадачак беднай сіраце.

А ў Манечкі дзевачкі хату аж носяць, *
Млода Манечка шэру зязюлю ўсё просіць:
— Ой, ляці, ляці, шэра зязюля, высока,
Да занясі мамачцы пісьмо далёка.
Млода Манечка ўсю ночачку не спала,
Яна сваей мамачцы пісьмо пісала.
Да пісала нямножка, усё розна:
— Прыедзь, прыедзь, мая мамачка, хоць позна
Да папрасі шэру зязюльку на елцы,
Няхай скажыць тваей мамачцы ў зямельцы.

---

* Кожны радок паўтараецца.

14. Зак. 555

Ой, хто гэта ў ціхім цераме гаворыць?
Ой, малада дзевачка са сваей матулькай гаворыць:
— Будзем, мамачка, лісты пісаць, паслы слаць.
Адзін пасол на свет пашлём па радню,
А другі пашлём па татулечку ў зямлю.
Ўся радзінка з белага свету прыедзець,
Адзін тачачка з сырой зямелькі не прыдзець.

Што гэта рана ў небе звінела,
Ў небе звінела, ў зямлі стучэла?
Валеччын пасол у зямлю пайшоў,
У зямлю пайшоў татачку іскаці.
Як жа ён пайшоў, ён не дайдзіць,
Свайго татульку ў зямлі не найдзіць.
Яе татулька дужа далёка,
Дужа далёка, ў зямлі глыбока.
— Узнімішеся, буйныя ветры,
Ды раскапайце жоўты пясочак,
Ды разарвіце зялёны дзярночак,
Ды разбіце грабовы дошкі,
Ды падніміце татачку на ножкі.

— А ўжо на двары відная зара, *
У цябе, Ганначка, парадку няма.
— Дзевачкі, сястрыцы, нядолька мая,
Затое, дзевачкі, што мамкі няма.
— Напішы, Ганначка, да два лісточкі,
А пашлі да мамкі да два паслочкі.
— Паслала б старога, стары не дайдзіць,
Ён маёй родненькай мамкі не найдзіць.
Паслала б малога, дык ён заблудзіць,
А ў мяне мамачкі ўсё роўна не будзіць.

* Кожны радок паўтараецца.

# МАЛАДАЯ ІДЗЕ НА МОГІЛКІ, ШУКАЕ І КЛІЧА БАЦЬКОЎ НА ВЯСЕЛЛЕ

Ў чыстым полі ялінaчка стаяла,
Пад тэй ялінкай магілачка ляжала.
Да тэй магілкі чорная сцежка ўтаптана.
Па тэй сцежачцы млода дзяўчына хадзіла,
Яна сваю родную мамку будзіла:
— Ўстань, устань, родная мамка, не ляжы,
Хоць ты мне адно утрачка паслужы.
— Ой, не ўстану, маё дзіцятка, не ўстану,
Ані сягоння на ножачкі не ўстану:
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не крану,
Залезны ключкі замкнулі ручкі — не ўзніму,
Жоўты пясочак залёг насочак — не дыхну,
Зялёна траўка зарасла вочкі — не пpагляну.
Есць у цябе сямеечка ў даму,
Пакарыся, пакланіся па аднаму.
Пакарыся, пакланіся па аднаму,
Няхай яны ранюсенька ўстануць,
Няхай яны вяселлейка спраўляюць,
Няхай цябе за скам'ёю пасадзяць,
Няхай цябе, маладую, баславяць,
Няхай цябе да шлюбу адправяць.

Сіротанька па магілцы хадзіла, *
Яна, ходзючы, чорную сцежку ўбіла.
Яна слоўкамі родную мамку будзіла:
— Устань, устань, родная мамка, не ляжы,
Да хоць гэтат вечарочак паслужы.
— Рада б паўстаць, парадачак даць сваёй дзіцяці:
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — не магу ўстаць,
Сырая зямля на грудзі злягла — не магу ўздыхнуць,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не магу праглянуць.
— Узнімíцеся, буйныя ветры, на моры,
Разнясіце жоўты пясочак па полі,

* Кожны радок паўтараецца.

Паламайце грабовы дошкі на крошкі
І пастаўце мне матульку на ножкі.
— Ідзі, ідзі, маё дзіцятка, дахаткі,
Няхай пабудзець твой татулька ў парадкі.

Нехта ў лесе памаленечку блукае,
Малады Алёшка свайго татачку шукае.
Устань, устань, родны татачка, на параду.
— Не магу ж я, дзіцятка маё, ўстаці,
Не магу ж я парадачку табе даці.
Няхай радзяць і парадзяць добрыя людзі без мяне,
А я ж ужо, я пад тромі замкамі:
Першы замочак — зялёненькі дзярночак,
Другі замочак — да й жоўценькі пясочак,
Трэці замочак — цісовая дошчачка.
— Павень, павень, буйны вецер, з даліны,
Згарні, згарні пясочак жоўты з магілы,
Разбі ж, разбі цісовыя дошкі на крошкі,
Пастаў, пастаў майго татачку на ножкі.

Ой, хто ж, хто, ой, хто ж, хто*
У цёмным лесе ціханька гукае?
Красна Томачка свайго татачку шукае.
— Акажыся, мой татачка, да мяне,
Няма ў мяне парадачку без цябе.
— Не катуйся, маё дзіцятка, без мяне,
Ёсць у цябе твой дзядзечка для цябе,
Няхай табе ўсе парадачкі навядзе.

А хто ў бару паціхусеньку гукаець? *
Молад Толічак свайго татульку шукаець.
— Шукай, шукай, молад Толічак,— не знойдзеш:
Цераз лясок жоўты пясок — магіла.
— Адклікніся, адгукніся, татулька.
— Не адклікнуся, не адгукнуся, сыночак:
Сырая зямля к грудкам прылягла — не дыхну,
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — не крану,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну.

* Кожны радок паўтараецца.

Ой, хто там, хто там паціхонечку гукае?
Малада Каця свайго бацюхна шукае.
— Ой, сюды, сюды, мой да бацюхна, да мяне,
Невясёла ўся бяседанька без цябе.
— Ой, весяліся, маё дзіцятка, без мяне:
Збудавалі мне тры сталярочкі вечны дом,
Не пакінулі ні акошачка, ні дзвярэй,
Злажылі ножкі ў нямыя дошкі — не ўстану,
Стварылі вочкі з цёмнай ночкі — не ўзгляну.

А хто ў лесе паціхусеньку гукае?
Малада дзевачка свайго татачкі шукае.
— Ды сыдзі-прыйдзі, мой татачка, да мяне,
Парадзь радзечку цяпер мне.
— Не сыду, ды не прыйду, маё дзіцятка, да цябе,
Было не збіраць з трох сёл цеслікоў.
Было не рабіць ды мне хатачкі цесненькай:
Без сяней, без дзвярэй, без вугольнага аконца.
Таму й не скажу табе, маё дзіцятка, ні слоўца.

Ў чыстаму полі да шырокая шырыня,
А ў тэй шыры[ні] да высокая магіла.
Ходзіць Верачка кола магілы блізенька
Да кланяец[ца] сваей матаньцы нізенька.
— Ох, устань, мая матанька, не ляжы,
Да хадзі, хад[зі] мне парадачак навядзі.
— Ой, не ўстану, маё дзіцятка, не пайду,
Ўжо мне зроблена нову хатаньку — не віджу.
Не пакінулі [ні] акеначка, ні дзверцаў,
Не прамові[ці] проціў дзіцятка ні слоўца.

А хто ў лесе сціха-памаленьку гукае?
Красна дзеванька свае маткі шукае.
— Ой, ідзі-пайдзі, мая матка, дадому,
Да будзем меці добрую раду з табою.
— Ой, не пайду, маё дзіцятка, не пайду,
Да калі ж бо я да галованькі не здыму,
Да белых ручак не здзяржу:

Прыбіты ножкі да цісовай дошкі — не ўстану,
Згарняны ручкі к шчыраму сэрцу — не зніму,
Спячатаваны вочкі к беламу ліцу — не гляну.
Збудавалі два слесарове новы дом,
Да не пусцілі ні аконанька, ні дзвярцоў,
Не прамоўлю, мая дзіцятка, ні слоўца.

Хто там у лесе сціха-памаленьку гукае?
Там сужанька свайго войчанька шукае.
— Ідзі-прыйдзі, мой войчанька, дадому,
Ці не будзе лепей мне, маладому, з табою?
— Ой, рад бы я, маё дзіцятка, ўстаці,
Да не магу белых ручак зняці:
Цяклі, беглі два слесарове
Да зрабілі мне нову хату з клёну,
Не пусцілі ні акенца, ні дзверца,
Да не прамоўлю ні слоўца.

Ой, хто ў лесе і хто ў цёмным гукае?
Ой, там Ніначка свайго бацюхна шукае.
— І во ідзі-ідзі, мой бацюхна, дадому,
Да будзе ў нас парадунька з табою.
— Ой, не магу я, дзіцятка, не магу,
Больна легла мне сыра зямля на душу:
Ды і зрабілі мне тры бандарове вечны дом,
Не прасеклі мне ні вакошачка, ні дзвярэй.
Не прасеклі мне ні вакошачка, ні дзвярэй,
Не прамоўлю я процiў дзіцяці трох славей.

Ой, нешта ў небе памаленьку гукае,
Ой, нешта ў небе памаленьку гукае,
Гэта наша дзевачка сваю мамку шукае.
— Ох, хадзі, хадзі, родна мамка, са мною,
Будзе і ў нас рада-парада з табою.
— Ох, да не мушу, дзіцятка, не мушу,
Ох, да налягла сырая зямля на душу.
Ох, да не мушу ўстаці к свайму дзіцяці,
К свайму дзіцяці да параданьку даці.

А хто ў садочку, а хто ў зялёненькім гукае?
Малада дзевачка свайго бацьку шукае.
— Ой, выйдзі, выйдзі, родны бацька, са мною,
Добра ж будзе мне дый парадзіцца з табою.
— Ой, радзься, радзься, маё дзіця, без мяне:
Збудавалі мне тры сталяры вечны дом
Дый не пусцілі ні акон, ні дзвярэй.
Стварылі вочкі з цёмныя ночкі — не глядзяць,
Злажылі ручкі к шчыраму сэрцу — не адгарнуць,
Прыбілі ножкі к цісовым дошкам — не магу ўстаць.
Не магу ўстаць свайму дзіцяці раду даць.

Паміж гор да каморачка,
Там свяціла зорачка.
Да не зорачка свяціла,
Там дзевачка хадзіла,
Свайго войчанька да пабуджала.
— Не выйду, маё дзіцятко, да цябе:
Сплюснулі мне вочкі да цёмнай ночкі —
Не ўзгляну.
Прылажылі ручкі да шчырага сэрца —
Не ўздыму.
Сціснулі ножкі ў сталёвыя дошкі —
Не ўстану.
Да цябе, дзіцятка, на параданьку
Не прыйду.

А хто там па цёмным лесе гукае?
Малада дзяўчына роднага татку шукае.
Яна не знайшла па цёмным лесе ходзячы,
А яна знайшла ў цёмнай магіле ляжачы.
— Ўстань, устань, мой татачка, не ляжы,
Хоць ты мне гэту ночаньку памажы.
— Не ўстану, маё дзіцятка, не магу,
Бо я на цябе вялікую жаль маю,
Што напрасіла такіх пышных сталяроў,
Што збудавалі для мяне хату без вуглоў.
Не пусцілі ні аднаго аконца,
Не засвеціць ясен месяц ні сонца.
Нямыя дошкі сціснулі ножкі — не пайду,

Вострыя цвікі сціснулі бакі — не ўстану.
Зялёны дзярнок залажыў грудзі — не ўздыхну,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не ўзгляну.

А хто ў лесе, а хто ў цёмненькім гукае?
Маладая Ніначка свайго бацюшкі шукае.
— Не шукай, Ніначка, да ты ў цёмненькім лясочку,
Пайдзі пашукай да ты ў жоўценькім пясочку.
Стала Ніначка па магілачках хадзіці,
Нашла магілу, стала татачку будзіці:
— Ўстань, татачка, ўстань, родненькі, не ляжы,
Да ідзі мне ўсю парадачку пакажы.
— Не ўстану, Ніначка, не магу,
Да збудавалі мне трох слесарове да труну,
Да збудавалі мне без акошачка, без акна.
Кланяйся, Ніначка, усёй сваёй радзіме,
Няхай памогуць табе, сіраціне.

А хто ў бары ды паціхусеньку гукае,
Ці не наша дзевачка сваей мамачкі шукае?
— Выйдзі, выйдзі, мамачка, да з бору,
Парадзімся, пагаворым мы з табою.
— Радзься-парадзься, дзіцятка, без мяне,
Збудавалі мне хатку без цябе.
Збудавалі хатачку сталяры,
Ды не выразалі мне акеначка ў зямлі,
Каб не свяціў ні ясен месяц, ні сонца,
Каб не прамовіць да свайго дзіцяці ні слоўца.
— Устань, устань, мая мамачка, не ляжы,
Хоць ты да мяне на часочак прыбяжы.
— Не ўстану, дзіцятка, не магу:
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну,
Зялёны дзярночак сціснуў ручкі — не ўстану,
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не прыбягу.

Эта сіротка тры ночкі не спала,
Да магілачкі чорную дарожку таптала,
Сваю матульку на свадзьбу прасіла:
— Прыйдзі, матулька, хоць на адзін вечарочак,
Хоць не на доўгі часочак,

Сіротачкі парадачку паглядзець,
Хоць на парозе пастаяць.
— Не прыйду, дачушка, не прыйду:
Дубовыя дошкі сціснулі ножкі,
Жалезны цвічкі сціснулі плечкі,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі —
Не віджу.

А хто ж гэтай цёмнай ночачкі недаспаў,
Па магілачцы чорныя сцежачкі вытаптаў?
Наша Валечка цёмнае ночачкі не спала,
Па магілачцы чорныя сцежачкі таптала,
Яна сваю родну мамачку будзіла:
— Устань, устань, мая мамачка, не ляжы,
Хаця ж ты мне адну ночачку памажы.
— Ой, не ўстану, мая дачушка, не ўстану,
Я на цябе вялікае жаль маю:
Збудавалі мне хатачку цёмную,
Не прарэзалі ніводнага аконца,
Не засвеце ні ясны месяц, ні сонца.
Ідзі, ідзі, маё дзіцятка, тут не стой,
А я цябе паўдарожачкі перайму
Да я цябе шчасцем-долечкай надару.

Ды што гэта ды ў цёмным лесе крычала,
Крычала? *
Там Любачка свайго татачку гукала,
Гукала:
— Адгукніся, мой жа татачка, хоць слаўцо,
Хоць слаўцо.
— Не адгукнуся, маё дзіцятка, ні слаўца,
Ні слаўца:
Збудавалі два татарыны новы дом,
Новы дом
Ды без сонца, без аконца, без дзвярэй,
Без дзвярэй.
Да не ўбачыць мне, маё дзіцятка, ўжо людзей,
Ўжо людзей.

---

* Кожны цотны радок паўтараецца.

Хто ў лесе, хто ў цёмным гукае?
Малада дзевачка мамку шукае.
— Адгукніся, мая мамачка, да мяне,
Не маю парадачку без цябе.
— Не адгукнуся, маё дзіцятка, да цябе:
Збудавалі цёмну хатку для мяне.
Не выразалі ні аднаго ваконца,
Каб не свяціў ні ясны месяц, ні сонца.
Не пакажа мне дарожку, дзе йсці,
Свайму дзіцяці парадак павясці.

Па сеням, сеням, па новым сеням,
Там Робертка ходзіць, роднага татухну будзіць:
— Ўстань, татухна, ўстань, родны, парадухну дай.
Хата багата, расход вялікі, парадухну няма.
— Чую, Робертка, чую, дзіцятка,— не магу ўстаці:
Грабовы дошкі сціснулі ножкі,
Чорная смага на губы стала — не магу прагаварыць,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не магу прагляяуць,
Зялёны гаёк на грудцы лёг — не магу ўстаці.
З богам, Робертка, з богам, дзіцятка, і з прачыстай мамкай,
Хай благаслаўляюць, хай надзяляюць
Цёткі ды дзядзькі, ды хросная мамка.

Сіротачка па могілках хадзіла,
Траўку-мураўку ўсё слязамі мачыла,
Родну матульку ўсё слоўцамі будзіла:
— Ўстань, устань, родна матулька, не ляжы,
Ды хоць гэтат вечарочак паслужы.
— Ой, рада была б, родна дзіцятка, служыці,
Да не даў бог на гэтым свеце пражыці.
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — не крануць,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не глянуць,
Зялёны дзярнок на грудзі палёг — не дыхну.

Сіротанька па садочку хадзіла, *
Да й ходзячы чорную сцежку ўбіла,
Да плачучы белу хустаньку змачыла,

* Кожны радок паўтараецца.

Да й слоўкамі родну матульку будзіла:
—Устань, устань, родна матулька, не ляжы,
Да й хоць гэтат вечарочак памажы.
— Рада б устаці, свайму дзіцяці памагчы:
Дубовы дошкі сціснулі ножкі — не крануць,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не пераглянуць,
Траўкай-мураўкай дзверкі зараслі — не адчыніць.

А ў гародзе бярозачка белая,
Наша Ніначка сіротачка бедная.
Да магільнічку чорну сцежку таптала,
А магілачку слязою мачыла,
Мамулечку галасочкам будзіла.
— Устань, устань, мамулечка, доўга спіш,
— Ай, не ўстану, дзіцятачка, не ўстану:
Жоўты пясочак залёг насочак — неяк мне дыхнуць,
Чорная смага пала на вусны — неяк мне загаварыць,
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — неяк мне падняцца,
Шэра каменне пала на грудзі — неяк мне павярнуцца.

А ў полі бярозачка белая,
Наша Надзечка сіротачка бедная.
На магільнічак чорну сцежачку ўбіла,
Яна да сваей матулькі хадзіла.
— А ўстань, устань, мая мамулька, не ляжы,
Сіроцкага парадачку паглядзі.
Па магільнічку сірацінячка хадзіла,
Яна ж у бога буйнага ветру прасіла:
— Павей, павей, буйны вецярочак, з даліны,
Сарві, сарві зелен дзёран з магілы,
Згані, скрышы грабовы дошкі на крошкі,
А падымі маю мамульку на ножкі.

Каля магілы чорная сцежка набіта, *
А па тэй сцежцы млода Ніначка хадзіла.
Яна хадзіла, сваю мамульку будзіла:
— Устань, мамулька, устань, родная, доўга спіш.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Рада б я ўстаці, родна дзіцяці, — не магу,
Мая дачушка, я ў тры замочкі замкнёна:
Адзін замочак — траўка-мураўка зялёна,
Другі замочак — жоўты пясочак, божа ж мой,
Трэці замочак — грабовы дошкі, божа ж мой.
— А вы павейце, буйныя ветры, па полю,
А разнясіце траўку-мураўку зялёну,
А вы развейце жоўты пясочкі ў лясочкі,
А вы разбейце грабовы дошкі на крошкі,
Пастанавіце маю мамульку на ножкі.

Млода Манечка па магілках хадзіла, *
Жоўты пясочак чаравічкамі страчыла,
Яна ў бога буйнага ветру прасіла:
— Узыміцеся, буйныя ветры, з угор'я,
Разнясіце жоўты пясочак па полі
Да разарвіце грабовы дошкі на крошкі,
Ці не ўзойміце маю мамульку на ножкі.
— А не ўстану, мая дачушка, не ўстану:
І сырая зямля ў грудцы залягла — не дыхну,
Усё парошайка вочкі засыпала — не гляну,
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — не ўстану.

Сіротачка па магільнічку хадзіла,
Яна ў бога буйнога ветру прасіла:
— А ўзніміцеся, буйныя ветры, з даліны,
А ўзніміце маю мамульку з магілы.
І разнясіце жоўтыя пяскі на ляскі,
І паламайце грабовыя дошкі на крошкі,
І ўзніміце маю мамку на ножкі.
— Дзіцятка, я гэтага не зраблю,
Жоўтыя пяскі не ўзнясу,
Грабовыя дошкі не здраблю,
Мамку з магілы не ўзніму,
Сірату доляй надзялю.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Сіротка на магілачку хадзіла,
Яна ў бога буйных ветраў прасіла:
— А не вейце, буйныя ветры, з даліны,
А павейце, буйныя ветры з узгор'я
Ды падыміце майго татку з дамоўя.
Ды няхай ён хоць часіначку пастаіць,
Ды няхай ён мяне, сіротку, паглядзіць.
Выйшла сіротка за вароцечкі плачучы:
— Ты мяне, мамка, далёка замуж аддаеш,
Якая мая будзе долечка — не знаеш.
Можа, я буду, сіротачка, гараваць,
Будзе мяне радзінка абмінаць.

Павейце ж, вятры, з-за пушчы дубовай,
Разнясіце ж, вятры, пясочак жвіровы,
Разбудзіце ж, вятры, родную матачку,
Няхай прыйдзе яна к дзіцяці ў хатачку.
І вятры не веюць, пясочку не мятуць,
І родную матачку з магілкі не збудзяць.
Не ўстане, не ўстане родная матачка,
Не ўстане, не прыйдзе к дзіцяці ў хатачку.
Не ўстане, не прыйдзе: ўжо ножкі не ходзяць,
Не ўстане, не прыйдзе: ўжо вочкі не свецяць.
І вочкі не свецяць, і ножкі не ходзяць,
Сыра зямліца націснула грудкі.
На раду ў хатачку к дзеткам матачка не прыйдзе.
Не будзе ім радзіць, як дзеткам жыць.
Ой, цяжка, ой, цяжка дзеткам без маці быць.

Павей, павей, вецер у даліну,
Павей, вецер, на таткаву магілу
Ды раскапай жоўты пясок да дасок,
Раскідай дубовы дошкі на крошкі.
Ды падыміся, мой татачка, з магілы,
Прыйдзі ка мне вяселлейка іграці,
Бо некаму парадачкі наводзіць
Ды некаму падарачкі нарэзаць.
Старая мама па хатачцы чуць ходзіць
Ды няскора парадачкі наводзіць.

Чыя гэта радзіна па магілках хадзіла,
У госпада бога буйнага ветру прасіла?
— Дай жа, божа, буйнага ветру на зямлю,
Пазрывайце жоўтыя пяскі з магілкі,
Пабіце сасновы дошкі на крошкі,
Пакланюся сваей мамачцы ў ножкі.
— Хадзі, хадзі, мая мамачка, са мною,
Парадзім усю радачку з табою.
— Радзь, радзь, дзіцятка маё, з раднёю:
Сціснулі ножкі ў цісовыя дошкі — не пайсці,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не зірнуць,
Зелен дзярночак зажаў грудачкі — не дыхнуць.

Да й хто ж гэта цёмнай ночкі недаспаў,
Да й хто ж гэта чорную сцежку вытаптаў?
Маладая Ганечка цёмную ночку недаспала,
Яна гэту чорную сцежку таптала,
Ад магілачкі да магілачкі хадзіла,
Сваю мамачку на вяселлейка прасіла:
— Ўстань, устань, мая мамачка, не ляжы,
Хоць жа ты гэту ночачку мне памажы.
— Рада была бы ўстаці к свайму дзіцяці — не магу:
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не крану,
Дубовыя гвоздзікі збілі галоўку — не ўздыму,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну,
Зялёны дзярночак залёг на грудцы — не дыхну,
Да цябе, дзіцятка, на вяселле не прыйду.

А хто ж гэта па магільнічку пахадзіў,
А хто ж гэта жоўты пясочак паслядзіў?
Ганначка па магільнічку хадзіла,
Яна сваю мамулечку будзіла:
— Ўстань, устань, мамулечка, не ляжы,
Прыйдзі ка мне ў вяселлейка, памажы.
— А не магу, дачушачка, не магу,
А я ж табе ў вяселлейка не памажу:
Дубовы дошкі сціснулі ножкі — не ўстану,
Жалезны цвічкі сціснулі плечкі — не павярну,
Жоўты пясочак залёг у насочак — не прадыхну,
Траўка-мураўка зарасла ў вочкі — не гляну.

Закукавала сіня зязюля пад вакном,
Ой, заплакала млода дзяўчына за сталом.
А хто там, хто там, у цёмным лесе гукае?
Млода дзяўчына сваей матулі шукае.
— Ой, устань, устань, родна матуля, да мяне,
Ой, прашу, прашу на вяселлейка да сябе,
Ой, прашу, прашу на вяселлейка да сябе.
— Ой, з богам, з богам, родна дзіцятка, ад мяне,
Бо я й не ўстану на вяселлейка да цябе.
Бо я не ўстану, бо я не прыйду да цябе,
Ой, весяліся, родна дзіцятка, без мяне.

Сіротачка па магілцы хадзіла,
Слёзкамі чорну зямельку мачыла,
А слоўцамі родненьку мамку будзіла:
— Ўстань, устань, мая мамка, не ляжы,
Хоць ты ж мне гэту часінку паслужы.
— Ды не магу, маё дзіцятка, не магу,
Ды не крану ручанькамі, ножкамі не крану:
Жоўты пясочак сціснуў насочак — не дыхну,
Дубовыя дошкі сціснулі ножкі — не крану.
Досыць табе я, дзіцятка, служыла,
Як ты ў мяне маленькай была.
Сорак ночак цямнюсенькіх не спала,
Сорак свечак яснюсенькіх спаліла,
Пакуль цябе, дачушка, узрасціла.

Ды хто ў лесе ціхонька гукае,
Хто сваёй маткі шукае?
— Ой, куды, куды, мая матулька, так зайшла,
Чаму ж ка мне на вяселлейка не прыйшла?
— Ой, рада б я, дзіцятка, прыйсці,
Ды пабудавалі мне сталярнікі святліцу
Без дзвярэй, без акошачка, без сонца,
Не прамоўлю табе, дзіцятка, ні слоўца.
— Мая матка, хоць не прамовіш,
Але здымай ручанькі да бога,
Прасі мне ў бога долі і шчасця.
— Ой, сайдзі-прыйдзі, госпадзь, сам да нас,
Начынаецца вяселлейка ў добры час.
Ай, да дай, божа, ў добры час начаці,
А яшчэ ў лепшы канчаці.

Хто там, хто там у цёмным лесе гукае?
Там дзевачка свае мамачкі шукае.
— Ой чаго, чаго, мая мамка, сюды пайшла,
Чаму ка мне на вяселлейка не прыйшла?
— Ой, не прыйду, маё дзіцятка, не прыйду,
Бо змарыў мяне сон — вечны сон,
Да й набок маю галовачку схіліў,
Да й накрыж мае ручачкі злажыў,
Да й навек мае вочачкі закрыў.
Да й змуравалі мне муляры новы дом,
Да й не пусцілі ні дзверцаў, ні аконца,
Да й не прамоўлю, маё дзіцятка, ні слоўца.

Хадзіла дзевачка пад ляском
Да клікала мамачку галаском:
— Ідзі, ідзі, мамачка, дадому,
Сянне будзе лепей з табою.
Да памажы радачку парадзіць,
Да памажы дружыну пасадзіць.
— Не пайду, дзіцятка, не пайду,
Ёсць у цябе татачка ў даму.
Хай табе радачку парадзіць,
Хай табе дружыну пасадзіць.
І змарыў жа мяне вечны сон,
Збудавалі хатку без вакон,
Што не вее ні вецер, ні сонца.
Не скажу, дзіцятка, ні слоўца.

А хто ў лесе пад калінаю гукае?
Млода Ганначка свае матанькі шукае:
— Ўстань, устань, мая матанька, не ляжы.
Хоць адну раданьку ты мне падскажы.
— Ой, не ўстану, маё дзіцятка, не ўстану:
Засыпалі вочкі жоўтым пясочкам — не ўзгляну,
Прыбілі ножкі да сырой дошкі — не ўстану.

— Мамка мая мілая,
Я без цябе расла, гадавалася,
А цяпер, мая мамка, прашу, не ляжы,

Прыйдзі да мяне хоць на часок, памажы.
У нас ужо і сталы засланы,
І госці пазваны,
А цябе, мая мамка, не відаць.
Мяне ж нет каму блаславіць
І за стол пасадзіць.
— Узнімецеся, ветры,
Да развейце зялёныя дзярночкі,
Ды раздуйце жоўтыя пясочкі,
Разарвіце сасновыя дошкі,
Памажыце мне мамку паставіць на ножкі.
Каб мамка прыйшла,
У нас парадак навяла.

Да стаяла дзевачка пад ляском,
Да клікала матачкі галаском:
— Да мяне, матачка, да мяне,
Вечная сірота без цябе,
Уся ж мая параданька ў цябе.
— Ох, рада б я, дзіцятка, к табе ўстаць,
Раду-параду табе даць.

Хадзіла дзевачка пад ляском,
Шукала мамачку галаском:
— Ідзі, мая мамачка, дадому,
Да няма парадку нікому:
Ні сваяму роду, ні чужому,
Ні сваяму хлопчыку маладому.
— Нядобра, млода Ганначка, зрабіла,
На ўсё радню пазабыла.
Толькі пазвала дзядзькаў і цётак,
Маткі — забыла.
— Я сягоння ўсе вулачкі абышла,
Нідзе сваей роднай мамачкі не найшла.
— Куды ж ты, мамачка, сышла,
Што на маё вяселлечка не прыйшла.

Хто гэта ў полі гукаець? *
Млода Каценька свайго татку шукаець.

* Кожны радок паўтараецца.

— Прыйдзі, прыйдзі, татанька, дадому,
Нет парадачку нікому:
Ні тым госцейкам прыезджым,
Ні тым суседзям прыхожым,
Ні нам, маладым, прывету.
— Не пайду, Каценька, дадому,
Не дам парадку нікому.
Ёсць у цябе маманька ў даму,
Дасць парадачак ўсяму:
І тым госцейкам прыезджым,
І тым суседзям прыхожым,
І вам, маладым, прывету.

А хто ж гэта ды ў шчырым бары гукае?
Гэта наша дзевачка свайго татачку клікае:
— Прыйдзі, прыйдзі ты, мой татачка, дадому,
Няма без цябе толку-парадку нікому —
А ні таму роду чужому,
Ні таму хлопчыку маладому.
— Іду, іду, маё дзіцятка, не дайду:
Залатыя замкі сціснулі грудкі — не ўздыхну,
Жоўты пясок засыпаў глазы — не ўзгляну,
Шоўкава трава звязала ручкі — не ўстану,
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — не пайду.
Няхай будзе дый суседушка за тату,
Няхай ён дасць толк-парадак усяму —
І таму роду чужому,
І таму хлопчыку маладому.

Стаяла Томачка пад ляском, *
Гукала папачку галаском:
— Хадзі, мой папачка, дадому,
А няма парадку нікому:
А ні той радзіне зазванай,
А ні тым суседзям сабраным.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Не пайду, дачушка, не пайду,
Есць у цябе мамачка ў даму.
Дасць яна парадак усяму:
І той радзіне зазванай,
А й тым суседзям сабраным.

Стаяў Мішулька за ляском, *
Гукнуў мамульку галаском:
— Хадзі, мая мамулька, да мяне,
А няма парадку без цябе:
А ні тым госцейкам прыезджым,
А ні гэтым суседзям прыхожым,
А ні мне, маладзе-сіраце.
— Не пайду, дзіцятка, да цябе,
Не павяду парадак я табе.
Ё ў цябе бабулька ля цябе,
Хай табе парадак павядзе:
А гэтым госцейкам прыезджым,
А гэтым суседзям прыхожым
І табе, маладзе-сіраце.

Хадзіла сіротачка, хадзіла,
Садзіла зялёны гаёчак, садзіла,
Па тым гаёчку свой галасочак пускала.
— Ляці, ляці, мой галасок, у лясок,
Пабудзі маю мамачку хоць на часок,
Каб яна мне хоць ночачку памагла,
Каб яна мне, моладзе, парадачку дала,
Як мне жыці, як прыжываці ў чужых.
— А не ўстану, мая дачушка, не магу:
Сырая зямля грудцы прылягла — не дыхну.
Рабі, дачушка, як ты сама знаеш,
А ты парадачкі ні ад каго не прычакаеш.

А хто там у цёмным лясочку гамоніць?
А там Анечка з родным таткам гаворыць.
— Устань, родны татачка, не ляжы,

* Кожны радок паўтараецца.

А ты ж мне хоць адзін дзянёчак паслужы.
Прыедуць жа к нам небывалыя госці,
А ў мяне ж няма роднага татулькі,
А некаму ж мне будзець парадачкаў павадзіць.
— Адступ, адступ, дзіцятачка, ад мяне:
А ёсць у цябе родна матушка,
Няхай яна гардзюсенькая не будзець,
Няхай яна парадачкі паводзіць.

Хто-та ў лесе гукае?
Волечка татаньку шукае.
Ўвесь лясочак абышла,
Роднага татачкі не найшла,
А толькі ж найшла месцечка
Ды залатое крэслечка,
Дзе мой татачка сядзеў,
На мяне, маладую, глядзеў.
— Хадзі, хадзі, татачка, дадому,
Няма парадку ў мяне ні ў чому.
— Не пайду, дачушка, не пайду,
Я ж табе парадак не ўзвяду:
Прыціснулі ножкі грабовыя дошкі —
Не магу устаць.
Прыціснуў галоўку шэры камушок —
Не магу падняць.
Ёсць у цябе мамачка ў даму,
Хай табе парадак дае к усяму.

А хто ў бары, а хто ў лесе гукае?
Маладая Аленка сваю мамачку шукае.
— Не шукай жа ты свае мамачкі ў лясочку,
Да пашукай свае мамачкі ў жоўценькім пясочку.
— Устань, мая мамачка, да прыйдзі,
Да сваё дзіцятка паблагаславі.
— Не магу, мая дачушка, не магу я ўстаці,
Парадунькі да табе даці.
Захавалі мяне да на тры замочкі:
Першы замочак — зялёная дзёранка,
А другі замочак — жоўты пясочак,
А трэці замочак — сасновая трунка.

Сірата смутна ходзя, *
Чужога татку прося:
— Татулька мой родненькі,
Перайдзі дарожачку,
Шлюбавую сцежачку.
— А дзіцятка мілае,
Прасі госпада бога,
А няхай ён пяройдзе
З яснымі свячамі,
З добрымі мыслямі.

Сядзіць Янінка за белым сталом, думаець: *
А хто ж мне дарожку пераржагнаець?
Каб я мела свайго роднага татулю,
Перажагнаў бы мне дарожку да шлюбу.
А цяпер я сама не знаю, што рабіць,
Трэба ісці роднага дзядзьку папрасіць.
— Мой дзядзечка, будзь у мяне за татулю,
Перажагнай жа мне дарожку да шлюбу.

У чыстым полі ялінaчка стаяла,
А па магілцы сіротачка хадзіла,
Яна сваю родну матульку будзіла:
— Устань, устань, мая матулька, не ляжы,
Хуць жа ж ты мне гэту ночачку паслужы.
— Рада б устаці к свайму дзіцяці — не магу:
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не крану,
Дубовы гвоздзі збілі галоўку — не ўзніму,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не ўзгляну,
Зялёны дзярночак заціснуў грудцы — не дыхну.
Ты ж паглядзі, як ясен месяц высока,
А я ж ляжу закапана глыбока,
Не свеціць мне ні ясен месяц, ні сонца,
Ні прамоўлю, маё дзіцятка, ні слоўца.

Хадзіла да Ніначка круга саду
Да й гукала свайго татку на параду.
— Устань, устань, татачка, з таго саду,

* Кожны радок паўтараецца.

Ка мне, беднай сіраціне, на параду.
— Ой, рад бы я, мая донька, к табе ўстаці,
Табе, беднай сіраціне, парадачак даці.
Сырая зямля дзверы залягла, акенца засланіла,
К табе, беднай сіраціне, на параду не пусціла.
Ой, кланяйся, дзіця маё, чужой чужыне,
Няхай дае парадачак беднай сіраце.
Ой, кланяйся, дзіця маё, свайму дзядзю,
Няхай дае парадачак, як свайму дзіцяці.
— Ой, кланялася, мой татачка, разоў колькі,
Не дае мне парадачку ані колькі.

Да хадзіла Валечка па гароду,
Да й ганіла серы гусі на воду.
— Гіля, гіля, серы гусі, ціха па вадзе,
Прыбудзь, прыбудзь да, мой татка, ка мне,
Да дай жа парадачак беднай сіраце.
— Ой, кланяйся, мая донька, чужой чужыне,
Няхай даюць парадачак беднай сіраце.
— Ох, кланялась, да, мой татка, не раз, двойчы,
Няма ж мне парадачку ані сколькі.

Хадзіла сіротка па садочку,
Прытаптала чорную сцежку, ходзячы,
Свайго татульку будзячы:
— Устань, устань, татулька, не ляжы.
— Рад быў бы ўстаці, парадачак даці, але не магу:
Дубовыя дошкі сціснулі ножкі — не магу крануць,
Жалезныя цвічкі сціснулі бачкі — не магу ўстаць,
Сырая зямля на грудзі ўзлягла — не магу ўздыхнуці,
Жоўты пясочак засыпаў вочы — не магу прагдянуці,
Залажыліся чуткія вушкі — не магу я больш чуць,
Счапіліся белыя ручкі — не магу расчапіць,
Прызамкнуліся дубовыя дзверы — не магу адчыніць,
Траўкай-мураўкай зараслі сцежачкі — не магу я прайсці.
Дык рад быў бы ўстаці парадачак даці, але не магу.

Па садочку сіротка хадзіла,
Да магілкі чорную сцежку ўбіла,
Русай касой ўсю магілку ўкрыла,
А дробнай слязой ўсю магілку паліла,
Звонкім голасам сваю мамульку будзіла:
— Устань, устань, мая мамулька, не ляжы,
Мне, сіротачцы, хоць адзін дзянёчак памажы.
Не век мая мамулька будзеш векаваць,
Адзін толькі дзянёчак будзеш памагаць.
— Ат, адстань, адстань, мая дачушчачка,
Адстань, адстань, мая гарушачка,
Не мая воля — самога бога.
Рада б я ўстаці к сваяму дзіцяці благаславенне даці:
Грабовыя дошкі сціснулі ножкі — не магу ўстаці.
Жоўтыя пясочкі засыпалі вочкі — не магу прагляну́ці.

Сіротачка па магілачцы хадзіла,
Свайго татачкі на вяселлейка прасіла.
Як пачуў яе татачка праз пясок:
— Схісні, схісні, маё дзіцятачка, на часок.
Як ты будзеш да за столікам сядзець,
Так я буду праз аконачка глядзець.
Як ты будзеш з падвор'ейка з'язджаці,
Так я буду сцежкі-дарожкі жагнаці.

Ішоў вінаград праз зялёны сад, вішанькі ламаючы.
Ішла Надзечка на магілачкі, слёзачкі раняючы.
— Устань, татачка, устань, родненькі, хоць на 'дну гадзіначку.
Да я хадзіла, да я прасіла ўсю сваю радзіначку.
Адзін, татачка, не йдзеш, не едзеш мяне благаслаўляці.
— Дзіцятка маё, няволя мая, трэба мне прабачаці,
На сваім месце анёлкаў прышлю ў дарожачку выпраўляці.
Да дай жа, божа, долю-шчасцейка беднай сіраціначцы.
А ты падзінькуй, маё дзіцятка, усей сваёй радзіначцы,
Што прыехала, прыхінулася к беднай сіраціначцы.

— Прашу цябе, маманька,
Прашу цябе, родная,
На сваё вяселле ды на сірочае.

— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладое,
Я на тваё вяселле сама не пайду,
Сама не пайду, анёлы прышлю.
Да анёлы ісці будуць,
Да цябе, маладую, да шлюбу вясці будуць.
— Ужо мая мамка за трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
А другі замочак — жоўты пясочак,
А трэці замочак — сасновыя дошчачкі.
Да сходзіцеся, буйныя ветры і дробныя дажджы,
Да разарвіце зялёны дзярночак,
Да раздзьмухніце жоўты пясочак,
Да адамкніце саснову дошчачку,
Да й выпусціце маю родную мамачку.
Прашу цябе, мамачка,
Прашу цябе, родная,
На сваё вяселле ды на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладое,
Я на тваё вяселле сама не пайду,
Сама не пайду, анёлы прышлю.
Анёлы ісці будуць
Да долю несці будуць.
Да будуць пытаці,
Што за долю даці,
Ці хлебную, ці грашавую.
Даўшы хлебную, то багатай будзеш,
Даўшы грашавую, то бога забудзеш,
Даўшы ўсякую, ўспамінаць будзеш.

Салавей шчабечыць,
Зязюлю клічыць.
Ён клічыць, клічыць,
Не даклічыцца.
— Знаць, мая зязюля
За трымя садамі,
За зялёнымі.
Дачка плачыць,
Матушку клічыць.
Яна клічыць, клічыць,
Не даклічыцца.
— Знаць, мая матушка
За трымя замкамі,

За жалезнымі:
Первы замочак — зялёны дзярночак,
Втарэй замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — дубовая достачка.

Цякла рэчка, па каменнейку звінючы, *
Ішла Мар'ечка па новых сенях плачучы,
Каго спаткаець, на ножкі падзець, пытаець:
— А ці ведалі, дзе татка з мамкай начуюць,
А ці яны майго вяселлейка не чуюць?
Ці яны мяне падарыці не хочуць?
Ці яны мяне баславіць не хочуць?
— Няхай цябе суседачкі падорадь,
Няхай цябе суседачкі баславяць.

Ляцеў сокал цераз вішнёў сад крычачы,
Шла дзевачка праз шырокі двор плачучы.
З кім сустрэнецца, не размінецца: — Добры дзень!
Ці не бачылі маей мамачкі ў гэты дзень?
— Хоць бачылі, чы не бачылі — не скажам,
Дарожачку не пакажам.
Наехала сталярыкаў повен двор,
Збудавалі тваей мамачцы новы дом,
Не пусцілі ні акон, ні дзвярэй.
— Дай божа, дождждык, размачы зялёны дзярночак.
Дай божа, ветрык, развей пясочак.
Свяці, солнышка, рассушы дошкі,
Каб пусцілі маю мамачку.

Ляцеў сакол цераз зялён сад звінючы, *
Ішла Танечка цераз бяседу плачучы.
Каго спаткала ў ножкі пала, пытала:
— Ці не відзелі, дзе мая мамка начуець,
Што яна майго вяселлечка не чуець?
Адазвалася бяленькая лябёдка:
— Наша Танечка, вялікая сіротка,

* Кожны радок паўтараецца.

Пойдзем, Танечка, тваей матулькі шукаці.
Мы паходзім па зялёным садочку,
Пашукаем ў жоўценькім пясочку.
Да мы яе па слядочку пазнаем,
Да мы яе на ножанькі паставім,
І мы яе дахатачкі прывядзём,
Да мы яе парадачку паглядзём.
— Ідзі, ідзі, мая дзіцятка, дахаткі,
Няхай пабудзець твой татулька ў парадкі.

Плывець, плывець беленькая лябёдка, *
Млода Ганначка — бедненькая сіротка.
Стала да яе лябёдачка гукаці:
— Пойдзем, Ганначка, твайго татачку шукаці.
Можа ж мы яго па слядочках пазнаем,
Можа ж мы яго на белы ножкі паставім.
Шукалі яны чатыры дні, пяты дзень —
Не найшлі яны свайго татачку анідзе.
— Цяпер табе, млода Ганначка, вясёла,
Як абсела твая радзімачка наўкола.
Яны табе па слоўцу як скажуць —
Яны ж цябе, як рыбачку, сасмажаць.

Ляцеў сокал праз высокі бор граючы,
Ішла Танечка праз татачкін двор плачучы.
Каго не спаткае, таго вітае: — Добры дзень!
Ці не відзелі майго татулечку ў гэты дзень?
— Ой, відзелі пад чорным крыжам, лежачы,
На чорным крыжы накрыж рукі дзержачы.
А на двары ясная зара — дзень будзіць,
А ўжо Ганначка свайго татачку не ўзбудзіць.

А хто там ходзе па цёмным бары, гукае?
Ці не Марыська сваей матулі шукае?
Каго спаткае, у ножкі падае: — Добры дзень!
Ці не відзелі маей матулі ў святы дзень?

---

* Кожны радок паўтараецца.

Калі відзелі, пакланіцеся ад мяне,
Папрасіце на вяселлейка да мяне.
— Ой, відзелі мы, пад новым крыжом ляжала,
Ой, відзелі мы, накрыж ручанькі дзержачы.
— Гуляй, дзетанька, на вяселлейка не прыйду,
Сырыя дошкі сціснулі ножкі — не ўстану,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не ўзгляну,
Сырое дзярно грудзі залягло — не ўздыхну.

Зайграў сакол, праз вішнёвы сад летучы,
Плачыць Марылька, праз татулькаў двор ідучы.
Каго спаткаіць, у ножкі кланяіць: — Добры дзень!
Чы не відзелі майго татульку ў гэты дзень?
— Ой, відзелі на новым ганку стаючы,
Процi сэрданька белыя ручкі дзержучы.
— Вы дзевачкі, сястрыцы мае, прашу вас,
Папрасіце майго татульку да мяне,
Няхай прыйдзіць на вяселлейка да мяне,
Няхай прынясець благаславенне для мяне.
— Няхай цябе бог благаславіць без мяне.
Няхай табе бог долю даець без мяне.

Хто там, хто там па цёмным лесе гукае?
Млода Марыля сваей матулі шукае.
Каго спаткае, ў ножкі падае: — Добры дзень!
Ці не відзелі маей матулі ў святы дзень?
— Відзелі, відзелі на шкляным ганку лежачы,
Накрыж ручанькі дзержачы.
— Дзевачкі мае, сястрыцы мае, прашу вас,
Прывядзіце маю матулю на той час.
— Прыйдзі, мая матуля, да мяне,
Паглядзі, што за раданька ў мяне.
— Не прыйду, маё дзіцятка, не прыйду:
Сырая зямля дзверы залягла — не выйду,
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не ўстану,
Засыпалі вочкі жоўтым пясочкам — не ўзгляну,
Злажылі ручкі к шчыраму сэрцу — не ўздыму,
Засмяглі губкі смажанькай — не прамоўлю.

А хто ў лесе, хто ў цёмненькім гукае? —
Млода Манечка і сваей мамачкі шукае.
І з кім стрэніцца, да ножак падзе: — Добры дзень!
Ці не відзелі маей мамачкі ў гэты дзень?
Ішла Манечка з узгорачка, ў далінаčку,
Найшла Манечка і сваей мамачкі магілачку.
— Устань, устань, мая мамачка, да мяне,
Ці не будзе лепшай долечкі ў мяне.
Устань, устань і, мая мамачка, не ляжы,
Хацяя ты мне ж дзянёчак памажы.
— Ідзі, ідзі, мая дзіцятка, не сядзі,
А ідзі сабе суседзедкаў папрасі,
І каб яны табе гэты дзянёчак памаглі,
Каб яны табе і ўвесь парадачак павялі.

Да хто ў лесе, хто ў цёмным гукае?
Малада Надзечка сваго татачкі шукае.
Да з кім стрэнецца, то пакланіцца: — Добры дзень!
Ці не відзелі майго татачку ці нейдзе?
— Да ці відзелі, ці не відзелі — не скажам,
Да толькі табе мы дарожачку пакажам.
— Да йдзі, йдзі із горачкі ў далінку,
Да там знойдзеш свайго татачкі магілку.
Да йшла, йшла да з горачкі ў далінку,
Да найшла, найшла свайго татачкі магілку.
Да стала ж яна зялёны дзярнок разрываць,
Да стала ж яна жоўты пясочак рассыпаць,
Да стала ж яна свайго татачку падымаць.
— Да ўстань, устань, мой татачка, ідзі дадому,
Да ці не будзе лепшы парады з табою.
Да йдзі, йдзі, маё дзіцятка, ад мяне,
Да зрабі, зрабі ўсе парадачкі без мяне.
Да йдзі, йдзі, маё дзіцятка, дадому
Да зрабі, зрабі ўсе парадачкі з раднёю.
Прыпалі ручкі к шчыраму сэрцу — не ўздыхну,
Запячатаваў сам пан бог вочкі — не ўзгляну,
Прыбілі ножкі к сасновай дошцы — не ўстану.

А хто там, хто там
Ў зялёным бары гукае?
А хто там, хто там
Свайго татачку шукае?

Ой, сыдзі, сыдзі,
Сіротанька, ў далінку,
Ой, знайдзі, знайдзі
Свайго татачкі магілку.

Ой, сышла, сышла
Сіротанька ў далінку,
Ой, знайшла, знайшла
Там пахілену калінку.

Ой, стала яна
Ды калінку адхіляці,
Да магілачкі
Стала моцна прыпадаці:

— Ты устань, устань,
А мой татачка родненькі,
Ды парадзь ты мне
Дзве раданькі сіротаньцы!

Адну радачку,
Як вяселейка зрабіці,
Другу радачку,
Як жа мне да шлюбу стаці.

— Не магу радзіць,
Бо я на цябе не гляну,
Ідзі, дзіцятка,
Ідзі ад мяне — не ўстану:

Сасновы дошкі
Сціснулі ножкі — не ўстану,
Жоўты пясочак
Засыпаў вочкі — не гляну.

Хто ў лесе, хто ў цёмным гукае?
Маладая дзевачка сваіх войчанькаў шукае.
З кім стрэнецца — не размінецца: — Добры дзень!
Ці не відзелі маіх войчанькаў ў гэты дзень?
— Хоць відзелі ці не відзелі — не скажам,
Толькі тую дарожаньку пакажам.

Да зыдзі, зыдзі з-пад гаранькі ў даліну,
Да знайдзеш, знайдзеш сваіх войчанькаў магілу,
Зышла ж яна з-пад гаранькі ў даліну,
Знайшла ж яна сваіх войчанькаў магілу.
Стала ж яна зялёны дзярночак раздзіраці,
Стала ж яна жоўты пясочак рассыпаці,
Стала ж яна сасновыя дошкі разбіваці,
Стала ж яна сваіх войчанькаў пабуджаці:
— Устаньце, устаньце, мае войчанькі, з пакою
Ды прыйдзіце да мяне дадому.
Прашу вас не ў госці, а на вяселле.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, міла,
Не маем волі ад самого бога:
Нашы ножанькі зашрубаваны,
Нашы ручанькі шоўкам звязаны,
Нашы вочанькі ў жоўтым пясочку,
Ў жоўтым пясочку, ў зялёным дзярночку.
Не можам устаці цябе пажагнаці,
Шлюбнай дарожкі табе паказаці.
Няхай цябе, дзіцятка, бог шлюбуе,
Шчасце-долю табе гатуе,
Хай твая доля наперад залятае,
Ў божым доме цябе сустракае.

Ды а хто, хто паціхонечку гукае?
Маладая дзевачка сваей мамачкі шукае.
З кім спаткаецца, прывітаецца: — Добры дзень!
Ці не відзелі маю мамачку ў гэты дзень?
— А хоць відзелі, не відзелі — не скажам,
Толькі мы табе дарожку пакажам.
— Дый устань, мая мамачка, не ляжы,
Хоць жа ты мне гадзіначку памажы.
— Не ўстану, маё дзіцятка, не магу:
Зялёны дзярночак націснуў ручкі — не ўздыхну,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не зірну,
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не пайду.
Табе, дзіцятка, гадзінку не памагу.
— Ды ўзніміцеся, ветры-сакалы, з даліны,
Ды разганіце гэты пясочак з магілы,
Ды пакрышыце сасновы дошкі на крошкі,
Ды падыміце маю мамачку на ножкі.

А хто ж там, хто ў цёмным бары гукае?
Маладая дзяўчынанька сваёй матулі шукае.
З кім спаткаецца, усё пытаецца: — Добры дзень!
Ці не відзелі маёй матулькі ў гэты дзень?
— Мы не відзелі тваёй матулькі ідучы,
Але відзелі накрыж ручкі дзержучы.
Да зыдзі, зыдзі, маладая дзяўчынанька, у далінку,
Да знойдзеш, знойдзеш сваёй матулькі магілку.
Да зышла, зышла, маладая дзяўчынанька ў далінку,
Да знайшла, знайшла сваёй матулькі магілку.
— Да ўстань, устань, родная матуля, не ляжы,
Нам вяселля радзіць памажы.
— Ой, ідзі, ідзі, маё дзіцятка, ад мяне,
Збудавалі нову хатаньку для мяне.
Да збудавалі цёмну хатаньку сталяры,
Не пакінулі ні акеначка, ні дзвярэй.
Прыбілі ножкі да сасновай дошкі — не ўстану,
Засыпалі вочкі жоўтым пясочкам — не гляну.

Ой, хто ж, ой, хто ж па цёмным лесе гукае?
Млода Зосечка й свайго татачку шукае,
З кім спаткаецца, то кланяецца: — Добры дзень!
Ці не відзелі майго ж татку ў гэты дзень?
— Ой, мы відзелі ў цёмнай цямніцы лежачы,
Ой, на сэрданькі белыя ручкі дзержачы.
Ой, сышла з горачкі ў далінку,
Ой, знайшла свайго татанькі магілку.
— Ой, устань, да мой татанька, досыць спаць,
Ой, парадзь жа мне із дружыначкамі ў шлюбе стаць.
— Ой, адыдзіся, мая дочанька, не ўстану:
Сасновыя дошкі сціснулі ножкі — не крану,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не ўзгляну.
Ой, адыдзіся, мая дочанька, ад мяне,
Бо я на цябе вялікі, горды гнеў маю,
Што папрасіла пышных такіх сталяроў,
Ой, збудавалі цёмную хатку без вакон,
Што не засвеце ясны месячык і сонца,
Што не закукуе шэра зязюля ў ваконца.

Ды пайшла сіротачка ды па свету плачучы,
Ды па свету плачучы, мамачкі шукаючы.
Не знайшла яна мамачкі, ды знайшла магілачку,

Ды на той магілачцы вырасла яварынка.
Маладая дзевачка вырвала яварынку,
Вырвала яварынку, стукнула аб магілку.
Магілка здрыганулася, мамачка адклікнулася:
— Ды хто тут ходзіць, ды хто надакучвае?
— Ды мамачка родная, ды я па табе хаджу,
На сваё вяселлейка я цябе прашу,
Ды прыйдзі ў вяселлейка на благаславеннейка.
— Ды мая ты дачушка, я сама не прыйду,
Я табе трох янеляў выпраўлю.
Дзевачкі не запелі — аж у куце селі,
Музыкі не зайгралі — аж у куце сталі,
Дый так яны сіраце долю далі.

А хто ж там ходзіць па цёмным лесе, гукае?
Млода Манечка сваей матачкі шукае.
А спусцілася з высокай гары ў даліну,
Знайшла Манечка сваей мамачкі магілу.
— Ой, устань, устань, мая мамачка, з магілы,
Ой, парадзь, парадзь таку раданьку, як сабе.
— Ой, не ўстану, маё дзіцятка, да цябе,
Ой, не параджу такой раданькі, як сабе:
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не ўстану,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну.
Пайшла Манечка па лясочку гукаючы,
Ой, ад матулі раданькі не маючы.

Ой, хто гэта ў лесе ціха-памалу гукае?
Там Ніначка свайго бацюхна шукае.
Пераходзіла цераз гару ў даліну
Да й уступіла на бацькаву магілу,
Прытулілася да й стала плакаць і гукаць:
— Дакуль буду цябе, бацюхна, шукаць?
Устань, устань, ты мой родненькі, годзе спаць,
Пара табе да парадачак мне даваць,
Пара табе ўжо дачку замуж аддаваць.

А хто ж гэта паціхонечку гукае?
Малада дзевачка сваей мамачкі шукае.
З кім спаткаецца, пытаецца: — Добры дзень!

Ці не відзелі маёй мамачкі ў гэты дзень?
— А хто ж гэта цёмну хатачку збудаваў?
Ой, збудаваў цёмну хатачку без аконца,
Што не віджу, маё дзіцятка, я сонца.
Сасновы дошкі сціснулі ножкі,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі.
— Не ляжы, мамачка, не ляжы,
Прыйдзі на вяселлейка, памажы,
Кругом парадачак навядзі.

А хто ў лесе да паціхоньку гаворыць?
З кім спаткаецца да вітаецца: — Добры дзень!
Ці не відзеў майго татунькі хоць бы дзе?
— Праязджалі поўныя сані сталяроў
Да збудавалі твайму татачку вечны дом,
А не прасеклі ні вяршочка, ні аконца,
Каб не засвяціў ні ясны месяц, ні яснае сонца.
— Устань, устань, татулечка.
—Грабовы дошкі сціснулі мне ножкі — не павярну,
Сырая зямля к сэрцу прылягла — не ўстану,
Жоўты пясочак сціснуў насочак — не дыхну.

А хто ў полі паціхусеньку гукае?
Там Анечка свайго татачку шукае.
А хоць шукай, не шукай — не нойдзеш.
Прыехалі тры сталяры з-за двору,
Збудавалі твайму татачку камору.
Не прасеклі ні дзвярэй, ні ваконца,
Каб не сваціў ні месяц, ні сонца.

А хто ў лесе памалюсеньку гукае? *
Там дзевачка свае мамачкі шукае.
Шукала яна чатыры начы, пяты дзень,
Да не найшла сваю мамачку між людзей.
— Да куды ж ты, мая мамачка, адышла,
Чаму ка мне на вяселлейка не прыйшла?
— Да не прыйду, да маё дзіцятка, не прыйду.

* Кожны радок паўтараецца.

Да зрабілі добрыя людзі вечны дом
Без сенечак, без акенечак, без сонца,
Не прамоўлю свайму дзіцяці ні слоўца.

Сіротачка на магілку хадзіла, *
Яна сваю родную мамку будзіла,
Дробнымі слязамі чорную сцежку ўбіла,
А слоўцамі родную мамку будзіла:
— Ўстань, устань, мая мамулька, не ляжы,
А хоць ты мне парадачак пакажы.
— Ідзі, ідзі, маё дзіцятка, дахаты,
Прасі сабе суседачак на раду.
Няхай яны гэту ночаньку недаспяць,
Няхай яны парадачак пакажуць.
Прасі, дзетка, ты дзевачак да сябе,
Няхай яны тваю галоўку ўбяруць,
Няхай яны рана да шлюбу выправяць,
А [illegible] цябе ў паўдарожачкі перайму,
А я цябе доляй-шчасцем надзялю.

Учора Надзенька дый па могілках хадзіла, *
Родную мамачку яна клікала-будзіла:
— Ўстань, ўстань, мая мамачка родная,
Прыйдзі паглядзі на сваю дачушку-сіротку,
Ой, паглядзі, абчарадзі сіротку.
— Ой, дачушка, мая сіротка родная,
Я ж бы радзенька, я ж бы радзенька ўстаці,
З табой, дзіцятка, пагаварыці-пагукаці,
Абчарадзіць сваю любую дачушку:
Грабавыя дошкі сціснулі ножкі — не ўстану,
Жоўтыя пясочкі закрылі вочкі — не гляну.

Горкая калінка-ягадка,
Горкая наша Валечка-сіротка.
У нядзельку ранюсенька ўстала,
Раненька на магільнічак хадзіла,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Яна свайго роднага татку будзіла.
— А ўстань, устань, родны татулька, досыць спаць,
Хадзі ж ка мне парадачак даць.
— А не пайду, мая дачушка, не пайду,
Ёсць у цябе родна мамуленька ў даму,
А яна ж дась парадачак усяму.

Хадзіла Надзечка па полю,
Ўсе тры полечкі абышла,
Нідзе яна татунькі не найшла.
На магільнічак узышла,
На магільнічку магіла,
Там яе сярдзечка прыўныла.
Йна свайго татуньку будзіла:
— А хадзі, татунька, дадому,
А няма парадку ні ў чаму.
— Не пайду, дачушка, не магу:
Сціснулі ножкі грабовы дошкі,
Засыпалі вочкі жоўты пяскі.
Не пайду, дачушка, не магу,
Ёсць у цябе маменька ў даму,
Павядзець парадак па ўсяму.
Не пайду, дачушка, не магу.

Ой, пайду я гукаючы.
Ой, пайду я гукаючы,
Свайго роду шукаючы.
Не знайшла я радзіначку,
Не знайшла я радзіначку,
Да знайшла я магілачку.
На магіле салавеячак.
На магіле салавеячак,
То ж мае мамкі галасочак.

Сядзяць садочкі ў тры радочкі.
А ў першым садочку зязюлька кукуе,
А ў другім садочку салавей шчабеча,
А ў трэцім садочку дзевачка плача.

6*

Зязюлька кукуе, свае дзеткі чуе,
Салавей шчабеча ды зязюльку кліча,
Катажынка плача ды мамачку кліча:
— Прашу цябе, мамачка,
Прашу цябе, родненька,
На маё вяселле да на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладое,
Я ж не маю волі ад пана бога.
Замкнёны ручкі да на тры замочкі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
А другі замочак — жоўценькі пясочак,
А трэці замочак — сасновая дошчачка.
— Зялёны дзярночак, да ты адхіліся,
Жоўценькі пясочак, да ты адсыпніся,
Сасновая дошчачка, да ты раскаліся,
Родная мамачка, да ты акажыся.
— Я не акажуся, бо бога баюся.
На тваё вяселле сама я не пайду,
На тваё вяселле тры анёлы вышлю:
На двор узыдуць дробным дождажыкам,
У сенечкі ўвойдуць сівымі сакаламі,
Пад шлюбам стануць яснымі свячамі.

Стаялі садочкі да ў тры радочкі.
У першым садочку зязюлька кукуе,
У другім садочку салавей шчабеча,
У трэцім садочку там Рэнечка плача.
Зязюля кукуе — на другое чуе,
Салавей шчабеча — свае дзеткі кліча,
Там Рэнечка плача — сваіх войцаў просіць:
— Прашу я, войчанька, к сабе на вяселле,
Не то ж на вяселле — на благаславенне.
— Весяліся, дзетка, весяліся, нябога,
Я не маю волі да ад пана бога.
Там мая галоўка навек палажона,
Да мае ручачкі накрыж злажоны,
Да мае ножачкі да шоўкам звязаны.
Прыйду я к табе анно ў панядзелак рана,
Уз'еду на падвор'е да дробным дажджом,
Увайду ў сені з ясным сонейкам,
Увайду ў хату з яснымі зорамі,
Сяду за столікам святым анёлам.

Стаялі садочкі ды ў тры радочкі.
У першым садочку зязюля кукуе,
У другім садочку салавей шчабеча,
У трэцім садочку Аленачка плача.
Зязюля кукуе — другую чуе,
Салавей шчабеча — свае дзеткі кліча,
Аленачка плача — свайго татку кліча:
— Прыйдзі, прыйдзі, татка, на маё вяселле,
Не так на вяселле, як на благаслаўленне.
— Весялісь, дзіцятка, весялісь, роднае,
Я не маю волі ад пана бога.
Мае ручачкі накрыж злажоны,
Мае вочачкі навек сцяснёны,
Мая хатачка навек замкнёна.
Замкнулі мяне ў тры замочкі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — сасновыя дошкі.
— Пайдзі, пайдзі, дождждык, размый дзярночак —
Можа, я пачую таткаў галасочак.
Павей, павей, ветрык, развей пясочак —
Можа, я убачу таткаў тварочак.
Свяці, свяці, сонейка, рассушы дошкі —
Можа, я убачу таткавы ножкі.

А хто, а хто магілачку патаптаў,
А хто, а хто магілачку патаптаў? —
Малада дзевачка па магілачцы хадзіла,
Сваю мамачку на вяселлейка прасіла:
— Устань, устань, мая мамачка, досыць спаць,
Чаму цябе ўсю ночачку не відаць?
Сядзяць госцейкі па застоллейку дый як цвет,
А як я гляну — маей мамачкі між іх нет.
— Досыць, дзіцятка, па магілачцы хадзіць,
Досыць, дзіцятка, магілачку таптаць,
Досыць, дзіцятка, дробныя слёзкі раняць.
Пайду я да пана бога прасіцца,
Каб пусцілі на парадачак паглядзець.
Як ты будзеш на пасадзе сядзець,
Тады я буду у канцы стала стаяці,
А як ты будзеш на вазочак сядаці,
Тады я буду ў новым ганачку стаяці,

Тады я буду на парадачак глядзеці,
Ці абярэцца твой дзядзька за татку,
Ці перахрысціць дарожачку да вянца.

Ой, у лесе, лесе зайка кігіча.
Там млода дзевачка сваю мамку кліча.
Ой, яна ж яе кліча, ды не замаўляе,
Ды да сырой зямліцы шчыра прыпадае.
— Ой, зямліца ды сырэнечка,
Ды забрала матачку маладзенечку,
Як у саду вішаньку ды чырвоненьку,
Як у лесе ягадку ды салодзеньку.

Ой, ранняя пташка на зару шчабеча,
Маладая дзевачка свае маткі кліча,
Ой, кліча, кліча ды прымаўляе,
І к сырой зямліцы ды прыпадае:
— Ой, зямля ж мая сырусенькая,
Была ў мяне матка маладзюсенькая,
Ды не даў жа ж ёй бог мяне гадаваці,
З добрымі людзьмі ды параўнаваці.
Гадавала ж мяне ды чужая маці,
Раўнавала ж мяне к чужому дзіцяці.

— Азьмі, Ганула, ў саду салаўя, пасылай па маманьку,
А сіву зазулачку на Украіканьку па сваю радзіманьку.
Яшчэ салавей не далятае, а ўжо матулька прамаўляе:
— Рада б я ўстаці да свайго дзіцяці:
Сырая зямля цяжка налягла — я ручак не падыму.
А Ганулька назад ступае, да сырой зямлі прыпадае
І слёзанькі, як боб, раняе і на сыру зямлю наракае:
— Зямля ж мая да й сырэнькая,
На што ж ты ўзяла маю маманьку?
Не дала ты мяне згадаваці, да добрых людзей దараўняці.
Ці маё няшчасце, ці мая нядоля,
Што мяне чужая маці будзе выпраўляці
І мяне розуму будзе навучаці?
Будзе выпраўляці чужая маці,
Не з шчырым сэрцам, не з верным слоўцам.

У нядзелю рана чуць соўнушка ўсходзіць,
Маладая дзевачка па магілках ходзіць,
Па магілках ходзіць, зямлю капае,
Зямлю капае, маткі шукае.
— Да зямля-зямліца, да ты сырэсенька,
А дзе дзела матку ды маладзесеньку?
Не ўспела мяне падгадаваць,
У чужыя людзі замуж аддаць.
— Да твая матачка глыбока, далёка,
Глыбока, далёка, пад трыма замкамі:
Да першы замочак — ізбіты з дашчочак,
А другі замочак — жоўценькі пясочак,
А трэці замочак — зялёны дзярночак.
Зялёны дзярночак, да ты адвярніся,
Жоўценькі пясочак, да ты адсыпніся,
Зроблены з дашчочак, да ты адамкніся,
А родная матачка, да ты акажыся.

Чуць слонейка ўсходзіць,
Маладая дзевачка па магілках ходзіць,
Па магілках ходзіць, ямкі капае,
Ямкі капае, мамкі шукае.
— Схадзецеся, громы, да разбейця домы,
Схадзецеся, ветры, развейце пяскі
Да выпусціце маю матку да ка мне на вяселле,
Ка мне на вяселле да на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладзенька,
Весяліся, маладзенька, я не магу ўстаці,
Не магу ўстаці табе долі даці.

Ой, што гэта ў чыстым полі гукае?
Малада Танечка свайго бацэньку шукае.
Ой, нашла ж яна ў чыстым полі каліну,
Пад калінаю свайго бацэнькі магілу.
Ой, прыпала ж яна белым лічанькам да зямлі
І кліча, кліча свайго бацэнька да сябе:
— Не пайду, дзіця, не пайду, родна, да цябе,
Ой, лепшы будзе да парадачак без мяне.

Хто ў лесе тонкім голасам гукае?
Млода Олечка сваей мамачкі шукае.
Як ступіла да із горачкі ў даліну,
Да нашла свае мамачкі магілу,
Да й прыпала белым лічыкам да зямлі:
— Устань, устань, мая мамачка, парадзь мне.
— Ой, не ўстану, мая дочачка, не ўстану,
Збудавалі мне бандарыкі новы дом,
Не пакінулі ні акенечка, ні дзверца,
Не прамоўлю, мая дочачка, ні слоўца.

А хто ж шчырым борам гукае?
Там Матронка сваей маценькі шукае.
Нашла яна глыбокую даліну,
То не даліна, яе маценькі магіла.
Прыпала яна к магіле шчыльненька
І заплакала па маценцы шчыранька:
— Хадзі, хадзі, мая маценька, са мною,
Лепша будзе параданька з табою.
— Не пайду, маё дзіцятка, не пайду,
Збудавалі цісовую свяцёлку
І не працялі мне ні ваконца, ні дзверца,
Не прамоўлю, маё дзіцятка, ні слоўца.

Ды хто там ходзіць, па цёмным лесе гукае?
Млода Галечка сваіх ойчанькаў шукае.
Да сышла, сышла з горкі ў далінку,
Ды знайшла, знайшла сваіх ойчанькаў магілку.
Ды прыступілася да магілкі блізенька,
Ды пакланілася ойчаньку нізенька:
— Ды ўстань, устань, родны ойчанька,
Ды прыйдзі, прыйдзі мне вяселлейка пачаць памажы.
Ды хоць ты ў мяне піці-есцейкі не будзеш,
Хоць ты ў мяне ў канцы стала пастаіш,
Ды хоць ты ў мяне парадачку паглядзіш.

А хто ў лесе паціхонечку гукае?
Млада Ганначка свайго татачку шукае.
— Устань, устань, мой татачка, не ляжы,

Хаця ж ты мне адзін дзянёк паслужы.
Хоць не адзін дзянёк, хоць адну гадзінку,
Хаця ўкажы ты мне маю радзінку.
— Не магу, мая дачушка, не магу:
Цісовы дошкі сціснулі ножкі — не крану,
Зялёны пярлочак залажыў грудцы — не дыхну,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну.
Дай жа, божа, жаркае сонца,
Рассушы, божа, цісовы дошкі,
Размачы, божа, зялёны дзярночак.
Дай жа, божа, вялікі вецер,
Разнясі, божа, жоўты пясочак,
А я прыйду к сваей дачушцы, прыеду,
Хоць я ей тут адзін дзянёк паслужу,
Хоць не адзін дзянёк, хоць адну гадзінку,
Хоць укажу сваю радзінку.

Ды хто, ды хто па цёмным лесе гукае?
Млода Ганначка свайго татачку шукае.
— Устань, устань, а мой татачка, досыць спаць
Ды памажы мне дружынаньку пазбіраць,
Пазбіраўшы за столічак пасаджаць.
— Ой, не ўстану, маё дзіцятка, не магу:
Зялён дзярночак залажыў грудцы.
Ой, рана, рана, залажыў грудцы, *
Жоўты пясочак засыпаў вочкі,
Нямыя дошкі сціснулі ножкі.
— Уздыміцеся, буры-віхуры,
Да разарвіце зялён дзярночак,
Да разадзьміце жоўты пясочак,
Да разабіце нямыя дошкі,
Пастаўце татачку на белых ножках,
На белых ножках, на рабочых ручках,
На рабочых ручках, на светлых вочках.

Па магільнічку сіротачка й хадзіла,
Яна ж сваю й мамулечку будзіла:
— Устань, устань, мая мамулечка, досыць спаць,

* Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага наступнага радка.

Ужо пара, пара маю радзіначку саджаць.
Устань, устань, мамулечка, не ляжы,
А ты хадзі мне парадачкі павядзі.
— І няхай к табе добрыя людзі прыходзяць,
І няхай тваю радзіначку пасадзяць,
І няхай табе парадачак паводзяць.

Ды хто ж такі ў цёмным бары гукае?
Маладая Гануля сваёй мамачкі шукае.
Ой, сышла ж яна і з прыгорачка ў далінку
І знайшла сваёй маманькі магілку.
Ой, стала ж яна да магілачкі прылягаці,
Ой, стала ж яна сваю мамачку пабуджаці:
— Устань, устань, мая мамачка, да мяне.
Ой, парадзь жа гэтыя радачкі для мяне.
Першу радачку, як мне госцейкаў спрашаць,
Другу радачку, як за столік саджаць,
Трэцюю радачку, як да шлюбу выязджаць.
— Ой, ідзі, ідзі, маё дзіцятка, ад мяне,
Не параджу я гэтых радачкаў для цябе:
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не ўстану,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну.
Дачушка ўстала, уздыхнула,
Пайшла дарожкай сталбавой,
Зрывала аленькі цвяточак,
Звівала мамачцы вяночак.
Цвіці, цвіці, алы цвяточак,
Цвіці, цвіці, не пасыхай,
Любі мяне, мамачка,
Хоць з зямліцы, любі, не забывай.

Ляцела пчолка,
Па бару лятая,
Плакала сіротка,
К зямлі прылягая:
— Устань, устань, мамка,
Мяне спаружаці,
Замуж аддаваці,
Скрыні накладаці.

А хто ў лесе памалюсеньку гукае?
Там Настачка сваю мамачку шукае.
— Прыйдзі, прыйдзі, мая мамачка, дадому,
Выправі мяне, маладзюсеньку, да шлюбу.
— Не прыйду я, маё дзіцятка, дадому,
Не выпраўлю цябе, маладзюсеньку, да шлюбу.
Збудавалі да мне хатачку, новы дом,
Без аконак, без дзвярушак, без сонца.
Без аконак, без дзвярушак, без сонца,
Да не прамоўлю да цябе ні слоўца.

Чую, чую пахучае зелле,
Ой, бачу, бачу сірочае вяселле.
На пахучым зеллі мурашачкі ўюцца,
На сірочым вяселлі слёзачкі льюцца.
Дачушка матку на вяселле звала:
— Прыйдзі, прыйдзі, мая матачка, вянцу выпраўляці,
А не то — прыйдзі сваты частаваці.
— Не магу ўстаці к свайму дзіцяці,
Ніякае яму рады даці:
Сырая зямля дзверы залягла
І вароцечкі зачыніла.

Малада сіротка па магільнічку хадзіла,
Яна сваю мамулечку будзіла:
— Ўстань, устань, мая мамулька, досыць спаць,
Пара ўжо мяне ў дарожку выпраўляць.
— Не магу, мая дачушка, устаці:
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — не крану,
Траўка-мураўка зарасла вочкі — не ўзгляну,
Жоўты пясочак залёг на насочак — не ўздыхну.

— Устань, устань, мая мамка,
Годзе табе спаць.
Пара табе, мая мамка,
Эй, парадачак даць.
Пара табе, мая мамка,
Парадачак даць.

— Пакланіся, дзіцятачка,
Эй, чужой чужыне.
Пакланіся, дзіцятачка,
Чужой чужыне.
Пакланіся, дзіцятачка,
Чужой чужыне.
Няхай табе чужа матка,
Эй, парадак дае.
Няхай табе чужа матка
Парадак дае,
А я рада б жа ўстаці,
Эй, галовачкі не ўзняці.

А хто ходзіць па зарэчаньку гукае?
Алена сваю мамку шукае.
— Выйдзі-прыйдзі, мамачка, на той час,
Выпраў мяне, маладзенькую, ў добры час.
— Вот не магу, маё ты дзіцятачка, не магу:
Збудавалі новую святліцу сталяры
Без дзвярэй, без акон, без сонца,
Не прамоўлю, маё ты дзіцятка, ні слоўца. . .

Ой, у лесе сціха, памаленьку гукае,
Там сіротанька свае мамачкі шукае.
— Ой, ідзі-падыдзі, мая мамачка, блізенька,
Пакланюся я табе да ножак нізенька.
— Ой, не пайду, маё дзіцятка, не пайду:
Да баліць мая да галованька — не ўздыму,
Да баляць мае белыя ручкі — не ўдзержу,
Да баляць мае чорныя вочкі — не ўгляджу.
Во наехалі два слесарова із бору,
Збудавалі новую хатку із клёну,
Збудавалі без дзвярэй, без аконца,
Не прамоўлю, маё дзіцятка, ні слоўца.

Да хто ў лесе паціхоньку гукае?
Малада дзевачка свае мамачкі шукае.
— Да акажыся, мая мамачка, блізенька,
Да пакланюся я табе ў ножанькі нізенька,

Да папрашу на вяселле харашэнька.
— Не акажуся, маё дзіцятка, блізенька,
Не пакланішся ты мне ў ножанькі нізенька
І не папросіш на вяселле харашэнька,
Бо закрылі вочкі да цёмнае ночкі — не ўзгляну,
Прылажылі ручкі да шчырага сэрца — не адніму,
Да прыбілі ножкі да цісовай дошкі — не ўстану,
К табе, маладзенькай, на вяселле не прыйду.
— Жоўты пясочак, да ты адсыпніся,
Сасновая дошчачка, да ты адчыніся,
Родная мамачка, да ты акажыся.
Прашу цябе, мамачка, прашу цябе, родная,
На маё вяселле на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладое,
Я не маю волі ад пана бога.
Да вялеў жа гаспод тры анелі саслаці,
Табе, маладзенькай, ды долечку даці.

А хто, а хто цёмнай ночкі недаспаў,
Да магілачкі чорную сцежачку вытаптаў?
Маладая Жэнечка цёмнай ночачкі не мала,
Да магілачкі чорную сцежачку таптала.
— Ды ўстань, устань, мой татачка, блізенька,
Я пакланюся да белых ножак нізенька.
— Ды я не ўстану, маё дзіцятка, да цябе,
Я жаль маю вялікую на цябе,
Што папрасіла гарадзанычных сталяроў,
Збудавалі мне хатачку без вуглоў.
Не высеклі ніводнага аконца,
Што не засвеціць ні месяц, ні сонца.
А нямыя дошкі сціснулі ножкі —
Не магу ўстаці к свайму дзіцяці,
А жоўты пясочак засыпаў вочкі,
Зялён дзярночак зарасціў слядочак —
Не магу ўстаці к свайму дзіцяці,
Шчасце, долю даці.
— Узнімiцеся, шуры-буры,
Разарвіце зялёны дзярночак,
Распыліце жоўты пясочак,
Разнясіце нямыя дошкі,
Пакажыце татачкавы ножкі.

А што ў бару ціха пры бару клікае?
А там Манечка сваю мамачку гукае:
— Хадзі, хадзі, мая мамачка, блізенька,
Я пакланюся табе ў ножкі нізенька.
— А іду, іду, маё дзіцятка,— не дайду,
А іду, іду, маё роднае,— не дайду.
Цісовыя дошкі сціснулі ножкі — не пайду,
Сырая зямля на грудзі налягла — не ўстану,
Жоўценькі пясок вочачкі зацёк — не гляну.

У нядзельку рана млода Манечка па магільнічку хадзіла,
Па магільнічку хадзіла, сваю мамульку будзіла:
— Устань, устань, мая мамулька, раненька,
Пакланюсь табе ў ножачкі нізенька.
— А не ўстану, маё дзіцятка, не ўстану:
Грабовы дошкі сціснулі ножкі — не ўстану,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не гляну.

Нехта ў лесе памалюсеньку гукае,
Там дзевачка сваю мамачку шукае,
Там дзевачка сваю мамачку шукае.
— Абзавіся мне, мамачка мая, блізенька
І скланюся ў ручкі, у ножкі нізенька.
— Не кланяйся, дзіцятка маё, ты і мне,
Пакланяйся, дзіцятка маё, ўсім людзям.
І тым людзям, што сені-хатачку зрабілі
Без дзвярэй, без акенечак, без сонца,
Не прамоўлю, дзіцятка маё, ні слоўца.

А хто ж там каля рэчанькі гукае?
Маладая Леначка свайго бацечкі шукае.
— Прыйдзі, прыйдзі, бацюшка, да мяне на вяселле,
Пакланюся табе, бацюшка, нізенька.
Пакланюся старому і малому,
Свайму бацюшку радному,
І покуці святому.

У бару, у бару, ў цёмным лесе далёка,
Ох, у цёмным лесе далёка.
Там Манечка свае мамачкі шукала,
Ох, свае мамачкі шукала.
Яна шукала, крэпка шукала, не знайшла,
Ох, не знайшла.
Абазвалася яе мамачка далёка,
Ох, яе мамачка далёка.
У сырой зямлі, у новай труне глыбока,
Ох, у новай труне глыбока.
— Рада б я, маё дзіцятка, ўстаці, парадак даці,
Ох, парадак даці.
Сырая зямля дзверы залягла, акенца засланіла,
Ох, акенца засланіла.
Жоўты пясок засыпаў раток,
Ох, засыпаў раток.
Нельга мне ўстаці і табе параду даці,
Ох, і табе параду даці.
Дык кланяйся, дзіця маё, чужой чужыне,
Ох, чужой чужыне.
Няхай дае парадачак беднай сіраціне,
Ох, беднай сіраціне.
— Кланялася, мая мамачка, не раз і не два,
Ох, не раз і не два.
Усю сваю радзіманьку абышла,
Ох, абышла.
Нідзе мамачкі не найшла,
Ох, не найшла.
Бедная мая галовачка ў квеце,
Ох, у квеце.
Няма мае мамачкі на свеце,
Ох, на свеце.

Маладая Манечка ночку не спала,
Сваю мамачку яна шукала.
Твая мамачка вельмі далёка,
Вельмі далёка, у зямлі глыбока.
Твая мамачка за трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — дубовыя дошкі.
Дубовыя дошкі сціснулі ножкі,

Жоўты пясочак засыпаў вочкі,
А зелян дзярночак на грудцы спалёг.
Не магу ўстаці да свайго дзіцяці,
Да свайго дзіцяці долечку даці.
Я табе пашлю трох анёлаў:
Што ў канцы стала — доля твая,
Што ў сенях — той благаслаўляе,
А што ў варотах, той выпраўляе,
Той выпраўляе, долю пасылае.

— Хіба ў цябе, салавейка, да прывету нету,
Хіба ў цябе Маруська, свайго бацька нету?
— Ёсць у мяне бацюхна за трыма замкамі,
За трыма замкамі, за божымі рукамі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
А другі замочак — цісовы дамочак,
А трэці замочак — жоўты пясочак.
Зялёны дзярночак, аддзярніся,
А жоўты пясочак, адсыпніся,
Цісовы замочак, да й адчыніся.
Прашу цябе, мой бацюхна, на сваё вяселле.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладое,
Весяліся, маладое, весяліся адное.
Не магу я ўстаці парадунькі даці,
Да ляжаць ручанькі, не магу падняці.

Хата вяліка, радня багата, парадачку нету, *
Парадачку нету, парадачку нету без роднага бацькі.
— Скажы, скажы, Людачка, а дзе родны бацька?
— А мой бацька ды, Пецечка, далёка, далёка.
Далёка, далёка, у зямлі глыбока, пад трыма замкамі:
Первы замочак ды, Пецечка,— зялёны лужочак,
Другі замочак ды, Пецечка,— жоўценькі пясочак,
Трэці замочак ды, Пецечка,— грабавая дасочка.
— Не плач, не плач ды, Людачка, па роднаму бацьку:
Первы замочак — зялёны лужочак, мы яго падкосім,
Другі замочак — жоўты пясочак, мы яго раскапаем,
Трэці замочак — грабавая дошка, мы яе разламаем,
Твайго бацьку да роднага із зямлі дастанем,
На ногі паставім, на ногі паставім, благаславіць заставім.

* Кожны радок паўтараецца.

— Знаць цябе, дзевачка, што мамачкі нету,
Калі ў цябе ў хаце парадачку нету.*
— Да дзіўныя людзі, чаго пытаеце,
Чаго пытаеце, а ці вы не знаеце?
Да мая мамачка да вельмі далёка,
Да не так далёка, да як і глыбока,
За трыма замкамі да за старажамі:
А першы замочак — зялёны дзярночак,
А другі замочак — да жоўты пясочак,
А трэці замочак — новенькі дамочак.
Зялёны дзярночак, да ты расхіліся,
А жоўты пясочак, да ты рассыпліся,
Новенькі дамочак, да ты адамкніся.
Прашу цябе, мамачка, ка мне акажыся.
Прашу цябе, мамачка, прашу цябе, родная,
Да на маё вяселле да на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся маладое,
Я не маю волі ад госпада бога.
Да вялеў жа божа анёлаў саслаці,
Табе, маладзенькай, да долечку даці.

— А плач, дзеванька, ды сама ўнімайся,
На татку з мамкай не спадзявайся.
Твая матулька дужа далёка,
Дужа далёка, у зямлі глыбока,
У зямлі глыбока крэпка замкнёна,
Крэпка замкнёна пяцьма замкамі:
Адзін замочак — зялён дзярночак,
Другі замочак — шэра каменне,
Трэці замочак — жоўты пясочак,
Чацвёрты замочак — грабовы дошкі,
Пяты замочак — боскія ключы.
— Зялён дзярночак на грудзях залёг —
Не магу прадыхнуцца.
Шэра каменне па-за боччайку —
Не магу павярнуцца.
Жоўты пясочак засыпаў вочкі —
Не магу пры глянуці.
Грабовы дошкі сціснулі ножкі —

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Не магу я ўстаці.
Боскія ключы замкнулі раток —
Не магу прагаварыці.

Да хто ж там ходзіць, бяседу рыець,
Ой, рана, рана, бяседу рыець,*
Бяседу рыець, мамухну ішчыць?
— Не рый бяседу, не йшчы мамухну,
Твая мамухна ў далі-далёкім,
У далі-далёкім, у зямлі глыбокай,
У зямлі глыбокай пад трыма замкамі:
Адзін замочак — жоўты пясочак,
Другі замочак — дубовы дошкі,
Трэці замочак — жалезны цвячкі.

За гарой за камяністай, хто там ходзіць
Бяседу рыіць, татулькі ішчыць?
— Не хадзі, Тарэска,
Не рый бяседы, не ішчы татулькі.
Твой татулька ў госпада бога за трымя замкамі:
Адзін замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — дубовы дошкі.
Зялёны дзярночак дожджык размыець,
Жоўты пясочак ветрам разнясець,
Дубовы дошкі Тарэска разломіць.
Не сядзі, Тарэска,
Па сваей бяседзе пахадзі,
Свайго татульку паішчы.
Твая галоўка ў квеце,
Нет твайго таткі на свеце.
Твая галоўка ў вяночку,
Нет твайго таткі ў радочку.

— Чаго, Манечка, павышэй сядзіш,
Павышэй сядзіш, па людзях глядзіш?
Ці ты, Манечка, татку знакоміш?

* Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Хоць знаком, знаком, ды не пазнаеш,
Да твой татачка да вельмі далёка,
Вельмі далёка, у зямлі глыбока,
У зямлі глыбока пад трыма замкамі:
Першы замочак — жоўты пясочак,
Другі замочак — сасновы дошкі,
Трэці замочак — цяжка каменне.
Цяжка каменне на сэрцы пала,
Сасновы дошкі сціснулі ножкі,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі.
— Рад бы я ўстаці к сваймў дзіцяці,
Да паглядзеў бы, як прыбярона,
Як прыбярона, як пасаджона.
— Да прыбярона, як панятачка,
Да сядзіць-плачыць, як сіротачка.

— Чаго, малады, павыша сядзіш,*
На маладую глядзіш?
Ой, глядзі, не глядзі,
Таткі не ўвідзіш.
Твой татка далёка звязёны,
Далёка звязёны, глыбока спушчоны,
Глыбока спушчоны, у тры замкі замкнёны:
Першы замочак — жоўты пясочак,
Другі замочак — зялёны дзярночак,
Трэці замочак — нямыя дошкі.
Нямыя дошкі сціснулі тваймў татачку ножкі —
Не можа ўстаці, ножак разняці.
Узнімiцеся ветры да буры,
Разарвіце зялёны дзярночак,
Разадзіміце жоўты пясочак,
Разбіце нямыя дошкі.
Увідзеў маладзенькі таткавы ножкі,
Паліліся ў маладога дробныя слёзкі.
— Устань, татачка, прашу на вяселлейка.
— Не ўстану, дзетка, да цябе,
Бо я маю вялікі гнеў на цябе,
Што ты наняў гордых пышных сталяроў,
Збудавалі мне вечны дом.
Не высеклі ніводнага ваконца,
Не засвеце ні месяц, ні сонца.

* Кожны радок паўтараецца.

Дзявічая матка вельмі далёка,
Вельмі далёка, у зямлі глыбока,
У зямлі глыбока пад трыма замкамі:
Первы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — сасновыя дошкі.
Сасновыя дошкі сціснулі ножкі.
— Ды дай, божа, буйныя дожджы,
Каб размыў зялёны дзярночак,
Ды дай, божа, сільныя вятры,
Каб развеяў жоўты пясочак,
Ды дай, божа, яснае сонца,
Каб рассушыла сасновыя дошкі,
Каб я ўвідзела таткавы ножкі.

Хто ў лесе памалюсеньку гукае?
То дзевачка сваю матку шукае.
— Адгукніся, мая мамачка, блізенька,
Я скланюся табе ў ножкі нізенька.
Адгукнулася мая мамачка далёка,
У шчырым бару, у жоўтым пяску глыбока:
— Не магу, маё дзіцятка, ўстаці,
Табе парадачак даці.
Мая душачка пад трыма замкамі:
Первы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — грабовы дошкі.
Грабовы дошкі сціснулі мне ножкі.
Жоўтым пясочкам засыпалі вочкі,
Зялёны дзярночак налёг на грудкі.
— Буду я па хаце хадзіці,
Буйных дажджоў прасіці:—
«Дай, божа, з даліны буйныя дажджы,
Каб размылі на магілцы дзярночак,
Дай, божа, з даліны густыя вятры,
Каб размялі з магілкі жоўтыя пяскі,
А грабовыя дошкі пакаліце на крошкі,
Маю мамачку падыміце на ножкі».

Пайшла Марылька, цёмны куточкі лічачы,
Яна сваю буйну галоўку хілячы,
Яна свае белыя ручкі ломячы,

Яна сваей роднай матулькі ішчучы.
Ўсе куточкі, ўсе цёмныя перайшла,
Нідзе сваей роднай матулькі не найшла.
— Мая матулька вельмі далёка ад мяне,
Вельмі далёка, у зямлі глыбока — не найду.
Настаньце, буйныя ветры, на дварэ,
Раздзярыце траўку-мураўку зялёну,
Развейце жоўты пясочак на полі,
Разбіце сасновыя дошкі на крошкі,
Падыміце маю матульку на ножкі.
Ўстань, устань, мая матулька, не ляжы,
Ўстань, родная, сваймy дзіцяці парадак даці.
— Рада ўстаці к сваймy дзіцяці — не магу:
Сырая зямля на сэрца ўзлягла — не магу ўздыхнуці,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі — не магу праглянуці,
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не магу павярнуці,
Залезны цвечкі скавалі плечкі — не магу пакрануці,
Траўкай-мураўкай зараслі дзверцы — не магу адчыніці.

— Дзе ж твая, дзевачка, родная мамачка?
Чаму табе прыбору не прыбірае,
Чаму цябе да шлюбу не выпраўляе?
— Мая мамачка за трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — цісовая дошчачка.
Зялёны дзярночак, сам адвярніся,
Жоўты пясочак, сам адсыпліся,
Цісовая дошчачка, сама адчыніся,
Родная мамачка, сама акажыся,
Прашу цябе, мамачка, на маё вяселле да на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся адно,
Я сама не пайду, да ангелаў прышлю.
Да будуць пытаці, што за долю даці,
Ці хлебавую, ці грашавую, ці ўсякую?
Грашавую даўшы — бога забудзеш,
Хлебавую даўшы — багатай будзеш.
А ўсякую даўшы — сама добра будзеш.
Дай, божа, маладым добрую долю.

— Дзе твая, дзевачка, родна мамачка?
Чаму яна па двару не пахаджае,
Чаму табе прыбораў не прыбірае,
Чаму цябе да шлюбу не выпраўляе?
— Скажу вам, дзевачкі, скажу, сястрыцы:
Ужо ж мая мамачка ў сырой зямліцы.
У сырой зямліцы за трыма замкамі,
За трыма замкамі за нутранымі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
А трэці замочак — сасновая дошчачка.
Зялёны дзярночак, ты адкаціся,
Жоўты пясочак, ты адсыпніся,
Сасновая дошчачка, ты адчыніся,
Родная мамачка, ты акажыся.
— Не акажуся, дзіцятка, не акажуся,
Я не маю волі ад пана бога.
Меўся пан бог тры янелі саслаці,
Табе, маладзенькай, ды долечку даці.
— Прашу цябе, мамачка, прашу родная,
Да мяне на вяселле ды на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладое,
І з панам богам, і з добрымі людзьмі.
Я к табе прыйду ў суботу ўвечар,
Я на двор сыду дробным дожджыкам,
А ў сені ўвайду ясным сонейкам.
Я за сталом сяду табе на параду,
А як будзе трэба — стану да пасаду.

А хто ў бару паціхусеньку гукаець?
Млода Анечка свайго татульку шукаець.
— Шукай-не шукай, а ты яго не найдзеш.
Твой татулька ў чатыры замкі замкнуты:
Першы замочак — зялёная траўка-мураўка,
Другі замочак — то шэрае каменне,
Трэці замочак — то жоўценькі пясочак,
Чацвёрты замочак — грабовыя дошчачкі.
— А ўзвейцеся, буйныя ветры, з узгор'я,
А ўздзярыце зялёную траўку-мураўку,
А ўзвярніце тое шэрае каменне,
А садзьміце жоўтыя пясці на ляскі —

Да ўзніміце майго татулькі галаскі,
А разбіце грабовы дошкі на крошкі —
Да пастаўце майго татульку на ножкі.

Да й хто ж гэта ў шчырым бары гукае,
Ці не Ганначка свае мамачкі шукае?
— Шукай-не шукай, Ганначка, не знойдзеш.
Звязлі ж яе вараныя коні далёка,
Закапалі ж яе ў сырую зямлю глыбока,
Прыклалі зялёныя дзярны шырока.
— А павейце, буйныя ветры, з даліны,
А рассыпце жоўтыя пяскі з магілы.
Прыйдзі, прыйдзі, мая мамка, дадому,
Бо няма ў мяне парадачку ні ў чому.
— Не пайду я, дзіцятачка, не пайду,
Ё ў цябе родны татачка ў даму,
Няхай ён даець парадачак усяму.

А хто-та ў бары, хто-та ў цёмным гукае?
Гэта Волечка свайго татачкі шукае.
— Ды адгукніся, дый абзавіся, татачка.
— Не адгукнуся, не адзавуся, дзіцятачка:
Завезлі мяне сівыя й коні далёка,
Схавалі ж мяне добрыя людзі глыбока,
Смалявы дошкі сціснулі ножкі — не ўстану,
Вішнёвай жычкай звязалі ручкі — не крану.

А хто ў полі там паціхусеньку гукае?
Там маладая свайго татку шукае.
— Хоць шукай-не шукай — не знойдзеш.
Ой, далёка твой татачка, далёка,
У сырой зямлі, ў жоўтым пяску глыбока.
— Ды зрабілі добры людзі вечны дом
Без дзвярэй, без акошачка, без сонца,
Не прамоўлю, дзіцятачка, ні слоўца.

На елі, елі пташкі паселі,
Пташкі паселі, харашо запелі.
Яны пелі, пелі ды зашчабяталі,
А шэрая зязюля закукавала.
Яны пелі, пелі ды перасталі,
А шэрай зязюлі перастанку нету.
Ці ў яе гняздзечка нету?
— Маё гняздзечка вельмі далёка,
Вельмі далёка, на елі высока.
Селі дзевачкі пець і харашо запелі.
Яны пелі, пелі ды перасталі,
А маладой Зіначцы перастанку нет.
Мусіць, у яе мамачкі нет?
Яе мамачка вельмі далёка,
Вельмі далёка, у зямлі глыбока.
Яна замкнёна трыма замкамі:
Першы замочак — зялёны дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
А трэці замочак — грабовы дошкі.
— Разламіце грабовы дошкі на крошкі,
Падыміце маю мамачку на ножкі.

У роўным полі ель зеляненька,
А на той елі пташкі паселі,
Пташкі паселі, зашчабяталі,
Зашчабяталі дый перасталі,
Адной пташынцы ўшчунку няма,
Знаць, у яе гняздзечка няма.
Яе гняздзечка вельмі далёка,
Вельмі далёка, на елі высока.
Селі-паселі дзевачкі ў радзе,
А як паселі, дык запяялі,
Як запяялі, дык перасталі,
Адной дзевачцы ўшчунку няма,
Знаць, у яе татулькі няма.
Яе татулька пад трыма замкамі:
Адзін замочак — дзёран-дзярночак,
Другі замочак — жоўты пясочак,
Трэці замочак — сасновы дошкі.

На высокай елі пташачкі селі,
Пташачкі селі.
Пташачкі селі, хораша запелі,
Хораша запелі.
У нашай Анечкі новыя сені,
Новыя сені.
Новыя сені, дзевачкі селі,
Дзевачкі селі.
Дзевачкі селі, хораша запелі,
Хораша запелі:
— Ой, дай жа, божа, густыя ветры,
Густыя ветры.
Ой, дай жа, божа, буйныя дажджы,
Буйныя дажджы.
А дай жа, божа, яркае сонца,
Яркае сонца.
Дожджык размые зелен дзярночак, 2
Ветрык разгоне жоўты пясочак, 2
Сонца рассуша сасновы дошкі. 2
Увідзела Анечка мамчыны ножкі, 2
Аблілі яе дробныя слёзкі. 2

Кукавала зязюля ў садочку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку,
А плакала Агатка ў каморцы,
Прылажыўшы галоўку к абалонцы.
Ой, нету, нету жоўтага цвету,
А ў маладой Агаткі матулі нету.
Яе матуля вельмі далёка,
Вельмі далёка, у зямлі глыбока.
Вельмі далёка, у зямлі глыбока,
Ой, рана, рана, у зямлі глыбока.
Закрыта матуля на тры замочкі,
Ой, рана, рана, на тры замочкі:
Першы замочак — зялён дзераночак,
Ой, рана, рана, зялён дзераночак.
Другі замочак — жоўты пясочак,
Ой, рана, рана, жоўты пясочак.
Трэці замочак — нямыя дошкі,
Ой, рана, рана, нямыя дошкі.
Зялён дзераночак залёг на грудцы,
Ой, рана, рана, залёг на грудцы.

Жоўты пясочак засыпаў вочкі,
Ой, рана, рана, засыпаў вочкі.
Нямыя дошкі сціснулі ножкі,
Ой, рана, рана, сціснулі ножкі.
Ой, надыдзіце, ветры ды буры,
Да й разгарніце зялён дзярночак.
Да й разгарніце зялён дзярночак,
Да й размяціце жоўты пясочак.
Да й разламіце нямыя дошкі,
Да й адпусціце матулю ў госці.

# СІРАТА ЗБІРАЕЦЦА І ЕДЗЕ ВЯНЧАЦЦА

Гдзе сонца ўсходзіць,
Там Агатка ходзіць,
Сваю мамку просіць:
— Мая мамка родная,
Перайдзі дарожку.
Перайдзі дарожку
Тройца з Міколай,
Шчасцем і доляй.

— Татка родны, баславі мяне, сірату.*
— Дзіцятка маё, бог цябе баславіць, сірату.
Што на небе стукнула, што на небе грукнула?
І стукнуў ясён месяц, грукнула яснае сонейка.
— І не пазніся, Аначка, не пазніся, малада.
Аначка да шлюбу сабіраецца і слязой умываецца.
Там цябе даўно ждалі, касцёлы адмыкалі,
І касцёлы адмыкалі, каберцы засцілалі.
Там табе нада стаці, шчыру праўду сказаці.
Там табе ручкі звяжуць чорнаю квяцістаю,
Чорнаю квяцістаю, на ўвесь век вячыстаю.

Пабіраецца-уладжаецца
Іванечка ў дарогу.
Прасілася прачыстая:
— Вазьмі мяне з сабою,
То я пайду да пapaду,
Да варот адчыняці,
І з доляю шчасліваю
Буду ж цябе сустракаці.

* Кожны радок паўтараецца.

Ляцеў сакол з чужых старон, упаў, ваду п'ючы.
Заплакала сіротанька да шлюбу йдучы.
— Чаго плачаш, дзіцяя маё, што табе трэба?
— Ой, плачу я, прыплакую, што ойца і маткі няма.
Каб я была зязюленькаю,
Паляцела б на магілку, сказала б: — Ку-ку!
Падай, тату, падай, маму, хоць правую руку.
— Рада была бы, дзіця маё, абедзве даці —
Сыра зямля, жоўты пясок, няма як устаці.
Сыра зямля, жоўты пясок, няма як устаці.

Маладая дзевачка,
Будзеш ехаць блізка лугу,
Выламаеш каліначку.
Стукні, грукні ў магілачку,
Пабудзі сваю мамачку,
Папрасі на вяселлейка,
На благаславеннейка.

— Паедзеш, дзевачка, богу маліцца,
Не забудзь, дзевачка, мамцы пакланіцца.
Не так мамачцы, як яе магілачцы.
— Прашу цябе, мамачка, к сабе на вяселле,
Татку на нараду.
— Радзьцеся, дзеткі, самі з сабою,
Не магу я ўстаці, ручак падняці:
Сасновы дошкі сціснулі ножкі,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі,
Зялёны дзярночак прыцісnуў грудцы.
— Павей, ветрычак, разгані пясочак,
Пайдзі дождж ык — размачы дзярночак.

— Узыдзі, Ганначка, на магілачку,*
Пакланіся мамачцы нізка ў ножкі,
Папрасі мамачку на вяселлейка.

* Кожны радок паўтараецца.

— Спасiба, мамачка, што гадавала,
Цёмныя ночачкі недасыпала,
Яркія свечачкі не тушыла,
Ты ж майго вяселлейка не даждала.

— Як будзеш, Верачка, к вянцу ехаць
Не забудзь, Верачка, мамулечку.
А ўзыдзі ж, Верачка, на магілачку,
Растапчы ножкамі траўку-мураўку,
Разграбі ручкамі жоўты пясочак,
Разбяры, Верачка, грабовыя дошкі,
Грабовыя дошкі на крошкі разбяры.
— Вот табе, мамачка, нізкі паклон,
Нізкі паклон ад мяне, маладое.
А ўзнімiцеся, буйныя вятры, з даліны,
А ўзнімiце ж маю мамачку з магілы.
А ўзнімiцеся, буйныя вятры, з дарожкі,
Ой, пастаўце ж маю мамачку на ножкі.

— А як будзеш, Галечка, к вянцу ехаць,
Не забудзь к сваёй мамачцы заехаць.
Растапчы ножкамі траўку-мураўку,
Размачы слёзкамі жоўты пясочак.
Падымі ручкамі грабовыя дошкі
І пастаў сваю мамачку на ножкі.
— Прыбудзь, прыбудзь, мая мамачка,
На маё вяселле, на сваё бяздзелле.

— Як будзеш, Манечка, пад вянец ехаць,
Узыдзі на магілачкі
І размый слёзкамі жоўтыя пяскі,
Падымі ручкамі дубовыя дошкі,
Пазаві мамачку на вяселле.
— Ай, рада б я ўстаць к свайму дзіцяці:
Дубовыя дошкі сціснулі мне ножкі,
Жоўтыя пяскі засыпалі мне вочкі.

— Як будзеш, дзевачка, к вянцу ехаць,
Не забудзь на татачку.
А і зыдзі на магілачку,
Растапчы траўку-мураўку,
А й пастаў татачку на ножкі,
А ўкланіся татачку нізка ў ножкі:
— Спасіба, татачка, за гадаванне,
Як ты мяне ўзгадаваў,
На маім вяселлі не пабываў
І чарачкі гарэлачкі не выпіў.

— Як будзеш, Машанька, к вянцу ехаць,
Не забудзь, Мар'ютка, к татку заехаць.
Растапчы ты траваньку чаравічкамі,
Размачы ты жоўты пясок слёзкамі,
Паднімі ты грабову дошку ручкамі.
— Узнімецесь, сільныя маразы,
Змаразіце траўку-мураўку.
Узнімецесь, сільныя дажджы,
Размачыце вы жоўты пясок.
Татухна родненькі, устань на параду.
— Дзіця маё, дачушка,— бог на параду.

Будзеш ты, Зіначка, к вянцу ехаць,
Не забудзь, Зіначка, к татку заехаць.
Ababi, Зіначка, ранню расіцу,
Патапчы, Зіначка, траўку-мураўку,
Раскапай Зіначка, жоўты пясочак
І дастань, Зіначка, грабовы дошкі,
Пакланісь Зіначка, татку ў ножкі.

Будзеш, Настачка, травіцу касіць,*
Травіцу касіць, мамку прасіць.
Будзеш, Настачка, пясочак капаць,
Пясочак капаць і з мамкай гукаць.
Будзеш, Настачка, дошчачкі шчыпаць,
Дошчачкі шчыпаць і мамку падымаць.
— Устань, мамачка, устань, не ляжы,
Майму горачку сама памажы.

* Кожны радок паўтараецца.

— Як будзеш, Колечка, к вянцу ехаць,
Не забудзь, Колечка, к бацьку заехаць.
А пастаў коніка пад белай бярозкай,
Скланіся нізенька татку ў ножкі,
Папрасі, Колечка, татку на вяселле: —
«Татачка родненькі, прашу на вяселле».
— Сыночак любы мой, я не ўстану:
Ой, збілі мае ножкі ў грабовы дошкі,
На маёй галаве бальшы камень ляжыць.

Паедзеш, Іванка, жаніціся,
Не забудзься мамцы пакланіціся.
Заедзь, Іванка, на магілачку,
Прывяжы коніка к белай бярозе:
Конічак капытком камяшок спіхнець,
Конічак хвасточкам пясок змяцець.
Адчыні грабовыя дошкі,
Пакланіся мамцы нізенька ў ножкі,
Пазаві мамку на вяселлейка: —
«Маё вяселлейка ў гэта васкрасенейка».

Колечка па могілках пахадзіў,
Ён сваю мамачку пабудзіў:
— А ўстань, мамачка, даўно спіш,
Выпраўляй мяне ў дарогу,
А ў тую дарогу доўгую,
Па маю Ніначку гордую.

Цераз луг зеляненькі
Бяжыць конь вараненькі,
На ім раменная абротачка,
Залатая сядзёлачка.
А на той жа сядзёлачцы —
Маладзенькі Юрачка.
Ды пад ім кося бруіць,
Капытом зямлю кроіць.
— Ты не бруй, косе, не бруй,
Капытом зямлю не крой.

Майму сэрцу і так тошна,
Што не татулечка жэніць
І не роўніцу мне беруць.
А жэнюць мяне, жэнюць
Ды цётачкі, дзядзечкі
І блізкія суседачкі.
Не так мяне ажанілі,
Як мяне, маладога, асудзілі,
І мяне, маладога,
І каня варанога.

Стаіць дубочак зелянюсенькі,
На мора нахіліўся,
Сядзіць Колечка маладзюсенькі,
Ў дарогу наладзіўся.
Дзяржыць хустачку вышываную,
Слёзачкі выціраць.
А плачыць жа ён сільна жаласна,
Што не татка выпраўляець:
Выпраўляюць яго добрыя людзі,
Блізкія суседзі.

Ай, разгарэўся ясен месяц на зарэ,
Расплакаўся молад Колечка на дварэ,
А што нетуці роднага таткі у яго,
А што некаму вароцікаў расчыніць,
А што некаму ў дарожку благаславіць.
Расчыніць яму вароцікі брацітка,
Ай, благаславіць ў дарожачку госпад бог.

Хадзіла варона каля возера крычучы.
Хадзіў Грышка каля коніка плачучы.
— На каго ты, молад Грышка, жаль маеш?
— Я жаль маю на роднага татку свайго,
Што не напаіў варанога каня ўчора,
Не паклаў мурагу сена ў павозку,
Не выправіў мяне, маладога, ў дарожку.

— Што ж гэта коні
Па лугам папушчаны,
Серабром папутаны,
Шоўкам памузданы?
— Гэта коні Кірылкі-сіроткі,
Паедзе ён жаніцца
У чужую старану.
У чужую старонку
Сабе па жонку,
Татку па служанку.

Ці не конь капытом празваніў?
Якушка па сянёх пахадзіў,
Белыя ручанькі заламіў:
— Галоўка мая бедная,
Нетуці ў мяне татанькі роднага,
Некаму парадкі навадзіць,
Некаму за столік засадзіць.
Зачула ж тое цёшчанька:
— Не туж, не бядуй, Якушка,
Я цябе за столік засаджу,
Хлебам і соллю надзялю.

Дзяціначка да вазок строіць,
Пад ім конік не ўстоіць.
— Ой, не брой, сівы конь, не брой,
Капыцікам зямлі не крой.
Кроіцца мне на сэрданьку
Без роду, без племя.
Без роду, без племені
І без роднай мамачкі.

З-пад гаю зялёнага,
З-пад вішання чырвонага
Не саколік вылятае —
Сівы конік выбягае,
А сужанька на коніку выязджае.
Пад ім конічак броіць,
Капыцечкам зямлю кроіць.

— Коню мой, коню, не брой пада мной,
Капыцечкам зямлі не крой.
Кроіцца на маім сэрданьку
Што я без роду, без племені,
Без роднага война́нька.

З-пад цёмнага гаю
Сіў конь выбягае.
Сіў конь выбягае,
Іванька выязджае.
— А стой, коська, не брой,
Капытом зямлі не крой.
Кроецца маё сэрца,
Што ■ молад не жаніўся.
Што я молад не жаніўся,
Татулечку не кланіўся.
Цяпер еду жаніціся,
Як няма каму кланіціся.

У нядзелю раненька
Разлягай, раўнюйсь, дарожанька,
Будзе ехаць сіротанька
З касою русою,
З вялікаю дружынаю,
За ею яе брацейка.
— Брацейко, мой родненькі,
Не наганяй каня на воз,
Не зачапі касу русу,
Не разлій дробну слязу.
Каса мая па сто злотых,
Сляза мая па тысячу.

Кругом соўненька да ўгору ідзе,
Наша Ганулька да шлюбу едзе.
Яе косанькі расчэсаные,
Яе сэрданька разжаленае.
— Абайдзі, Ганулька, ўакола стола,
А ўпадзі мацёнцы на белыя ножкі,

Ашыбнуць цябе дробныя слёзкі.
Пашлі, Ганулька, салаўя да саду
Па мацёнку дарагую,
А зазульку на Украінаньку
Па ўсю тваю радзіманьку.
Яшчэ салавей не прыляцеў,
А матанька прамаўляе:
Сырая зямліца дзверы заняла,
Акном не пускае.
Мае ручкі шоўкам звязаны —
Не магу іх зняці
Да сваго дзіцяці,
Не магу рады даці.
— Каб я была зазулькаю,
То б я ўмела лятаці.
Паляцела б па ўсяму свету
Сваго ойца шукаці.
Паляцела б на магілу,
Там сказала б: — Ку-ку!
Мой баценьку, мой родненькі,
Падай хоць мне белу руку.
— Не тая, мая Ганулечка,
Гадзінанька настала,
Каб хутка сырая зямліца
Нада мною расстала.

Барам, барам, барамі
Едуць сваточкі радамі,
Першая скрыпка напярод.
— Стойце, пастойце, сваточкі,
Ці не кукушка кукуець?
То ж не кукушка кукуець,
Ажно Надзечка галосіць,
Родную мамульку просіць:
— Устань, мамулька, не ляжы,
Хоць вечарочак пумажы.
— Ой, не магу, дзіця, ўстаці:
Грабавы дошкі сціснулі ножкі —
Не ўстану.
Жоўты пясочак засыпаў вочкі —
Не ўзгляну.

Сырая траўка к грудзям прыліпла —
Не ўздыхну.

Ой, ты попе, бацька наш,
Адчыні цэркаў ты для нас.
Адчыні ў цэркаўцы варота,
Ідзе вянчаціся сірота.
Яна бацькі, мацеры не мае,
Для яе брат вяселле спраўляе.

Ой, ехала ж сіраціна ды з-пад вянца,
Ды ўгледзелі багатыры цераз тын.
Сталі тае сіраціну ўсклікаці,
Што некаму сіраціну прывітаці.
Хадзіла сіраціна сярод саду
Ды будзіла сваю мамку на параду:
— Устань, устань, мая мамка, з сяго саду,
Ка мне, беднай сіраціне, на параду.
Абазвалася яе мамка ды з сырой зямлі:
— Не магу, мая донечка, з сяго саду ўстаць,
Табе, беднай сіраціне, параду даць.
Карыся, мая донечка, чужой чужыне,
Няхай даюць парадачку табе, сіраціне.
— Кланяйся, мая мамка, не раз — колькі,
Не даюць мне парадак аніколькі.
— Рада б я ўстаці к свайму дзіцяці,
Свайму дзіцяці парадачак даці:
Дубовыя дошкі сціснулі мае ножкі —
Нельга мне павярнуцца.
Сырая зямля на грудзі налягла,
Акенца засланіла.
Акенца засланіла,
Дыхаць не пусціла.

Ой, ехала сіраціна да й ад вянца,
Да загледзелі багатыры й у ваконца
Да сталі з тае сіраціны насміхаціся,
Да што некаму сіраціну прывітаці.
— Да прывітай жа мяне, божа, бедну сірату.
Да пашлю пасланца, хоць і сакалца,
На той свет па мамачку.
Да ўстань, устань, мая мамачка, цяпер і ка мне,
Да дай жа мне парадачак, беднай сіраце.
— Да не магу ж я, мая донечка, к табе ўстаці:
Да навярнулі сырой зямлі на грудзі мае,
Да іскарэлі мае вочы, яшчэ і вусны мае.

Каб я ды знала, што не будзе раскошы,
Не давала б братку расплятаці косы.
Расплёў братка косы, разаслаў па плечках,
Разліў мае слёзкі па сіненькіх вочках.
Аддаў мяне братка за лясы, за горы,
Каб я не хадзіла ў гасціну ніколі.
— Ідзі, сястра, ідзі адчыняй вароты,
Бо ўсе людзі знаюць, што ты ў нас сірота.

# ГАЛАШЭННІ

Садзіціся, сястрыцы, ўдоль на лавіцы,
А я сяду, сірацінка, пад вакошкам,
Ці не прыляціць мая мамка
Паслухаць маю бяседку,
Дзе я, сіраціна, пасаджона
І чым я, сіраціна, надзялёна.

Не садзіце мяне ў канцы століка,
А садзіце мяне пад вакошачкам.
Буду глядзець у вакошачка:
Ці не вішанька там шатаецца,
Ці не мамка мая на бяседачку паспяшаецца?

А мой ты родны татанька,
А мая ты родная маманька,
Падыдзіце ж пад маё вакошачка
І паглядзіце пад ясную зораньку:
Ці не ўвідзіце там сваю дачушку родненькую,
Ці не прыйдзеце вы на яе пірушачку?
Пажалейце мяне, горкую сіротачку,
А мне ж ісці ў чужыя людзі.

Татулька, родны мой, а чаму ж цябе нет!?
А чаму ж цябе нет, а ці ночка цёмна?
А ці ночка цёмна, ці дарожка доўга?
Ці дарожка доўга, ці горы высокі?
Ці горы высокі, ці азёры глыбокі?
Калі ночка цёмна — месяца папрашу,
Месяца папрашу, ночачку асвячу.
Калі дарожка доўга — брацітка папрашу,
Брацітка папрашу, коніка падашлю.
Калі горы высокі — дзядзечкаў папрашу,
Дзядзечкаў папрашу, я горы паніжу.
Калі азёры глыбокі — суседзяў папрашу,

Суседзяў папрашу, кладачку памашчу,
Кладачку памашчу, татульку перавяду.
Татулька, родны мой, а прыбудзь жа ка мне,
А прыбудзь жа ка мне, блаславі ж ты мяне.

Мамачка родная, а зачым цябе нет?
А зачым цябе нет, ці дарожка даўга,
Ці дарожка даўга, а ці ночка цёмна,
А ці ночка цёмна, ці горы высокі,
Ці горы высокі, ці моры глыбокі?
Калі дарожка доўга — коніка запрагу,
Калі ночка цёмная — свечачку запалю,
Калі горы высокі — раскапаці магу,
Калі моры глыбокі — кладачку памашчу.

Уся мая радзінка
Родная пасабралася,
А толькі майго роднага таткі
З сястрыцай нет.
А я сягоння рананька
І ўставала,
А я ж усіх пцічак
Ва ўсе старонкі пасылала,
А я ж іх за сваёй сястрыцай
Ўсіх пасылала.
А яна сільна далёка,
Яны ж, верна, да яе не даляцелі.
Мая сястрыца родная,
Яна ж не магла ка мне прыляцеці.

Брацітка родненькі, адламі ветачку,
Адламі ветачку, размяці сцежачку.
Будзець мамка ісці, мне падаркі нясці,
Мне падаркі нясці даражэя ўсіх.
Мамулька родная, падыдзі пабліжы,
Падыдзі пабліжы, скланю галоўку паніжы.
Сястрыца родная, падыдзі ж ты ка мне,
Падыдзі ж ты ка мне, я спасіба скажу,
Я спасіба скажу, што ад вас ухаджу.

Братулька родненькі, а бяры тапарочак,
А бяры тапарочак, а пайдзём у лясочак,
Адсячы ёлачку, размяці вулачку:
Мой татулечка йдзе, мне падаркі нясе.

Братулька родненькі, запалі свечачку,
Запалі свечачку, асвяці сцежачку:
Мой татулечка йдзе, мне падаркі нясе.

Мамулька родная,
На пасад вядуць,
Долю-шчасце кладуць.
Выхадзі ж ты ка мне,
Баславі ж ты мяне,
А мяне. маладу,
Бедную сірату.
У мяне таткі нет,
Некаму баславіць,
На пасад пасадзіць.

Татулька мой, хоць тут цябе й нету,
Дык благаславі мяне з таго свету.

Ай, мая ты мамулечка,
Ай, надзялі мяне шчасцем-доляй горкаю сірату.
Запаліце ж вы мне свечачку,
А пайду ж я кругом печачкі,
А й паішчу ж я свайго роднага татулечку.
А пайду ж я кругом будыначку,
А й паішчу ж я сваю родную мамулечку.
А ці не найду ж я яе?

А такі ж мае, такі, новыя,
А бічы ж мае, бічы лоўкія.
А мамулечка мая родная,
А ты дай жа мне долю-шчасцейка,
Баславі мяне, мамухна, ў святую цэркавачку,
Да баславі мяне, сіротачку,
Да прасці ж мяне, мая мамухна.
Да галоўку часалі, госпада бога ўпрашалі,
Каб і божачка даў мне шчасцейка.

Нядзелька святая,
Зямелька сырая,
Расхініся ж ты мне,
Вечнай сіраце.
Мамулька родная,
Узніміся ка мне,
Не стой у бару,
Прыйдзі ж бліжэй к сталу.
Прыйдзі ж бліжэй к сталу,
К сіроцкаму двару.
Варотцы новыя,
Расчыніцеся вы,
Расчыніцеся вы,
Расхіліцеся вы.
Мая мамулька ідзець,
Благаславенне нясець.
Благаслаўляе маладу,
Вечную сірату.

А зямелюхна чарназёмная,
Расхініся ж ты на старонушку.
Мая мамухна, мая родная,
Узніміся ж ты дый на ножанькі
Да благаславі ж ты мяне, сіротаньку,
К залату вянцу, ■ серабру хрысту.
Дай жа, божанька, долю-шчасцейка
І здароўейка, малайца добрага.

Мамачка родная, на барок усхаджу,
На барок усхаджу, а дзень добры даю,
А дзень добры даю, на вяселле заву.
Мамачка родная, да ці прыйдзеш, ці не,
Ай, ці прыйдзеш, ці не, ты ж не 'тказвай мне.

Мамачка родная, на барок усхаджу,
На барок усхаджу, а дзень добры даю.
Мамачка родная, не гардуй мною,
А не гардуй мною, пастаі са мною.
Мамачка родная, а не йдзі ж ты туды,
А не йдзі ж ты туды, дзе музыкі йграюць,

Дзе музыкі йграюць, дзевачкі спяваюць.
А йдзі ж ты туды, дзе сіротка плачыць,
Дзе сіротка плачыць, у бога долі просіць.

Дзень добры даю
Зялёнаму дзёрну,
Чорнаму пяску,
Шэраму кораню,
Беламу каменю,
Грабавым дошкам,
Таткавым ножкам:
Прашу на вяселле,
На кароткі часок —
На благаславенне.

Татулька мой, на магілку іду,
Татулька мой, дзень добры даю,
Татулька мой, жоўтаму пясочку,
Татулька мой, траўцы-мураўцы,
Татулька мой, шэраму каменню,
Татулька мой, грабавым дошкам,
Татулька мой, татулькавым ножкам.
Грабавыя дошкі, раскіньцеся,
Таткавы ножкі, пакажыцеся.
Татулька мой, хадзі да мяне,
Благаславі мяне на пасад сесці,
Татулька мой, на шчаслівым месце.

Татулька родненькі, а не стой у бару,
А не стой у бару, а хадзі ка двару,
Баславі ж ты мяне ў даўгую дарожачку,
Ў даўгую дарожачку, у чужыя людзі.
А й у чужыя людзі, й у чужую хатачку,
У чужую хатачку, к чужому татачку.
А я ж буду абсуджона — і хада, і яда,
І хада, і яда, і работа мая.
Татулька родненькі, а не стой у бару,
А не стой у бару, а хадзі ка двару,
Баславі ж ты мяне да шлюбу ступіці.

Брацітка родненькі, ты хоць старша мяне,
Ты хоць старша мяне, а паслухай мяне:
А й ўстань униерадзе на таткавым слядзе,
А паводзь парадкі, як родненькі татка.

Брацец мой, родны мой,
А йдзі ў стаеньку,
Асядлай коніка,
Паязджай ў поле,
Улаві саколю.
Прывязі на руцэ,
Пасадзі на куце
Замест мамкі маей.
Мамачка родная,
А хадзі ж ты ка мне.
А хадзі ж ты ка мне,
Блаславі ж ты мяне
І хлебам, і соллю,
І шчаслівай доляй.
Калі ж ты блаславіш,
Дык і бог блаславіць.

Дзевачкі-паненачкі, пляціце й косачку,
Кабы туга й была, кабы й крэпка была.
Як выйдзем на вулку, як гукнём татульку.

— Сястрыцы родныя, а чаго ж вы прыйшлі?
Ці на вулачку звацъ, ні мне коску часаць?
— Не на вулачку звацъ — табе коску часаць.
— Чашыце, чашыце, валаска не рвіце,
Валаска не рвіце, галаска не падайце.
А мой жа галасок ды не тонак, высок.
Па надворку хаджу, свайго татку заву,
Свайго татку заву, на вяселле прашу:
— Татулька родны мой, не хадзі па двару,
Не хадзі па двару, а зайдзі ў хату.
А зайдзі ў хату, блаславі сірату.
Як цяжка каменю па вадзе каціцца,
Так цяжка сіраце на пасадзе садзіцца.

Мамка мая мілая,
Я без цябе расла, гадавалася,
А цяпер, мая мамка, прашу: не ляжы,
Прыйдзі да мяне хоць на часок — памажы.
У нас ужо і сталы засланы,
І госці пазваны.
А цябе, мая мамка, не відаць.
Мяне ж нет каму блаславіць
І за стол пасадзіць.
Узнііміцеся, ветры,
Ды разарвіце зялёныя дзярночкі,
Ды раздуйце зялёныя пясочкі.
Разарвіце сасновыя дошкі,
Памажыце мне мамку паставіць на ножкі.
Каб мамка прыйшла,
Ў нас парадак навяла.

Узніміцесь, буйныя вятрочкі,
Разнясіце жоўтыя пясочкі,
Раздзярыце грабавыя дошкі,
Разніміце мамкі белыя ручкі,
Аслабаніце хоць на часочак,
Няхай яна мяне благаславіць.

А мой брацітка, а мойродненькі,
Што ж ты мяне не пытаешся,
Ды дзе я, сірацінка, прызабавілася?
Я й хадзіла, сірата, на магілачку,
Я й будзіла сваю родну мамачку,
Родну мамачку, роднага татачку.
Прыглашала ж я іх на бяседухну,
На бяседухну на сіроцкую.
Ах, мой брацітка, а мой родненькі,
Не магла ж я іх дабудзіціся,
Не магла ж я іх дапрасіціся.
Ды чаго ж яны так усердзіліся,
Ды чаго ж яны так разгневаліся!?

## ПА ДАРОЗЕ Ў ЦАРКВУ

А месяц, залатыя рожкі,
Да садзіся, сястрыца, на дрожкі,
Паедзеш вянчацца, кольцамі абручацца.
А мы кольцамі абручыліся
І на маладога паручыліся.

Расступіцеся, саколы ясны,
Да на явор летучы.
Да ўгрэй, сонца, да ўпадзь, раса,
Бо мы на явор сядаем.
Разжаліўся малады Антоська
Да да шлюбу едучы: —
«Да звідзь, божа, на крыўду-праўду,
Я на воз сядаю».
Да падмяцёна наша гулачка да канца,
Да павязём нашага Антоська да вянца.
Да памяталі тую гулачку дзяцючке,
Да выпраўлялі таго Антоська дзевачке.

Зволя, конікі, зволя.
Зволя, конікі, зволя,
Памалу рушайце,
Пылу не ўзбівайце,
Штоб наша пава
Пылам не прыпала.

Да вянца, дзевачка, да вянца,*
А папытайся ў бога-айца,
Каб цар вароты адчыніў,
А кароль зямельку растварыў,
Прачыста за ручку ўзяла
А на тонкі ручнік узвяла.

* Кожны радок паўтараецца.

Едзе сястрыца да шлюбу,*
Бог ей вароты адчыняў,
Да прачыстая зачыняла,
Янголі конікі дзяржалі,
Да пакуль Еўцы шлюб далі.

Ехала Настулька да вянца,
Меценая дарожка да канца.
Бог ей дарожку пераксціў,
Анелі вароты адчынілі,
А прачыстая свяціла.

Кругом, кругом сонца ўгору йдзе,
Маладая Марыся да шлюбу йдзе.
— Каго ся радзіла да шлюбу йдучы?
— Радзілася я мілага бога,
Мілага бога й бацենька раднога.

— Скажы, скажы, малада Юзэфка, ўсю праўду:
Ды хто цябе сёння раненька пабуджаў,
Ды хто табе гладка галоўку часаў,
Ды хто табе мірцяны вяночак ускладаў,
Ды хто табе вараных коняў запрагаў?
— Цёценькі-суседанькі, скажу я вам ўсю праўду:
Пабуджала сёння раненька мамунька,
Учасалі гладка галоўку сястрыцы,
Ускладала мірцяны вяночак мамунька,
Прышпілялі мірцяны вяночак сястрыцы,
Запрагалі вараных коняў брацікі.

Месяц дарожку прысвяціў,*
Віхор вароты расчыніў,
Туды брат сястру правадзіў:
— Едзь, мая сястрыца, далёка,

* Кожны радок паўтараецца.

Пад тую гару крутую,
Пад тую царкву святую,
Пад тыя папы гласныя,
Пад тыя свечы яркія.

— Зашчабячы, салавейка, зашчабячы,
Нам дарожаньку пакажы.
— Чы пад тую гору крутую,
Чы пад тую цэркаўку святую?
— І пад тую гору крутую,
І пад тую цэркаўку святую.

Да не думай, Галечка, не думай,
Перавязем рэчаньку глыбокую
Да й у цэркаўку далёкую.
Там папы-дзякі спявалі,
Мяне, маладу, вянчалі.

— Салавейка, да куда ты ленеш?
— Палену я ў шчыры боры,
На салодкі мёды да на жоўты цветы.
— Жанішок, да куда паедзеш?
— Я паеду да божага дому,
Дасць мне бог шчасце і долю.

— Заўзуленька, да куды ж ты ленеш?
— Я лену з бору ў дуброву,
Каб даў бог да зіму лёгку.
— Дзевачка, і да куды ж ты ідзеш?
— Я іду да божага дому,
Дасць мне бог шчасце і долю.

Ох, і доля ж ты, доля.
На сход стаяла,
З доляй размаўляла:

— Ох, і доля ж, ты, доленька,
Да калі ж ты добрая,
Не спрачайся са мною,
Едзь да шлюбу са мною,
Калі злая-ліхая,
Плынь на мора з вадою.

Скора я на воз села,
Аж мяне да доля стрэла.
— Калі добрая доля,
То стань на шлюбе са мною,
А калі злая-ліхая,
Не станавіся са мною,
Да ўдар галавою.

Маруська да вянца едзе,
Яе доля ўперад ідзе.
— Ой, доля мая, доля,
Калі ты добрая,
Садзіся са мной на воз,
Каб мяне конь з двара не звёз,
Каб дуга зламалася,
Атоса парвалася,
Я тут засталася,
У сваёй роднай мамачцы,
У мамаччынай хатачцы.
Мамаччына хатачка міленька.
Сястрыца мая маленька,
Не будзе каму палівацъ мае рутачкі,
Будуць вянуць мае ручачкі.
Галовачка забітая,
Мая рутачка не палітая.

І Янечка к вянцу ідзе,
Доля яе у варот стаіць.
Яна долечку прося:
— Доля мая, доля,
Калі харошая,

Дык садзіся са мною
Да паедзем з табою.
А калі нядобрая,
Ідзі ў вір за вадою,
Ідзі ў вір за вадою.
Не сустракайся са мною.

— Разлягайцеся, горы,
Раўняй, божа, дарогі —
Дзевачка да вянца едзе,
Яе доля папярод ідзе.
— Ой, ты, доля, да ты, долечка,
Калі ты, доля, добрая,
То садзіся са мною
І паедзем з табою.
А калі, доля, ліхая,
Дык плыві ты з вадою,
А я, малада, за табою.
Адказала ёй доля:
— Я й такая, і сякая,
Я й добрая, і ліхая.

— Разлягайся, дуброва,
Да раўнуйся, дарога —
Дзевачка к вянцу едзе,
Яе доля наўперадзе.
— Доля ж мая, доля,
Калі добра — едзь са мною,
Калі якава — плыві з вадою,
Калі добра — ты ка мне на воз,
Калі якава — ты каню пад хвост.

— Разлягайся, зялёна дуброва,
Штоб нам была шырока дарога.
А наша Марка к вянцу ідзе,
А яе доля сустрачае.
—Ой, доля, мая долечка,
Да калі ж ты добрая будзеш,

То паедзьмо са мною,
А калі ж ты якавая будзеш,
Так плыві ўверх за вадою,
А я маладзенька ўслед за табою.

Дзевачка да вянца выязджае,
Яе доля спатыкае.
— Калі добрая, доля,
Сядай разам са мною,
Са мною, маладою.
Калі ж, доля, ліхая,
Аставайся на дарозе,
Пры зялёнай бярозе.
Няхай цябе коні саб'юць,
Няхай цябе колы сатруць.
Коні саб'юць вараныя,
Колы сатруць каваныя.

Ой, гук, гук ды па дуброве,
Ой, пыл, пыл ды па дарозе.
Там дзевачка да шлюбу едзе,
Яе доля сустрачае,
Яна ў долі праўды пытае:
— Ох, доля да мая доля,
Калі добра — едзь са мною,
Калі кепска — плыві з вадою,
Калі добра, то нажывешся,
Калі кепска, то наплачашся.

— Ой, ель, ель да зялёная,
Паднімай галлё ўгору
Да прапускай у дарогу,
Бо дзевачка к вянцу едзе.
А дзевачка к вянцу едзе,
Яе доля сустракае
Ды на возіку сядае.
— Ой ты, доля да мая доля,
Як добрая, то едзь са мною,

А як ліхая, плыві за вадою
І не раўняйся са мною,
Са мною да маладою
І з маёю русаю касою.
Руса коса да да пояса,
А каснічкі да сукеначкі,
А сукенка да да мураўкі,
А дзевачка да да царкаўкі.

— Ой, варогі, варогі,
Не пераходзьце дарогі,
Во Ніначка к вянцу едзе,
Яе доля сустракае.
Яе доля сустракае,
Яе малада праўду пытае:
— Ой, доля ж да мая доля,
Калі добра — едзь са мною.
Калі добра — едзь са мною,
Калі якава — плыві за вадою.
Калі якава — плыві за вадою,
Не станавіся са мною.
Не станавіся са мною,
Са мною, маладою,
Бо ў мяне меч пад палою.
Бо ў мяне меч пад палою,
А шабелька пад другою.

Адступіцеся, варогі,
Не пераходзьце дарогі,
Не надзелайце трывогі,
Бо нам дарога шырока,
Нам царкаўка далёка.
На тэй царкаўцы крыжычак,
На тым крыжычку макаўка,
На той макаўцы ластаўка
Звіла гняздзечка буйное
Да вывела дзетак са двое:
Перша дзіцятка — Толік,
Другое — Таня.

Адступіцеся, варогі,
Ды не пераходзьце дарогі,
Штоб наша дарожка роўна была,
Штоб наша дзяўчына сумна была.
Роўна дарожка да канца,
Павезена дзяўчына да вянца.
Роўна дарожка да дуба,
Павезена дзяўчына да шлюба.
Да звязаў да айцец ручкі
Да з цёмненькае ночы,
Да з правенькае ручкі
Белаю да бяліцаю
Да з чужым чужаніцаю,
Да белаю да кітайкаю
Да з чужым да нязнайкаю.

За сеньмі, сеньмі тры сады цвіцелі:
У адным садочку зязюлька кукуець,
У другім садочку салавей шчабеча,
У трэцім садочку Мар'янка плача.
Зязюля кукуе ў шчыры бор летучы,
Салавей шчабеча ў луг летучы,
А Мар'янка плача да шлюбу ідучы.

— Расплынься, Дунаю, па бору,
Па ўсялякім зеллю.
Расплачся, Ганулю,
Да шлюбу едучы.
Там ручкі звяжуць
І вернае слова скажуць.
— Чом жа тое мне не казалі,
Як ручак не вязалі?
Тэраз мне не кажэце
І сэрданька не смуцеце.

А не вей, ветрэ, полем,
А вей, ветрэ, дарогаю за мною,
Разматай маю касу па паясу.

Мая каса да паяса,
Шоўкам заплецена,
Золатам акована.

Ехала да вянца,
Загубіла грабянца,
Месяц бачыў, недабачыў,
Сонца ўкрала, не сказала.

Мяціце вуліцу да канца,
Вядзіце Масейку да вянца,
Да белага ручнічка.
А па чым пазнаць, што каліна ў лузе?
Ціханька стаіць, сільненька цвіцець.
А па чым пазнаць «пад вянец едуць?»
Пярловы вянок, маляваны вазок,
А ў руках хустачка таненька, бяленька,
Таненька, бяленька, ад слёз макрэнька.

Па чым пазнаць
Салавейку ў лузе?
Ён сам маленькі,
Галасок таненькі.
Па чым пазнаць,
Што вянчаці вязуць?
Па плячах коскі,
Па ліцу слёзкі.
Па плячах коскі,
Як лён бяленькі,
Па ліцу слёзкі,
Як боб буйненькі.
Па плячах коскі
Рассцілаюцца,
Па ліцу слёзкі
Разліваюцца.

Елачка, ты сасоначка,
Зелена, зелена,
Усю зімачку зелянюсенька,
Эй, стаяла, стаяла, стаяла.
Ой ты, Ганечка маладзюсенька,
Молада, молада,
Усю нядзелечку маладзюсенька,
Эй, хадзіла, хадзіла, хадзіла.
У суботачку русу косачку
Часала, часала,
А ў нядзелечку паранюсеньку,
Эй, к вянцу ехала, ехала.

Стаіць елачка зіму й лета зелена,
Наша дзевачка ўсю нядзелечку весела.
І ў пятніцу сенечкі мяла — спявала,
А ў суботу касу часала — плакала,
А ў нядзелю да вянца ехала — мовіла:
— Не аддай, не аддай, мая мамачка, ад сябе,
Застаецца мая рутачка ў цябе.
Уставай, мая мамачка, раненька,
Ды палівай маю рутачку часценька.
Не палівай маю рутачку вадою,
А палівай маю рутачку сытою.
А ад вады мая рутачка жаўцее,
А ад сыты мая рутачка лялее.

Сасонка зіму і лета зялёна,*
У пятніцу была дзевачка вясёла,
А ў суботу русу косу часала,
А ў нядзелю ішла да шлюбу — плакала:
— А ўстань, устань, мая мамачка, раненька,
Палівай рутачку-мяту часценька.
Не палівай рутачку-мяту слязою,
А палівай руту-мяту вадою.
Ад слёзачак рута-мята жаўцее,
Ад вадзіцы рута-мята зелянее.

---

* Кожны радок паўтараецца.

А ў нядзелю раненька
Разлягай, дуброванька.
Разлягай, дуброванька,
Раўнуйся, дарожанька:
Дзевачка к вянцу едзе
Ды з русаю касою,
З вялікаю дружынаю.
— Брацейка мой,
Не наганяй каня на воз,
Не зачапай да косы русы.
Каса мая да русенькая,
Сляза мая драбненькая.

Ой, ель, ель да зялёная,
Да падымай галлё ўгору:
Будзеце ехаць маладая дзевачка.
Каб конікі не ўчапілі,
Каб ручнічка не згубіла,
Бо не на чым будзе стаці
Да пану богу прысягаці,
З кім трэба век векаваці

Ель, ель да зялёненька,
Падымай галлё ўгору,
Не ўчапіруйся ў косы.
Русы косы да да пояса,
А стужачкі да сукенкі,
А я іду да да цэркаўкі.
На мяне да папы глядзяць,
Чытаючы да молюцца,
На мяне прызіраюцца,
Што я тонка, як былінка,
Хароша, як малінка,
Бела і румяна,
Харошая прыдана.

— пылка дарожка, пылка *.
— аго ж мне пылка?
Не
Най

* К акрамя апошняга, паўтараецца.

Манечка к вянцу едзець,
Косачку распусціла,
Дарожачку запыліла.

А што ў полі за дым, за дым,
Па дарозе за пыл, за пыл?
Там дзевачка к вянцу ішла,
Ў белай руцэ свячу няслa.
Яна свячу задыміла,
Русай касой запыліла.

Дымна ў полі, дымна,
Нічога нявідна.
Што ж там задыміла,
Што ж там запыліла?
Дзевачка к вянцу едзе,
Коскамі запыліла,
Свечкамі задыміла.

Пыл, пыл да па дарозе, *
А туман па дуброве.
А туман па дуброве,
То Марылька да вянца едзе.
Свечачкамі да надыміла.
Косанькамі да напыліла.
Косанькамі да напыліла,
Слёзанькамі да намачыла.

Пыл, пыл на дарозе,
Дым, дым на дуброве.
Хто тыя пылы пыліць,
Хто тыя дымы дыміць?
Волечка з вянца едзе,
Конямі запыліла,
Свечкамі задыміла.
Коскі ўкрылі плечкі,
Слёзкі ўзлілі рэчкі.

* Кожны няцотны радок паўтараецца

А пыльна, пыльна дарога,
А й дымна, дымна дуброва.
Хто ету дарогу запыліў,
Хто ету дуброву задыміў?
Ехаў Мішачка ад вянца,
Конікамі дарогу запыліў,
Свечкамі дуброву задыміў.

Ехала Параска да вянца,
Сыпала золата з прыпалца.
Хто гэта золата падбярэць,
Вараны коні падкуець,
К сабе Параску прыхіліць?
Малады Антоська падабраў,
Вараны коні падкаваў,
Маладу Параску к сабе ўзяў.

Ехала Адарка да вянца,
Сыпанула золатам з рукаўца.
— Хто ж тое золата падбярэ,
Той мяне да шлюбу павязе.
Адазваўся старшы брат:
— Не журыся, сястрыца, не журыся,
Я твгё золата падбяру,
Я цябе да шлюбу павязу.

Ехала дзевачка да вянца,
Сыпала золата з рукаўца.
— Хто маё золата падбярэ,
Той мяне да шлюбу завязе.
Падбярэ золата большы брат,
Ён мяне да шлюбу завязе.
А везучы ў мяне пытае:
— Хто ў цябе, сястрыца, наймілейшы?
— Наймілейшы, братка, ты ў мяне.
— Салгала, сястрыца, салгала,
Не ўсю праўдачку сказала.
Наймілейшы ў цябе той,

З кім ты пад вянцом стаяла,
Залатыя пярсцёнкі мяняла,
Вернае слова сказала.

Ехала дзевачка да вянца,
Сеяла чорны мак з рукаўца:
— А ўзыдзі, мой чорны мак,
Зялён усход.
Зацвіці, мой чоран мак,
Чырвон цвет.
Будзе мая мамачка
Ў клецьку ісці,
Сарве чырвон мак,
Будзе памінаць мяне,
Дзе слядкі мае.

Ехала дзевачка да вянца,
Сеяла рутачку з рукаўца.
Ой, рута, рута зялёна,
Я была ў бацанькі вясёла..
Ой, рута зяляненькая,
Я была ў бацанькі весяленькая.

Ехала Манечка да вянца,
Сеяла расаду з рукаўца.
Ай, выкаціўся камянец,
А яна думала, што грошы,
Ажно яе Валодзька харошы.

Маладая Валечка да вянца,
Сыпалася золата з рукаўца,
А за ею мамачка ступою,
Збіраючы золатца рукою.
— Не гніся, мамачка, не гніся,
Бо ты майго золатца не збярэш,
Толькі свае слёзачкі разлieш.

У мяне ёсць дружачкі,
Яны маё золатца падбяруць,
Мяне, маладую, да шлюбу завядуць.

Ехала Ганначка да вянца,
Сыпнула золата з рукаўца.
— Збірайце, сястрыцы, золата,
Большая сястрыца — большае,
Меншая сястрыца — меншае.

Ехала дзевачка да вянца.
Ехала дзевачка да вянца,
Сыпала золата з рукаўца,
А за ёю маманька падбірае,
Дробныя слёзанькі да раняе.
— Ці раняй, маманька, ці не раняй,
А за мною золата падбірай.

Азірніся, дзяцінка,
Ці не едзе дзевачка твая,
Ці не вязе белы ручнічок,
Каб было на чом стаці —
Госпада спамінаці.

Зацвіла ў садзе яблынька,
Забалела Аліне галоўка.
Хто Але зеллейка дастане,
Той з Алай на ручнічок стане.
Адазваўся малодзенькі Геня:
— Я Аліне зеллейка дастану,
А з Алінай на ручнічок стану.
Ёсць у мяне тры кані на стайні:
На першым кані да мора даеду,
Другім косем мора пераеду,
На трэцім косі зелля накапаю.
Я Аліне зеллейка дастану,
Я з Алінай на ручнічок стану.

Ехалі панічы страляючы,
Толькі адзін Ляксейка не страляець.
Быць яму, быць яму
У божым даму,
Дзе сам бог суды судзіць,
Прачыста матушка перасуджваець,
Сын божы вянец дзяржыць,
Святая Сулука салучаець:
— Салучы ж, госпадзі, гэтых дзетак.
Ай, адно дзіцятка раджонае,
Другое дзіцятка суджонае.
Ляксейка — дзіцятка раджонае,
Настулька — дзіцятка суджонае.

Ой, борам-барычком
Едзе малойчык краічком.
Выламаў [illegible] бярозкі тры розгі
Да кінуў конічкам пад ножкі.
— Ці чуеце, конікі, на сілку,
Ці павязеце да шлюбу маю дружынку
Пад тую гораньку крутую,
Пад тую цэркаўку святую?
Лепшая пятрушка, ніжбы кроп,
Лепшая пападдзя, ніжбы поп.
Адчыніла цэркаўку напярод,
Паставіла алтары перад намі:
— Сюды, сюды, мае дзетанькі,
Тут я вас звянчаю.

Служыў Давыдзька ў караля,
Выслужыў коніка-варанца,
Павёз Марыечку да вянца.
Стаяла Марыечка пад вянцом,
Часала косаньку грабянцом.
Кінула грабянец пад вянец,
Русую косачку пад чапец,
Рубковай хустачкай вочкі трэць,
Шаўковы чэпчык коскі трэць.

А тонка-звонка сасонка,
А рана-рана, сасонка. *
Затое тонка, што ў бару.
Служыў Антонька каралю.
А служыў, служыў да году,
Выслужыў шубу да долу.
А служыў, служыў да канца,
Заслужыў каня-варанца
А сеў паехаў да вянца.

Ой, заржалі сівы коні, заржалі,
Як з паннаю маладою да шлюбу ехалі.
— Не ржыце, сівыя коні, не ржыце,
Напасема вас пад Палоскамі на жыце.

Пабяжалі конікі ва дварэц,
Павезлі дзевачку пад вянец.
Прыбяжалі конікі із дварца,
Прывезлі дзевачку ад вянца.

Марачку запівалі,
Стада коней абяцалі.
Прыйшлося вянчаці —
На чужом канчаці.

Ой, палыньце, два саколікі,
Да баценькі ў пакоі,
Дайце баценьку пазнаці,
А ключыкі да купаваці,
Цэркаўку да адмыкаці.

На сіненькім моры тры няпры купаюцца,
А на новенькім ганку тры малойцы выбіраюцца.
Ці йці, ці не йці няпроў біці, маладым шубы шыці?
У панядзелак білі, ва аўторак лупілі,

* Рэфрэн «А рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

У сераду ў квас клалі, у чацвер вынімалі,
У пятніцу сушылі, маладым шубы шылі,
У суботу пашылі,
У нядзелю надзелі і к вянцу паспелі.

Дай, маці, шубу,
Ідзе дачка да шлюбу.
Заехалі да шлюбу,
Няма папа дома —
Паехаў па дрова.

Не лякайся, дзеванька,
Не да цябе сваты едуць,—
Да з Вільна купцы едуць,
Недарагі тавар вязуць:
Шпілечкі, да голачкі,
Да жоўтыя пярсцёначкі.
Голачкі да хустачкі,
А шпілечкі да ўстужачкі,
Пярсцёначкі к вяселлейку.
Не лякайся, Зосечка,
Да не будзеш венчана:
Да няма ксяндза удому,
Паехаў да Альбова
Ключыкі купаваці,
Цэркаўку адмыкаці,
Двое дзетак звянчаці:
Да адно — раджонае,
А другое — суджонае.
Да Ясенька сам бог радзіў,
А Зосечку яму бог судзіў.

Ай, попе-папок, бацька наш,
Расхутай царкоўку проці нас,
Вянчай свадзебку ў добры час.
І не попе ж нас вянчаець —
Добрая гадзіна злучаець,
Добрая гадзіна — добры час.

Ой, попе, попе, бацька наш,
Адчыні цэркаўку, звянчай нас.
Ой, попе, попе-гардзею,
Звянчай дзетачак у нядзелю.
Ой, попе, попе, бацька наш,
Звянчай дзетачак ў божы час.

Ой, попе, попе-гардзею,
Да прачыні цэркаўку ў нядзелю.
А калі ж не ў гэту, то ў тую,
Да прачыні цэркаўку святую.
Ох, попе, попе, бацька наш,
Да прачыні цэркаўку проці нас.

На гары цэркаўка «Святы спас».
— Выйдзі, бацeньку, проціў нас.
Ой, выйдзі, выйдзі проціў нас,
Павянчай дзеткі ў добры час.

Ой, попе, попе, бацька наш,
Звянчай дзетанькі ў божы час.
Ой, попе, попе-гардзею,
Звянчай дзетанькі ў нядзелю.
Вянчай, вянчай, не даражы,
Нам двое дзетачак адружы.

Ой, попе, попе-дабрадзею,
Не звані рана ў нядзелю,
А звані позна ў суботу,
Загадай дзевачкам работу:
Каб была вулачка мяцёна,
Каб была Ганулька правядзёна.
Мяцёна вулачка з канца ў канец —
Правядзёна Ганулька пад вянец.

Ой, попе, попе-гардзею,
Не звані рана ў нядзелю.
Звані рана ў суботу,
Загадай дзевачкам работу.
Няхай мятуць вулачку да канца,
Будзе ехаць дзевачка да вянца.
Няхай мятуць вулачку кружкамі,
Будзе ехаць дзевачка з дружкамі.

Ксенжа, ксенжа, ойча наш,
Адчыні цэркаўку проці нас.
Да калі прыехалі — адчыню,
Да калі прыступіце — звянчаю.
Ясныя свецы на алтары сталі,
А дробныя слёзкі на зямлі палі.
Ясныя свецы да загарэліся,
Дробныя слёзкі да пакаціліся,
Да на зямлю палі, крамні разбілі,
[Крамні разбілі], пясочак размылі.
Крамянец рабенькі, пясочак жаўценькі.

Ой, попе, попе, бацька наш,
Звянчай парачку — двойка нас.
А калі не будзеш вянчаці,
Будуць твае кудзеркі трашчаці.
Як люты мароз на дварэ,
Так твае кудзеркі на галаве.

Поле, поле румяное,
Радзі, божа, жыта буйное,
Бо наша дзевачка прэнтка жне:
Сярпа ў ручкі да не бярэ,
За ёй, маладою, сноп у сноп —
Сем казачанкаў, а восьмы поп.
Сем казачанкаў, а восьмы поп,
Дзевяты дзяцінка, што бярэ шлюб.
— Ой, попе, попе, дай нам шлюб
Да з тым дзяцінкам, што стаяў тут.

А мы едзем к папу,
Вязем грошай капу.
А калі з яго мала,
Каб яго разарвала.

Што ў полі далёка,
Стаяў церам высока,
Там дзевачка гуляла,
Русу касу часала.
— Каса мая — касою,
Краса мая — красою,
Каму я дастануся,
З тым я павянчаюся.
Татухна пайшоў — не найшоў,
Із саданьку так пайшоў.
Ліхая гадзіначка,
Не найшла мяне радзіначка.
Што ў полі далёка
Кала церама вада лялея,
Каліначка ўжо зрэе,
Ягада чырвоная.
Там Лук'яначка
Русу касу часала,
Руса каса да пояса.
Каму каса дастанецца,
З тым павянчаюся.
Іванька найшоў —
Ў саду пайшоў,
За ручачку ўзяў,
Пад вянец павёў.

Адчыняйся, цэркаўка,
Адчыняйся, божы дом,
Вязуць табе двое дзетак,
Двое дзетак-адналетак:
Да адно — раджонае,
А другое — суджонае.

# ВЯНЧАННЕ

Як наша Хрысцінка ў царкву ішла,
Здалася Хрысцінцы ясна зара,
Махала хусткай за сабой,
Клікала Хрысцінку:
— За мной, Хрысцінка, за мной,
Павянчаемся з табой.

Не давала ж я веры
Аж да самай нядзелі.
Як прыйшла нядзелечка,
Усю праўду сказала,
Як на каберцу стаяла,
Белы ручкі вязала
Белаю бяліцаю
З чужою чужаніцаю.

— Ой, яліна, яліна,
Ты сухая вершаліна,
Да на табе шышкі ўюцца.
— Няхай ўюцца-павіваюцца,
А сухія адсыпаюцца.
— Ой, маладая Валечка,
За цябе хлопцы б'юцца.
— Няхай б'юцца-пабіваюцца,
Бо ўжо мне ручкі вяжуць
Да белаю беляніцаю.
Да белаю беляніцаю
Із чужою чужаніцаю.

Кала цэркві сцежачка з кવяткамі,
Там хадзіла Матронка з дзяўкамі
І судосілі госпада з свячамі:

— Дай, божа, ў добры час-гадзіну,
Каб я сваяму свёкру ўгадзіла.
— Ой, угодзіш, Матронка, угодзіш,
Як рана па двару паходзіш,
Вясёлую сям'ю пабудзіш,
Тады свёкру ўгодзіш.

Па чым пазнаць калінку ў садзе?
Стаіць нізенька, цвету бяленька.
Па чым пазнаць Марыльку ў шлюбе?
Стаіць хмурэнька, плача сільненька.
Па плечыкам коскі рассцілаюцца,
Па ліцу слёзкі разліваюцца.
Па плечыкам коскі, як лён бяленькі,
Па ліцу слёзкі, як дождж драбненькі.

Ды кувала зязюля на дубе,
Ды плакала дзеўчына на шлюбе.
— Хоць куй, зязюля, хоць не куй,
Ужо тваё куванне мінае.
Хоць плач, дзеванька, хоць не плач,
Ужо тваё дзевяванне мінае:
Ды прыедуць панічы уначы,
Расчэшуць касаньку пры свячы.

Ой, кукавала зязюлька на дубе,
Плакала Анулька пры шлюбе.
Кукавала зязюлька на бярозе,
Плакала дзевачка ў дарозе.
Кукавала зязюлька на тынку,
Плакала дзевачка па вянку.

Кавала зязюлька ў вішнёвым садочку,
Плакала Зосечка ў божаму дамочку.
Шлюб шлюбавала, сільна плакала,
Найсвентша матка гэта ўсё чувала.
— Дам табе, доню, шчаслівую долю,
Што ты заплакала перада мною.

Стаяла канапелька ў зялёным кусточку,
Шлюбавала дзеванька ў божым дамочку.
Найсвентша панна яе жалавала
Да доляю-шчасцем яе даравала.

Дзевушка, што травушка,—
Не вырасцець без славушкі:
Дзевушка ражаіцца —
Слава накладаецца.
Дзевушка на ножанькі —
Слава на дарожанькі.
Дзевушка вянчаецца —
Славушка канчаецца.

Дзяўчыначка нарадзілася —
Славачка явілася.
Дзяўчыначка пабольшала —
Славачка пагоршала.
Дзяўчыначка на ножанькі —
Славачка ў дарожанькі.
Дзяўчыначка вянчаецца —
Славачка канчаецца.

Да чыя свяча да ясней гарыць?
Да ясней гарыць да жанішкова,
А дзеванькі да пагасае.
Жанішкова гарыць да на радасцях,
А дзеванькі — да на жаласцях.

Ой, у полі пад вярбою
Стаяць вазы маляваны,
А ў тых вазах пара дзетак,
А ў тых дзетак па свечачцы.
У каторага ясней гарыць,
У каторага затухае?
У хлопца ярчэй гарыць,

А ў дзяўчыны затухае,
Коска мае — задувае,
Слёзка капле — загашае.

Чыя свяча ясней гарыць раненька?
Іванава ясней гарыць раненька,
А Ніначчына прытухае раненька,
Бо слёзкамі аблівае часценька.

Ой, як былі мы да ў нядзелечку
Рана да ў цэркаўцы,
Бачылі мы трайчатую свячу.
А чыя свяча ярка гарэла?
А хлопчыкава ярка гарэла:
Што ў свога татачкі,
А дзевачкіна да й патухала:
Слёзкамі аблівала.

Каля стала цісовага
Сядзяць госці нязнатныя,
Дзяржаць свечы вянчаныя.
Адна свяча шоўкам віта,
Друга — заполаччу.
Іванкава шоўкам віта,
Марусіна — заполаччу.
Адна свяча ясна гарыць,
Другая затухае —
Слёзанькамі залівае.

Ходзяць сваты окала стола, божа мой! *
Носяць свечу трайчастую.
Катора свяча ясней гарыць?
Цімошкава ясней гарыць,
Матроніна смутней гарыць,
Бо Цімошка кудзеркамі падмахівае,
А Матрона косанькаю замахівае,
Слёзанькаю залівае.

* Рэфрэн «Божа мой» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

— А зялёная рута і мята,
Да не бог цябе радзіў, 2
У гародзе пасадзіў.
— Пасадзіла мяне дзеўка
У чацвер ранюсенька,
Да ў пятніцу палівала, 2
А ў суботу сашчыпала,
А ў нядзелю вянок звіла. 2
Ў тым вяночку шлюбавала, 2
Чужаземцу прысягала,
Не старому, не малому —
Кавалеру маладому.

Да стаяла пшанічанька пры дарозе,
Да стаяла, гаварыла: — Мой божа,
Як жа мне надаела тут стаяць,
Да на гэтым ветрычку буйненькім,
Да на тым жа дожджычку драбненькім.
Да стаяла дзевачка на вянцэ,
Да стоячы гаварыла: — Мой божа,
Як жа мне надаела тут стаяць
Да на гэтым ручнічку бяленькім,
Да з гэтым Іваначкам маладзенькім.

Стаяла пшаніца пры дарозе,
Гаварыла стоячы: — Мой божа,
Як мне дадзела стоячы
Пад гэтым каласком каласістым,
Ды з гэтым зярняткам буйністым.
Стаяла дзевачка пад вянцом,
Ды прыпала косачка туманком.
— Як мне, маладзенькай, надаела стоячы
Пад гэтым венчыкам румяным,
Ды з гэтым хлопчыкам каханым.

Да ў нядзелю раненька
Троіца па цэркаўцы ходзіць,
Тры зеллейка носіць:
Першае зеллейка — рута,

А другое зеллейка — мята,
А трэцяе зеллейка — кветкі.
Да злучы, божа, гэтыя дзеткі.
Адно дзіця радзонае,
Другое дзіця судзонае.
Макарка сам божа радзіў,
Яму Волечку судзіў.

Як на астровінскай Ірдані
Там папы-дзякі стаялі,
Залатую кнігу чыталі,
Там нашу Хрысцінку вянчалі.
Не дарам яе вянчалі —
Вянчалі ні за грошы,
Што яе Якушка харошы.
Вянчалі ні за грошы,
Што яе Якушанька маладзенькі.

Ой, рака, рака, Ярданка,
Над табой папы стаялі,
Залатыя крыжыкі дзяржалі,
Там нашу дзевачку вянчалі.
Вянчалі яе за грошы,
Што яе дзяцінка харошы:
Не купіў ёй чаравік,
Купіў ёй сапожкі
На яе бодрыя ножкі.

Ой, на нашай Ярдані
Стаялі ксяндзы радамі,
У вялікай кнізе чыталі,
Пакуль нашу Агапку звянчалі,
Шаўковым шнуром звязалі.
Ані нам іх стаць развязаць,
Ані ножыкам разрэзаць,—
Так ім, маладым, век векаваць.

Не ў папа былі, а ў бога,*
А не поп іх вянчаў — бог злучаў.
Прачыста маці свяціла,
Пакуль маладых злучыла.
Ангелы каней дзяржалі,
Пакуль маладых вянчалі.
Звянчалі маладых, звянчалі,
Шоўкам ручачкі звязалі,
Ані ножкам жа іх разразаць,
Так жа ім, маладым, векаваць.

Чэраз пакутне вакно
Тры рэчанькі цякло:
Адна рэчанька віновая,
А другая да мядовая,
Трэцяя гарэлачна,
Наша пара не павенчана.

А што за званы на небе зазванілі,
Што за дзевачкі харашо заспявалі,
Што за музыкі харашо заігралі?

Ні дроў, ні лучыны,
А мы дзетак і злучылі.

Расчасалі косачку
Новым грабянцом,
Абвянчалі дзевачку
Залатым кальцом.

А й царкаўка з прытворамі стаяла.*
Рыпіначка белы ручнік паслала.
Архіпачка чырвончыкам налажыў,
Правай нагой на ручнічок наступіў.

---

* Кожны радок паўтараецца.

А схілілася верба
З верху да кораня,
Вянчалася дзевачка
Ад рання да поўдня.
А схіліліся кветкі —
Павянчаліся дзеткі.

Каціласа зорачка з неба далоў,
Прасілася дзевачка з шлюбу дамоў:
— Вязі ж мяне, мой хлопчык, дзе ж ты ўзяў,
Штоб мой вяночак не завяў.
— Не завяне, дзевачка, не завяне,
Пакуль мая мамачка не ўзгляне.
Як мая мамачка ўзгляне,
Тады твой вяночак завяне.

Каціласа зорачка з неба далоў,
Прасілася дзевачка з царквы дамоў:
— Вязі мяне, Колечка, дзе і ўзяў,
Каб мой вяночак не завяў.
Я не буду татку прасіці,
Каб у яго вяночак знасіці.
— Ці прасі, дзіцятка, ці не прасі,
Да вечара вяночак панасі,
А ўвечары дзевачкам аддасі.
Яны яго па красачцы разбяруць,
Яны табе па песеньцы прапяюць.

— Каліна-маліна, чаго ў лузе стаіш?
Ці ветру баішся, ці дажджу жадаеш?
— Ветру не баюся, дажджу не жадаю —
На цябе, дзяўчына, вяліку жаль маю.
А ў роўненькім полі цэркаўка стаяла,
А ў той цэркаўцы дзяўчына шлюб брала.
З немілым шлюб брала ды ў шлюба пытала:
— Ой, шлюбе мой, шлюбе, як мне цябе браці,
Лепей мне, моладзе, тры горкі скапаці.
Тры горкі скапаўшы, сяду, адпачыну,

З нялюбым шлюб узяўшы, навекі загіну.
Каліна-маліна, чаго ў лузе стаіш?
Ці ветру баішся, ці дажджу жадаеш?

— Каліна-маліна, чаму ў лузе стаіш?
Чаму ў лузе стаіш, ды не зацвітаеш?
Ці мочы баішся, ці сушы жадаеш?
— Мочы не баюся, а сушу не знаю.
Ой, там жа ў полі цэркаўка стаяла,
А ў той жа цэркаўцы нялюба шлюб брала.
Нялюба шлюб брала, у шлюба пытала:
— Ой, шлюбе, мой шлюбе, ой, што мне рабіці,
Ці горы капаці, ці з нялюбым шлюб браці?
— Горы капаючы, то й вады нап'ешся,
А з нялюбым шлюб узяўшы, слязамі заліешся.

Ой, там, пад гарою, цэркаў стаяла,
Там млода дзеўчына з нялюбым шлюб брала.
З нялюбым шлюб брала і ў шлюба пытала:
— Ой, шлюбе, мой шлюбе, ці добра мне будзе?
Ці добра мне будзе, з нялюбым шлюб узяўшы?
— Дзяўчына, дурная, розуму не маеш,
Розуму не маеш, што ў шлюба пытаеш.
Лепш з мілым другам век горы капаць,
Як з нялюбым другам на шлюбе стаяць.
Горы капаўшы — вадзіцы нап'ешся,
А з нялюбым другам — слязьмі заліешся.
Горы капаўшы — сядзеш сапачынеш,
А з нялюбым шлюб узяўшы — навекі загінеш.

Да ў полі, полі цэркаўка стаяла,
Там дзяўчына із нялюбым шлюб брала.
З нялюбым шлюб брала, сама сабе сказала:
— Лепей у таткі круты горы капаці,
Як з нялюбым шлюб браці.
Я горы капаўшы — сяду сабе адпачыну,
А з нялюбым жыўшы — навекі загіну.
Лепей у таткі горкую рэдзьку есці,

Як з нялюбым за столікам сесці.
Лепей у таткі горкую рэдзьку кроіць,
Як з нялюбым верныя словы мовіць.

Ой, у полі крыніцы стаялі,
Там валы ваду п'юць,
Маладую дзяўчыначку
Пад вянец вядуць.
Яна стала, заплакала:
— Няпраўда ваша!
Ой, у полі крыніцы стаялі,
Там валы ваду п'юць,
Маладую дзяўчыначку
Кругом прастола вядуць.
Яна стала, заплакала:
— Няпраўда ваша!
Ой, у полі крыніцы стаялі,
Там валы ваду п'юць,
Маладой дзяўчыначцы
Ручніком рукі звязалі.
Яна стала, заплакала:
— Праўда ваша!

Капаў жа я крынічаньку,
Капаў жа і дзве,
Сватаў жа я дзяўчыначку
Людзям — не сабе.
За рэчкаю да за быстраю
Ў цымбалікі б'юць,
Да ўжэ ж маю любезную
Да шлюбу вядуць.
Як прывялі ў цэркаўку,
Ён кажа: — Мая.
Яна яму адказвае:
— Ой, няпраўда твая.
Паставілі на каберцы.
Ён кажа: — Мая.
Яна яму адказвае:
— Ой, няпраўда твая.
Як звязаў ім поп ручанькі,
Ён кажа: — Мая.

Яна яму адказвае:
— Ўся праўда твая.
Адзін дзяржыць за ручаньку,
А другі за рукаў,
Трэці стаіць, слёзы роніць,
Што шлюбу да не ўзяў.

Выкапаў калодзец на сваём двара,
Ці не прыйдзе дзяўчынанька па ваду ка мне?
Усё ж ў майму калодцу і крук, і вядро,
А маёй дзяўчыначкі даўно не відно.
Ужо ж ў майму калодцу арлы воду п'юць,
А маю дзяўчыначку да шлюбу вядуць.
Адзін вядзе за ручаньку, другі за рукаў,
А трэці стаіць — сэрца баліць:
Любіў да й не ўзяў.
Да ўжо ж папу ручнік сцелюць,
Ён кажа: — Ты мая.
Яна стала, адказала: — Няпраўда твая.
Да ўжо ж поп рукі вяжа,
Ён кажа: — Ты мая.
Яна стала, заплакала: — Горкая доля мая.

Ой, гула пчолачка, гула
Па барочку да лятаючы,
Да пчолачак да шукаючы.
— Ой, божа мой, божа, спазнілася,
Ад пчолачак адбілася,
К чужым прылучылася.
Заплакала маладая дзевачка
З ручніка саступаючы,
Да дзевачак да шукаючы.
— Ой, божа мой, божа, спазнілася,
Ад дзевачак адбілася,
К чужым прылучылася.
Будзе мяне маці чакаці,
Па дарожках шукаці.
— Чаму ж мая дачушка ка мне не прыйшла,
Мусіць, другу хатачку сабе знайшла.

Загула, загула пчолка
Па бару да лятаючы.
Па бару да лятаючы,
Пчолачак да шукаючы.
— А божа ж мой мілюсенькі,
Я ў бары спазнілася.
Я ў бары спазнілася,
Ад пчолачак адбілася.
Ад пчолачак адбілася,
Да чмяля прылучылася.
Заплакала млода Галечка
Із шлюбу да прыехаўшы.
Із шлюбу да прыехаўшы,
Перад мамкаю стаўшы.
— А божа ж мой мілюсенькі,
Я ў цэркаўцы спазнілася.
Я ў цэркаўцы спазнілася,
Ад дзевачак адлучылася.
Ад дзевачак адлучылася,
Да к Мішачку прылучылася.
К чужому чужаніцу,
К вечнаму дружаніцу.

Не ўцяшайцесь, варогі,
Не пераходзьце дарогі.
Няхай пяройдзе радзіна,
Штоб было ў дарозе шчасліва.
Шчаслівa, шчаслівa дзевачка,
Каралямі цэркву красіла,
А чырвонцамі яе слала,
З маладым Васілём стаяла,
Залатыя пярсцёнкі мяняла.
— Да на ж табе персцень мой,
Ты будзеш мая, а я твой.

Шчаслівa, Агапка, шчаслівa,
Талярамі цэркаўку масціла.
Чырвоным сукном пакрыла,
Залатымі гваздзямі прыбіла.
Мы ў той цэркаўцы стаялі,

Залатыя пярсцёнкі мянялі.
А ці цот, ці лішка — два арэшкі.
Абодва арэшкі поўненькі,
Мы з табой, Агапка, роўненькі.

Зрана Пётра-сокал падняўся,
За галубкай Машай ганяўся.
Высока, высока ляцелі,
На царкву божую глядзелі...
Яны ў царкву зляцелі,
А тут ім вянкі надзелі,
Вінца із коўшыка далі
І навекі друг з дружкай звязалі.
— Сыпце, сыпце зярняткі,
Штоб і ў полі было густа,
І ў пунях, і ў клецях не пуста.

Вінаград расцвітаець,
А ягада паспяваець.
Вінаград — у садочку,
А ягада — у барочку.
Вінаград — Паўлутушка,
А ягада — Ганутушка.
Аб ім людзі дзівуваліся,
Што добра павянчаліся.
— Не дзівуйцеся, людзі,
Самі сябе не пазорце вы:
А мы змалку сазналіся,
А выраслі — савянчаліся.

Нашы пчоланькі параіліся,
Дай ім, божа, сад добры.
Нашы маладыя пажаніліся,
Дай ім, божа, век доўгі,
Каб яны пілі, елі,
Ды хораша гаварылі.

Здарова, маладая, звянчаўшыся,
Дай божа здароўя яе ойчаньку,
Дай божа здароўя яе мамачцы,
Дай божа здароўя яе брацейку,
Дай божа здароўя яе сястрыцы,
Дай божа здароўя яе ўсім радненькім.

Наша Хадоска маленька,
Устала яна раненька.
Вымыла сенечкі зарою,
Паспела к цэркаўцы парою.
Прыбрала галоўку — ўся ззяець,
Ніхто яе, маладу, не знаець.
Адзін Міхалка ўвазнаў,
За белую ручаньку дзяржаў.
За белую ручаньку падзяржаў,
Пад вянцом пастаяў,
Залаты пярсцёнак памяняў,
З ручкі на ручку надзяваў.

Зялёная ружа ў агародзе расла,
Як яе не шчыпалі,
А як яе шчыпалі, вяршок зламалі,
То да кораня звяла.
Млода дзяўчына вясёла была,
Як яе не вянчалі,
А як яе звянчалі, ручкі звязалі,
Ўсім пакорная стаяла.

Ганутка верушкі не малась,
Ці мой, ці не мой Паўлутка.
Тагды ёй верушкі нялося,
Як за ручанькі ўзяліся,
На адной дошчачцы стаялі,
Аднаму богу прысягалі,
Адзін золат хрост цалавалі,
І на персні памяняліся,
І з адной чашачкі віно пілі.

21. Зак. 555

# ПАСЛЯ ВЯНЧАННЯ

Ой, попе, попе, айцец наш,
Адчыні цэркаўку проці нас,
Звянчай дзетунькі ў божы час.
Да вянчай, вянчай, да не даражы.
Да вянчай, вянчай, да не даражы,
Калі даюць рубля, то й бяры,
Калі даюць другі — шлюб вядзі.
Да давалі рубля, то й не ўзяў,
Палажылі чырванца, дык прыняў,
Маладым дзетунькам шлюб аддаў.

Шуміць, стогне зялёная дуброва.
Ідуць, ідуць два янгалы да бога,
Нясуць, нясуць шчасце ў рукаве,
Дадуць, дадуць маладой Любачцы на дварэ.
Ой, папове дарагія,
Не хацелі Любачкі вянчаці.
Да клалі тры рублі — не ўзялі,
Палажылі чырванца — прынялі.
Тагды нашу Любачку звянчалі
Да за яснымі свячамі,
Да перад жаласлівымі папамі.

Ой, попе, попе-папухна,
Штоб табе чэрава папухла.
А мы папа да ашукалі,
Нямнога за вянец далі:
А мы далі да паўзалатога
За Іваначку маладога.
Толькі далі саракавачку
За Любачку маладзёначку.
Яшчэ далі да трасок жменю,
А ён згарнуў да ў кішэню.

Абманулі попа,
Як дурнога хлопа.
Далі яму сырмяжачку —
Думаў, што шыляжачку.
Далі яму чатыры грошы
Да за дзетак харошых.

Мы ашукалі попа,
Як свінскага хлопа.
Мы мала за вянец далі:
За дзевачку — сараковачку,
За жаніха маладога — паўзалатога.

Абманулі попа,
Як малога хлопа,
Што ён мала ўзяў,
Што ён нас звянчаў.

Абманулі мы папа,
Як грачанага снапа.
Далі пяску жменю,
Ён узяў ў кішэню.
Думаў, што чырвонцы,
Панёс сваёй жонцы.

Ой, падманулі попа,
Як ячнага снопа.
Ён думаў, што рублішча,
А яму далі траячышча.

Абманулі попа,
Як простага хлопа.
А мы ліпы накраялі,
Поп думаў, ета даляры.

Абманулі попа,
Як малога хлопа.
Далі яму бумажачку,

А ён думаў — шаляжачку.
Далі яму рубель медны,
А ён думаў — рубель срэбны.
Далі яму тры грошы,
Да задужа харошы.

Абманілі папа, абманілі —
Брата з сястрой ажанілі
Салгалі папу, салгалі —
Брата з сястрой звянчалі.

Хвала табе, божа,
Што мы раненька ўсталі.
Што мы раненька ўсталі,
Папа дома засталі.
Папа дома засталі,
Двое дзетак звянчалі:
Адно дзіця раджонае,
Другое — суджонае.
Ванечку сам бог радзіў,
Марыську яму судзіў.

Мы папа ашукалі,
Дзёшава шлюб узялі.
А не ў папа мы былі,
А мы былі ў бога.
А мы былі ў бога
Да ў духа святога.
Да маліся богу
Да і духу святому.

Да былі ж мы ў бога,
Да ў духа святога,
Да ў папа маладога.
Да хвала ж табе, божа,
Што мы папа ашукалі,
Нядорага за шлюб далі:

За нашу панначку
Чырванцоў талерачку,
За свайго маладога
Паўтара залатога.

— Ці дорага за шлюб далі,
Ці дорага за шлюб далі?
— Паўтара залатога
І коніка варанога.
І коніка варанога,
І дзяцінку маладога.

Ашукалі папа, ашукалі,*
За капеечку звянчалі.
Не за капеечку, дык за грош,
Каб наш Мішулька быў харош.

Не дзівуйце нам, людзі,
Што мы доўга ў шлюбу былі.
Поп нам ручкі звязаў,
Нямнога за шлюб узяў:
Ано паўтара залатога
Ад нашага Васілька маладога,
Ано дзве паўзалотачкі
За нашы сіротачкі.

Да ў бога мы былі
І ў духа святога.
Нас ксёндз звянчаў,
Да нядорага ўзяў:
Паўтара залатога
Ад князя маладога,
Паўтары да капеечкі
Ад нашай да княгінечкі.

---

* Два першыя радкі паўтараюцца.

Былі мы ў шлюбу
У божаму дому.
Нас поп вянчаў,
Нядорага ўзяў:
Чатыры залатых
За нашых маладых.

Як мы ехалі да вянца,
Тады нам, маладым, гразілі.
Казалі — горы высокі,
Казалі — моры глыбокі,
Казалі — слупы медзяныя,
Казалі — папы дарагія.
Мы ж тыя горы скапалі,
Мы тыя моры спушчалі,
Мы тыя слупы аб'язджалі,
Дарагіх папоў ашукалі,
За дзесяць рублёў [шлюб далі],
Мы сваіх маладых звянчалі.
Звянчалі маладых, звянчалі,
Шоўкам ручачкі звязалі.
А ні ручкам развязаць,
А ні ножыкам разрэзаць,—
Так нашым маладым век векаваць.

Казалі нам людзі,
Што нявенчаны будзем.
Як жа мы прыпалі,
Так жа нас борза звянчалі.
Ой, табе, ойчанька,
Дзіва дзіваваць,
А нам, маладзенькім, скакаць.
Ой, табе, ойчанька, спасенне,
А нам, маладзенькім, вяселле.
Ой, да падзякуйма богу
І морацкаму папу,
Што нашы дзетушкі звянчаў:
Адно радзонае,
Другое судзонае.

Як мы ў дарогу ўбіраліся,
Нам гаварылі,
Што там горы высокі,
І моры глыбокі,
І златыя стаўбы.
А мы высокія горы пераехалі,
Глыбокія моры параплылі,
Златыя стаўбы паламалі
І сваіх маладых звянчалі.

Маладзец, Сідарка, маладзец,
Нядорага заплаціў за вянец:
За сябе, малайца,— чырванца,
За сваю Домначку — шчоту няма.

Знаць, іх поп не звянчаў,
Што малады мала грошы даў:
За сваю дружыну — палціну,
А за сябе, малайца,— чырванца,
А за сваю княгіню — сто рублей,
Што яна ў яго наймілей.

Мы былі ў папа-дзеруна
Да мы бачылі пятуха-каплуна.
Нас поп звянчаў, небагата ўзяў.
Небагата ўзяў за русую касу,
За русую касу, за дзявоцку пакрасу.

Падзякуймо папові
І паповаму дзякові,
Што дзеткаў звянчаў
І нямножка ўзяў:
За русу косу прынімаў.

Да падзякуймо ксяндзу
І яснаму сонцу,
Што нашы дзеткі звянчаў,

Нямнога вянцоў узяў:
Ано толька паўзалатога
Ад князя маладога.

Спасіба папу і паповічу,
Што скоранька звянчаў,
Нямножка дзяржаў.
А мы падманілі:
Тры дзенежкі далі,
Аксютку звянчалі.

А спасіба папам і дзякам,
Што пару дзяцей звянчалі
Да нядарага пабралі:
За нашага малойца — чырвонца,
За русу касу — тысячу.

Спасіба табе, попенька,
За русую косаньку,
Што нямножка ўзяў
Да харашо звянчаў:
Паўтара залатога
За князя маладога,
За русую касу,
За дзявічую красу.

Да й падзякуймо богу
І ражанскаму бацюшку,
Што скора дзеці звянчаў
І нядорага за вянца ўзяў:
За вашага да маладога —
Паўтара залатога,
За нашую паненачку —
Тры грошы на метачку.

Да падзякуймо богу,
Верасніцкаму попу,
Што нашыя дзеткі звянчаў,
Нядорага за вянец узяў:
За двое малодзенькія —
Да чатыры залоценькія:
Перша кветка — то ж Іванька,*
Друга кветка — то ж Аксенька.

Дзякуймо папанькові,
Нашаму бацянькові,
Што нас звянчаў,
Нямнога ўзяў:
Паўпята залатога
Ад нашага маладога
І літоўскую капу
За дзявоцкую касу.

Не дзякуем попу,
Дзякуем паповічу,—
Нямнога ўзяў,
Хутка звянчаў.
Да ўзяў руб залатога
З нашага маладога.
Падзякуем попаньку —
Нямнога ўзяў — копаньку
За дзявочыну косаньку.

Былі мы ў бога,
У духа святога,
Ў папа маладога;
У краі, ў краёчку,
Ў папа на дварочку.

* Пасля гэтага і наступнага радка паўтараецца шэсць першых радкоў.

Схілілася верба,
З верху ды да караня.
Вянчаўся дзяцінка
З рання ды да вечара.
Вянчаў дзевачку адзін поп,
Узяў за яе восем коп.
Вянчалі дзевачку чатыры папы
Да ўзялі за яе чатыры капы.

Ой, попе-папухна,
Штоб табе чаравішча папухла,
Як ты нас да вечара дзяржаў,
За вянец многа грошай узяў.

Мысяюха наш поп, мысяюха,
Што не зняў у свата кажуха.
Каб яшчэ трошку падзяржаў,
Дык бы кажуха ізняў.

Ай, попе, попе-псяюха,
Ай, чуць не садраў кажуха.
Ай, каб мы больш стаялі,
Садралі б у нас саяны.

Наш папуня авёс тоўк, авёс тоўк,
Пад паліцай з маладзіцай авёс тоўк.
Барада ў муцэ, качарга ў руцэ, авёс тоўк.

Стаіць царква склята,
Із бліноў злята.
А ў той царкві
Стаіць поп
З грэцкі сноп.
Поп смаркач,
Нос з таўкач.

Ляцелі павукі з навукі,
Кінулі картачку на рукі.
Да кінулі картачку сінюю,
Павянчалі Марусеньку сілаю.
Ой, сілаю, не сілаю, ой, за грошы,
Абы яе Коленька да быў харошы.

А з гары, з гары, з-за даліны
Беглі конікі чатыры.
А ўсе чатыры сівыя.
Вязлі карэту сінюю,
Вянчалі Мар'янку сільную.
А ці дарма ж яе вянчалі?
Вянчалі яе за грошы,
Што яе Данілка харошы.
І харош, і прыгож, і вялік —
[Не] прывёз Мар'янцы чаравік.
— Не ўмееш, Мар'янка, насіці.
— Ужо ж табе, Данілка, не ўчыці:
Хоць казловыя прывязі,
Буду хадзіць па гразі.

А з гары, з гары, з даліны
Беглі конікі чатыры,
А ўсе чатыры сівыя,
Звянчалі маладу сілаю.
Не так сілаю — за грошы,
Што яе маладзец харошы.
І харош, і красіў
Купіў ёй чаравікі, паднасіў,
А яна ім уцяшалася,
Нізка ў ножкі укланялася.

З гары, з гары, з крутыя
Беглі конікі сівыя,
Везлі карэту сінюю,
Вянчалі Антольку сілаю.
А за што яе вянчалі?
Вянчалі яе за грошы,

Што яе Іванька харошы.
І харошы, і прыгожы, і вялік,
Чаму не купіў ей чаравік?
— А купіў бы я панчошкі,
Да няма грошы ні трошкі.
Купіў бы я чаравічкі,
Да яе ножкі невялічкі.

З гары, з гары, з даліны
Беглі конікі чатыры,
Вязлі карэту сінюю,
Звянчалі дзевачку сілаю.
Хоць не сілаю — за грошы,
Што яе сужанька харошы:
А не к торгу без грошы,
А не з торгу без пірагоў.
К торгу едуць з грашамі,
А з торгу едуць з пірагамі.

А з гары, з гары, з даліны *
Беглі конікі чатыры,
Вязлі карэту сінюю,
Звянчалі Ніначку сілаю.
Не так сілаю — за грошы,
Што яе Васечка харошы.
Пытаецца ў Ніначкі, што купіць:
— А ці мёд, ці віно, ці гарэлку,
Ці пярловы венчык на галоўку?
— Ні мёд, ні віно, ні гарэлку,
Купі ж ты мне венчык на галоўку.

А з гары, з гары, з даліны
Беглі конікі чатыры,
Везлі карэту сінюю,
Вянчалі Ніначку сілаю.
Не так сілаю — за грошы,

* Кожны радок паўтараецца.

Што яе Іванка харошы:
Шапка новая, патыліца голая,
І то гэта не яго —
Ён пазычыў у таварыша свайго.
Боты новыя, пяты голыя,
І то гэта не яго:
Ён пазычыў у таварыша сваяго.

Што з гары, з гары, з даліны
Беглі конікі чатыры,
Вязлі карэту сінюю,
Вянчалі Волечку сілаю.
Да яе вянчалі не дарам —
Яе вянчалі за грошы.
Яе вянчалі за грошы,
Штоб яе быў жанішок харошы.
Ён харош і прыгож, конь яго вараны.
Конь яго вараны
Па чатыры ножкі ў золаце.
Чатыры ножкі ў золаце,
Пятая грывачка ў серабрэ.

А з гары, з гары, з даліны *
Беглі конікі чатыры,
Вязлі карэту сінюю,
Звянчалі Маланку сілаю.
Вянчалі яе чатыры папы,
Ўзялі за яе чатыры капы.
Вянчаў жа яе меські поп,
А ўзяў за яе дзесяць коп.

Ехала дзеўка з Крычава —
У яе валасы склычаны.
Ні ў полі стаці — часаці,
Ні на лаўцы сесці — заплесці:
У полі часаці — вятры дзьмуць,
На лаўцы плесці — сваты йдуць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Ехала Рыпіна з Крычава,*
Яе галоўка ўсклычана.
А гдзе ей ўстацi расчасацi?
А цi ў бацюшкі за сталом,
А цi ў свёкара на дварэ?
Чым у бацюшкі за сталом,
Лучша ў свёкара на дварэ.

Гаі развіваюць,
Сады расцвітаюць,
Нам поле радуе,
Нам сяло дзівуе:
Малады Ясенько
З шлюбаньку едзе.

Не дудкі граюць — цымбалы,
Не дзеўку вязуць — цыганаў.
А той жа цыган — Іванька.
А тая ж цыганка — Гануська.
Цыганы чарненькі,
А яны ж бяленькі.

Ехаў Валодзька лукою,
Абняў дзевачку рукою.
— Да чаго мая ручка дажыла,
Красну дзевачку абняла.

Ехаў Марцінка ракою,
Абняў Кацярынку рукою:
— Сядзі, мая Кацярынка, не дрыжы,
Я твой Марцінка — не чужы.
Прашу цябе, коніку, падбесці,
Дам табе аброку пад'есці.
— Добра табе, Марцінка, ехаці,
Якаво мне, коніку, бегаці.

* Кожны радок паўтараецца.

Добра табе, Марцінка, пад'язджаць,
Што ты будзеш у сцілка начаваць
Да й за новаю скамнёю,
З Кацярынкаю сваёю.

Ой, на тым боцы дажджы, дажджы,
На гэтым боцы не бывае,
Толькі кладачкі пасплывалі.
— Выходзьце, людзі, дзівіцеся,
Як едзе Іван жаніціся:
Сам едзе на konічку,
Дзержыць Мар'ю на лонечку;
Крые коніка нагайкаю,
Крые дзевачку кітайкаю,
Б'е коніка дубцом,
Крые дзевачку лубцом.

Як ляціць сіз голуб, зямля дрыжыць,
Ён вязець галубку пад крылышкам.
Як едзіць Лявон, зямля дрыжыць, колакал звоніць,
Ён вядзець Ганну пад ручаньку.

Да шлюбу ішлі, то хвалілі ўсе панята,
Ад шлюбу ішлі, дык смяяліся дзяўчата.
Да калі вы мне, мае сястрыцы, сказалі,
Як мне, маладой, стулой ручанькі звязалі.
Да звязаў нам ксёндз белыя ручкі стулою,
Да сказаў нам ксёндз шчыру праўдачку з табою.
Да й не дай, родна мамачка, ад сябе,
Перазімую я гэту зімачку у цябе.

— Явар, явар, яварове людзі,
Чаго вы стаіце
За мастом маленькім?
— Мы стаемо, мост падаемо.
— Прашу прапускаці,
А задняга застаўляці.

— Замастовы людзі,
Чаго тут стаіце?
— Мы тут стаемо,
Масты будуемо.
— Із чаго, чаго
Масты будуемо?
— З дрэва дубовага,
З лісту вішнёвага.
— Замастовы людзі,
Чы нас прапусціце?
— Ўсіх прапусцімо,
Адну заставімо:
Што ў красным вяночку,
Ў вышытай сарочцы.

Ай, рана, рана на зары,
Свіснуў Пятрок на кані,
Для перавозу стоячы,
Перавозчыка просячы:
— Перавозчык, пане мой,
Перавязі маю княгіню,
Я ж табе дарага заплачу:
За маю княгіню — палціну,
За мяне, малайца,— чырванца.
Мая княгіня лёгенька,
Шасцёрка коней прыстала,
Малявану карэту зламала.
Пад тую горку крутую,
Пад тую цэркаўку святую.
А ў той цэркаўцы — святы спас,
Звянчалі маладых ў адзін час.

А на Кляйніцкім гасцінцы
Хадзіла-блудзіла два галубы
Па каленцы ў золаце,
Па крыллейка ў аксаміце.
Ехала дзевачка да вянца,
Махнула хустаю на галубца.
— А на лугі, галубы, на лугі,
Не клюйце майго золата,
Гэта мне золата знадобіцца:

Сужанька конікі значыці,
Каб яго конь значан быў
Паміж сто каней вараных,
Паміж сто баяр маладых.

Ішла Таццянка з-пад вянца,
Сеяла зямчугу з рукаўца.
А наляцелі галубы
А з тэй жа дальняй стараны.
Сталі тую зямчугу клявацi,
Пайшла Таццянка ганяці:
— А шуш, галубы, на дубы,
Не клюйце маей зямчугі,
Мне гэта зямчуга надабі.
А надабі, надабі вянок віць,
А Якушовым конікам прышпіліць,
Каб яго конікі значны былі
Міжа сто канёў вараных,
Міжа сто князёў маладых.

Ехаў Міхалка ад вянца,
Зламіў вяршок з бярозкі,
Сячэ коніка пад ножкі.
— Бяжы, мой конік, хутчэй,
Таго ўзяў, каго я хацеў.

— А хто ў нас паночак?
— Іванька ў нас паночак.
— Ай, сядзь жа што на куце,
Пастаў ножкі на суножкі,
Госпада бога на галаве.
А прачыстая маць на грудзёх,
Штоб было лёгка ў гасцях.

Да кукавала раба зязюля су лесу, раненька,*
Да ехала млода Гэленька су венцу, раненька.
Масты масціла, каб не змачыцца, раненька.
Кужалі слала, каб не спыліцца, раненька.

---

* Кожны радок паўтараецца.

# ЧАКАННЕ І СУСТРЭЧА МАЛАДЫХ У ДОМЕ МАЛАДОЙ

Шаўковая нітачка к сцяне льне,
Матачка Агапкі з вянца жджэ.
— Няма майго дзіцяці дома,
Усё яго падвор'е уныла:
У дарозе краскі не цвітуць,
На дварэ галубы не гудуць.
У каморы дружкі не пяюць.
Калі маё дзіця прыбудзе,
У гародзе краскі зацвітуць,
На дварэ галубы загудуць,
У каморы дружкі запяюць.

А на сінім мору вална б'ець,
Матулька дзіцятка з вянца жджэць.
Ай, біўшы, вална прыб'ецца,
Матулька дзіця дажджэцца.

Манеччына матушка на вулачку выбягае,
На вулачку выбягае, к вулачцы прылягае:
— Ці не шуміць дубованька, ці не звініць калясачка,
Ці не едзе дзіця маё з божага дамочку,
З божага дамочку да з божага шлюбочку?

Дзевачкі, мае сястрыцы,
Ідзіце ў сад паслухайце,
Ці шуміць дубровачка,
Ці звініць дарожанька,
Ці не едзе дзіця маё,
У божым доме пабываўшы,
Пярсцёначкі памяняўшы.

Да што ж там да за дзіва, дзіва,
Нашых маладых з вянца няма.
Да ці па іх паслы слаці,
Да ці ім лісты пісаці?

— Матанька да галубанька,
Благаславі дарожаньку,
Я іду да шлюбаньку.
Матанька па двару ходзіць,
Ручанькі ломіць,
З богам гаворыць:
— Чы іх конікі забрана,
Чы іх не звянчана?
Як не звянчана,
То будзем прасіці,
А як конікі забрана,
То будзем плаціці.
Чы наша дзіцятка злюбілі,
Мёдам-віном спаілі,
А калачамі скармілі
А ў пярыны ўлажылі.

Як зачуеш, мой баценьку,
Мой галасок у полі,
Засцілай сталы дубовыя
Белымі абрусамі.
Ой, пасадзі сваю радзіманьку
Кала дубовага стала,
А я, маладзенька, буду кланяціся
Старому й малому
І бацянькові сваёму.

Сіва мала пташанька,
Рабая зазуленька,
Ой, палынь дарогаю
За нашаю маладою.
Занясі мацюнцы весці.
Няхай мацюнка чуе,
Няхай прыгатуе.

Няхай засцілае цісовы стол,
Няхай пакладзе пшанічны хлеб,
Няхай налівае зялёна віно,
Няхай спадзявае любых гасцей:
Госпада бога з анголамі,
Свайго дзіцяці з баярамі.

Ляці, ляці да, сакол сівы,
Да на мой двор шчаслівы,
Да накажы да маёй мамачцы,
Што я еду да ў парачцы.
Няхай яна спадзяваецца,
У шубанькі адзяваецца.
У шубанькі да навенькія —
Едуць дзеці маладзенькія.
У шубанькі вышываныя —
Едуць дзеці павянчаныя.

Да былі мы ў божаму дому,
Цяпер ідзём дадому:
Да стала цісовага,
Да хлеба пшанічнага,
Да віна зялёнага.

Заржалі коні ў зялёнай дуброве,
Зачула матанька ў новай каморы:
— Цішай, суседзі, да не гаманіце:
Недзе маё дзіцятка з вянчання едзе.
Стаялі ноч, пакуль звянчалі,
Другую стаялі — людзі не пазналі,
Ці то шляхцяначка, ці то мяшчаначка,
Што ў яе світа ў контры сшыта.

Едуць, едуць, скора будуць, божа мой.*
Недалёчка ад масточка.
Няхай знаюць, пераймаюць,

* Рэфрэн «Божа мой» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

Ой, століκі засцілаюць,
Шклянкі піва наліваюць,
Маладзенькі пераймаюць,
Гарэлачкай угашчаюць,
Затым «горка» крычаць.

Паглянь, матка, на аконца,
Едзе тваё дзіця, як сонца.
Паглянь, матка, у другое,
Едуць твае дзеткі абое.
Паглянь, матка, у трэцяе,
Ужэ тваё дзіця звенчана.

Коленька суседзяў папрасіў:
— Суседзі мае мілыя,
Суседзі мае мілыя,
Мяціце вуліцу з канца ў канец,
Паедзець Манечка пад вянец.
Колечка суседзяў папрасіў:
— Суседзі мае любыя,
Суседзі мае любыя,
Мяціце вуліцу з канца да канца,
Паедзець Манечка з-пад вянца.

Не меценая вуліца.
Бярыце, дзевачкі, венічкі,
Мяціце вуліцу да канца,
Будзе Леначка іціць
З-пад вянца.

Ой, мецена уланька з канца,
Ідзе наша дзеванька з вянца.
Ой, не так мецена — веяна,
Не так прыведзена — звенчана.

Мяцёна гулачка з канца,
Вязёна Матронка з вянца.
Мялі гулачку варабцы,
Везлі Матронку маладцы.
Мяцёна гулачка ўвесь канец,
Заплаціў Цімошка за вянец,
За нашу Матронку маладую,
За яе ўхводы рэзвыя,
За яе ўклоны нізкія.

Расчыняйце вароты шырока,
Прыехалі госці здалёка.
Расчыняйце вароты да канца,
Прыехалі госці ад вянца.

— Адчыні, маці, вароты цісовыя,
Мы ўжо тваю дачку звянчалі.
Маці вароты адкрывала,
Сваю дачку сустракала
І ўсё ўспамінала:
— Як мне быць, мая дочка, без цябе?
Мае дзеткі, мяне не забывайце,
А мае дзверы часценька адчыняйце.
Прыкажы ты мне, маё дзіцятка,
Як мне твае цвяты паліваць.
Я буду хадзіць па садочку
І цябе ўспамінаць.

— Большы братачка Пятро,
Адчыняй вароты да канца —
Едзе твая сястрыца Варвара ад вянца.
Выпусціла ручачку, сыпле золацечка з рукаўца:
— Бела мая ручачка у атца.
Ці будзе бела ў добра маладца?

Прыехала дзевачка з вянца,
Павымала белыя ручкі з рукаўца:
— Белы мае ручкі у маткі,

Да чы будуць белы у свякраткі,
Рана-раненька ўстаючы,
Цяжкае дзела робячы?

— А большы братка Антонка,
Адчыняй вароты да канца:
Вядуць сястрычку ад вянца.
— Ці ўгадаеш жа ты, маці,
Свайго дзіцяці?
— Як жа я не ўгадаю:
Коска за плячамі,
А слёзкі пад вачамі.

— А ты, хлопчык, большы брат,
Адчыні варотцы да канца:
Едзе твая сястрыца з-пад вянца.
Да стаяла пад вянцом з малайцом
І часала косачку грабянцом,
Прымачывала расою,
Усё дзявоцкаю красою.
Упаў грабянец пад сталец.
— Падымі, Пятрочык, грабянец.
— Што я табе, Варачка, за маладзец.

— Выйдзі, мамачка, на двор,
Паглядзі, мамачка, на бор.
Убачыла мамачка бярозу.
— Тая бяроза сечаная,
Мая донечка венчаная.
Сечана бяроза тапарком,
Звянчалі дзевачку з малайцом.

Ой, ссечана каліналька, ссечана,
Да ўжо наша дзеванька звенчана.
Да пад царскім вянцом стаяла,
Да русую косаньку часала.
Да ўпаў грабянец пад сталец.
— Да падай, жаніх, грабянца
Расчасаць косаньку ад вянца.

Вылецела сарока з-пад крыльца,
Ехала Галечка з-пад вянца,
Згубіла з галоўкі грабянца.
— Ды падай, Сяргейка, грабянец.
— Я ж табе, Галечка, не служэц.
Ці ў цябе дружачкі няма,
Штоб я табе падаваў грабянца.
Няхай яны русу косу расплятуць,
Няхай яны грабянец пададуць.

Прыехала Хадоска з-пад вянца,
Зашукалася грабянца.
— А й дзе мой грабянец-касцянец,
І дзе мой Іванька-маладзец?
— У сцяне грабянец-касцянец,
Ля боку Іванька-маладзец.

Ад вянца забыліся грабянца.
Упаў грабянец пад сталец.
— Паднімі ж, Любачка, грабянец.
Не сядзі, Любачка, паднімі,
На мяне, маладога, паглядзі.
Мо цябе цясноўцы абманілі
Ды старога дзядзечку пасадзілі.

Закавала зязюля з выраю лецячы —
Да яе пташачкі выраё пазналі.
Заплакала Манечка з вянца ідучы —
То ж яе дзевачкі да вянца пазналі,
На белым ручнічку з Мікалайкам стаяла,
Залатыя пярсцёнкі з ім памяняла.

Як беглі конікі, так беглі
З-пад тае горанькі крутое,
З-пад тае цэркаўкі святое.
А ў той цэркаўцы гасподзь спас.

— Ой, выйдзі, мацінко, ўпярод нас.
Ой, выйдзі, мацінко, з свячамі,
Ўжо твае дзіцяткі звянчаны
Да табе на ўцеху прымчаны.

— Ой вы, злыя варогі,
Не перахадзіце дарогі!
Няхай пярэйдзіць госпадзь бог,
А мой баценька са свячамі.
— Мы тваё дзіцятка звянчалі,
На падвор'ечка прымчалі.

Звянчалі Хадорачку, звянчалі
Да й дадоманьку памчалі.
Звянчона калінка, звянчона,—
Ужо наша Хадоранька абручона.
Звянчоны дубочак, звянчоны,—
Ужо наш Павэлачка абручоны.

Выйдзі, матухна, проці нас,
Прывітай чарачкай усіх нас.
Тая чарачка поўненька,
А Валечка з Ванечкам роўненька.

Выйдзі, пабач, мая мамачка,*
Што ў цябе да за зяцейка.
А высокі, як дубочак,
А харошы, як паночак.
Яшчэ вышэйшы да за дубочка,
Яшчэ харашэй да за паночка.

Выходзь, мамачка, са свячамі,
Мы тваю доньку звянчалі.
Звянчалі яе не дарма —
Звянчалі яе за грошы,
Каб Мацвеечка быў харошы.

* Кожны няцотны радок паўтараецца.

— Выйдзі, баценька, з свячамі,
Ужо тваё дзіцятка звянчалі,
Да цябе на забаву прымчалі.
— Каму забава, а мне жаль:
Гадаваў дзіцятка — зяць узяў,
За гадаваннечка шапку зняў.

Падмяцёна наша вулічка з канца,
Вядзёна наша маладая з вянца.
— Ой, выйдзі, пані-ойча, з свячою,
Ой, прымі, прымі сваё дзіцятка звянчона.
— Альбо выйду, альбо не выйду з свячою,
Альбо прыйму, альбо не прыйму дзіцятка звянчона.

Да выйдзі, выйдзі, мамачка, з хлебам,
Да прыехалі дзетачкі з дзедам.
Да выйдзі, выйдзі, мамачка, з свячамі,
Да тваё дзіця звянчалі.
Выйдзі, выйдзі, мамачка, з калачом,
Бо я еду з панічом.
З тым панічом, што і ўчора быў
І што мяне абманіў.

Выйдзі, маці, з хаты дзіцеця вітаці,
Сваяго дзіцеця, нарачонага зяця.
Учора быў нарачоны,
А дзісь ужо звянчоны.
Выйдзі, маці, з каморы,
Прывітай сваё дзіця з дарогі.

Выйдзі, выйдзі, бацenька, з свячамі,
Ужо тваё дзіцятка звянчалі.
На белым ручнічку стаяла,
Жоўтую свечаньку трымала,
Як боб слёзанькі раняла,
Пана бога доленькі прасіла:
— О дай жа, божа, доленьку
І шчаслівую гадзіну.

Выйдзі, мамачка, з свячамі,
Мы тваё дзіцятка звянчалі
За галоснымі званамі,
За яснымі свячамі.
Старыя папы вянчалі,
Маладыя дзякі спявалі.
Нам поп ручкі звязаў,
Усю праўду сказаў.
Шаўковым платочкам
Да з чужым сыночкам.

Выйдзі, татачка, з калачом,
Ужо тваё дзіцятка з панічом.
Выйдзі, татачка, з свячамі,
Ужо тваё дзіцятка звянчалі.
Звянчалі маладых, звянчалі,
Шоўкам ручачкі звязалі.
Не разрэзаць, не развязаць,
Так нашым маладым век векаваць.

Выйдзі, выйдзі, бацюхна, з баханцом,
Бо прыехала тваё дзіцятка з малайцом.
Ды выйдзі, выйдзі, бацюхна, з ключамі,
Бо ўжо ж тваё дзіцятка звянчалі.
Да выйдзі, выйдзі, бацюхна, з другімі.
Бо ўжо ж тваё дзіцятка здружылі.

Выйдзі, выйдзі, матанька, з міскай,
Звянчалі дзіцятка з лыскай.
Выйдзі, выйдзі, матанька, з мёдам,
Звянчалі дзіцятка з мядзведзем.
Выйдзі, выйдзі, матанька, з акрайцам,
Звянчалі дзіцятка з зайцам.
Выйдзі, выйдзі, матанька, з пірагом,
Звянчалі дзіцятка з каралём.
Звянчалі, скруцілі,
Накрыж ручкі злажылі.

Зажжы, матачка, свечку,
Прыйдзі насустрэчку.
Сустрэнь сваё дзіця
З ціхімі анёламі,
З нізкімі уклонамі.

Зажыгай, маці, свечу,
Ды йдзі насустрэчу.
А ўжо ж твая Адарка
Звянчаўшысь стаіць
Ды свайго Іваначку
За ручку дзяржыць.

Зажжы, маці, свечку,
Выйдзі наўстрэчку.
Устрэць сваю чаду:
Первую — суджоную,
Другую — раджоную.
Матка свечкі іскала,
Траякае зелле рвала,
Дочку сустракала:
Сустрэла сваё дзіця
Да ў цвятным вяночку.

Запалі, матка, свечку,
Выйдзі насустрэчку
Ды сустрэнь двое дзетак,
Дзетак-аднaлетак:
У адно лета радзіліся,
У другое хрысціліся,
У трэцяе спадабаліся,
У чацвёртае павянчаліся.

Запалі, матуленька, свечку,
Выйдзі насустрэчку,
Прымі дваіх дзетак,
Дваіх аднaлетак.

Яны ж то будуць старацца,
Штоб табе, мамухна, спадабацца.
А ты, мамухна, іх вучы,
Штоб добра было жывучы.

— А запалі, бацька, свечку,
Выйдзі насустрэчку,
Сустрэнь пара людзей,
Сваіх родных дзяцей:
Адно — раджонае,
А другое — суджонае.
Запаліў бацька свечку,
Выйшаў насустрэчку.
Сустрэў пара людзей,
Сваіх родных дзяцей:
Адно — раджонае,
А другое — суджонае.
Радожнае ў нагах пала,
Суджонае ля яго стала.

Да наехала князёў,
Што з воза не злазяць.
Запалі, матка, свечку
Да выйдзі насустрэчку.
Да сустрэнь двое дзетак,
Двое дзетак-адналетак:
Дзевачку бог радзіў
Да хлопчыка ёй прысудзіў.

Да ў нядзелю ўвечара,
Што за іскарка ўпала?
Што за іскарка ўпала? —
Кацярынка заплакала:
— Да, матулька родная,
Да выйдзі на ганачак.
Да выйдзі на ганачак,
Рассцялі кітаячак.
Рассцялі кітаячак,
Благаславі нас, маладых.

— Да Кацярынка-дзіцятка,
Рада цябе благаславіць.
Рада цябе благаславіць,
Рада й табе долю даці.

— Стрэнь, татка, мяне,
Стрэнь, родны, мяне
Доляю шчасліваю.
— А твая доля перад вачыма,
Косачка за плячыма.

Вярні, маці, шубу,
Едуць дзеці з шлюбу:
Адно — раджонае,
Другое — прысуджонае.
Раджонае пяром піша,
Прысуджонае ледзьве дыша.

Да выйшла маці
Да дзяцей страчаці,
Да надзела кажух
Да хоча спужаці.
Зяць таго не дбае,
Блізка ступае.
Зяць таго не баіцца,
Блізка станавіцца.

Стань, мая мамачка, ў парозе,
Я ж табе на ножкі ўпаду,
Косачкамі зямельку ўсцялю,
Слёзкамі ножкі табе абаллю.
А твае ножкі беленькія,
Да смерці будуць міленькія.
Да мамачка, прыступіся ка мне,
Я цяпер, мамачка, не твая.
Я таго дзядзі, што шлюбачку брала,
Да й у цэркві стаяла,
Накрыж ручкі дзяржала
Да богу прысягала.

Мая мамачка-вутка,
Чаму не выходзіш хутка,
Чаму мяне не вітаеш,
Чаму мяне не пытаеш,
З кім я шлюб брала,
На ручнічку стаяла?
Ці з двара з дваранінам,
Ці з месца з мешчанінам,
Ці з гаспадарнім сынам?

Прыехала дзевачка з-пад вянца.
Да яе мамачка пытаецца:
— З кім, маё дзіцятка, шлюб брала?
— Не пытай, мамачка, у мяне,
А папытай у дружачкі мае.
Каля мяне дружачка стаяла,
Як я маладая шлюб брала
З тым чалавечкам, што ўчора быў,
Ён мяне, маладую, палюбіў.

Выйдзі, мая матачка, з свячамі,
Ўжо тваё дзіцятко звянчалі
З тым госцікам, што ўчора быў,
Ён тваё дзіцятко палюбіў.
Палюбіліся да з поўначы,
Павянчаліся да пры свячы.
Палюбіліся ў карчомцы,
Павянчаліся ў царкоўцы.

— Выйдзі, выйдзі, мамачка, з свячамі,
Ужо тваё дзіцятка звянчалі
І з тым чалавекам, што ўчора быў,
Ён тваё дзіцятка да й палюбіў.
З правай ручкі персцень зняў,
Ён твайму дзіцятку да й падараваў:
— Насі, насі, дзевачка, здарова,
Гэта табе, дзевачка, ад бога.
Насі, насі, дзевачка, персцень мой,
Я, маладзенькі,— вечны твой.

— Выйдзі, мамачка, са свячамі,
Ужо тваю дачку Ліксандру звянчалі
З тым казачэнькам, што ўчора быў,
Ды твае дзіцятка палюбіў,
Ды чырвоную хустачку падарыў.
У тваёй донькі персцень узяў
Ды панёс мамцы напаказ:
— Вот то, мамка, персцянёчак,
Тваёй нявехны значочак.

— Выйдзі, выйдзі, мая матка, з свячамі,
Мы твае дзіцятка звянчалі
Да з тым чалавекам, што ўчора быў,
А сягоння рана прыехаў.
А сягоння рана прыехаў,
Прывёз гасцінцы — арэхаў.
— Да не бяры ж, Кацярынка, арэхаў.
Бо тыя цябе арэшкі спадманяць,
Ад роднай матухны адманяць
Да к лютаму свекарку прыманяць.

Выйдзі, выйдзі, мамачка, з свячамі,*
Ужо ж твае дзіцятка звянчалі
Да з тым панічом, што ўчора быў,
Ён яе, маладую, палюбіў
Да салодкім віном напаіў,
Вінным яблычкам угасціў.
Да салодкім віном на каню,
Да вінным яблычкам у саду.

Выйдзі, выйдзі, мамачка, з свячамі,
Бо ўжо твае дзіцятачка звянчалі
З тым чалавечкам, што ўчора ў вас быў,
За цісовым столікам мёд-віно піў.
У яго чарачцы залатое дзенца,
А ў твайго зяця залатое сэрца.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Прыехала дзіця з вянца,
З вялікай дарожачкі,
Упала мамцы на ножачкі:
— Ох, мамачка, мая родная,
З кім жа я звянчалася —
Што ніколі не зналася?
З кім жа я заручылася —
Што ніколі не дружылася?

Прыехала Валечка з дарогі,
Як упала мамачцы на ногі:
— Непраўдзівы, мамачка, Лёнечка.
Ён мяне, маладзенькую, спадмануў:—
«Едзьма, Валечка, ў божы дом,
Райскіх пташачак да паглядзём».
Скора мы ў божы дом увайшлі,
Райскіх пташачак там няма,
Толькі там папы ды дзякі.
Як сталі папы чытаці,
У Валечкі праўды пытаці:
— Да ў любові, Валечка, да ў любові,
Да жывіце хараша абое.

Ішла Мар'юшка з-пад вянца,
Рассыпала зямчурку з рукаўца:
— Хто ж тую зямчурку падбярэць,
Той мяне з-пад вянца прывязець.
Падабрала зямчурку дружына,
Прывёз з-пад вянца Іванька.

Ехала дзевачка з-пад вянца,
Сеяла расадку з рукаўца:*
— Расці, мая расада, ў качання,
Што мая долечка звянчана.
Звянчана мая долечка за грошы,
Што быў Ягорка харошы.
Ён харош, прыгож, невялічкі,
Да й купіў жа мне чаравічкі.

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Ехала Людачка з-пад вянца,
Сеяла расаду з рукаўца:
— Расці, мая расада, ў качанне,
Дайся, мая доленька, з вянчання.
Дайся, мой свёкарка, як татка,
А свякрованька, як мамка,
А дзевярочкі, як брацейкі,
А залованькі, як сястрыцы.

А хадзіла да Анечка па саду,
А сеяла скрозь сцежачку расаду.
Расце, расце мая расадка ў качанне,
Змянілася мая долечка з вянчання.

Прыехала млода Люсечка з-пад вянца,*
Рассыпала расаду з рукаўца:
— Расці, расці, расадачка, у лісцёх,
Дай жа, божа, шчасце-долю і жыццё.
Расці, расці, расадачка, ў качанне,
Дай жа, божа, шчасце-долю з вянчання.

А ехала Матрунка з-пад вянца,
Ай, сеяла расаду з рукаўца:
— Ай, віся, віся, качанне,
Дайся доленька з вянчання.
Шчасце, багацце ў рукаве,
Розум, здароўе ў галаве.
Матрунка ў мамкі каханка,
А ў яе косанька каванка.
— Чы не было кавалёў раскаваць,
Чы не было грабянцоў расчасаць?
— А былі кавалі ў дарозе,
А былі грабянцы ў возе.

Ішла Хадорка з-пад вянца,
Сеяла расаду з рукаўца:
— Удайся, капуста, качаннем,

* Кожны радок паўтараецца.

Удайся, долечка, з вянчання.
Удасца капуста, як дождж дась,
Удасца долечка, як бог дась.
Удалася капуста, удалася:
Па пояс качаннем завілася.
Удалася капуста качаннем,
Удалася доля з вянчання.

Ішла Манечка з-пад вянца,
Сыпала чорны мак з рукаўца:
— Зарадзі, божа, чорны мак,
Усё залатыя макаўкі,
Чырвоныя лісточкі.
Чырвон чырвонец — Іванечка,
Чырвоны лісток — Манечка.

Прыехала Марынка з-пад вянца,*
Сеяла чоран мак з рукаўца:
— Ўзыдзі, ўзыдзі, чоран мак,
Ўзыдзі усходам зялёным,
Зацвіці цветам чырвоным,
Ўвазрэй мачынкай залаценькай.
Зялёны усход — сваточкі,
Чырвоны цвяток — Шурачка,
Залатая мачынка — Марынка.

Прыехала Галечка з-пад вянца,
Рассыпала золата з рукаўца.
Выйшла яе матачка прымаці,
Нагнулася золата збіраці.
— Пастой, мая мамачка, не гніся,
Бяры стульчычак, садзіся,
Бо ты майго золата не збярэш,
Свае горкі слёзанькі разальеш.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Ідзе Ганна са вянцу,
Рассыпала злотачка па дварцу:
— Выйдзі, матанька, паэбірай,
Свае дзіцятка прывітай.

Ехала Матронка з вянца,
Сыпала золата з рукаўца,
Прасіла баценька з сабою:
— Хадзі, бацeнька, са мною,
Збяром золата з табою.
— Не пайду, дзіцятка, не пайду,
А з жалю ручачак не звяду.
За слёзанькамі не бачу,
Тваё золата патрачу.

Ляцела зязюлька з-пад ялаўца,
Едзець Марыська з-пад вянца,
Сыплець золата з рукаўца:
— Выйдзі, татулька, пераймі,
Тоя ты золата палічы.

Ехала дзяўчонка з-пад вянца,
Рассыпала золата з рукаўца.
Звала мамухну падбіраць
На цісовую лавачку,
На шаўковую нітачку.
— А вой, дачушка, не ўвіжу,
За жаласцю не магу.

Ехала дзеванька із венцу,
Сыпала золата па пальцу,
А за ею мацінька з палою,
Збіраючы золата рукою.
— Не збірай, мацінька,
Бо не збярэш
Да свае слёзанькі разальеш.

Ехала Адарка з-пад вянца,
Пускала золата з рукаўца,
А за ёй брацілка падбіраў,
Гарачыя слёзанькі праліваў.
— Падбірай, брацілка, падбірай,
Гарачыя слёзанькі не цярай.

Мецена вуланька ды з канца,
Прывезена Насценька з-пад вянца.
Прывезена Насценька з-пад вянца,
Сыпнула золата з рукаўца:
— Выйдзі, выйдзі, бацենька, із хаты
Дый памажы золата збіраці.
— Не збірай, дзіцятка, не збярэш,
Толькі свае слёзанькі разальеш.
— Выйдзі, выйдзі, матанька, із хаты
Дый памажы золата збіраці.
— Не збірай, дзіцятка, не збярэш,
Толькі свае слёзанькі разальеш.

Прыехала Ганулея ад вянца,
Сыпнула золата з рукаўца:
— Вось табе, мамачка, золата,
Было мяне не аддаваці сёлета.
Хоць бы я гадочак пажыла,
Я б сабе вяночак савіла,
Я б сабе цвяточак купіла
І на грудзі пачапіла.

Прыехала дзеванька із вянца,
Высыпала чырвонцы з рукаўца:
— Да не руш, матанька, не бяры,
Яшчэ, матанька, падаражы,
Яшчэ з рочак падзяржы.

Прыехала млода Манечка ад вянца,*
Пасыпала срэбра-золата з прыпалца:
— Выйдзі, мамачка, да пабяры золата,

* Кожны радок паўтараецца.

Нашто аддаеш мяне, маладу, сёлета?
Хай бы я ў цябе яшчэ гадочак гасціла,
Хай бы я сваю русую косу расціла,
Хай бы я цябе, мая мамачка, цешыла.
— З богам, з богам, мая дачушка, ад мяне,
Ёсць у мяне яшчэ меншая за цябе.
Яна будзець русую касу расціці,
Яна будзе мяне, старую, цешыці.

Ой, прыехала малада Маруся із венцу,
Ой, высыпала дробнае золата із паперцу.
За ею мацюлька ступае,
Дробнае золата збірае.
— Хоць ступай, мацюлька, не ступай,
Дробнага золата не збярэш,
Толькі свае слёзанькі разальеш.

Хадзіла дзеванька па моры
Да насіла золата ў прыполі.
Пасыпала золата па моры,
Клікала войчанька з каморы:
— Пабяры золата на моры
Да на сталёвую голачку,
Да на ядвабную нітачку.
— Няхай той, дзіцятка, пабярэ,
Да хто з табою шлюб бярэ,
Да на сталёвую голачку,
Да на ядвабную нітачку.

— Вярба, вярба-вярбіца,
Ды чаго ж ты на мора палягла,
Ды дзевачкам дарогу заняла?
— Не сама я, дзеванькі, палягла,
Палажыла мяне дзеванька,
Ў камору часта ходзячы,
Прыполамі золата носячы.
Рассыпала золата па моры
Да клікала татачку ў каморы
Пазбіраці золата па моры.
— Няхай табе, дзіцятка, той збярэ,
Хто з табою, маладою, шлюб бярэ.

Прыляцела ластаўка
З чужой стараны.
Крыллейка падстралёна,
Галоўка аскублёна.
Прыехала малада дзевачка
Ад папа звянчаўшыся.
Ад папа звянчаўшыся,
З маладым хлопчыкам спазнаўшыся.
Каса яе распляцёна
Ды па плечках растрасёна,
Каснічкі пажматаны
І вочанькі заплаканы.

— Выйдзі, мамачка, з свячамі,
Твая дочка звянчана.
Запалі, матка, свечку,
Выйдзі насустрэчку,
Сустрэнь сваю дочку.
Ці ўгадаеш, маці,
Ды свайго дзіцяці?
— Як мне не ўгадаці
Ды свайго дзіцяці!
Перва — нараджона,
Другое — богам мне суджона.
У майго дзіцяці
Да на плечах коскі,
А ў ручках шырынка
Тонка і бяленька,
Ад слёзак макрэнька.

Запалі, маці, свечку,
Выйдзі насустрэчку,
А ўжо твае дзіця
Звянчанае едзе.
Не ўгадала маці
Свайго дзіцяці
Ўсё за слёзачкамі,
За падружачкамі.
У руках шырыначка
Тоненькая, беленькая,
Ўся ад слёзак мокранькая.

Ехала Машачка з-пад вянца,
Стракала яе мамачка доляю шчасліваю,
Добраю гадзінаю, горкаю слязінаю. 2
— Ці ўгадала, маці, да свайго дзіцяці,
Што за служачкамі, за падружачкамі?
— Толькі ўгадала, што ў ручках платок,
Да тонек, белянек, да ад слёзак макрэнек.

Не спазнала маці
Свайго дзіцяці
А за русай касой,
За дробнай слязой.
Толькі ўвазнала па пляцёнай касе.
Па беламу лічку — слёзка,
А ў ручках — шырынка,
Яна тонка, бяленька,
Ад слёзак макрэнька.

— Запалі, маці, свечку,
Выйдзі насустрэчку,
Сустрэнь сваё чада:
Першага — нараджонага,
А другога — насуджонага.
Не пазнала маці
А сваю дзіцяці.
Тады яна ўвазнала,
Як на ножанькі ўпала.
— Дачушка мая родная,
Чаму ж ты не такая?
К вянцу выпраўляла —
Галоўку часала,
Лічка вымывала.
А з вянца прывезена —
І галоўка склочана,
Лічка засмучана,
А па плечаньках коска,
А па лічаньку слёзка.

Запалі, маці, свечы,*
Выйдзі насустрэчы,
Сустрэнь свае дзіця:
Першае — нараджонае,
Другое — суджонае.
Не ўвазнала маці
А свайго дзіцяці
А за стужачкамі,
За падружачкамі.
— А маё ж было чада,—
Галоўка зачашона
І касіца запляцёна.
А цяпер маё чада,—
Галоўка расклачона,
Касіца расплядёна.

Не пазнала маці
Ды свайго дзіцяці
За падружкамі ды слёзкамі?
Ой, толькі і ўвазнала,
Як на ножкі ўпала.
Слёзкамі ножкі ўмыла,
Коскамі зямлю ўкрыла.
Пала вутачкаю перад мамачкаю:
— Ой, мамачка ж мая,
Да цяпер жа я не твая —
Таго-сяго пана,
З кім я звянчана,
Таго-сяго пана,
З кім ехала ўдвору.

— Выходзь, матка, з свячамі,
Пазнай дзіцятка між намі.
Мы твае дзіцятка звянчалі,
А цяпер выходзь, матухна, проціў нас
Да вітай кубачкам усіх нас.
Да пытай донечку, дзе была.
— У божым доме, не твая.
Госпаду богу прысягала,
Ручаньку аддала.

* Кожны радок паўтараецца.

Ой, мацюнка-утка,
Варочайся хутка.
Да ўжо сонца нізка,
Да ўжо госці блізка.
Да ўжо сонца ў розе,
Да ўжо госці на парозе.
Ой, выйдзі, мацінька, проці нас,
Частуй кубачкам усіх нас.
Да пытай донечкі, чы твая.
Да ўжо ж бо я, мацюнка, не твая —
Ужо ж я, мацюнка, вянчаная,
Іванова вечная.

— Выйдзі, мамачка, проціў нас,
Вітай кубачкам усіх нас.
Пытайся ў дачушкі, ці твая.
— Не твая, мамачка, не твая —
Я таго пана-ацьмана,
З кім я, млода, шлюб брала,
Залатыя персні мяняла,
Вернае слова сказала.

Ехала Агатка із вянца,
Сказала татуську тры слаўца:
— Ужо я, татуська, не твая —
Ужо я пана-ячмана.
Ужо на ручнічку я стаяла,
Залаты персцень мяняла,
Шчырую праўду казала,
Накрыж ручанькі дзяржала,
З сваім міленькім прысягала.

Сонейка калясом з гары ідзе,
Ганначка звянчана ідзе.
Матанька перашэд пытае:
— Ганначка, ці яшчэ ты мая?
— Матанька, ўжо я не твая —
Ужо я таго пана,
З кім я на шлюбу стаяла,
З кім я пярсцёнка мяняла.

Сонца калясом угару ідзе,
А дзевухна з вянца ў двор ідзе.
Яе матухна ў варот страчае.
У варот страчае, праўды пытае:
— Дачухна мая, чыя ж ты цяпер?
— Матухна мая, я твая і божая.
— Няпраўда твая, ты таго пана,
З каторым шлюб прынімала,
І таго жаніха, з каторым вянчалася.

Да прыйшло дзіця з вянца,
Ні прамовіла слаўца.
Толькі ж яно да прамовіла:
— Пані-мамачка мая.
Пані-мамачка мая,
Да ўжо ж я не твая.
Да ўжо ж я не твая,
Да ўжо ж я таго пана.
Да ўжо ж я таго пана,
Што пад шлюбам стаяла.
Што пад шлюбам стаяла,
Пярсцёнкі да памяняла.

Прыляцела вутачка з азярца,
Прыехала Маланка са вянца.
— Скажу табе, матачка, два слоўцы:
Цяпер я, мамачка, не твая —
Ой, таго пана Сцяпана,
З ім сягоння шлюб брала.
На белым ручнічку стаяла,
Залатыя пярсцёнкі мяняла
А з левай рукі на правую,
Павязём мамачцы на славу.

Сяду-паду ластаўкаю.
Сяду-паду ластаўкаю
Перад сваёй мацёнкаю.
Ой, мацёнка ж мая,
Ўжо ж бо я не твая.

Ўжо ж бо я таго паночка,
Што шлюбу брала.
Шлюбу брала,
Шлюбу шлюбавала.
Ўжо ж ты, мая мамка, знаеш,
З кім я ноч начавала.

Наша дзевачка-злотначка
Скочыла з ручнічка.
Да скочыўшы,
Усю праўданьку сказала:
— Ужо ж я, матанька,
А не служанька твая —
Свайму міламу
Белу ручаньку прыдала.

А, маманька мая,
Я ўжо не твая —
Я ж таго пана,
З кім я павянчана.
На вяночку стаяла,
Богу прысягала,
Пярсцёнка мяняла,
За руку дзяржала.

Ой, мамачка мая,
Цяпер я не твая —
Ой, таго пана-падмана,
З кім я шлюбу брала,
У цэркаўцы дый на рыначку.
Цэркаўка дрыжала,
Як я шлюбавала.

Ай, мамачка мая,
А цяпер я не твая —
Я таго кавалера,
За каго я хацела.
Я таго тавырыша,
З кім я звянчалася.

Ой ты, мамачка мая,
Ох, ужо я не твая —
Ох, ужо я таго пана,
З кім на шлюбе стаяла.
З кім шлюб да шлюбавала,
Пану богу да прысягала
І яшчэ таму да чалавеку,
Што дажыці да веку.

Матка мая родненькая,
Да чаму к нам не выходзіш?
Да чаму к нам не выходзіш,
Да чаму ў нас не пытаеш,
Да ці ясна свечы гарэлі,
Ці жаласна да папы пелі?
Ці скора звянчаліся
Да і дадому сыскаліся?
Ой, ясна свечы гарэлі
Да й жаласна да папы пелі.
Скоранька звянчаліся
Да дадому сыскаліся.

— Папытай, матка, у дачкі,
Да ці ясна свечкі гарэлі?
Ці ясна свечкі гарэлі,
Ці жаласна да папы пелі?
Ці быў бог да памочы,
Янгалы да на нарадзе?
— Матка мая родная,
Не пытай мяне, маладой.
Не пытай мяне, маладой,
Папытай у старшай дружкі.
Яна пазадочку стаяла,
Венчыка да падзяржала.

Быструю рэчаньку хваляй б'ецъ,
Варывоньку мамінька з Хадоркай
З-пад вянца жджэць.
У вароцік устракаець,

Белыя ручанькі хватаіць,
У Варывонькі пытаіць:
— Ці звонка званы звінелі,
Ці ярка свечкі гарэлі,
Ці гласна папы спявалі,
Ці высока кнігі ўзымалі,
А как вас, маладых, вянчалі?
— Ай, звонка званкі звінелі,
Ярка свечкі гарэлі,
І голасна папы спявалі,
І высока кнігі ўзымалі,
Как нас, маладых, вянчалі.

Пыталася мама дочкі,*
Чы гарэлі харашо свечкі.
— Ой, гарэлі-палалі,
Пакуль мяне звянчалі.
Тады сталі да патухаці,
Як із шлюба ступаці.

А на моры вутачка крыльцам б'ець,**
А мамачка дачушку з вянца жджэць.
— Скажы ж, мая дачушка, як шлюб дзяржала?
— Не пытайся ў мяне, мамачка,
Пытайся ў маіх падружачак,
Яны за маімі плячамі стаялі,
Глядзелі, як мае свечкі гарэлі.
А гарэлі свечачкі, як сонца,
А звянчалі Зіначку, як слоўца.

Прыляцела вутачка з азярца,
Прыехала Манечка ад вянца.
У яе мамачка пытаецца:
— Ці хораша, дачушка, шлюб брала?
Ці ясна свечкі гарэлі,
Ці быстра вочкі глядзелі?

---

* Кожны няцотны радок паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

— Не пытай, мамачка, у мяне,
Папытай, мамачка, у дружачак:
А яны ж ля мяне стаялі,
А яны ж на мяне глядзелі,
Ці ясна свечкі гарэлі,
Ці быстра вочкі глядзелі.

Ой, прыляцела шэра зязюля з уляцця,*
Ой, прыехала млода Касечка з увянца,
Стала ў яе мамачка пытацца:
— Ці добра было, маё дзіцятка, вянчацца?
— Не пытайся, мая мамачка, у мяне,
Папытайся ў бальшаначак у маіх.
Яны ля мяне блізюсенька стаялі,
Яны відзелі, як нам ручачкі вязалі.
Яны відзелі, як нам ручачкі вязалі,
Яны чулі, што там ксяндзы казалі.
А звязалі нам ручачкі стулою
І сказалі нам жыць, мілы, з табою.

Прыляцела шэра зязюлька з-пад дубу,
Прыехала наша Ганулька ад шлюбу.
Стала яе матулька пытаці:
— Ды ці добра, маё дзіцятка, шлюб браці?
— Ды пытайся у баярачак у маіх.
Яны ля мяне блізюсенька стаялі,
Яны відзелі, як мы, малады, шлюб бралі.
Яны відзелі, як мы, малады, шлюб бралі,
Яны відзелі, як нам ручкі звязвалі.
Яны відзелі, як нам свечкі давалі,
Яны над намі шапачкі дзяржалі.

Яркае сонейка калясом коціцца,
Княгіня, маладая Мар'ічка, ад шлюбу едзіць,
А яе маманька у варот стаіць,
У варот стаіць, ручнічок дзяржыць,
Тоненькі, беленькі, ад слёз макрэнькі.

* Кожны радок паўтараецца.

— Мар'ютка-дачушка, а ці люб сужаненькі Сідарка?
— А калі ж ба быў не люб, не брала б я шлюб,
Калі ж ба быў не міл, не паехала б я з ім.

Да шумляць чайкі, да шумляць,
Каліναньку да хіляючы,
А дзеваньку да пытаючы:
— Ой, Маруська, сястрыца,
Дзе ж ты бывала?
— Дзевачкі да галубачкі,
Чы вы таго да не знаеце,
Што вы мяне да пытаеце?
Я й у царкві бывала,
Папу праўду казала.

— Ці добра табе было
На ручнічку стоячы,
З папом гаворачы?
Ці гарэлі твае шчочкі,
Ці плакалі сіні вочкі?
— А дзевачкі-сястрыцы,
Гарэлі мае шчочкі,
А плакалі сіні вочкі.

Да прыйшлі дзевачкі, прыйшлі,
Да не рожу шчыпаці —
У дзеўкі праўду пытаці:
— Дзевачка-сястрыца,
А скажы нам праўду,
Ці харашо вянчалася,
Ці быў бог на помачы?
[— А быў бог на помачы],
І прачыстая маці
На прыстоле стаяла,
Дзецям долю давала:
Добраму дзеля добрасці,
І злосну дзеля злосці.

Прыйшлі дзеўкі, прыйшлі,
Да не руту шчыпаці,
Да ў дзеванькі праўды пытаці:
— Да, дзеванька, наша сястрыца,
Да ці была ты ў касцеле,
Ці харашо ксяндзы пелі,
Да ці ясна свецы гарэлі?
— Да дзевачкі, мае сястрыцы,
Да была ж я ў касцеле,
Да харашо ксяндзы пелі,
Да ясна свецы гарэлі.

Найшлі дзеўкі, найшлі,
То не руту шчыпаці,
То Дар'юшкі пытаці:
— Дар'юшка, наша сястронка,
Чы гаразда шлюбавала,
Чы шчыра прысягала,
Чы ўсю праўду казала?
— Дзевачкі-сястроначкі,
Ой, гаразда шлюбавала,
І шчыра прысягала,
І ўсю праўду казала.
На шлюбе стаяла,
З Макаркам персцяні змяняла,
З маладзенькім.

У нядзельку спозна
Набеглі дзеўкі
Не то рутку шчыпаці,
Не то дзевачкі пытаці:
— Чы гаразд шлюбавала,
Чы шчыра прысягала,
Чы пярсцёнкі памяняла,
Чы ясну свечу дзяржала?
— Дзевачкі-сястроначкі,
Дай божа вам там быці
І таго адведаці:
І гаразд шлюбаваці.
І гаразд шлюбаваці

І шчыра прысягаці,
Пярсцёнкі памяняці,
Ясну свечу дзяржаці.

Ой, найшлі да нас дзеўкі
Тае ружы шчыпаці
Ды Марылькі пытаці:
— Марылька маладая,
Ці была ў божым доме,
Ці ясна свечы гараць,
Ці хараша папы стаяць?
— Дзевачкі-канпаначкі,
Можна й вам там бываці
І таго адведаці —
Ці ясна свечы гараць,
Ці хараша папы стаяць.

Пытаецца матанька Ганнанькі:
— Дзе доўганьку косаньку падзела?
— На свячы, матанька, згарэла.
На свячы, матанька, згарэла,
Дружка дагарачкі пабрала,
Ў вышыту хустаньку схавала.

Бягуць дзеўкі, бягуць
З-пад вішнёвага саду
Ды не руты шчыпаці,
Ды Маруську пытаці:
— Ой, Маруська, сястрыца,
Дзе персценькі дзела,
Дзе персценькі дзела,
Што на ручцы мела?
— Ой, дзевачкі-сястрыцы,
Няўжо вы не знаеце,
Няўжо вы не знаеце,
Што мяне пытаеце.
Я ў царкві была,
З папом размаўляла,
З папом размаўляла,
А з Іванкам памяняла.

У цэркаўцы да пабывалі,
Пярсцёначкі да памянялі:
За яго да й алавяны,
А мае да дарагія.
Я за свае пазлачоныя,
А за яго пазычоныя.

Прыехала дзевачка з вянца
Да села ў сенях на лаўца,
Да лічыла пярсцёнкі на пальцах:
— Ўсе пярсцёнкі такавы —
Адзін пярсцёнак не такі,
Што дараваў сужанка малады.

Не наша, не наша Маруся,*
Не з намі ў цэркаўцы стаяла,
Не нам праўдачку казала.
Стаяла ў цэркаўцы з Колечкам,
Казала праўдачку Колечку:
— Вой, паедзем мы дадому,
Не заязджайма ні к кому:
Ні к твайму роду, ні к майму,
Толькі заедзем к аднаму,
К твайму татачку роднаму.

Чаму мацi не вітаеш,
Вітаючы не пытаеш,
Ой, дзе ж мы бывалі,
Ой, дзе ж мы прабывалі.
Былі ж мы ў бога,
У духа святога,
Бачылі два вянцы на стальцы,
Трэці — на галаваньцы,
Да на русай косаньцы,
На шаўковай стужачцы.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Папытайцеся ў Мішачкі,
Ці бываў да ў божым доме,
Ці стаяў на каберцы,
Ці мяняў пярсцёначкі?
— Дзевачкі, мае сястрыцы,
Я бываў да ў божым доме,
Я стаяў да на каберцы,
Я мяняў пярсцёначкі.

— Ці была, дзеўка,
У боскім доме?
Ці пытала, дзевачку,
Боскага слова?
— Пыталі, дзевачкі,
Мусіла прамовіць.
Ясныя свецы да загарэліся,
Дробныя слёзы пакаціліся
Да на зямлі палі,
Крамні разбілі.
Крамні разбілі,
Пясок размылі.
Крамянец серанькі,
Пясочак беленькі.

Татачку мой родненькі,
Чаму ка мне не выходзіш,
Чаму мяне не пытаешся,
Дзе я, малада, доўга бавілася:
Ці ў полі жыта жала,
Ці пшаніцу вязала,
Ці пшаніцу вязала.
Ці ў карчомцы гуляла?
Бавілася ў божым доме,
На ручнічку стаяла,
Залаты крыж дзяржала,
Пярсцёнак памяняла,
Пану богу прысягала.
Татачку мой родненькі,
Ужо ж я твая не служачка,
Ужо я твая няверная.
Таго ж я ўжо вярнейшая,

З кім на ручніку стаяла,
Залаты крыж дзяржала,
Пярсцёнак памяняла,
Пану богу прысягала.

Ойчанька мой родненькі,
Чаму ка мне не выходзіш,
Чаму ў мяне не пытаеш,
Дзе я доўга бавілася,
Дзе я позна спазнілася?
Ці ў полі жыта жала,
Ці пшаніцу вязала,
Ці ў месце на рыначку,
П'ючы мёд-гарэлачку,
Ці з дзевачкамі гуляючы,
Ці з малойцам жартуючы?
Я ў божым храме бывала,
На ручнічку стаяла,
Залаты крыж дзяржала,
Пану богу прысягала,
Пану богу наймілейшаму,
Свайму дружку вярнейшаму.

Прыехала дзевачка ад вянца,*
А ў яе татулька пытае:
— Дзе ж ты, дзіцятка, бывала?
Ці ў полі жыта зжынала,
Ці ў бару ягодкі збірала?
— Бывала, татулька, пад вянцом,
А з харошанькім малайцом,
А з малодзенькім жанішком.

Сонечка гарою йдзець,
Мар'ечка з вянчання йдзець.
Яе баценька выхадзя, пытаець:
— Дзе ты, дзіцятка, бывала?
— Бывала, баценьку, ва божаму дому.

* Кожны радок паўтараецца.

— Марʼечка-дзіцятка, што ты відала?
— Відала, бацейку, святую прачысту.
Святая прачыста вяночак віла,
Мне к вянчанню аднаго дала
І звянчаўшыся назад узяла.

Сонейка калясом з гары ідзе,
Маладая дзеванька з вянчання ідзе.
Баценька перайшэд пытае:
— Дзіцятка, дзе ж ты бывала,
Што ж ты відала?
— Баценька, ў цэркаўцы бывала,
На беламу да на ручнічку стаяла.
Прачыста два вяночкі звіла,
Нам, маладым, на галоўкі клала.

Знаці Кузёмка, што звенчаны,
На ём вяночак пераменены.
Як да шлюбу ехаў, быў з каліначкі,
А як з шлюбу — з рутанькі.
Ідзе Кузёмка з вянчальнечка,
Яго баценька у варот стаіць,
Белы ручнічок у руках дзяржыць,
Слёзанькамі абліваецца,
Белым ручнічком уціраецца,
Сваго дзіцяценькі пытаецца:
— Што ты бачыў, маё дзіцятка?
— Бачыў я, баценьку, ўсе святыя і прачыстую.
Прачыстая вянкі віла,
Мне, маладому, ў ручкі дала.

Гарою сонейка ідзе,
Марынка з вянчання ідзе.
Баценька ў варотах стаіць,
Сто локаць палаценца дзяржыць.
— Дзіцятка, ці будзе таго?
— Баценька, шчэ другэ таго.

Мы ў папа бывалі
З белымі сабалямі,
З чорнымі галачкамі,
З краснымі панначкамі.

Да былі ж мы на шлюбе,
Да на божаму судзе.
Ад бога суд,
Ад папа шлюб,
Ад караля вяселле.

Мы ў цэркві бывалі,
Трое зелле відалі:
Адное зелле — ружа,
А другое зелле — мята,
А трэцяе зелле — кветкі,
Штоб любіліся дзеткі.

Былі мы ў бога
І відзелі пірагоў многа.
Но не ўсе тут піражкі,
Есць тут абараначкі
І сладкі папраначкі.

Мы ў папа бывалі,
Там нас частавалі
Мёдам салодзенькім,
Віном зялёненькім.

— Матанька, я ў цэркві была,
Родная, я ў цэркві была.
— Дзіцятка, няпраўда твая.
— Матанька, там людзі былі,
Як мяне, маладую, ў цэркаў вялі,
Як з мяне да венчык знялі
Да жанішку Дарахвейку на галоўку далі.

Ангелы свечы дзяржалі,
Як мяне, маладую, вянчалі,
А прачыста вянок віла
Да мне на галоўку палажыла.

Выйдзі, бацeньку, з свячамі,
Ужо тваe дзеткі звянчаны.
І ты, мацюнка-вутка,
Чом не выходзіш хутка,
Чом нас не вітаеш
І чаму не пытаеш,
Чы зараз шлюб бралі,
Чы ўсе прыехалі?

Да чы е ў сей хаце
Марысіна маці?
Да чы будзе нас пытаці,
Чы далёка бывалі,
Чы гаразд гасцявалі?
Двое дзетак звянчалі.

Ой, будзе ж нам, будзе,
Што мы спазніліся.
У ногі паклонімся,
Мы ж там адмовімся:
Убіралі старосту
То ў розе, то ў золата,
То ў шчырае срэбра.

Не дзівуйце нам, людзі,
Што мы доўга ў шлюбу былі:
Не было папа дома.
Поп ездзіў да Яльбоны
Па ключы лютраныя,
Па замкі залатыя,
Цэркаўку адмыкаці.
Поп цэркаўку адамкнуў,
Нашу пару звянчаў,
Нам шчасце-долю даў.

Не маракуй, мая матачка,
Што мы позна ды пазніліся,
Бо не было ды папа ўдому.
Ды паехаў ды да Альбова
Ключыкі да купаваці,
Цэркаўку ды адмыкаці,
Двое дзетак да павянчаці.
Адно дзіця да раджонае,
А другое да суджонае.
Адно дзіця сам бог радзіў,
А другое госпад судзіў.

Не маракуй, мая матачка,
Што я позна спазнілась.
Што я позна спазнілася,
Ў паўдарогі станавілась.
Ў паўдарогі станавілася,
Бо не было ксяндза до[ма].
Бо не была ксяндза дома,
Паехаў ксёндз да Маліно[ва].
Паехаў ксёндз да Малінова
Пшанічаньку прадаваць.
Пшанічаньку прадаваць,
Залаты ключы пакупаць.
Залаты ключы пакупаці
Да цэркаўку адмыкаць.
Цэркаўку й адмыкаці,
Маладую парачку вянчаць.

Што гэта за дзіванька,
Дзевачкі з вянца нету?
Не было ксяндза ўдому.
Паехаў ксёндз да да Вальбова
Ключыкі да купаваць,
Цэркаўку адмыкаць.
Цэркаўку адмыкаць,
Двое дзетак вянчаць.
Звязаў ксёндз ручанькі
Чорнаю да кітайкаю
Да з чужым нязнайкаю,
Белаю да беляніцаю
Да з чужым чужаніцаю.

Не сварыся, мамачка, што я спазнілася.
Я ў цэркві была й богу малілася.
Я ў цэркві была й богу малілася,
На свайго Іванку надзівілася.
На свайго Іванку надзівілася.
Стаяла гадзіну, пакуль пазнала.
Стаяла гадзіну, пакуль пазнала,
Стаяла другую, пакуль павянчалі.

Матка, не сварыся,
У новым касцёле доўга барылася.
Стаяла гадзіну, покі звянчалі,
Стаяла другую — людзі не пазналі:
— Чы то мяшчанка, чы то баярка?
На ёй сіва світа з акдалам шыта.
На ёй сіва світа з акладам шыта,
Персцень каваны і друг каханы.

Не сварыся, татуля,
Што мы позна гулялі.
Не ў садочку мы былі,
Не вяночкі мы вілі.
Мы былі ў касцеле,
Стаялі пры сцене.
Руту-мяту свянцалі,
Двое дзетак звянчалі.
Былі мы ў дарозе,
На вялікім марозе.
Нам добра было,
Нас там частавалі.
Нас там частавалі,
Мёду-віна давалі.
Мы былі ў яворы,
Мы былі ў зялёным.
Мы дровы рубалі,
Мы зялёны рубалі.
Не дарма ж мы рубалі,
Мы рубалі за грошы.
Мы рубалі за грошы,
Наш паніч харошы.
Харош, малады, харош,
Дастаў паненку за грош.

Хмаранькі ўсе, грумаданькі,
Усе зорачкі разныя.
Не сварыся да, мая матка,
Што я езджу позна.
Хоць позненька, хоць не раненька,
Мяне цяпер да не навучыш.
Каго я люблю й любіці буду,
Цяпер мяне й не разлучыш.

Ганначка ад шлюбу прыехала,
Татачку да ног пала:
— Татачка мой родны,
Або мяне развянчайце,
Ручкі мае развяжыце,
Слоўца маё адкажыце.
— А маё ты дзіцятка,
Ляпей табе сто коп даці,
Чым цябе развянчаці,
Ручкі твае развязаці,
Слоўца твае адказаці.

Заплакала млода дзевачка
З вянчання прыехаўшы,
Татачку руку даўшы:
— Мой жа татачка родны,
Развянчай цяпер мяне,
Развяжы рукі мае,
Размяняй пярсцёначкі.
— Мая ж дочанька родна,
Лучшэ ж мне тысенц даці,
Чым цябе развянчаці,
Белы ручкі развязаці,
Пярсцёначкі размяняці.
Як звязаў пан табе ручкі,
Ніхто не дасць разлучкі
З сырою сырыцаю,
З чужою чужаніцаю.

Маладая дзеванька
Ад шлюбу прыехала.
Ад шлюбу прыехала,
Ў новым ганачку стала.
Ў новым ганачку стала,
Татачку да ног пала:
— Татачка мой родненькі,
Ці вы мне стакан дайце.
Ці вы мне стакан дайце,
Або мяне развянчайце.

Прыехала да дзіця з вянца
З вялікае да дарожанькі.
З вялікае да дарожанькі,
Упала бацьку да да ножачкі.
— Бацюхну мой родненькі,
Развянчай мяне, маладую.
З кім жа я звянчалася.
З кім жа я звянчалася,
З кім з роду не зналася.
— Дзіцятка маё маладое,
Як цябе развянчаць?
Як цябе развянчаць,
Да лучша мне сто коней даць.

З-пад гаю зялёнага,
З-пад вішання чырвонага
Сівая зязюля вылятае.
— Зязюлька сівенька,
Тваё крыленька падвязана,
А ножачкі спутаны.
Просіць сівога сокала:
— Развяжы маё крыллейка,
Распутай мае ножкі.
— Зязюлька сівенька,
Чаму даўней не казала,
Як крылленькаў не вязалі,
А ножак не путалі?
З-пад цэркаўкі, з-пад касцёла
Выязджала маладая дзевачка,
Яе ручкі звязаны,

Яе коскі сплецены,
Пярсцёначкі паменяны,
Яна маладая звенчана.
Просіць сваёй роднай матачкі:
— Да, матачка мая родная,
Развяжы мае ручкі
Да спляці мае коскі,
Размяняй пярсцёначкі.
— Дзіця маё маленькае,
Чаму даўней не казала,
Як ручак не вязала,
Косак тваіх не сплятала?
Не развяжу тваіх ручак,
Не распляту тваіх косак,
Не развянчаю цябе, маладзенька.
Ты звянчана з чужым чужаніцаю,
З сваёю вечнаю палавіцаю.

— Ой, мой бацянька родны,
Звязаў пан ксёндз ручкі,
Памяняў пярсцёначкі.
Пярсцёначкі залатыя,
Два вяночкі руцвяныя.
— Ой, Марысю-дзіцятка,
Ой, воліў бы я тысёнц даці,
Жэб табе ручкі развязаці.
Жэб табе ручкі развязаці,
І персцянёчкі залатыя,
І два вяночкі руцвяныя.

Прыехала маладая дзеванька
З касцёла да з дарожанькі,
Упала матцы на ножанькі.
— Да, матачка мая родная,
Развяжы да кітаечку,
Развянчай нязнаечку.
— Дзіця маё да міленькае,
Слаўцо тваё вярненькае,
Чаму ўчора не сказала,
Як ты была не звянчана?

Да лепей мне сто залатых даці,
Як кітайку, ручнік развязаці.
Цябе, маладую, развянчаці.

— Бацюхнародненькі,
Пераймай на ганачку,
Рассцялі кітаечку,
Развяжы белы ручкі,
Размяняй пярсцёначкі.
— Маё дзіця, лепі табе долю даць,
Ніжлі ручкі развязаць.

Кукавала зязюля,
Кукавала шэрая,
Абляцеўшы дзерава,
У вішнёвы сад пыляцеўшы,
На каліначку сеўшы
Ды ягодачку з'еўшы.
Заплакала дзевачка,
Заплакала маладая,
Ад вянца прыехаўшы,
За столікам сеўшы
Ды вячэрачку з'еўшы,
Мамачку папрасіўшы:
— Мамачка мая родная,
Ці вы мне долечку дайце,
Ці мяне развянчайце.
— А маё ты дзіцятка,
Лепей табе долю даці,
Як цябе развянчаці.
Долю даўшы — нажывешся,
Развянчаўшыся — нагнiешся.

Ды маладая дзевачка
З-пад шлюбу ды прыехала,
Ды перад татачкам стала,
Ды з татачкам размаўляла:
— Ды татачка мой родненькі,

Спраў ты мне шубачку
Сінюю ды зялёную,
Ды паясочкі чырвоныя.
— Дзіця маё маладзенькае,
Не прасі ў мяне сукень,
Ды прасі ў бога долі,
Каб дзяцінка быў добры.
А як будзе латра-п'яніца,
Вялікая нядбайніца —
Твае сукні ізляжацца,
Паясочкі пасмутнеюць,
Пярсцёнкі паржавеюць,
Твае сэрца закамянеець.

Каля новага двара,
Там не пчолачка гула.
Там не пчолачка гула,
Малада Нюрачка плакала.
Малада Нюрачка плакала,
З вянца прыехаўшы.
З вянца прыехаўшы,
Мамачцы ў ножкі паўшы:
— Мамачка мая родная,
Развянчай мяне, маладую.
Развянчай мяне, маладую,
Развяжы белы ручкі.
Развяжы белы ручкі,
Размяняй пярсцёначкі.
— Рада б я размяняці,
Не ўмею як назваці.
— Заві мяне княгінькаю,
Буду ў цябе гаспадынькаю.

Ой, гула пчолка, гула,*
Каля круглага сяла,
Каля новага двара.
То ж не пчолка гула,
То ж не ярая гула,
То ж дзеванька плакала,

* Кожны радок паўтараецца.

То ж маладая плакала,
З вянчання прыехаўшы,
Баценькам да ног паўшы:
— Ой, мой баценьку родны,
Развянчай цяпер мяне,
Развяжы белы ручкі,
Размяняй пярсцёначкі.
— Дзіцятка маё мілае,
Лепш магу тысёнц даці,
Ніж цябе развянчаці,
Белы ручкі развязаці
І пярсцёнкі размяняці.

Ой, гула пчолачка, гула,
Каля новага двара.
Там не пчолачка гула,
Там дзевачка плакала,
Із шлюбу прыехаўшы.
Села яна ды на лавачцы,
Жалілася сваёй мамачцы:
— Мамачка мая родная,
Развяжы белы ручачкі,
Размяняй ды пярсцёначкі.
— Дачушка мая маладая,
Рада б я развязаці,
Пярсцёначкі размяняці,
Дык не волечка мая,
Да ахвоцечка ж твая.

Каля новага двара
Не пчоланька там гула,
Там Ганначка плакала,
Зэ шлюбу прыехаўшы,
Баценьку да ног паўшы:
— О мой баценьку родненькі,
Разлучы ж ты мяне,
Размяняй пярсцёначкі.
Развяжы ручкі мае,
Расплятай коскі мае,
Пазбірай слёзкі мае.
— Маё ж ты дзіцятка родненькае,

Рад бы я тысёнц даці,
Каб цябе разлучаці,
Пярсцёначкі размяняці,
Ручанькі развязаці,
Косанькі расплятаці,
Слёзанькі пазбіраці,
Цябе к сабе ўзяці.

Гула пчолка, гула
Каля новага двара.
То не пчолка гула,
То Матронка плакала,
З вянца прыехаўшы,
Бацењку ручку даўшы,
Пярсцёнкі памяняўшы:
— Бацењку мой родненькі,
Развянчай жа ты мяне,
Развяжы ручкі мне,
Размяняй пярсцёнкі.
Звязалі мне ручанькі
Чорнаю чарніцаю
З чужою чужаніцаю.

Закрычалі гусі-лебедзі,
Сіне мора да пераплыўшы,
На беражочку сеўшы.
Заплакала малада дзевачка,
З-пад вянца прыехаўшы,
Татачку да да ног паўшы.
— Татачка мой родненькі,
Развяжы белыя ручкі,
Развянчай мяне, маладую,
Бо мне ручкі звязалі,
Чорнай да чарніцаю,
Із чужою чужаніцаю.

Зашчабятала ластаўка,
Сіне мора пераляцеўшы
Да на беражочку сеўшы.

Заплакала маладая дзевачка,
Да са шлюбу прыехаўшы,
Да перад мамкаю сеўшы.
— Мамка мая, мая родная,
Ужо ж мнé ручкі звязалі
Чорнаю чарніцаю
Да з чужою чужаніцаю.
— Дзіця маё, маё роднае,
Чаму ўперад да не казала,
Як ручак да не вязала.

Зазвінела золата, ў шкатуле стоячы,
Заплакала Ганначка з вянца прыехаўшы:
— Да, божа мой, да міласціві,
Да звязалі мне ручкі чорнаю кітайкаю
Да [redacted] чужою чужаніцаю, штоб [redacted] была маладзіцаю,
Штоб я была маладзіцаю, вечнаю вячніцаю.

Мамка мая родненькая,
Зірні, глянь на мае ручкі,
Чым мае ручкі звязаны.
Да звязалі мае ручкі
Да з цямненькае ночкі,
Да белаю да бяліцаю,
Да з чужым чужаніцаю.
Чорнаю да кітайкай
Да з чужым нязнайкай.
Да вязаў сам гаспод бог,
Да не развяжа і сам бацюхна.

Да прыехалі з вянца,
Не прамовілі слаўца.
Толькі ўсяго да прамовілі:
— Выйдзі да, мая матка,
Выйдзі, глянь да, мая матка,
Чым мае ручкі звязаны.
Звязаны да мае ручкі
Да белаю да бяленькаю,

Да й павянчалі мяне
Да з чужым чужаненькаю.
Да й навек маладзенькую.

Да прыехалі з вянца,
Не прамовілі слаўца.
Толькі ж мы да прамовілі,
Як пралесачка ў лесе,
Так верабейка ў стрэсе,
Як зязюлька ў садочку,
Так дзевачка ў вяночку.

Прыехала дзіця з вянца —
Не прамовіць слоўца.
Паясок жыватох цісне —
Слоўца не прапісне.
Паясок жыватох ломіць —
Слоўца не прамовіць.
Слёзкі да набягаюць —
Слоўца не згадаюць.

Прыехала да дзіця з вянца,*
Не прамовіць ка мне слаўца.
Злякалася-спужалася,
Пакуль яно і звянчалася.
Пад вянцом стаяла,
Пакуль яго звянчалі.

Прыехала да дзіця з вянца,
Да не можа прамовіць слаўца.
Адно яно да прамовіла:
— Падай, падай, маці, піці.
Падай, падай, маці, піці,
Бо не магу слова прагаварыці.
Падай, падай, маці, есці,
Бо не магу з возу злезці.

* Кожны радок паўтараецца.

Як прыехалі з-пад вянца,
Як прыехалі з-пад вянца,
Не прамовілі ні слаўца.
Толькі тое да прамовілі:
— Мамка мая да родненька,
Ці доўга вы нас ждалі?
Ці доўга вы нас ждалі,
Што ж вы да нам згатавалі?
— Дзіця маё да маладое,
Я стральцоў да нанімала.
Я стральцоў да нанімала
Дый у пушчу выпраўляла.
Дый у пушчу выпраўляла,
Каб лася да зваявалі,
Дый у катле згатавалі.
Дый у катле згатавалі,
Свае дзеці частавалі.

Адчыняй, матка, сенцы,
Мы ж к табе вядзём дзеці.
Накрывай сталы і лавы,
Ідзе госцік небывалы.

Засцілайце цісовыя сталы,
Накладайце пшанічныя хлябы,
Налівайце мёд-віно ў кубкі,
Спадзявайцеся любага госця, зяценька майго.

Просім, просім, мілы госці.
Малада з маладым да за стол,
Вараны конікі ў стайню.
Пазнай, пазнай, малады,
Пазнай сваю маладу,
Вядзі, вядзі за ручку,
Вядзі яе ў хатку.

Прыехалі дзеткі з дарогі:
Малады сам ідзёць,
Маладую пад ручку вядзёць.

— Садзіцеся, мае дзеткі, за столікам,
Дадзём вам мёду і віна,
Накормім вас сахарнымі страўкамі.

Ой, цяпер, цешчанька, праўданька,
Цяпер твой зяць праўдзівы.
Пасадзі яго за сталом,
Назаві яго сакалом,
Частуй яго мёд-віном,
Горкаю гарэлкаю.
Не будзе ўжо Ганначка дзеўкаю,
Не будзе свёкарка, як бацька,
Не будзе ж свякрухна, як маці,
Не будзе ранняга лягання,
Не будзе позняга ўставання.

Полна, полна, рабятушкі,
Чужо піва піць,
Пара, пара, рабятушкі,
Нам сваё варыць.
Во і солад ужо на ніве
І хмель на тычыне.
На тычыне, на кручыне,
На самай вяршыне.
Тычынушка абламілась,
С хмелем апусцілась,
А маладцу дзеўка палюбілась.

Па чым пазнаці «з-пад вянца едуць»?
Пярловы вянок, маляваны вазок,
А ў руках хустачка, таненька, бяленька,
Таненька, бяленька, ад слёз макрэнька.
Вот тут нам папіць, вот тут пагуляць:
У гэтым дамочку, як у раёчку,
Гаспадарочак, як каралёчак,
Гаспадынюшка, як малінушка.

Ехала Манечка з царквы дамоў,*
Ступіла Манечка на парог,
Махнула хустаю на падруг:
— Расступіцеся, дружачкі,
Будзе мяне мамка дарыці.
А й якім дарам — пасадам,
Яшчэ й маладзенькім Васечкам.

Прыехала дзевачка ад вянца,
Махнула хустай па дзевачкам:
— Чы рады вы, дзевачкі, цяпер мне,
Што мой жанішок на кане,
Спусціў супонькі да зямлі?

Каля новага двара
Ці не пчолка гула?
Дзевачка заплакала,
Ад вянца прыехала:
— Мамачка мая родная,
Перайдзі дарожачку,
Шлюбавую сцежачку,
Блаславі дарожачку
І выпраўляй, не забаўляй.

Прыехала дочанька з рання
Да прасіла ў маманькі снядання:
— Ці дома, маманька, дамуеш,
Ці смачную вячэраньку гатуеш?
— Дома, дочанька, дамую,
Смачную вячэраньку гатую.
Серага галубца ў малацэ,
А рыжую вутку ў масліцы.

Ехала малада з касцёла,
Пытала маманьку, ці ўдома.
— Дома, дзіцятка, дамую,

* Кожны радок паўтараецца.

Табе сняданне гатую.
Гатую калачы ў малацы
І белую рыбку ў перцы.

Пажалей, мамачка, пажалей,
А ўлі абедаць паскарэй.
А мы ў цэркаўцы бывалі,
Там нам абедаць не далі,
Толькі давалі акрайчыкі.
Паповы сыны нас дагналі,
У нас акрайчыкі атабралі,
Сваім сабакам аддалі,
Каб яны на нас не брахалі.

Яны былі ў месці, 2
Пахацелі есці.
— Што стаўце, то стаўце, 2
А нам естанькі дайце.

Пад царскія вароты
Цяклі рэчкі глыбокі.
Благаславіце і ўсе святыя
Нам песню запеці,
На покуце сесці. І!
Благаслаўляець гасподзь бог.

Шчэ й Машачкін бацечка
З доляю шчасліваю,
З добраю гадзінаю,
З добраю гадзінаю. І!

Пад царскія вароты
Цяклі рэчкі глыбокі.
Благаславіце і ўсе святыя
Нам песню запеці,
На покуце сесці. І!

Благаслаўляець гасподзь бог,
Шчэ і Машына мамачка
З доляю шчасліваю,
З добраю гадзінаю,
З добраю гадзінаю. І!

Прыбірай, мамка, месца,
Дзе тваім дзеткам сесці:
Аднаму да раджонаму,
Другому да суджонаму.
Валечцы да раджонай,
Васечку да суджонаму.

Мы ж да былі ў бога
І духа святога.
Там жа мы баялісь,
Баялісь, пакуль звянчалісь.
А цяпер жа мы смелы,
За столікам селі,
За столікам за цісовенькім,
За кубачкам за поўненькім.

А сватку, наш сватку,
Пусці нас у хатку.
А былі ж мы ў дарозе
На бальшым марозе.
Што ж мы набаяліся,
Пакуль павянчаліся,
А цяпер жа мы смелы
За столічак селі.
Сядзем за раўнюсенькім,
Вып'ем па паўнюсенькім.
Сядзем мы на лавачцы,
Вып'ем да па чарачцы.
Сядзем мы на дошчачцы,
З'ядзім да па крошачцы.

Птушкі шчабяталі,
Праўду казалі:
Маладых звязалі
Шаўковай хусцінкай,
Крэпкім вузлом.
Ды не ручкамі развязаць,
Што не ножычкам разрэзаць.
Вецер вее — не развее,

Дождж моча — не размоча,
Суды судзяць — не рассудзяць,
Людзі гавораць — не разгавораць.
Так ім, маладым, века векаваць.

Расхіляйцеся, дубы, бярозы,
Расхіляйцеся, зеляненькі,
Няхай я забачу баценька свога,
Няхай я забачу баценька родненькага.
Ужо ты, Марысю, звянчана:
Буйны ветры не развеюць,
Дробны дожджы не размыюць,
Людскі языкі не размоўляць.
Буйны ветры на лес пойдуць,
Людскі языкі занямеюць.
І схілілася верба з верху да кораня,
Схілілася Марыся чэраз стол да мацюнкі,
На стол галоўку клоніць,
А пад сталом слёзанькі роніць.

Сягоння ў нас вяселлейка, бог нам даў,*
Пара людзей звянчалася.
Сягоння ў нас вяселлейка,
Жыта ў аруд усыпалася.
Жыта ў аруд усыпалася,
Пара людзей звянчалася.

— Ці ведаеш, Маланка, што я ведаю?
Аб калядзе на градзе да ража цвіла,
Ты з тыя рожачкі да вянок віла.
Ты ж у тым вяночку вянчалася,
Ой, ты ж мне, маладому, спадабалася.
— Ці ведаеш, Іпалітка, што я ведаю?
Аб Пятры на Дняпры Дунай замёрз,
Ты ж на тым Дунаю ды каня паіў,
Ты ж на тым коніку к вянцу ехаў.

---

* Рэфрэн «Бог нам даў» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

— Павянчоная да Маруська,
Да й падай татаньку да вадзіцы,
Да і з халоднай, да і крыніцы.
— Ой, не мушу, татанька, не мушу —
Палюбіла Коленьку, ой, як душу.
Ой, ужо ж мая вадзічанька да дорага —
Замыкана ў свякроўкі да камора.

Да павенчана Адарка,
Перайдзі сенечкі сціхенька,
Падай бацюхну вадзіцы.
Да твая вадзіца салодка,
Салоджа мёду і віна,
Да салоджа віна зеляна.

— Заручоначка Танечка,
А падай матульцы вадзіцы.
— Не падам, мамачка, не падам,
А мая вадзіца дорага,
Даражэй мёду і віна.
Ужо ж я, мамачка, не твая,
А я ж таго пана,
Што шлюб шлюбавала.
Я ж таго таварыша,
З кім я вянчалася,
На каберцы стаяла,
Злоты персні мяняла.

— Звенчана Ганначка,
Ды падай маценцы вадзіцы
З віднага калодзізіка, з крыніцы.
— Ўжо я табе, матанька, не слуга,
Ўжо мая вадзіца дарага,
Ды даражэй мёду і віна.

Не сядзі, Манечка, не думай,
Перайдзі цераз рэчку Дунай.
Кліча яе мамачка: — Піць падай!

— Не падам, мамачка, не падам,
Бо мая вада дарага.
Мая вада дарага,
Дарожай мёду і віна,
Дарожай мёду і віна,
Я ж табе, мамачка, не слуга.

У нядзелю рана
Ды пароша ўпала.
А на той парошы
Ды слядок харошы.
Людзі гавораць,
Што куна хадзіла,
А Іванка кажа,
Што няпраўда ваша.
Мая Анютка на раку хадзіла, *
Ды цвяточкі рвала,
Ды вяночкі звівала,
На галоўку клала,
Ды з вянком пад вянец стала.

Ці пасвятлела табе, мамачка, ў хатцы,
Як прывезлі табе зяцёчка ў квятцы?
Ці пасвятлела табе, мамачка, ў хатцы,
Як прывезлі табе дачушку ў квятцы?

Хароша, красна Зосенька наша,
Як з вянцу прыехала,
Пахарашэла, пакрасіўшала.
Яе мацюнка, яе родная
На яе пагдядае:
— Дзесь ты, дачанька, калінаю ўмывалась,
Розаю ўціралась.
— Я калінаю не ўмывалась,
Розаю не ўціралась.
Я вадзіцаю ўмывалась,
Ручнічком уціралась.
Я такая, як мой баценька,
На пасаг удалась.

* **Кожны** наступны радок паўтараецца.

Да хваліўся жанішок,
Да з вянца прыехаўшы,
Перад цесценькам стаўшы:
— Да хвала ж табе, божанька,
Што мая дзевачка разумна:
Маго бацька знаць не знала,
А бацюхнам назвала,
Маёй маткі знаць не знала —
Маткаю назвала.

Красна-ясна
Каліна ў лузе,
А красней таго
Ганначка ў мамачкі.
Па двару хадзіла,
Увесь двор скрасіла.
А ў сені ўвайшла —
Сені заззялі.
У хату ўвайшла —
Пакоі сталі.
А як ў цэркву зайшла —
Папы паўставалі,
Кніжкі чыталі,
Ганначку вянчалі.

Прыехала дзеванька з шлюбу,
Пакланілась з рутанькаю.
Пакланілась з рутанькаю,
Перад сваёю мацюнкаю.
— Мая мацюнка-рожа,
Паздароў цябе, божа,
Што ты мяне нарадзіла
За добрага сем'яніна.
На мяне папы глядзяць,
На мяне дзякі глядзяць,
На мяне задзівіліся,
Што ў ксёнжках памыліліся.

Дзякуй табе, мая маманька,
Што ты мяне да ўрадзіла.
Што ты мяне да ўрадзіла,

Харошага сем'яніна.
Што на мяне і папы глядзяць,
Што на мяне і дзякі глядзяць,
Што на мяне задзівіліся,
Ў кнігах памыліліся.
Сем кніг да перабралі,
Пакуль мяне звянчалі,
А восьмую да маленькую
За мяне, маладзенькую.
І стаялі са свячамі,
Пакуль мяне звянчалі.

Дзякуй табе, мая матанька,
Што ты мяне згадавала
Да хораша ўчалядзіла,
Што на мяне папы глядзяць,
Што на мяне дзякі глядзяць,
Што на мяне задзівіліся,
Да й на кнізе памыліліся,
Да на мой ціхі паход,
Да на мой нізкі паклон,
На маё бела лічка,
На маё ясна вочка.

Мая маці гасударыня была,
На што ж мяне таку ладну дала,
Ці для попа, ці для дзячанька,
Ці для тога для казачанька,
Што на мяне і папы глядзяць,
Што на мяне і дзякі глядзяць,
У кніжачках спамыляюцца
Да на мяне прызіраюцца.

А ў гародзе чырвоная макоўка,
Зацвіцела ў дзевачкі галоўка.
Чаму ж яна так раненька цвіцела?
Мусіць, яна пад вяночак хацела.

— Пад чым, Манечка, стаяла,
Чым твая галоўка ўпала?
— Пад калінкай стаяла,
Кляновым лісточкам упала.
— Ці ты хустачкі не мела,
Чаму ты галоўку не ўкрыла?
— Хоць бы я мела і ўкрыла,
Я сваёй матачцы няміла.
Скланюся нізенька — не прыме,
Мяне з зямелькі не ўздыме.
— Я з жалю ручак не ўздыму,
Што цябе маладу аддаю.
Што цябе маладу аддаю,
Да ў тую чужу старонку.
Да ў тую чужу старонку,
Да тога чужога дзіцяці.
Хто цябе там будзе шанаваці?
— Пашануе мяне малады малойчык,
Я за вядзерца, ён за другое,
Пойдзем па вадзіцу, разам абое,
Варотца адчыне, вядзерца прыме.

Дзе ж ты, Галіначка, бывала,
Чаму твая косачка апала?
— Бывала я, дзеванькі, пад вянцом,
Напала косачка туманцом.
— Хіба ж ты хустачкі не мела,
Чаму ж ты косачкі не ўкрыла?
— Хаця б я косачку ўкрыла,
Ды я ж сваёй мамачцы няміла.
Я сваёй мамачцы няміла,
Пакланюся нізенька — не прыме.

— Дзе ж ты, дзевачка, пабывала,
Што твая косачка прыпала?
— Пабывала, дзевачкі, пад вянцом,
То прыпала косачка туманцом.
— Ці не было хустачкі накрыцца,
Ад гэтага туману бараніцца?
— Была ў мяне хустачка да не адна,

Я сваёй мамачцы незгадна.
Была ў мяне хустачка да беленька,
Я сваёй мамачцы не міленька.

— Ой, куды ты, дзеванька, хадзіла?
Што ты на сваю галоўку нарабіла?
— Я хадзіла, мой бацюхна, у вішнёвы сад
Да на маю галаваньку ўвесь цвет упаў,
Каб мяне мой хлапчына пазнаў,
Да з правае ручанькі пярсцёнак зняў,
Да прыйшоў і маманьцы паказаў.

— Дзе была, дзе ездзіла, Магдаленка,*
Што збыла, што набыла, Магдаленка?
— Ой, я збыла дзявоцкую ўсю гульбу
І набыла Юрачку на журбу.
Ён мне вады, дроўцаў прынясець,
І ён маю чорну коску растрасець.
І ён будзе галоўку маю журыці,
А мне будзе галовачка балеці,
І я буду не ў матулькі хварэці.

— Ай, дзе была, куды ездзіла, Ніначка,
А што прадавала, што купляла, Ніначка?
—А я была, мае дзевачкі, на рынку.
Я прадавала дзявоцку красату.
А я прадавала дзявоцку красату,
А купляла жаночую ташнату.
Я прадавала дзявоцкае гулянне,
А купляла жаночае страданне.
Дзевачкі пойдуць у зялёныя сады вянкі віць,
А я ж буду дробныя слёзкі дома ліць.
Дзевачкі пойдуць у зялёны садок гуляць,
А я буду дужа цяжанька ўздыхаць.

— Куды хадзіла, куды ездзіла, Марыська,*
І што прадавала, што купіла, Марыська?
— Я прадавала дзявоцкую красату,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Да я купляла жаноцкую ташнату.
Я прадавала дзявоцкае гулянне,
А купіла жаноцкае страданне.
Дзевачкі будуць па кірмашах хадзіці,
А я буду ціхусенька сядзеці.
Дзевачкі будуць вечарочкі спраўляці,
А я буду ціхусенька стаяці.

— А дзе была, куды ездзіла, Амелька?
— Я ездзіла, маладзенькая, на таржок.
— Што збывала, што набывала на таргу?
— А я збывала дзявоцкае гулянне,
А набывала жаночае гуканне.
Я збывала дзявоцкую красату,
А набывала жаночую ташнату.
За красату я сто рублей узяла,
А за ташнату капеечкі не аддала.
Пойдуць дзеўкі ў садочак вянкі віць,
А я, маладзенька, ў куточак слёзкі ліць.

— Маладая Люсенька,
Дзе была, дзе ездзіла,
Што прадала, што купіла?
— Прадала мамкі гульбу,
Купіла свякроўкі журбу.
Мамкі гульба, як мак цвіціць,
Свякрухі журба, як жар гарыць.

— Дзе была, дзе была, маладая Ганулечка?
— Была я, была я на рыначку.
— Што прадала, што прадала, маладая Ганулечка?
— Прадала я, прадала я руцвяны вяночак.
— Што купіла, што купіла, маладая Ганулечка?
— Купіла я, купіла я шаўковы каптурочак.
— Што ўзяла і што плаціла, маладая Ганулечка?
— За вяночак узяла дзевяцьсот рублёў,
За чэпчык заплаціла дзевяць грошаў.

— Пахваліся ды, наш Пецечка, дзе бываў,
Што ж ты сабе харошае набываў?
— Не маю чым, мае дзевачкі, хваліцца.
А збыў жа я дзяцюцкую ўсю гульбу.
А нажыў я на галовачку ўсю журбу.
А збыў жа я дзяцюцкае гуканне,
А набыў жа я мужчынскае гулянне.

— А гдзе хадзіў, а гдзе ездзіў, Юзенька малады,
А што прадаў, а што купіў, малады?
— Прадаў гульню, купіў журбу, малады,
Купіў пілу на сваю галаву, малады.

Ой, рад-радзёшанек Якушка,
Што ў царковачцы пабываў,
Нааднэй дошчачцы пастаяў,
З аднэй чарачкі выпіваў,
Аднаму богу прысягаў.

Рад салавейка, вельмі рад,
Што ў садочку пабываў
І вішні, чарэшні падзяўбаў,
Сабе зязюльку спадабаў.
Ой, рад Цімошка, вельмі рад,
Што ў цэркаўцы пабываў,
На белым ручнічку пастаяў
І з Матронкай шлюб узяў.

Ой, рад [Іванка, вельмі рад],
Што ў божым дамку пабываў,
На белым ручнічку пастаяў,
За белую ручаньку падзяржаў,
Залатыя пярсцанькі памяняў,
З Марынкаю шлюб узяў.
— Да мецена улічанька і дварэц,
Заплаці, Іванька, за вянец.

Ой, рад-радзенек маладзы Іванька,
Што ў божым доме пабываў,
Маладу Адарку за ручку падзяржаў,
Да з правай ручанькі персцень зняў,
Да на яе левую ўзлажыў:
— Да насі, Адарка, персцень мой,
Бо ўжо я буду вечны твой.

Ой, рад малады, вельмі рад,
Што з маладою шлюб узяў.
Ой, яшчэ таму раднейшы,
Што на ручніку пастаяў,
З правае ручкі персцень зняў,
Сваёй матулі дараваў:
— На табе, матулю, пярсцёначкі
Ад мае Ганулі-каханачкі.

Ой, наш хлопчык вельмі рад,
Што перад богам пастаяў,
Дзевачку за ручку падзяржаў,
З правае рукі персцень зняў
Да панёс мамачцы напаказ:
— Вот табе, мамачка, значочак,
Мае дзевачкі персцянёчак.

На рэчцы кладзеткі кладзены,
Тудым дзеўкі везены,
Там папове стаялі,
Ярую руценку асвяшчалі,
Маладую Матронку звянчалі.
А гдзе ж узяўся папочак,
Зняў з Матроны вяночак,
Занёс мацэнцы значочак:
— На табе, мацэнка, дочкін знак,
Ой, дай, божа, і меньшай так.

Слаўна сяло Прыданцы,*
Ні ўвайсці ў яго, ні ўехаць,
Толькі сакалом уляцець,
Свайго тавару паглядзець.
Ці ўвесь наш тавар старгаваў,
На белым ручнічку пастаяў,
Залатыя пярсцёнкі памяняў
І з левай рукі на праву,
Навязем мамачцы на славу:
— Вот табе, мамачка, славачка,
Вот табе, мамачка, падаркі
Ад маладой Манечкі-каханкі.

Чаго сватаўкі седзіцё,
Чаму да домайку не йдзіцё?
Тэкля шчэ наша — не ваша.
З сабою не возьмеце,
Панядзелачку дажджыце,
То прыйдзіце — вазьміце.
А цяпер яшчэ наша — не ваша.
З сабою не вазьмеце.

* Кожны радок паўтараецца.

# ВЯРТАННЕ МАЛАДОГА ДАДОМУ

Ой, дзеванька жанішка прасіла:
— Не йдзі, молад жанішок, ад мяне,
Бо на цябе цёмна ночанька наступіць,
Бо ты ж мае да падарачкі пагубіш,
Заехаўшы, свайму бацэньку абсудзіш: —
«Ой, санліва наша дзеванька, санліва,
Што яна нам да падарачкаў не дала».

Васілька ад'язджае,
Аляксандра не пускае:
— Васілька, начуй у нас,
А на другу — я ў вас.
Табе дарога перакопана,
Шчукай-рыбай пераложана,
Быстрай рэчкай апушчана.

Саколік да бору ляціць,
Рабенькі да бору ляціць,
Зязюлька паралятае,
Зязюлька паралятае.
— Саколік, кідаеш мяне,
Родненькі, кідаеш мяне.
— Зязюлька, цяпер пакіну,
Родненька, цяпер пакіну,
А заўтра спозна налену,
А заўтра спозна налену.
— Саколік, чаго так спозна,
Родненькі, чаго так спозна?
— Пакуль я сад аблену,
Пакуль я зязюлек збяру,
Пакуль я зязюлек збяру.
Жанішок дадому ідзе,
Дзевачка ў слядок ступае,

Дзевачка ў слядок ступае.
— Жанішок, кідаеш мяне,
Малады, кідаеш мяне.
— Дзевачка, цяпер не кіну,
А заўтра спозна прылену,
А заўтра спозна прылену.
— Жанішок, чаго ж так спозна,
Малады, чаго так спозна?
— Пакуль я сяло абыду,
Пакуль я дружачак сабяру,
У той час да цябе прылену,
У той час да цябе прылену.

Саколік да бору ляціць,
Зазулька пералятае,
Саколіка пытае:
— Саколік, калі прыляціш?
— Зазюлька, спозна прылячу,
Пакуль я ўсе пташкі збяру.
Васілька дадому ідзе,
Марынка перабягае:
— Васілька, калі прыедзеш?
— Марылька, заўтра прыеду,
Пакуль усю дружыну збяру —
Семсот сватоў без двух братоў.

Да наказвала вутанька да сіваенькаму селязню:
— Прыплынь, сіў селязень, быстраю ракою.
— Як жа я маю прыплываці?
У цябе рэчанька быстрая,
І лозенькі густыя.
Да наказвала дзеванька маладзенькаму жанішку:
— Прыедзь, прыедзь, малады жанішок,
У панядзелак раненька.
— Як жа я маю прыязджаці?
У цябе вароцечкі скрыплівы,
Твой бацюхна сварлівы.
— Я ж вароцечкі падчашу
І свайго бацюшку папрашу.
А такі прыедзь, малады жанішок,
У панядзелак раненька.

Што ж мовіла кунанька
Чорненькаму бобрыку?
— Прыплынь, прыплынь, чорны бобра,—
Цёмнай ночы добра.
Што ж мовіла дзеванька
Маладзенькаму жанішку?
— Прыедзь, прыедзь, жанішок,
У панядзелак раненька.
— Ой, як жа мне прыехаці,
Калі твой бацька багаты,
Вароты зачынены.

Наказвала вутачка сівенькаму селязёнчыку:
— Прылець, прылець, сівы селязёнчык,
Сей ночы цёмненькае.
— Ой, рад бы я ляцеці —
Каля цябе лясы цёмненькія,
Рэчанькі быстранькія.
— Я лясы паламлю,
Быстрыя рэчанькі загачу.
— Прыедзь, прыедзь, малады Іванька,
У нядзелю да параненьку.
— Ой, рад бы я ехаці —
Твой бацюхна гордзенькі —
Вароцечка да зачыняе,
Сватоў у двор да не пускае.
— Я бацюхну упрашу,
Вароцечка адчыню,
Коні на двор узвяду.

Каліна-вершаліна,
Каліна-вершаліна,
А хлопчычак да чужаніна,
Не едзь ка мне ныне,
А прыедзь ка мне ў панядзелачак,
Як я сяду між дзевачак,
Коскамі апушчуся,
Слёзкамі да абальюся.

Асіна балота красіла,
Ганначка Васечку прасіла:
— Не едзь ты ка мне ў суботу,
Я маю пільную работу,
А прыедзь ты ка мне ў нядзелю
На маю мяккую пасцелю.
Я ж цябе, маладога, дажыдаць буду
І ўсю сваю радзіну зваць буду.

Наказвала Марылька
Свайму маладому Іваньку:
— А не едзь, Іванька, ў суботу —
На маю цяжкую работу,
А прыедзь, Іванька, ў нядзелю —
Па маю мяккую пасцелю.
Калі будзеш ехаць у суботу —
Я табе шкодачкі нараблю:
На моры масточкі размашчу,
У бары дарожку заламлю,
У сяле старажоў пастаўлю.
— Не гразі, Марылька, не гразі:
На моры масточкі намашчу,
У бары дарожку расчышчу,
У сяле старажоў папрашу —
Я ж цябе, маладу, павязу.

За гару сонейка заходзіць,
Мар'ечка Якаўка надводзіць
І ў яго заплаты даходзіць.
— Заплаці, Якаўка, за надвод,
Бо заўтра не спушчу на свой двор.
Ой, замкну я брамы замкамі,
Каб ты не наехаў з сватамі.
Не мела я ад цябе гасцінцаў:
Ні з тваей кішэні пярсценяў,
Ні з твайго садочка яблычка,
Ні з тваей ляшчыны арэшка.

Вжа сонца заходзіць,
Вжа Маша Івана праводзіць.
Правяла яго за гору,
А сама вярнулася дадому.
Дружкі спяваюць:
— Вазьмі мяне, Івана, з сабою.
— Не вазьму цябе з сабою,
Заўтра прыйду з сястрою
І забяру цябе з сабою.

Сонейка за гару заходзіць,*
Ганначка Андрэйку праводзіць.
— Праведу я яго да лесу,
А сама вярнуся да часу.
Праведу я яго да бору,
А сама вярнуся дадому.
Праведу я яго з скрыпкамі,
А сама вярнуся з дзеўкамі.

На двара сонейка заходзіць,
Кацярынка Марцінка праводзіць
За той садочак вішнёвы,
За той гаёчак зялёны.
— Вярніся, Кацярынка, вярніся,
На траве росачка росіцца,
На цябе бацюхна грозіцца.
— Я ж тую росачку атрушу,
Я сваяго бацюхна упрашу.
Я сваяго бацюхна упрашу,
Такі свайго Марцінка праведу
За той садочак вішнёвы,
За той гаёчак зялёны.

Да сонейка за хмарку заходзіць,
Да дзевачка свякратка праводзіць
Да за той садочак вішнёвы,
Да за той гаёчак зялёны.
Да і ў тым садочку ж расіца,

* Кожны радок паўтараецца.

Да на яе свякратка гразіцца.
— Не гразіся, свякратку, не гразіся,
Я ж тую расіцу й атрушу,
Я ж тую расіцу й атрушу,
Я ж свайго свякратка упрашу.
І атрушу расіцу пагану,
І ўпрашу свякратка паклону.

Іван звянчаны вязе бацькові падарак —
Тоненькі, беленькі сувалак,
Бо ўжо больш годзі ждаці,
Хоча Мар'юхну к сабе ўзяці.

Едзь, Валодзька, дамоўкі,
Вязі матульцы падаркі
Ад свае Кацюлькі-каханкі.
Каханка Кацюлька, каханка,
У яе косачка каванка.
Як панаехалі кавалі,
А ўсе з чужыя стараны,
Кацюльцы косачку раскавалі,
Валодзьку коніка падкавалі
На ўсе чатыры капыты
Усё з Кацюльчынай красаты.

Паночак [Іванка], паночак
Зняў з дзеўкі вяночак,
Панёс бацэньку на значок.
— От табе, бацэньку, падаркі
Ад мае дзеванькі-каханкі.

То дзівіцца жанішок па хаце,
Каб сваю матаньку пазнаці,
Каб тыя падаркі аддаці:
— От табе, матанька, падаркі
Ад мае дзевачкі-каханкі.
От табе, матанька, ручнічкі
Ад мае дзеванькі-ключнічкі.

Знацi, што восень, знацi, што восень —
Халодны вецер вее.
Чуцi маладога па галасоньку,
Што ад цесценька едзе.
Яго конiчак сiў, невялiчак,
Памаленьку ступае.
Дзяржыць хустаньку ў правай ручаньцы,
Слёзанькi ўцiрае.
Яго вяночак з шчырага злота
Шапаньку пакрывае.

— Ох, i сiзы селезень,
А цi быў ты на моры,
Цi бачыў там сваю вутачку?
— Я з ёю да наплаваўся,
За крылечкi надзяржаўся.
Яна ад мяне ў чарот пайшла —
Пад ёю чарот гнецца,
Цераз спiнку вада льецца.
— Маладзенькi Iванька,
А цi быў ты ў цешчы,
Цi бачыў там сваю дзевачку?
— Я з ёю да насядзеўся,
За ручачкi надзяржаўся.
Яна ад мяне да ў клець пайшла —
Пад ёю памост гнецца,
Руса каса на плячы б'ецца.

Шумела дуброўка, шумела,
Iдучы дарожкай звiнела.
Пайшла ў вароцейка стала,
Слаўнага малойца пытала.
Слаўны малойчык Яначка
Па месяцы конi сядлае,
Па зары дружынку збiрае,
Да свету ў цясцяткi гуляе,
Раннiя абеды з'ядае.
— Я абедаў цi не абедаў,
А сваю Ганначку адведаў.

— Ці быў ты, селязень, на сінім моры,
Ці відзіў ты, сіз селязень, сваю шэру вуціцу?
— Толькі я, сіз селязень, на сіне мора,
А мая вуціца ў траснік паплыла.
Упераду яе ваду валной б'юць,
Каля бакоў усё траснік шуміць,
А ззаду вуцюшаты плывуць.
— Ці быў ты, Іванька, у цесця на дварэ?
— Толькі я, маладзец, на айцоўскі двор,
А яна, малада, ў цяром пайшла.
Упераду ей, у маладой, ў цымбалушкі б'юць,
А каля бакоў баяркі ідуць,
А ззаду свацці песні пяюць.

— Ай вы, гусі мае шэрыя,
Вы далёка лятлі,
Што вы чулі, відзелі?
— Ай, мы чулі, відзелі
Шэру вутку на моры.
Як яна скора на моры,
Так за ей траснік гнецца,
Перад ёй вада льецца.
— Ах вы, сваты-сватове,
Вы далёка ездзілі,
Што вы чулі, відзелі?
— Гапульку ў цераме.
Як яна скора з церама,
Дык пад ёй масты гнуцца,
Перад ёй кубкі льюцца,
А на ёй вянкі зіяюць,
А за ёй гуслі іграюць.

— Дзе бываў, сівы галубчык,
Дзе бываў, лятаў далёка?
А ці быў жа ты на моры
Да ці быў жа ты на сінім?
Ці відзеў сваю галубку,
Ці відзеў сваю сівую?
— За малым-малым не ўвідзеў,
За малюсенькім не ўбачыў:

Як я на мора ўзляцеў —
Дык яна ў трысцё ўпала,
А за ёй трысцё гнулася,
За трысцём вада гудзела,—
Там галубачка сядзела.
— Дзе бываў, млоды Яначка,
Дзе бываў, ездзіў далёка?
Да ці быў жа ж ты ў цешчы,
Да ці піў жа ж ты гарэлачку?
Ці піў жа ж ты гарэлачку,
Ці відзеў сваю паненачку?
— За малым-малым не ўвідзеў,
За малюсенькім не ўбачыў:
Як я на падвор'е ўз'ехаў —
Дык яна ў сені ўскокнула,
Чаравічкамі стукнула,
Шаўковай хусткай махнула.
А за ёй скрыпкі ігралі,
За скрыпкай дзеўкі пяялі.
На ёй сукенкі ляпелі,
Па ёй хлопцы аж млелі.

— Галуб, галуб-галубачка,
Залатая галовачка.
Ай, ці быў ты на моры,
Ай, ці відзеў ты вутачку?
— Калі ж было мне бываці,
Вутачку ды відаці?
Як усплыў жа я на мора,
Дык вутачка ў траснік пайшла,
Дробкай траснік расхінала,
Лапкай ваду заганяла,
На бакі пазірала,
Ад мяне ўцякала.
— Маладзенькі ты Міколка,
А ці быў ты ў Манечкі?
— Калі ж было мне бываці,
Манечку відзіці.
Як ўз'язджаў на двор,
Дык Манечка ў церам пайшла,
Рукой церам закрывала
І ў ваконца пазірала.

— Беленькі лябёдзька, 2
Ці быў ты на моры, 2
Ці відзеў лябёдку?
— Чаму ж я там не быў, 2
Чаму ж я не відзеў.
Толькі я к сіняму мору, 2
Лябёдка ў вазёру.
Тросцячка зашумела, 2
Вадзіца залялела. 2
Лябёдка схавалася.
— Не хавайся, лябёдка, 2
Многа лебядзёў маю, 2
Тростачку абламаю, 2
Лябёдку спаймаю.
— Малады Іванка, 2
І ці быў ты у цясцяткі, 2
Ці відзеў Манечку?
— Чаму ж я там не быў, 2
І чаму ж я не відзеў.
І толькі я к цесцю на двор, 2
А ў цесця высока церам.
Ключыкі зазвінелі, 2
І пярсцёнкі залялелі.
Пярсцёнкі залялелі,
Шаўкі зашумелі, 2
Манечка схавалася.
Не хавайся, Манечка, 2
Многа брацітkаў маю, 2
Церам паламаю, 2
Манечку спаймаю.

Рана, рана...
— Сівы-белы да галубаньку,
Ці быў жа ты на Дунаеньку,
Ці бачыў ты да галубаньку?
Быў жа я на Дунаеньку,
Бачыў я сіву галубаньку.
Пад ёй вада бяжыць,
А на ёй пер'і звіняць.
— Малады Іванка,
Ці быў жа ты ў сваей цешчанькі,
Ці бачыў ты сваю Мар'юхну?
— Быў жа я ў сваей цешчанькі,
Бачыў я сваю Мар'юхну.

Ходзіць яна па надвор'ю,
Да на ёй сукня шамшыць
І пад ею зямля дрыжыць.

— Ой ты, селязенька, сізы селязенечка,
Чы не быў жа ты на сінім моры,
Чы бачыў жа ты сваю вутачку?
— Ой, як жа я меў бачыці?
Толькі я ў Дунай існлыў,
А вутачка ў ачарот пайшла.
Пад ею ачарот трашчыць,
На крылечках вада плюшчыць.
— Малады жа да Лёўка,
Чы бачыў ты сваю Аленачку?
— Ой, як жа я меў бачыці?
Толькі я ў двор канём уз'ехаў,
А яна ж, да Аленачка, і ў клець пайшла.
Пад ею чаравічкі скрыпяць,
На ей шаўкі шумяць,
На ручачках персцені мае,
А на шыі зямчуга ззяе.

— Да ці быў, ці быў, белы лябедзю, на моры,
Ці бачыў, бачыў сваю лябёдку плывучы?
— Да як скора я на сіняе мора і злятаў,
То мая лябёдка ў шчытнічак паплыла,
Да каля яе вадзіца лялела,
Да каля яе трасцейка шумела.
— Да ці быў, ці быў, малады дзяцінка, у цесця,
Ой, да ці бачыў, бачыў сваю дзеваньку ходзячы?
— Як скора я на цесця двор і з'язджаў,
То мая дзеванька ў новую клець пабегла,
Да каля яе ключыкі звінелі,
Да каля яе сукенкі шамрэлі.

— Уж ты, сізенькі селязень,
Ці быў жа ты на моры,
Ой, ці відзеў ты вуціцу?
— Уж я, сізенькі селязень,

Ой, быў жа я, быў на моры,
Ой, відзеў жа я вуціцу:
Вутка ў траснік паплыла,
Пад ею вада лялеіць,
Над ею траснік зелянеець.
— Ты, маладзенькі Рафейка,
Да быў ты ў свайго цесця,
Ой, відзеў ты Усцінню?
— Я, маладзенькі Рафейка,
Ой, я быў жа ў свайго цесця,
Я відзеў жа Усцінню:
Усцiння на цяром пабегла,
На ей нарады шумелі,
Подле боку ключы звінелі.

— Ах ты, сізенькі галубок,
Ты лятаў лі, лятаў лі за мора?
Ты лятаў лі, лятаў за мора,
Ты відаў лі, відаў шэру вуціцу?
— Я лятаў, лятаў за мора,
Я відаў, я відаў шэру вуціцу:
З трасніка ў траснік лятала,
Яна крылышкамі да браздзжала.
За ей пташачкі ў тры рады,
Да не то што ў тры, да і ў чатыры.
— Ты маладзенькі князь Ягор,
Ты бываў лі, бываў да ў цешчанькі?
Ты бываў лі, бываў у цешчанькі,
Ты відаў лі, відаў свет-Алёнушку?
З церама ва церам бяжала,
Башмачкамі яна стучала.
На ей плацціца шумела
Да павязка алела.
На мяне яна толькі глянула,
Шаўковым платком толькі махнула.
За ей дзевушкі ў тры рады,
Да не то што ў тры, да у чатыры.

— Сівы-белы селязеньчыку,
Ці быў ты на Дунайчыку?
Ці быў ты на Дунайчыку,

Ці бачыў сваю вутачку?
— Толькі я на Дунай уляцеў,
Аж яна ў чарот плыве.
Аж яна ў чарот плыве,
А за ёй сем селязняў плывуць.
На крыллечкі наплываюць,
У вутачкі пытаюць:
— Ці паляціш ты з намі,
З намі, з селязнямі?
— Я гатова, гатавесенька,
Ой, да з вамі, селязнямі.
Я гатова, гатавесенька,
Ой, да з вамі, з селязнямі.
— Ой, маладзенькі Колечка,
Ці быў ты ў сваёй Любачкі?
Ці быў ты ў сваёй Любачкі,
Ці бачыў сваю мілую?
Толькі я на двор узехаў,
Аж яна ў клець бяжыць.
Аж яна ў клець бяжыць,
А на ёй плацце шалясціць.
А за ёй сем маршалкаў бяжыць,
На пятачкі наступаюць
І ў Любачкі пытаюць:
— Ці паедзеш ты з намі,
Ой, з намі, да з маршалкамі?
— Я гатова, гатавесенька,
Ой, з вамі, да з маршалкамі.
Я гатова, гатавесенька,
Ой, з вамі, да з маршалкамі.

— Касаценькі селязенечка,
Ці быў жа ты да на Дунаёчку,
Ці бачыў ты сваю вутачку?
— Калі ж і мне было яе бачыць?
Толькі ж я да на Дунаёчак,
А вутачка дагадалася,
Ў густы чэрат захавалася,
Травінкаю да не шамнула,
Крылушкамі да не трапянула.
— Малады ды Іванечка,
Ці быў жа ты ў сваёй цешчухны,

Да ці бачыў сваю дзевачку?
— Калі ж і мне яе было бачыць?
Толькі ж я да канём на двор,
А дзевачка дагадалася,
Дзвярамі да не стукнула,
Чабатамі да не рыпнула.

— Селязенька, ці быў ты на моры,
Ці відзеў вутачку?
— Быў жа я, быў жа на моры
І відзеў жа я вутачку.
У мае вутачкі, у мае вутачкі
А пер'е цяцер'е,
А крылле павінне.
— Ты, Іванька, ці быў ты ў дзевачкі?
— Быў жа я, быў жа ў дзевачкі,
За столікам сядзеў,
На Галечку глядзеў.
У маёй Галечкі пярловы вяночак,
Шаўковы шнурочак.

— Селязенька, галоўка сівенька,
Ай, ці ты быў, ай, ці быў,
Ці быў ты на моры?
Ці відзеў ты вутку?
— Чаму ж я не быў,
Чаму ж я не відзеў?
Я на моры быў,
На беразе сядзеў,
На вутачку глядзеў.
У маёй вутачкі сізае пер'е
І быстрае крылле.
— А Іванька, Іванька,
Ці быў ты у цёшчы,
Ці бачыў ты дзеўку?
— Я ў цёшчы быў,
За сталом сядзеў,
На дзевачку глядзеў.
У маёй дзевачкі
Па плечыках коска,
Па лічыку слёзка.

Мая дзевачка
Пры сталу стаяла,
Кубкі налівала,
Кубкі налівала, гасцей частавала.

— Ой, і дзе ж вы ляталі, і дзе ж вы бывалі,
Што ж вы відалі, шызныя галубочкі?
— Мы слыхалі, мы відалі
Галубку ў гняздзечку.
— І дзе ж вы ездзілі, і дзе ж вы бывалі,
Што ж вы відалі, маладыя баяры?
Калі ж ездзілі, калі ж бывалі,
Чаму ж яе з сабой не ўзялі?
— Калі бог дасць, калі бог судзіць,
Дык яна наша будзець.

— Сакалы, сакалы,
Гдзе вы бывалі
Да каго вы відалі?
— Мы відалі, відалі
Шэру вутку на моры.
— Чаго ж вы, сакалы,
К сабе яну не ўзялі?
— Мы ўзяць не ўзялі,
Сіза пер'е абарвалі.
— Баяры, баяры,
Гдзе ж вы бывалі?
— Далёка мы бывалі,
Відалі красну дзеўку,
Красну дзеўку ў цераму.
— Чаво ж вы яну не ўзялі?
— Мы ўзяць не ўзялі,
Касу расплялі,
Па плячах распускалі.

## ЧАКАННЕ МАЛАДОГА

— Ой, куры, куры,
Да не пойце рана.
Да не пойце рана,
Не кажыце свет,
Бо заўтра па абедзе
Да Іванка прыедзе.
Да прыедзе Іванка
На вараных конях.
На вараных конях,
На залатых сёдлах.
Да выпусціць коніка
Да на раннюю росу,
Да заплятуць Волечцы
Да русую косу.
— Няхай мой конічак
Па расе паходзіць.
Няхай мая Волечка
І ў касе паходзіць.
Няхай мой конічак
Па расе паскача.
Няхай мая Волечка
І ў касе паплача.

— Зыдзі, сонейка, абжані расу,
Ой, рана, рана, абжані расу.*
Устань, дзеванька, расчашы касу,
На тваю касу імгліца ўпала.
Чаго, дзеванька, смутная ўстала?
— Ой, як, падружкі, смутнай не быць,
Сваю мамулю цяжка забыць.
Свая мамуля рана не будзіць —
Свякроўка ўстане, пойдзе, абсудзіць: —
«Мая нявестка доўга спаць любіць».

* Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

— Да папытайся, дзяўчынка, у маці свае,
Чы заслала цісовыя сталы,
Чы зазвала яна дружачкі твае,
Чы пасадзіла за цісовы сталы.
— А мамачка мая мне сказала,
Штоб я сваіх дружачак сама звала,
Да за цісовы сталы пасаджала,
Да на іх паглядала.
А, дзевачкі да галубачкі,
Ужо ж мне з вамі не пагуляціся,
Ужо ж мне з вамі да не відаціся.

Плыла вутачка ракою,
Вяла вуцянянтка за сабою:
— Уць, уць, вуцянятка, мае дзетанькі,
Будзьце вы да разумныя,
Як будуць ляцець варонкі,
Хавайце ў капе галоўкі.
Ішла дзеванька з каморы,
Вяла дружачкі за сабою:
— Дружачкі, мае сястрыцы,
Будзьце вы да разумныя,
Як будуць ехаць сватове,
Абсядзьце мяне наакола.

Хадзіла Вандачка, хадзіла,
У радочак дзевачак садзіла.
Садзіла дзевачак у тры радочкі,
Вучыла песенькі ў тры галасочкі.
Дзевачкі пелі дый перасталі,
А Вандачцы перастанку нету.
А малойчык не знае,
Яе не ўнімае.

А лятапі галубкі
Каля нізу ў лозанькі.
— А сізыя галубкі,
Не абатрыце лісцейка,

Не абламайце суччайка:
У мяне лісцейка летняе,
У мяне суччайка зімняе.
А сядзелі падружкі
Каля краснай Сахвейкі.
— Памаленьку, падружкі,
Не абатрыце серабра,
Не абламайце золата:
У мяне серабра таткіна,
У мяне золата мамкіна.

Ляцелі галачкі рад па радочку,
Зязюля — наперадзе.
Ішлі дзевачкі рад па радочку
Волечка — наперадзе.
Усе галачкі селі на кусце,
Зязюля — на каліне.
Усе дзевачкі песні запелі
Волечка заплакала:
— Вы, галачкі, не трыце лісцейка,
Не ламайце голлейка.
Лісцейка да то ветрава,
Голлейка да то богава.
Вы, дзевачкі, не трыце золата,
Не ламайце серабра.
Золата — да то мамухна,
Серабро — да то татухна.

Абвіліся пчолкі каля нашай лозачкі.
— Паволі вы вейцеся, паволі садзіцеся.
Не абатрыце лісцейка, не абламіце суччайка.
Абвіліся баярачкі каля нашай Магдаленкі.
— Паволі вы вейцеся, паволі садзіцеся,
Не абламіце золата, не абатрыце серабра.

Зборная нядзеля настае,
Маладая Параска дружак дастае.
Сабрала сабор таткаў двор,

Насаджала дружак повен стол.
Сама села вышай усіх,
Апусціла галовачку ніжай усіх,
Задумала думачак болей усіх.
— Не думай, Параска, не думай,
Плысці табе дзве рэчкі і ціхі Дунай.
— Я гэтыя рэчачкі перабуду,
Таткавы раскошы не забуду.
Мінаюцца раскошы, сама бачу,
Не раз, не два па раскошы заплачу.

Сядзьце-пасядзьце, мае дружачкі
Па маіх белых лаўках.
Ох, пакуль прыедзе, пакуль прыедзе
Мой Колечка з баярамі.
Колечка ідзе, рожачкай цвіце,
Мне завязаны свет.
Завязаў вочы цёмнае ночы
Белаю кітайкаю.
Не так белаю, як бяленькаю,
Чорнаю нагайкай.

Хадзіла каза па сенажаці,
Шукала месца, дзе паляжаці.
— Да лягла б я на вербалозе,
Да баюся сівага воўка:
Учора прыбягаў, дзетачкі пабраў,
Сягоння прыбяжыць, самую забярэ.
Хадзіла дзеванька па новых сенях,
Шукала месца, дзе пасядзець.
— Села б за столікам,
Да баюся ж я маладога хлопца:
Учора прыязджаў, падарачкі забраў,
Сёння прыбяжыць, самую забярэ.

Не стой, рабіна, вышэй лесу,
Выпадзіць на цябе тры пагоданькі:
Адна пагода — на самую зеляну,

Другая пагода — на лісцейка,
А трэцяя пагода — на ягоды.
Сама, зеляна, састарышся,
Лісцейка вецер саб'ець,
А ягоды птушкі з'ядуць.
Не сядзі, малада, вышэй дзевачак,
Прыедуць пад цябе тры падводанькі:
Адна падвода — пад саму маладу,
Другая падвода — пад русу касу,
Трэцяя падвода — пад красату тваю.

— Сцеражыся, Анечка, сцеражыся,*
Блізка ля ваконца не садзіся,
Бо твой Пецечка на зрадзе,
Ён цябе, моладу, украдзець.
Прывязець ён сюды бочку віна,
Пры боку каліту серабра.
— Я ж тую бочку віна разлію,
Я ж тое серабро рассыплю,
Я ў свае мамачкі гуляць буду.

Беражысь, Алёнка, беражысь,*
Ля вакенца спацькі не лажысь.
Прыедзе Іванька і зрадзе,
Ён цябе, маладу, украдзе,
За ціхі Дунай завязе,
За тыя рэчачкі быстрыя,
За тыя лозы густыя.
Ай, дзе мужыкі пышныя,
Што мяняюць коні без цаны,
А б'юць жоначак без віны,
Без ўсякія прычыны,
Што няма на печы лучыны.
На печы лучына сушыцца,
Мамка па дачцэ журыцца.

Зрабіла дзеванька славу,
Насадзіла дзевак лаву.
Сама села — чырвона, бела,
Выша дзевачак села.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Знаці-пазнаці каліну ў саду:
Расце нізенька, а цвіце бяленька.
Цвіце бяленька, ягодкі чырвоны.
Знаці-пазнаці маладую ў хаце.
Па плячах косы, па лічку слёзы,
На руцэ ручнічок тонкі, бяленькі,
Тонкі, беленькі, слёзак паўненькі,
А як шчэ і пойдзе, тай да чужога,
Да свёкра свайго,
То яшчэ і будзе тоньшы, бялейшы,
Тоньшы, бялейшы, слёзак паўнейшы.

Ды не знаць месяца ды за звяздамі,
Толькі знаць месячык па зараначчы.
Ды не знаць Ганначкі за дзевачкамі,
Толькі знаць Ганначку па галовачцы.
На яе галоўцы, як жарок гарыць,
Над усю дружыну, як мачок цвіціць.

Не відаць соўнышка запаморскага,
Толькі знаць па кружочку.
Не відаць Мар'юшкі за баярамі,
Толькі знаць па вяночку.
А на ёй вяночак, як жар гарыць,
А на ёй платочак, як мак цвіцець.
Жар гарыць — разгараецца,
Мак цвіцець — расцвітаецца.

Не мак цвіцець, не ружовы цвяточак —
А расцвіла ўся Галінчына галоўка.
Яе татулька, яе родненькі не пазнаў —
Выйшаў на ганак ды ў дзевак папытаў:
— А што ж гэта за каралева за сталом?
— А не пытай, родны татачка, не пытай,
А я ж ужо не работніца табе,
А я ж ужо і не хатніца табе,
А я хатніца, работніца суженьку —
Свайму маладзенькаму Іваньку.

Там не трэба свечачкі,
Дзе паселі дзевачкі.
Засвяціў залаты вянок
У дзевачкі на галовачцы,
Да на яе русай касе,
На дзявоцкай красе.
Да дзявоцкая краса —
Як пятровая раса,
А кабецкая краса —
Як калінка на марозе:
Будні дзень на рабоце,
А святы дзень на грызоце.
Будні дзень наробішся,
А святы дзень наплачашся,
Сваёй мамкі наклічашся.

Ды каліна-маліна
Ўсе лугі пабяліла
Сваім беленькім цветам,
Чырвонаю ягадкай,
Спелаю, салодкай.
Красна дзевачка, красна,
Усіх дзевак украсіла
Сваімі ўборамі,
Ціхімі размовамі.

Садовая яблынька
Да між вішанек стаіць —
Ні лісточка не роніць,
Ні яблычка й не родзіць.
Маладая Волечка
Паміж дзевачак сядзіць —
Ні слёзачкі не роніць,
Ні галоўкі не клоніць.

— Ой, што за вішанька між чарэшнямі сядзіць?
Ні вішані, ні чарэшаны, ні дробных ягадак.
Ой, што за Геленка між дзевачкамі сядзіць

І песень не спявае, і загадак не загадае,
Анно слёзкі раняе?
— Ой, казала мне маці песень не спяваці,
І загадак не гадаці, анно слёзкі раняці.

— Чаму ж ты, зязюлька, не куеш?
Ты ж сабе гняздзечка не саўеш.
Будзе летца — да мінецца,
Тады табе, зязюлька, жаль будзе,
Што ў цябе гняздзечка не будзе.
— Чаму ж, дзевачка, не пяеш?
Ты ж сабе вяночка не саўеш.
Будзе летца — мінецца,
Тады табе жаль будзе,
Што ў цябе вяночка не будзе.

— Як табе, рожачка, аднэй у гародзе
Роза мая чырвоная?
— Ей-богу, не адна, дайдушы не адна,
Роза мая чырвоная.
Сколькі цвяточкаў — і ўсе ля мяне,
Роза мая чырвоная.
Аднаго нету баравога цвету,
Роза мая чырвоная.
— Як табе, Манечка, адной у мамкі?
— Дзеўкі мае, падружачкі.
Ей-богу, не адна, дайдушы, не адна,
Дзеўкі мае, падружачкі.
Сколькі ж дзевачак — усе ля мяне,
Дзеўкі мае, падружачкі.
Аднаго нету маладога Сярожкі,
Дзеўкі мае, таварышкі.
Ідзе ж ён будзе, ка мне прыбудзе,
Дзеўкі мае, таварышкі.
Ка мне прыбудзе, са мной жыць будзе,
Роза мая чырвоная.

— Рожа мая чырвоная,
Чом ты, рожа, адна у гародзе?
— Няпраўда твая, калі я адна.

Дзе былі красачкі — ўсе каля мяне,
Толькі нету белага цвету.
Красачку сарву, па баровы цвет пашлю,
Рожа мая чырвоная.
— Чом ты, дзевачка, адна у татачкі?
— Няпраўда твая, калі я адна.
Дзе былі дружочкі — ўсе каля мяне,
Толькі нету маладога хлопчыка.
Дружочка сышчу, па яго пашлю,
Рожа мая чырвоная.

Апенечкі-гаварушачкі, а навокруг калод,
А навокруг калод.
Аднаго нет, аднаго нет баравога груздочка,
Баравога груздочка.
Ветрык веіць, дождждык пройдзіць на землечку, змочыць,
На землечку, змочыць.
На землечку ж та змочыць — баравы груздок узойдзіць,
Баравы груздок узойдзіць.
Усе дзевачкі, усе падружачкі, а навокруг Рыпіны,
А навокруг Рыпіны.
Аднаго нет, аднаго нет маладога Архіпа,
Маладога Архіпа.
А дзень пройдзіць, вечар прыйдзіць, но Архіпачка прыедзіць,
Но Архіпачка прыедзіць.
— Не едзь, не едзь да, Архіпачка, а ў пятніцу рана,
Да ў пятніцу рана.
Прыедзь, прыедзь, а ў суботу позна,
А ў суботу позна.
А я буду ждаць, на сталы засцілаці,
На сталы засцілаці.

А ў нядзельку рана
Сіне мора калыхала.
Сіне мора калыхалася,
Сонейка да купалася,
А Марусенька да воду брала,
З сонейкам размаўляла:
— Сонейка маё яснае,

Дзе ж тады ты падзенешся,
Дзе ж тады ты падзенешся,
Як цёмна ночка настане?
— Ой, пайду па захмур'ейку,
Хмуркамі апушчуся,
Дождҗыкам абальюся,
З зоркамі распрашчаюся,
З месячкам сазнаюся.
— Маладая Марусенька,
Дзе ж тады ты падзенешся,
Як Валодзік прыйдзе?
— Ой, пайду па застоллейку,
Коскамі да апушчуся,
Слёзкамі да абальюся,
З вамі, дзевачкі, распрашчаюся,
З Валодзечкам сазнаюся.

Ранеңька соўненька ўсходзіла,
А раней таго Гапулька ўставала,
Бліжнім суседзям дакучала,
Сіты-рашоты даставала,
Мамкіну волю рассявала,
Свякровіну няволю к сабе брала.
— Мамкіна воленька мінуецца,
Свякроўкіна няволя са мной будзець.

Ой, пад цёмненькім борам
Гаварыла дзеўка з богам:
— Дай жа, божа, мне любага,
Да любага — харошага,
А свёкра — багатага,
А свякроўку — рабочую,
Каб я дзела не рабіла,
Толькі хораша хадзіла,
Да штодзень у аксаміце,
А ў нядзелю — у золаце.
Ў аксаміце — жыта жаці,
А ў золаце — пагуляці.

Лятала ластаўка, лятала,*
Дзевачкам праўдачку казала:
— Не ідзіце, дзевачкі, век замуж.
Замужам, дзевачкі, не ў мамкі —
Не будзіць жалеці так жалка,
Не будзіць раненька будзіці,
А выйдзіць на вулку судзіці: —
«Казалі, нявестка не вадзя,
Ніколі не ўстаніць не будзя».

Кацілася ясна сонейка з загор'я,*
Прасілася млода Валечка з застолля:
— Ой, дзевачкі, падружанькі вы мае,
Пусціце ж вы з застоллейка мяне.
Ой, яшчэ ж у мяне шырок дварок не мецен,
Ой, яшчэ ж у мяне усходанькі не мыты.
— Ой, вымецеш шырок дварок касою,
Ой, вымыеш усходанькі слязою.

Кацілася заранaчка з загор'я,
Прасілася наша сястрыца з застолля:
— Ды пусціце, мае сястрыцы, пусціце,
Ды я пайду ціхусенька паходам,
Пакланюся нізюсенькім паклонам,
Ды высцелю сыру зямельку коскамі,
Ды памыю белыя ножкі слёзкамі.

Як скацілася заранaчка з узгор'я,
Прасілася маладая Ніначка з застолля:
— Уі, баярачкі, сястрычкі мае,
Пусціце з-за столікаў мяне.
А хоць я па надворыку пахаджу,
А хоць я ў татулечкі двор пакрашу.
— Быў у суботку табе дзянёк вольны,
Было табе па надворыку хадзіць,
Было табе татулечку дварык красіць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— А ў суботу я вольнага часу не мела,
Я мамульцы у хатцы памыла
І баярачак прасіла.

Кацілася заранечка з загор'я,
Прасілася малада Манечка з застолля:
— Ай, пусціце мяне, дзевачкі, пусціце,
Хоць пахадзіць па таткавым дворыку
Ды паслухаць, дзе музыкі іграюць,
Ды паглядзець, дзе дзевачкі гуляюць.
— Не пусцім, наша Манечка, не пусцім,
А быў табе вольны дзянёчак — суботка,
Было слухаць, дзе музыкі іграюць,
Было глядзець, дзе дзевачкі гуляюць.
— А ў суботні дзянёчак не быў мне вольны часочак,
А я хадзіла дзевак-баярак прасіла.

Кацілася грушка з макушкі,
Прасілася дзевушка ў сваіх падружак:
— Пусціце мяне, маладу, пусціце з застолля,
Пусціце аглядзець бацькіна падвор'я.
Кацілася шышачка, кацілася з елачкі:
— Не кідайце мяне, маладу, не кідайце, жоначкі.

А дзевачкі-баярачкі, пусціце,
А пусціце з-за століка мяне,
А хоць жа я па надвор'ейку пахаджу,
А хоць жа я сваіх брацíткаў папрашу.
— А вы, брацíткі, вы родныя мае,
А прыхадзіце ў госцейкі да мяне,
А я ж буду у ваконца паглядаць,
А ці не ідуць жа брацюліткі і ка мне.

— Касіца мая русая,
Ты была ў мяне на здобе,
Твой вяночак пры тобе.

Пусці, матачка, у садочак,
Саўю табе вяночак.
— Не пара, дзіцятка, не пара,
Будзеш сягоння вечара аддана.
— Матачка сказала,
Дык мяне, маладу, звязала.
Чы на гэта мяне хавала,
Што на чужыя людзі аддала?
Чы на гэта мяне насіла,
Што на чужыя людзі пусціла?

На моры вутка купалася,
На беражку сушылася,
Дзевачка у мамкі прасілася:
— Пусці, пусці мяне, маці,
К дзеўкам на вулку гуляці.
Яе маці не пусціла,
У каморачку зачыніла.
У каморачцы паставіла
На вакенцы гарэлачку.
— Я вакеначка выб'ю, выб'ю,
Гарэлачку вып'ю, вып'ю,
К дзеўкам на вулачку выйду.

Ой, на хаце зелле,
А ў хаце вяселле.
— Пусці мяне, маці,
Ў той рай пагуляці —
Да паміж дудкі,
Да паміж скрыпкі,
Да паміж цымбаламі
З маладымі баярамі.

Прасілася Мар'юшка ва зялёны сад:
— Ты пусці, татанька, ва зялёны сад
Салаўя паглядзеці, песенек паслухаці.
— Дурачок, Мар'юшка, неразумная.
Ужо гэты салавей у нас будзець:
Мы яго наглядзёмся
І песень наслухаемся.

28. Зак. 555

Ой, явару, явару,
Як я з табой гавару,
Які ты цяпер харошы.
Прыйдзе па цябе ліх мароз,
Ён цябе замарозіць.
Ой, дзевачка, дзевачка,
Як ты ў бацькоў хараша,
Прыйдзе па цябе ліх муж,
Ён цябе надаб'е,
Тваю коску надатрэ.

Гаварыла пава з паваю:
— Якаво табе, павачка,
Седзячы над вадою?
— Датуль і мне харашо,
Пакуль дажджы пойдуць.
Гаварыла сястра з сястрою:
— Якаво табе, мая сястрыца,
Седзячы за скам'ёю?
— Датуль і мне добра,
Датуль нічога,
Пакуль баяры прыедуць.
Баяры на двор —
Пятруська за стол,
Усё ж маё мінаецца:
Дзявоцкае гуляннейка,
Маткіна каханнейка,
Бацькава ўзрастаннейка.

Ой, гаварыла пава з паваю,
Седзячы над вадою:
— Якаво табе, мая павачка,
Над быстрай ракою?
— Цяпер мне добра, цяпер харашо,
Як на дварэ пагода.
О, як узнімуцца буйныя ветры
Ды ўсё дробныя дажджы,
Беражочкі змыюць,
Мяне, павачку, зрыюць.
— Якаво табе, красна дзевачка,
У татачкі за столікам?

— Цяпер мне добра, цяпер харашо,
Як у роднага таткі.
О, як прыдуць пышны баяры
З маладым дзяцінкаю,
Дзевак разгонюць.
Дзевак разгонюць,
Мяне, дзевачку, возьмуць.

Там сядзела пава з паваю,
Гаварыла, седзячы над вадою:
— Ці добра табе, мая павачка,
Сядзець над вадой?
— Датуль мне добра,
Пакуль дожджык не ідзе.
Дожджычак пойдзе,
Беражкі пойме,
Павачка ў сплаў пойдзе.
Там сядзела сястра з сястрою,
Гаварыла, седзячы за скам'ёю:
— Ці добра табе, мая сястрыца,
Сядзець за скам'ёю?
— Датуль мне добра,
Пакуль Іваначка не прыйдзе.
Іваначка прыйдзе, розавы цвеце,
Мой завязаны свеце.
Завязаў вочы цёмнае ночы
Чырвонаю кітайкаю
І рамяннаю нагайкаю.

У садзе на вішаньцы сядзела паванька,
Сядзела паванька, галоўку спусціўшы,
Галоўку спусціўшы, пер'ейка распусціўшы.
Прыляцелі пташачкі, шэрыя зязюлечкі:
— Чаго сядзіш, паванька, галоўку спусціўшы,
Галоўку спусціўшы, пер'ейка распусціўшы?
— Вы, мае пташачкі, шэрыя зязюлечкі,
Што ў мяне пытаеце, калі ўсё знаеце?
Паследні разочак у садзе на вішаньцы.
У Пракопкі за столікам сядзела Аленка,
Галоўку скланіўшы, касаньку распусціўшы.

А прыйшлі к ней дзевачкі-падружкі:
— Чаго сядзіш, Аленка, галоўку спусціўшы,
Галоўку спусціўшы, косаньку распусціўшы?
— Ах, вы, мае дзевачкі, мае падружкі,
Што ў мяне пытаеце, калі ўсё знаеце?
Я паследні разочак у татулькі за столікам.

У садочку на вішаньцы
Зязюля кукавала.
Яна, галоўку спусціўшы,
А кryллі распусціўшы.
Каля яе пташак многа,
Каля шэрай зязюлечкі.
Яны ж у яе пытаюцца:
— Што галоўку спусціла
І крыллейка распусціла?
— Мае ж вы пташачкі,
Што вы ў мяне пытаеце?
Ці вы таго і не знаеце,
Што апошні разочак
У садочку на вішаньцы?
У татулькі за столікам
Марыйка сядзела.
Яна, галоўку спусціўшы,
Белыя ручкі апусціўшы.
Каля яе дзевачак многа,
Ўсе яе баярачкі,
Яны ў яе пытаюцца:
— Што галоўку спусціла,
Ручкі белыя апусціла?
— Мае ж вы, дзевачкі,
Ўсе вы мае падружачкі,
Што вы мяне пытаеце?
Ці вы гэта не знаеце,
Што апошні разочак
У таткі я за столікам?
— Ужо табе, дзевачка, да й адзін дзень,
Было часаць русу косу ўвесь тыдзень.
— Ой, часала русу косу аж да долу,
Каціліся дробны слёзы па прыполу.

— Зялёная бярозанька,
Доўга ты будзеш зялёная,
Доўга ты будзеш зялёная?
— Ад лецячка да восені.
Восень прыйдзе, ліст ападзе,
Сыру зямліцу пакрые.
Ой, Верачка маладая,
Нядоўга табе з намі быці.
Нядоўга табе з намі быці,
Ад сыботанькі да нядзелі.
Нядзеля прыйдзе — сабірайся,
Сабірайся, з кампаначкамі распрашчайся,
Што ты з імі пахаджала,
Мёд-гарэлачку папівала,
Мёд-гарэлачку папівала.
Цяпер не будзеш пахаджаці,
Мёд-гарэлачку папіваці.

Дзіўная тая камора *
На прыгор'ейку стаяла,
Ўсіх сабе пташачак збірала.
Праміж тых пташачак зязюля
Сільна жаласна кукуе.
— А кукуй — не кукуй, зязюля,
Нямножка табе кукаваць —
Ад вялікадня да Пятра,
З Пятровай ночанькі ані дня.
Дзіўная тая камора
Сярод рыначку стаяла,
Усіх сабе дзевачак збірала.
Прамеж тых дзевачак Ніначка
Сільна жаласна плакала.
— А хоць плач — не плач, Ніначка,
Нямножка табе ў дзеўках жыць —
Сягоння вечарок пагуляць,
Заўтра й ранелька адпраўляць.

Дзіўная тая бяроза,
Што пасярод бору стаяла,
Ўсіх к сабе пташачак збірала.

* Кожны радок паўтараецца.

Пасярод пташачак зязюля
Надта жаласна кукавала.
— Пакукуй, зязюля, жаласней,
Нямнога табе, зязюля, кукаваць,
Пятровай ночкай пакідаць.
Дзіўная тая камора
Пасярод горада стаяла,
Ўсіх к сабе дзевачак збірала.
Пасярод дзевачак Танечка
Надта жаласна плакала.
— А паплач, Танечка, жаласна,
Нямножка табе плакаці:
А ў суботаньку вечарок,
А ў нядзеленьку ўвесь дзянёк,
А ў панядзелак павязуць.
Уніміць сэрдачка славочкам,
Уватрэць слёзы платочкам.

Дзе ж тая бяроза дзіўная,
Што ля дарогі стаяла?
Яна ўсіх пташачак збірала.
Паміж тых пташачак — зязюля,
Яна жаласна кукавала
Адно раннейка па гнязду,
А другі вечарок па яечку.
Дзе ж тая камора дзіўная,
Што на рыначку стаяла?
Яна ўсіх дзевачак збірала.
Паміж тых дзевачак — Валечка,
Яна жаласна плакала
Адно раннейка па красе,
Другі вечарок па касе.

Дзіўная бяроза на прыгорку стаяла
І ўсіх пташачак сабрала.
Міжы тых пташачак зязюлька
Слёзна-жалосна кукуець,
Ажна зялёная траўка к зямлі прылягаець,
Розавыя цвяточкі ў полі расцвітаюць.
Дзіўная камора сярод рынку стаяла,

Ўсіх дзевачак сабрала.
Міжы тых дзевачак Гапулька
Сільна жалосна плачыць.
— Хоць жа плач — не плач, Гапулька,
Быць табе, Гапулька, за мною,
Слыць табе, Гапулька, век маёй жаною.

Між ды гор бяроза стаяла,
На бярозу поўна пташачак насела,
Паміж тых пташачак зязюля.
— Кукуй, зязюля, ты кукуй,
Нямнога табе кукаваць:
З вялікадня да Пятра,
А з Пятра, з Пятра больш ні дня.
У Міронькі ў каморы
Поўна дзевачак насела,
Паміж тых дзевачак Таццянка.
А плачыць яна жаласна,
— А плач, Таццянка, не плач,
Нямножка табе плакаць,
Толькі ўсяго тры вечары:
Першы вечарок — па касе,
Другі вечарок — па красе,
Трэці вечарок — па незе.
— Знежыла мяне матулька,
Як вішаньку ў саду,
Як пчолку ў мяду.

Кукуй, кукуй, кукулечка, не сядзі,
Нямножачка табе засталося кукаваць:
Ад вялічкі, кукулечка, да Пятра,
А пасля Пятра, кукулечка,— ані дня,
Заплач, заплач, млода Ніначка, не сядзі,
Нямножачка табе засталося дзеўкай быць:
Ад раннейка, млода Ніначка, да паўдня,
А пасля паўдня, млода Ніначка,— ані дня.

Кукуй, кукушка, не маўчы,*
Нямножка ж табе кукаваць:
А з вялікадня да Пятра,

* Кожны радок паўтараецца.

А з Пятровай ночанькі ды ні дня.
Ай, плач, Манечка, за сталом,
Нямножка ж табе ў татанькі быць.
Сёння вечарок гасціся,
Заўтра раненька свёкратку
Нізенька ў ножанькі скланіся.

Ай, у садзіку-вінаградзіку крыніца рублёная,
А ў той крыніцы, а ў той рублёнай вадзіца сцюдзёная.
А там Марутка ручанькі мыла,
З зязюляй гаварыла:
— Скажы, зязюля, скажы, шэрая,
Ці многа мне ў таткі жыць?
— Скажу, Марутка, скажу, малада:
Сем год і чатыры.
— Бадай, зязюля, бадай, шэрая,
А ўвесь век кукаваці,
Як мне, маладзе-маладзенечкай,
Праўдачкі не сказала.
Ай, у садзіку-вінаградзіку крыніца рублёная,
А ў той крыніцы, а ў той рублёнай вадзіца сцюдзёная.
Ай, там Марутка ручачкі мыла,
З зязюляй гаварыла:
— Скажы, зязюля, скажы, шэрая,
Ці многа мне ў таткі жыць?
— Скажу, Марутка, скажу, малада:
Адзін дзень да вечара.
— Бадай, зязюля, бадай, шэрая,
Адзін дзень кукаваці,
Як мне, маладзе-маладзенечкай,
Праўдачку сказала.

За сеньмі, сеньмі, у зялёным зеллі зязюлька закувала,
Ды пайшла Просечка зелле шчыпаці ды ў зязюлькі пытаці:
— Ды скажы, зязюлька, скажы, шызая, колькі мне гадоў гуляці?
— А табе, дзеўка Прося, семдзесят і чатыры.
— Ды бадай ты, бадай, шызая, на лета не кувала,
Як ты мне, маладой, праўды не сказала.
Ды за сеньмі, сеньмі, у зялёным зеллі зязюлька закувала.
Ды пайшла Просечка зелле шчыпаці ды ў зязюлькі пытаці:
— Ды скажы, зязюлька, скажы, шызая, колькі мне гадоў гуляці?

— І табе, дзеўка Просечка, сей дзень да вечара.
— Ды бадай ты, зязюлька, бадай, шызая, на лета закувала,
Як ты мне, маладой, праўду сказала.

А ў гародзе на канапельцы
Зязюля кукавала.
Выйшла Марусенька, выйшла малада,
Зязюлі загадала:
— Скажы, зязюля, скажы, шэрая,
Сколькі мне дзеўкай быці?
— Быць табе дзеўкай, быць маладзенькай
Ад вясны да восені.
— Бадай, зязюля, бадай, шэрая,
Бадай ты век кукавала,
Як ты, зязюля, ды мне, маладзе,
Усю праўду сказала.

У гародзе на пераходзе
Чырвоная ружа цвіце.
Туды дзеванька часта хадзіла,
З ружай гаварыла:
— Скажы, чырвона ружа,
Колькі мне ў бацькі быці?
— Адзін дзень да нядзелі,
А ў нядзелю рана ручанькі звяжуць,
Шчыру праўду скажуць.

Сядзіць дзевачка ў канцы стала,
Ліюцца слёзкі — аж рэчка стала:
— Мамка мая, я госця твая,
Нямножка буду, дакучаць не буду.
У нядзельку рана толькі да снядання,
После абеда я ўжо паеду.

Да перад вароты Дунай ціхенькі,
Да мачыла Ганначка лён бяленькі.
— Да табе, ляночку, да не вымакаці,

Мне ў свае матанькі да не зімаваці.
Хоць зімаваці, да не летаваці,
Такі табе, ляночку, да не вымакаці.

Зеляніся, не зеляніся, рутачка,*
Не зімаваці табе, рутачка, у садочку,
А зімаваці табе, рутачка, у вяночку.
Весяліся, не весяліся, Ганулька,
Не векаваці табе, Ганулька, у татанькі,
А векаваці табе, Ганулька, у Янулькі.
У татулькі была, як ружа цвіла у садочку,
У Янулькі станеш, як ружа завянеш у вяночку.

Па сенях хаджу, косаньку чашу,
Гасцей спадзяюся.
Выйду на горы, гляну пад зоры,
Ці не едзе мой міленькі?
Ой, едзе, едзе ружовы квеце,
Што завязаў да мне свеце.
Ступіў на ганак і зняў мой вянак,
Усё ж маё красаваннейка.
Баюся маткіісці па кветкі,
Ў вагарод па васількі.
Скочу ў вагарод, вырву васілёк,
Стану ж я між дзевачок.
Дзевачкі скачуць, косачкі маюць,
Яны ж мяне не прымаюць.
Дзецючкі скачуць, падкоўкі бляшчуць,
На мяне не спаглянуць.
У новай святліцы п'юць маладзіцы,
Туды ж мяне паклікаюць: —
«Сюды, дзевачка маладзенькая,
Будзеш наша таварышка!»

Ходзіць галубка па галубнічку,
Галубок за ёю:
— Пастой, галубка, пастой, сівая,

* Кожны радок паўтараецца.

Пабуркуем з табою!
— Досыць, галубок, досыць, сівенькі,
З табой буркаваці,—
Купілі сеці на мае дзеці,
Не далі паглядзеці.
Ходзіць дзеванька па новых сянёх,
Ойчанька за ёю:
— Пастой, дзіцятка, пастой, мілая,
Пагаворым з табою!
— Досыць, ойчанька, досыць, родненькі,
З табою гаварыці,—
Звіла вяночак з руты, з красачак,
Не даў панасіці.

Выйшла дзевачка за вароцейкі,
Расплятаючы коскі,
За ёй мамачка, за ёй родная,
Разліваючы слёзкі.
— Пастой, дачушка, пастой, родная,
Пагаворым з табою.
— Не буду стаяць, не буду гаварыць,
Я сама знаю і людзі кажуць,
Што з табой ужо не жыць.
Ой, пі, мамачка, тое піва
Што я накупіла,
Любі, мамачка, таго зяця,
Што я палюбіла.
— Ой, не буду піць я таго піва,
Буду разліваці,
Ой, не буду любіць таго зяця,
Буду праклінаці.

Пайшла за вароціцы Ганулька,
Коскі расплятаючы,
А за ею родна матулька
Слёзкі разліваючы:
— Пастой, Ганулька, пастой, дзіцятка,
Мы з табой пагаворым.
— Не буду стаяці, не буду гаварыці,
Бо мне з табою
Нямнога ўжо быці.

Пайшла Ганулька за вароціцы,
Коскі расплятаючы,
А за ею яе міленькі
Прыпяваючы:
— Пастой, Ганулька, пастой, міленька,
Мы з табой пагаворым.
— Будзем мы стаяць,
Будзем гаварыць,
Будзем жыццейка жыць.

Пайшла Янечка ў вішнёвы садок
Коскі расплятаючы,
Коскі расплятаючы.
А за ёй, за ёй яе матуля,
У яе пытаючы,
У яе пытаючы:
— Чаго, дачушка, чаго, родная,
Так жалосненька плачаш,
Цяжанька ўздыхаеш?
— Мая мамачка, мая родная,
Як жа мне не плакаці
Цяжанька не ўздыхаці.
Людзі гавораць, я й сама знаю,
Што не быць мне дзевачкай,
Краснай паненачкай.
Ой, зара, зара, за столік сяду,
Слязамі абліюся,
З мамачкай расстануся.

Прыйшла дзевачка за вароцечка,
Пад калінкаю стала,
Ручкі згарнула, цяжка ўздыхнула,
Сільна заплакала.
Прыйшла да яе матачка яе,
Стала да пытаціся:
— Чаго, дзіцятка маладзенька,
Так сільненька плачаш?
— Мая матачка, мая родная,
Як жа мне не плакаці?
Гавораць людзі, твае суседзі,
Па сей дзень не ў цябе жыць.

— Маё дзіцятка маладзенька,
Не давай да людзям веры,—
Пайдзі ў садочак, нарві кветочак,
Сядзь сабе між дзявочак.

Выйшла дзевачка за вароцечка,
Пад калінаю стала.
Ручкі згарнула, цяжка ўздыхнула,
Сільненька заплакала.
Прыйшоў да яе брацітка яе:
— Не назаляй на вочы.
Прыйдзе хлопчык з цёмнае ночы,
Ён завяжа мне вочы.
Завяжа мне вочы з цёмнае ночы
Крамнаю наміткаю.
Ці мне ў далочак, ці мне ў вяночак,
Ці мне да дзевачак?
Дзевачкі ідуць, вяночкі ўюць,
Туды мяне не прымаюць.
Жаночкі ідуць, чэпчыкі шыюць,
Туды мяне паклікаюць.

Выйшла дзеванька за вароты,
Пад калінаю стала,
Ручкі згарнула, цяжанька ўздыхнула,
Сільненька заплакала.
Прыйшоў да яе бацюхна яе:
— Чаго, дзіцятка, плачаш?
— Ах, мой бацюхна,
Ах, мой родненькі,
Як жа мне не плакаць!
Завязаў коскі на мае слёзкі
Белаю кітайкаю:
Ні мне вяночак,
Ні мне таночак,
Ні за дзевачкамі.
Дзевачкі граюць,
Косанькі маюць,
Туды мяне не прынімаюць.
Малодкі сядзяць, чэпчыкі вяжуць,
Там мяне к сабе клічуць.

Выйшла Ганна да й на гулынцю,
Пад калінаю стала,
Ручкі згарнула, цяжка ўздыхнула,
Сільненька заплакала.
— Дзеўкі гуляюць, косанькі маюць,
А мяне не прымаюць,
А маладзіцы, як ягадзіцы,
Да сябе прыклікаюць.
— Кідай, Ганначка маладзенькая,
Ўсё дзявоцка гулянне,
А хадзі з намі, з маладзіцамі,
Ў бабске гараванне.
Кідай, Ганначка маладзенькая,
Ўсю дзявоцку ахвоту,
А хадзі з намі, з маладзіцамі,
У бабску работу.

За варотамі трава-мурава.
Золатам пасыпана, золатам пасыпана.
Выйшла Рэнечка, выйшла маладая,
Золата збіраючы, цяжанька ўздыхаючы.
За ёй матуля, за ёй родная ў яе пытаючы:
— Чаго, дзіцятка, плачаш, цяжка ўздыхаеш?
— Як жа мне не плакаць, цяжка не ўздыхаць:
Самі слёзанькі льюцца, самі слёзанькі льюцца.
— Ідзі ў садок, зві сабе вянок,
Сядзь сабе пры дзяўчатках, сядзь сабе пры дзяўчатках.
— Дзяўчаткі сядзяць, на мяне не глядзяць,
Яны ўсе па парачцы, яны ўсе па пары.

Шуміць бярозка, шуміць белая,
Над ракою стоячы.
Плача дзевачка маладзенькая,
Па падвор'ю ходзячы.
А ёй гаворыць мамачка яе,
Ручанькі ломячы:
— Не плач, дзевачка, дзіцятка маё,
Не давай людзям веры.
Хустачку вазьмі, слёзачкі утры —
Сядзь сабе ля дзевачак.
— Дзевачкі сядзяць, кветачкі дзяржаць —

Яны мяне не прымаюць.
Жаночкі сядзяць, па сынку дзяржаць —
Яны мяне паджыдаюць.

А ў нядзелечку дзяўчыначка хатку мяцець.
Што раз махне, то цяжанька ўздыхне,
То жаласна заплача.
Прыйшла да яе матулька яе,
Стала яе развважаць:
— Чаго, дачушка, чаго любая,
Так жаласна плачаш?
— Ой, мамка мая, родная мая,
Як жа мне не плакаць!
А ўсе людзі, ўсе суседзі
Кажуць, я заручоная.
— Дачушка мая, любая мая,
Не слухай ты людзей.
Схадзі ў садочак,
Сарві цвяточак, сядзь ля дзевачак.
— Дзевачкі сядзяць, па вяночку дзяржаць,—
Яны мяне не прымаюць.
— Схадзі ў клетачку па намётачку,
Сядзь сабе ля жоначак.
— Жоначкі сядзяць, па сыночку дзяржаць,—
Яны мяне дажыдаюць.
Дзявоцкія лаўкі ад красак жаўтусенькі,
Жаноцкія лаўкі ад слёзак макрусенькі.

Наша дзевачка сенечкі мяла,
Як галубачка гула.
Прыйшла ж да яе мамачка яе
І пытаець у яе:
— Скажы, дзевачка маладзенькая,
Чаго сільненька плачаш?
— Мамачка ж мая, родная,
Як жа мне не плакаці!
Гавораць людзі, твае суседзі,
Што мне ў цябе не жыці,
Дзевачкай не слыці.
— Дзевачка ж мая маладзенькая,
Не йmі ж ты людзям веры,

Пайдзі ў садочак, сарві цвяточак,
Гуляй сабе з дзеўкамі.
— Мамачка ж мая, родная,
Мяне дзеўкі не прымаюць.
Ля мяне сядзяць, на мяне глядзяць,
Мне праўдачкі не кажуць.

— Чаго ж, Анетка, чаго ж, маладая,
Так сільна плачаш?
— Мая матачка, мая родная,
Як жа мне не плакаць!
Чужыя людзі судзяць, гавораць,
Што ■ ваша не буду.
— Маё дзіцятка, маё роднае,
Не слухай тых людзі.
Пайдзі ў садочак,
Звій вяночак,
Сядзь сабе між дзявочак.
— Дзявоцкія лаўкі ад вянкоў зіяюць,—
Яны мяне не прымаюць,
А жаноцкія, як бель белыя,—
Яны мне нямілыя.

Ганначка мала сенечкі мяла,
Як галубачка гула.
Венічкам махнець, цяжанька ўздыхнець,
Сільненька заплача.
Венічкам шах, шах — слёзачкі кап, кап,
Охці мне, горкая доля.
— Чаго ты, Ганначка, сільненька плачаш?
— А ўсе дзевачкі вяночкі ўюць, а я свой развіваю,
Па красачцы, па ветачцы яго раскідаю.

Божа мой мілы,
Што я задумала.
Ні ў таночку, ні ў вяночку,
Ні к дзеўкам на вуліцу.
Дзевачкі ідуць, косы плятуць,—

Яны мяне не прымаюць.
Маладзічкі ідуць, чэпчыкі нясуць,—
Яны мяне дажыдаюць.

Паўдарожанькі — дзве крынічанькі,
Вадзіца халодная.
А там дзевачка ручачкі мыла,
З мамкаю гаварыла.
— Мне не хочацца, не хацелася,
Белага завіваці,
Толькі хочацца і хацелася
З дзеўкамі пагуляці.
Дзевачкі гуляюць, косачкі маюць,
А мяне не прымаюць.
А хоць і прымуць, а хоць не прымуць,—
Мне праўдачкі не скажуць.
Ёсць жа ў мяне млоды Іванька,
Ён жа мяне прымаець.
А ён жа мяне, маладу, прымець
І мне праўдачку скажа.

Як уздумала пра наначкі,
Так не жаль мне і мамачкі.
Як і ўздумаю пра вечарочкі,
Забаляць мае печаночкі.
На вечарочках скрыпачкі іграюць,
Там мяне памінаюць.
На вечарочках скрыпачкі і дудачкі,
Ды няма мяне, галубачкі.

Замяту хату, замяту сені
Да сяду на парозе.
Як уздумаю мамкіну роскаш,
Абальюць мяне слёзы.
Як уздумаю пра вячорачкі,
Забаляць мае пячоначкі.

Ой, спасіба, мой татачка, пагуляла,
На сенічным парожаньку пастаяла.
Ішлі дзеўкі на вячоркі ў тры радочкі —

Еўка ля варот стаіць.
На вячорках скрыпкі-дудкі іграюць,
А мяне не прымаюць.
На вячорках дзевачкі лаўкі мыюць,
А мяне адганяюць.

А ў гародзічку-частаколічку
Анютка рожу поле.
А ля гароду, ля частаколу,
Іванка канём едзе.
З коніка скакнуў,
Шапачкай махнуў
І нізенька ўкланіўся:
— Чаго, Анютка, чаго, малада,
Так сільненька плачаш?
А ці табе жаль мамачкі свае,
А ці яе падвор'ейка?
— А не жаль жа мне мамачкі свае,
Ні падвор'ейка яе,
Ай, толькі мне жаль русае касы
Ды дзявоцкае красы.
Русую касу сама данашу,
А красу пацяраю.

Выйшла Ганнухна за вароцечка,
Пад калінаю стала.
Выйшла малада-маладзенькая,
Пад чырвонаю стала.
Ручкі згарнула, цяжка ўздыхнула,
Сільненька заплакала.
Выйшла да яе мацёнка яе:
— Чаго, дзіцятка, плачаш?
Выйшаў да яе родненькі яе:
— Чаго, родненька, плачаш?
Чы жалуеш мяне, старога,
Чы падвор'ейка мога?
— Я не жалую цябе, старога,
Ні падвор'ейка твога.
Я жалую русае касы,
Дзявоцкае красы.
Дзе дзевачкі граюць, коскамі махаюць,—

Там мяне не прымаюць.
А дзе малодачкі суму сумуюць,—
Там мяне патрабуюць.

— Падумай, Ганначка, пагадай, малада,*
Ці не жаль табе каго?
— Я ўчора думала, сягоння гадала,
Што не жаль мне нікога.
Ай, толькі мне жаль русае касы
Ды дзявоцкае красы.
Дзеўкі гуляюць, косачкі маюць,
Мяне к сабе не прымаюць.
Я прыхінуся, я прыгарнуся
К маладым маладзічкам.
Тыя мяне прымуць і прыгалубяць,
Усю праўду мне скажуць.

— Падумай, Ганна, пагадай, малада,
Ці не жаль табе каго?
— Я ўчора думала, сягоння гадала,
Што не жаль мне нікога.
Ой, толькі мне жаль русае касы
Да дзявоцкае красы.
Дзевачкі ідуць, вяночкі ўюць,
А я свой развіваю —
То па красачцы, то па ветачцы
На бакі раскідаю.
Што найлучшыя, найкраснейшыя,—
Міхалачку на шапачку.

Красна Алёнка сенечкі мяла,
Як галубачка гула.
А што сагнецца, што разагнецца,
Слёзанькамі абальецца.
Прыйшоў да яе татулька яе,
Ён у яе пытаецца:
— Чаго, Алёнка, дачушка мая,

* Кожныя два радкі паўтараюцца.

Сільна жаласна плачаш?
Ці табе мяне жаль, ці старасці маёй,
Ці майго падвор'ейка?
— А не цябе мне жаль, не старасці тваёй,
Не твайго падвор'ейка.
Ой, толькі мне жаль русае касы
Ды дзявочае красы.
Дзеўкі гуляюць, косачкі маюць,—
Яны мяне не прымаюць.
Шэпчуць, гавораць паміж сабою
Усё сваёй гурбою.

Што й за сенцамі да й за дзверцамі
Лучына гарыць?
А й там дзевачка сенечкі мяла,
Як галубачка гула.
Венчыкам махне, цяжанька ўздыхне,
Слязамі абальецца.
А й прыйшоў к ёй яе татачка:
— Чаго дочка плачаш?
Ці табе жаль мяне, старасці маёй,
Ці падвор'ейка майго.
— Мне не жаль цябе, старасці твае,
Ні падвор'ейка твайго,
А мне толькі жаль русае касы,
Усё дзявочае красы.
А ў чом была, красавалася,
У том я абвянчалася.

Красная дзевачка
Сенечкі мяла,
Як галубачка гула.
Венічкам махне,
Цежаленька ўздыхне.
Зачуў-пачуў
Яе татухна,
Услед ступае,
У яе пытае:
— Чаго, дзевачка, плачаш,
Ці жаль табе мяне, старога,
Ці падвор'ейка майго?

— Не жаль жа мне старасці твае,
Ні падвор'ейка твайго,
Жаль жа мне русыя касы
Да дзявоцкія красы.
Дзевачкі ідуць, вяночкі ўюць,
Я свой развіваю —
Па красачцы, па васілёчку,
Я свой раскідаю.
Дзевачкі ідуць, песенькі пяюць,
Мяне не прымаюць,
Мне праўды не скажуць.

— Да чаго ж куеш, сізая зязюлька?
Чаго ж табе жаль,
Ці лесу цёмнага, ці саду зялёнага?
— Не жаль жа мне ні лесу цёмнага, ні саду зялёнага,
Толькі мне жаль тае каліначкі,
Што ў лузе над вадою.
— Чаго ж ты плачаш, Сафеечка?
Чаго ж табе жаль.
Ці таткі свайго, ці падвор'я яго?
— Не жаль мне ні таткі свайго, ні падвор'я яго,
Толькі мне і жаль русае касы
Ды дзявоцкае красы.

Стаіць яблынька да раскапусціўшысь,
Некаму дазіраць.
Да ляжаць яблычкі да раскаціўшыся,
Некаму іх сабіраць.
Сядзіць дзевачка расплакаўшыся,
Некаму яе ўняць.
Як прыйшоў жа к ёй яе татачка:
— Чаго, дзіцятка, плачаш?
Ці табе мяне жаль, ці мае старасці,
Ці новага падвор'я?
— Ой, не жаль жа мне таткі старога,
Ні новага падвор'я,
Ох, толькі мне жаль русае касы
Да дзявоцкае красы.
Да дзевачкі ідуць, коскамі махаюць,

А мяне не прымаюць.
Ой, хоць і прымуць, хоць прыгалубяць,
Мне праўды не скажуць.
Ой, хоць і скажуць, хоць і гавораць,
Не тое, другое.

Каліна на лузе стаяла,
А з луга пайшла — зайграла.
Мостам ішла — грымела,
А полем ішла — лялела,
А к сялу прыйшла — зайграла,
У сяло ўвайшла — гуляла,
К варотам прыйшла — грукнула,
Пад акенца прыйшла — гукнула:
— Адчыні, Таццянка, новы двор.
А Таццянка ёй адказала:
— Некалі, калінка, некалі:
У садзе вінаград пераспеў,
Трэба яго пашчыпаць,
Да свайго мілога паслы слаць.
Я б паслала пасол — не смею,
Напісала б лісток — не ўмею,
І пайшла б я сама — баюся,
Доўгая дарога — стамлюся.
Дык прабачай, калінка, прабачай.

А ў лузе калінка гаварыла:
— Чаму ка мне, Ніначка, не хадзіла,
Чаму маіх цвяточкаў не шчыпала,
Чаму сабе вяночкаў не звівала?
— Некалі мне было к калінцы хадзіць:
Загадаў міленькі работачку рабіць —
З Дуная вадзіцу выліваці,
Зялёную рутачку паліваці.

Шумнае дзерава кляніна
А ў бару стаяла — шумела,
А дарогай ішла — звінела,
А к двару прыйшла — гаварыла:

— Не сядзі, дзеванька, не сядзі,
Кляніне дарожку укажы.
— Не смею, кляніна, не смею,
Па двару хаджу, мак сею,
Чырвоную розу паліваю,
Сабе вяночак савіваю.

Ай, звонка, звонка сасонка,*
Ай, званчэй таго ялінка:
А з пня ляцела — грымела,
Па дарозе йшла — звінела,
К варотам прыйшла — гаварыла:
— Адчыні, Полечка, вароты!
— Стой, мая ялінка, не ўспела,
Па двару хаджу, мак сею.
Расці, мая мачанька зеляненька,
Расцвіці цвятом чырвоным.
Чырвоны цвяток — на вянок,
Зялёная мачанька — к шапанькі.

А звонка, звонка сасонка *
У бару стаяла — шумела,
А дарогай ішла — звінела.
А к двару прыйшла — гаварыла:
— Адчыні, Томачка, вароты!
— Не смею, сасонка, не смею,
Па двару хаджу, мак сею.
Ажыдаю ўсходу зялёнага,
Ажыдаю цвету чырвонага,
Ажыдаю макаўку спелую.
Зялёны ўсход — дружына,
Чырвоны цвяток — Колечка,
Спелая макаўка — Томачка.

Шумліва каліна, шумліва,*
Ой, борам ішла — шумела,
На поле ўзышла — назрэла,

* Кожны радок паўтараецца.

Ў сяло ўвайшла — зацвіла,
Пад вакно падышла — гукнула:
— Не сядзі, дзевачка, не сядзі,
А выйдзі каліну правядзі.
— Я не маю часу вадзіці:
Пасеяла рутачку ў садочку,
А сама я села ў вяночку.

Звонкае дзераўцо калінка
Па бору йшла — звінела,
Вуліцай йшла — шумела,
А к варотцам прыйшла — гукала:
— Ці ў доме, дзеванька, ці ў доме?
Адчыні калінцы варотцы.
— У доме, калінка, у доме,
Да не адчыню калінцы варотцы:
Загадаў сужанька работу —
Зялёны вінаград садзіці,
З крыніцы вадой паліці.
А кручкамі, вінаград, кручкамі,
Прыедзіць сужанька з дружкамі.

Звонкае дзерава каліна
Па бары хадзіла — шумела,*
Выйшла на дарогу — звінела,
Прыйшла пад сяло — зацвіла,
Прыйшла пад вакно — клікнула:
— Не сядзі, Манечка, не сядзі,
Ды йдзі каліну правядзі.
І правядзі каліну да дуба,
Пара табе, Манечка, да шлюба.

Звонка дзерава каліна
Праз бор ляцела — шумела,
Праз поле ляцела — звінела.
Прыляцела ў варота — стукнула,
Маладое Верачкі клікнула:

* Кожны наступны радок паўтараецца.

— Выйдзі, выйдзі да мяне,
Маю патрэбу да цябе.
— Не маю часу хадзіці,
Буду вінаград садзіці.
Каб мой вінаград зелен быў,
Каб мой Ванечка весел быў,
Каб мой зялёны вінаград прыняўся,
Каб мой Ванечка да ў дарожку прыбраўся.

Звонкае дзерава ды каліна,
Стоячы ў лузе — шумела,
Дарогаю ідучы — звінела,
Пад парог прыйшла — стукнула,
Пад акенца прыйшла — клікнула:
— Ой, не сядзі, дзевачка, не сядзі,
Выйдзі ды мяне, каліну, правядзі.
— Ой, няма калі каліну праводзіць,—
Паспеў вінаград, трэба саджаць.
Ой, хадзіла дзевачка па полі,
Высявала вінаград з прыпола
Ды прасіла, каб прыняўся,
Бо яе дзяцінка ўжо прыбраўся.

— За ракою, дзевачкі, за ракою
Да зарасла роза крапівою.
Папалеце, дзевачкі, папалеце,
Хоць сабе рожыцу забярэце.
— Да чаму ж ты, Ганначко, не палола?
— Не да розы, дзевачкі, не да розы,
Ужо мой Іванько ў дарозе,
Можа яго конікі ў аблозе
Ды не пілі, не елі, мой божа.

А каля балотачка
Хадзіла малодачка.
Хадзіла малодачка,
Сеяла руту-мяту.
— А расці, рута-мята,
Ды тонкая, высокая,

Карэннейкам караніста.
Карэннейкам караніста,
Лісцейкам залаціста.
А калі дома буду,
Шанаваць руту буду.
А калі замуж пайду,
З карэннем руту вырву,
За вароты выкіну.
Няхай коні гарцуюць,
Няхай дзеўкі танцуюць,
Няхай хлопцы гуляюць
І мяне ўспамінаюць.

Наўкола балоцечка,
Там хадзіла малодзечка,
Сеяла руту-мяту.
— Расці, расці, рута-мята,
Тоненькая, высокая,
Коранем глыбокая,
Лісточкам шырокая.
Як я цяпер у мамачкі,—
Я цябе палоць буду,
Застануся ў свякроўкі,—
Я цябе з карою вырву,
Цераз тын перакіну.
Хай цябе валы з'ядуць,
Хай цябе коні саб'юць,
Валы з'ядуць бушуючы,
Коні саб'юць гарцуючы,
Я, малада,— танцуючы.

Кругла, мала балоцейка,
Там паненка пахаджала,
Красу сваю рассявала.
— Расці, расці, краса мая,
Харошая і чырвоная.
Як я, млода, ў дома буду,
То я красу палоць прыйду.
Як я млода замуж пайду,
То я сваю красу спасу.

Заганю пару валу,
Няхай ядуць красу маю.
Прывяду пару коней,
Няхай ядуць красу болей.

Рутку сею, рутку сею,
Рутку паліваю,
Расці, рута зялёная,
На зіму схаваю.

Як я замуж пайду
З караня руту вырву
І за плот выкідаю:
Няхай козы згрызуць,
Няхай дзеўкі не фарсяць.
Рута ж мая зялёная,
Рута мая чырвоная,
Ці я цябе не садзіла,
Ці я цябе не палівала.
Садзіла, палівала,
Ні аднаго вяночка не знасіла.

Пойдзем, сястрыца, пад ясну зарыцу,
Набярэм, сястрыца, жоўтага пясочку,
Пасыпем, сястрыца, таткаву клетку,
Пасеем, сястрыца, ды розныя зёлкі.
Мята не ўсхадзіла, рута зарадзіла.
Будуць шчыпаць квецці ды братнія дзеці,
Будуць віці вяночкі ды братнія дочкі.

Ой, хадзіла Галечка па гароду,
Сеяла руту-мяту із прыполу.
— Хто ж маю руту-мяту даглядаць будзе,
Хто ж мяне, маладую, шанаваць будзе?
— Даглядаць руту-мяту будзе мамачка,
Шанаваць цябе, маладую, будзе Іванька.

Да хадзіла Ганнухна
Да па сенажаці,
Да капала ж лазу, 2
Да сеяла ж ружу. 2
Расці, расці, да ружанька,
Да вялікім кустом, 2
Да шырокім лістом.
Ужо мне цябе, да ружанька,
Ужо не паліваць,
Ужо мне ў цябе, баценька,
Да не зімаваць.
Ужо мне цябе, да ружанька,
Да вянца не звіць,
Ужо мне ў цябе, да баценька,
Да веку не збыць.

Ой, хадзіла дзевачка да па сенажаці,
Да капала лозу, да сеяла рожу.
— Тут табе, мая рожанька, зімаваці,
А мне ў свайго татачкі да не летаваці.
Цвяточкаў не рваці, вяночкаў не віці,
Вяночкаў не віці, дзеўкай не быці.
Вот вам, дзевачкі, усе мае цвяточкі
Да веце вяночкі штонядзелечкі.
Цвяточкі ірвеце, мяне ўспамінайце.
Вяночкі веце, мяне не забывайце.

Ходзіць дзяўчына каля Дунаю,
Капае лозу, а садзіць розу.
Тут табе, лоза, не лазаваці,
І ўжо мне ў бацькі больш не быці.
Адну вячэру павечараці,
Адну ночаньку паначаваці,
Заўтра раненька мыцісь беленька,
Мыцісь беленька, убрацісь харашэнька.
Убрацісь харашэнька, падзенькаваці.
— Дзякуй, баценька, за гадаванне,
Табе, маменька, за бела ўбіранне,
А вам, сястрыцы, за учасанне,
А вам, браточкі, за пасыланне.

Пасадзіла руту-мяту ў гародзе.
Расці, расці, рута-мята зеляная,
Будзе цябе мая маці палівaці,
Будзе мяне, маладую, ўспамінаці: —
«А тут мая донечка пахадзіла,
Яна ж ету руту-мяту пасадзіла».

Хадзіла Галечка цераз сад
Да сеяла руту-вінаград.
Забыла варот зачыніць
Да мусіла бацюшка папрасіць:
— Вой, выйдзі, бацюшка, з пакою,
Зачыні вароты за мною.
Зачыні вароты ў вішнёвы сад,
Бо наедзе кавалераў семдзесят.
Бо наедзе кавалераў семдзесят
Да патопчуць руту-вінаград.
— Ой, не жалуй, дзіцятка, зялёных квят,
Да пажалуй, дзіцятка, сваіх млодых лят.
Зялёныя кваты зрастуцца,
Ўсе тваe раскошы мінуцца.

Як хадзіла Манечка па полі
Ды сеяла вінаград з прыпола, 2
Вызывала бацюхну з пакою:
— Выйдзі, выйдзі, бацюхна, з пакою,
Зачыні вароцейка за мною. 2
Будзе ехаць Сярожа з сватамі
Ды патопча вінаград канямі.
— Не шкадуй ты, Манечка, вінных вет,
Пашкадуй ты, Манечка, маладых лет.
Вінныя ветачкі зрастуцца,
Маладыя летачкі не вярнуцца.

Да хадзіла да дзевачка вакруг саду,
Да гукала свайго татку на параду.
— Не пускай-ка, мой татачка, баяр на двор,
Да патопчуць, мой татачка, вінаград мой.

— Не жалей-ка, дзіця маё, вінаграда вет,
Пажалей-ка, дзіця маё, маладых лет.
Вінаграда да ветачкі адрастуцца,
Твае леты маладыя не вернуцца.

Як хадзіла дзевачка па новаму двару,
Сеяла зелен вінаград рад па раду 2
І ціхенькіх салоўюшкаў завадзіла, 2
І яна свайму бацюшку гаварыла: 2
— Замыкай ты, мой бацюшка,
Свой новенькі двор, 2
Да не ўспушчай жа ты Ніколачкі
З конікам на двор, 2
А то ён зелен вінаград паламае 2
І ціхенькіх салоўюшкаў папужае. 2
— Не бойсь, не бойсь,
Да, дачушка, не пугайся.
Увесь твой зелен вінаград зрасцецца
І ціхія салоўюшкі зляцяцца. 2
— Нам з табой, Ніколачка, не расстацца.

Да хадзіла Манечка па двару,
Па двару.
Да сеяла вінаград з прыпалу,
З прыпалу.
У вароцечках садзіла,
Садзіла.
Да свайго ж бацюхну прасіла,
Прасіла.
— Да зачыняй, бацюхна, вароты,
Вароты.
Да зачыняй, родненькі, замкамі,
Замкамі.
Бо наедзе госцічак з сватамі,
З сватамі.
Да патопча вінаград капытамі,
Капытамі.
Да не жалей, дзіцятка, розных цвет,
Розных цвет.
Да пажалей, дзіцятка, маладых лет,
Маладых лет.

Розныя цвяточкі зрастуцца,
Зрастуцца.
А маладыя лета мінуцца,
Мінуцца.
Розная кветачка прыбудзе,
Прыбудзе.
Дзявоцкага пагуляння жаль будзе,
Жаль будзе.

Ой, хадзіла Кацечка па двару
Да сеяла сад-вінаград з прыпалу,
Забылася вароцечкі зачыніць,
Не мусіла мамачку упрасіць.
— Ой, зачыні, мамачка, зачыні,
Бо прыедзе Пецечка з баярамі
Да патопча сад-вінаград нагамі,
Пазрывае цвяточкі рукамі.
Ўсе тыя цвяточкі зрастуцца,
Мне маміны раскошы мінуцца.

Да хадзіла Валечка па полю,
Да сеяла вінаград з прыполу:
— Расці, расці, вінаград, кустамі,
Бо прыедзе Сяргейка канямі
Да патопча вінаград слядамі.
Да хадзіла Валечка па полю,
Да сеяла вінаград з прыполу:
— Расці, расці, вінаград, цвятамі,
Бо прыедзе Сяргейка з сватамі
Да пашчыпле вінаград рукамі.
— Не жалей, дзіцятка, жоўты цвет,
Да жалей, дзіцятка, маладых лет.
Жоўтыя цвяточкі ападуць,
Маладыя лецечкі прападуць.

Ой, хадзіла ды Настуська, э-э, па гароду,
Па гароду,
Дый сеяла руту-мяту із прыполу,

Із прыполу.
Забылася ды варотцы зачыніці,
Зачыніці,
Ды мусіла свайго татку упрасіці,
Упрасіці.
Ой, зачыні, ды мой татка, э-э, ды свой новы двор,
Ды свой новы двор,
Штоб не заехаў ды Іванка, э-э, з баярамі ў двор,
З баярамі ў двор.
Яны маю руту-мяту ўсю патопчуць,
Ўсю патопчуць.
Яны ж мяне, маладу, э-э, з сабой возьмуць.

Зачыняй жа ты, мой татка,
Свой дубовы двор,
Штоб не ўехаў да Іванька
З баярамі на двор.
Не патаптаў руту-мяту
Сапагамі,
Не пацягаў барвяночак
За нагамі.
Зялёныя барвенкі
Ўсе зрастуцца,
Гады мае маладыя
Не вярнуцца.

— Да па саду хаджу,
Да прысаду саджу,
Ды капала лозу,
Ды садзіла рожу,
Ды прасіла бацюшка шчыранька,
Каб зачыняў вароты шчыльненька.
Будзе ехаць дзяцінка з сватамі
Ды патопча вінаград канямі.
— Ды не жалуй, дзяцінка, зялёных квят,
Ды пажалуй, родненька, маладых лят.
Зялёныя кветачкі сатруцца,
Маладыя лета мінуцца.

Ды хадзіла дзевачка па двару,
Ды сеяла вінаград з прыполу,
Дый забыла вароты зачыніці,
Ды прасіла бацюшку шчыранька,
Каб зачыніў вароты шчыльненька.
— Будзе ехаць малады дзяцінка з сватамі,
Ды каб не стаптаў зялёных кветак канямі.
— Не шкадуй, дзіцятка, розных квят,
Пашкадуй, дзіцятка, маладых лет,
Бо розныя квяткі зрастуцца,
А твае пагуляначкі мінуцца.

Хадзіла Аксінька па двару, *
Глядзела на неба, на зару:
— Ой, знаю, бацэньку, дождж будзе,
Абмочыць косаньку — жаль будзе.
Хадзіла Аксінька па двару,
Сеяла вінаград на цяню
І свайго бацэнька прасіла:
— Не пускай, бацэньку, Іванька,
Ой, бо ён вінаград патопча,
Канчучком лісцечка пасячэ.

Ой, татачка-саколік, сівы голуб,
Да зачыні вароцейкі свае новы,
Да не пускай да сватоў к сабе на двор,
Бо патопчуць руту-мяту, ўвесь вінаград мой.
Вінаград мой — дзве ветачкі ўзрасцецца, ўзрасцецца,
Маміна раскоша ўся мінецца.
Першая нястачачка вячэрняя,
А другая нястачачка палудзенная,
А трэцяя нястачачка ў самым канцы.

У гародзе на прымалодзе
Расце зеллечка спорыш.
— Чот ты ж, дзеванька маладзенька,
Дый да нас не гаворыш?

---

* Кожны радок паўтараецца.

— А як жа мне, мой бацэнька,
Да цябе гаварыці,
Як ты сабраў усю радзіначку
Да хочаш аддзяліці.

Як разгарэлася каліна, *
А ў ціхім лузе стоячы,
Тушыў ветрычак, не ўтушыў.
— Цябе, каліна, не ўтушу,
Па полю іскар'е разнашу.
Тушыць, не ўтушыць дробен дождж,
Прыб'ець іскар'е к зямельцы.
Як расплакалась Марфачка
Перад бацькам стоячы.
Унімаў бацюшка, да не ўняў.
— Цябе, Марфачка, не ўняці,
Болі жаласці задаці.
Унімець, не ўнімець Іванька,
Сцебанець па вадзіцы пужкаю,
Ватрэць слёзачкі хусткаю.

Разгарэлася чырвона калінка,
Ў ціхім лузе й стоячы,
Ў ціхім лузе й стоячы,
На ўсе калінкі гледзячы.
— На ўсіх калінках белы цвет,
На мне, калінцы, цвету нет.
Мы ж яе тушым і не ўтушым.
Утушыць яе дробны дожджык,
З цёмнае тучы ідучы.
Расплакалася маладая Ганначка,
У войчанька за сталом седзячы,
На ўсіх дзевачак гледзячы.
— На ўсіх дзевачках хустачкі,
На мне, маладзенькай, стужачкі.
Мы ж яе нежым і не вынежым,
Мы ж яе нежыць і не будзем,
Вынежыць яе міленькі,

* Кожны радок паўтараецца.

Па праваму боку седзячы,
Па праваму боку седзячы,
За белую ручку дзержачы.

Разгарэлася каліна
Ў цёмным лесе стоячы,
Буйнага ветру просячы:
— Да ні вей, ветру, на мяне,
На ўсём дзераве лісце е,
А я ж, каліна, не маю,
Сухім голлейкам махаю.
Расплакалася Леначка
Ў роднае мамкі за сталом:
— Жаль мне, мамка, на цябе,
На ўсіх дзевачак вянкі е,
А я, малада, не маю,
Да русай касой махаю.
А ля тае русае касы Людка сядзела,
Да на тую касу пільненька глядзела.

Разгарэлася каліна, *
Ў цёмным лузе стоячы.
Яе ветрычак не ўтушыў,
Па полі іскаркі разнасіў.
— Я ж цябе, каліна, не ўтушу,
Утушыць цябе дробны дождж,
І з цёмнай тучы ідучы,
На цябе, каліна, ліючы.
Расплакалася дзевачка,
У мамкі за сталом седзячы.
Яе мамка ўнімала.
Унімала, не ўняла,
Горкае жалі прыдала.
— Я ж цябе, дзіцятка, не ўніму,
Уніме цябе, уніме чужына,
Ўсё хлопчыкава радзіна.
Унімуць цябе дзевярочкі,
Ўсё хлопчыкавы браточкі.
Унімуць цябе залвіцы,
Ўсё хлопчыкавы сястрыцы.

* Кожны радок паўтараецца.

Разгарэлася каліна,*
Ды ў цёмным лузе стоячы.
І расплакалася дзяўчына
Ды перад роднай мамкай:
— Плач, не плач, дзіцятка,
Я цябе ўнімаць не буду.
Уніме цябе чужына,
Уся хлопцава радзіна:
Ля стала дзевяры,
Пасярод хаты залвіцы
І ўсе яго сястрыцы.
— З дзевярамі я жыць буду,
А з залвіцамі гасцяваць,
Гарэлку з мёдам папіваць.

Разгарэлася каліна,
Ў зялёным лузе стоячы,
Дробныя іскры ронячы.
Тушыў ветру, не ўтушыў,
Па полю іскрання разнасіў.
— Я цябе, каліна, не ўтушу,
А ўтушыць цябе дробны дождж,
А з цёмнай тучы ідучы,
Дробным дожджыкам сыплючы.
Расплакалася Валечка,
Перад мамкай стоячы.
Унімала мамачка, не ўняла,
Горшай жаласці задала.
— А ўніме цябе чужына,
Ўся Алёшына радзіна.
А ўніме цябе канчучок,
А ўцярэ слёзы ручнічок.

Разгарэлася каліна,
Ў ціхім лузе стоячы.
Да тушыў ветрык, не ўтушыў,
Да па бору іскаркі разнасіў.
— Хіба цябе ўтушыць дробны дождж,
З вялікае хмары ідучы,

* Кожны радок паўтараецца.

Дробным дожджыкам секучы.
Расплакалася дзевачка Марфачка,
Перад бацюшкам стоячы.
Ой, унімаў бацюхна, да й не ўняў,
Большай жаласці ёй паддаў.
— Хіба цябе ўніме Сяргейка,
Вялікаю дарогаю везучы,
Дарагія гасцінчыкі даючы.
Усе гасцінчыкі пааддаваў,
Маладой Мархвачкі не ўзяў.

Разгарэлася каліна,
Перад зарою стоячы,
Па гарах іскаркі носячы.
Тушыў ветрык, не ўтушыў.
— А я ж цябе, каліна, не ўтушу,
Па гарах іскаркі разнашу.
Утушыць каліну дробен дождж,
Утушыць дажджамі, уб'ець іскаркі кроплямі.
Расплакалася Надзенька,
Перад матухнай стоячы,
Дробны слёзкі ронячы.
Унімала матухна, не ўняла.
— А я ж цябе, дачушка, не ўніму,
Болей жаласці задаю.
Унімець твае слёзанькі Ванечка,
Уватрэць слёзанькі хусткаю,
Угаворыць сердзечка ласкаю.

Разгарэлася калінка, *
Перад зарою стоячы,
Дробныя іскры ронячы.
Ой, гасіў ветрык, не ўгасіў,
Па полю іскры разнасіў.
— Я цябе, каліна, не ўгашу,
Па полю іскры разнясу.
Угасіць цябе дробны дождж,
Ды з-пад цёмнай хмаркі ідучы,
Ды на калінку ліючы.

* Кожны радок паўтараецца.

Расплакалася Зіначка,
За столікам седзячы,
Дробныя слёзкі ронячы.
Унімала мамка, не ўняла,
Толькі ёй жалю прыдала.
— Я ж цябе, Зіначка, не ўніму,
Толькі горш жаласці задаю.
Унімець цябе Валодзечка,
З сваёй дружынай едучы,
Ды кашалёчкам дорачы.

Ой, разгарэлася каліна,
А перад зарою стоячы,
Дробныя іскры ронячы.
Ды тушыў ветрачок, не ўтушыў,
Дробныя іскры разнасіў.
Ды расплакалася Раечка,
Перад мамачкай стоячы.
Унімала мамачка, не ўняла,
Большай жаласці задала.
Прыедзе дружочак вечарком,
Уніме сярдзечка канчуком,
Уватрэ слёзачкі ручнічком,
Уніме сярдзечка нагайкай,
Уватрэ слёзачкі кітайкай.

Разгарэлася каліна,
На белу бярозу гледзячы:
— Утушы, бяроза, утушы.
— Я ж цябе, каліна, не ўтушу.
Утушыць, не ўтушыць дробны дождж.
— Я ж цябе, каліна, утушу,
Вадзіцай лісточкі абмачку.
Расплакалася Леначка,
На сваю мамачку гледзячы:
— Унімі, мамачка, унімі,
— Я ж цябе, дачушка, не ўніму.

Унімецць, не ўнімецць Міценька.
— Я ж цябе, Леначка, уніму,
Платочкам слёзанькі абатру.

Хоць гары, каліна, не гары,
То не будзем цябе тушыці.
Тушыў ветрычак, не патушыў,
Па полю іскаркі разнасіў.
Хоць плач, Манечка, хоць не плач,
То не будзем цябе сунімаць.
Сунімала мамачка, не суняла,
Толькі больша жаласці задала.
Толькі больша жаласці задала.

Пастой, пастой, бела яблынька на дварэ,
Не кур, не вей, буён ветрык, пад яе.
Ды не адбівай яе, яблынька, ў атвее.
Яна ж у нас ні год, ні два стаяла,
Яна рада, што яблыкаў даждала.
Гуляй, гуляй, малада Ганечка, ў татулькі,
Не едзь, не едзь, молад Іванка, да яе
Ды не адбівай дзевачак ад яе.
Яна ж у нас тры ночанькі не спала,
Яна ж рада, што дзевачкаў сабрала.

Кукавала зязюлечка,
У дупельцы седзячы,
Праз дупельца гледзячы.
— Калі зімка мінецца,
Калі лецейка настанецць?
Па бару б палятала,
Ягадак паядала б.
Ягадак саладзенькіх,
Вішанек чырвоненькіх.
Плакала маладая,
За столікам седзячы,
У ваконца гледзячы.
— Калі ночка мінецца,

Калі дзянёк настанець?
Па двару б пахадзіла,
Татулькаў двор пакрасіла б
Сваімі уборамі,
Ціхімі паходамі,
Нізкімі паклонамі.

Закукавала шэра зязюля на моры, *
Заплакала млода Анечка ў каморы.
— А калі ж мае сваточкі прыедуць,
Калі ж маю русу касу расплятуць?
— Коней гатуюць, шаблі шаруюць — прыедуць.
Конікаў ладзяць, галоўкі гладзяць — прыедуць.
Коней сядлаюць, у шар стаўляюць — ужо едуць.

Ай, кракала вутачка
Дый кракала:
— Калі гэта лета будзець,
Божа мой.
Скарэй ба я пакупалася,
Божа мой.
Пакупаўшыся, на край выйшла,
На край выйшла, страхнулася.
Дый плакала Праскутачка,
Дый плакала.
— Калі ж гэта Міхалачка
Дый будзіць:
Скарэй ба я прыбралася,
Божа мой.
Скарэй ба я за стол села,
Божа мой.
Скарэй ба я заплакала,
Божа мой.

Ой, гордая, ой, пышная дзевачка
І не ведала, што з гордасці сказаці.
Ды загадала шчырыя бары капаці,

* Кожны радок паўтараецца.

А на тых барах чорненькі мак сеяці.
— Зарадзі, божа, з чорнага маку чырвон цвет,
Прынясі, божа, майго мілага белы свет.
І з раннімі і з познімі зарамі,
Прынясі божа, майго мілага з сватамі.

Ой, вумная-разумная княгінька
Не ведала, што з вумносці дзелаці.
Заставіла шчыры бары капаці,
А сама пайшла чорны мачык пахаці.
— Ой, дай божа, штоб мой мачык красен быў,
Ой, дай божа, штоб мой жанішок вясёл быў.

Вумная-разумная Анечка
Не ведала, што з розуму рабіці.
Загадала шчыры бары капаці,
А сама села ў вішнёвым саду глядзеці,
Ды адкуль сонейка ўзыдзе
І адтуль Мішачка прыедзе.
Як узышло сонейка з-пад зары,
І ўз'ехаў молад Мішачка з-пад гары.

Раўняй, божа, горы-даліны раўненька,
Прынясі, божа, майго Ясенька раненька.
Хоць раненька, хоць не раненька, не дбаю —
Я свайго мілага па галасочку пазнаю.
Не па галасочку, то па станочку,
А не па станочку, то па белым лічаньку,
Па каню вараненькім, па сядлу залаценькім.

Ляцелі гусі, гусі з белы Русі,
Накажы, Матронка, сваяму Цімошку,
Няхай прыбірае коні вараныя,
Сваты маладыя,
Музычкі-іграчкі,
Сванькі-спявачкі.

Конікі зарэкалі ў зялёнай дубраве,
Музычкі зайгралі ў калінавым мосце,
Сванькі запелі, на дварэ збеглі.

Зялёная рутачка, жоўты цвет,
Пыталася Марыйка, ці скора свет.
Чаму майго Сашкі доўга нет?
Ці яго конікі на пашы,
Ці яго ойчанька не ў хаце?
Да яго конікі на стайні,
Да яго ойчанька ў хаце.
Да прыехаў Сашка сам дзевят,
Папускаў конікі ў вішнёвы сад,
А конікі галускі ламалі,
Шэрыя гускі з саду прагналі.

Галубачка з галубятнічкам нежывая ляжала,
Нежывая ляжала.
Арыначка па Мікітачку ды галоўку звязала,
Галоўку звязала.
— Ці мой будзеш, ці не мой будзеш, ды маё сэрца нудзіш,
Ды маё сэрца нудзіш.
Яно ныець, вынываець, Мікітачкі дажыдаець,
Мікітачкі дажыдаець.
Прыедзь, прыедзь, Мікітачка, ды не рана, не позна,
Ды не рана, не позна.
Ён прыедзець, ён прыедзець, пад ім конічак рагочыць,
Пад ім конічак рагочыць.
Ён рагочыць, ён рагочыць, Арыначку ён узяць хочыць,
Арыначку ён узяць хочыць.

Зялёная рута, жоўты цвет,
Чаму цябе, Іванка, доўга нет?
Ці твайго конічка з поля нет,
Ці цябе, Іванка, дома нет?
Прыехаў Іванка на падвор'е —
Засцілай, Ганулька, застолле.
Прыехаў Іванка пад вароты —

Стаіць Ганулька, як злота.
Як села Ганулька за сталом,
Пацяклі яе слёзкі ручаём,
А над ею матулька стаяла,
Яе слёзанькі ўціpала.
Не ватрэш, матулька, не ватрэш,
Толькі горш слёзанькі разальеш.

Зялёная рутачка, жоўты цвет,
Паглядзі, Кацечка, ужо свет.
Паглядзі, Кацечка, ужо свет,
А твайго Іванкі позна нет.
Ці малады сваты заспалі,
Ці вараны коні прысталі,
Ці ён у карчомцы запіўся,
На цябе, маладу, забыўся?

А плавала шэра вутачка па моры, *
А плакала наша Марынка ў каморы:
— За што, пра што Пецечкі доўга нет?
А ці яго вараны коні прысталі,
А ці яго верныя служкі заспалі,
А ці ён, малады, гарэлачкі напіўся,
А ці ён на мяне, маладзенькую, забыўся?

Кракала шэрая вуціца за дваром,
Ой, люлі, да лялёшанькі, за дваром:
— Зачым, зачым селязенечка доўга нет?
Люлі, да лялёшанькі, доўга нет.
Ой, ці яго мяцеліца замяла,
Ой, ці яго пагодушка заўняла?
Ой, плакала да і Мар'ечка за сталом:
— Зачым, зачым да Іванечкі доўга нет?
Ой, ці яго вароны коні прысталі,
Ой, ці яго кучарыкі заспалі,
Ой, ці яго худа славушка заўняла,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Ой, ці яго ў высок церам павяла,
Ой, ці яго віном-мёдам паілі,
Ой, ці яго пірагамі кармілі?

Кукавала зязюлечка ў садочку,
Прылажыўшы галовачку к лісточку.
— А чаму, чаму майго сужанькі доўга нет?
А ці ён там вараных коней памарыў,
А ці ён там сваю мамку ўквяліў?

Зялёная руцейка, белы цвет,
Пыталася Алеся, ці ўжо свет.
Пыталася Алеся, ці ўжо свет,
Чаму майго Іванкі ка мне нет?
Ці яму вяночка не звіла,
Ці яму хустачку не дала?
Звіла яму вяночак, як кветку,
Дала яму хустачку-сурвэтку.
Звіла яму вяночак да вянца,
Дала яму хустачку да ліца.
Зялёная руцейка, белы цвет,
Пыталася Алеська, ці ўжо свет.

Зялёная руціца, жоўты цвет,
Пыталася Валечка, ці ўжо свет.
Чаму майго Ванечкі доўга нет?
Ці я яму хустачкі не дала,
Ці я яму вяночка не звіла?
А я яму хустачку шаўкову,
А я яму вяночак ружовы.
А ён маю хустачку сцёр-змяў,
Вараному коніку падаслаў.
А ён мой вяночак разавіў
І ўсім дзяўчаткам падзяліў.

Сягоння суботка, заўтра дзень,
Пытаецца маладзенька, чы ўжо свет.
Пытаецца маладзенька, чы ўжо свет,
А чаму майго мілага доўга нет?

Чы я яму хустачкі не дала,
Чы я яму креатачкі не звіла?
Дала яму хустачку беленьку,
Звіла яму кветачку зялёну.
А ён маю хустачку занасіў,
А ён маю кветачку ацерушыў.

Ішла бяроза па дарозе, грымела,
Я, маладзёшанька, капала чарназём
І сеяла чорны мак.
Урадзіліся мачынкі залатыя.
Мачынкі залатыя, жоўты цвет,
Да што ж майго мілага доўга нет?
Чы ж [redacted] яму хустанькі не дала,
Чы ж я яму вяночка не спляла?
Дала, дала хустаньку ў сем шаўкоў,
Дала, дала вяночак у сем цвяткоў.

Ярая рута, жоўты цвет,
Да чаму цябе, дружанька, доўга нет?
Чы табе вяночка не звіла,
Чы табе ручніка не дала?
Віла вяночак дзянёчак,
Ткала ручнічок тыднёчак.
Віла вяночак з кукалю,
Ткала ручнічок з кужалю.

А дзе ж тая камора звінела,
Дзе маладая Марфачка сядзела? *
Ўсялякія абрусы снавала
Да разнымі ўзорамі кідала.
Зялёная рутанька, жоўты цвет,
Чаму ж майго мілага доўга нет?
Ці я яму вяночка не звіла,
Ці я яму хустачкі не дала?
Звіла, звіла вяночак з кракосу
І падару хустачку да носу.

* Кожны цотны радок паўтараецца.

Ой, прыехаў міленькі з паўночы,
Насунуўшы шапачку на вочы.
— Кідай, кідай, Настачка, снавацї,
Хадзі, хадзі на мой воз сядаці.
Сядай, сядай, Настачка, на мой воз,
Мы паедзем з табой, дзе я рос.

Зялёная рутанька, жоўты цвет,
Пыталася Каценька, ці ўжо свет,
Пыталася Каценька, ці ўжо свет.
Чаму майго Ясенькі доўга нет?
Ці яму вяночка не звіла,
Ці яму хустачкі не дала?
Віла, віла вяночак з рутанькі,
Дала, дала хустачку ў ручанькі.
Віла, віла вяночак з кракосу,
Дала, дала хустачку да носу.
Зялёная рутанька, жоўты цвет,
Чаму ж майго мілага доўга нет?

Зялёна рутанька, жоўты цвет,
Чом цябе, Ясенька, доўга нет?
Зялёна рутанька, зялёна,
Даўкола сэрданька дробненька.
Даўкола сэрданька дробненька,
Не сядзі, Кася, смутненька.

Цёмна ноч, цёмна ноч — нямесячна. *
— Чаго ж ты, Манечка, нявесела?
— Як жа мне, маладой, вясёлай быць!
Як зазваў татулька шаўцоў-краўцоў,
Пашылі шубачку — ўкарацілі,
Пашылі чаравічкі — памалілі.
— А не плач, Манечка, не журыся,
Прыедзіць Федзечка січас, січас,

* Кожны радок паўтараецца.

Прывязець чаравічкі якраз, якраз.
Прыедзіць Федзечка аж дадому,
Прывязець шубачку аж да долу.

У каморы, у каморы, за дзвярмі
Да ткала Варварушка тры каўры,
Перашэрстку слёзкамі змачыла,
Залатымі перснямі замшыла.
Шоў яе цяцінька вым акна.
— Чаго, чаго, дзіцятка, плакала?
— Да как жа, мой цяцінька,
Да мне не плакаці?
Нямала ўзораў на каўры,
Як еты ўзорушкі спераняці,
А свае харошыя спакідаці?

А ў сенях, у сенях, за дзвярмі,
Ткала Дунечка тры каўры.
Ткаўшы тры каўры, плакала:
— Скольկі ў каўрах узораў,
Столькі ў свёкра нораў.
Я ж еты ўзоры да перабяру,
Свёкаравы норавы перайму.
А ў сенях, у сенях, за дзвярмі,
Ткала Дунечка тры каўры.
Ткаўшы тры каўры плакала:
— Скольkі ў каўрах узораў,
Столькі ў Ванечкі нораў.
Я ж еты ўзоры да перабяру,
Ванечкіны норавы перайму.

Ой, у полі за сялом
Дзве дарожанькі разбягаюцца:
Адна — да роднага дому,
Другая — да цёмнага бору.
За тым борам — камора,
Ў той каморы дзевачка
Тонкія кужалі ткала,

Дарожаньку усцілала,
Каб малойчык не ўпыніўся,
Каб да шлюбу не спазніўся.

Ой, за бор, сваты, за бор,
Там за борам — камора.
У гэтай каморы дзевачка
Тонкія кужалі ткала.
Тонкія кужалі ткала,
Кужалямі бары слала,
Кужалямі бары слала.
Будзе ехаць малойчык,
Каб у пыл не ўпыліўся,
У расу не ўрасіўся,
Каб да мяне прыкаціўся.

Чэсць наша, хвала наша — Мар'ечка наша,
Усеяла чыстае поле жамчугом,
А ўваслала зялёны луг кумачком,
А ўзмасціла калінавы мост пярынамі,
А туды ехаў Іванечка з поездам.
Чарнейся, чыстае поле, жамчугом,
А краснейцеся, зялёны лугі, кумачом,
А звініце, калінавы масты, пярынамі.

Знаць, Хадорка багатага бацькі:
Укрывала харомы паневамі,
Шырок двор хусцінкамі,
Цесныя вуліцы пасцілкамі.
Масціла масточкі пярыначкамі,
Прудзіла прудочкі сярожкамі.

— А чаго ж ты, міла, спахмурнела,
Ці табе галоўка забалела?
— Балела, дзевачкі, цэлы дзень,—
Не бачыла любага я тыдзень.
Збар'явая нядзеля настала,

Ганна дружыну збірала.
Збірала дружыну, збірала,
Усіх каля стала саджала.
Сама села маладзенька паміж іх,
Схіліла галоўку ніжэй усіх.
Схіліла галоўку з касою,
Паліліся слёзы ракою:
— Ці вы мне галоўку звяжыце,
Ці вы мне мілога прышліце.
Звязалі галоўку шнурочкам,
Прыслалі мілога з вяночкам.

— А чаго ж ты, Матронка, змарнела,
Ці ў цябе галоўка балела?
— Балела, балела шэсць нядзель,—
Не відзела Антолькі адзін дзень.
Хоць вы мне галоўку звяжыце,
Хоць вы мне Антольку пакажыце.
Звязалі галоўку каснічком,
Паказалі Антольку пад вянцом.
Шоўкавым шнурочкам звязалі,
Залатым замочкам замкнулі.
І так ім, маладым, век гараваць,
І так ім, маладым, век векаваць.

— Чаго ж ты, Галечка, змарнела, *
Ці ж твая галоўка балела?
— Балела галоўка сем нядзель,—
Не відзела Колечку адзін дзень.
Звяжыце галоўку каснічком,
Прывядзіце Колечку вечарком.
Звязалі галоўку каснічком,
Прывялі Колечку вечарком.

— Чаму, дзевачка, схмурнела,
Ці табе галоўка балела?
— Балела, балела сем нядзель,—

* Кожны радок паўтараецца.

Не відзела малойчыка адзін дзень.
Перастань, галоўка, балеці,
Прыйдзе малойчык глядзеці.
Прыедзе не ў тую нядзельку, у гэту,
Прывязе хустачку-сурвэту.
Ой, прыедзе не ў гэту нядзельку, ды ў тую,
Прывязе хустачку рабую,
Звяжа галоўку бальную.

— Чаму ж ты, Зіначка, ой, засмутнела,
Чы твая галоўка, ой, забалела?
— Забалела галоўка ўчора, ой, у аўторак,—
Не бачыла свайго Ліксандрыка, ой, да дней сорак.
Запрагайце каня варанога,
Ой, пасылайце па Ліксандра маладога.

Усе горачкі-даліначкі вада паняла,
Ужо нашу Хоўрачку журба абняла.
Сядзіць яна пад аконцам, як ружовы цвет,
Заплаканы кары вочы, не міл божы свет.
Запрагайце каня варанога,
Пасылайце па Івана маладога.

Баліць мая галованька сем нядзель,—
Не відзела свайго міленькага адзін дзень.
Як я гляну праз шкляна ваконца,
Віджу свайго міленькага, як слонца:
Конь вараненькі, сам маладзенькі — то ён мой.
І чорны броўцы, і верны слоўцы — я яго.

Чырвоная каліначка, белы цвет,
Пыталася дзевачка, ці ўжо свет.
Чаму майго хлопчыка доўга нет?
Напісала б пісьмо — не ўмею,
Паслала б пасланца — не смею,
Пайшла б я сама — баюся,

Вялікая дарога — спазнюся.
На той дарозе старажы,
Яны мяне, маладую, спаймаюць,
Да па русай косцы пазнаюць.
Яны маю косачку расплятуць,
Яны мае каснічкі забяруць,
Яны мае слёзачкі разліюць.

Чырвона каліна, белы цвет,
Пыталася дзевачка, ці ўжо свет.
Чаму майго мілага доўга нет?
Напісала б пісьмо — не ўмею,
Паслала б пасланца — не смею,
Пайшла б сама — баюся:
Далёкая дарога — стамлюся,
Гібкая кладачка — згібнуся,
Быстрая рэчанька — утаплюся,
Са сваім Ванечкам не ўбачуся.

Зялёная рута, жоўты цвет,
Чаму ж цябе, дзяцінка, доўга нет?
Напісала б пісьмо — не ўмею,
Да паслала б пасла — не смею,
Да пайшла б я сама — баюся,
Вялікая дарога — спазнюся.
Да й ў той дарозе старажы стаяць,
Яны ж мяне сымаюць,
Па каснічкох пазнаюць.
Не так мяне па каснічкох,
Як па каснічочку,
Як па маём дзявочаму станочку.

Зялёная рута, жоўты цвет,
Чаму цябе, Колечка, доўга нет?
Пісала б пісьмо — не ўмею,
Паслала б пасланцы — не смею,
Пайшла б сама — баюся,
З роўнага поля вярнуся.
А ў тым полі стаяла бяроза,

А пад той бярозай старожа.
Там мяне, маладу, паймалі,
А па русай касе пазналі.
А ці тая каса русая,
Што ўчора ў цэркаўцы стаяла,
Верненька богу прысягала?

Зялёная рута, жоўты цвет,
Чаму, мой мілы, доўга нет?
Пісала б лісты — не ўмею,
Слала б пасланцы — не смею,
Пайшла б сама — баюся,
Вяліка дарожка — утамлюся.
На той дарожцы садочак,
А ў том садочку дварочак,
А ў том дварочку старажы.
Да яны мяне там паймаюць,
Па русай касе пазнаюць.
Ах ты, руса коска мая,
Да чаго ты мяне давяла.

Чырвоная калінка, жоўты цвет,
Пыталася дзевачка, ці ўжо свет.
Чаму майго малойчыка позна нет?
Да ці мне лісты пісаці,
Ці мне пасланцы пасlаці?
Пайшла б я сама — баюся,
Вялікая дарожка — утамлюся.
А пры той дарозе — бяроза,
Пад той бярозай — старажы.
Яны ж мяне, маладу, спаймаюць,
Па русай касе спазнаюць.
Мая косачка русая,
У тры столачкі пляцёна.
У тры столачкі пляцёна,
Майму міламу дадзена.

Зялёная рутанька, жоўты цвет,
Чаму цябе, Іванка, даўно нет?
Напісала б пісьмо — да не ўмею,

Паслала пасланца — да не смею.
Пайшла б я сама — да баюся.
Вялікая дарожанька — утамлюся,
Быстрая рэчанька — утаплюся.
На той жа рэчаньцы старажы,
Яны мяне, маладую, сцерагуць
Да па русай касе пазнаюць,
Да па румяну лічыку,
Да па беламу платочку.

Была, была ночка, а ўжо свет.
Ждала, ждала Анечка, а сватоў нет.
А пісала б лісты — да не ўмею,
А паслала б паслы — ды не смею.
А пашла б сама — баюся,
З паўдарожачкі вярнуся.
А там жа з паўдарогі старажы,
Яны мяне паймаюць,
Па русай касе пазнаюць.
Па русай касе, па красе,
Па чырвоненькім паясе.

Цёмная ночанька на ўвесь свет, *
Волечка Васечку даўно жджэць.
Напісала б пісьмо — не ўмею,
Паслала б паслы — не смею.
А пайшла б сама — баюся,
Я ў чыстым полі зблуджуся.
А ў чыстым полі бяроза,
Пад бярозаю старожа.
Там мяне старожа спаткаець,
Па белым лічыку спазнаець.
Па белым лічыку — слёзачкі,
На маіх плечыках — косачкі.

Звечарэлася на дварэ,
Спазніўся Колечка ў дварэ.
А яго Валечка даўно жджэць,

* Кожны радок паўтараецца.

Да й на ганачак выходзіць,
З роднай мамулькай гаворыць:
— Нет жа майго Колечкі, даўно нет.
Напісаць пісьмо — не ўмею,
Пайшла б я сама — баюся,
З чыстага поленька вярнуся.
А ў тым полі бяроза,
А на тэй бярозе старожа.
Тая мяне старожа спаткаець,
Да па русай касе спазнаець.
Была гэта косанька пад вянцом
Ды [illegible] удаленькім малайцом.
Удалы маладзец — Колечка,
Удалая княгіня — Валечка.

Чаго ты, Арына, губы дзьмеш,
Ці ты свайго Іваначку не дажджэш?
Надула губы, як бочкі,
Не бачыла Іваначку тры гадочкі.
Пісала б пісьмо — не ўмею,
Пасылала б паслоў — не смею.
А сама б пайшла — баюся,
Вялікая дарога — стамлюся.
Што на той дарозе старожа,
Тая мяне старожа спаймае
Ды па русай касе пазнае:
Ото ж тая косачка пляцёная,
Ото ж тая дзевачка вянчоная.

— Чаго, Агапа, ты губы дзьмеш,
Ці свайго Івана ў госці жджэш?
— Ой, я жду ад бога надзеі,
Прыйдзе Іваначка ў нядзелю,
Прыйдзе Іван на дзявічкі,
Прынясе Агапе чаравічкі.

Чаго ты, Сяргейка, спазніўся,
Ці на сваю дзевачку забыўся?
Яна цябе, маладога, даўно жджэць,

Па цябе, маладога, паслы шлець.
Напісала б лісты — не ўмееџь,
Паслала б паслы — не смеець,
Пайшла б я сама — баюся,
З чыстага поля вярнуся.
А ў чыстым полі бяроза,
Пад той бярозай дарога,
На той дарозе старожа.
Старожа, старожа, Сяргейка.
Тая мяне старожа паймаець
Ды па русе касе спазнаець.
Была гэта касынька пад вянцом,
А часана яна грабянцом.
Кінулі грабянец пад вянец:
— Тут табе, грабянец, зіму зімаваці,
А нам, маладым, век векаваці.

А ў дарозе Мішачка начуе,
Ліда яму вячэру гатуе.
Гатуйся, рыбачка, без хваста,
Прыедзе Мішачка без пасла.
Паслала б пасла — не смею,
Напісала б лісток — не ўмею.
Пайшла б я сама — баюся:
Доўгая дарога — утамлюся.
А на тэй дарозе бяроза,
Пад тэй бярозай старожа.
Яны мяне, малоду, спаймаюць,
Па русай касе вазнаюць,
Па руцьмянаму вяночку,
Па шаўковаму паясочку.

Гатавала Аўгінка вячэру,
Ждала к сабе суженьку ў нядзелю.
— А калі не будзе ў нядзелю,
Дак я табе шкоданьку ўчыню:
На Дунаі масты размашчу,
У бару дарогу завалю,
А ў полі конікі суніму,
А ў варотах старожу пастаўлю.

— Маладая Аўгінка,
Я ж твае шкоданькі не баюся:
Я ў полі конікі падганю,
А ў бару дарогу прыбяру,
На Дунаі масты намашчу,
А ў варотах старожу ўпрашу,
На куце дружак разганю,
Ля свае дзевачкі сам сяду.
Як сядзелі дзевачкі — дак песні,
А як сужанька — дак уцешна.

Папытала Гапка, ці ўжо свет.
— Чаму майго Нікіпарка ка мне нет?
Ой, я маю ад бога надзею,
Што прыедзе Нікіпарка ў нядзелю,
Хоць не ў ету, то ў тую,
Я ж яму сняданне гатую.
Ой, Гапка разумначка,
Пазагадвала шчырыя бары капаці,
А сама пайшла чорнага маку сеяці.
— Ой, радзі, божа, чорны мак,
Жоўценькі цвет.
Прынясе, божа, Нікіпарка пад свет.
Ой, дай, божа, шчасця і долечку
Ім на доўгі век.

— Ды чаго ты, дзевачка, схмурнела,
Знаці, твая галоўка балела?
— Ды балела галоўка ва аўторак,
Не бачыла дзяцінку дзён сорак.
Ды маю я ад бога ды надзею,
Што прыйдзе дзяцінка ў нядзелю.
Хоць не ў гэтую, то ў тую,
Хаця ж яму снедаці згатую.
Ды зарэжу галубка рабога
Ды для свайго дзяцінкі маладога,
Ды зарэжу галубку сівую
Ды для свайго дзяцінкі мілога.

— Не думай, Малашка, не думай,
Паехаў Дзмітарка за Дунай.
— Маю я ад бога надзею,
Прыедзе Дзмітарка ў нядзелю,
Ой, ды не ў сюю, ў другую,
Я яму рыбаньку згатую.
Згатую рыбаньку ў малацы,
Сяду я з Дзмітаркам ў парачцы.
Згатую рыбаньку з перцам,
Сяду я з Дзмітаркам з сэрцам.

Мела сабе Кацечка надзею,
Што прыедзе Іванка ў нядзелю,
Не ў гэтую, дык у тую.
— Я ж яму снеданне згатую,
Я ж яму рыбачку-акунца,
Для свайго Іванкі-малайца.
— Да і не ведаў, Кацечка, не ведаў,
Я ў свае мамачкі паснедаў,
А ў цябе, маладое, паабедаў.

Ой, маю на бога надзею,
Што прыйдзе мілы ў нядзелю.
Ой, хоць у гэту, хоць у тую,
Я ж яму снеданне згатую:
Смажоныя галубцы-малайцы,
Чорныя галачкі ў смятане,
Ой, у смятане.
То майму мілому сняданне.

А ў бару жанішка начуе,
Дзевачка вячэру гатуе.
Гатуе вячэру з акунямі —
Прыедзе жанішка са сватамі.
Гатуе вячэру з плоткамі —
Прыедзе жанішка з цёткамі.
Гатуе вячэру з перчыкам —
Прыедзе жанішка з дзеверчыкам.

Іванька ў бару начуе,
Дзевачка вячэру гатуе.
Гатуе рыбачку з ікрою —
Прыедзе Іванька з сястрою,
Паесць рыбачку з ікрою,
Забярэ дзеваньку з сабою.

Між гор каліна стаяла,
На ёй ветачка залатая.
Там ішла Танечка маладая,
Яна тую ветачку сарвала,
Да злотнічкаў паслала:
— Злотнічкі мае дарагія,
Зрабіце кубачкі залатыя
Зеляно віно наліваці,
Наезджых гасцей частаваці:
Зеляным віном — на дварэ,
Горкай гарэлкай — на стале,
Салодкім мядком — за дварком,
Павязуць мяне і з вянком.

Ой, рута-мята, жоўты цвет,
Што цябе, дзяцінка, доўга нет?
Цябе дзевачка доўга жджэць,
А ў вароціках стоячы,
На руках кубачкі дзержачы.
— Кубачкі ўжо спаўнелі,
Мае ручачкі ўжо самлелі.
Напісала б пісьмо — не ўмею,
Паслала б паслоў — не смею,
Сама б пайшла — баюся:
Дарога вяліка — стамлюся.
На той дарозе старожа,
Тая старожа спаймаець,
Па русай касе спазнаець.
Ета косачка з-пад вянца
Да расплецена да канца.
Была запляла шнуркамі,—
Прыехаў хлопчык з дружкамі,
Шчэ з маладымі сваткамі,

Расплёў косачку ручкамі,
Расклаў косачку па плячу,
Разліў слёзачку па ліцу.

Не вечарыся на дварэ,
Не пазнісь, Максімка, у дварэ,
А то цябе Вуллянка даўно жджэць.
А то цябе Вуллянка даўно жджэць,
За варотамі стоячы,
Поўныя кубачкі дзержачы.
— Паўнейце, кубачкі, паўнейце,
Не млейце, ручачкі, не млейце.
А ўжо ручачкі самлелі,
Чаравічкі ножкі сціснулі,
Залатыя пярсцёнкі з рук спалі,
Пакуль Максімкі даждалі.

Не кукуй, зязюля, так рана,
Не кажы, што ночанька мала,
Бо я ўсю ночку не спала,
Міленькаму лісточкі пісала:
— Едзь, едзь, міленькі, не баўся,
Бо ўжо мой татачка прыбраўся:
Паставіў столікі новыя,
Заслаў абрусы тонкія,
Наліў чарачкі поўныя.
Наліў чарачкі поўныя,
Пасадзіў госцікі любыя.
Любыя госцікі п'юць, ядуць,
Зараз дзеўчынку павязуць.

Не вечарыся на дварэ,
Не пазніся, Іванечка,
Ўжо цябе Мар'ечка даўно жджэ,
За варотамі стоячы,
Ў руках кубачкі дзержачы.
— Ўжо мае кубачкі спаўнелі,
Ўжо мае ручачкі самлелі,

Косухна плечухны абламала.
Паслала б паслы — не смею,
Напісала б пісьмо — не ўмею,
Сама ж ба я пайшла — баюся:
На той дарозе старожа.
Тая мяне старожа спаймае,
Па русай касе спазнае:
То была косухна пад вянцом,
Яна расчэсана грабянцом.

Да стаяла Гапачка пад ляском,
Да гукнула Нікіпарка галаском:
— Едзь, едзь, Нікіпарка, не дляйся,
Бо ўжо мой бацюхна прыбраўся:
Цясовыя столікі заслатыя,
Што Гапачкаю наткатыя,
Залатыя кубкі налітыя,
Без цябе, Нікіпарка, няпітыя.

Хадзіла дзевачка пад ляском,
Клікала мілага галаском:
— Едзь, мой міленькі, не баўся,
Ўжо мой татачка сабраўся:
Цісовыя сталы пастаўляў,
Белыя абрусы засцілаў.
Белыя абрусы засцілаў,
Залатыя кубкі паналіваў,
Мілыя госці пазбіраў.
Мілыя госці віно п'юць,
Ў садзе салавейкі гнёзды ўюць,
Цябе, міленькі, усе ждуць.

Стаяла маладая Люська пад ляском,
Клікала свайго Толіка галаском:
— А едзь жа, едзь, Толічка, не баўся,
А мой татачка, мой родненькі прыбраўся:
Новыя столікі панастаўляў,
Ўсіх сваіх госцікаў панасаджаў.

Ўсе нашы госцікі п'юць, ядуць,
А цябе, Толічак, толькі ждуць.
Адна наша Люсечка не п'е, не есць, скучае,
Свайго Толічку ажыдае
Ды з-пад белага вяночка
У аконца паглядае.

Залаты калёсы, шкляна печ,
Чаму цябе, Ванечка, доўга нет?
Бо мой баценька прыбраўся:
Цясовы сталы састаўляў.
Цясовы сталы састаўляў,
Кружовы абрусы засцілаў.
Кружовы абрусы засцілаў,
Мёд-віно ў кілішкіналіваў,
Прыезджыя госці частаваў.

Ой, у вароцях вада рыне,
Ой, там Матронка лыжкі мые,
Ой, мый, Матронка, бялесенька,
Ўжо твой Цімошка блізесенька.
На двор з'язджае, на кані грае,
А ў сені ўходзіць, шапку зносіць,
А ў хату ўходзіць, кланяецца,
За сталом сядзе, сакалом гляне.

А калі ж яна, млода, бывала,
У нядзелечку паранюсеньку ўставала,
А яна свайго роднага татульку будзіла:
— Устань, устань, мой татулька, доўга спіш,
Маніліся к нам невядомыя госцікі.
А первы гасцёк — молад Колечка — наперад,
Сумей, сумей, татулька, адказаці.
— А ў мяне ёсць тое золата, што аддаці,
А ў Колечкі тая душачка — што ўзяці.

У нядзеленьку рана
Ганначка сенцы мяла
Залатою мяцёлкаю.

Выйшла да яе мацёнка яе:
— Чаго, дзіця, прыбіраешся,
Ці ты гасцей спадзяваешся?
— Спадзяваюся, мая матаньку, сакола,
Сакола з частакола,
А Януська ад бацюхна.

Між новых клетачак
Сцежкі памяцёны.
Хто ж іх там памятаў?
Таццянка памятала.
Яна ж сабе гасцей ждала
Да ў татулькі пытала:
— Да татулька родненькі,
Ты ўчора на таргу быў,
Ці не відзеў Васілька?
— Да, дзіцятка роднае,
Хоць відзеў, не знаю.

Каля быстрага Дунаю *
Стаяла сасонка ля краю.
Пад той сасонкай Танечка
Шаўковай хустай махала;
А ў полі вятры сцішала,
А ў бога долі прасіла:
— Каб быстрэй Дунай ціхі ішоў,
Каб мой Сашанька прыехаў,
Мяне, моладу, перавёз.
Не жалка коней вараных,
Не жалка малайцоў маладых.

Я сені мяту і касу пляту,
Гасцей сваіх паджыдаю.
Выйду на гару, гляну пад зару —
Ано ж мае госцікі едуць.
Дзяцінка едзе, як ружовы цвет,
Завязаў ён мне свет.

* Кожны радок паўтараецца.

Смутна Марыся, смутна
І ў акно паглядае:
Падобнась, яна госці спадзявае.
Спадзяваецца госпада бога
З усімі анёламі.
Спадзяваецца свайго Андруся
З пышнымі баярамі.

А дзеваньчын бацюхна
Гасцей спадзяваецца.
Гасцей спадзяваецца,
Сабалямі двор сцеле.
Сабалямі двор сцеле,
А золатам пасыпае,
Серабром палівае,
Калінаю да абсаджвае.
Скора госценькі на двор,
То саболе да зашумелі.
То саболе да зашумелі,
А золата зазвінела.
А срэбра забрашчэла,
Калінанька расцвіцела.

Засцілайце цісовыя сталы,
Накладайце пшанічныя хлябы,
Налівайце мёд-віно ў кубкі,
Спадзявайцеся любага госця, зяценька майго.

Засцілайце сталы, лавы:
Едзе госць небывалы.
Ён у полі настаяўся,
Яго вецер намахаўся,
Яго дожджык накрапляўся.

— Родная сястрыца,
Пастой, дзеванька Алена,
Скажу табе нешта:

Была на месце, чула тры весці —
Малалетні Іван каней запрагаець,
За табой, Алена, радню адпраўляець.
— Не паеду, сястрычанькі, пакуль сам прыедзець.

Ой, рана-раненька.
Дзевачкі-падружачкі,
Выйдзіце паслухайце:
Ці шуміць дуброванька,
Ці цвіціць бабровы цвет,
Ці едзець завяжыць свет?
Ой, рана-раненька.
— Ты, Уллянка, сястрыца наша,
Ці казаць, ці не казаць,
Ці жалю не задаваць?
Ой, рана-раненька.
Шуміць дуброванька,
Цвіціць бабровы цвет,
Ужо едзіць завяжыць свет.
Ой, рана-раненька.

— А жоначкі-лябёдачкі,
А вы паслухайце:
Ці не шуміць бярозанька,
Ці не стучыць дарожанька,
Ці не цвіцець бараванькі цвет,
Ці не едзіць той чалавек,
З кім жыць буду век?
— Шуміць, шуміць бярозанька,
Стучыць, стучыць дарожанька,
Ды і зацвіў бараванькі цвет,
А прыехаў той чалавек,
З кім жыць будзеш век.

На дварэ раса росіць,
Галечка дзевак просіць:
— Дзевачкі-сястрычкі,

Выйдзіце паслухайце:
Ці шуміць дарожанька,
Ці звініць жалезны мост,
Ці едзіць мой Колечка?
— І шуміць дарожанька,
І звініць жалезны мост,
І едзіць твой Колечка.

— Да дзевачкі-сястрыцы,
Божа, божа. *
Выйдзіце паслухайце:
Ці шуміць дубровачка,
Ці стучыць дарожачка,
Ці звініць каваны конь,
Ці едзіць Іванька мой?
— Да, Манечка-сястрыца,
Мы хадзілі слухалі:
Ужо стучыць дарожачка,
Ужо шуміць дубровачка,
Ужо звініць каваны конь,
Ужо едзіць Іванька твой.
Ужо едзіць развi-касу,
Прыехаў вымі-слязу.

— Паглядзі, Зеха, ў чыста поле:
Ці ярчэець дарога шырокая,
Ці звіняць падковы чырвоныя,
Ці бягуць коні вараныя,
Ці вязуць Азара каханага?
— Шуміць дуброва зялёная,
Ярчэець дарога шырокая,
Звіняць падковы чырвоныя,
Бягуць конікі вараныя,
Вязуць Азара каханага.

Да выйдзі на вулачку,
Ды глянь на дубровачку:
Ці шуміць дубровачка,

* Рэфрэн «Божа, божа» паўтараецца пасля кожнага радка.



32. Зак. 555

Ці пыліць дарожачка,
Ці лятуць коні,
Ці круцяць колы,
Ці едзе ружовы цвет,
Ці завяжа белы свет?

Манечка матушку высылала:
— Ты выйдзі, матушка, паслухай:
Ці рахціць дарога шырокая,
Ці скрыпяць саначкі-маляваначкі,
Ці звіняць падковы залатыя,
Ці пяюць свашачкі маладыя?

Маладая дзевачка, *
Выйдзі за варота.
Выйдзі за варота
Да прыляж к дарозе,
Ці шуміць ліст, дуброва,
Ці звініць дарога,
Бо то ж твая вайна едзе,
Будзе цябе ваяваць.
Будзе цябе ваяваці,
Тваё дабро забіраці.
Усей двор твой зваюе
І камору спустуе.

Мамачка Марфачку вон высылала: **
— Ай, выйдзі, Марфачка, за вароцікі,
Ай, прыляж, Марфачка, к сырой зямлі,
Паслухай, Марфачка, вярнёшанька:
Ці шуміць дуброва зялёная,
Ці стогнець дарога шырокая,
Ці вязуць нам князя маладога?
А наш князь, наш князь чоран, як гразь,
А наша князіна, як сыр бела,
Яна бела, яна бела, як папера.

---

* Кожны няцотны радок паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

Дачушка татухну вон высылала: *
— Выйдзі, выйдзі, татухна, за вароцейкі,
Паслухай, татухна, ў чыстае поле:
Ці шуміць дуброва зялёная,
Ці стогнець дарога шырокая,
Ці едуць баяры купавыя,
Ці вязуць нам князя маладога?
— А й шуміць дуброва зялёная,
А й стогнець дарога шырокая,
А й едуць баяры купавыя,
А й вязуць нам князя маладога.
— Абнясі, татухна, двор ракою,
Не пусці, татухна, баяраў на двор.
Будуць цябе, татухна, ваяваці,
А й мяне ад цябе адбіраці.

Манечка матушку вон высылала: *
— Ты выйдзі, матушка, за вароткі,
Ты прыляж, матушка, к сырой зямлі:
Ці стогнець дарога шырокая,
Ці шуміць дуброва зялёная,
Ці звіняць падковы сталяныя,
Ці едуць баяры купавыя,
Ці вязуць князя маладога?
Ой, выйшла матушка за вароткі,
Прылягла матушка к сырой зямлі:
— Ой, стогніць дарога шырокая,
Ой, шуміць дуброва зялёная,
Ой, звіняць падковы каляныя,
Ой, едуць баяры купавыя,
Ой, вязуць князя маладога.

Маладая Ганначка,
Выйдзі за вароцечка,
Прыпадзі к дарожаньцы:
Ці стогне дарожанька,
Ці шуміць дубраванька,
Ці не едуць сваты твае,
Ці не вязуць раскуй-косы,
Ці не вязуць разлей-слёзы?

* Кожны радок паўтараецца.

У нядзельку раненька
Да ўсходу соненька
Ганначка сені мяла
Да мацёнкі гаварыла:
— Ой, мамачка мая родненька,
Ці шуміць дуброванька,
Ці едзе разві-косу,
Ці вязе разлі-слёзу?
— Ой, Ганначка, маё дзіцятка,
Ужо шуміць дуброванька,
Ужо шуміць дуброванька,
Ужо звініць дарожанька,
Ужо едзе разві-косу,
Ужо вязе разлі-слёзу.

Мая мацюнка родна,
Выйдзі на дарогу,
Паслухай на дуброву:
Ці шуміць дуброванька,
Ці стучыць дарожанька,
Ці ідзе размай-каса,
Ці спала з лічанька краса?
— І шуміць дуброванька,
І стучыць дарожанька,
І ідзе размай-каса,
І спала з лічка краса,
Як з каліна́нькі раса.

— Маладая дзевачка,
Выйдзі пад акеначка,
Прылажы галовачку, паслухай:
А ці стогне дарожачка,
Ці бразджаць каваныя колы,
Ці іржаць вараныя коні,
Ці свішчуць маршалачкі,
Ці пяюць бальшаначкі?
Дзевачка адышлася,
Слёзкамі аблілася, пачуўшы,
Як стогне дарожачка,
Як бразджаць каваныя колы,

Як іржаць вараныя коні,
Як свішчуць маршалачкі,
Да пяюць бальшаначкі.

Ой, выйдзем мы да паслухаем,
Ці не едуць, ці не гойкаюць.
Чуваць сваты, чуваць,
Кованыя іх колы стучаць,
Шоўкавыя повады звіняць.
Знаць, сваты багатыя,
Шапачкі на іх рагатыя,
Знаць, сваты хвастлівыя,
Конікі іх пляснівыя.

Татухна мой родненькі,
Выйдзі за вароты,
Прыляж на дарозе:
Ці шуміць лес-дуброва,
Ці стогне дарога,
Ці свішчуць нагайкі,
Ці едуць баяркі,
Ці пяюць свашкі песні
Да ці ёсць праміж іх
Мой разлучнічак?
Разлучыў маю касу,
Разабраў па валасу,
Пусціў па шаўковым паясу.

А чуваць сваты, чуваць —
Шаўковыя павады шумяць.
Чым будзем сватоў пераймаць?
Чым будзем гасцей частаваць?
Будзем пераймаць хлебам,
Будзем частаваць віном.

Дзевачкі-падружачкі,
Выйдзіце, паслухайце:
Ці шуміць дубровачка,

Ці стучыць дарожачка,
Ці звіняць падковачкі,
Ці едуць заловачкі?
— Шуміць дубровачка,
Звіняць падковачкі,
А стучыць дарожачка,
А едуць падружачкі.
А едзіць расплесць-коскі,
А едзіць разліў-слёзкі.

Манечка за столікам сядзела,
Яе галоўка, як макаўка, цвіцела,
Яе матулька, яе родная не ўзнала,
Ды ходзячы па дзевачках, пытала:
— Ды выйду я, ды гляну я з-пад зары,
Чы не едзіць наш Яначка з-пад гары.

Шуміць лісток на бярозе,
Чуваць сваты у дарозе.
Шуміць лісток на каліне,
Чуваць сваты на даліне.
Шуміць лісток на дубочку,
Ужо сваты у дварочку.
Конікі пляснівыя,
Сваточкі хвастлівыя.
Конікі буланыя,
Сваточкі прыбраныя.
Конікі вараныя,
Сваточкі маладыя.

Пайшла дзевачка па ваду,
Пачула гасцей у бару,
Кінула вядзерцы пад гару,
А каромісел на гару.
— Станьце, мае вядзерцы, камянём,
А каромісел — яваром,
Ужо мае госцейкі за дваром.
У шчырым бару конь заржаў,
А ў чыстым полі свашкі пяюць,

А мне, маладзе, жаль задаюць.
Адлучаюць мяне ад дому,
Прылучаюць мяне к чужому,
К таму свёкарку ліхому,
А к той свякрусі-эмяюсі.
Не будуць рана будзіці,
Выйдуць на вулку судзіці.

Пайшла наша дзевачка і ў Дунай па воду,
Вады не набрала, к Дунаю прыпала.
Да яна ж думала, што рыбачка грае,
Аж малады дзяцінка коніка сядлае.

Пайшла дзевачка па ваду,
Зачула госцікаў у бару.
А ў шчырым бару конь зарзаў,
Скрыпкі-цымбалы зайгралі,
Маладыя свашачкі заспявалі.
— Гатоўсь, мамачка, гатоўсь,
Ужо нашы госцікі недалёка.
А ў шчырым бару конь зарзаў,
Скрыпкі-цымбалы заспявалі.
Гатоўсь, мамачка, гатоўсь,
Гатоў рыбачку-шатрамі —
Едзе дзяцінка з сястрамі.
Яны тую рыбачку паядуць,
З сабой дзевачку павязуць.

Пайшла Ганначка па ваду, *
Зачула сватоў на браду.
Кінула вядзерцы на ляду,
А сама ж пайшла па двару,
Белыя ручачкі ломячы,
Жаркія слёзачкі ронячы:
— Гатуйся, татулька, гатуйся,
У чорныя чобаты абуйся.
Ужо ж мае сваты недалёка:

---

* Кожны радок паўтараецца.

Вараныя коні заржалі,
Звонкія музыкі зайгралі,
Галосныя сваццкі запелі.

Пайшла дзевачка па ваду,
Зачула госцікаў у бару.
Кінула вядзерцы пад гору,
А сама пабегла дадому:
— Гатуйся, мамачка, гатуйся,
У чырвоны чаботкі абуйся.
У чырвоны чаботкі абуйся,
У залаты падкоўкі падкуйся.
Штоб твае падкоўкі бразчалі,
Штоб мае ворагі маўчалі.
Ужэ ж твае госцейкі недалёчка:
У зялёным бары конь заржаў,
Сакатушкі-свашкі песні пяюць,
А мне, маладой, звесць падаюць.

Пайшла Танечка па ваду, *
Зачула гасцей у бару.
Кінула вядзёрцы пад гару,
А сама пайшла дадому
Да схавалася ў камору.
— Гатуйся, мамачка, гатуйся,
У чырвоныя боцікі абуйся.
А ў шчырым бару конь заржаў,
Вясёлыя свашачкі песні пяюць,
А мне, маладой, звесць даюць.

Прыбірайся, мой татка, прыбірайся,
У новыя чабоцікі абувайся.
Ужо ж мае сваточкі недалечка:
У шчырым бару конь зарзаў,
А сватоўе-паноўе запела,
А музыкі-разакі зайгралі,
Маё сердзейка спужалі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Наша Манечка пераборачка ў нас была, *
Не выбрала сабе жаніха для сябе.
Пайшла ж яна позненька вечарам у садок,
Да прыляцела дзіўная пціца да яе,
Да прынесла дзіўнае пісьмо для яе.
Стала яна тое пісямцо чытаці,
Стала ў яе яе мамачка пытаці:
— Скажу, скажу, мая мамачка, я й табе,
Прыедзіць жаніх з чужой стараны з-за мора.
Сумей, мамачка, майго жаніха пераняць,
Сумей, мамачка, майго жаніха частаваць,
Сумей, мамачка, хоць славечачка загукаць.

З-пад гары ветрык веіць,
Да нас сваточкі едуць.
Конікі вараныя,
Сваточкі маладыя.
Конікі буланыя,
Сваточкі ўдалыя.
Конікам аброк дадуць,
Сваточкі за стол сядуць.

Ой, едзе, едзе ружовы квеце,
Завязаў мой свеце.
Завязаў вочы цёмнае ночы
Чырвонаю кітайкаю:
Ні я да дзевачак,
Ні я ў таночак,
Ні на гуланьку выйсці.
Дзеванькі гуляюць,
Косанькі маюць,
А мяне не пускаюць.

Проціў двара да Карнеевага,
Працякала рэчка быстрая,
Працякала беражыстая.
Хадоска за вадой ішла,

* Кожны радок паўтараецца.

Завідзела сокала за ракой.
— Матушка мая родная,
Зашчыці ж новыя вароты,
Запрудзі рэчку быструю.
— Дурачка да Хадосачка,
Дурачка да неразумная,
Коні яго, яны ўброд пойдуць,
Самі яны пераход знойдуць,
Цябе, младу, да з сабой возьмуць.

На дварэ сняжочак
Сыпком сыплець,
Па двару дзевачка
Дыбком дыблець.
— Охці мне, мой бацюшка,
Зашчыці, мой бацюшка,
Шчытам вароты,
Упусці ты, бацюшка,
На двор вады пад шчыт.
— Дурачка, ты глупачка,
Шчыт яны разломяць,
Коней уплаў пусцяць,
Самі ў двор пойдуць
І мяне, старога,
Тагды разваююць,
А цябе, маладу,
У плен паланююць.

Завідзела ў полі шайну-вайну.
— Запірай, бацюшка, шчыты-вароты,
Не ўпускай, бацюшка, на двор вайны.
Тая ж табе воінка разваюіць,
Мяне, маладую, у палон возьміць.
Я ж буду, бацюшка, паланяначка,
Без мяне матушка — гараваначка.

Дунулі ветрыкі ўдоль па вуліцы,
Распёрлісь вароты ўсё й Міколкіны,
Выйшаўшы Тоцінька дый упрашывала:
— Татунька, родненькі, запірай вароты,

Ні ўпускай казака,
Не давай узʼязджаць, мяне, маладу, браць.
Татулька родненькі не паслухаў яе,
Не запёр вароты, ўпусціў казака,
Ён і даў узʼехаці, мяне, маладу, ўзяці.

А казала чарачка: *
— Калі ж мяне да не выпʼяце —
Я ж сама разальюся
Па клеці, па пераклеці,
Па двару раўчачкамі,
За вароты рэчачкамі.
А казала дзевачка:
— Калі ж мяне да й не аддаеце —
Я ж сама парапайду
Па хаце паціхусеньку,
Па двару памалесеньку,
Па вуліцы дыбком, дыбком,
За вароты бяжком, бяжком.

А мувіла бочачка,
У піўніцы стоячы:
— Калі мяне не выкацюць —
Я сама выкачуся:
Па двары — крынічкаю,
За вароты — рэчкаю.
Гаварыла дзевачка
Свайму роднаму татку:
— А мой родны татачка,
Калі мяне не выдасі —
Я сама замуж пайду:
Па двары — мяцёлкаю,
За вароты — пчолкаю.
Я пайду, не аглянуся,
К табе, татка, не вярнуся.

Гаварыла бочачка, на пераклеці стоя:
— Калі мяне да не выпʼеце —
Я сама разальюся.

---

* Кожны радок, акрамя трэцяга, шостага, дзевятага і трынаццатага, паўтараецца.

Гаварыла дзеванька:
— Калі мяне да не выдасце —
Я сама ад вас пайду:
І з хаты да мяцёлкаю,
І з сяней перапёлкаю,
За вароты кукаліцаю,
Да свёкара маладзіцаю.

Сакатала бочачка,
У піўніцы стоячы:
— Калі мяне не вып'еце —
Я сама разліюся.
Я сама разліюся,
Па лугу пакачуся.
Плакала дзяўчыначка,
У матулькі седзячы:
— Мамачка, аддай замуж,
А калі не аддасце —
Я сама замуж пайду:
Я з хаты пехатою,
А з двара карэтаю.
А з двара карэтаю,
Маладой кабетаю.

Ой, гаварыла бочачка
Проці свайго піваварчыка:
— Калі мяне не вып'еце,
То я сама разальюся
Па меднаму мосту
Да па зялёнаму гвозду.
Гаварыла дзеванька
Да проці свайго баценька:
— Калі мяне не аддасце,
То я сама пайду.

Казала бочачка,
Стоячы ў клеці:
— Калі мяне не вып'еце
На вясельным банкеце —
Сама выкачуся,

Разаллюся па двары
Ракой ды крыніцай,
Халоднай вадзіцай.
Казала Агатка,
Седзячы пры татку:
— Калі мяне не выдасі —
Я сама пайду:
Па двары памаленьку пайду,
За варотамі ўгрунь палячу.

Гаварыла бочачка, *
У цёмнай клеці стоячы:
— Ніхто мяне тут не вып'е,
Я й сама да разальюся
Па клеці да пярэклеці,
На дварэ ручаёчкам,
За варотамі да крыніцаю.
Гаварыла Ганначка:
— Ніхто мяне тут не возьме,
Я й сама да й к Івану пайду
Па двары да пяшком, пяшком,
За варотамі да бяжком, бяжком.
Па двары да й дзявіцаю,
На вуліцы маладзіцаю.

Рагоча бочка, рагоча,
Ў пограбе жыць не хоча.
Калі мяне да не выкатаюць —
Я сама выкачуся,
Аб пень разаб'юся,
Па двару рассыплюся.
Калі мяне баяры не возьмуць —
Я сама ўслед пайду,
Па двару паціхусеньку,
Пад вароты памалюсенько,
А па вуліцы, як конь скача.

Горкая гарэліца,
Сама яна гаварыла:
— Калі мяне не вып'еце —

* Кожны радок, акрамя першага і восьмага, паўтараецца.

Я сама разліюся 2
Па цісовым століку,
Па бялёвай скацерці.
Маладзенькая дзевачка,
Сама яна гаварыла:
— Калі мяне татка не аддасць —
Я сама замуж пайду,
Ўсю гарэлачку пап'ю.

Ай, гудзелі пчолачкі,
Па бары лятаючы, 2
Мядочак збіраючы, 2
У каранёк складаючы.
Гаварыла дзевачка
З сваёй роднай мамачкай, 2
Трубачкі качаючы, 2
У купарчык складаючы:
— Калі мяне не выдасі —
Я сама ад вас пайду 2
Па двары мяцёлкаю, 2
За вароты пчолкаю.

Зялёная рутанька, жоўты цвет,
Калі замуж не аддадуць, пайду ў свет.
Зялёная рутанька зелянеець,
Хто мяне не возьмець — зжалеіць,
Зялёная рутанька руціцца,
Хто мяне не возьмець — скруціцца.

І цвіцела на дварэ яблыня, і цвіцела,
І хацела Томачка замуж, і хацела.
І яе мамачка прасіла:
— Работаць мая не сіла.
Томачка сваточкаў прасіла:
— Сваточкі мае, братачкі, *
Упаіце мамачку п'яненька,
Прыедзе й Лёвачка раненька,
А не так раненька — зарою,
Возьмець, павязець з сабою.

* Кожны наступны радок паўтараецца.

## МАЛАДАЯ ПРОСІЦЬ НЕ АДДАВАЦЬ ЯЕ ЗАМУЖ

Кукавала зязюля ў лузе,
Прылягаючы к дарозе,
Прымаўляючы к бярозе:
— Бадай бярозу марозы,
Гэтага лісцейка не будзе.
Болей голлейка прыбудзе.
А табе, бяроза, жаль будзе,
Што гэткага лісця не будзе.
Плакала дзевачка ў святліцы,
Прылягаючы к скамніцы,
Прымаўляючы к матачцы:
— А будуць, матачка, госці ў нас,
А будуць мяне прасіць у вас.
— Дай божа, дзіцятка, добры час,
А няхай людзі просяць цябе ў нас.
Палавіна негі адбудзе,
А болей розуму прыбудзе.
А табе, дзіцятка, жаль будзе,
Такой негі не будзе.
— Нега ж мая, неганька бацькава,
А перанежайка матчына.
Пагуляннейка братняе,
Красаваннейка сястрына.

Лятуць вараныя коні ад вады,
Звіняць-бразджаць шаўковыя павады.
Чула-зачула маладая ў каморы
Да як кінецца свайму татачку ў ногі.
— Не аддай, не аддай, мой татачко, мяне,
Хаця я пабуду гадочак у цябе,
Хаця падганю тваю нівачку ў канец,
А ці не прыедзе лепшы маладзец?
— Рад я быў бы, дочка, цябе не аддаць —
Прыехалі тыя госцікі, што ўзяць.

Трахнулі калёсцы паўз вакно.
— Паглядзі, мая мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дзіцятачка, па цябе,
Па тваю па русую косачку.
Ці не лучшы касе ў лантусе,
Ці не лучшы галоўцы ў намётцы,
Ці не лучшы косачцы ў стрэчачцы.

Застучалі жалезны колы па полю,
Ды заплакала млода Марылька за столам:
— Ды не аддай мяне, мая мамулька, сёлета,
А хоць я ў цябе адзін гадочак пагашчу,
Хоць я сваю русую коску падрашчу.
— Было гуляць, мая дачушка, ў мяне,
Было хадзіць па таткавым дварочку,
А цяпер, мая дачушка, у мяне
Прыляцела ўся няволя да цябе.

Зазвінелі кованы вазы на дварэ,
Забразкалі залаты кубкі на стале.
Да й учула Валечка ў каморы,
Да й упала свайму татачку ў ногі:
— Не аддай, не аддай, родны татачка, ад сябе,
Хаця б я пагуляла гэта лецечка ў цябе.
Маё ж лецечка невялікае — нядзелька,
Хаця б я пагуляла ў цябе, як дзеўка.
Маё ж лецечка невялікае — адзін дзень,
Хаця б я пагуляла між людзей.
Маё ж лецечка невялікае дзянькамі,
Хаця б я пагуляла з дзяўкамі.

Зарзалі вараны коні за сялом,
Застучалі кованы колы за дваром,
Зазвінелі яркія званкі пад акном.
Зляклулася млода Танечка ў каморы
Ды як пала сваёй мамачцы ў ногі:
— Не аддай, не аддай мяне, мамачка, ад сябе,
Хоць я пабуду адзін гадочак у цябе.
Я ж табе не год, не два рабіла,
Каб ты мяне за адну вячэрку згубіла.

Кукавала зязюля на ўвесь бор,
Плакала Манечка на ўвесь двор:
— Не аддай, татанька, мяне гэты год,
Ці год, ці не год — цёплае лецечка,
Каб жа я навучылася дзелечка:
На красну вясну кросны ткаць,
На люту зімачку плаццяя праць.

Да застукалі, да загрукалі на дварэ,
Зазвінелі залатыя кубкі на стале.
Заплакала малада паненка ў каморы
Да й упала свайму ойчаньку да ў ногі:
— Прашу, ойчанька, прашу, родненькі,
Не аддай мяне, адну зімачку патрымай,
Штоб я сабе тонка кужалю напрала,
Штоб я сабе доўгіх падаркаў наткала.
— Ой, і рад бы я, маё дзіцятка, не аддаці —
Прыехалі тыя госцікі, хочуць ўзяці,
Прыехалі тыя любыя, як аддаці.

Застукалі вараны коні на дварэ,
Зазвінелі шклянкі-кілішкі на стале.
Як учула малада Волечка ў каморы,
Так упала сваей мамачцы на ножкі:
— Ах, мамачка, а работачкі не ўмею,
А ў свякроўкі пытаціся не смею.
Свяковачка, яна работачкі не скажа,
Выйдзе на вуліцу ўсім суседачкам раскажа.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дзіцятка, па цябе,
Па тваю русую косачку.
— Няхай мая русая каса лялее,
Няхай мяне мой татачка жалее,
Няхай мяне ў чужое сяло не аддае.
У чужым сяле я чужых людзей не знаю,
Пашлюць мяне рана па ваду к Дунаю.

Зарзалі вараныя коні на дварэ,
Зазвінелі залатыя кубкі на стале.
Залякнулася малада дзевачка ў каморы,
Кінулася роднай мамачцы на ногі:
— Не аддай, не аддай, мая мамачка, шчэ мяне,
Пералетавала гэта лецейка ў цябе,
Перазімую гэту зімачку ў цябе.
— А як жа мне, дзіця, не аддаць —
Прыехалі тыя госцікі, што хочуць узяць.
— Што, што за мамачка, аддае, не ведае,
У людзей пытаецца, як маё дзіця маецца,
У людзей не пытайся, прыедзь сама даведайся.

Застукалі кутыя коні ў полі,
Загаманілі ўсе суседзі на двары.
Як пачула млода Галечка ў каморы,
Павалілася свайму татачку ў ногі:
— Ой, не аддай мяне, татачка, не аддай,
З родным домам мяне не разлучай.
— А як жа цябе, дзіцятачка, не аддаці —
Прыехалі тыя госці, што ўзяці.

Загрукалі новыя калёсы на сяле,
На сяле.
Заіржалі вараныя конікі на дварэ,
На дварэ.
Заплакала маладая Волечка ў каморы,
Ў каморы.
Да й упала свайму бацюхну на ногі,
На ногі.
— Не аддай мяне, мой татачка, з каморы,
З каморы.
— Як жа мне цябе не аддаці,
Не аддаці.
Як жа мне, дзіцятачка, цябе не аддаць,
Не аддаць.
Да прыехалі тыя купцы, штоб узяць.

Застукацелі-загрукацелі вараныя конікі пад вакном,
Зазвінелі залатыя кубкі на стале.
Заплакала маладая Марыська ў каморы:
— Не аддавай, не аддавай, мой войчаньку,
Няхай я ў цябе яшчэ хоць лета пералетую.
— Як жа ж мне цябе не даці,
Калі прыехалі такія госці, што хочуць узяці.
Павёз, павёз маё дзіця малады зяць,
Выйду я на вуліцу, ажно сляды знаць.
— Ціха, ціха, маці, не плач,
Хадзі, тваго дзіцяці слядкі знаць.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дзіцятка, па цябе,
Возьмуць цябе, дзіцятка, ад мяне.
— А стань, мая мамачка, ля печы,
Схавай мяне, мамачка, за плечы.
— Як жа цябе, дзіцятка, схаваці,
Калі ты большая за маці?

Звінела камора, звінела,
Маладая дзявіца сядзела
Ды русую косачку часала,
Вялікую думушку думала:
— Не аддайце, татачку, вы мяне,
Перабуду лецейка я ў цябе.
— Як цябе, дочанька, не аддаць —
Наехалі госцейкі, хочуць забраць.

Як загрукацелі вараны коні на дварэ,
Як забраскацелі чаркі-талеркі на стале.
— Ды ўстань, устань, млода дзевачка, з кравацi,
Бо прыехалі твае госцейкі цябе браці,
Бо прыехаў твой міленькі да цябе,
Каторы хоча ўзяць цябе.
— А не дай, не дай, мой войчанька родны,
Ды не дай яшчэ мяне годзік ці са два,

Ды пабуду я яшчэ ў цябе.
Ой, буду я служкаю тваёю,
Буду табе гадзіць і кашулькі ткаць,
Белай прасціною краваць засцілаць.
— А, маё дзіцятка, як мне цябе не аддаць,
Калі прыехалі госцейкі,
Каторыя хочуць цябе ўзяць.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дочачка, па цябе.
— А схавай, мамачка, за сябе.
— Як жа мне схаваці цябе,
Калі ты большая за мяне?
— А сумей, мамачка, адказаці,
Што не маю ў доме дзіцяці,
Пайшло на вулку гуляці.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Ой, паглядзі, маманька, ці не па мяне?
— Па цябе, дачушка, па цябе.
— Схавай мяне, маманька, за сябе.
— Не буду, дачушка, хаваці,
Трэба цябе сёлета аддаці.
Та-ра-ра калёсачкі, та-ра-ра,
Ой, павезлі Вольгачку са двара.

Да зарзалі сівыя коні і ў полі,
Ой, зарзалі сівыя коні і ў полі.
Да й зачула дзеўка Волечка ў каморы,
Ой, зачула дзеўка Волечка ў каморы.
Да й кінулась свайму татачку ў ногі,
Да й кінулась свайму роднаму ў ногі.
— Схавай мяне, да мой татачка, ў камору,
Схавай мяне, да мой родненькі, ў камору,
Штоб не ўзялі да тыя людзі з сабою,
Штоб не ўзялі да тыя людзі з сабою.

Затупалі сівыя коні на памосце,
На памосце.
Прыехалі, дзевачка, твае госці,
Твае госці.
— Замкні, замкні, мая мамка, ў камору,
Ў камору,
Каб не ўзялі мяне госці з сабою,
З сабою.
— Нашто ж, дзіця маё, цябе гадавала,
Гадавала,
Каб я цябе ў камору замыкала.

Ой, стаяла каліначка на памосце,
На памосце.
— Прыехалі, мая мамка, і к нам госці,
І к нам госці.
— Не так яны, мая донька, прыехалі,
Прыехалі,
Штоб без цябе, маладой, паехалі,
Паехалі.
— Схавай мяне, мая мамка, ў каморы,
Ў каморы,
Штоб не ўзялі мяне госці із сабою,
Із сабою.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, маманька, ці не па мяне?
— Па цябе, дачушка, па цябе.
— Пайдзі, мамулька, адкажы,
Шоўкам вароцейкі завяжы.
— Куды, дачушка, ілгаці —
Прыехалі такія, што ўзяці.
Яны чорны шоўк увесь парвуць,
А цябе, дачушачка, забяруць.

Затупалі конікі на дворы,
Зачула Зіначка ў каморы 2
Да ўпала войчаньку пад ногі:

— Прашу цябе, войчанька, не аддаць,
Хоць адно лецечка патрымаць.
— Рад бы быў цябе, Зіначка, патрымаць —
Наехалі купчыкі, хочуць забраць.
Наехала татар'яў повен двор,
Насыпалі золата повен стол.
— Бярыце сваё золата бяленька,
Аддайце маё дзіцятка міленька.
— А мы сваё золата не вазьмем,
А вашага дзетачка не вярнем.

Зарзалі вараныя конікі на дварэ,
Зазвінела срэбра-золата на стале.
Як пачула малада дзевачка ў каморы,
Кінецца сваей мамачцы ў ногі:
— Няхай маё срэбра-золата прападуць,
Да куды, куды маё дзіцятка павязуць?

А заржалі конікі за дваром,
А заплача наша Ніначка за сталом.
— Чаго, чаго тыя конікі крэпка ржуць,
Куды яны мяне, маладую, павязуць?
А пачула яе мамачка ў каморцы,
А кінула залаты ключы пад ногі.
— Няхай мае залатыя ключы прападуць,
Куды маё роднае дзіцятка павязуць?

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дзіцятка, па цябе.
Па твае ціхія паходы,
Па твае нізкія паклоны.
— Даражыся, мамачка, даражыся,
Стаўляны горад запрасі.
— Стаўляны горад недзе браць,
А цябе, маладу, трэба даць.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Муся, маё дзіцятка, ці не па цябе?
Па цябе, дзіцятка, па цябе,
Па тваю русую касу.
— А ты мной, мамачка, даражы.
Па трыццаць чырвонцаў запрасі.
— А трыццаць чырвонцаў не грошы,
Быў бы твой мілы харошы.

Ой, стукнула-грукнула на дварэ.
— Да паглядзі, мамачка, ці не па мяне? *
Да не аддай мяне, мамачка, нікому,
Да не аддай мяне, мамачка, з каморы.
— Да не аддам цябе, дачушка, нікому,
Толькі аднаму Васечку маладому.

Ой, заржалі сівыя коні ў полі,
Замкнулася млода дзевачка ў каморы.
— Прашу цябе, мой татачка, з павагі,
Не аддай мяне з гэтай новай каморы.
— Ой, па часе, маё дзіцятка, сказала:
Твая мамачка ўжо сталы заслала,
Твая сястрыца ўсіх дзевачак сабрала.

Як заржалі сівыя конікі на полі,
Заляскалі новыя калёсы на дворы,
Заплакала маладая Хадорка ў каморы:
— Не аддай, не аддай мяне, мамухна, сягоння,
Не аддай, не аддай, мая родная, сягоння.
— Было табе, маё дзіцятка, казаці —
Панаехалі тыя баяры, што ўзяці,
А ў мяне ж ўсе тыя думкі, што аддаці.

Да зазвінелі жалезныя колы ў дворы, **
Да як учула млода Зіначка ў каморы,

* Кожны другі радок паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

Да як пазнала, татку на ножкі ўпала:
— Таткародненькі, не аддавай мяне, не аддавай,
Да хоць ты мяне ў тры замочкі замыкай.
— А як я маю, маё дзіцятка, не аддаці —
Ўжо наехалі тыя госцікі, што ўзяці.
— Ой, не пайду, мой татка, не пайду,
Да я ж у цябе адзін гадочак пабуду.

Застучалі сівыя коні на масце. *
Як пачула млода Раечка ў цераме:
— Не 'ддай, не 'ддай мяне, татулька,
Не 'ддай, не 'ддай мяне, родненькі.
Замкні мяне, родны татулька, ў каморы.
— Як жа мне цябе, маё дзіцяці, не 'ддаці,
А як прыедзе той Мішачка, што ўзяці?
Ён жа мне і каморaньку ўсё паб'ецць,
Ён жа цябе, маё дзіцятка, забярэць.

Зашчабяталі дробны пташачкі на моры,
Заплакала наша Галечка ў каморы:
— Не аддай, не аддай мяне, татачка, з каморы.
— Як жа цябе, мілае дзіця, не аддаці —
Прыехалі тыя баяры, што ўзяці.
Яны ж маё падворыйка разаруць,
Яны ж маю камяну сцяну разаб'юць,
Яны ж цябе, мая Галечка, забяруць.

І калі гэта і ў нашай Надзечкі бывала,
У суботачку ўсё ночачку не спала.
— Устань, устань, мая мамулька, доўга спіш,
Маніліся к нам небывалыя госці быць.
Напішуць табе тыя лісточкі, што аддаць,
Умей, умей, мая мамулька, адказаць.
— Як жа я магу, мая дачушка, адказаць —
Напісалі ўжо лісточкі, што аддаць.

* Кожны радок паўтараецца.

Раскараніся, раскараніся, націнне, *
Развесяліся, развесяліся, вяселле.
Маладая Зіначка па новых сеньках хадзіла,
Свайго татачку пацціхусеньку будзіла:
— Ўстань, устань, татулечка, не ляжы,
Ідзі ж ты сватам-баярам адкажы.
— Ды мая ж ты, дачушачка, без ума,
А не тыя ж сваты-баяры, што адказаць,
Прыехалі яны цябе к сабе ўзяць.

Цякла рэчка праз мястэчка звінючы,
Ішла Анютка ад півавара плачучы:
— За што, пра што мяне татка аддаеш?
Ці не мог жа, мой татачка, адказаць?
— Ой, не магу, мая дзіцяці, адказаць —
Прыехалі такія госцейкі, што ўзяць,
Прыйшла тая гадзіначка, што аддаць.

Цякла рэчка з-пад мястэчка шумлючы, *
Ды выходзіла наша Зіначка з каморкі плачучы.
— А ці няможна, мой татачка, адказаць?
— Ой, няможна, маё дзіцятка, няможна:
Не адну нядзельку пілі гарэлку за цябе,
Не адзін гадочак елі мядочак за цябе.

Застучалі каваны колы ў полі,
Замкнулася наша Марылька ў каморы.
— Выйдзі, выйдзі, мая матулька, адкажы.
— Ды не 'ткажу, маё дзіцятка, не 'ткажу:
Усю нядзелю пілі гарэлку за цябе,
А ў суботку мелі гаворку аб табе,
А ў нядзельку прыехалі па цябе.

Застучалі кутыя колы на дворы,
Замкнулася млода Верачка ў каморы:
Клічыць яна родну матульку да сябе:

* Кожны радок паўтараецца.

— Адкажыся, мая матулька, за мяне.
— Як я маю, маё дзіцятка, адказаці —
Прыехалі тыя госці, што ўзяці.
Тую нядзельку пілі гарэлку за цябе,
А ў гэту нядзельку прыехалі па цябе.
Адклікнулася яе залоўка на куце:
— Было табе першай гарэлкі не піці,
Было табе за другую адказаці,
Было табе майго брацікі не ўважаці.

Застучалі-зазвінелі на дворы.
Замкнулася млода Марцэлька ў каморы:
— Скажы, матулька, скажы, родная, што не аддасі.
— Як мне, маё дзіця, не аддаці —
Прыехалі такія госці цябе ўзяці.
Адну нядзельку пілі гарэлку за цябе,
Другую нядзельку пілі мядочак за цябе,
А сягоння прыехалі па цябе.

Застучалі каваныя колы ў полі,
Зарзалі сівыя коні ў двары.
Ды злякнулася маладая дзяўчына ў каморы,
А як пала роднаму татку ў ногі.
— Ды выкупі ж, выкупі мяне, татулька, з няволі.
— Не выкуплю, маё дзіцятка, не магу:
Не адну суботку траціў работку з-за цябе,
Не адну нядзельку піў я гарэлку праз цябе.
Надаела мне вароцікі адпіраць,
Тваіх гасцей пераймаць.

— Ай, жаль маю, матулька, на цябе,
Што не знасіла тонкай кашулькі ў цябе.
— Знасіла, маё дзіцятка, знасіла,
Да за гульнёй, за красой забыла.
— Ай, жаль маю, матулька, на цябе,
Што аддаеш далёка замуж ад сябе.
— А недалёка, маё дзіцятка, недалёка.
— А ці нягожна ж, мая матулька, адказаць?

— Няможна, дзіцятка, няможна:
Не адну суботку сцёрлі работку за табой,
Не адну нядзельку пілі гарэлку за цябе.

Кукавала зязюлечка на памосце,
Наехалі, мая мамка, ка мне госці.
Схавай мяне, мамка, ў камору,
Штоб не ўзялі сіе госці з сабою.
Схавай мяне, мамка, ў падушкі,
Штоб не ўзялі сіе госці мае душкі.

Бегла хмарка ўперад сонца:
— Схавай мяне, ясна сонца.
— Не схаваю, чорна хмарка.
Заволіў цябе дажджом спушчу,
Дажджом спушчу, ветрам звіну.
Бегла дзеванька ўперад баценькі:
— Схавай мяне, мой бацeнька.
— Не схаваю, маё дзіцятка,
Сватам аддам, зяця дажду.

Бегла сонца проціў хмары.
— Захавай мяне, цёмна хмара.
— Не захаваю, ясна сонца,
Хмары найдуць, дажджом сыдуць.
Бегла дзеванька процiў матанькі.
— Захавай мяне, мая матанька,
— Не захаваю, маё дзіцятка —
Сваты наехалі, штоб цябе ўзяці,
Па гарэлку пайдуць, цябе найдуць.

Па двару Евачка ціха ходзіць,
А ў сянёх Евачка ўгрунь бяжыць;
На двару ціха гаворыць,
А ў сянёх Евачка сільна плачыць.
— Мамулька родная, вайна едзець.
— Дачушка Евачка — па высок церам.

— Мамулька родная, не сховішча —
Вараныя конікі цярамок сатнуць,
Маладыя баяры ў чужы бок звязуць.

Ой, цёмна, цёмна на зарэ,
Цямней у свата на дварэ.
А баяры вароты абнялі,
Марфанька ў свайго таткі прасіла:
— Схавай мяне, татка, ў каморы,
Штоб не ўзялі сіе сваты з сабою.
— Не так яны, дзіця маё, прыехалі,
Штоб без цябе, дзіця маё, паехалі.

На падмосце ды сенечкі,
Ой, на падмосце,
Наехалі, дзіця маё,
І к нам госці.
— Схавай мяне, мая матка,
Ой, ў камору,
Штоб не ўзялі тыя госці
Ой, і з сабою.
— Не такія, дзіця маё,
Ой, наехалі,
Штоб без цябе, дзіця маё,
Ой, паехалі.

— Маладзенькая Ганечка,
Па цябе сваткі едуць.
— Няхай едуць — не баюся,
Я ў камору схаваюся.
Ў камору схаваюся,
Трыма ключамі замкнуся.
Трыма ключамі замкнуся,
Валаскамі апушчуся.
Валаскамі апушчуся,
Слёзкамі аблiюся.

З сіняга возера вална б'ецъ,
Да цябе, Валечка, вайна йдзецъ.
Хоча твайго татку зваяваць,
Цябе, маладу, к сабе ўзяць.
— А я гэтай вайны не баюся,
У новую камору замкнуся,
Няхай мая маманька вітаець,
Зялёным вінам за дваром,
Салодкім мядом за сталом.

У гародзе ні дуб, ні бяроза —
Чырвоная рожа.
Над рожаю дзеўка сядзела,
З рожаю гаманіла:
— Рожа, мая рожа,
Схарані мяне, божа,
Пад сакалінае крылца,
Пад павінае.
Будзе мяне татухна шукаці,
Вялікага перайма даваці.
Перайма не бярыце
І мяне не кажыце.

У гародзе рожа родзіць,
Каля рожы да дзевачка ходзіць,
З рожаю гаворыць:
— Ты схавай мяне, рожа,
Пад лісцейка лапушыстае,
Пад голлейка какацістае.
Як я ў бацюшкі жыла,
Я бацькава падвор'е красіла.
Цяпер не буду хадзіці
І бацькава падвор'е красіць.

А ў гародзе роза родзіць,
А Мар'ечка па гароду ходзіць,
З розаю гаворыць:
— Ты скрый мяне, роза,

2

Пад сваё карэння,
Пад шырокае лісце.
Будзіць мяне бацька іскаці,
Пярэйма вам даваці,
Пярэйма вы не бярыце,
Мяне, маладу, не кажыце.
*Далей паўтараецца, што будзе маці шукаці.*
*Нарэшце:*
А ў гародзе роза родзіць,
А Мар'ечка па гароду ходзіць,
З розаю гаворыць:
— Ты скрый мяне, роза,
Пад сваё карэнне,
Пад шырокае лісце.
Будзіць мяне Ванька іскаці,
Пярэйма вам даваці,
Пярэйма вы вазьміце,
Мяне, маладу, пакажыце.

Па гароду Марусечка ходзе, *
А яна з розай гавора:
— А схавай мяне, роза,
Пад зялёненькі лісточак.
Пад зялёненькі лісточак,
Пад чырвоненькі цвяточак.
Да будзе мяне мамачка шукаці,
Усё й дарожкі пратараці.

— Ой, мой бацюхна родны,
Ужо ж мая вайна ідзе
У твой двор ваяваці
Да мяне к сабе браці.
— Не журыся да, дзіця маё,
Я ж цябе захаваю
За сцены каменныя,
За сталы цясовыя.
Я ж цябе абчапляю
Шаўковымі стужкамі,
Я ж цябе абсаджаю
Тваімі дружкамі.

* Кожны няцотны радок паўтараецца.

Нам сказалі-прамовілі, *
Што ў полі цвяты цвітуць.
Мы пайшлі цвяты глядзець,
Ажно тама вайна ідзець.
Мы ўзад вараціліся,
Ой, к высокаму цераму,
Ажно і тама Алёнушка,
Яна будзіла сваіх братоў.
— Ой, вы, братцы, родныя,
Вы ўстаньце ранёшанька,
Умывайцеся бялёшанька,
Вы вазьміце востры нажы,
Выйдзіце ў чыста полюшка,
Вы зрубіце бярозаньку,
Заваліце дарожаньку,
Не ўпусціце вайну ў двор.
— Ой, не бойся, Алёнушка,
Мы цябе захаваем,
Мы за крутую гару,
Мы й за каменную сцяну,
За тачоныя сталбы.
— А сталбы тапарамі асяком,
А цябе з сабой увязем.

— Ой ты, зязюлька рабенькая,
Жыві, зязюлька, умненькая.
Налынуць стральцы каралеўскія,
Хочуць зязюльку застрэліці.
— Няхай страляюць — не баюся,
У маём садочку кляноў многа:
Я на кляночак усхаплюся,
Кляновым голлечкам апушчуся,
Кляновым лісточкам агарнуся,
Так і ад стральцоў схаваюся.
— Ой ты, Мар'ечка маладая,
Жыві, Мар'ечка, разумная.
Найдзе сваццё Болацкае,
Ой, захочуць цябе сабе ўзяці.
— Ой, няхай бяруць — не баюся,
У майго баценькі камор многа:
Я ў камораньку схаваюся,

* Кожны радок паўтараецца.

Дубовымі дзвярмі зачынюся,
Ютраным замочкам я замкнуся,—
Так і я ад сваццу схаваюся.

У цёмным лесе салавей свішча,
Падае голас да зазулькі:
— Будзь, зазулька, астарожна,
Стральцы ідуць, цябе заб'юць.
— Няхай ідуць — не баюся.
Есць у лесе кляноў многа,
Я ў тым клёне схаваюся,
Трыма лісткамі прыкрыюся.
— Ліст адграбуць, цябе заб'юць.
У новым двары сторaж стаіць,
Падае голас да Матронкі:
— Будзь, Матронка, астарожна,
Сваты едуць, цябе возьмуць.
— Няхай едуць — не баюся:
Есць у бацькі кляцей многа,
Я ў тых клецях схаваюся,
Трыма замкамі прызамкнуся.
— Замкі паб'юць, цябе возьмуць.

— Ой, не вылятай, сіва зязюлька,
З куточка сенажаці.
Ляцяць сакалы, на цябе глядзяць,
Хочуць цябе ўзяці.
— Ой, няхай ляцяць, ой, няхай глядзяць,
То я іх не баюся.
У вішнёвым саду, ў кляновым лісту,
То я там схаваюся.
— Ой, не выглядай, малада дзеўка,
З бацькаўскага двара,
Бо едуць сваты, музыкі іграюць,
Хочуць цябе ўзяці.
— Ой, няхай едуць, ой, няхай граюць,
То я іх не баюся.
А ў майго бацькі нова камора,
То я там схаваюся.
Нова камора, нова камора,
Замочкі ўнутраныя.
У майго мілага ўюцца кудзеркі
У пярсцёнкі залатыя.

Шэра зязюлька, не лятай рана ў поле,
Бо паймае цябе саколе,
Возьме цябе за крылле,
Растрасе тваё шэра пер'е.
Растрасе тваё шэра пер'е
На розныя зелля,
Разнясе твой пушок
На зялёны лужок.
Маладая дзеванька, не хадзі рана ў садочак,
Будзе ехаць рана малойчык,
Возьме цябе ў павозку,
Распляце тваю русу коску.
Твая руса коска у тры столкі пляцёна,
У тры столкі пляцёна, шоўкам абвівана.

Стукнула карэта ў варота.
Ужо ж мой разлука прыехаў,
Разлучыць мяне з дзяўкамі,
Ўсе з румянымі вянкамі.
Да разлучыць мяне з касою,
Ўсе з дзявоцкаю красою.

Мы не зналі, мы не ведалі,
Што к нам сваты панаехалі
Не жанатыя-халастыя,
Ай, багатыя, красівыя.
Наша Ганначка спужалася,
Ўсё за дзевачак схавалася.
— Ах вы, дзевачкі, сястрыцы мае,
Вазьміце схараніце мяне.
Ой, наехаў разарыцель мой,
Разарыць маю галовачку,
Ой, растрэпіць русу коску,
Разбярэць касу па валасу,
І мяне узнае па галасу,
І адвязе мяне ад матушкі, ад бацюшкі.

Застукацелі вараныя коні на дварэ,
Зазвінелі залатыя кубкі на стале.
Заплакала маладая Манечка ў каморы,

Успаўшы яна сваёй мамачцы на ногі,
Валаскамі зямлічаньку пакрыла,
Слёзкамі мамачцы ножкі памыла.
— Не аддай, не аддай мяне, мамачка, ад сябе,
Да няхай пабуду ■ з адзін гадочак у цябе.
— Было бы не хадзіць к чырвонаму броду па ваду,
Было бы не слухаць тых губчыкаў, што гудуць,
Было бы не браць тых падарачкаў, што даюць:
Абараначкі-падманачкі падвядуць,
Цябе, маладзенькую, ад мамачкі забяруць.

Ой, загрукацелі вараны коні на дварэ,
Ой, зазвінелі залаты кубкі на стале.
Ой, як учула маладая Леначка ў каморы,
Ой, пала, пала свайму ойчаньку на ногі:
— Ой, не аддай, родны ойчанька, ад сябе,
Хаця пабуду я гэту зімачку ў цябе.
— Ой, як не аддаць, маё дзіцятка, не аддаці —
Ой, прыехалі госцікі тыя, што ўзяці.
Было не хадзіць да вінаграду па воду,
Было не слухаць тых салавейкаў, што пяюць,
Было не браць тых бараначкаў, што даюць.
Бо бараначкі — усё падманачкі — падмануць,
Маладую Лену за сабою павязуць.

Застучалі кованы колы пад акном,
Заіржалі ўроны коні на падворы.
Як учула млода Манечка ў каморы,
Та й упала свайму татачку ў ногі:
— Ой, татачка, ой, родненькі, не аддай,
Хоць адзін гадочак патрымай.
— Як жа я маю, роднае дзіцятка, трымаці —
Прыехалі госцікі гэтыя цябе ўзяці.
Ото ж табе, дзіцятка, за тое,
Што пляла русую косачку ўтрое.
Трэба было плясці ў два радкі,
Была б у мяне яшчэ два гадкі.

Заіржалі конікі на дворы.
Пачула маладая ў каморы
Да кінулася мамачцы ў ногі:

— Не аддай, мамачка, ад сябе,
Перазімую зімачку я ў цябе.
— Як жа цябе, дочанька, не аддаці —
Прыехалі госцейкі, хочуць узяці.
Даю есці — не ядуць,
Сцялю спаць — не лягуць.
— Як ты мяне, мамачка, аддасі,
На вароцейках запішы.
Будзеш вароты адкрываць,
Сваю дачушку ўспамінаць.

Застучалі вараныя конікі на дварэ,
Зазвінелі залатыя шклянкі на стале.
Заплакала малада дзевачка ў каморы,
Кінулася роднай мамачцы ў ногі:
— Не аддай, не аддай, мая мамачка, ты мяне,
Перабуду гэта лецейка шчэ ў цябе.
— Ды як жа, маё дзіцятка, не аддаці —
Прыехалі тыя госцейкі, што ўзяці.
Адзін стаіць, другі глядзіць на цябе,
Возьмуць, павязуць маё дзіцятка ад мяне.
— Хаця мяне, мая мамачка, аддасі,
Хаця на вароцейках запішы.
Хто будзе вароцейкі адмыкаць,
Той будзе мяне, маладу, ўспамінаць.
Будзе адмыкаць вароцейкі маманька,
Будзе ўспамінаць мяне, маладу, часценька.

Ой, застукацелі вараныя коні на дварэ,
Ой, загрукацелі залатыя кубкі на стале.
Ой, зачула маладая Ксіння ў каморы,
Ой, пала свайму ойчаньку ў ногі:
— Ой, не дай, не дай, мой ойчанька, ад сябе,
Пералетую хаця лецейка ў цябе.
— Як жа мне цябе, маё дзіцятка, не аддаці —
Ды прыехалі тыя госцікі, што ўзяці.
Ой, адныя сталі перад парогам, божа мой,
А другія сталі перад свірнамі, божа мой,
А трэція сталі перад хлявамі, божа мой!
Што перад парогам — па цябе маладую,
Што перад свірнамі — то па скрыню, пярыну,
Што перад хлявамі — то па вала, карову.

У каморы за цясоваю сцяною, *
Там Волечка з сваей мамачкай гавора:
— Не аддай, не аддай мяне, мамачка, з каморы.
— А як жа мне цябе, дзіцятка, не аддаці —
Прыехалі а тыя баяры, што ўзяці,
Падкацілі тую павозку, што сесці,
Падвялі пару конікаў, што везці,
Падышоў той малойчычак, з кім ісці.

Заіржалі вараныя коні ў браду,
Як запела старша сваццяна вазу.
Як зачула малада дзеўка ў каморы,
Як кінулася роднай мамачцы ў ногі:
— Не аддай, не аддай мяне, мамачка, з каморы,
— Ой, як жа мне цябе, дзіцятка, не аддаці —
А прыехалі тыя баяры, што ўзяці.
А прывезлі таго паніча, што аддаці,
Прыгналі тую карэту, што сесці,
А прыгналі тых конікаў, што везці.

Застукацелі-загрукацелі кованы калёсы на сяле,
Заігралі ды музычанькі на двара.
Замкнулася маладая Ганначка ў каморы
Да й упала свайму татачку на ногі:
— Прашу цябе, мой татачка, не аддавай,
Дай жа ім і піць, і есці, і адпраўляй.
— Ой, як жа мне, маё дзіцятка, не аддаць —
Прыехалі тыя госцікі, што ўзяць,
Прывезлі тыя гасцінцы, што даць.

Зазвінелі званкі-званочкі ў прагоне, *
Заіржалі вараны коні на двор'ю.
Заплакала млада Ніначка за сталом.
— Не дай, не дай, родна маменька, за столу.
— Рада ж я была б родну дзіцятку не даці —
Прыехалі такія госці, што ўзяці.
— Нашто было, родна мамка, мяне гадаваць,
Калі думала ў чужыя людзі мяне аддаць?

* Кожны радок паўтараецца.

Ой, заржалі вараны коні на стайні,
Зазвінелі залаты кубкі на стале.
Як учула млода Гэлечка ў каморы,
Яна ўпала сваёй матулі пад ногі:
— Не дай, не дай, родна матуля, ад сябе,
Перабуду гэта лецейка ў цябе.
— Рада была б, родная дзіцятка, не даці —
Прыехалі такія госці забраці.
— Што ж я табе, родная матуля, зрабіла,
Што я табе гэты гадочак няміла?
Ці я табе позна па танцах хадзіла,
Ці я табе бела кашулькі не мыла,
Ці я табе громка красёнцаў не ткала?
Ой, жаль жа мне, родная матуля, на цябе,
Не знасіла шаўковай сукні ў цябе,
Буду насіць у чужой матулі, не ў цябе,
Будзе слава чужой матулі, не табе.

Да застучэлі вараны коні на дварэ,
Да зазвінелі залаты кубкі на стале.
Да як пачула малада дзеўка ў каморы,
Да як кінецца сваёй матулі на ногі:
— Ой, не дай, не дай, мая матка, ад сябе,
Пералетую гэта лецейка ў цябе.
Да ці не мыла тонкай кашулькі я табе,
Да ці не слала белай пасцелькі я табе?
Да мыла, мыла тонку кашульку на моры,
Да слала, слала белу пасцельку ў каморы.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, мамулька, ці не па мяне?
Калі па мяне, дай божа,
Калі па сястру, крый божа.
Гэта ж, мамулечка, па мяне,
Гатоў, мамачка, кубел мне.
— А не, дыдла, паедзеш без кубла,
Чаму кудзелечку не скубла?
Было ж табе ў вакенцы не сядзець,
Як едуць хлопцы, не глядзець.
Было ж табе на печы не ляжаць,
Хлопцаў наначкі не ажыдаць.

А было ж табе на красенцы сядзець,
Кудзельцы ў бародачку глядзець,
Тонка нітку класці,
Па сем губак прасці.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дачушка, па цябе.
— Накладай, мамачка, кублік мне.
— А едзь, мая дачушка, без кубла —
Ты ў мяне кудзелькі не скубла.
Было табе за стаўбом не сядзець
Ды скоса на хлопцаў не глядзець.
Ды было кудзельку смактаці,
Было б што ў кублік складаці.

Шамкнулі саначкі на дварэ.
— Схадзі, матушка, ці не па мяне?
— Па цябе, дачушка, па цябе.
— Да гатуй, матушка, кублы мне.
— Едзь, мая дачушка, без кубла,
Чаму мычачку не скубла?
Не сядзець было на пячы,
Не балтаць было нагамі,
Шаваліць было рукамі,
Скусць мычачку скоранька,
Штоб было ў кублічку спорненька.
— Скубну, матушка, хоць трошку,
Павязу плаццейка ў лукошку.

Стукнула-грукнула на дварэ. *
— А паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дачушка, па цябе.
— Накладай, мамачка, кублы мне.
— Едзь, мая кудла, без кубла,
А чаму ж кудзелі не скубла?
А было на печы не ляжаць,

* Кожны радок паўтараецца.

Ручкамі, ножкамі шавяліць,
А кудзелечку паскубаць,
А сабе кублачкі накладаць.

Стукнула-грукнула на дварэ. *
— Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дзіцятка, па цябе.
— Накладай, мамачка, скрыні мне.
— Да едзь, дзіцятка, без скрыні —
Ты мае кудзелькі не скубла.
— Скубла кудзельку, трашчала,
Я гэтага Грышачку не знала.
Скубла кудзельку, хрупасцела,
На яго слядочак ступіла,
Я яго, Грышачку, злюбіла.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Авой, Ніначка, па цябе.
— Авой, мамухна, кубел гатуй мне.
— Паедзеш, дачушка, без кубла —
Ты маю кудзельку не скубла.
— Куды ж ты, мамухна, глядзела,
Як я тваю кудзельку вярцела.
Глядзела, мамухна, на дубы,
Аддаеш дачку не туды.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, мамухна, чы не па мяне?
— Па цябе, дачушка, па цябе.
— Гатуй, маманька, каблачкі
І складай, мамачка, скрыначкі.
Дабранач, мамк, дабранач,
Я уж, мамухна, не твая.

Заржалі коні ў зялёнай дуброве.
Ды зачула дзевачка ў новай каморы,
Ды ўпала бацюшку роднаму ў ногі:

* Кожны радок паўтараецца.

— Ды не давай, бацюшка, не давай,
Хацях ж мяне гадочак патрымай.
— Рад бы я, дзіцятка, цябе не даць —
Наехалі госцікі, хочуць ўзяць.
— Крой, матка, падаркі з белай кітайкі,
Замыкай камору новымі ключамі,
Выбірай карову з вялікімі рагамі,
Каб мая кароўка ў варотах рыкнула,
Каб мая свякроўка хораша на мяне зірнула.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дачушачка, па цябе.
— Гатуй, мамачка, вячэрачку мне.
Стань, мая мамачка, ў парозе,
Ўжо твае дзіцятка ў дарозе.
Стань, мая мамка, блізенька,
Пакланюся табе нізенька.

Стукнулі-грукнулі на дварэ.
— Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дачушка, па цябе.
— Мамачка мая, я не справілася,—
На дварэ ужо стаіць шэры жарабец,
А я шыла плацце пад вянец.

Застукацелі-загрукацелі вараны коні на дварэ,
Забрашчэлі залатыя кубкі на стале.
Ой, зачула млода Ніначка ў каморы,
Упала, упала роднаму татку на ногі:
— Не аддай мяне, мой татачка, сей гадок,
Пакуль знашу я свой руцяненькі вянок.
Не аддай мяне, мой татка, яшчэ й другі,
Пакуль знашу я свой вяночак дарагі.
— А як цябе, мая дачка, не даці —
Ужо прыехалі добрыя людзі забіраці.

Ой, чаго ляшчына зіму і лета зялёна?
Ой, чаго дзяўчына ўчора была вясёла?
Бо дзіся рана касу русу часала,
Сваёй мацёнцы да белых ножак падала.
— Не аддавай, мая мацёнка, хоць рачочак,
Няхай я схаджу свой з руты вяночак.

Калі ж у цябе, наша Волечка, бывала,
Каб ты ў нядзельку ранюсенька ўставала,
Паціхусеньку татулечку будзіла?
— Ўстань, устань, татулечка, досыць спаць,
А наехалі сваты-шаферы, што ўзяць.
А не бяры, татулечка, золата,
Не аддавай, татулечка, сёлета.
А хоць жа я адзін гадок пабуду,
Хоць жа я па надворайку пахаджу,
А хоць жа я свой вяночак данашу,
А хоць жа татульчын дварок пакрашу.
— Даносіць твой вяночак сястрыца,
Пакрасіць той дварочак сонейка.

Шасцяць-звіняць шаўковыя павады,
Ляцяць-стучаць вараныя коні ад вады.
Чула-пачула маладая Надзечка ў каморы,
Кінулася сваёй мамачцы ў ногі:
— Не аддай мяне, мамачка, ад сябе,
Хоць я пабуду адзін гадок у цябе.
Хоць у цябе русую касу пачашу,
Хоць у цябе сені, хату падмяту,
Хоць я тваё падворыйка прыбяру,
Хоць я табе з крынічкі вады прынясу.

Да заржалі сівыя коні на дварэ,
Да зазвінелі шклянкі-чаркі на стале.
Як пачула малада дзевачка ў каморы
Ды кінулася сваёй мамачцы на ногі:
— Не аддай мяне, мая мамачка, ад сябе,
Хаця я яшчэ пабуду гадок у цябе.
Хаця я ў цябе русую касу пачашу,
Хоць я табе падворайка падмяту.
— А едзь жа, едзь жа, мая дачушка, ад мяне,

Бо ёсць у мяне яшчэ меншая за цябе.
Яна мне русую касу пачэша,
Яна мяне, старэнькую, пацеша.

Забразчалі кованы возы на дварэ,
Зазванілі кубкі-талеркі на стале,
Зашчабятала два салавейкі на акне,
Да забілі маладыя свахі ў далоні,
Заплакала малая дзевачка ў каморы:
— Не аддай, не аддай, мой татачка, ад сябе,
Астанецца мая рутачка ў цябе.
Да і ўставай, мой татачка, раненька,
Палівай маю рутачку часценька.
Не палівай маей рутачкі вадою,
Да палівай маю рутачку сытою.
Ад вады мая рутачка жаўцее,
А ад сыты мая рутачка зелянее.

Як стукнулі вароцікі на дварэ, *
Як бразнулі талерачкі на стале,
Як плакнула наша Манечка ў цераме:
— Ай, жаль, жаль, мая мамачка, на цябе,
Астаецца рута-мята ўся ў цябе.
Уставай, уставай, мая мамачка, раненька,
Палівай руту-мяту часценька.

Як зарзалі сівыя коні ў полі,
Як заплача дзевачка Мар'ечка ў каморы
Да кінецца сваей мамачцы ў ногі:
— Не аддай, не аддай мяне, мая мамка, ад сябе,
Не аддай, не аддай, мая родная, ад сябе,
Застанецца мая рутачка ўся ў цябе.
Застанецца дробна зелена ўся ў цябе.
Уставай, уставай, мая мамачка, раненька,
Палівай дробну зелену часценька
І ранняю, і вячэрняю зарою сваей гаручаю слязою.

Звінела каморанька, звінела,
Дзе маладая дзеванька сядзела

* Кожны радок паўтараецца.

Да русую косаньку часала,
Вялікую думаньку думала.
Прыйшоў яе ойчанька ў камору,
Упала яна ойчаньку на ногі:
— Не аддавай, ойчанька, ты мяне,
Прабуду лецечка я ў цябе.
— А як жа мне, дочанька, не аддаць —
Прыехалі госценькі, хочуць ўзяць.
Прыехалі госценькі семдзесят,
Папушчалі конікі ў вішнёвы сад.
— Няхай тыя конікі паходзяць,
Зялёную рутаньку паядзяць.
— Зялёная рутанька, жоўты цвет,
Чаму цябе, міленькі, доўга нет?
Прыедзь, міленькі, з касою,
Скасі маю рутаньку з расою.
Прыедзь, міленькі, з граблямі,
Зграбі маю рутаньку з камлямі.
Прыедзь, мой міленькі, з вазочкам,
Збяры маю рутаньку з вяршочкам.
— Зялёная рута, жоўты цвет,
Чаму ў цябе, дочанька, сватоў нет?
Звінела каморанька, звінела,
Дзе маладая дзеванька сядзела.

Новая каморанька звінела,
Дзе малада дзяўчына сядзела
Да рослую косаньку часала,
Вялікую думаньку думала.
Прыйшоў ойчанька ў камору,
Упала ойчаньку ў ножкі:
— Не аддавай, ойчаньку, ты мяне,
Перабуду зімачку я ў цябе.
— А як жа ж мне цябе не аддаць —
Прыехала госцікаў поўны сад.
Наехала госцікаў поўны двор,
Насыпалі золата поўны стол.
Наехалі госцікі, хочуць ўзяць,
Папускалі конікаў ў вішнёвы сад.
— Няхай тыя конікі паходзяць,
Зялёную рутаньку пабродзяць.
Няхай тое золата пацвіце,
Няхай наша дзяўчынка падрасце.

Ой, сядзела Ганначка ў каморы,
Русу косачку часала.
Прыйшоў яе татачка да яе,
Упала яна татачку на ногі:
— Не аддавай, татачка, ад сябе,
Перабуду лецечка ў цябе.
— Ой, як цябе, Ганначка, не аддаць,
Калі прыехаў Яначка забіраць.
Наехала госцікаў семдзесят,
Папускалі конікі ў вішнёвы сад.
— Няхай тыя конікі не ходзяць,
Няхай мае руціцы не зводзяць.
Выйдзі, выйдзі, братушка, з касою,
Скасі маю руціцу з расою.
Выйдзі, выйдзі, сястронка, з граблямі,
Зграбі маю руціцу з вярхамі.
— Была ў нас розачка, быў букет,
Была ў нас Ганначка, цяпер нет.
Затупалі конікі на дварэ,
Забрашчалі шкляначкі на стале.

Заэвінелі чарачкі на стале,
Зазвінелі чарачкі на стале,
І заржалі конікі на дварэ.
«Няхай тыя конікі не ходзяць,
Няхай руты-травачкі не зводзяць.
Пайдзі, пайдзі, татачку, з касою,
Скасі, скасі рутачку з расою.
Паедзь, паедзь, братачку, з вазочкам,
Звязі, звязі рутачку з пясочкам.
Няхай тая рутачка не цвіце.
Няхай маё сэрданька не вяне».
Расцвіла каліначка, жоўты цвет,
Была ў нас Аленачка, цяпер нет.

Стукнула-грукнула на дварэ. *
— Выйдзі, маманька, ці ні па мяне?
— Па цябе, па цябе, дачушка.
— Умей, мая маманька, казаці, —

* Кожны радок паўтараецца.

Няма дзіцяці ў хаце,
Пайшоў дзіця гуляці,
Некага за ім паслаці.
Старога пасладь — не дайдзець,
Малага пасладь — не знайдзець,
Сама пайсці — баюся,
Доўга дарога — утамлюся.
На той дарозе старожа.
Тая мяне старожа спаймаець,
Па русай касе спазнаець.
«Была гэта косанька пад вянцом,
Чосана яна грыбянцом,
Мочана яна расою,
Усё Анечкінай слязою».

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дачушка, па цябе.
— Да скажы, мамачка, што няма ў дварэ.
— Як жа мне, дзіцятка, салгаці —
Прыехалі баяры — трэба аддаці.
Мне цябе, дзіцятка, не дзяржаці.
— Пайду я схаваюся ў садок,
Каб пажыць у мамачкі хоць гадок,
Каб пакрасаваціа хоць адзін дзянёк.

Як зазвінелі гулка званочкі на гары,
А заржалі сівыя коні на двары.
А як зачула наша Надзечка ў цераме:
— Паглядзі, мая мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дачушка, па цябе.
— Скажы, мая мамачка, дома няма,
Скажы, мая мамачка, гуляць пайшла.
— А як жа, мая дачушка, сказаць,
Калі прыйшла пара замуж аддаць.
Падагналі тыя карэты, што сесці,
Пазапрагалі тых конікаў, што везці.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дзіцятка, па цябе.

— Знай жа, маці, што сказаці.
Сумей, мамачка, салгаці,
Што няма дома дзіцяці,
Да пайшла ў вішнёў сад гуляці,
Сінія васілі рваці,
Вяночак на галоўку сплятаці.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Выйдзі, мая мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дзіцятка, па цябе.
— Умей, мая мамачка, адказаць:
Пайшло маё дзіцятка ў сад гуляць,
Цвяты рваць, вянкі віць
Свайму дружку на галовачку.
Насі, дружок, ды не скідай,
Любі мяне, не забывай.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
— Па цябе, дзіцятка, па цябе,
Па твае ясныя вочачкі,
Па твае русыя косачкі.
— А знай, мамачка, што адказаць:
А няма дзіцяці ў хаце —
Пайшла на вулку гуляці,
Русую косачку часаці.

Стукнула-грукнула на дварэ,
Выйдзі, мамачка, паглядзі, ці не па мяне?
Калі па мяне — адкажы,
Калі па сястру — аддасі.
Да ўмей жа, маці, сказаці,
Што няма ў хаце дзіцяці,
Пайшло маё дзіця ў сад гуляці.
Па саду ідзе — краскі рве,
З саду ідзе — слёзкі раняе,
Да белымі кветачкамі прыкладае,
Да дробныя слёзкі раняе.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Паглядзі, матухна, ці не па мяне?
— Па цябе, дачушка, па цябе,
Хочуць цябе, дочухна, ды ўзяці.
— А скажы, мамухна, скажы, родная,
Што няма дома дзіцяці,
Пайшла на вулачку гуляці.
— А як жа мне, мілая, ілгаці,
Калі ж ты сядзіш у хаце.

А ў лузе каліна, жоўты цвет, *
Там наша Манечка вянкі ўець,
А яе маманька дамоў шлець:
— Ідзі, мая дачушка, дадому,
Там цябе Колька даўно жджэць.
— Скажы, маманька, дома нет —
Пагнала кароў у шчыр бор,
Няскора будзець у свой двор.
— Нечага, дачушка, ілгаці,
Заспелі сваты ў хаце.

Выбегла два коні з дубровы,
Зачула Ганначка ў каморы:
— Ды па каго конікі бяжыце?
— Да па цябе, Ганначка, па цябе:
Па тваё белае лічанька,
Па тваю косаньку русую,
Па тваю слёзаньку дробную,
Па твае кубелцы цясовы,
Па твае падушкі пуховы.

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Авой, мамухна, сумна мне.
Ці не мо' Коленька прыехаў?
Разлучыць, мамухна, нас з табой.
— Дачушка мая мілая,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Чаму ж ты мяне кінула?
Некаму ў хатцы прыбіраць,
Некаму ложачка засцілаць,
Галоўка мая баліць і сэрцайка ныець.

І беглі конікі з украю,
Не пілі вады з Дунаю.
— І куды, конікі, бяжыце,
Чаму вы, конікі, з Дунаю
Быстрай вады не п'еце?
— І бежымо, дзеванька, па цябе,
Па твае кублы новыя,
Па падарачкі доўгія.
— І яшчэ, конікі, не пара:
Занёс войчанька ключыкі да двара
І ад маіх кублаў новенькіх,
Ад падарачкаў доўгенькіх.

Беглі конікі ўсё лужком,
За імі Ганначка беражком.
Шаўковым платком махала
Ды ў коней праўды пытала:
— Куды вы, конікі, бежыцё,
Каму вы разлуку несіцё?
— Бяжым мы, конікі, ў павадзе,
Нясём разлуку табе, маладзе:
Разлучаем цябе з мамкаю,
Прылучаем цябе к свякроўцы,
Разлучаем цябе з дзеўкамі,
Прылучаем цябе к жаніху.

Ой, з гары, з гары, з даліны
Беглі конікі чатыры.
— Куды, конікі, бежыце?
Каму разлуку даяце?
— Даём мы разлуку дзеўцы:
Адлучым яе ад бацькі,
Прылучым яе к свёкару.

Адлучым яе ад маткі,
Прылучым яе к свякроўцы.
Адлучым яе ад брата,
Прылучым яе к дзеверу.
Адлучым яе ад сястры,
Прылучым яе к залоўцы.

Беглі конікі а каля ракі,
Бяліла дзевачка ручнікі,
А яна ў конікаў пытаець:
— Куды вы, конікі, бежыце,
Каму вы разлуку даеце.
— А бяжым, дзевачка, мы к табе,
А даём разлуку мы табе.
Разлучым цябе з мамачкаю,
А прылучым цябе к свякроўцы,
Што й не к родненькай мамачцы.

Як усе лужочкі шумелі,
То тады конікі ляцелі.
Да там дзеванька стаяла,
Тыя конікі спыняла:
— Куда вы, конікі, бяжыце,
Каму вы разлуку вязеце?
— Мы цябе ад ойца адлучым,
Да да свекрыві прылучым.
— Ой, тамака стаяў садочак,
А ў том садочку дварочак,
А ў том дварочку старажы.
Да яны мяне паймаюць,
Па русай касе пазнаюць.
Ой ты, руса каса, ты мая,
Да чаго ж ты мяне давяла?
Слала бы лісты — баюся,
Вяліка дарожка — ўтамлюся.

Да беглі конікі з-пад гаці,
Да выйшла дзяўчыначка пытаці:
— Да куды вы, конікі, бяжыце,

Да каму вы разлуку нясеце?
— Да бягом, дзяўчынанька, на твой двор,
Да нясём разлуку табе, маладой.
Разлучым цябе з дзеўкамі,
Да злучым цябе з жонкамі.
Разлучым цябе з мамкаю,
А злучым цябе з міленькім.

Ой, маманька-кветка,
Не аддай мяне ўлетку.
А аддай мяне ўзіму,
Падгадуй жа мне сілу.
Падгадуй жа мне сілу
На свякрову ніву.
У свякра ніва вяліка,
У мяне сіла малая,
Я й сама маладая.
Свёкра ніва разарэцца,
Мая сіла разарвецца.

Мамка мая, кветка,
Не аддай мяне ўлетку,
А аддай узімку,
Каб я сабрала сілку
На свёкраву ніўку.
У свёкра поле вялікае
І гоні доўгія,
І азяроды высокія,
Падлары залезныя,—
І буйны вецер не паваліць.

Матка мая, кветка,
Не аддавай мяне ўлетку,
Аддай мяне ўзімку.
Я за зімку збяру сілку
На свякраткаву ніўку.
А свякраткава ніва
Ведьмі ж яна ўрадліва.

Я ж жнучы нажнуся,
Я ж ідучы ўтамлюся.
А таткава ніва
І блізенька і лёганька.
Я ж ідучы не ўтамлюся,
І жнучы не нажнуся.
Як я была ў свае мамкі,
Дык я ж ў яе мяды піла,
А ў свякраткі вадзе жадна.

— Ой, мамачка-кветка,
Не аддай мяне ўлетку,
Ды аддай мяне ўзімку.
Як ягад не будзе,
Тады мамы ды не жаль будзе.
Будуць дзевачкі ісці
Да й ягадкі нясці,
А ты не будзеш, мая мамачка,
У вароцех стаяць:
— Ці не маё ж дзіцятка ідзе
Да мне ягадкі нясе.
— Нясу ж, нясу, мая мамачка,
Да не табе, а свякрусе.
Будзе есці — не падзякуе,
Будзе біці — не пашкадуе.

Ці я табе, мая мамка, не казала,
Штоб ты мяне вясной замуж не аддавала?
А вясной усе цвяточкі будуць цвісці,
А дзевачкі вяночкі будуць вісці.
І не будуць к тваей хаце прывітаці,
І не будуць тваей доні вызываці.

Горкае дзерава асіна,
Манечка маменьку прасіла:
— Маменька мая золата,
Не аддай мяне сёлета,
Аддасі мяне налета,
Я ж табе заплачу за ета.

— Мамачка мая, золатца,
Не аддавай мяне сёлета.
Я ў цябе лецечка пагуляю,
Я табе жыцечка пажынаю,
Я свой вяночак данашу,
Я тваё падвор'е ўкрашу
І тваю старасць павесялю.
— Дачушка мая дарагая,
Ёсць у мяне другая.
Яна ў мяне лецечка пагуляе,
Яна мне жыцечка пажынае,
Яна твой вяночак даносіць,
Падвор'е маё ўкрасіць
І маю старасць павесяліць.

Ай, са пня дзераўца звалілась,
Кацечка матушцы малілась:
— Не аддавай, матушка, мяне нонічы,
Я ж табе, матушка, прыгажуся.
Я ўлеце жытушка пажынаю,
Я ўвосень канапель пабіраю,
Зімою кужалю папрадаю,
Вясною красенец патыкаю.

Па небе зорачка ярка коціцца,
Настулька ў татачкі жалка просіцца:
— Я ж табе, татачка, паспрыяю,
Ядраное жыцечка ўсё пажынаю.
Па небе зорачка ярка коціцца,
Настулька ў мамачкі жалка просіцца:
— Я ж табе, мамачка, паспрыяю,
Белы кужалёк увесь папрадáю.

— Мамачка, маё золата,
Не аддавай мяне замуж сёлета.
Ці хлеба, солі не стала,
Не аддавай замуж, я мала.

— Дачушка мая залатая,
І хлеба, солі даволі,
Аддаю цябе замуж па волі.

Да не дай, не дай, родна маманька, ад сябе,
Перазімую я гэту зімачку ў цябе.
Да ці я табе, матуля, не міла,
Да ці я табе белай кашулькі не мыла?
Ой, мыла, мыла белу кашульку бяленька,
Ой, слала, слала гэта ложачка мякенька.
Што суботачка, то й кашулечка бяленька,
Што нядзелечка, то й пасцелейка свежанька.

Матка ж мая да родненька,
Не давай да мяне замуж,
Не цярай да мае красы,
Ужэ ноччу ў размовачку.
Жаночая размовачка,
Ох, штодзень да й у рабоце,
І ў нядзельку да ў клапоце.
Дзявочае красаваннейка,
От, штодзень да й у вяночку,
А ў нядзельку да й у таночку.

— Цераз рэчаньку вазьму кладачку да пайду,
Распушчу касу па шоўкаваму паясу.
Распушчу касу па шоўкаваму паясу,
Хай мая каса русая лялее,
Хай мяне мая родная мамачка жалее.
Хай яна мяне далёка замуж не аддае,
Хай яна мяне ў сваім падвор'і гадуе.
— Ой, як не аддаць, мае дзіцятка, не аддаць —
Ой, прыехалі тыя госцікі, што ўзяць,
Ой, прыехалі тыя госцікі, што ўзяць.

Пакладу лаўку цераз мураўку...
Пакладу лаўку цераз мураўку і пайду.
Папушчу касу па кованаму паясу.

Ой, няхай мая русая каса, каса лялее,
Ой, няхай мяне мая мамачка жалее
І няхай мяне, маладую, замуж не аддае,
Бо я, маладая, ўсяго дзеланька не ўмею.
Толькі я ўмею бела-хораша хадзіць,
Залатыя ключы каля пояса насіць.

Зазвінелі званочкі на двары,
Забрашчалі кубкі-чарачкі на стале.
Выйшла красна дзевачка з каморы,
Пала свайму татачку ў ногі:
— Не аддай, не аддай, мой ты татачка, як ты п'ян,
Бо праспішся, працвярэзішся, будзе жаль.
— Ах, як жа мне, маё дзіцятка, не аддаці —
Наехалі тыя госцікі, што ўзяці.
Па сенях ходзяць, памосты ломяць,
Хочуць узяць.
У хату прайдусь, белы рукі ломяць, —
Як не аддаць.

Аддай мяне, мамачка, за міленькага.
Мне ў мамкі добра, 2
У мілага лепей будзе:
У мамкі ключы пад паясочкам,
У мілага на прабоі.

І шырока, і глыбока — я не пераскочу.
Аддай мяне, матка, замуж, за каго я хочу.
Ой, аддала мяне маці, за каго хацела.
Цяпер свішча нагаечка каля майго цела.
Я ж думала, нагаечка з белага паперу,
А анно ж гэта нагаечка з чорнага раменя.

Баліць, баліць дый галовачка з-пад вянца,
А не аддай, мой жа татачка, за ўдаўца:
А ва ўдаўца да вялікія наравы —

Падзярэ мае вышываныя каўняры.
Баліць, баліць дый галовачка з-пад вянца,
Аддай, аддай, мой татачка, за хлапца:
А ў хлапца маленькія наравы —
Будуць цэлы вышываныя каўняры.

Не аддай мяне, маці, за ўдаўца,
А ўдаўца першай жонкі нараўца.
Ён пашле мяне ў лес па драўца,
Падзяру свае нашываны рукаўца.
У ўдаўца да высокія парогі,
Падзяру свае дарагія хвальбоны.

Баліць жа мая галовачка без канца,
Што аддаець мяне мамачка за ўдаўца.
А ў удаўца тры-чатыры наравы,
А не хваціць маей маладой галавы:
Першы наравец — што ён удавец,
Другі наравец — маленькія дзеткі.
А ў удаўца павырастаюць сыночкі —
Павырываюць мне зубы й пянёчкі.
А ў удаўца павырастаюць дачушкі —
Павырываюць з маіх косак істужкі.
А я стану белую пасцель сцяліць,
А ён будзе сваю першую хваліць.
А я стану белую кашульку даваць,
А ён будзе сваю першую ўспамінаць.

Не дай мяне, мая матанька, за ўдаўца,
Бо вон выпара нашыванечка з рукаўца.
Выпараўшы, да карчмонькі занясе,
Прыйшоўшы з карчмы, за галованьку патрасе.

Не аддай мяне, мамачка, за ўдаўца.
А у ўдаўца ўсе вялікія наравы:
Павыбівае мае громкі галасы,
Павырывае мае русыя валасы,
Падзярэ мае вышываныя рукавы.

Баліць жа мне галованька і броўца,
Аддаець мяне мой татачка за ўдоўца.
А у ўдаўца тры-чатыры наравы,
А не хопіць маёй беднай галавы.
Як я стану пасцель белу сцяліці,
Сваю першую ён стане хваліці.
Як [redacted] стану кашулечку даваці,
То ён стане сваю першую ўспамінаці.
Як я стану яго дзетак будзіці,
Тады будзе мяне людзям судзіці.

Баліць, баліць галовачка і броўца, *
Не аддай мяне, мамка, за ўдоўца.
А у ўдаўца тры нараўца і дзеткі:
Адзін наравок — смачну вячэру гатаваць,
Другі наравок — мякку пасцельку ўсцілаць,
Трэці наравок — маленькіх дзетак гадаваць.

Баліць мне галовачка і броўца,
Не аддай мяне, мамачка, за ўдоўца,
Бо у ўдаўца траякія нараўца:
Першы наравец, што ён малады, ды ўдавец,
Другі наравец, што яго дзеці малыя,
А трэці наравец, што пагоняць дзеці ў поле,
Людзі скажуць: — Гэтыя дзеці на гора.
Ён пашле гэтыя дзеці па ваду,
Людзі скажуць: — Гэтыя дзеці на бяду.

Не аддай мяне, мамачка, за ўдаўца,
А й у ўдаўца вялікая нараўца.
Як я скажу: — Да падзеце, дзеткі, па ваду,
То яны скажуць: — Няхай табе, матка, хваробу.
Як я скажу: — Да падзеце, дзеткі, па дроўца,
То яны скажуць: — Трэба было не йсці за ўдоўца.
Бо й у ўдаўца да першае жонкі нараўца,
Бо й у ўдаўца да вялікія парогі,
Бо й у ўдаўца да вялікія наровы.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Я белы баран, а не аўца,
Не йдзі, Танечка, за ўдаўца.
Не йдзі ты, Танечка, за ўдаўца,
А у ўдаўца два нараўца:
Адзін наравец, што ўдавец,
Другі наравец — гарэлку п'ець.

А п'яная мая галоўка ад піўца, *
Не дай, не дай, мамачка, мяне за ўдаўца.
А за ўдаўца трэба мякка пасцельку слаць,
Ён жа будзе першую жонку ўспамінаць.
Я ж, молада, дагадалася, што сказаць:
Было ж табе першую жонку не хаваць,
Было ж табе паставіць яе у клеці,
Ты ж бы хадзіў кожнае ранне глядзеці.

Зялёна рута, ядлавец,
Лепшы кавалер, як удавец.
Бо ўдавец будзе гаварыць:
— Я першу жонку лепшу меў.
А дзеці будуць казаці:
— Дай, божа, мачыхі не знаці!
Як мы мачыхі не зналі,
То за столікам сядалі,
А як мачыху пазналі,
То перад печку плакалі.

Баліць жа мне галовачка ад вянца, *
Нашто аддаеш мяне, мамачка, за ўдаўца.
А у ўдаўца два нараўца і дзеці,
А мне, маладзе, ды трэба іх глядзеці.
А як стану я яму пасцелечку слаці,
Ён будзе ўсё першую сваю ўспамінаці:
— Што то была першая жана — павага,
А другая, маладая, — знявага.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Баліць мая галоўка ад вянца,
Бо аддаець мяне мамка за ўдаўца.
А у ўдаўца першай жонкі нараўца і дзеці,
А мне, маладзенькай, ды трэба іх глядзеці.
Ой, скажу я: — Ды падзеце, дзеткі, па воду,
А яны скажуць: — На якую ж ты есць хваробу?
Ой, скажу я: — Да падзеце, дзеткі, па дрэўца,
А яны скажуць: — Не трэба было ісці за ўдаўца.
Бо й у ўдаўца да першае жонкі нараўца,
Бо й у ўдаўца да вялікія парогі,
Пазбіваю я свае белыя ногі,
Бо й у ўдаўца да вялікія наровы.

Ці я табе, мая мамка, не казала,
Каб ты мяне за ўдаўца не аддавала.
А у ўдаўца, мая мамачка, тры наравы,
Не ўберагу я сваей беднай галавы.
Ён мяне будзе біці, яшчэ й караці,
Сваей першай жонкай дакараці,
Што ў маей першай жонкі была бела ложа,
А ў цябе, у другой, як рагожа.
Што ў маей першай жонкі былі белыя лаўкі,
А ў цябе, у другой, як караўкі.

Жаль мне, мамачка, не цябе,
Нашто ж мяне за ўдаўца замуж аддаеш,
Ды ё ў яго ды і малыя дзетачкі.
Ну, я ж яму буду сем работ за раз рабіць,
А ён будзе першую жонку хваліць.
Я ж яму буду ранюсенька ўставаць,
А ён будзе першую жонку памінаць.

Ці я табе, мая мамка, не казала,
Штоб ты мяне за ўдаўца не аддавала.
Як у таго ды ўдаўца ды два норавы,
Беражы, дзіця маё, сваёй голавы.
Што першы жа нораў — яшчэ сам малады,

А другі нораў — дзетачкі малыя.
Ды тыя два наравочкі
Ссушаць маю галаву за два вечарочкі.

Ой, куды хочаш, мой родны татка,
Дык туды аддай мяне.
Ой, толькі ж ты мне, ды мой родненькі,
Да прымака не прымай.
Ой, як станеш ты, мой родны татка,
З прымаком сварыціся,
А мне, маладой-маладзёханькай,
За кім мне ўступіціся?
Уступіціся мне за тatачкам,
Дык галовачцы больна,
Уступіціся мне за нялюбым,
Дык сэрданьку трудна.

Хоць ты, мая мамухна,
За Дунай замуж аддай,
Толькі, мая мамухна,
У прымакі не прымай.
Як зачнець сварыціся,
За каго ж мне ўступіціся?
Уступіціся мне за татухну,
Дык бітай мне быць,
Уступіціся мне за прымаку,
Дык вонках мне быць.

Да валей жа, мая матанька,
Круты горы капаці,
Ніжлі да сябе, маладзенькае,
Прымача прымаці.
Крутыя горы капаўшы,
Сяду запачыну.
Прымача прыняўшы,
Навекі загіну.
Уступіцеся за прымача,

То на сэрцу нудна,
Уступіцеся за матаньку,
То галоўца трудна.

Ой, было табе, мая маціњка,
Прымака не прымаці. *
Ой, было ж мяне, маладзенькую,
Паміж людзі аддаці.
Ой, як ты будзеш, мая маціњка,
З прымаком сварыціся,
То я не знацім, маладзенькая,
За кім уступіціся.
Ой, уступлюся я за прымаком, —
На галованьку трудна.
Ой, уступлюся я за бацењкам, —
То на сэрданьку нудна.

Да ты, ластаўка вілаватая,
Не кладзі гнязда пры старых сенях,
Да кладзі гняздо пры новых сенях,
Бо старыя сені разваляюцца,
Твае дзеткі паваляюцца.
Новыя сені пабудуюцца,
Твае дзеткі пагадуюцца.
Да ты дзевунька маладзенькая,
Не ідзі замуж за старэнькага,
Бо стары цябе паціраць будзе,
К сваёй старасці раўнаваць будзе.

— Ластавачка ты маленькая,
Тваё пер'е залаценькае.
Не ві гнязда на старым свірне,
Стары свіран паламаецца,
Гняздо тваё раскідаецца,
Дзеткі твае разлятаюцца.
— Маладая Надзечка,

---

* Кожны цотны радок паўтараецца.

Не ідзі замуж за старога,
Стары будзе біць і караці,
К свайму ліцу раўнаваці.

Ах, мой бацюшка, ах, мой родненькі,
Не едзь у лес, калі плюхота,
Ой, паедзь у лес, калі пагода.
Не сячы дрэва, куды не хіліцца,
Да сячы дрэва, куды валіцца.
Не аддавай дочкі, куды не хочацца,
Аддавай дачку, куды хочацца.
Не аддавай дачкі ні за старога, ні за малога,
Ой, аддай яе за пароўніцу.
За старым жа — ташната мая,
За маладым — сухата мая,
За пароўніцай — красата мая.

— А чаму ты, бярозка, не кудрава?
— Я ў лесе ў халадочку стаяла,
Там дачушка з мамулечкай размаўляла:
— Не аддай мяне, мая мамачка, за старога,
А я з старым адну ночку начавала,
Як за калодай, за гнілою паляжала.
— Не аддай мяне, мая мамачка, за малога,
А я з малым адну ночку начавала,
Як верабей пад страхою шчабятала.
Аддай мяне, мая мамачка, за роўніцу,
Я з роўніцай адну ночку начавала,
Як у бару зязюлечка кукавала.

Да ці чуеш, мая мамачка, ці чуеш, *
Да што пад акном дробна пташачка шчабечыць?
Дробна пташачка, дробна пташачка, сарока,
Нашто аддаеш мяне, мамачка, далёка?
Як пачуеш мяне, мамачка, з бядою,
Да не дайдзеш, не даедзеш за вадою.
Як пачуеш мяне, мамачка, і з горам,
Да не дайдзеш, не даедзеш за морам.

* Кожны радок паўтараецца.

Мамачка мая, я нега твая,
Ты не аддай мяне далёка ад сябе.
А аддай мяне ў сваём сяле,
У сваём сяле, блізка ля сябе.
Па вадзіцу іду, у хатачку зайду,
Вадзіцу нясу, на двор пагляджу.

Мамачка мая, я ужо не твая,
Не аддавай мяне далёка ад сябе.
Аддай ты мяне блізка ля сябе,
Блізка ля сябе і ў сваём сяле.
Буду вадзіцы іціць, на двор пагляджу,
Буду вадзіцу несць, на двор узыду.

Не аддай мяне туды, мамка, замуж,
Дзе хлеб месяць, дзе хатку мятуць.
А аддай мяне туды, мамка, замуж,
Дзе ветрык хатку мяце,
Дожджык мые.
Сам жа месяц хлеб жа месіць,
Само сонца хлеб жа пячэ.

Да аддай, аддай мяне, мамачка,
У вялікую хату, *
Дзе два-тры дзевяраткі
І чатыры залвіцы.
Хата новая да кляновая,
Люблю пахадзіці.
Свёкарка мой наравісты,
Люблю пагадзіці.
Дзевяры мае жартаўлівыя,
Люблю жартаваці.
Свякроўка мая маладзенькая,
Люблю жыта жаці.
Залвіцы мае да маленькія,
Люблю пасылаці.

---

* Кожны цотны радок паўтараецца.

Maцi з дачкою па дзярэўнi ходзiць.
Дачка мацi цiхонька гаворыць:
Аддай мяне, мацi, у чужую дзярэўню.
У чужую дзярэўню, у вясёлую сям'ю.
Па вясёлай дзярэўнi люблю я хадзiцi,
А з вялiкай сям'ёй люблю гаварыцi.
Вот зарзалi конi на вялiкiм мосце,
Гэта, мая мамка, едуць па мяне госцi.

Балiць мая галоўка i браўда,
Не дай, не дай, мая мамуленька, за ўдаўца.
У ўдаўца два параўца i дзеткi.
Аддай мяне, мамулька, ў сямейку,
Да ў сямейцы парадачак усяму:
На ток пойдуць, малацiць будуць дзеверкi.
А ў ступе таўчы, малоць — ятроўкi,
Хатку мясцi, дровак унясцi — залоўкi,
Хатку тапiць, абедаць варыць — свякроўка,
А ў крынiцу па вадзiцу — я, малада.

— Балiць, балiць галованька па ўсяму,
Не аддавай мяне, матулька, у сям'ю.
— Не бойся, мая дачушка, не бойся —
У вялiкай сям'i ёсць парадак усяму:
Печку вытапiць, абед згатовiць — свякроўка,
Хатку падмесцi, лыжкi памыцi — залоўка,
У хлеў схадзiцi, кароў падаiцi — ятроўка,
На ток схадзiцi ды змалацiцi — дзевяркi,
За столiк сесцi, парадак весцi — свёкарка.

Балiць мая галовачка па ўсяму,*
Аддай мяне, мамачка, у сям'ю.
У бальшой сям'i ёсць парадачак усяму:
У хлеў iсцi, кароў даiць — залоўкi,
Хатку падмесцi, вады прынесцi — ятроўкi,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Печку тапіць, сняданне варыць — свякроўка,
За стол сесці, парадак весці — свёкарка,
А я ж, малада, памыюся дый за стол.

Не аддавай, не аддавай
Мяне, мамулька, у адзіноту,
У адзіноце дужа цяжка на рабоце.
Аддай, аддай мяне, мамачка, у сям'ю,
У сям'і ёсць парадачак усяму.
Свёкар-татачка і дзевяраткі будуць малаціць,
А ятровачкі і заловачкі — калаціць,
А свякровачка, мая мамачка, наварыць,
А я, маладзенька, ручкі памыўшы,
Шусь за стол.

— Не дай, не дай мяне, маці,
Не дай, не дай мяне, маці, дзе нялад у хаце.
А дай, а дай мяне, маці, дзе хораша ў хаце,
Дзе дзевяроў тры-чатыры, люблю жартаваці,
Залувіцы, як сястрыцы, люблю заплятаці.
А ў ятроўкі чорны броўкі, пойдзем жыта жаць,
Як пасядзем палуднаваць, будзем размаўляць.
— А дам, а дам, маё дзіця, учыню тваю волю,
Ляцецімуць палейчыка ўслед за табою.
Гэта ж табе, дзіця маё, харошая хата,
Не слухала ойца і маткі, ні старэйшага брата.

Аддай мяне, маці,
Дзе весела ў хаце. *
Дзе заўвіцы, як сястрыцы,
А свякроўка, як маці.
Дзе дзеверкі маладыя
Любяць жартаваці:
Адзін кіўне, другі маргне,
А трэці зажартуе.
А мой мілы чарнабрывы

* Кожны цотны радок паўтараецца.

Да ўсё гэта чуе.
Да і на маё цела белае
Нагайку гатуе.
Нагаечка драцяная
Высока лятае,
Кашулечка палатняна
У цела ўліпае.
Хвартух новы, паркалёвы,
Ад слёз не высыхае.

Не аддай мяне, мамачка,
У такую адзіноту, *
А аддай мяне, мамачка,
У багатую хату.
А дзе дзевяры тры, чатыры —
Я люблю жартаваці.
А дзе залвіцы маладзенькі —
Я люблю жыта жаці.
А дзе свякроўка старэнькая —
Я люблю пагадзіці.
А дзе свякратка ды старэнечкі —
Я люблю разуваці.

Не дай жа мяне, матка,
У старую дзярэўню,
Да аддай жа мяне, матка,
У новую губерню,
У новую губерню
І ў вясёлую сям'ю.
Дзе дзевяроў тры-чатыры —
Люблю жартаваці.
Заловіцы, як сястрыцы, —
Люблю жыта жаці.
Займем постаць шырокую,
Будзем пажынаці,
Як сядзем палуднаваць —
Люблю размаўляці.

---

* Кожны цотны радок паўтараецца.

# МУЗЫЧНЫ ДАДАТАК

З усіх тэматычных груп песень *, пададзеных у гэтым томе, найбольш спецыфічныя з музычнага боку песні сіраце, якія ярчэй за ўсё выяўляюць журботную вобразна-эмацыянальную сферу ў вясельным абрадзе.

У цэнтры рытуалу сірочага вяселля — галашэнне «з прыгаворам» нявесты-сіраты (плач-прыгавор, № 1—5). Яно нібы канцэнтруе вакол сябе і іншыя тыпавыя вясельныя напевы сумна элегічнага або напружана драматычнага характару (№ 10, 18, 26—27, 28, 30) у залежнасці ад мясцовых традыцый. Але многія сірочыя песні спяваюцца таксама і на абагульненыя тыпавыя напевы ■ групавым прымацаваннем розных тэкстаў, якія адлюстроўваюць розныя этапы вясельнага рытуалу (№ 8, 11, 21, 24).

Разнастайныя варыянты тыпавых напеваў (як «вясёлых» — агульна вясельных, так і «абідлівых» — спецыфічна сірочых) з картаграфаваннем раёнаў іх пашырэння мяркуецца падаць у асобным выданні. У гэтым жа томе змешчаны музычны дадатак, дзе прыводзяцца некаторыя ўзоры такіх напеваў, на якія спяваюцца сірочыя песні, а таксама песні ў доме маладой перад прыездам жаніха, па дарозе да вянчання і пасля яго. У цэлым пададзеныя тут напевы складаюць, паводле іх музычных прыкмет, восем тыпалагічных груп: I—1—5; II—6—10; III—11—12; IV—13—14; V—15—18; VI—19—21; VII—22—25; VIII—26—30.

*З. Я. МАЖЭЙКА*

---

* Тэксты песень пададзеных напеваў указаны ў загалоўках каментарыяў пасля нумароў старонак у дужках.

1 ♪≈140

У_ ся ма_ я ра_ дз'н_ка род_ на_ я ла_ саб_ ра_ ла_ ся,

'а толь_кі май_го род_на_ га тат_ кі з ся_ стры_цай нет.

2 ♪≈148

(ы) А зя_ ме_ люх_ на чар_ на_ зё_ мна_ я,

Рас_ хі_ ні_ ся ж ты на ста_ ро- нуш- ку.

3 ♪≈128

Ма_ муль_ ка ро_ дна_ я,

На па_ сад вя_ дуць,

До_ лю_ шча_ сце кла_ дуць.

4 ♪≈144

Ма_ мач_ ка ро_ дна_ я, а за_ чым ня_ бе нет?

А за_ чым ця_ бе нет, ці да_ рож_ ка даў_ га,

Ці да_ рож_ ка даў_ га, а ці ноч_ ка цём_ на?

7

♩ = 72



1. Пры_ е_ ха_ ла Ма_ рын_ ка з-пад вян_ ца,



пры_ е_ ха_ ла Ма_ рын_ ка з-пад вян_ ца.



2. Се_ я_ ла чо_ ран мак з ру_ каў_ ца,



се_ я_ ла чо_ ран мак з ру_ каў_ ца.

8

Умерана



Збо_ рна_ я ня_ дзель_ ка, збо_ рна_ я,



сі_ ра_ та дру_ жа_ чак збі_ ра_ е.

9

♩ ≈ 100



1. Ста-на_ ві_ ся, ра_ дзін_ ка, у_ ся ў рад,



ой, ра_ на-ра_ нень_ ка, у_ ся ў рад.



2. Бу_ дзе йсці сі_ рот_ ка на па_ сад,



ой, ра_ на-ра_ нень_ ка, на па_ сад.

10

♩=76

1. Ад_ чы_ ні_ це_ ся, ва_ ра_ та,
да і_ дзе на па_ сад (да) сі_ ра_ та.
2. Да я_ е га_ ло_ вань_ ка ў вя_ но_ чку,
ня_ ма у ёй ма_ ту_ хны ў ра_ до_ чку.

11

♩=80

1.-Бо_ жу - хна_ ба_ цю_ хна, сі_ ра_ та пла_ чыць,
бо_ жу_ хна_ ба_ цю_ хна, сі_ ра_ та пла_ чыць.
2.- Слу_ хай_ це, ан_ ге_ лы, а ці жа_ ла_ сна,
слу_ хай_ це, ан_ ге_ лы, а ці жа_ ла_ сна.

12

Умерана



Каб у лу_ гу,



Каб у лу_ гу ды кры_ні_чань_ка была б у лу_ гу,



Каб у лу_ гу ды кры_ні_ чань_ка, бы_ла б у лу_ гу,



бы_ла б у лу_ гу, ды ва_дзі_чань_ка, бы_ла б у лу_ гу.

13

Умерана



Ды ў га_ ро_ дзе на па_ го_ дзе, ра_ на, ра_



на, там ста_яў сад зе_ ля_ нень_ кі, ра_ на!

14.

Умерана



Да дзе_ ва_ чкі - ся_ стры_цы, бо_ жа, бо_ жа.



Вый_дзі_ це па_ слу_ хай_ це, бо_ жа, бо_ жа.



Ці шу_ міць ду_ бро_ ва_ чко, бо_ жа, бо_ жа.



Ці сту_ чыць да_ ро_ жа_ чка, бо_ жа, бо_ жа.

15

♪=114

Што на не_ бе сту_ ча_ ла, што на не_ бе сту_ ча[ла],

На зям_ лі за_ гру_ ча_ ла, на зям_ лі за_ гру_ ча[ла]?

13

♩=60

1. Ма_ ла_ дзень_ ка_ я Га_ не_ чка,

па ця_ бе сват_ кі е_[дуць].

2. – Ня_ хай е_ дуць – не ба_ ю_ ся,

я ў ка_ мо_ ру сха_ ва_ ю_[ся].

3. Ў ка_ мо_ ру сха_ ва_ ю_ ся

тры_ ма клю_ ча_ мі зам_ кну_[ся].



4. Тры- ма клю- ча- мі за- мкну- ла,



ва- лас- ка- мі а- пуш- чу-[ся].

17

♪=184



1. Не ма- ра- куй, ма- я ма- та- чка,



што я поз- на спаз- ні- лась.



2. Што я по- з(ы)- на спаз- ні- ла- ся,



у паў - да- ро- гі ста- на- ві- лась.



3. У паў - да- ро- гі ста- на- ві- ла- ся,



бо не бы- ло ксян- дза до-[ма].



4. Бо не бы- ло ксян- дза до- ма,



па- е- хаў ксёндз да Ма- лі- но-[ва].

18

Вельмі свабодна ♪≈142-150



1. Ма_ ла_ да_ я Ма_ не_ чка,



да і_ дзі на ма_ гі_ ла_ чку.



2. Да і_ дзі на ма_ гі_ ла_ чку,



ска_ лы_ хні ка_ лі_ на_ чку.



3. (І) ска_ лы_ хні ка_ лі_ на_ чку,



здры_ га_ ні ма_ гі_ ла_ чку.



4. Па_ бу_ дзі сва_ ю ма_ ма_ чку



са_ бе на на_ ра_ да_ чку.

19

Рухава ♩=104-108







20

♩=63










21

♩=96












22

Умерана



А хто там, хто там ў зя- лё- ным ба- ры гу- ка- е?



а хто там, хто там свай- го та- тач- ку шу- ка- е.

23 13

♪=130



1. Ся- гон- ней- ка су- бо- рна- я су- бо- тка,



ся- гон- ней- ка су- бо- рна- я су- бо- тка.



2. Са- бра- лі- ся ўсе . го- сці- кі ў вя- сел- ле,



са- бра- лі- ся (і) ўсе го- сці- кі ў вя- сел- ле.

24

♪=140



1. Су_ бо_ та_ чка ня_ дзе_ леч_ цы га_ дзі_ ла,



су_ бо_ та_ чка ня_ дзе_ леч_ цы га_ дзі_ ла.



2. (і) Сі_ ро_ та_ чка па ву_ лі_ цы ха_ дзі_ ла,



сі_ ро_ та_ чка па ву_ лі_ цы ха_ дзі_ ла.

25

♪=168



1. А ё_ ла_ чка зі_ му_ ле_ це_ чка зя_ лё_ ва,



а ё_ ла_ чка зі_ му_ ле_ цеч_ ка зе_ лё_ на.



2. Ай, То_ неч_ ка ўсю ня_ дзе_леч_ ку вя_ сё_ ла,



ай, То_ неч_ ка ўсю ня_ дзе_леч_ ку вя_ сё_ ла.

26

♪=168



1. Ў чы-ста-му по-лі да шы-ро-ка-я шы-ры-ня,



а ў тэй шы-ры-[ні] да вы-со-ка-я ма-гі-ла.



2. Хо-дзіць Ве-ра-чка ко-ла ма-гі-лы блі-зень-ка,



да кла-ня-ец-[ца] сва-ей ма-тань-цы ні-зень-ка.

27

♪=168



Зна-ні Ма-не-чку жа па-хо-дань-ку,



што я на сі-ро-тань- ка.



Па па-хо-дань-ку, і па ро-дань-ку,



і па я-е лі-чань...[ку].


♩=80
1.Ста_ іць я_ блы_ нька да рас_ ка_ пу_ сціў_ шысь,


не_ ка_ му да_ зі_ раць.


Да ля_ жаць я_ блы_ чкі да рас_ ка_ ціў_ шы_ ся,


не_ ка_ му іх са_ бі_ раць.


2.Ся_ дзіць дзе_ ва_ чка рас_ пла_ каў_ шы_ ся,


не_ ка_ му я_ е ў_ няць.


Як прый_ шоў жа к ёй я_ е та_ та_ чка:


– Ча_ го, дзі_ цят_ ка, пла_[чаш]?

29

Мерна ♩=96













30

♩=80












# СПІС АСНОЎНЫХ КРЫНІЦ І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ


Адраджэнне — Беларуская этнаграфія. Вясельныя песні.— Адраджэнне.— Мн., 1922, № 1.

Аникиевич — Аникиевич А. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. Опыт описания в географическом, историческом, этнографическом, бытовом, промышленном и историческом отношении.— Могилев, 1907.

Анимелле — Анимелле Н. Быт белорусских крестьян.— Этнографический сборник, вып. 2. СПб, 1854.

Бел. дыял.— Мяцельская Е. С., Камароўскі Я. М. Беларуская дыялекталогія. Хрэстаматыя.— Мн., 1979.

Бессараба — Бессараба И. В. Материалы для этнографии Седлецкой губернии.— СПб, 1903.

Бобровский — Бобровский П. Гродненская губерния. Материалы для географии и статистики Росии, собранные офицерами генерального штаба, ч. 1.— СПб, 1863.

Брен — Брен Ярослав. Особенности религиозного быта крестьян Бельского уезда Гродненской губернии.— Вильна. 1887.

Булгаковский — Булгаковский Д. П. Пинчуки. Этнографический очерк.— Записки РГО по отделению этнографии, т. 13,вып. 3. СПб, 1890.

Васильева — Васильева А. Я. Свадебный обряд в районе Грабовской волости Мозырского уезда.— Минские губернские ведомости, 1877, № 32—34.

Васковский — Васковский А. Белоруссия. Этнографический очерк.— Московские ведомости, 1854, № 148, 149.

Гайдук — Гайдук М. Беларускае вяселле на Беласточчыне.— Беларускі каляндар на 1964 г.— Беласток, 1963.

Галубок — Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Склад. Э. В. Галубок, А. К. Калечыц, Н. О. Багдановіч.— Мн., 1940.

Гарэцкі — Гарэцкі М., Ягораў А. Народныя песні з мелодыямі.— Мн., 1928.

Гілевіч, 1973 — Песні сямі вёсак. Традыцыйная народная лірыка Міншчыны. Укладанне і рэдакцыя Н. Гілевіча.— Мн., 1973.

Гілевіч, 1974 — Песні народных свят і абрадаў. Укладанне і рэдакцыя Н. С. Гілевіча.— Мн., 1974.

Гілевіч, 1979 — Лірыка беларускага вяселля. Укладанне і рэдакцыя Н. С. Гілевіча.— Мн., 1979.

Гильтебрандт — Гильтебрандт П. Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае, вып. 1.— Вильна, 1866.

Голынский — Голынский Ник. Свадьба белорусских крестьян.— Могилевские губ. ведомости, 1864, № 42.

Гуковский — Гуковский К. Свадьба у литовских белорусов.— Памятная книжка Ковенской губернии на 1894 г. Ковно, 1893.

Дембовецкий — Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии, кн. 1.— Могилев-на-Днепре, 1882.

Дмитриев — Дмитриев М. Свадебный обряд в деревнях Новогрудского уезда.— Виленский вестник, 1861, № 26.

Добровольский — Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник, ч. 2.— Записки РГО по отделению этнографии, т. 23, вып. 1. СПб, 1893.

Довнар-Запольский — Белорусское Полесье. Сборник этнографических материалов, собранных М. Довнар-Запольским, вып. 1. Песни пинчуков.— Киев, 1895.

Е. П. — Народные белорусские песни. Собраны Е. П. — СПб, 1853.

Запольский — Запольский М. Белорусская свадьба и свадебные песни.— Киев, 1888.

Захарава — Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Традыцыйныя жанры. Склад. В. А. Захарава.— Мн., 1973.

И. К. — И. К. Этнографические очерки. 1. Белорусская свадьба и Слободской волости Ново-Александровского уезда.— Ковенские губернские ведомости, 1890, № 31.

Иванов — Иванов В. В. Крестьянская свадьба в Витебской Белоруссии.— Записки Северо-Западного отделения РГО, кн. 8. Вильна, 1912.

К.— К. Свадебный обряд западнорусских крестьян.— Виленский вестник, 1868, № 134—136.

Каминский — Каминский В. А. Белорусы Ново-Александровского уезда Ковенской губернии в их песнях, обрядах и обычаях.— Филологические записки, вып. 2, 3, 5. Воронеж, 1910.

Карский — Карский Е. Ф. Белорусские песни с. Березовца Новогрудского уезда Минской губернии.— Русский филологический вестник, т. 12. Варшава, 1894; т. 13, 1895.

Карский, 1 — Карский Е. Ф. Материалы для изучения белорусских говоров, вып. 1.— Известия ОРЯС, кн. 2. СПб, 1897.

Карский, 4.— Карский Е. Ф. Материалы для изучения белорусских говоров, вып. 4.— Сборник ОРЯС, т. 75. СПб, 1903.

Киев. телеграф — Свадьба на Полесье.— Киевский телеграф, 1895, № 19, 20, 25.

Киркор — Киркор А. Г. Этнографический взгляд на Виленскую губернию.— Этнографический сборник, вып. 3, СПб, 1858.

Киселев — Киселев О. М. Каравай.— Витебские губернские ведомости, 1894, № 94.

Косич — Косич С. Н. Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни.— Живая старина. СПб, 1901, № 2—4.

Котаў — Котаў Т. І. Вяселле. Апісанне Горацкага раёна.— Працы навуковага таварыства па вывучэнню Беларусі, т. 3.— Горкі, 1927.

Крачковский — Крачковский Ю. Ф. Быт западнорусского крестьянина.— Чтения в Обществе истории и древностей российских, кн. 4. М., 1874.

Ледаховіч — Ледаховіч Э. Беларускія народныя песні Гродзеншчыны.— Мн., 1960.

Леонова — Леонова Т. Г. Народная свадьба. Свадебный обряд и свадебные песни русского населения омских сел.— Фольклор Западной Сибири, вып. 1. Омск, 1974.

Лобач — Лобач М. С. Вясельныя абрады ў ваколіцах мястэчка Нарвы (ПНР).— Этнаграфічны зборнік. Мн., 1975.

Людоговский — Людоговский П. В. Этнографические очерки Смоленской губернии. III. Свадебные обычаи в Дорогобужском уезде.— Смоленский вестник, 1880, № 71.

Ляцкий — Ляцкий Е. М. Материалы по белорусской словесности.— Известия ОРЯС, т. 9, кн. 4. СПб, 1904.

Мажэйка, 1981 — Мажэйка З. Я. Песні беларускага Паазер'я.— Мн., 1981.
Малевич — Малевич С. Белорусские народные песни.— Сборник ОРЯС, т. 82. СПб, 1907.
Материалы, I — Романов Е. Р. Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. 1.— Вильна, 1911.
Материалы, II — Романов Е. Р. Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. 2.— Вильна, 1912.
Мезерницкий — Мезерницкий Н. П. Народный театр и песни в г. Стародубе Черниговской губ.— Живая старина, т. 1—2. СПб, 1910.
Метлинский — Метлинский А. Народные южнорусские песни.— Киев, 1854.
Микуцкий — Микуцкий С. П. Белорусские песни и загадки, записанные в Витебской губернии в имении Зябки Дрисенского уезда.— Известия ОРЯС. 2. Памятники и образцы народного языка и словесности (II театр). СПб, 1853.
Митропольская — Митропольская Н. К. Русский фольклор в Литве.— Вильнюс, 1975.
Можейко, 1983 — Можейко З. Я. Песни белорусского Полесья, вып. 1.— М., 1983.
Нечаев — Нечаев А. Д. Песни, записанные в селе Гарцеве Стародубенского уезда.— Варшавские университетские известия, т. 9. Варшава, 1914.
Ніва — Ніва. Беларускі грамадска-культурны тыднёвік. Беласток.
Павлова — Павлова Г. Народные песни Смоленской области, напетые А. И. Глинкиной.— М., 1969.
Пашкова — Пашкова Г. Т. Етнокультурні зв'язкі українців та білорусів Полісся.— Київ, 1978.
Прозвицкая — Прозвицкая Л. И., Мельников М. И. Смоленские свадебные традиции в Сибири.—Сибирский фольклор, вып. 8. Новосибирск, 1976.
Радченко — Гомельские народные песни (белорусские и малорусские). Записаны в Дятловицкой волости Гомельского уезда Могилевской губернии З. Радченко.— Записки РГО по отделению этнографии, т. 13, вып. 2. СПб, 1888.
Родзяловская — Сказки, легенды, песни. Записаны в Минской и Виленской губ. А. И. Родзяловской, А. К. Снитко и И. Белановичем.— Минская старина, вып. 2, 1911.
Розенфельд — Розенфельд А. Белорусские народные песни.—Сборник ОРЯС, т. 77, № 3. СПб, 1904.
Романов, I—II — Романов Е. Белорусский сборник, т. 1. Могилевская губерния, вып. 1, 2. Песни, пословицы, загадки.— Киев, 1886.
Романов, VIII — Романов Е. Белорусский сборник, вып. 8.—Вильна, 1912.
Руберовский — Руберовский Н. Белорусские народные песни.— Виленский вестник, 1867, № 75—77.
Рубцов — Рубцов Ф. Ольшанские песни, записанные в селе Ольша на Смоленщине.— М., 1971.
Саламевіч — Саламевіч Я. Міхаіл Федароўскі.— Мн., 1972.
Сахараў — Сахараў С. Н. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў, вып. 1.— Рыга, 1940.
Свитова — Свитова К. Народные песни Брянской области.— М., 1966.
Сердюков — Сердюков И. Крестьянская жизнь и обычаи в Мсціславльском уезде.— Могилевские губернские ведомости, 1867, № 50.

Славянина — Старинная севская свадьба. Записи и свод О. А. Славяниной.— М., 1978.
Терещенко — Терещенко А. Быт русского народа.— СПб, 1848.
Фольклор — Фольклор русского населения Прибалтики.—М., 1976.
Х-ч. А.—Х-ч. А. Деревенская свадьба в Кобринском уезде—Гродненские губернские ведомости, 1864, № 42, 44.
Хрэстаматыя — Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі.— Мн., 1962.
Цітовіч — Песні беларускага народа. Выбранае. Уклад. і камент. Г. Цітовіча.— Мн., 1959.
Чубинский — Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западнорусский край, снаряженной Русским географическим обществом. Юго-западный отдел. Материалы и исследования, собранные П. П. Чубинским, т. 4. СПб, 1877.
Чуркін — Беларускія народныя песні. Запіс М. Чуркіна.— Мн., 1959.
Шейн, I—Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 1, ч. 2.— СПб, 1890.
Шейн, III — Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 3.— СПб, 1902.
Шлюбскі — Шлюбскі А. Матэрыялы для вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, ч. 2.— Мн., 1928.
Шырма — Беларускія народныя песні ў 4-х т., т. 4. Запіс Р. Шырмы.— Мн., 1976.
Эвальд — Эвальд З. В. Белорусские народные песни. Сост. З. Эвальд.— М.; Л., 1941.
Эвальд, 1979 — Эвальд З. В. Песни Белорусского Полесья.— М., 1979.
Юркевич — Юркевич И. Остринский приход Виленской губернии Лидского уезда.— Этнографический сборник, вып. 1. СПб, 1853.
Янчук — Янчук Н. По Минской губернии. (Заметки из поездки в 1886 г.).— Известия имп. общества любителей естествознания, антропологии и этнографии, т. 61. Труды Этнографического отдела, кн. 9. М., 1889.
Barszczewski — Barszczewski J. Szlachcic Zawalnia, czyli Białorus w fantastycznych opowiadaniach, t. 1.— Petersburg, 1844.
Bykowski — Bykowski P. Pieśni obrzędowe ludu ruskiego z okolic Pińska.— Zbiór Wiadomości do Antropologii Krajowej, t. 2. Kraków, 1878.
Chrapowicki — Chr. Ign. Rzut oka na poezię ludu białoruskiego.— Rubon, t. 5, 1845.
Czeczot, 1844— Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, z dołączeniem pierwotwornych w mowie sławiano-krewickiej.— Wilno, 1844.
Czeczot, 1846 — Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przesłowia i idiotyzmy w mowie sławianokrewickiej z postrzeżeniami nad nią uczynionemi.— Wilno, 1846.
Černy — Černy A. Pieśni białoruskie z powiatu Dziśnieńskiego, gubernii Wileńskiej.— Zbiór Wiadomości do Antropologii Krajowej, t. 18. Kraków, 1895.
Federowski — Federowski M. Lud białoruski, t. V. Pieśni.— Warszawa, 1960.
Jasieńska — Jasieńska M. Obrzędy weselne na Rusi (o dwie mile od Bugu).— Księga świata, 1863, cz. 2.
Klich — Klich E. Teksty białoruskie z powiatu nowogródzkiego.— Materiały i Prace Komisji Językowej Akademii Umiejętności w Krakowie, t. 2. Kraków, 1907.

Kolberg — Kolberg O. Zwyczaje i obrzędy weselne z Polesia.— Zbior Wiadomości do Antropologii Krajowej, t. 12. Kraków, 1889.
Kuba — Kuba L. Běloruská píseň.— Slovanský sbornik, 1887, IV.
Moszyński — Moszyński K. Polesie wschodnie. Materyały etnograficzne ze wschodniej części byłego powiatu mozyrskiego oraz powiatu rzeczyckiego.— Warszawa, 1928.
Reutt — Reutt W. Piosenki gminne białoruskie.— Rubon, 1843, t. I.
Rypiński — Rypiński A. Białorus. Kilka słów o poezji prostego ludu.— Paryż, 1840.
Sielicki — Sielicki F. Białoruskie obrzędy i pieśni weselne ze wsi Mikulino b. gminy Dołhinów, pow. wilejskiego.— Acta Universitatis Wratislaviensis, n. 472. Wrocław, 1979.
E. Tyszkiewicz — Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego.— Wilno, 1847.
K. Tyszkiewicz — Tyszkiewicz K. Wilja i jej brzegi pod względem hydrologicznym, historycznym i etnograficznym.— Drezno, 1871.
Zienkiewicz — Piosenki gminne ludu pińskiego. Zbierał i przekładal Romuald Zienkiewicz.— Kowno, 1851.

## АРХІВЫ

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.
АКЛМПІ — Архіў кафедры літаратуры Мазырскага педагагічнага інстытута.
АН СССР — Архіў Акадэміі навук СССР у Ленінградзе.
АФК — Архіў фальклорнай камісіі пры Саюзе кампазітараў БССР.
БАН — Бібліятэка Акадэміі навук СССР у Ленінградзе.
БВДУ — Бібліятэка Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта.
БДУ — Дыялектна-фальклорная картатэка Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.
ВПІ — Віцебскі педагагічны інстытут.
БВУ — Бібліятэка Варшаўскага універсітэта.
ГДУ — Гомельскі дзяржаўны універсітэт.
ДГМ — Дзяржаўны гістарычны музей у Маскве.
ІРЛІ — Архіў Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі дом, Ленінград).
КСД — Картатэка сектара дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР.
РГТ — Архіў Рускага геаграфічнага таварыства ў Ленінградзе.
ЦДАЛМ — Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва СССР.
ЦДГА ЛітССР — Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў ЛітССР.
ЦНБ АН БССР — Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР.
ЦНБ АН ЛітССР — Цэнтральная навуковая бібліятэка Акадэміі навук ЛітССР.
ЭМ — Этнаграфічны музей у Кракаве.
Ягелон. б-ка — Ягелонская бібліятэка ў Кракаве.

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

в.— вёска
вар.— варыянт
ваяв.— ваяводства
вуч.— вучань
гм.— гміна
г. н.— год нараджэння
г. п.— гарадскі пасёлак
д.— дыпломная работа
к.— калекцыя
мел.— мелодыя
нат.— натаваў
п.— павет
пас.— пасёлак
пед. ін-т — педагагічны інстытут
спр.— справа
ст.— станцыя
студ.— студэнт
СШ — сярэдняя школа
сш.— сшытак
хут.— хутар

# ПЕСНІ СІРАЦЕ

## ПАЧАТАК ВЯСЕЛЛЯ. ЗБОРНАЯ СУБОТА. ПАСАД

### С. 31. Сёння ў нас да суботанька

Гілевіч, 1979, с. 240—241. Зап. у в. Стары Свержань Стаўбцоўскага р.

### С. 31. Сягоння ў нас нядзелечка, святы дзень

АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 163, сш. 2, л. 32. Зап. А. І. Гурскі, А. М. Акунькова ў 1979 г. у в. Каралеўцы Вілейскага р. ад Ю. Р. Казановіч, 1910 г. н.

### С. 31. Сенечкі мае немяцёвыя

Косич, с. 239. Зап. у 1897 г. у в. Горцава Старадубскага п. Сіраце на дзявічніку.

### С. 31. Маладая дзевачка

Гілевіч, 1979, с. 238. Зап. у в. Шыцкі Вілейскага р.

### С. 32. Чыя ж гэта мамка

БДУ, папка 8, сш. 21, л. 2. Зап. К. Пугач у 1970 г. у в. Лусцічы Докшыцкага р. ад М. Ф. Шыла, 69 г.

### С. 32. Чорная ягада смародзіна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 90, сш. 2, л. 4. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1964 г. у г. п. Янава Сенненскага р. ад В. М. Грыгор'евай, 60 г.

### С. 32. Сягоннейка суборная суботка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 57, сш. 2, л. 23. Зап. А. С. Ліс у 1972 г. у в. Забор'е Шаркоўшчынскага р. ад Ч. Грубілы, 1916 г. н.

### С. 33. Сабраліся ўсе дзевачкі

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 35, сш. 22, л. 3. Зап. Г. М. Мітуневіч у в. Сponды Астравецкага р. Дзявічнік сіраце.

### С. 33. Дзявічы вечар, суботка настала

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 12, сш. 7, л. 34—36. Зап. Г. І. Янцэвіч у 1967 г. у в. Садоўшчына Мядзельскага р. ад Е. А. Янцэвіч.

### С. 34. (24). Суботачка нядзелечцы гадзіла

АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 77, л. 241. Зап. Т. Б. Варфаламеева ў 1977 г. у в. Васіліны Пастаўскага р.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 40, сш. 4, л. 28. Зап. у 1971 г. у в. Закор'е Браслаўскага р.; ВПІ. Зап. у 1981 г. у в. Старыя Вайханы Гарадоцкага р.; Sielicki, с. 122. Зап. у 1977 г. ад былой жыхаркі в. Уздрыгалавічы Крывіцкай гміны Вілейскага п.

### С. 34. Суботачка нядзелечцы гадзіла

АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 77, л. 248. Зап. Т. Б. Варфаламеева ў 1977 г. у в. Велеўшчына Лепельскага р. ад Т. Ф. Падабед, 65 г., Х. Т. Арахоўскай, 75 г.

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 23, сш. 9, л. 2. Зап. у 1967 г. у в. Буда Шаркоўшчынскага р.

### С. 35. Да зборная суботачка настала

АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 77, л. 246. Зап. Т. Б. Варфаламеева ў 1977 г. у в. Медзюкі Браслаўскага р. ад М. М. Кіюц, 64 г.

### С. 35. (23). Сягоннейка суборная суботка

АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 77. Зап. Т. Б. Варфаламеева ў 1977 г. у в. Рудабісць Шаркоўшчынскага р. ад М. М. Цітовіч, 1904 г. н. і інш.

### С. 35. З суботачкі на нядзелечку, у васкрасенне

БДУ, папка 12а, сш. 2, л. 8. Зап. Л. Ярмалкевіч у 1973 г. у в. Ляды Чэрвеньскага р. ад М. К. Бабіч, 1907 г. н.

Вар.: БДУ, папка 3, сш. 31, л. 4. Зап. у в. Жасціннае Лагойскага р.; БДУ, д., 1976. Зап. у в. Хацюхова Крупскага р.; ЦДАЛМ, ф. 1429, воп. 1, адз. зах. 6, л. 26, № 154. Зап. у 1936 г. у в. Глівін Барысаўскага р.; Сахараў, с. 89, № 235. Зап. у 1936 г. у м. Краслава Даўгаўпілскага п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 66, сш. 3, л. 9. Зап. у 1961 г. у в. Сосенка Вілейскага р.

### С. 36. Дзявіч вечар, зборная суботка настала

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 31, сш. 2, л. 2—3. Зап. А. І. Гурскі ў 1970 г. у в. Плехацi Астравецкага р. ад Г. І. Свіло.

### С. 36. Дзявіч вечар, суботачка настала

ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 10, № 203—207, л. 242. Зап. у ваколіцах Пастаў Дзісенскага п.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 42, сш. 2, л. 26. Зап. у 1959 г. у в. Пронькі Мядзельскага р.

### С. 37. Суботачка нядзелечцы гадзіла

Гілевіч, 1973, с. 88. Зап. у в. Альсевічы Мядзельскага р.

### С. 37. Суботачка нядзельку дачакала

ЦНБ АН БССР, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 5, л. 77, № 1155. Зап. у 1928 г. у в. Пустыні Дзвінскага п.

### С. 37. Сёння суботачка, васкрасенне

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 84, сш. 10. Зап. у 1969 г. у в. Азломль Любанскага р. ад С. Ляпюк, 60 г.

### С. 38. У нас сягоння нядзелечка, васкрасенне

АІМЭФ, ф. 13, воп. 6, спр. 14, сш. 11. Зап. Т. Ф. Умецкая ў 1976 г. у в. Калюжыцы Бярэзінскага р. ад В. В. Савіч, 58 г.

### С. 38. Сягоння ў нас васкрэсны дзень, нядзеля

АІМЭФ, ф. 8, воп. 80, спр. 174, сш. 1, л. 43—44. Зап. А. М. Акунькова, С. Т. Асташэвіч у 1980 г. у в. Суткі Уздзенскага р. ад Н. Н. Маліноўскай, 74 г.

Вар.: БДУ, папка 8, сш. 33, л. 9. Зап. у г. Смалявічы; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 78, сш. 43, л. 7—8. Зап. у 1974 г. у в. Замасточча Докшыцкага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 159, сш. 2, № 89. Зап. у 1979 г. у в. Рабунь Вілейскага р. Як прыбіраюць маладую; БДУ, папка 5, сш. 37, л. 1—3. Зап. у в. Паляны Барысаўскага р.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 37. Зап. у 1971 г. у в. Беніца Маладзечанскага р.

### С. 38. Сёння ў нас мілы дзянёк, нядзелька

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 63, сш. 6, л. 4. Зап. Г. С. Барэйка ў 1966 г. у в. Беніца Маладзечанскага р. ад Н. І. Скрынка.

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 66, сш. 21, л. 5, № 6. Зап. у 1962 г. у в. Ваўкалатка Крывіцкага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 66, сш. 2, л. 1. Зап. у 1961 г. у в. Лукшы Пастаўскага р.; БДУ, папка 6, сш. 17, л. 2. Зап. у в. Кімія Барысаўскага р.

### С. 39. Сягоння васкрэсны дзень, нядзеля

БДУ, папка 2, сш. 66, л. 5. Зап. З. Грыгаровіч, М. Байбак у 1970 г. у в. Кімія Барысаўскага р. ад В. С. Хацкевіч, 1910 г. н.

Вар.: Гілевіч, 1979, с. 221. Зап. у в. Жардзяжжа Лагойскага р.

### С. 39. У нядзелю раненька

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 95, сш. 2, л. 86, № 78. Зап. Л. П. Ба-

рабанава ў 1975 г. у в. Засмужжа Любанскага р. ад А. А. Душынскай, 1905 г. н.

### С. 40. А ў нас сёння дзень нядзелечка, скрасенне

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99, сш. 1, л. 37. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Ляўкі Аршанскага р. ад П. М. Ступанавай.

### С. 40. Сягоння ў нас васкрэсны дзень, нядзеля

АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 112, сш. 1, л. 9—10, № 5. Зап. У. А. Васілевіч у 1976 г. у в. Падароск Ваўкавыскага р. ад Н. А. Корань.

### С. 40. А ў нас сёння васкрасенне

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 107, сш. 1, л. 18. Зап. Л. І. Павецьева ў 1967 г. у в. Ланькова Бялыніцкага р. ад П. М. Шархуновай, 1910 г. н., Ф. М. Шнетусь, 1911 г. н.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 75, сш. 3, л. 62, № 160. Зап. у 1973 г. у в. Ала Кіраўскага р.

### С. 41. У нас сягоння дзень нядзелечка, васкрасенне

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 112, сш. 2, л. 3. Зап. А. І. Гурскі ў 1967 г. у в. Стараселле Шклоўскага р. ад М. Д. Тупіцкай.

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 8, л. 25. Зап. у 1960 г. у в. Цяцерын Бялыніцкага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 67, сш. 3, л. 4. Зап. у 1973 г. у в. Талька Пухавіцкага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 92, сш. 2, л. 39. Зап. у 1974 г. у в. Абчуга Крупскага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 95, сш. 1, л. 9. Зап. у 1965 г. у в. Зубава Аршанскага р.

### С. 41. Сягоння святы дзянёк, нядзеля

КСД, № 25. Зап. Н. М. Яцкевіч, Л. М. Красько ў 1951 г. у в. Баранаўшчына Браслаўскага р. ад А. Васілеўскай, 72 г.

Вар.: БДУ, папка 2, сш. 5, л. 12. Зап. у 1968 г. у в. Баяры Вілейскага р.

### С. 42. Зборная суботка настала

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 31, сш. 3, л. 19. Зап. А. І. Гурскі ў 1970 г. у в. Кацевавічы Астравецкага р. ад Л. П. Міхно.

### С. 42. Маня дзевачак зазвала

БДУ, папка 12, сш. 17, л. 3. Зап. Р. В. Зайцава ў в. Шарэйка Касцюковіцкага р. ад Г. Казловай, 50 г.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 110, сш. 1, л. 4. Зап. у 1967 г. у в. Галёнкі Горацкага р. У доме маладухі, як засядуць за стол; Митропольская, с. 62—63, № 37. Зап. у 1968 г. у в. Лісішкяй Ігналінскага р.; ГДУ, д., л. 70. Зап. у 1979 г. у в. Жгунская Буда Добрушскага р. Вядуць сірату на пасад.

### С. 42. Начынаем вянок віці

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 41, сш. 1, л. 29. Зап. С. М. Міско ў 1971 г. у в. Разэта Браслаўскага р. ад С. П. Станкевіч, 1915 г. н

### С. 42. Зборная суботка настала

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 28, сш. 1, л. 2. Зап. Л. А. Малаш у 1970 г. у в. Карвелі Астравецкага р. ад Б. А. Карзіс.

### С. 43. Зборная гадзінка настала

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 32, сш. 2, л. 15. Зап. В. І. Скідан у 1970 г. у в. Новыя Альгіняны Астравецкага р. ад С. К. Герасім. Як пачынаецца вяселле.

### С. 43. Зборная суботка настала

АІМЭФ, ф. 8 воп. 1, спр. 82, сш. 5, л. 10. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1963 г. у в. Сырмеж Маладзечанскага р. Як вянок нясуць віць.

Вар.: АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 77, л. 64. Зап. у 1977 г. у в. Палессе Пастаўскага р.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 48, сш. 3, л. 3, № 6. Зап. у 1953 г. у в. Малі Астравецкага р.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 76, сш. 18, л. 3, № 7. Зап. у 1974 г. у в. Гарані Смаргонскага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 17, сш. 3, л. 12. Зап. у 1969 г. у в. Сінкевічы Лунінецкага р.; Гуковский, с. 153. Зап. у в. Быстрыца Віленскага п.

### С. 43. Суборная суботачка настала

АІМЭФ ф. 8, воп 75, спр. 101, сш. 1, № 5. Зап. Л. А. Малашу у 1975 г. у в. Фір'янова Докшыцкага р. ад Ю. І. Русаковіч, 1912 г. н.

### С. 44. А суботачка нядзелечцы гадзіла

БДУ, папка 12а, сш. 9, л. 1. Зап. у в. Мосар на Віцебшчыне ад Н. Спірыдзёнак.

### С. 44. Суботка з нядзелечкай — гадзіна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 104, сш. 1, л. 43. Зап. А. С. Ліс у 1966 г. у в. Праходы Глыбоцкага р. ад У. Круглай.

### С. 44. Сягоння дзевяць вечароў настаець

Каминский, с. 296, № 13. Зап. у м. Дрысвяты Нова-Аляксандраўскага п.

### С. 45. А ў нас сягоння ад госпада бога скрасенне

АФК, ф. 10, воп. 15, л. 77. Зап. Т. Б. Варфаламеева ў 1977 г. у в. Велеўшчына Лепельскага р. ад Т. Ф. Падабед, 65 г., Х. Т. Арахоўскай, 75 г.

### С. 45. У гародзе на пераходзе

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 21, сш. 3, л. 72—73. Зап. В. Н. Цыбікава ў 1948 г. у в. Олтуш Маларыцкага р. ад М. Е. Коцял, 1912 г. н.

Вар.: Шырма, с. 49, № 36. Зап. у вв. Парасляны і Жадзены Пружанскага р. Перад выездам да шлюбу.

### С. 46. Рассцілаецца-развіваецца ў гародзе зеллечка

АКЛМПІ, ф. 1, воп. 79, спр. 1, сш. 21, л. 2. Зап. Ю. Бараш у 1979 г. у в. Дронькі Хойніцкага р. ад М. Ядчаленкі, 75 г.

Вар.: Ніва, 24.10.1978 г., № 43. Зап. у 1978 г. у м. Белавежа на Беласточчыне; Хрэстаматыя, с. 248. Зап. у 1954 г. у в. Ялава Пружанскага р.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 55, сш. 21, л. 3. Зап. у 1962 г. у в. Люшнёва Баранавіцкага р.

### С. 46. Стаіць яблынька нецярэблена

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 110, сш. 3, л. 10. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1967 г. у в. Заполле Бялыніцкага р. ад А. І. Ігнатовіч, 1908 г. н. Заручыны.

### С. 46. Стаіць яблынька нецярэбленая

ЦДАЛМ, ф. 1429, воп. 1, спр. 6, л. 4, № 138. Зап. А. Валевіч у 1936 г. у в. Забашавічы Барысаўскага р. ад С. М. Дзямідчык. Перад часаннем.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 62, сш. 1, л. 18. Зап. у 1961 г. у в. Шыпяны Смалявіцкага р.

### С. 47. У нядзелю да ранюсенька

БВУ, ф. 441, III, л. 84. Зап. у 1880 г. у Лідскім п. Нядзеля.

### С. 47. Збірайцеся, збірайцеся, мае дзядзечкі-цётачкі, да мяне

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 78, сш. 4, л. 46. Зап. М. П. Гваздзёў у 1963 г. у в. Сяляткі Мядзельскага р. ад А. Мароз, 45 г

### С. 47. Узыдзі, узыдзі

АІМЭФ ф. 8, воп. 76, спр. 118, сш. 1, л. 48. Зап. В. Каламыцава ў 1976 г. у в. Навасёлкі Лепельскага р. ад Н. Т. Буйніцкай, 1923 г. н.

### С. 47. Вой, на балоце чарацінка

Гілевіч, 1979, с. 243—244. Зап. у в. Старое Сяло Глускага р.

### С. 48. Ой, лятала зазулечка чэраз круту гору

АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 100, сш. 2, л. 6, № 4. Зап. У. А. Васіле-

віч, А. С. Фядосік у 1975 г у г. п. Белаазёрск Бярозаўскага р. ад К. А. Сініцкай, 1934 г. н. Чула яна гэту песню ў Лагойскім р.

### С. 48. Недзе ў цябе, Настулька

РГТ, ф. 53, воп. 1, № 110, л. 32, № 27.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 82, спр. 137, сш. 1, л. 184, № 70. Зап. у 1982 г. у в. Кавалі Бабруйскага р.

### С. 49 (10). Адчыніцеся, варата

Эвальд, 1979, с. 64, № 19. Зап. у 1934 г. у в. Тонеж Тураўскага р.

### С. 49. Пастаньце, суседзі, усе ў рад

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 31, сш. 8, л. 17. Зап. С. В. Белы ў 1965 г. у в. Сукліна Пліскага р. ад А. І. Белай.

### С. 49. Ой, суседачкі-прыяцелькі, ўстаньце ў рад

АІМЭФ, ф. 8, воп. 78, спр. 145, сш. 6, л. 54, № 171. Зап. Л. А. Малаш у 1978 г. у в. Ятра Навагрудскага р. ад А. К. Ясевіч, 1908 г. н., В. І. Грыб. Пасад сіраце.

### С. 49. Пастаньце, баяры, ўсе ў рад

БДУ, папка 3, сш. 35, л. 5. Зап. Г. В. Цітавец.

Вар.: БДУ, папка 12, сш. 28, л. 2. Зап. у в. Дзіўная Шаркоўшчынскага р.

### С. 50. Станавіцеся, шляхта-баяр'е, ўсе ў рад

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 92. Зап. Т. І. Кухта ў 1969 г. у в. Старое Сяло Зэльвенскага р. ад С. П. Пузач.

### С. 50. Устаньце, баяр'е, ўсенька ў рад

БВУ, ф. 441, І, л. 127. Зап. у 1880 г. у Лідскім п. Нядзеля. Ведучы сірату на пасад.

Вар.: Federowski, с. 484, № 1158. Зап. каля Моўчадзі ў Навагрудскім п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 124, сш. 3, л. 40. Зап. у 1976 г. у в. Панюцічы Нясвіжскага р.; АІМЭФ, ф. 9, воп. 3, спр. 7, л. 25. Зап. у 1888 г. у в. Харава Пружанскага р.

### С. 50. Станавіцеся, шляхта й баяр'е ў рад

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 32, сш. 3, л. 1. Зап. А. Т. Аляшкевіч у 1950 г. у в. Крывічы Іўеўскага р. ад О. А. Пісар.

### С. 51. Станавіцеся, шляхта-баяр'е, ў адзін рад

Federowski, с. 448, № 1002. Зап. каля Раготны, Дзярэўны, Моўчадзі ў Слонімскім п.

### С. 51. Пастаньце, баяры, ўсенькі ў рад

Дмитриев, с. 27. Зап. у в. Лаўрышова Навагрудскага п. Ідучы па каравай у сені.

### С. 51 (9). Станавіся, радзінка, ўся ў рад

АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 77. Зап. Т. Б. Варфаламеева ў 1977 г. у в. Люцец Барысаўскага р. ад Н. Р. Жыжа, 1920 г. н.

Вар.: ВП1. Зап. у в. Малыя Лётцы Віцебскага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 82, спр. 197, сш. 1, л. 115, № 89. Зап. у 1982 г. у в. Двор-Савічы Брагінскага р.

### С. 52. Станьце, ўсе баяркі, ў рад

ЦНБ АН БССР, ф. 122, л. 13. Зап. Т. Стафаноўская ў 1836—1838 гг. у Лепельскім п.

Вар.: Шейн, I, с. 194, № 3. Зап. у в. Лускава Мінскага п. Калі маладой час ісці на пасад; Гілевіч, 1974, с. 366. Зап. у в. Бакшты Іўеўскага р.; Каминский, с. 297—298, № 17. Зап. у в. Стары Двор каля м. Відзы Нова-Аляксандраўскага п.; БДУ, папка 2, сш. 66, л. 8. Зап. у 1970 г. у в. Вал Барысаўскага р.

### С. 52. Станьце бабачкі, а ўсе ў рад

АФК, ф. 15, воп. 10, спр. 75. Зап. Т. Б. Варфаламеева ў 1975 г. у г. Лёзна ад А. В. Сапега, 1906 г. н.

Вар.: БДУ, папка 8, сш. 21, л. 1. Зап. у в. Лусцічы Докшыцкага р.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 88, сш. 65. Зап. у в. Панізоўе Аршанскага р.; Шейн, с. 628, № 625. Зап. у м. Чашнікі Лепельскага п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 41, сш. 4, л. 4. Зап. у 1958 г. у в. Дабраслаўка Пінскага р.; Гарэцкі, с. 17, № 30. Зап. у в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага р. Маладая пад вянцом; АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 128, сш. 1, № 36. Зап. у в. Курганне Рагачоўскага р. Співаюць у маладой, калі яна ад'язджае.

### С. 52. Паўстаньце, баяры, ўсе ў рад

Шейн, с. 641. Зап. у Барысаўскім п. Брат вядзе маладую на пасад.

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 11, сш. 7, л. 11. Зап. у 1967 г. у в. Купленка Крупскага р.; Дембовецкий, с. 487. Зап. у Клімавіцкім п. Рыхтуюць да шлюбу; РГТ, р 20, № 19, л. 6. Зап. у в. Капланцы Ігуменскага п. Ведучы на пасад; Гарэцкі, с. 17, № 31. Зап. у в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага р. Маладая ідзе пад вянец; Крачковский, с. 52. Зап. у в. Ярэмічы Навагрудскага п. Кланяюцца ў час пасаду; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 20, сш. 4, л. 16. Зап у 1967 г. у в. Зарэчча Смалявіцкага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 94, сш. 8, л. 28, № 15. Зап. у в. Глядавічы Старадарожскага р.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 63, сш. 1, л. 2. Зап. у 1953 г. у в. Таль Любанскага р.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10,

